# ШЛЯХ АМАЛЬ У СОТНЮ ГОД

*Аўтабіяграфія*

Маё дзяцінства і юнацтва прайшло ў старадаўнім Слуцку, сярод цікавых людзей. Дзед па маці, Тодар Куляшэвіч (адсюль мой пазнейшы псеўданім Тодар Кулеша), быў шаўцом. Яго жонка Дамініка ведала мноства беларускіх песень і казак і ахвотна дзялілася імі з намі, яе ўнукамі. Ад яе, паміж іншым, я пачуў гістарычную песню аб тым, як абараняўся ад татарскага нашэсця колішні Слуцк. Потым па матывах гэтай песні я напісаў гістарычную аповесць «З-за дзяцей!». Бабка Дамініка была чалавекам добрым і справядлівым, часта дапамагала бедным, якія дужа яе любілі і дружна праводзілі на могілкі, калі яна памерла. Магчыма, дзесьці ў архіўных сховішчах яшчэ знойдуцца фальклорныя і фанетычныя запісы, зробленыя са слоў Д. Куляшэвіч кульгавым слуцкім іканапісцам Вяроўскім і настаўнікам гімназіі Чудоўскім.

Цікавай была радня і з боку бацькі. Дзед вырабляў скуры, лавіў венцерам рыбу. Цёткі займаліся гародніцтвам. А стрыечны брат бацькі, Нічыпар Дыла, быў апошнім слуцкім батлеечнікам. Разам са сваімі лялькамі і дачкой ён хадзіў па дамах і паказваў спектаклі. Часта ў гэтых прадстаўленнях даставалася слуцкім чыноўнікам і паліцыі, за што дасціпнага батлеечніка не раз саджалі пад арышт. Часам захмялелага Нічыпара Дылу замяняла ў прадстаўленнях яго дачка Наталка. Ужо ў савецкі час яна перадала ўсе лялькі свайго бацькі ў Дзяржаўны музей БССР.

У 1890 годзе, дзесяцігадовым хлапчуком, я паступіў у Слуцкую гімназію, дзе правучыўся да 1898 года.

Маімі сябрамі па гімназіі былі браты Станіслаў і Уладзімір Ачапоўскія, якія сталі потым буйнымі спецыялістамі ў розных галінах навукі, а таксама ўдзельнік замаху на царскага міністра асветы Багалепава Пётр Карповіч. З чацвёртага класа я ўжо ўдзельнічаў у гуртку самаасветы, быў членам складчыннай бібліятэкі.

Майму бацьку, канцылярскаму пісару, а потым малодшаму паштоваму чыноўніку, цяжка было вучыць мяне, малодшага брата і сястру. Аднойчы праз мяне ён перадаў дырэктару гімназіі Міхалу Міхайлавічу Іваноўскаму, які адначасова быў старшынёй Таварыства дапамогі беднейшым вучням, прашэнне аб тым, каб вызвалілі ад платы за вучобу майго брата. На маіх вачах, не разглядаючы прашэння, дырэктар парваў паперу тут жа, на калідоры. Глыбока абураны гэтай несправядлівасцю, я ўварваўся ўслед за дырэктарам у яго кабінет і рашуча спытаў:

— На якой падставе вы знішчылі заяву майго бацькі, не далажыўшы нават аб ёй праўленню таварыства?

— Што? — грозна спытаў дырэктар.

— Тое!

— Вон! — ускіпеў Іваноўскі.— Сторож, вывесці яго!

Але сторож, чые сімпатыі былі на маім баку, ужо даўно знік, каб не ўдзельнічаць у канфлікце. І таму на развітанне я змог яшчэ пераможна перафразаваць байку Крылова:

— Вашы продкі, дырэктар, Рым выратавалі, але вось што зрабілі вы?!

Пасля такой сутычкі я ўжо, зразумела, лічыўся ў гімназіі палітычна нядобранадзейным. А тут яшчэ дала сябе знаць launch ператомленасць ад шматлікіх прыватных урокаў, якія дзеля заробку прыходзілася даваць слуцкім мітрафанушкам. Мяне адправілі лячыцца ў кумысалячэбніцу доктара Наркевіча-Ёдкі, якая знаходзілася ля Пясочнага над Нёманам. Прыехаў адтуль я бадзёры, але вярнуцца назад, у гімназію,— як ненадзейны ўжо не змог. Прыйшлося сур'ёзна заняцца самаадукацыяй.

Восенню 1899 года я падаўся ў старажытны эстонскі горад Юр'еў (цяпер Тарту), дзе ўжо вучылася многа беларускіх юнакоў, прагных да навукі, і паступіў у Ветэрынарны інстытут. Адначасова як вольны слухач наведваю прыродазнаўчыя і грамадска-эканамічныя лекцыі ва універсітэце. Поплеч з іншымі студэнтамі знаёмлюся з марксісцкай літаратурай, удзельнічаю ў легальных і нелегальных арганізацыях. Разам з С. Наркевічам, старым заслужаным бальшавіком, потым членам калегіі Наркамюста РСФСР, мяне выбіраюць прадстаўніком мінскага зямляцтва ў студэнцкі «Саюзны савет». За ўдзел у студэнцкіх сходках і дэманстрацыях, за прымяненне супраць паліцыі хімічных рэчываў я арыштоўваўся, высылаўся, аддаваўся пад нагляд паліцыі. Урэшце ў 1903 годзе мяне, у трэці раз, звольнілі канчаткова без права паступлення ў іншыя вышэйшыя навучальныя ўстановы.

У пошуках работы прыйшлося вярнуцца ў Беларусь. Тут я пачаў пісаць карэспандэнцыі ў мінскую газету «Северо-Западный край». Першая з іх, памятаю, была прысвечана выбарам слуцкага гарадскога галавы. Я рашуча падтрымаў аднаго з кандыдатаў, Бокшу, чалавека дзелавога і сумленнага, і асцярожна намякнуў, што яго праціўнік абапіраецца на духавенства і спойвае будучых выбаршчыкаў, аплачваючы іх «рахункі». Карэспандэнцыя нарабіла многа шуму, паўплывала на вынікі выбараў. Стаўшы гарадскім галавой, Бокша зрабіў затым для Слуцка многа карыснага.

Акрылены поспехам карэспандэнцыі, у студзені 1903 года я з'явіўся да рэдактара «Северо-Западного края» Міхала Міхайлавіча Мысаўскога. Ён прыняў мяне ветліва, распытаў, чаму мяне выключылі з інстытута, а потым загадаў залічыць на работу падчытчыкам. Праз некаторы час мяне перавялі ў карэктары, а там — і ў загадчыкі канторай газеты. На старонках «Северо-Западного края» часта з'яўляліся мае допісы, прысвечаныя рабочаму руху, якія былі падпісаны псеўданімамі і крыптанімамі Н. Бываеўскі, Н. Б., Н. Б-кі.

Аднойчы вечарам, калі я дзяжурыў, у друкарні раздаўся тэлефонны званок.

— Ці ёсць у газетных тэлеграмах якія-небудзь навіны з руска-японскага фронту? — спытаў мяне незнаёмы голас.

— Ёсць, і вельмі цікавыя. Генерал Фок абяцаў, што не прапусціць ворага да Порт-Артура. Але японцы вырашылі інакш і добра правучылі бяздарнага генерала.

— Вы так думаеце?

— Безумоўна. Прабачце, а з кім я маю гонар гаварыць?

— З мінскім губернатарам Мусіным-Пушкіным!

Даведаўшыся аб маіх крамольных каментарыях да ўрадавых тэлеграм, Мысаўской, пры ўсім яго лібералізме і спачуванні да нелегальнага руху, прапанаваў мне пакінуць работу ў рэдакцыі, каб такім чынам пазбавіцца ад магчымых рэпрэсій. У пошуках хлеба я падаўся ў Пецярбург, дзе здружыўся са сваімі земляхамі-студэнтамі і дапамагаў ім у сацыял-дэмакратычнай, рэвалюцыйнай рабоце. На мае палітычныя перакананні асаблівы ўплыў аказалі жудасныя падзеі 9 студзеня 1905 года. Разам са сваім земляком Алесем Лабановічам я выйшаў на 4-ю лінію Васільеўскага вострава і прымкнуў да калоны, якая ішла з прашэннем да цара. Мы разумелі ўсю бязглуздасць гапонаўскай задумы і адкрыта гаварылі аб гэтым барадатым рабочым, але многія з іх яшчэ верылі ў дабрату цара. Казацкія нагайкі, шаблі і кулі канчаткова пахіснулі гэту веру. На маіх вачах секлі шашкамі безабаронных жанчын, стралялі ў дзяцей. Рассеклі руку і майму сябру Лабановічу. Мы выратаваліся з ім дзякуючы таму, што, выбіўшы вітрыну, трапілі ў скульптурную майстэрню латыша Рэпіна, а адтуль дварамі выбраліся ў бяспечнае месца. Вера ў «добрага цара» развеялася, як дым.

У 1905 годзе вяртаюся ў Мінск, каб уключыцца ў нелегальную работу сярод беларускіх сялян. Па дарозе, у Юр'еве, да мяне далучаюцца землякі Мікалай Камінскі і Міхал Дубянскі. Стаўшы на чале аграрнай групы Мінскага камітэта РСДРП, разгортваю рэвалюцыйную агітацыю ў навакольных вёсках.

Тое, што мы добра валодалі беларускай мовай, адчыняе нам сялянскія сэрцы. А дзеля канспірацыі і кавалка хлеба — зноў вяртаюся на работу ў «Северо-Западный край». Па маёй парадзе мінскія рабочыя выкарыстоўвалі ўласную друкарню Мысаўскога для набору рэвалюцыйных пракламацый і брашур.

Аднойчы ноччу, пры маёй згодзе, рабочыя занялі друкарню. Ля дзвярэй паставілі варту. Быў затрыманы паштальён, які прынёс тэлеграмы. І вось калі я вычытаў набраны тэкст пракламацыі, у друкарню ўвайшоў Мысаўской. Убачыўшы, што перада мною далёка не газетны тэкст, рэдактар збянтэжана спытаў у рабочых:

— Вы што, не толькі друкарню занялі, але і наш штат выкарыстоўваеце?

— Не запрашаць жа ім карэктара збоку, калі ён ёсць у друкарні,— замест рабочых адказаў я.

— А што будзе з газетай?

— Не бойцеся, Міхал Міхайлавіч, газета выйдзе ў час.

— А, гэта вы, відаць, параілі рабочым, каб яны захапілі іменна нашу друкарню!..

— Скрываць не стану, Міхал Міхайлавіч.

Калі Мысаўской накіраваўся да выхаду, рабочы патруль спыніў і папярэдзіў яго:

— Дайце чэснае слова, што да раніцы не будзеце выходзіць з кватэры.

Мысаўской аказаўся чалавекам сумленным і даносу не зрабіў. Жандары так і не напалі на след падпольшчыкаў. Праўда, праз нейкі час уся справа стала вядома віцэ-губернатару, які адначасова з'яўляўся і цэнзарам газеты.

— Чаму вы не паведамілі аб захопе друкарні мне па тэле-

фоне? — грозна спытаў высокапастаўлены саноўнік у нашага рэдактара.

— Не змог,— спакойна адказаў Мысаўской.— Ля тэлефона стаяў з рэвальверам рабочы.

Варта адзначыць, што «Северо-Западный край» перадрукаваў з «Искры» адзін артыкул У. І. Леніна (цяпер ужо не памятаю назвы артыкула). Прытым, як і ў «Искре», праца была змешчана пад адным з псеўданімаў Ільіча. Мысаўскому не сказалі, з якой крыніцы ўзяты тэкст. Без ведама рэдактара артыкул аддаў у набор сакратар рэдакцыі Горлін. Ён быў чалавекам беспартыйным, але спачуваў нашай справе. На шчасце, ленінская публікацыя прайшла міма пільнага вока мінскіх цэнзараў і жандараў.

Паколькі работу ў рэдакцыі «Северо-Западного края» я спалучаў з нелегальнай дзейнасцю ў навакольных вёсках, за мной пачалі сачыць. Перадаўшы кіраўніцтва аграрнай групай Мінскага камітэта РСДРП у іншыя рукі, у пачатку 1906 года я пакінуў Мінск і апынуўся ажно ў Арэнбургу. Потым — зноў Пецярбург. Пад кіраўніцтвам вядомага літаратуразнаўца М. К. Лемке пачынаю грунтоўна вывучаць кнігавыдавецкую справу ў фірме М. Стасюлевіча. Той жа Лемке рэкамендуе мяне Марыі Карлаўне Купрыной, жонцы вядомага рускага пісьменніка, у якасці загадчыка выдавецтва новага часопіса «Современный мир». Каб заваяваць падпісчыкаў, рэдакцыі ў такіх выпадках звычайна друкавалі шматлікія і дарагія аб'явы ў штодзённых газетах. Я ж прапанаваў Купрыной пайсці па іншаму шляху. На добрай паперы і рознымі шрыфтамі быў аддрукаваны праспект у выглядзе ўзорнага нумара. Яго мы разаслалі па пошце адвакатам, юрыстам, творчай інтэлігенцыі, вучоным, грамадскім арганізацыям. Неўзабаве ў «Современного мира» было ўжо 18 тысяч падпісчыкаў — лічба на той час небывалая. У часопісе пачалі супрацоўнічаць лепшыя тагачасныя пісьменнікі. Раз у тыдзень яны збіраліся ў М. Купрыной. Там я пазнаёміўся з самім А. Купрыным, а таксама з Л. Андрэевым, М. Арцыбашавым, А. Фёдаравым, А. Калантай і іншымі славутымі тады людзьмі.

Наладзіўшы выданне часопіса «Современный мир», я пераехаў у Казань, стаў загадваць кніжным магазінам Дубровінай. А там — Масква, служба ў кнігавыдавецкіх фірмах А. Панафідзінай і І. Сыціна (дарэчы, не без майго ўдзелу выйшла ў 1912 годзе вядомае аднатомнае выданне твораў Нікіціна). Дзесьці з канца 1916 года зноў уцягваюся ў рэвалюцыйную работу — на гэты раз сярод гандлёвых служачых.

У Маскве, на пасадзе кіраўніка бюро па вывазу мануфактуры Цэнтратканіны мяне застае Вялікі Кастрычнік. Гэта было вялікае і радаснае свята і для мяне асабіста, і для ўсяго майго народа. Дзякуючы Кастрычніку беларусы атрымалі магчымасць будаваць уласную дзяржаву. Шырока разгарнуўся рух за стварэнне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, ідэю якой адстойваў У. І. Ленін. З першых жа крокаў гэтага руху ў ім пашчаслівілася ўдзельнічаць і мне.

Як вядома, па ініцыятыве беларускіх рэвалюцыйных арганізацый у пачатку лютага 1918 года пры Наркамнацы РСФСР быў арганізаваны Беларускі нацыянальны камітэт. У яго задачы ўваходзіла масавая работа сярод беларусаў Віцебшчыны, Магілёўшчыны і Гомельшчыны, а таксама беларусаў-бежанцаў, якія ча-

сова жылі ў Яраслаўлі, Царыцыне, Саратаве, Тамбове і іншых гарадах Расіі і адчувалі патрэбу ў дапамозе, у беларускім друкаваным слове. Аднак Смаленскі Аблвыкамзах не мог задаволіць гэтай патрэбы. Такая задача аказалася па плячу толькі Беларускаму нацыянальнаму камітэту. Калі ён пераехаў у Маскву, я стаў удзельнічаць у яго рабоце, не пакідаючы асноўнай дзейнасці ў Цэнтрасаюзе,— быў нейкі час старшынёй Цэнтральнага беларускага бежанскага камітэта, супрацоўнічаў з газетай «Дзянніца» і выдавецтвам, створаным для выдання беларускай агітацыйнай і мастацкай літаратуры. Для гэтага выдавецтва я пераклаў (пад псеўданімам Антось Небарака) папулярную брашуру Белямі «Казка аб вадзе» і іншыя творы.

У кастрычніку 1918 года я падаў заяву ў РКП(б) і стаў членам яе Маскоўскай беларускай секцыі. Ад яе імя 21—23 снежня быў дэлегатам I канферэнцыі беларускіх секцый РКП(б), дзе была выказана надзея на тое, што хутка створыцца Савецкая Беларусь. Ідучы насустрач такім пажаданням, у канцы снежня ЦК РКП(б) прыняў рашэнне аб утварэнні Беларускай Савецкай Рэспублікі. 27 снежня ў Наркамнацы былі абмеркаваны пытанні аб тэрыторыі рэспублікі, складзе яе першага ўрада. Ён быў зацверджаны ў такім складзе: старшыня ўрада — З. Жылуновіч (Цішка Гартны), камісары — А. Чарвякоў (асветы), У. Фальскі (замежных спраў), Ф. Шантыр (па нацыянальных справах), А. Мяснікоў (ваенных спраў), Дз. Чарнушэвіч (сацыяльнага забеспячэння,) І. Пузыроў (аховы здароўя), А. Квачанюк (юстыцыі), І. Рэйнгольд (фінансаў), М. Калмановіч (харчавання), Р. Пікель (Савет народнай гаспадаркі), А. Андрэеў (земляробства), С. Іваноў (унутраных спраў), І. Савіцкі (шляхоў зносін), К. Розенталь (поштаў і тэлеграфаў), С. Берсан (дзяржаўнага кантролю); пазней, пасля пераезду ў Мінск, да іх далучыліся В. Яркін (ЧК), Р. Найдзёнкаў (Камісія па справах палонных і бежанцаў) — на жаль, усіх іх даўно няма ў жывых. Мяне, як знаёмага з прафсаюзнай работай, прызначылі ў Часовым урадзе камісарам працы.

29 снежня разам з Жылуновічам мы выехалі ў Смаленск, дзе на наступны дзень адкрылася VI Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя РКП(б). Па прапанове А. Мяснікова яна была перайменавана ў I з'езд КП(б) Беларусі. Дэлегаты з'езда выбралі кіруючы орган — Цэнтральнае Бюро КП(б) Беларусі.

Знаходзячыся ў Смаленску, мы ўспомнілі, што тут жыве Янка Купала, і, вядома ж, рашылі наведаць любімага паэта. Вечарам доўга блукалі па незнаёмых і цёмных вуліцах — ці то не хапала электрычных лямпачак, ці то яшчэ баяліся налёту нямецкай авіяцыі. Нарэшце знайшлі купалаўскую кватэру. Уладзіслава Францаўна адразу ж засмажыла нам яешню і сялянскую каўбасу з кменам, паставіла на стол тлусты сыр. Купала, які тады, праяўляючы незвычайны арганізатарскі талент, служыў, здаецца, упаўнаважаным Саюза гарадоў і нарыхтоўваў у навакольных вёсках прадукты для фронту і шпіталяў, доўга гаварыў нам аб мясцовых цяжкасцях. У сваю чаргу мы паведамілі яму аб тым, што вось-вось будзе абвешчана Савецкая Беларусь. Купала і яго жонка вельмі ўзрадаваліся гэтай вестцы. Памятаю, паэт сказаў тады:

— Калі б я раней ведаў, што так хораша вырашыцца наша нацыянальнае пытанне — ужо даўно звольніўся б з гэтай непадыходзячай для мяне службы і пераехаў бы ў Мінск.

Тут жа мы ўзнялі тост за Савецкую Беларусь, за светлае будучае нашага народа.

1 студзеня 1919 года Часовы рэвалюцыйны рабоча-сялянскі ўрад Беларусі сабраўся ў Смаленску на першае пасяджэнне. З. Жылуновіч абвясціў Маніфест аб утварэнні БССР, машынапісны тэкст якога быў загадзя раздадзены членам урада. З хваляваннем услухоўваліся мы ў словы Маніфеста: «Ад сённяга дню Беларусь — Савецкая рэспубліка — становіцца рэспублікай працоўнага народа, рабочых, сялянскай беднаты і чырвонаармейцаў Беларусі... Уставайце ўсе на абарону яе... Уся зямля памешчыкаў, манастыроў, царквоў, касцёлаў, духаўнікоў з усім жывым і мёртвым багаццем, а таксама ўсе лясы, воды і нутры зямлі становяцца дастаткам працоўнага народу Беларусі... Урад даручае Чырвонай Арміі, рабочым і сялянскай беднаце Беларусі абарону заваёў сацыяльнай рэвалюцыі».

Закончыўшы чытанне Маніфеста, Жылуновіч спытаў у Мяснікова:

— Як вам падабаецца Маніфест? Вы лічыце яго ўдалым?

— Так,— адказаў ваенны камісар нашай рэспублікі.— Толькі мне незразумелы асобныя словы. Вось, напрыклад, сказана: няхай «трапечуцца» нашы ворагі...

— А хіба вы не чулі рускага слова «трепещут»?

— Гэта значыць баяцца?

— Так. Вось бачыце — зразумелі.

— Не думайце, што я хацеў пасмяяцца над беларускай мовай,— удакладніў Мяснікоў.— Я проста хацеў зразумець сэнс гэтага слова.

А яшчэ праз некалькі дзён мы былі ў Мінску. Помніцца, па дарозе з вакзала зайшлі ў прыватны рэстаран і, сказаўшы, што нас будзе чацвёра, заказалі па дзве порцыі абеду. Потым нам захацелася спрабаваць нямецкага мёду-эрзацу. Гаспадар прынёс нам яго неахвотна, з нейкай насцярожанасцю. Жылуновіч тут не вытрымаў і пажартаваў:

— Няўжо вы баіцёся, што новая ўлада адбярэ ад вас гэты мёд?

— А хіба будзе новая ўлада?

— Так, ужо абвешчана свая, Беларуская Савецкая Рэспубліка.

Такім чынам гаспадар, а таксама і яго кліенты ўпершыню пачулі аб утварэнні БССР.

Неўзабаве пасля нашага прыезду ў Мінск пачалі працаваць усе камісарыяты Часовага ўрада, у тым ліку і Камісарыят працы. Спачатку ён складаўся толькі з мяне і машыністкі і размяшчаўся ў двух невялікіх пакойчыках у будынку былога «губернского присутствия» (цяпер гэта — Дом прафсаюзаў).

У першыя ж дні работы мы рашылі правесці гарадскі мітынг яўрэйскіх рамеснікаў і беднаты і растлумачыць ім палітыку Савецкай улады па эканамічных пытаннях. Але дзе знайсці памяшканне? У тэатры кожны дзень ішлі спектаклі... Спыніліся на драўляным будынку гарадскога цырка, які знаходзіўся на былой Праабражэнскай вуліцы, непадалёку ад турмы. Сіламі рабочых гэта памяшканне было ачышчана і адрамантавана. На першы мітынг у ім сабралася чалавек 800—900. Апрача саматужнікаў, мы запрасілі таксама дзеля дапамогі і падтрымкі членаў прафсаю-

заў. Адзін з іх, беларус з-пад Глыбокага Нятэцкі, выклікаў буру апладысментаў у зале: з дзяцінства ведаючы яўрэйскую мову, ён змог на ёй даходліва растлумачыць рашэнні нашай партыі. Затым далі слова мне. Я выкрыў пазіцыю бундаўцаў, якія рашылі адмаўчацца на мітынгу.

— Калі вы прадстаўляеце яўрэйскія рабочыя масы, то дзе ваша работа? — задаў я пытанне бундаўцам.— І чаму вы дазволілі, каб у прафсаюзных арганізацыях узялі верх паалей-цыяністы, якія твораць беззаконне?

Забягаючы наперад, адзначу, што гэта выступленне на сходзе для мяне не прайшло бясследна. Калі ў канцы лютага 1919 года Часовы беларускі ўрад быў распушчаны ў сувязі з утварэннем аб'яднанай Літоўска-Беларускай рэспублікі, збіраючыся вярнуцца ў Маскву, я зайшоў у ЦК КП Беларусі, каб зняцца з партыйнага ўліку. Дзяжурным там быў якраз прафсаюзны работнік Ходаш, адзін з вядомых бундаўцаў. Пачуўшы, што ў сувязі са здачай камісарыята я выязджаю з Мінска, ён прапанаваў мне прад'явіць партыйны білет і, узяўшы яго, назад не вярнуў. Што гэта магло б значыць — тады я так і не зразумеў. І толькі пазней прыйшла ў галаву думка, што такім чынам мне адпомсцілі за выступленне супраць бундаўцаў, якія дазволілі паалей-цыяністам захапіць манаполію ў мінскіх прафсаюзах.

Аднак вярнуся да дзейнасці Камісарыята працы. Пасля мітынгу ў будынку цырка (дарэчы, мітынгі па самых розных пытаннях там арганізоўваліся кожныя 2—3 дні) становішча дробных рамеснікаў карэнным чынам змянілася. Над імі ўжо ніхто не тварыў «лявацкага» свавольства. Праўда, пасля Мінска такая ж сітуацыя ўзнікла ў Пінску, куды выязджала спецыяльная камісія нашага камісарыята. Прыходзілася таксама ўмешвацца ў канфлікты на Мінскім піўным заводзе, арганізоўваць прафсаюз прыгарадных гароднікаў — адным словам, мы былі заняты мноствам самых розных спраў, на першы погляд, можа, і дробязных, але вельмі неабходных і важных у маладыя гады Савецкай улады.

Працуючы камісарам працы, я часта бываў у З. Жылуновіча, рабочы кабінет якога, калі не памыляюся, знаходзіўся ў будынку атэля «Еўропа» (на той жа плошчы Свабоды). Жылуновіч любіў, як ён сам казаў, «працаваць на народзе». У яго кабінеце заўсёды было поўна наведвальнікаў, якія чакалі чаргі, каб выкласці сваю справу...

З красавіка 1919 года я пачаў працаваць у Цэнтрасаюзе, вакол якога аб'ядноўвалася ўся спажывецкая кааперацыя нашай краіны. Аднойчы неяк мне прыйшла думка, што вось для набыцця машын Савецкай рэспублiцы вельмі патрэбна валюта. А гэту валюту лёгка можна атрымаць узамен за пушніну. У паляўнічых Сібіры і іншых лясных раёнаў за ваенныя гады сабралася безліч каштоўных шкурак пушных звяроў. Па свайму службоваму абавязку нарыхтоўкай такіх шкурак павінна было займацца Галоўфутра. Павінна, бо мела дзеля гэтага ўрадавую манаполію, але не займалася, бо ніхто не хацеў прадаваць пушніну на абясцэненыя грошы. Паляўнічым патрэбны былі мука і соль, порах і шрот...

— А што,— прапанаваў я праўленню Цэнтрасаюза,— калі нам сумесна з Галоўфутрай заняцца нарыхтоўкамі шкурак пушных звяроў?! У паляўнічых ёсць пушніна, у нас — прадукты, паляўнічыя прыпасы.

Спачатку ў Галоўфутры аднесліся да нашай ідэі непрыхільна, насцярожана. Каб аргументаваць свае думкі, прыйшлося перакапаць стосы спецыяльнай літаратуры. Але ў рэшце рэшт, маючы на гэта мандат ад праўлення Цэнтрасаюза, я падпісаў дагавор з Галоўфутрай, па якому апарат спажывецкай кааперацыі ўключыўся ў нарыхтоўку пушніны. А неўзабаве ўніз па Абі ўжо плыў зафрахтаваны намі карабель. На ім былі кааператары і спецыялісты-пушніназнаўцы. Узамен за муку, тканіны, розныя паляўнічыя прылады яны атрымлівалі шкуркі собаля, пясца, гарнастая. Паляўнічыя дзівіліся, што ім прапаноўваюць за тавар такую высокую, небывалую ў царскай Расіі аплату. Вестка аб прыбыцці карабля «чырвоных гандляроў» перадавалася нейкім невядомым чынам з сялення ў сяленне, са стойбішча ў стойбішча — часта за сотні кіламетраў. І ўсюды, дзе карабель прычальваў да берага, ужо чакалі горы каштоўнай сыравіны. Толькі за адзін рэйс — на ўсеагульнае здзіўленне — было нарыхтавана 75 тысяч шкурак. Усё гэта пайшло на валюту, на набыццё самага неабходнага для нашай знясіленай вайной краіны.

Адначасова з работай у Цэнтрасаюзе я выконваў розныя даручэнні беларускіх дзяржаўных і грамадскіх арганізацый. У пачатку 1920 года загадваў рабочым клубам «Беларус», створаным пры Аддзеле народнай асветы Маскоўскага саўдэпа. Гэты клуб знаходзіўся ў Фуркасаўскім завулку, непадалёку ад былой Цвярской вуліцы. Вечарамі сюды збіраліся беларусы, якія працавалі на заводах, служылі ў арміі або ў часцях ЧОНа, каб пачытаць газету ці кніжку, паслухаць гутарку аб тым, што адбываецца ў Беларусі. У клубе часта праходзілі розныя сходы і мітынгі. Потым, калі «Беларусу» далі новае памяшканне каля гарадской тэлефоннай станцыі, я разам з А. Бурбісам трапіў у Камісію па падрыхтоўцы матэрыялаў да савецка-польскіх мірных перагавораў.

У маі 1921 года па прапанове і патрабаванню тав. Кнорына разам з жонкай і маленькай прыёмнай дачкой, якую мы пасля смерці яе бацькоў падабралі на вакзале, пераехаў на сталае жыхарства ў Мінск. У маладой Беларускай рэспубліцы тады не ставала людзей. І таму прыходзілася працаваць на самых розных — часта зусім нечаканых — пасадах, а парой і сумяшчаць іх па некалькі на раз. Напрыклад, у тым жа 1921 годзе загадваў дзевяцімесячнымі лектарскімі курсамі Народнага камісарыята асветы БССР, узначальваў у тым жа Наркамасветы Беларускую біблятэку, якая затым ператварылася ў Дзяржаўную бібліятэку БССР, уваходзіў у склад Навукова-тэрміналагічнай камісіі, чытаў лекцыі па гісторыі рэвалюцыйнага руху ў Беларусі на беларусазнаўчых курсах у Слуцку (дзе меў шчасце бліжэй пазнаёміцца з Я. Коласам), Бабруйску і іншых гарадах. Потым амаль два гады на пасадзе старшыні Цэнтрасаюза кіраваў беларускай кааперацыяй, узначальваў Дзяржаўную планавую камісію БССР і Камісію па раянiраванню тэрыторыі рэспублікі. На апошняй рабоце хочацца спыніцца падрабязней. Камісія па раянiраванню павінна была справіцца са складанымі задачамі: трэба было правільна вызначыць межы паміж новымі адміністрацыйнымі адзінкамі, устанавіць раённыя цэнтры. Часта ўзнікалі спрэчкі, якому сяленню аддаць перавагу. І тады прыходзілася брацца за эканамічныя падлікі — аж да падліку, колькі сялянскіх вазоў прыязджае на

кірмаш у тое ці іншае мястэчка, якое прэтэндавала стаць раённым цэнтрам.

З вывадамі і прапановамі камісіі па раяніраванню мы рашылі пазнаёміць такога буйнога спецыяліста, як Глеб Максімільянавіч Кржыжаноўскі. Стары рэвалюцыянер прыняў мяне на сваёй маскоўскай кватэры.

— Толькі не распранайцеся, у нас пякельны холад,— папярэдзіў ён яшчэ ў пярэдняй.— І па дарозе не дакранайцеся да гэтых агаленых правадоў. Усе чамусьці чапляюцца за маю канструкцыю. Толькі яна здольна пры такім мізэрным напружанні хоць крышачку сагрэць маё жытло.

Глебу Максімільянавічу спадабаліся нашы эканамічныя разлікі. Тут жа я папрасіў яго як энергетыка выказаць свае меркаванні: расшыраць нам Мінскую электрастанцыю ці мо будаваць новую на Бярозе. Глеб Максімільянавіч пацікавіўся, якая там таўшчыня тарфянога слою, якога памеру нарыхтоўваюцца брыкеты. Потым, узважыўшы ўсё, параіў:

— Лепш будаваць на Бярозе. Каб вазіць торф з Бярэзінскага прадпрыемства ў Мінск, патрэбна многа аўтамашын. А іх пакуль што няма. Вазіць жа фурманкамі — апошняя справа, на кані многа не вывезеш... Увогуле ж прышліце мне дакладныя звесткі — і я дам канчатковае рашэнне. А пакуль што — пакуль што эканомна расходуйце энергію Мінскай электрастанцыі.

— А каб паглядзець вам, Глеб Максімільянавіч, нашы беларускія балоты?

— З ахвотаю, калі-небудзь — з ахвотаю. Для звычайных людзей тарфянік ёсць балота, і нічога болей. А для нас — гэта хлеб. Хлеб для машын.

На развітанне я спытаў у гаспадара:

—Скажыце, Глеб Максімільянавіч, што больш за ўсё вы любіце?

— Калі сказаць па праўдзе — тлусты сялянскі сыр.

Праз нейкі час мы паслалі Г. М. Кржыжаноўскаму дакладныя звесткі: колькі тарфянікаў над Бярозай-ракой і якіх. Да папераў прыклалі ў падарунак тры беларускія сыры, купленыя на рынку. Неўзабаве з Масквы прыйшоў адказ: электрастанцыю будаваць можна!

Прыкладна к таму ж часу адносіцца мая «ўрадавая» камандзіроўка ў Кіеў. Украінскіх таварышаў цікавіла, як і колькі будаўнічага лесу можна сплаўляць па нашых супольных рэках. Аднак мяне, прызнаюся, хвалявалі больш не гаспадарчыя, а культурныя праблемы. З цікавасцю глядзеў я на унікальнае мастацкае шкло, зробленае беларускімі майстрамі ва Урэччы, якое мне паказваў у музеі вядомы ўкраінскі вучоны Беляніўскі. Часта бываў на спектаклях і рэпетыцыях у кіеўскіх тэатрах і прыглядаўся, што можна ўзяць для пастаноўкі на беларускай сцэне. Дарэчы, едучы ў Кіеў, я захапіў пісьмо беларускіх акцёраў выдатнай украінскай артысткі Марыі Занькавецкай. У пісьме, якое ў асноўным склаў Фларыян Ждановіч, гаварылася, што беларусы добра памятаюць, як Занькавецкая выступала ў Мінску ў «Лымерыўне» і «Бесталаннай». Таленавітая артыстка якраз хварэла, і я накіраваўся да яе дамоў. Занькавецкую да слёз расчуліла цёплае пісьмо беларускіх калег. Яна доўга распытвала пра Мінск, пра беларускі тэатр.

— Хацелася б яшчэ раз пабываць у Мінску, паглядзець на вашы дасягненні,— сказала Занькавецкая на развітанне. З сабой я ўзяў яе партрэт з цёплым надпісам-прысвячэннем беларускім артыстам. Памятаю, гэты партрэт быў выстаўлены затым у фае БДТ-І, дзе прыцягваў агульную ўвагу.

Паступова мастацтва станавілася галоўнай справай майго жыцця. У красавіку 1925 года мяне прызначылі дырэктарам І Беларускага дзяржаўнага тэатра. Гэта быў нялёгкі час. З цяжкасцю ладзілі мы з Наркаматам фінансаў, які не хацеў нам выдаваць нават тое, што было асігнавана па бюджэту. Для таго каб атрымаць сродкі на пастаноўку п'есы М. Чарота «На Купалле», прыйшлося звярнуцца за дапамогай і падтрымкай ажно ў Савет Народных Камісараў. Не хапала п'ес. Каб папоўніць рэпертуар, я спачатку перакладаў і апрацоўваў чужыя творы, а потым і сам паспрабаваў сілы ў драматургіі — напісаў п'есу «Панскі гайдук», якая была пастаўлена ў тым жа БДТ-І. Тады ж мне ўдалося правесці праз урадавыя органы рашэнне, каб аўтарам з кожнай пастаноўкі плацілі пэўны ганарар. Спачатку нават самі драматургі аднесліся да гэтага абыякава.

— Навошта нам тое аўтарскае права? — пытаў неяк Ул. Галубок.

— Пачакай, дажывеш да пенсійнага ўзросту — тады даведаешся навошта,— жартаваў я ў адказ.

У маю бытнасць дырэктарам БДТ-І найбольшым поспехам, бадай, карысталася чаротаўская п'еса «На Купалле». Гледачоў вабіла паэтычнасць яе вобразаў, меладычнасць музыкі, якую напісаў Тэраўскі. Спектакль падабаўся не толькі беларусам. На прэм'еры прысутнічаў вядомы тады маскоўскі журналіст Херсонскі. Вярнуўшыся ў Маскву, ён надрукаваў у «Известиях» артыкул, дзе пахваліў і саму п'есу, і музыку Тэраўскага, і ігру артыстаў.

У канцы 1926 года я перайшоў на работу ў Інстытут беларускай культуры, дзе ўзначаліў мастацкую секцыю. У гэтай секцыі было некалькі падсекцый — тэатральная, музычная, выяўленчага мастацтва. Мы арганізавалі драматургічны семінар, які наведвала 58 чалавек. Яго ўдзельнікі, між іншым, перакладалі на беларускую мову п'есы Шэкспіра, Сафокла, Еўрыпіда. Музычная падсекцыя даследавала народныя мелодыі, па просьбе Луначарскага праслухала лірнікаў і дудароў, якія павінны былі выступаць на мастацкай выстаўцы ў Парыжы, дапамагала ў складанні рэпертуару ўкраінскай капэле «Думка» і Ленінградскай акадэмічнай капэле. Секцыя ўдзельнічала ў арганізацыі Першай усебеларускай выстаўкі ў Мінску, на якой экспанавалася каля 1200 работ звыш 100 беларускіх мастакоў. Адным словам, спраў было многа, спраў новых, цікавых і захапляючых.

У 1930 годзе я апынуўся за межамі Беларусі. Жыў пераважна ў Саратаве. Там жыву і цяпер, часта вяртаючыся ў думках у край майго дзяцінства, юнацтва і сталасці. І сёння, азіраючы ў думках свой амаль 90-гадовы жыццёвы шлях, я радуюся, што лепшую частку гэтага шляху я прайшоў, верна служачы майму народу, маёй Беларусі!

*Саратаў, сакавік 1968 г.*

*ЗАПІС АДАМА МАЛЬДЗІСА*

* * *

Вечар ясны, ціхі;
Спіць ў тумане поле,
На блакітным небе
Блішчыць агню мора...
Заходнага сонца
Золатам багата
Зверху і данізу
Ўся заліта хата...
І за краем поля,
Дзе ляжыць дарога,
Вярхі чырванеюць
Лясістага лога...

*1912*

## ПАД ХМУРЫМ НЕБАМ...

І разарваліся на небе шэрым хмары,
Загалубела высь нябёс над галавой,
І сонца промені зірнулі на абшары
Лугоў, раскінутых далёка прада мной...
Прабегла лета, як кароткая гадзіна,
Схмурнела неба, пасылаючы дажджы,
І засмучае душу мне пажоўклая расліна...
Хоць сумна, цеш сябе надзеяю і жджы!..

*1913*

# СМЕРЦЬ СТАХА

*(Вольны пераклад з М. Канапніцкай)*

Як каваль ішоў на вайну
У чужадальню старану —
    Медзяныя ігралі рагі,
    Каб дрыжалі яго варагі...
А як Стах йшоў на вайну
У чужадальню старану —
    Чула жыта яго на кліну,
    З потам дзе ён падняў цаліну...
Свішчуць кулі на вайне,
Смерць тут, ў дыме і ў агне —
    Цешаць сэрца ваякі адважныя,
    Стогнам стогнуць салдаты сярмяжныя...
Бойка сціхла. Рог гудзіць...
Стах весь зранены ляжыць —
    А дарогаю той крываваю
    Кароль едзе дадому са славаю...
І сустрэлі яго ля варот,
Яму «віват» крычаў весь народ,
Прывіталі яго як айца...
І званілі званы без канца...
    У магілу ж як лёг Стах,
    Вецер песню пеў у кустах,
    Званіў, лётая дубровамі,
    Дзяленчыкамі лілёвымі.

*1918*

# ПЕРАД РАНІЦАЮ...

*(Думка сэрца)*

...Устала прад вачамі маімі адна раніца...

Мне, тады яшчэ хлапцу, нешта не спалася, і, адзеўшыся, выйшаў я на дзядзінец. У сялібе яшчэ мала хто ўстаў. Мяне пацягнула ў поле. Нядоўга думаючы, я перайшоў дзядзінец па сцежцы к гумну, пралез між прасел прыгумення і пайшоў полем.

Пуста і гола глядзела яно цяпер, і восень разам увайшла ў душу і сціснула халоднымі сваімі рукамі маладое сэрца... Сонца не ўзышло яшчэ; управа над рэчкаю і сенажацямі вісеў туман, і за ім чуць цямнела сяло; улева без канца-краю шчацінела жніво і бялела поле. А перада мною на курганах, куды я іду, дзічкі-ігрушы, згубіўшы апошняе лісце, чарнеюць сваімі галінамі...

Сіверна і ціха... Птушак, што спявалі летам, даўно ўжо няма... Ціха, нікога жывога кругом, і адзін толькі я іду па шырокай мяжы — не іду, а ціха пасуваюся...

А вось і высокі курган і прадвечныя ігрушы — дзве сястры... Куды мне далей ісці, дзеля чаго?..

Сэрца б'ецца часта і ные без ведама чаго, і хтось уладнаю рукою давіць плечы і гняце да зямлі... Паслушны, я саджуся...

І без сілы духу і без думкі сяджу доўга, доўга...

Гэз! Чуй!.. З сяла на грэблю затарахтала, і едзе мужык. Адсюль я ўжо пазнаў яго — Пракоп Церахня!.. Грукаціць воз цераз мост, і прывыклы конь сам верне з дарогі і едзе полем сюды, бліжэй ка мне. Пракопаў загончык паўз граніцу маёнтка... Пракоп скочыў

з воза, сцёг плуг, выпраг каня з аглабель і падчапіў к плугу...

— З богам! — чую я... Нікчэмны конік улёг у хамут, і лемех верне зямлю...

Баразна за баразною, без панукі, узнімаюць яны зямлю — конь і чалавек...

І калі глядзіш на іх, здаецца, што такім жа самым хірляком, знядужаным быў і калісь, у старадаўнія часы, бедны мужык!.. З тае пары, як адзелі на цябе ярмо і зрабілі «быдлам», пачалася твая пакута, і дзве-тры сотні гадоў увыкаў ты і зжыўся з паншчынаю...

Цяпер ты, кажуць табе, робіш на сябе!.. Як і тады, у паншчыну, ты сам-другі з канём, нікчэмныя, галадальныя абое... Ярмо тваё толькі другое...

Я сядзеў, глядзеў на Пракопа і думаў: «Калі ж? Калі ж?.. Калі ж будзе твой дзень, бедны беларускі мужык?» — пытаў я ў думках Пракопа...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Праз паўгадзіны я ўстаў насустрач сонцу... З-за краю далёкага поля ўзнялося яно і ліло ўжо свет і цяпло, гнала туман з ракі і лагвін...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

...Скора, скора настане твой дзень шчасця, родны браце! Усе маладыя сілы — дзеці беларускага народа дружнаю хеўраю панясуць табе свет навукі і жыццёвую практыку; пабяжыць тады адусюль цемень, і год за годам будуць расці твае сілы цела і душы, і здаровы ўжо каняка ўздыме тваю зямлю дзеля ўрадлівага збожжа...

*1909*

# НА ШЛЯХУ З ВАРАГАЎ У ГРЭКІ

*Гістарычны раман. Урыўкі*

## Смаленск

Першая вясна ў Свіслачанах пасля звароту Страціма з Царграда прыйшла рана. Толькі мінулі апошнія маразы, як стала з дня ў дзень усё больш цяплець. Праз якога паўмесяца сонца растапіла снягі, раскавала рэкі — і Бяроза ўзламала свой лёд, панясла яго ў Дняпро. Загаманілі лясныя рачулкі, зацурчэлі ручаі, і нават звілістая Свіслач, звыкла адсталая ў параўнанні з іншымі прытокамі Бярозы, у гэту вясну пастаралася хутчэй аслабаніцца ад лядовых ланцугоў.

Тэафілія прачнулася ноччу ад моцнага грукату, які чуўся з боку Бярозы.

— Страто! — паклікала яна мужа.— Чуеш? Зусім як тыя гарматныя стрэлы, калі да Канстанцінаполіса падступіў флот Фамы... Што гэта можа быць?

— А!.. Я забыў цябе папярэдзіць... Гэта Бяроза ломіць на сабе лёд... Пачынаецца веснавая паводка... Раніцай, Тэа, пойдзем на бераг паглядзець, як крышацца крыгі... Лёд гэты — тоўсты. І як падапрэ яго прышлая вада, ён покаецца з надзвычайным трэскам... Спі спакойна! Гармат тут няма! — засмяяўся Страцім.

Аднак ужо абое яны больш не заснулі, прагаварыўшы давідна пра вясну, пра звязаныя з ёю дрыгавіцкія святы. І раніцай, з хлопчыкамі сваімі, якія ўзнімаліся заўсёды чуць свет, выправіліся на ўзгорысты бераг ракі.

Давялося тады Тэафіліі ўпершыню пабачыць ледаход, такі магутны на сярэднім цячэнні Бярозы. Вада прыбывала відавочна... Яны спыніліся на высокім узгорку бліз берага, дзе высіўся магутны камень. Стая-

лі тут і любаваліся хадой вялікіх крыг, якія стукаліся адна аб другую на вірах, дзе іх круціла. Холадам дыхала ад ракі з яе крыгамі, але ранішняе сонца ўжо грэла Тэафіліі плечы, язычкі цеплыні песцілі яе твар. Было ў гэтым паветры нешта, што цешыла грачанцы душу, будзіла прагу радасці, вяселля, уцехі... Успомніліся Тэафіліі вёсны больш ранніх яе гадоў, калі асабліва хвалявалася яе маладая дзявоцкая душа, калі хацелася рухацца, радасна, гамонна сябе выяўляць, урачыставаць...

Яна стаяла побач са Страцімам, такім ёй блізкім, родным, дарагім, сустрэтым тады нечакана на беразе Баспора для таго, каб цяпер, вось тут, на далёкай славянскай зямлі, яна стала такой шчаслівай... І з палкай любоўю да мужа, бацькі вось гэтых іхніх дзетак, што свавольна кідалі каменьчыкі ў раку, бацькі той дачушкі, што жыла ўжо ў ёй, Тэафілія адчула ў сабе радасць ад еднасці і роднасці з ім, з гэтым сапраўды слаўным сынам тутэйшай Славіі. Яна прытулілася моцна да Страціма і палка глянула яму ў вочы.

Ён без слоў зразумеў гэты радасны рух жонкі, пяшчотна прыгарнуў яе да сябе і, зблізіўшы свае вусны з яе вуснамі, пацалаваў Тэафілію спакойным, але моцным пацалункам.

— Як ты сябе адчуваеш? Як... яна? — спытаў ён.

— Чуюся добра... Маленькая — таксама,— адказала Тэафілія.— Успомніла я свае... там... вёсны, настроі... Успомніла, як сустрэліся мы з табой, пакахаліся так, што сталі нібы адной істотай. Якімі шчаслівымі былі мы нашай першай сумеснай вясной, калі я насіла Богадарыка... Памятаеш: мы сядзелі раз у бібліятэчным садзе, ты прыгалубіў мяне вось так, як зараз — беражліва, з любоўю да новага жыцця, што зарадзілася ў мяне, да нашага першанькага, які нас так з'яднаў, парадніў, зрабіў бязмерна шчаслівымі...

— О, вядома, добра памятаю гэтыя нашы радасныя дні. І ніколі-ніколі, мая каханая дружачка, іх не забуду, бо гэта ж ты прынесла ў маё жыццё непамернае шчасце, ты, мая ненаглядка, якой мяне так ашчасліў вялікі Царград... Іншы раз я нібы прасынаюся ад сваіх клапатлівых спраў — і тады душу маю залівае хваля такога шчасця, што я хачу ўсяму свету засведчыць, якая гэта магутная моц узаемнага кахан-

ня, як я асабіста шчаслівы! — казаў жонцы Страцім. А іх вочы сустрэчна нібы лучылі знутры тое радаснае адчуванне шчасця, якое поўніла іх абодвух.

— Татка, мамуся! Як я вырасту, абавязкова спрабую на чайцы плаваць сярод такіх вось ільдоў! — усклікнуў, падбягаючы да бацькоў, Богадарык.

Страцім прыгарнуў правай рукой сына да сябе і адказаў:

— Без патрэбы не варта так рызыкаваць, каточак. Крыгі такія дужыя цяпер, што лёгка могуць раздушыць тваю чайку. Вядома, іншы раз бывае неабходнасць, скажам, выратаваць чалавека, якога панесла на крызе... Тады трэба смеламу выратаваць яго.

— Я заўсёды буду ратаваць... калі так станецца,— адказаў бацьку Богадар.— Я — смелы! — дадаў ён і тупнуў у доказ сваёй ножкай.

Страцім нахіліўся і, падхапіўшы правай рукой сына, пацалаваў яго. Абняла, цалуючы яго, і матуля.

— Тата сказаў праўду: у бядзе трэба ратаваць, памагаць... Вялікі божанька Хрыстос нам, хрысціянам, загадаў дапамагаць людзям, нават рызыкуючы сабою,— сказала Тэафілія.

— А вось татаў дзедка Цвердзісіл, хоць і не хрысціянін, як мы, а таксама казаў мне, што трэба заўсёды памагаць людзям... Ён расказаў мне, як аднойчы выратаваў чалавека, што тануў у рацэ...— сказаў Богадар матулі.

— Ён — добры да ўсіх! — растлумачыла сыну Тэафілія.

Тым часам Страцімік, убачыўшы брата на руках у бацькі, падбег і папрасіў, каб матуля ўзяла яго на рукі.

Страцім нахіліўся да яго і прашаптаў:

— Ідзі да мяне на рукі... Мама носіць вашу сястрычку, і таму ёй цяжка цяпер браць цябе на рукі... Ты такі ўжо дужы і цяжкі, сынок!

— А дзе ж яна, сястрычка? — спытаўся Страцімік у бацькі, калі той падняў яго на сваёй левай руцэ.

— А яна яшчэ ў маме... Мама носіць яе ў сабе! — растлумачыў Страцім сыну.

Яны пайшлі дамоў. А маленькі ўсё дапытваўся, калі ж у іх з'явіцца сястрыца.

Богадар слухаў размову бацькоў з братам і ад сябе дадаў:

— Мама ж табе сказала, што хутка.

...Паводка на Бярозе ў той год была надзвычайная. З вярхоўя ракі полай вадой гнала шмат падмытых дрэў, сарвала з лугоў у Бабровічах і Свіслачанах дзесяткі стагоў сена і саломы. Шырокія прасторы нізкіх лугоў былі доўгі час заліты вадой.

Тэафілія з цікавасцю глядзела на ўсе гэтыя новыя для яе з'явішчы дрыгавіцкай прыроды. У сябе дома яна не бачыла нічога падобнага. Яшчэ едучы ў Свіслачаны, яна дзівілася магутнасці Дняпра і самой Бярозы. Яна ж і цяпер рабіла на яе моцнае ўражанне сваімі разлівамі.

Аднак праз якія два тыдні вада пачала спадаць. Сонца абудзіла веснавыя сілы дрэў, кустоў і ўсялякіх раслін. Птаства, вярнуўшыся з поўдня, ажывіла лясы вакол Свіслачан.

А яшчэ праз тыдзень і Бяроза, і Свіслач увайшлі ў свае звыклыя берагі. Падсохлі ралля і ля́дніны. На іх распачаліся веснавыя работы.

Страцім з Трывоем агледзелі «Тодара Страцілата», нанава абсмалілі яго днішча і бакі, пафарбавалі сцертыя мясціны і спусцілі на ваду. Трывой падгаварыў у Бабровічах дадатковых вадаходаў. Цяпер каманда карабля была павялічана да пятнаццаці чалавек. Пяць з іх лічыліся старажыламі і былі падпарадкаваны Ваўку.

Калі дрэвы і кусты пакрыліся маладой густой лістотай, падрыхтоўка паездкі Страціма з Трывоем у Смаленскі горад была ўжо закончана. «Тодар Страцілат» узняў свае ветрылы і пакінуў сваё прыстанішча. Страцім вёз у Смаленскі горад багаты набор грэцкіх тавараў, а таксама вялікі запас набытых ім і дома, і ў Бабровічах, і на Менскім торгу шкурак куніцы, бабра, чорнага ліса, собаля, гарнастая і ваверкі. Апрача таго, узялі воску і дваццаць бочак найлепшага ліповага мёду для Аль-Зэнгры, з якім Страцім яшчэ ў Царградзе дамовіўся сустрэцца на смаленскім торгу.

Вецер усю дарогу трымаўся спрыяльны. Бярозу з яе стромкім цячэннем прайшлі за тры дні. А як выбраліся на Дняпро, ісці супроць плыні было цяжка, хоць і дзьмуў добры вецер. Так што да парогаў на верх-

нім Дняпры, дзе ён робіць загін на ўсход, прыбылі толькі на дзевяты дзень. Волак тут аказаўся добры, бо па ім часта хадзілі варажскія дружыны.

На трынаццаты дзень падышлі к Смаленскаму гораду. Дзядзінец тут быў прасторны, тын яго — высачэзны, з дванаццаццю вежамі. Само ж аселішча было не меншае, чым кіеўскае. Прасторным аказаўся і торг. Два дзесяткі складаў выцягнуліся роўным радам паўскрай дзядзінца. З усяго было відаць, што смаленскі торг стаў ужо месцам збыту лішкаў для родаў не толькі блізкіх, але і далёкіх, што ён стаў міжпляменным торгам. Ля берагоў Дняпра стаяла шмат чаўноў, тры караблі. Як дазнаўся Страцім, два прыйшлі з баўгар вялікіх, адзін — з Хазарыі. Торг тут бываў часта — два разы на тыдзень.

Карабель Страціма стаў побач з караблём з Хазарыі. Заўважыўшы на ім гаспадара, Страцім аклікнуў яго:

— Здароў будзь, госць з Хазарскай зямлі!

Чалавек у адзенні, падобным да пэрскага, падышоў бліжэй і адказаў:

— Здароў будзь! Скуль будзеш сам? — спытаў ён на мове славян, але не зусім выразна вымаўляючы асобныя словы.

— З дрыгавіцкай зямлі, што ляжыць на рэках Дняпра... Ці не з вамі прыехаў славуты арабскі купец Аль-Зэнгры?

— Не, яго тут няма... Але ў Ітыле, калі мы адтуль выпраўляліся, быў такі купец ■ Багдада. Ён збіраўся якраз следам за намі выправіцца сюды на торг...— сказаў Страціму хазарскі вандроўны купец.

Хазар пачаў распытваць Страціма, з якім таварам той з'явіўся. Даведаўшыся ж, што з вырабамі грэцкае зямлі,— зацікавіўся і ўгаварыўся назаўтра, калі адкрыецца торг, паглядзець іх. Сам жа ён хаця і з Хазарыі, але ізраільцянін, бо продкі яго выйшлі з далёкай Ізраільскай зямлі. Вёў торг дагэтуль з баўгарамі, што на Волзе. Але дазнаўся, што яны перапрадаюць хазарам шкуркі, купленыя імі ад славян, і таму захацеў завесці непасрэдны абмен са здабытчыкамі гэтых шкурак.

Па свайму звычаю Страцім наведаў пасаднічага Смаленскага горада, шчодра адарыў яго. А заадно за-

ручыўся яго дапамогай у сваіх гандлёвых справах. Пасаднічы, распытаўшы Страціма пра яго побыт у грэцкай зямлі і дазнаўшыся, што ён прывёз шмат грэцкіх тавараў, вызначыў для дрыгавіча самы прасторны склад на торгу.

Страцім не спяшаўся са збытам свайго прывозу і абмежаваўся пакуль тым, што на другі дзень паказаў хазарскаму купцу тавары і прадаў яму частку за хазарскае і пэрскае срэбра. Потым азнаёміўся з таварамі ізраільцяніна і набыў у яго за бізантыкцы (так зваў хазарскі купец грэцкае золата) чуць не ўвесь яго прывоз. Дрыгавіч быў здаволены тым, што хазарскі купец ахвоча прымае грошы, тады як у Менску да іх яшчэ не навыклі і аддавалі перавагу абмену тавару на тавар.

У наступныя дні торгу Страцім знаёміўся з таварамі купцоў з Вялікага Баўгара і набыў ад іх значную колькасць цікавай па фабрах і малюнку танкатканай набойкі і срэбных жаночых аздоб.

У Смаленскім горадзе Страціму прыйшлося ледзь не два тыдні прачакаць прыезду Аль-Зэнгры. Але затое як ён узрадаваўся, калі аднаго дня ўбачыў на падыходзячым зверху Дняпра караблі — пад баўгарскімі, тканымі з ліповага лыка вятрыламі — добра знаёмую яму стройную постаць Аль-Зэнгры. На ім быў ліловы шаўковы халат. Здалёку віднелася яго доўгая сівая барада.

Стары араб ужо ўбачыў сінія вятрылы «Тодара Страцілата» і па сваёй дальназоркасці адразу пазнаў Страціма, які якраз выбег на карабельнае ўзмосце. Пакуль падыходзячы карабель разварочваўся, каб стаць побач з «Тодарам Страцілатам», Страцім загадаў сваім вадаходам падрыхтаваць масткі-сходкі, каб Аль-Зэнгры змог перайсці на яго карабель.

— Вітаю цябе, ойча і дружа, на нашай славянскай зямлі! — усклікнуў Страцім на грэцкай мове, на якой ён звыкла вёў размовы з арабам у Царградзе. І дадаў ужо на роднай мове: — Будзь здраў!

І араб адказаў яму спярша па-дрыгавіцку:

— Будзь і ты здраў! — і далей па-грэцку: — Рад бачыць і вітаць цябе, сын і дружа мой!

Яны абняліся і расцалаваліся.

— Я прыехаў сюды не адзін, а са старшым сынам Мамунам, пра якога апавядаў табе. Вось ён! Знаёмце-

ся! — звярнуўся Аль-Зэнгры да свайго дрыгавіцкага прыяцеля, паказваючы на маладога араба ў бялюсенькай, як і ў бацькі, чалме і жоўта-зялёным шаўковым халаце.

Мамун на вельмі добрай грэцкай мове (ён куды лепей за бацьку вымаўляў грэцкія словы) па ўсходняму звычаю цвяціста прывеціў Страціма, маладзей ад якога ён быў толькі гадоў на тры:

— Блаславён час, калі атрымаў магчымасць убачыць і прывеціць славянскага друга майго бацькі. Прашу падарыць мне хоць кроплю той дапамогі, якую вы бязмерна шчодра, як адданы друг, аказвалі майму айцу!

— Будзьма знаёмы, Мамун! А што пра дапамогу, дык можаш быць пэвен, што, чым толькі здолею, заўсёды памагу і табе, Мамун, як гэта даводзілася іншы раз з тваім бацькам!

— Ну як твае? Здаровы жонка, хлопчыкі? — спрыязліва спытаў Страціма стары араб.

— О, усе здаровы, мой дабрэйшы і шаноўны ойча і дружа! Тэа прасіла перадаць яе прывітанне і пажаданне здароўя і поўных поспехаў у справах, Аль-Зэнгры! Разам з тым дадам прыемную для мяне навіну — чакаем з'яўлення дачушкі!

— Хай вялікі Алах пашле ёй сілу ў гэтым! А табе, мой сыне і дружа, такую ж слаўную розумам і душой дачушку, якой ёсць твая жонка!

— Дзякую табе за добрае слова, ойча! Дагэтуль бог літасціў да нас абодвух! — адказаў дрыгавіч.

Страцім запрасіў Аль-Зэнгры і Мамуна паснедаць на «Тодары Страцілаце». Па ўсходняму звычаю гасцям падалі міску з вадой, каб памыць перад ядой рукі. Выцершы іх, яны прынялі з рук Страціма налітыя хмельным мёдам чары. Страцім піў іх здароўе, за што Аль-Зэнгры прагаласіў перад другой чарай здравіцу Страціму і яго сям'і. Закусвалі смажанай баранінай і рыбай. Араб папрасіў дрыгавіча пераказаць падзеі яго уласнага жыцця — пачынаючы з падарожжа морам і нападу разбойнікаў ля дняпроўскіх парогаў. Спытаў, чым бавяць час хлопчыкі, якое жытло пабудаваў сабе Страцім і як цячэ жыццё ў Свіслачанах. У сваю чаргу Аль-Зэнгры падзяліўся радасцю ад таго, што выдаў дачку за вельмі слаўнага друга свайго сына Мамуна.

Зяць слыве ў Багдадзе за выдатнага пісьменніка, і песні яго пашыраюцца па ўсяму арабскаму ўсходу.

— Мамун хваліўся мне, што добра пераклаў на грэцкую мову некаторыя творы Рахіма. У вольную хвіліну пазнаёміш Страціма з песнямі Рахіма,— сказаў Аль-Зэнгры сыну.

Па дарадзе Страціма яны ўсе трое скіравалі да пасаднічага. Стары араб ад сябе і ад сына прынёс яму ў дар срэбную чару. Пасаднічы прыняў арабаў і Страціма, які быў тут перакладчыкам, вельмі ветліва. Аль-Зэнгры папрасіў пасаднічага аказваць дапамогу яго сыну, калі ў тым будзе патрэба.

— Па сваіх гадах, па стану здароўя мне будзе цяжка самому штогод наведваць Смаленскі горад. Сын тады заменіць мяне...— сказаў ён пасаднічаму. А той яшчэ раз абяцаў ва ўсім дапамагаць.

Узабраўшыся на «Тодара Страцілата», бацька з сынам агледзелі прывезеныя для Аль-Зэнгры шкуркі. Такога іх падбору старому арабу ніколі не даводзілася бачыць. Зачараванымі вачыма глядзеў ён на вязкі собаляў і гарнастаяў, песціў руку прыгожым воласам бабра і чорных лісаў.

— О, наш Багдад сшалее, убачыўшы такую красу! — прызнаў Аль-Зэнгры, закончыўшы агляд падрыхтаваных для яго шкурак.

Калі ж яны пачалі падлічваць кошт усяму гэтаму дабру, Страцім хацеў лічыць шкуркі па больш таннай цане, чым тая, што трымалася ў Царградзе. Аднак араб з ім не згадзіўся і даў цану царградскую. А скончыўшы падлікі, заявіў:

— За такую высокую іх якасць лічу справядлівым выплаціць табе яшчэ дадатковых пяцьсот дырганаў!

Страцім спрабаваў адмаўляцца, спасылаючыся на тое, што ён рабіў падбор дзеля Аль-Зэнгры, свайго друга. На гэта араб адказаў:

— Друг не ашукае, друг дапаможа поспеху. Але калі я сам на гэтых шкурках здолею нямала зарабіць, дык ці не павінен я падзяліцца са сваім другам?!

Дырганы ў параўнанні з бізантыкамі-носцісмамі былі чыстапробным золатам, і араб расплаціўся імі са Страцімам. Разам з тым ён прадаў Страціму большую частку прывезеных тавараў. Узамен за іх прыняў дваццаць бочак ліповага мёду.

Аль-Зэнгры атрымаў таксама тры бочкі такога ж мёду ў падарунак ад Страціма. Адну з іх адкрылі, каб араб мог спрабаваць ліпца, прыгатаванага па яго заказу.

І бацька і сын не маглі нахваліцца смаку дрыгавіцкага мёду. Стары араб сказаў:

— Я табе, сын мой, таксама прывёз падарунак. Можа, ты заўважыў, што ля задняга ўзмосця карабля стаіць малады конь... Я прывёз табе гэтага добрага арабскага скакуна. Прывёз увесь дабор збруі на яго пад верх, а таксама баявую нашу зброю і вопратку арабскага воіна... Мамун, схадзі на наша судна, вазьмі чалавека — і прынясіце ўсё сюды!

Праз колькі хвілін сын Аль-Зэнгры вярнуўся з падарункамі. Перадаючы прыгожае сядло, шалом, кальчугу, крывую шаблю, круглы арабскі шчыт і прыгожую вопратку, Аль-Зэнгры сказаў:

— Прымі ўсё гэта ад мяне — як памяць аб нашай непарушнай дружбе... На арабскім кані, добра ўзброены, ты, як казачны асілак, будзеш крышыць тых, хто ўзніме руку супраць твайго народа, лепшым сынам якога я цябе, Страціме, лічу... Сядаючы на свайго скакуна, успамінай старога друга, які зычыць табе перамог у баях з ворагам, поспехаў у тваім уласным жыцці!

Затым пайшлі глядзець каня. Арабскі жарабец быў адменнай красы: стройны, умеркаваны ва ўсіх частках свайго тулава, танканогі. Калі да яго падышлі арабы і Страцім, ён стрыг вушамі, тонкімі ноздрамі і прынюхваўся да свайго новага гаспадара, які гладзіў яго пысу і шыю.

— Сэфі! — прашаптаў каню Аль-Зэнгры, таксама гладзячы яго.— Служы свайму гаспадару бязхібна, як на гэта здольны ўсе твае родзічы з нашай Арабіі!

І, адвязаўшы конскі повад, ахапіў яго краем свайго халата і перадаў Страціму.

— Карыстайся яго здароў, цешся ім, памятай свайго старога Аль-Зэнгры! — дадаў араб.

Аль-Зэнгры прывёз у падарунак Тэафіліі і абодвум хлапчукам Страціма па багатаму арабскаму шаўковаму адзенню і цэлыя пакі усходніх слодычаў — салодкага сушанага вінаграду, які ў Царградзе звалі «баг-

дадскім цукрам», сапраўднага трысняговага цукру з далёкай Індыі, сушаных салодкіх дынь і сліў.

— Гэта тваім — каб такім жа салодкім было іх з табою жыццё! — зазначыў, весела смеючыся, стары араб.

У аддзяку Страцім папрасіў араба прыняць яшчэ адну бочку добрага хмельнага мёду.

— Прарок забараніў нам п'янства, але дазволіў для весялосці ўжываць лёгкае віно... Ваш жа славянскі хмельны ліпец — найлепшае, што можа дазволіць сабе прававерны... Ён саладзей самага салодкага віна на ўсім Усходзе, мае пах, з якім можа паспрачацца хіба толькі ружа славутых садоў Шыраха, дае весялосць, якая не пакідае пасля сябе галаўнога болю... П'ючы сам і частуючы сваіх старых прыяцеляў, я буду ў Багдадзе заўсёды ўспамінаць свайго далёкага славянскага друга!

Страцім прызнаўся, што не пазней як праз дзве вясны, дзесьці к канцу лета ён збіраецца везці ў Царград шкуркі, воск, мёд і палатно. Тады стары араб тут жа дагаварыўся са Страцімам, што таксама прыедзе туды. Склаў нават умову — заказ на ўсе названыя Страцімам тавары. Тут жа загадаў сыну прынесці скураную торбу з дырганамі і, адлічыўшы запас на дарогу, усю рэшту перадаў Страціму як свой задатак.

Па завяршэнню ўсіх гандлёвых спраў прыяцелі правялі ў Смаленскім горадзе яшчэ цэлых тры дні. Страцім знаёміў арабаў і асабліва Мамуна з тутэйшым прывозам. А на развітанне запісаў яму грэцкімі літарамі, з перакладам на грэцкую мову, запас тых усходнеславянскіх слоў і выразаў, валодаючы якімі, Мамун мог весці самыя простыя размовы адносна тавараў і спажыўнога.

Мамун жа на развітанне пазнаёміў Страціма з песнямі Рахіма, які апяваў духоўны свет арабскага юнака, прыгажосць арабскіх дзяўчат, асабліва той Альманзоры, якая стала цяпер яго каханай жонкай.

Калі «Тодар Страцілат» адчаліў ад прыстані і ўзняў свае сінія ветрылы, Аль-Зэнгры, Мамун і Страцім стаялі на карабельных узмосцях, доўга развітваліся махамі сваіх рук. А Сэфі, стоячы ўжо на караблі свайго новага гаспадара, падаў свой голас — заржаў, нібы таксама развітваючыся з арабамі.

## Гром з яснага неба

Страцім спяшаўся хутчэй вярнуцца са Смаленска дадому. Прыспяваў час, калі жонка мелася радзіць, і ён хацеў у такую пару быць з ёю. А тут — як на злосць — калі «Тодар Страцілат» увайшоў з Дняпра ў Бярозу, не стала ветру, а ісці супроць цячэння на вёслах з тым лікам людзей, як іх меў Трывой, было немагчыма. Пачалі адстойвацца, а час бег, і з ім расла нецярплівасць Страціма.

Толькі на трэці дзень удалося крануцца далей. Са спазненнем «Тодар Страцілат» дабраўся да Свіслачан. Пакінуўшы ўсё на Трывоя, Страцім сышоў на бераг і ледзь не бягом кінуўся ў сваю сялібу.

Дома ён застаў маці і дзядзіну. Яны сустрэлі яго заплаканыя. А маці папрасіла яго не спяшацца да жонкі: Тэафілія нарадзіла дачку, аднак ужо два дні ляжыць у гарачцы...

— Яна зараз у непрытомнасці. А твой нечаканы прыход можа яшчэ больш пасіліць яе гарачку,— сказала Страціму маці.

Устрывожаны такімі сумнымі весткамі, Страцім настойваў на сваім. Уступаючы сыну, маці рашыла:

— Пачакай, я гляну, як яна цяпер чуецца. Тады будзем ведаць, як табе быць...

Яна вярнулася з іхняй спальні больш супакоеная:

— Ачнулася. Спытала, ці не вярнуўся ты... Я сказала, што ты тут. Просіць цябе ўвайсці. Толькі беражы яе, трымайся спакойна, супакой яе!

Страцім увайшоў да жонкі. Яна ляжала на ложку пад адной прасцінай. Твар быў поўны змучанасці. Кучаравыя валасы былі рассыпаны па пасцелі. Смага паліла вусны...

Тэафілія працягнула да яго рукі і сказала на грэцкай мове:

— Добра, што ты вярнуўся, любы мой! Са мной кепска — мучыць гарачка. У нас дачка, як мы і хацелі, але...— яна не скончыла сваёй думкі.

Слёзы раптам пырснулі з яе вачэй, і яна шэптам дадала:

— Як бы я не памерла...

Страцім пяшчотна пацалаваў яе руку і пачаў супакойваць:

— Матуля казала, што такое бывае часта.

Тэафілія спытала:

— Дочаньку ўжо бачыў?

— Не яшчэ...

— Яна ў агульным пакоі... Паглядзі.

Страцім выпусціў руку жонкі з сваёй рукі і выйшаў з спальні.

Маці рассунула пялёнкі так ціха, што малое нават не збудзілася. Перад вачыма бацькі ляжала тоўсценькая смуглявая дзяўчынка, прыгожая і здаровенькая... Усім сваім маленькім тварыкам яна была падобна на маці: прыгожа віліся спераду чорненькія валаскі, бровы былі густыя, а вейкі замкнутых сном вочак — такія ж доўгія, як і ў Тэафіліі.

Страцім схіліўся, ласкава пацалаваў дачушку ў голенькія плечкі і вярнуўся да жонкі. Сеў на край пасцелі, узяў яе руку ў сваю і пачаў распытваць, як усё сталася.

— З пазаўчарашняга, як прыкінулася гарачка, стала са мной усё горай і горай... Ляжу, як у агні, чуюся дрэнна. Часта трачу прытомнасць... Па вачах матулі і дзядзінай бачу, што пагражае небяспека. І вось што надумала, мой родны! Вазьмі кавалак папіруса і напішы ад мяне кароценькі адвітальны ліст маім бацькам... ад майго імя, вядома. А я падпішу...

Страцім спрабаваў яе адгаварыць, але Тэафілія прасіла выканаць яе жаданне.

— Ты верыш, што ўсё абыдзецца добра? Ну дык тады ліст гэты мы знішчым... А калі, па боскай волі, я адыду, ты нейкім спосабам адашлеш ліст у Царград. Прашу цябе, мілы мой, у імя нашага ўзаемнага кахання — не адмоў мне ў гэтым!

І Страцім мусіў згадзіцца. Ён прынёс паперу, чарніла, завастрыў тонкую палачку і пад ціхія словы жонкі запісаў:

«У імя айца і сына і духа святога. Аман. Воляй найвышэйшага, знаходзячыся на адры смерці, вітае вас, дарагія бацькі, дачка ваша Тэафілія і просіць малітвы вашай перад маткай бога і спаса нашага. Ды пашле прачыстая пакроў свой над дзецьмі маімі і айцом іх. Ды ўзрастуць сыны і дачка мае вернымі царкве хрыстовай. І ды даруе бог мне вечны жывот у святым абвіталішчы нябесным. Аман. Тэафілія».

Скончыўшы ліст свой, Тэафілія папрасіла:

— А як я памру, дапішаш ужо ад сябе: «Дачка ваша, а мая жонка адышла да госпада ў 826 годзе па нараджэнні спаса нашага, ліпеня ў дзень першы». Добра?

Страцім згадзіўся і даў жонцы падпісаць ліст. Пад канец усёй гэтай справы Тэафілія адчула сябе стомленай і змоўкла. Ні то сон, ні то забыццё апанавалі ёю, і, каб даць ёй супакоіцца, Страцім ціха выпусціў яе руку са сваёй і выйшаў з спальні.

Са здзіўленнем ён пабачыў, што Таміла, маладая жонка стрыечнага брата, корміць сваімі грудзямі нованароджаную.

— Мяне прасілі, пакуль хварэе Тая (усе чамусьці так перайначвалі імя жонкі Страціма), карміць тваю дачушку...— растлумачыла яна здзіўленаму бацьку. І нахіліўшыся над малой, якая голенькая ляжала на яе каленях, перамінаючы ножкамі і ўхапіўшыся за крыніцу жыцця, сказала прымільна:

— Ну і красуня ж яна ў цябе будзе. Зусім як матка!

Страцім зайшоў да Грудатага, каб той з сынамі свайго брата дапамог перакінуць тавары з ладдзі на склад. І жанчыны з сям'і Грудатага, і ўсе, каго ён сустрэў па дарозе туды і дадому,— усе спачувалі Страціму, пыталіся, як чуецца хворая.

Пад вечар Тэафілія зноў прыйшла ў сябе, папрасіла прывесці да яе Богадара, Страцііміка, прынесці дачку, сказала мужу, каб ён падаў ёй абразок, якім блаславілі яе і Страціма на шлюб, перахрысціла ім кожнага з малых, прылажылася да абраза і сама, пацалавала са слязьмі ў вачах усіх дзяцей, нібы адвітваючыся з імі назаўсёды, і адаслала іх спаць у агульны пакой.

Страцім сядзеў на краі пасцелі. Тэафілія не выпускала з сваёй рукі ягоную руку, увесь час не спускала з яго вачэй. Потым жа нібы заснула. І Страцім выйшаў, каб пабачыцца з дзедам. Цвердзісіла ён застаў на двары ўласнай сялібы, пад дубам. Ён сядзеў, поўны смутку, непарушна глядзеў перад сабою. На дзярніне земляной лавы стаяла міска, поўная стравы, але зусім некранутая. Страцім моўчкі падышоў да дзеда, прыпаў да яго рукі вуснамі, але пацалаваць не змог, бо

слёзы перашкодзілі яму ў гэтым. Таксама без адзінага слова дзед паклаў на яго галаву правую руку, пагладзіў яго валасы.

Праз некаторы час ён ціха сказаў Страціму:

— Сядзь!

Калі той сеў, пачаў гаварыць:

— Што ж зробіш, унучак! Над усімі намі пануе доля... Яна табе дала рэдкае шчасце, яна ж воліць і адабраць яго. Сёння я ўзнёс модлы, склаў ахвяру Перуну і прасіў яго за тваю жонку... хаця яна і хрысціянка. І вялікі не ўгневаўся — прыняў маю ахвяру. Толькі падаў мне кепскі знак — вецер пагнаў дым ахвярніка ў бок могілак... Не ты адзін страціш дарагога чалавека, але і ўсе мы асірацеем з смерцю Таі!

Калі Страцім вяртаўся да сябе, насустрач яму выбегла заплаканая Сянява:

— Хутчэй, Страціме, канае!

Не помнячы сябе, убег Страцім у хату, стаў ля пасцелі Тэафіліі. Яна кідалася галавой то ўправа, то ўлева, не знаходзячы для яе месца. Іншы раз стогн вырываўся з яе вуснаў, апаленых жарам гарачкі. Вочы то закрываліся, то шырока раскрываліся. Мешаніна грэцкіх і дрыгавіцкіх слоў злятала з яе вуснаў.

Страцім ціха ўзяў яе левую руку ў сваю. Тэа павярнула галаву ў яго бок, хацела нешта сказаць і — не змагла, толькі рука яе слаба перадала яму нейкі знак. На момант яна заціхла. І толькі парывістае гарачае дыханне сведчыла, як яна мучылася.

Страцім не спускаў вачэй з твару жонкі. Як закамянелы стаяў ён каля яе пасцелі, забыў пра ўсё на свеце. Ён не памятаў, колькі прайшло часу з моманту, калі ён вярнуўся... Паступова дыханне хворай станавілася ўсё больш спакойным. Потым Тэафілія раскрыла вочы, глянула на мужа, пазнала яго і ціха сказала:

— Паміраю, Стра...— і, не скончыўшы слова, пераняла вочы, пацягнулася ўсім целам, галава яе схілілася да левага пляча, рука, што была ў далоні Страціма, аслабла...

Страцім ачнуўся, калі адчуў на сваім плячы руку дзеда. Той сказаў яму:

— Выйдзем! Дамо жанчынам заняцца ёю...

Страцім, хістаючыся, выйшаў за дзедам.

Яны скіравалі ў бок гарадзішча, падышоўшы пад дуб, што рос на яго схіле, селі пад ім.

Цвердзісіл некаторы час маўчаў, потым загаварыў. Ён нібы тлумачыў Страціму, якую ўсе яны панеслі страту са смерцю Тэі. Казаў, што толькі ў казках апавядаецца пра такую красу, розум і сардэчнасць жанчыны. Скончыў тым, што трэба скарыцца перад магутнасцю чалавечай долі, моц якой церпяць самі богі.

Памаўчаўшы ж, загаварыў пра вялікую і шчаслівую спадчыну, якую пакінула нябожчыца Страціму:

— Доля дала табе і адну вялікую ўцеху. Тэа пакінула табе такіх мілых дзетак! Ты яшчэ не зусім усведамляеш, якімі светлымі душамі надзяліла яна абодвух сыноў. Я ўпэўнены, што і дачушка яе вырасце такой жа слаўнай дзяўчынай, якой ты сустрэў яе матулю... А таму — скарыся лепей перад доляй, свята шануючы памяць нябожчыцы, аддай ім, сваім дзеткам, усю моц свайго кахаючага сэрца...

Калі Страцім вярнуўся да сябе, жанчыны ўжо вымылі цела нябожчыцы, апранулі яе ў туніку грэцкай замужкі, у якой яна любіла адзначаць самыя святочныя хрысціянскія дні, паставілі ў агульным пакоі дзве лавы, пакрылі іх прыгожымі кілімамі і паклалі на іх цела Тэі.

Страцім прыкмеціў, што рукі Тэі складзены не так, як гэта робіцца ў хрысціян. Таму ён прынёс з спальні крыжык, які вісеў у галовах іхняй пасцелі, склаў рукі Тэі разам, уклаў паміж першымі пальцамі крыжык. Успомніў, што пры нябожчыку павінна паліцца свечка, прынёс падсвечнік і, управіўшы ў яго свечку, запаліў яе і паставіў за галавой Тэі.

Успомніў пра дзяцей, спытаўся пра іх у маці і, пачуўшы яе адказ, увайшоў у дзіцячы пакой. Малыя ўсе трое спалі. Пры іх сядзела і плакала Сянява. Страцім доўга ўглядаўся ў тварык меншага і перайшоў да дачушкі. Доўга разглядаў яе тварык — і тут жа парашыў даць ёй імя маці... Усё гэта ён рабіў у нейкім тумане — так ашаламіла яго нечаканая смерць Тэі.

Калі Страцім вярнуўся ў пакой, дзе ляжала нябожчыца, і, паставіўшы ўслончык, сеў побач, зрок яго затрымаўся на твары Тэафіліі. Вялікі спакой быў адбіты на ім. Краса твару атрымала такую выяўнасць, якая на жывым чалавеку звычайна не наглядаецца,

бо выраз чалавечага твару пры жыцці ўвесь час мяняецца адпаведна з тым, што перажывае чалавек. Гэта ж была краса, як кажуць людзі, незямная; яна адбівала цяпер у целе ўсю дасканаласць, усё суладдзе пачуццяў.

Высокае чало прыкрывалі кучары ад чорных тоўстых кос, што акаймлялі галаву. Нос з лёгкай гарбінкай і прыгожы рот азначалі сабой тую дасканаласць жаночага твару, якая лічыцца вышэйшай красою. Асабліва ж прыгожы былі бровы і вейкі — ад іх нібы цень клаўся пад вачыма, пасільваючы іх красу.

Страцім не спускаў вачэй з прыгожага, як ніколі, твару Тэі — і яго душу ўсё болей агортваў сум ад панесенай страты.

Як раптам усё сталася! Яшчэ тыдзень назад Страцім быў самым шчаслівым чалавекам. А за тры-чатыры апошнія дні ўсё перамянілася — смерць, лютая смерць адабрала ў яго дарагога чалавека, з якім ён нібы зліўся ўсёй істотай, якога кахаў бязмерна. Яна таксама кахала яго так аддана, як толькі можа кахаць дзяўчына, стаўшы дружынай свайму мужу, маткай, яго і сваіх дзяцей, жанчынай у поўным сэнсе — як жонка і маці.

Смерць! Чаму яна спыняе жыццё нават людзям, поўным жыцця і сіл?

Страціму цяпер успомніліся словы яго хрысціянскага настаўніка — айца Нікіфара. Праўдзівей кажучы, не ўласная думка манаха-настаўніка, а настаўніка «нябеснага»: «Не паўстане новае жыццё, калі не памрэ тое, з чаго ўзнікне гэта жыццё...» Так! так! Трэба было, каб Тэа нарадзіла дачку, каб перадала ёй усё самае лепшае, што мела, перш за ўсё — сваю красу. За гэта сама заплаціла сваёй смерцю... Але чаму так? Чаму ён, той нібы міласцівы хрысціянскі бог, тварэц і ўладар сусвету, тварэц першых людзей, чаму ён бывае нелітасцівы да людзей, пасылае ім такія цяжкія кары? Айцец Нікіфар казаў, што гэта — за грахі... Ну добра, ён, Страцім, кепскі хрысціянін, але ж Тэафілія — сапраўдная хрысціянская душа, добрая, чыстая душа. Нашто ж яе пазбаўляць жыцця? Хрысціяне кажуць, што для такіх смерць — не кара, бо іх душы ідуць па смерці ў рай... А хіба ж іх, яе жыццё тут не было раем? Хіба шчасце і радасць такога жыцця, поўнага ўзаемнага кахання, не былі бязмернымі? Якое ж

яшчэ лепшае райскае жыццё можа быць, калі ўжо адна радасць з поваду дзяцей поўніла іх душы?.. Хаця б у імя дзяцей, не вінаватых яшчэ ў грахах, бог не слаў бы смерць такім, як яна... Не, не! Хрысціянскі бог — такі ж, як і іх дрыгавіцкія богі. А мо і горшы ад іх, бо ён лічыцца літасцівым, а куды больш гневаецца на людзей, чым, скажам, Пярун...

Прыходзілі людзі — блізкія і далёкія родзічы, свіслачане, прыйшоў дзед — а Страцім усё сядзеў, усё не спускаў вачэй з мілага твару.

Пад вечар дзед падышоў да яго, нахіліўся да яго вуха і шапнуў:

— Выйдзем, Страціме!.. Трэба параіцца!

Страцім устаў і пайшоў следам за старым. Ізноў селі пад дубам. Прабацька распытваў яго, як трэба будзе пахаваць Тэафілію, як улічыць звычаі грэкаў-хрысціян. Страцім растлумачыў, што хаваюць іх у дамавінах, насыпаюць магілку, ставяць на ёй крыж з абразком.

— Так і зробім! — сказаў унуку Цвердзісіл.— Сёння пераначуе, а заўтра пахаваем... Схадзі, выберы месцейка для яе вечнага супакою.

Страцім крыху ажыў. Ён абышоў усё кругом і спыніўся выбарам на адным з узгоркаў каля самай Бярозы — яго добра відаць з ракі, калі плыць па ёй з поўдня... Потым зайшоў да дзядзькі Аўсея, паказаў яму выгляд крыжа і памеры яго.

* * *

Як толькі памерла Тэафілія, Трывой прыладзіў да карабельнай чайкі вятрылы. Спрыязны вецер даў яму магчымасць утрая хутчэй, чым на вёслах, прыбыць у Бабровічы. Раніцай (Трывой прыплыў ноччу) усё селішча абляцела сумная вестка. Смуглява, Валюх, Светлазар і Усяміла рашылі паехаць разам з Трывоем, каб прысутнічаць на пахаванні грачанкі, якую яны так шчыра паважалі і кахалі.

Калі ўсе садзіліся ў чайку, надышла Усяміла з цяжкім мехам гліны. Яна задумала вылепіць сваю дарагую прыяцельку.

Чайка была перагружана людзьмі (звычайна яна паднімала толькі трох чалавек). І калі пастаўленае

вятрыла гнала судна, чайка зачэрпвала ваду. Прыходзілася ўвесь час яе вычэрпваць. Затое ўсе яны надзвычай хутка прыплылі ў Свіслачаны.

Усяміла папрасіла брата паднесці мех з глінай у сялібу Страціма. Сама таксама паспяшала туды, каб хутчэй пабачыць тую, што сталася ёй дружкаю, роднаю. Яна застала Страціма ля цела жонкі. Як і раней, ён не плакаў, сядзеў, нібы здубянелы, не спускаў вачэй з каханай дружыны. Усяміла глянула на яго, зразумела яго пачуцці, таму нават не павіталася. Уся таксама сцялася, пабачыўшы Тэафілію. Яна аплакала яе смерць яшчэ дома, пачуўшы пра ўсё ад Трывоя, і цяпер без слёз у вачах пазірала на тую, хто так нечакана іх пакінуў.

Асаблівая краса памёршай вабіла, каб назаўсёды захаваць воблік гэтай незвычайнай жанчыны.

Пачуўшы крокі Трывоя, Усяміла азірнулася. Брат прынёс мех з глінай. Дзяўчына ўзяла невялікую лаўку, паклала на яе прывезеную з сабой шырокую дошку, зверху расціснула ком гліны, паставіла ўслончык і распачала сваю работу. Як і Страцім, яна, аддаўшыся творчай працы, не заўважала нічога, што адбывалася ў пакоі... Заходзілі людзі, стаялі ля нябожчыцы, выходзілі адсюль — а Усяміла з адданасцю тварыла. Яна выявіла Тэю ляжачай галавой на падушцы, у вянку кучаравых кос, здолела перадаць той асаблівы выраз красы і душэўнага спакою, які прыкмеціў раней і Страцім.

Скончыўшы сваю работу, яна ўсё яшчэ сядзела на ранейшым месцы, бясконца правярала, ці не ўпусціла чаго, ці здолела выканаць сваё жаданне.

Якраз у гэту пару ў пакой зайшоў Цвердзісіл. Ён убачыў Усямілу, прыкмеціў яе работу, падышоў і доўга ўглядаўся, параўноўваючы копію з арыгіналам. Па яго твары можна было зразумець, што ён быў здзіўлен здольнасцю ганчаркі.

Цвердзісіл выйшаў на панадворак, сеў на прызбу і доўга думаў пра штосьці важнае, а потым зноў вярнуўся ў пакой, дзе сядзелі Страцім і Усяміла. Падышоў і шапнуў ёй:

— Калі не мыляюся, галубка, ты сястра Трывоя. Бачыў я, як удала зляпіла ты нашу нябожчыцу. Бачыў і твайго Богадара... Мне ты патрэбна па адной

справе... Як скончыцца пахаванне, зайдзі, галубка, да мяне... Добра?

— Зайду! — адказала Усяміла, здзіўляючыся, што за справа такая да яе ў прабацькі роду.

## Пярун

Трызну на Тэафілінай магіле не спраўлялі, бо, як тлумачыў Страцім, у хрысціян гэта было не ў звычаі. Памінкі ж дома мерыліся зрабіць на дзявяты дзень. Таму пасля пахавання ўсе разышліся. Маці са старшай сястрой угаварылі Страціма не заставацца, як ён хацеў, на магіле жонкі, а таксама ісці дадому, дзе былі пакінутыя з Сянявай дзеці.

Усяміла з цяжкім сумам за душой спусцілася ад узгорка, дзе ўзнікла свежая магіла, на абрывісты бераг Бярозы і доўга сядзела там у сумоце. Потым успомніла пра загад прабацькі зайсці да яго пасля пахавання Тэафіліі.

Старога яна застала на звыклым месцы, пад дубам. Цвердзісіл ужо здалёку заўважыў яе, паклікаў да сябе рукой і, як толькі яна падышла, прапанаваў:

— Пойдзем на гарадзішча!

Цвердзісіл прывёў Усямілу пад векавы дуб, пад якім высіўся ахутаны канапляным палотнішчам Пярун, зняў з ідала пакрывала і прамовіў:

— Яшчэ ў гады, калі нашым родам кіраваў прабацька Багуміл, адзін наш разьбяр выразаў з дуба вось гэты вобраз нашага магутнага бога. Але не надаў яму падабенства да чалавека, не быў на гэта здатны...

І сапраўды, разьбяр надаў статуі толькі ўмоўны выгляд чалавека — невыразны быў сам твар бога, рукі мала аддзяляліся ад цела. Вылучалася толькі пясць правай рукі, якая трымала зігзатую жалезную маланку.

— Ты валодаеш рэдкім дарам перадаваць не толькі рысы чалавечага твару, але і выяўляць характар чалавека... Будзе да цябе просьба — стлары нам новую мастаць бога. Яна павінна выявіць яго ўласцівасці: магутнасць, літасцівасць да сваіх ухвальнікаў, суровасць да тых, хто заслужыў яго кару. Дык вось, галубка мая, сваёй працай уздай ты пашану вялікаму Перуну, яві нам яго такім, якім я яго бачу і якім бачыў нябожчык

Багуміл. Дар твой — ад яго, прасвятліцеля чалавечага. І ты, я пэўны, ты здолееш зрабіць гэта... Я даўно ўжо нагледзеў спалены маланкай дуб. Я загадаю яго ссекчы, абчасаць... Памерам жа стварэ Перуна ўдвая большым ад самага рослага чалавека — каб стаць яго панавала над людзьмі, што моляцца яму, высілася высока над імі.

Усяміла спрабавала даводзіць Цвердзісілу, што гэта ёй не па сіле. Але Цвердзісіл быў цвёрды:

— І не думай адмаўляцца, галубка. Гэта будзе тваёй заслугай перад людзьмі, перад самім богам. А ён, магутны, за тваю працу пашле табе і здольнасць, і пэўнасць! Падумай і — падрыхтуйся да справы. Часцей дзяліся са мной сваімі думкамі, каб ты знайшла тое, што хочацца мне.

Паклікаўшы двух вартавых гарадзішча, Цвердзісіл загадаў ахутаць Перуна палотнішчам. Потым скіраваўся з Усяміляй да выхада.

Задума прабацькі захапіла Усямілу. Але ў ёй усё яшчэ не было смеласці, каб узяцца за такую важную работу. Яна моўчкі ішла побач з прабацькам, раздумвала.

«О, калі б я здолела гэта, якая была б мне чэсць!» — думалася ёй.

Калі яны ўжо наблізіліся да сялібы Страціма, Усяміла нясмела сказала:

— А можа, хто другі выканаў бы гэту работу?

— Няма такіх у нас людзей, галубка, а ты, зноў паўтару, здолееш зрабіць стаць. Не спяшайся толькі, перш вынесі ў сабе, шукай, пакуль не пачнеш ствараць тое, што трэба. Сама, галубка, пачуеш тады, што яно табе далося... Ну, блаславяю цябе!

Ён спыніўся, узняў рукі над яе схіленай галавой, а вусны яго прызвалі на дапамогу імя Перуна.

Усяміла не зайшла да Страціма, а зноў вярнулася на бераг ракі, адкуль прыйшла да прабацькі роду. Цяпер усё ранейшае адышло ўбок, усё засланіла думка: стварыць вялікага бога дрыгавічоў! Дзеду Савею яна потым сказала:

— Не работнік я цяпер па глінішчы, дзедка! Задумала адну вялікую работу. Не ведаю, ці асілю яе, але засела яна мне ў душу так, што нішто другое больш мяне не цікавіць... Не ведаю адно, ці хопіць сіл...

— Што ж такое? — зацікавіўся Савей.

— Скажу пазней, бо, можа, адракуся ад сваёй задумы...

Усяміла ўсё абдумала і рашыла, што не будзе спяшацца. Перш спрабуе знайсці Перунова аблічча, вылепіць яго з гліны, а калі яно яе задаволіць — пакажа Цвердзісілу. І ўжо калі той таксама будзе задаволены, выража аблічча бога з ліпы, якая мякчэй за дуб... Пасля знойдзе для бога ўсю постаць... Якога веку чалавекам ён уяўляецца? Сярэдняга веку, думала яна. У яго павінен быць высокі лоб — ён мудры. Валасы на галаве адкінуты назад, але не доўгія. Вусы. Барада густая, чуць кучаравіцца. Глыбока пасаджаныя вочы, пад густой шчэццю броваў, павінны выказваць магутную волю бога. Губы рашуча сцяты...

Але як Пярун будзе глядзець на сваіх людзей? Яна разумела, што не павінны пераважаць ні гнеў, ні злішняя суровасць, ні адна толькі літасцівасць.

Потым яна зразумела: выраз яго твару павінен сцвярджаць, што ён слухае тое, з чым людзі прыйшлі да яго... Так, хоча ведаць, з чым звярнуліся да яго дрыгавічы!

І Усяміла, падрыхтаваўшы гліну, пачала лепку. Праз два-тры дні яна зрабіла галаву Перуна. Але ёй усё не даваўся выраз аблічча: то ён быў занадта спакойны, то непатрэбна суровы, то нейкі задуменны... Адсутнічала ў абліччы веданне богам усяго — нават будучыні, што не дадзена людзям...

Дзед Савей не заходзіў у шалаш, дзе яна ляпіла. Перапыняючы работу, Усяміла, каб гліна не сохла, ахутвала зробленае мокрай палатнінай... Праходзілі дні, а выраз аблічча ўсё не даваўся. Усяміла ўжо была гатова прызнаць сваё бяссілле. Але праз некаторы час зноў вярталася да пакінутай гліны і зноў упарта шукала выраз Перуновага аблічча.

Аднойчы ноччу, калі Усямілу мучыла трывожная бяссонніца, яна рашыла, што ёй трэба параіцца з Цвердзісілам. Таму раніцай упрасіла Валюха паехаць з ёй у Свіслачаны. Брат згадзіўся.

Прыехалі яны к поўдню. На беразе якраз нікога не было. Пакінуўшы брата ў чоўне, Усяміла пайшла к сялібе Цвердзісіла. А там ёй сказалі, што прабацька цяпер у гарадзішчы.

Вароты гарадзішча былі адчынены. Усяміла прайшла праз іх, азірнулася вакол і заўважыла, што стары сядзіць ля ахвярніка. Трава глушыла крокі, і, відаць, прабацька не пачуў яе прыходу, не заўважыў, як яна маўкліва пакланілася яму.

Цвердзісіл жа глядзеў перад сабою і нічога не бачыў навокал. Усяміла зірнула на яго твар — і раптам спынілася: выраз на абліччы прабацькі быў якраз такім, які яна шукала для Перуна. Яна ўглядалася ў твар прабацькі ўсё больш і больш, замацоўвала ў памяці гэты выраз. Пастаяўшы так колькі хвілін, Усяміла ціха вярнулася да варот і паспешліва скіравалася да берага, дзе стаяў братаў човен.

— Ты што так хутка вярнулася? — здзівіўся Валюх.

— Шчасліва знайшла, што было трэба,— адказала яна брату.— Паедзем!

Ад'ехаўшы ад Свіслачан, Валюх налёг на вёслы, стараючыся ісці там, дзе была не такая стромкая плынь ракі. Усяміла ж па дарозе назад усё думала пра тое, што сабой уяўляў выраз твару Цвердзісіла. І растлумачыла яго сабе так: погляд Перуна нібы пранікае ў душу чалавека, вяшчуе яго будучыню...

Вярнуліся яны пад вечар. Але Усяміла адразу ж пабегла на глінішча, скінула з галавы Перуна мокрую палатніну і, прайшоўшыся па вачах бога, надала ім выразнасць, тую празорлівасць, якую яна ўбачыла ў позірку Цвердзісіла.

Скончыўшы работу, адышла, яшчэ раз праверыла, ці так усё выйшла, як ёй хацелася.

— Так, так! — пацвердзіла яна сабе. Потым накрыла вылепленую галаву Перуна мокрай палатнінай і, супакоеная, пайшла дадому.

Усяміла цяпер думала пра тое, ці варта ёй рабіць тулава Перуна такім вялікім — утрая большым, чым звыклае цела чалавека. Ёй стала зразумела, што калі Пярун будзе стаяць, то яго зрок, што павінен пранікаць у душы людзей, не будзе выразна бачны для тых, хто прыйдзе да яго з модламі. Адначасна яна разумела, што велічыня стаці павінна адпавядаць яго магутнасці. Таму рашыла захаваць буйны памер цела Перуна, але толькі пасадзіць яго. Тым болей што не выпадае богу стаяць перад людзьмі, яму падпарадкава-

ымі. Яны ж слабыя і звяртаюцца да яго з просьбамі... Пасадзіўшы ж Перуна, яна здолее нахіліць яго галаву. Так, каб погляд бога быў бы скіраваны прама ў вочы тых, хто прыйшоў да яго за дапамогай. Тады ж яна надумала, што ў правую руку Перуну дасць стралу маланкі. А левую абапрэ на кола, якое будзе знакам адвечнасці бога.

На другі дзень Усяміла зняла памеры з цела сваёй братавай Светлазары, якая была рослай — у адрозненне ад Трывоя і Валюха. Яны, як і Смуглява, былі сярэдняга росту людзьмі. Усяміла павялічыла атрыманыя памеры ўдвая, разлічыла суадносіны цела і галавы. А яшчэ праз дзень, захапіўшы з сабой злепленую галаву Перуна, выправілася адна ў Свіслачаны — да Цвердзісіла.

Вось і паварот рэчкі. На ўзгорным беразе адкрыліся перад Усямілай Свіслачаны. Дзявочае вока прыкмеціла, што на прыстані няма «Тодара Страцілата» — відаць, Страцім паплыў на торг у Тураў. Прыстаўшы да берага і прымацаваўшы човен, Усяміла скіравалася са сваёй цяжкай ношай у гарадзішча. Ля сялібы, міма якой трэба было прайсці, яна ўбачыла купку дзяцей, якія гулялі ў цурку.

— Не бачылі, дзеткі, дзе цяпер прабацька? — спытала яна.

— Пайшоў у гарадзішча! — закрычалі дзеці ў адказ.

У варотах ганчарка сутыкнулася з Цвердзісілам, які якраз вяртаўся з гарадзішча. Павітаўшыся, спыталася ў старога:

— Дзе можна паказаць тое, што я зрабіла?

— Каля ахвярніка... Ніхто там не перашкодзіць...— адказаў Цвердзісіл.

Усяміла паставіла галаву Перуна на край ахвярніка, разгарнула мокрую палатніну — каб гліна не патрэскалася на сонцы, яна ўсю дарогу палівала яе вадой.

Цвердзісіл зірнуў, потым адышоў далей і застыў на месцы. Зоркія яго вочы ўглядаліся ў аблічча бога, дапытліва, удумна разглядалі яго.

— Добра! — нарэшце сказаў ён мастачцы.— Але такога дапытлівага боскага вока не ўбачыць ніхто з людзей... Стаць жа павінна быць высокай.

Гэта заўвага прабацькі здзівіла Усямілу: ён мудры, улічыў і такую важную акалічнасць.

— Я думала пра гэта... Велічыню цела, вядома, трэба захаваць, каб выявіць тым самым моц бога. Але не выпадае зрабіць яго стаячым перад людзьмі. Ён — бог, вялікі, магутны, не тое што мы — яго слабыя стварэнні.

— Так! — спыніў ён яе, тут жа засмучана спытаў: — А як жа ты адолееш такую труднасць?

— Трэба, каб уладар сусвету сядзеў...— адказала Усяміла.

— Ото думка! — усклікнуў стары.— Сядзеў, як наш суддзя, як уладар над намі...

Падбадзёраная ухвалай прабацькі, Усяміла далей выказала сваю задуму абаперці левую руку Перуна на кола, каб паказаць тым адвечнасць яго існавання. І гэту яе думку Цвердзісіл ухваліў...

Замоўклі абодва. Прабацька стаяў перад Перуном і задаволена разглядваў аблічча, так удала выяўленае Усямілай. Потым падышоў да яе, узяў за плечы, пацалаваў у лоб.

— Ад Перуна, усемагутнага ўладара і дапаможніка нашага,— дзякуй табе, галубка! Хай ён табе і надалей пасылае здароўе, сілы і натхненне! А цяпер пагаворым, што табе далей трэба рабіць.

Яны селі ля ахвярніка, і Усяміла выказала свае меркаванні: спярша даць усю стаць Перуна ў ліпе, якая мякчэй для рэзання, а калі ўсё будзе ладна, рэзаць ідала з дубу... Тут жа яна назвала памеры патрэбнага камля.

Па думцы Цвердзісіла, такое вялікае ліповае дрэва знайсці будзе цяжка.

— Хай будуць тры кавалкі — я іх стачу,— адказала Усяміла.

— Знойдзем два. Я загадаю Аўсеню адшукаць іх у лесе і абчасаць паводле тваіх разлікаў. Ён жа падбае, як іх табе ў Бабровічы перакінуць. А можа, ты зможаш тут у нас працаваць? Не трэба было б вазіць туды ды назад. Я табе на двары сваёй сялібы паветку пастаўлю. У нас і спаць, і карміцца будзеш... Як?

— Вядома, так было б лепей! — згадзілася Усяміла.

— Захіні ўсё, каб да часу людзі нічога не ўбачы-

лі. Занясём Перуна пакуль што да мяне! — загадаў Цвердзісіл. Затым паклікаў аднаго з вартавых, каб той нёс лепку Усямілы ўслед за імі.

Выяву ганчаркі паставілі да прабацькі ў святліцу. Выклікалі Аўсеня, і Цвердзісіл сказаў яму пра ліпу і дуб. Пад тлумачэнні Усямілы лепшы майстар па дрэву для памяці зазначыў сабе на новай бірцы загаданыя памеры дрэў.

* * *

Праз тыдзень на двары сялібы Цвердзісіла ў зацішным кутку была збудавана высокая і прасторная павець. Праз шырокія яе дзверы ўнеслі два вялікія камлі ліпы, змайстравалі пераносныя падмосці для работы на рознай вышыні. Аўсень са сваім розным струмантам быў прыдадзены ў дапамогу Усяміле. Ён зразаў лішкі ліпы з мясцін, якія потым апрацоўвала сама мастачка. А ў лесе, пад кіраўніцтвам самага ўмелага дрэваруба, цэлая дзесятня людзей зразала і чысціла дуб-асілак.

Узброіўшыся вострымі разакамі, якія былі па яе накідах зроблены ў вялікім запасе здольнымі кавалямі, братамі Каняй і Манеем, аднаго рання Усяміла прыступіла да работы. Яна працавала з такім захапленнем, што спрытны і ўмелы Аўсень ледзь паспяваў зразаць кавалкі, якія Усяміла абрысоўвала крэйдай. З кожным днём з-пад іх разакоў і далот усё больш і больш явела постаць бога. А праз два тыдні Аўсень пакінуў паветку, і Усяміла засталася адна.

Галаву Усяміла пачала рабіць пад самы канец. Каб правільна вызначыць нахіл Перуновага позірку, Усяміла пасадзіла дзядзьку Аўсеня побач з галавой ідала і, прымеркаваўшы, канчаткова вырашыла гэту цяжкую задачу.

Пад канец трэцяга тыдня Пярун быў завершаны. Прыбралі памосце, і Цвердзісіл з Усямілай адной раніцай зайшлі ў павець, каб паглядзець зробленае. Усяміла лічыла, што яшчэ трэба дзе-нідзе падправіць валасы на галаве Перуна, мацней выявіць мясені яго рук і ног. Цвердзісіл жа знайшоў усё выкананым вельмі ўдала і блаславіў Усямілу прыступіць да разьбы ідала з дубу.

Праз пару дзён стод з ліпы адсунулі пад сцяну павеці. Амаль усю прастору заняў велізарны дубовы абчосак, і Усяміла з Аўсенем пачалі працаваць над ім.

Работа ішла цяжка, бо дубовае дрэва не хацела паддавацца. А калі праз колькі дзён Усяміла засталася адна, яе ўзмацнелыя ў працы над ліпаю рукі спачатку вельмі таміліся. Але хоць далоні пакрыліся мазалямі, работа спорылася. Праз тры тыдні дубовы Пярун быў гатовы.

Тым часам паспеў вярнуцца з Турава Страцім. Ад дзеда ён дазнаўся аб рабоце Усямілы, атрымаў ад яго дазвол паглядзець ідалаў.

Усяміла чакала Страцімавай ацэнкі з некаторай насцярожанасцю. Яшчэ раней яна заўважыла, што Страцім разбіраецца ў мастацкіх справах, знаёмы з працамі грэцкіх разьбяроў. Таму хвалявалася, калі ён доўга ўглядаўся ў абодвух ідалаў і ўсё маўчаў. Нарэшце Страцім прамовіў:

— Ведаеш, Усяміла, ты добра прыдумала, каб вочы Перуна сустракаліся з вачыма людзей. Мне падабаецца, што ты выразала зрэнкі — інакш вочы былі б сляпыя, як у грэцкіх разьбяроў. Усё вельмі добра, але было б яшчэ лепш, калі б ты ўставіла ў зрэнкі блакітныя каменьчыкі. Тады вочы здаваліся б зусім жывыя.

Дубовы стод Перуна, пакрыты велізарным палотнішчам, адной ноччу трыццаць мужчын перанеслі ў гарадзішча. Стары ж стод наступнай ноччу знялі з падмурка і спалілі — каб Пярун не пакрыўдзіўся. На месцы ранейшага падмурка зрабілі новы, шырэйшы, а на ім устанавілі разьбу Усямілы.

У прызначаны дзень сабраліся старыя роду. Яны ўзнеслі ахвяры перад новым стодам Перуна. Потым у гарадзішча быў дапушчаны ўвесь свіслачанскі люд. Прыцішаны ўхвальны гул галасоў пранёсся па гарадзішчы. Перад людзьмі сядзеў ён, магутны ўладар сусвету. Кожны адчуў, што вочы бога глядзяць яму прама ў душу, што нельга адвесці сваіх вачэй ад яго пранікліваға позірку. Міжвольна схілялі ўсе галовы. Хацелася слухацца яго, вялікага, маліцца яму і верыць у яго магутнасць.

Цвердзісіл узнёс маленне за ўвесь род. А голас яго быў поўны веры, што Пярун пачуе люд свой. Усяміла

была сярод людзей і бачыла, які вялікі ўплыў мела на ўсіх яе тварэнне. Разам з усімі ёй таксама хацелася схіліцца перад воляй магутнага бога, аблічча якога выглядала як жывое.

## Полацк

Як Страціму было вядома з апавяданняў варангаў, Полацак вёў гандаль з заморскай Савейскай зямлёй, адкуль часта наязджалі купцы. Яны прывозілі варангскую зброю і жалезныя вырабы, набывалі тут менай або за грошы тавары, што дастаўляліся палачанамі са Смаленскага горада — ад наезджых баўгар, хазараў і арабаў. У Полацаку можна было сустрэць гасцей з суседніх літоўскіх і латышскіх плямёнаў. Тыя везлі пераважна звярыныя шкуры, а мянялі іх на тканіны, вырабы з жалеза і жаночыя аздобы.

І ўсё ж тое, што вёз у Полацак Страцім, па сваёй вартасці і хараству магло вытрымаць параўнанне нават з тонкімі яскравымі тканінамі хазараў і арабаў, з патраскім пурпурам, якому не было раўні ва ўсім свеце. У яго былі вырабы з мосяжу, якія па бляску раўняліся з залатымі, абутак з тонкай скуры бліскучых колераў... Адным словам, было Страціму з чым ехаць! У Полацаку ён разлічваў на такі ж поспех, як у Смаленскім горадзе і ў Тураве.

Адно толькі трывожыла яго: ён памятаў словы Скальдэра, колькі сіл прыйшлося затраціць тады ягонай дружыне, калі яна чуць не першай пракладвала волак з ракі Вулы праз азёры і на Бярозу. Дарогу пад каткі з ладдзямі прыйшлося працярэбліваць крок за крокам. Потым падвозіць драўніну, падсыпаць зямлю. Мясцовасць жа там узгорыстая, цяжка валачы ўгору напакаванае судна нават па катках.

Вось чаму на паездку ў Полацак Страцім наняў Воўка і яшчэ дзесяць дужых мужчын з Свіслачан і Бабровічаў. Быць ім у дарозе абаронай, а заадно — і валачы разам з другімі карабель.

Так вось і выправіліся ў тое падарожжа.

«Тодар Страцілат» ніколі яшчэ не быў у Бабровічах. Калі пад сінімі сваімі вятрыламі ён падышоў да аселішча, вартавыя гарадзішча як звыкла падалі знак дымам вогнішча. Усе бабравічане кінуліся на бераг

сустракаць сваіх родзічаў. Гасцей сустрэлі прыветна. Вечарам наладзілі баль, весяліліся да поўначы. На памяць аб сваім першым падарожжы па гэтым новым шляху Страцім адарыў падарункамі прабацьку Ладнага, старых бабравічан, радню Трывоеву. А жанчынам раздаў розныя аздобы з мосянжу. У дарогу папрасіўся нават дамасед Валюх, якога Страцім прыняў вельмі ахвоча, бо лішні дужы і смелы чалавек быў толькі на руку.

Раніцай выправіліся далей. Да ўтоку Метчы прыйшлі вельмі хутка, бо якраз быў спадарожны вецер. Тут жылі тры сямейкі паляўнічых-бабравічан і адна рыбацкая сям'я. Калі «Тодар Страцілат» спыніўся, рыбак аддаў ім увесь свой дзённы ўлоў, а паляўнічыя падарылі дзве казулі, чатырох глушцоў. Страцім шчодра адарыў іх, а таксама жанчын, якія прынеслі збанкі малака і кошыкі суніц.

Вецер быў такі спрыяльны, што к вечару яны паспелі к возеру, якое працякала ў сваім вярхоўі Бяроза. Тут, на возеры, выбраўшы зручны бераг для прычалу, пераначавалі, а на другі дзень к поўдню падышлі да ўтоку Сергуча. К вечару дабраліся да месца, дзе варангі паставілі на беразе памятны знак з каменняў. Адсюль трэба было ўжо валачы карабель на катках да першага возера, не злучанага з ракой.

Раніцай высланыя наперад выведчыкі вярнуліся назад і сказалі, што волак больш-менш у парадку. Вымоін мала. Іх яны падсыпалі зямлёй. Выцерабілі маладняк, які ад праезду варангаў паспеў зноў падняцца. Страцім даў загад зняць з карабля каткі, разнесці іх. Падчапілі моцныя ліны і канцы, сталі па вызначаных Трывоем месцах, уляглі ў моцныя лямкі з сырамятных пасаў і пад спеў «Ой, пайшлі, паехалі!» дружна вывалаклі свой карабель на бераг, на роўнае месца. Там падперлі яго падпоркамі і перадыхнулі. Потым падзяліліся на змены і распачалі свой першы волак. Адны цягнулі па катках карабель, другія падтрымлівалі карабель, каб ён не хістаўся і не ўпаў; яны ж мелі пры сабе лёгкія дубовыя падпоры, якія падстаўлялі ў месцах перадыху. Трэція ж перацягвалі і клалі наперад тыя каткі, што засталіся ззаду. Спачатку часта рабілі перадышкі, бо з непрывычкі хутка таміліся. Таму сталі мяняцца работай.

Дужыя і багатыя на людзей варангі так добра пра-клалі волак, што, як яго ні размывалі дажджы, як ні аднаўляўся малады лес, волак увогуле быў у парадку. Высланым наперад даведчыкам заставалася не так ужо і многа работы. Куды цяжэй было ісці ў лямцы або цягаць гладкія сасновыя круглякі, хаця яны і доб-ра высахлі з мінулага лета.

Пакуль увыклі, усім было цяжка. А як прайшлі першыя тры дні валачэння, стала ўжо лягчэй. Пасы-паліся вясёлыя жарты, пачулася бадзёрая песня.

На пяты дзень, дасягнуўшы возера Плавія, спусці-лі на яго «Тодара Страцілата», а праз палову дня пры-сталі ў тым месцы возера, адкуль пачынаўся новы волак — да возера Бярэшча. Узніклі нават спрэчкі, ці варта было на такі кароткі час спускаць карабель на ваду, а потым зноў выцягваць на бераг. Куды лягчэй было б абмінуць возера Плавія і адразу валачы кара-бель к возеру Бярэшча. Але Страцім спыніў гэтыя спрэчкі:

— Варангі — народ бывалы, лішняй работы на сябе не возьмуць. Іх даведчыкі выявілі, што абысці азёры цяжка: берагі іх забалочаны і да таго зараслі лазня-ком, што лягчэйшай дарогі, чым праз возера, знайсці нельга.

Волак заняў у страцімаўцаў цэлых дванаццаць дзён. Затое як усе ўзрадаваліся, калі ўбачылі шыро-кую Вулу, калі спусцілі на яе карабель.

На ўсім працягу волаку не было аселішчаў. Не раз сюды з прылягаючай пушчы выходзілі то мядзведзі, то ласі. Выскоквалі казулі — яны на момант затрым-ліваліся, здзіўленыя гэтымі гаманлівымі двухногімі істотамі, што цэлым натоўпам перасоўвалі нейкую гару, потым пужліва ўцякалі глыбей у родны лес. Ва-люх не ўпускаў выпадку і здабываў на харч звярынае і птушынае мяса. Кожны дзень, адлучыўшыся, ён клаў са свайго лука дзіка ці казулю, забіваў па некалькі глушцоў і цецерукоў. Аднойчы пакарміў усіх маладой ласяцінай. А ля Бярэшчы ўпаляваў малога зубра.

Пасля начлегу, добра адпачнуўшы, кранулія па Вуле. Вада ў ёй была быстрая. Вецер спрыяў. І яшчэ да поўдня яны прыйшлі ў вялікае аселішча Лепль. Людзей тут жыло столькі, што пужацца ім не было патрэбы. Да таго ж ветрылы на караблі былі не чыр-

воныя, як у варангаў, а сінія. Значыць, прыбывалі не ворагі. А як карабель прыстаў к берагу ды на ім пабачылі людзей у сваёй, славянскай вопратцы, як пачулі з іх вуснаў родную мову, то народ пабег да «Тодара Страцілата». Калі Страцім з Воўкам сышлі на бераг, адусюль пасыпаліся пытанні:

— Братэ, хто есце? Скуль і куды плывеце?

Страцім адказаў:

— Есь мы — дрыгвічы, з Бярозы-ракі, што ў Дняпро цячэ! Едземо во Полацеск-град.

Страцім папрасіў правесці яго да прабацькі роду. Адзін з мужчын павёў яго да гарадзішча, што высілася на высокім узгор'і. Насустрач ім выйшаў сівы стары, а з ім трое сталых мужчын. Праваднік, што вёў Страціма, сказаў старому:

— Ось — падарожныя з Бярозы, з дрыгавіцкай зямлі... Едуць у Полацеск.

Страцім прывітаў старога, сказаў, што едуць яны з таварамі на торг у Полацак, прасіў даць павадыра па невядомай рэчцы і спажыўнога на дарогу — за аддзяку, вядома.

Страцім развязаў свой клунак і дастаў адтуль прыгожы арабскі пояс з рознакаляровага шоўку; падаючы яго лепльскаму прабацьку, сказаў:

— Прымі ад нас у дар, паважаны, вось гэты пояс і дапамажы нам у нялёгкім падарожжы!

Дар быў прыняты. Кіраўнік роду тут жа аддаў загад аднаму з прысутных мужчын, каб той паклікаў свайго сына, які добра ведаў раку і не раз хадзіў па ёй на торг у Полацак. Другому ж сказаў, каб на дрыгавіцкі карабель прынеслі ўсялякага спажыўнога. Потым пачаў распытваць у Страціма, як трымаліся ў іх на Бярозе дружыннікі Рыгвальда, сказаў, што мае весткі з Полацака, нібы тамтэйшае веча для абароны места і полацкай зямлі хоча запрасіць да сябе на службу Рыгвальда з дружынай, бо гэта самая сумленная з варангскіх дружын, што праходзілі Дзвіной «да грэкаў». Страцім адказаў, што ў дрыгавічоў пра гэту дружыну самыя добрыя ўспаміны.

Ветліва адвітаўшыся, Страцім вярнуўся на свой карабель.

Тым часам на бераг лепльцы пачалі выносіць усялякае спажыўное. Страцім захапіў з сабой жаночыя

аздобы, стужкі і тут жа мяняў іх на мяса, рыбу, сыр, масла, тварог, малако і перапечкі. Малако і тварог аддавалі прыезджым з посудам. Усяго спажыўнога было набыта столькі, што павінна было хапіць аж да Дзвіны.

Надышоў хутка і праваднік — малады прыгожы мужчына, прозвішчам Увей. Раку ён ведаў добра і браўся правесці да аселішча Вула, якое месцілася ля ўтоку гэтай ракі ў Дзвіну. Страцім папрасіў яго сабрацца ў дарогу і на золаку з'явіцца да «Тодара Страцілата».

Увей прыйшоў у час. Яго човен, на якім ён збіраўся плыць назад, на вяроўцы пачапілі за стырном карабля. Узняўшы вятрылы, адплылі. «Тодар Страцілат» ляцеў цяпер стралой, бо яго падганяў вецер і быстрая рачная плынь. К поўдню ўжо падышлі да палачанскага аселішча Чашнікаў, затрымаліся там, каб зварыць набытую ў рыбакоў рыбу, і, паабедаўшы, паплылі далей. К ночы, дзякуючы ветру, былі ў Вуле. Увей увесь гэты дзень прастаяў ля стырнавога, паказваючы, якім месцам ракі ісці, каб абмінуць намелі і падводныя камені.

З дапамогай Увея раніцай запасліся ў Вуле свежым спажыўным. Страцім шчодра аддзячыў праваднікa: самому Увею даў грэцкі залаты солід, а для яго жонкі — адрэз пурпуру на гарсэтку. Затым на вачах вулаўцаў, што сабраліся на беразе, «Тодар Страцілат» плаўна і прыгожа выйшаў у Дзвіну.

Доўга яшчэ вулаўцы стаялі натоўпам ды слухалі Увея, які апавядаў пра шчодрага дрыгавіча, пра яго ветлівасць, смеласць і розум. Яму не раўня купцы-грабежнікі з варангаў — з тымі трэба заўсёды быць асцярожна.

А дрыгавіцкі карабель тым часам імчаўся па хвалях магутнай Дзвіны.

К вечару паказаўся Полацак. Туды хацелі з'явіцца раніцай. Таму выбралі ля левага берага добрую затоку і сталі ў ёй на нач. Зварылі ля вогнішча вячэру і пад аховай расстаўленых Воўкам вартавых добра адпачылі. А на золаку, прыбраўшы карабель, паднялі вятрылы і паплылі к месту.

І вось на высокім левым беразе раскінуўся славуты Полацак. Дубовы тын акружаў прасторнае гара-

дзішча. Ад Дзвіны высіліся чатыры вежы з вострымі вярхамі. У іх празорах віднеліся зоркія вартавыя.

Агінаючы гарадзішча, карабель Страціма спрытна ўвайшоў у Палату. Вачам дрыгавічоў адкрыліся дзве вежы, а паміж імі — шырокія, акаваныя жалезам дубовыя вароты. Праз роў да іх вёў мост, па якому ішлі пешаходы, ехалі коннікі. Усё ўзбярэжжа Палаты было застаўлена чаўнамі, чайкамі, дашчанікамі, суднамі са спушчанымі вятрыламі.

Выбіраючы мясціну, куды выгодней было б прыстаць, «Тодар Страцілат», нібы красуючыся сабой, прыгожа і спрытна рассек воды Палаты, прайшоў уздоўж усяго Полацака і тым самым звярнуў на сябе агульную ўвагу. Тут прывыклі бачыць варангскія ладдзі з чырвонымі вятрыламі. Гэты ж карабель не меў пераду, не быў аздоблены страшыдламі з разяўленымі пашчамі ці дзюбамі. Пад пярэднім трохкутным вятрылам тут узносілася над вадой пагруддзе нейкага дзіўна апранутага чалавека. І, галоўнае, карабель нёс сінія вятрылы.

Дзіўным для палачан было тое, што па баках карабля не чырванелі радамі шчыты, за якімі звыкла вырысоўваліся шаломы ўзброеных чужынцаў-варангаў. На караблі стаялі людзі, падобныя да палачан. І ніводзін з іх не быў узброены.

— Скуль гэта дзіва? Што на гэтым караблі за людзі? — пыталіся ўсе, хто поўніў надбярэжжа Палаты або быў на бліжэйшых суднах.

Павярнуўшыся да берага, падарожнікі пачалі спускаць сінія вятрылы. Карабель шчыльна падышоў бокам да ўзмосця. Двое вадаходаў саскочылі на прыстанішча і, закінуўшы вяроўкі на набітыя ў бераг палі, замацавалі «Тодара Страцілата» на вольным месцы.

Прыход карабля прыкмеціў адзін з памочнікаў полацкага пасадніка. Неўзабаве ён спусціўся з узгор'я да «Тодара Страцілата» і стаў шукаць вачыма, хто ж тут з прыезджых гаспадар.

Страцім пайшоў яму насустрач.

— Вітаю вас, калі не мыляюся, братэ, ад імя пасадніка з прыбыццём у Полацеск! Скуль прыплылі, з якім таварам? — спытаўся ўпаўнаважаны.

Страцім пацвердзіў, што ён з братняй дрыгавіцкай

зямлі, з Бярозы, па ёй і Вуле з'явіліся ў Полацак, прывезлі розны замежны тавар. Цяпер яны жадаюць уведаць парадкі тутэйшага торгу, а таксама, колькі трэба плаціць за месца на ім, каб лепш паказаць тавар пакупцам і меншчыкам.

Выслухаўшы Страціма, памочнік пасадніка яшчэ раз, цяпер за руку, прывеціў госця і адказаў на ўсе яго запытанні.

Заадно Страцім даведаўся, што дом пасадніка стаіць у гарадзішчы. Там таксама месцяцца дамы іншых імянітых купцоў Полацака. Там жа знаходзіцца і малішча са стодам Перуна і ахвярнікам. Для кляцьбы ж пры заключэнні гандлёвых умоў ёсць Пярун і блізу торгу.

Захапіўшы для пасадніка адрэз парчы на кафтан, Страцім скіраваўся ў гарадзішча. Праходзячы праз торг, ён убачыў, што пачалі ўжо запаўняцца рады рамеснікаў. Мінаючы мост перад брамай гарадзішча, заўважыў, што шырокі і глыбокі роў апаясвае дубовы тын гарадзішча — відаць, Полацак адчуваў большую патрэбу берагчыся ад нападаў, чым Смаленскі горад або Тураўград. Варангі прывучылі палачан да ўсялякіх неспадзяванак.

Такія ж думкі прыйшлі Страціму ў галаву, калі ў гарадзішчы ён пабачыў жытло купцоў, а побач з імі — грунтоўна збудаваныя склады тавараў. У Тураве яны былі не ў самім умацаванні, а паблізу гарадзішча.

Пасадніцкі дом і два вялікія склады пры ім выразна сведчылі, што абраннік імянітага купецтва быў адначасна і самым заможным сярод гэтага заможнага купецтва. Страцім узышоў на высокі ганак (клецъ у чатыры вянцы ўзнімала ўсё жытло вышэй ад другіх) і, пабачыўшы малаток, што вісеў на сыраматным паўразку ля акаваных дзвярэй, пастукаў ім па жалезу, упраўленаму ў вушак. У сенцах пачуўся хлапечы голас:

— Хто?

— Прыезджы, па справе да пасадніка!

Хлопец адсунуў засаўку і ўпусціў Страціма.

— Ідзі за мной! — сказаў ён.

Увайшлі ў прасторны пакой. І хаця ў ім былі толькі два невялікія аконцы, святло спорна выціскала

змрок. Страцім беглым вокам заўважыў шырокія лавы, пакрытыя кілімамі, столік з точанымі ножкамі, а на ім медзяны падсвечнік з недагарэлай свечкай. У куце ля парога стаяла чыстая, доўбленая з асіны ваза з вадой, з прыгнаным да яе такім жа векам, на якім стаяў берасцяны кубачак.

— Зара выйдзе... Сядай! — сказаў хлопец. І праўда, неўзабаве праз тыя ж дзверы, у якіх схаваўся хлопец, выйшаў прысадзісты сівы ўжо мужчына, ветліва адказаў Страціму на яго прывітанне.

Страцім коратка расказаў яму пра сябе, пра тое, з якім таварам ён прыехаў. Папрасіў пасадніка парады, калі яму лепш выйсці на рад і што ён можа тут купіць за грошы. Пры гэтым ён разгарнуў хустку з багатай парчой і, паклаўшы на стол, прасіў пасадніка прыняць яе ў дар ад дрыгавічоў. Па вачах пасадніка было відаць, што дар ён успрыняў з вялікай прыемнасцю. Бяседа далей пайшла дружалюбна. Пасаднік абяцаў Страціму ўсялякую дапамогу.

Падзякаваўшы за абяцаную дапамогу і дадзеныя парады, Страцім скіраваўся ў рады. Цікавага там было мала — тыя ж, што і ўсюды, што і на менскім торгу, ганчарныя вырабы, простыя вырабы з жалеза і дрэва, даматканкі. Заглянуўшы ў рад, дзе сядзелі са спажыўным, Страцім угаварыў жанчын з малочным і з ягадамі, паляўнічага з цецерукамі і рыбака з сомам, каб яны падышлі з ім да стаянкі «Тодара Стратілата». Рыбака і паляўнічага ён аплаціў срэбрам, жанчын — каго масянжовымі аздобамі, каго пацеркамі і стужкамі.

Пасля сняданку на карабель з'явіўся сам пасаднік. Ён папрасіў паказаць грэцкія тавары і, азнаёміўшыся з імі, выбраў тое, што яго цікавіла. Прытым зазначыў, што гатоў аплаціць усё гэта грашыма. Страцім пайшоў яму насустрач, не дужа гнаўся за цаной. Торг кончылі хутка. Паколькі Страцім не быў знаёмы са свейскім срэбрам, пасаднік сам параіў яму прыкінуць гэта срэбра на вагу для параўнання з грэцкім. Дрыгавіч дастаў вагі і, паклаўшы срэбра пасадніка на адну чашу, ураўнаважыў яго грэцкім срэбрам. Пералічыўшы ўсё, ён выразна пабачыў, што плата яго задавальняе. Запакаваўшы набытыя пасаднікам тавары, Страцім адаслаў іх са сваімі людзьмі.

Пазней з'явіліся іншыя купцы. Яны ссылаліся на ўведамленне пасадніка, прасілі паказаць прывоз. Страцім даведаўся, што двое з іх збіраюцца з грэцкімі таварамі паехаць у літоўскую зямлю і да латаў. Яны выбралі сабе пераважна больш танныя вырабы і расплаціліся таксама чужаземным срэбрам. Але гэта было старое срэбра: у ім траплялiся рымскія грошы. Зноў прыйшлося прыкінуць на вагах, ці выгадны быў разлік. Страцім паказаў абодвум вырабы з ляшскага мосянжу. Купец, што ездзіў да літоўцаў, засведчыў, што такія вырабы там пашыраны. Відаць, паляне з Гнезна ўжо наязджалі са сваімі вырабамі да літоўцаў. Той жа купец, што наведваў латаў, наадварот, ахвоча забраў у Страціма гэты тавар. Яму ж спадабаліся і тураўскія тканіны, тураўскія вырабы з жалеза.

Калі Страцім кончыў разлікі з вандроўнымі купцамі, у яго ўжо амаль не засталося тавараў...

## Прысяга

З цяжкім сэрцам падыходзіў Страцім да доміка, дзе кватаравалі бацькі Тэафіліі. Ён сумысна сабраўся туды пад канец дня, бо хацеў застаць разам бацьку з маці нябожчыцы і абодвух яе братоў.

На стук дзверы адчыніў малодшы з братоў, Пётра, які адчуваў асаблівую прыязнасць да свайго швагра.

— О-о-о-! Страто! Які дарагі госць! — радасна ўсклікнуў ён, убачыўшы дрыгавіча. Абняў яго і горача расцалаваўся.— Ну, ідзём хутчэй да нашых!

— Пятро, вашы ўсе дома? — спытаў Страцім.

— Усе... А што?

— Ёсць прычына, па якой я хацеў бы перш пабачыцца з татам...

— Матуля якраз занята гаспадаркай... Тады пройдзем адразу да таты. Туды ж паклічу і Паўла,— адказаў Пётра. І па яго твару лёгка было заўважыць, што словы Страціма ўсхвалявалі хлопца.

Яны прайшлі праз два пакоі і трапілі ў пакой Страцімавага цесця, які якраз быў заняты паперамі патрыярхата.

— Тата, у нас доўгачаканы Страто!

Цесця гэта паведамленне адразу адарвала ад спраў.

Ён ускочыў з месца, жвава выйшаў з-за стала, абняў Страціма і расцалаваў яго:

— Чакалі, чакалі цябе! І вельмі рады бачыць!

Тым часам Пётра выйшаў і хутка вярнуўся з Паўлам.

— Відаць, прыехаў адзін? Без Тэі? — пытаўся цесць.

— Адзін...

Павел таксама сардэчна прывітаўся са шваграм.

— Сядайце! Што ж стаімо?! — сказаў усім бацька.— Ну, як здаровы Тэа, дзеці?

— Хваліць бога, здаровы. Іх ужо трое: прыбыла дачушка. А вось Тэа...— Страцім раптоўна змоўк. Спазма вострага жалю сціснула яму горла, вочы заплылі слязьмі. Ужо шэптам ён дадаў:

— Тэа... памерла...

Гэта нечаканая вестка адразу нібы паралізавала мяккія натуры бацькі Тэі і яе малодшага брата. Адзін толькі Павел, хвіліну памаўчаўшы, са сціснутымі зубамі, каб авалодаць сабою, здолеў спытаць у Страціма:

— Як жа гэта сталася?

— Пасля нараджэння дачкі... Ад родавай гарачкі...— перасільваючы сябе, адказаў Страцім.— Я хацеў перш пабачыць вас без матулі, бо баюся, што гэта вестка без падрыхтоўкі будзе для яе невыноснай. Я ж ведаю, як яна яе кахае...

— А мы?! — усклікнуў Павел.— Хіба мы менш кахаем сястру? Тата, як табе гэта ні цяжка, падрыхтуй маму да весткі аб гібелі Тэі! — звярнуўся Павел да бацькі, які сядзеў здранцвелы, прыціснуты горкай весткай. Праз хвіліну цесць устаў, хістаючыся, выйшаў.

— Вось што значыць выправіцца ў дзікую краіну! — перапыніў маўчанне Павел.— Будзь яна тут, дактары выратавалі б яе.

Страцім успомніў пра развітальны ліст Тэі і, дастаўшы яго, падаў Паўлу. Той узяў яго, глянуў на подпіс сястры і прачытаў ліст уголас. Пётра апусціў галаву, а з яго вачэй бырзнулі слёзы.

— Рука самога ліста — не сястры! — сказаў Павел.

— Пісаў я пад яе падказ. Калі ёй на момант стала

лягчэй, яна адвіталася з дзецьмі, блаславіла іх і папрасіла мяне пісаць. Уласнай слабай рукой яна падпісала ліст,— растлумачыў швагрАм Страцім.

У суседнім пакоі пачуліся паспешныя крокі. Увайшла служанка.

— Тата просіць памагчы яму: з мамай дрэнна — яна ляжыць у непрытомнасці.

Усе ўскочылі і кінуліся да дзвярэй. Павел затрымаў Страціма:

— Астанься пакуль што тут: як прыйдзе ў сябе, ёй будзе цяжка бачыць цябе.

Браты выйшлі. Страцім жа падышоў да акна, якое выходзіла ў садок. Усё тут напаміналА яму пра Тэю: дарожка, што вяла ў альтанку, дзе столькі разоў шчасліва сядзелі яны ўдваіх, дрэўцы, поўныя для Страціма значэння.

І ўспаміны зараіліся ў яго памяці. Выразна ўстаў мілы вобраз Тэі, пачуўся незабыўны яе голас...

Ён ачнуўся, калі ўвайшоў Пётра і сказаў:

— Страто! Мама ўжо сабралася з сіламі, хоча цябе бачыць!

Яны прайшлі ў сыпяльню, дзе на сваім ложку ляжала цешча. З вачыма, поўнымі слёз, яна моўчкі працягнула Страціму руку, нібы клічучы яго падысці бліжэй.

Страцім наблізіўся да пасцелі, павольна прыняў на сваю далонь гэту слабую ад узрушэння руку і, стаўшы на калена, пацалаваў яе.

Яна слабым голасам спытала:

— Дзеткі вашы здаровы?

— Так, матуля!

Следам за Тэяй Страцім навык яе бацьку і маці зваць так, як звала яна.

— Якое ж вы імя далі народжанай?

— Тэафілія! Яна ўся ў матку.

— Я разумею, што табе нельга было цяпер прыехаць з малымі, але як мне хацелася б іх пабачыць... у такую хвіліну!

— Быць можа, у свой наступны прыезд я вазьму іх! А пакуль што... Наша разьбярка вылепіла галоўкі Богадарыка, Страцііміка і Тэячкі, і я прывёз іх з сабой, пакажу вам іх! Падабенства надзвычайнае!

— Пакажы, Страто, абавязкова! — папрасіла цешча. Страцім абяцаў гэта зрабіць зараз жа.

— Ізыдар! — сказала яна мужу.— Заўтра пагавары з духавенствам сабора святых апосталаў і закажы задушную службу па Тэі! Усе мы разам са Страто памолімся за яе душаньку... Заадно закажы, каб памаліліся за здароўе нашых унукаў і ўнучкі! Ну, а цяпер пакіньце нас адно ўдваіх з бацькам!

Страцім пяшчотна пацалаваў на адвітанне руку цешчы і выйшаў услед за братамі.

* * *

І вось у саборы святых апосталаў скончылася задушная імша, на якую сабраліся ўсе сваякі і блізкія сям'і патрыяршага сакратара. Жалобнае набажэнства, царкоўныя спевы, прыгожа выкананыя патрыяршым хорам, чорныя вопраткі прысутных — усё гэта паўплывала на Страціма, які, стоячы побач з бацькамі нябожчыцы, адчуваў шчымлівы боль па сваёй страце. Душа яго была поўна ўспамінаў. У памяці паўставаў момант, калі якраз тут, у гэтай царкве, яго вянчалі з Тэафіліяй,— і гора яшчэ вастрэй абвалодвала ім. Ён старанна пачынаў хрысціцца, але вусны яго не шапталі ніякіх малітваў, хаця некаторыя з іх ён і помніў.

Па сканчэнні імшы да Страціма падышоў Павел і адвёў яго ўбок. Яны апынуліся ў бязлюдным месцы. Павел стаў нешта вымагаць. А Страцім ніяк не мог зразумець, чаго той ад яго патрабуе. Павел жа настойліва паўтараў:

— Выбачай мне, але я чакаю, што ты, каб супакоіць мае сумненні, паклянешся перад абразам Спаса, што смерць Тэі адбылася дакладна так, як ты расказаў.

— Я цябе, Павел, не разумею. Чаго ты, уласна, хочаш?.. Ну так, менавіта так усё і было!

Павел паўтарыў патрабаванне. Вочы яго блішчэлі, у іх з'явіўся агеньчык злосці. Страцім нарэшце зразумеў усё.

— Ага! Вось што! Ты больш не верыш у праўдзівасць маіх слоў? Ты хочаш ад мяне прысягі? Так? Што ж, добра! Я задаволю цябе! — Страцім крута павярнуўся ад швагра і скіраваўся адзін дамоў, туды, дзе

ўжо паставілі задушны стол, дзе сабраліся цяпер усе, хто слухаў імшу.

Страцім увайшоў з горда ўзнятай галавой, поўны рашучасці. Выйшаўшы на сярэдзіну пакоя, ён затрымаўся, перахрысціўся і, узняўшы два пальцы правай рукі, зычным голасам вымавіў кляцьбу-прысягу:

— Вось тут, дзе я атрымаў благаславенне на сваё шчаснае жыццё з Тэафіліяй, клянуся і прысягаю, што прычынай смерці яе была тая хвароба, пра якую я паведаміў яе родным, а ніякая іншая прычына! Хай пакарае мяне ўсявышні, калі я ўтаіў што або сказаў няпраўду!

Павел, які спярша падумаў, што Страцім проста ўхіліўся ад кляцьбы і таму пакінуў яго, пачуўшы Страціма, быў збянтэжаны і пастараўся непрыкметна далучыцца да радні. Бацькі ж і Пётра, нічога не ведаючы аб вымаганнях Паўла, былі, як і ўсе прысутныя, у вялікім засмучэнні і здзіўленні. Усе ж ведалі Страціма як чалавека сумленнага.

Страцім жа, вымавіўшы нязвычную прысягу, вярнуўся на сваё месца і стаяў, поўны абурэння на таго, хто так груба выказаў яму свой недавер.

Духавенства таксама было здзіўлена тым, што адбылося. Протаіерэй падышоў да бацькоў Тэі, пытаючыся, ці пачынаць задушкі, на што, вядома, атрымаў згоду.

Пакуль ішло памінанне, Страцім усё яшчэ не мог знайсці апраўдання ўчынку Паўла. Праўда, яму даводзілася і раней чуць з вуснаў Паўла думкі, што людзям нельга верыць, што яны звыкла кіруюцца толькі ўласнымі інтарэсамі, што чалавек здольны на самую бязлітасную расправу з тым, хто стаіць яму на дарозе.

Але як можна было ўсё гэта звязаць з ім, Страцімам, якога так сардэчна, так даверліва прынялі тут у сваю сям'ю. Здавалася б, усе ўжо маглі пазнаць, ці здатны ён, Страцім, на нешта такое. Значыцца, Павел, а можа, і іншыя дапускаюць думку, што Страцім мог іх ашукаць... Звесці са свету Тэафілію.

Здранцвелы ад усяго гэтага, поўны абурэння, Страцім прастаяў усю паніхіду і нават не заўважыў, як па яго руцэ паплыла памінальная свечка.

Потым, калі паніхіда скончылася і ўсе збіраліся сесці за памінальны стол, да Страціма падышоў Гіпа-

літ. Мастак спрыязліва папытаўся, чым вытлумачыць яго выступ. Даведаўшыся ж пра дамаганні Паўла, абурыўся яго ўчынкам.

— Але і табе, дружа, не трэба было рабіць таго, што выйшла. На ўсіх гэта зрабіла нядобрае ўражанне... Добра, што цябе многія ведаюць з найлепшага боку. А то старонція людзі маглі б падумаць немаведама што.

Калі мужчыны ўжо асушылі першую і другую чару, Страцім устаў і сказаў:

— Хай даруюць мне тата і Пётра, але я мушу вытлумачыць свой нечаканы ўчынак. Павел, відаць, поўны недаверу да мяне, не-рамея, чужынца з «дзікай», як ён сказаў заўчора, краіны, захацеў праверыць праўдзівасць маіх слоў. Ён патрабаваў, каб я сцвердзіў іх клятвою. Спачатку я нават не зразумеў яго. А потым, калі ўпэўніўся ў яго намеры, захацеў перад усімі прынесці сваю прысягу, бо хто ведае, што думаюць пра барбара-славяніна іншыя... тутэйшыя людзі. Мо хоць прысяга пацвердзіць тое, у што не паверыў родны брат нябожчыцы...

Павел сядзеў насуплены, не глядзеў ні на кога... І нечакана сцішана падаў словы:

— Ёсць людзі, якія і прысягай пакрываюць няпраўду!

Кроў ударыла ў твар Страціма. Ад гневу і абурэння ён гатовы быў кінуцца на Паўла, але стрымаў сябе і з годнасцю адказаў:

— Тут, у Рамеі, можа, так і бывае, а мы, славяне, барбары, і без прысягі верым людзям на слова, нават калі іх яшчэ добра не ведаем.

Тады ўстаў бацька Тэафіліі:

— Мы ведаем, што наш Павел хварэе недаверам да людзей. І ўсё ж яго ўчынак мяне таксама здзівіў... Страто мы добра спазналі як чалавека выключнага розуму, сэрца. Ён заслужыў, каб стацца нам блізкім, быць шчаслівым з нашай светлай памяці Тэяй. Я разумею, што Страто такі ўчынак Паўла пакрыўдзіў глыбока, і таму прашу, Страто, прабачыць усіх нас.

Калі бацька скончыў, Пётра падышоў да Страціма, абняў яго і пацалаваў са словамі:

— Мне сорамна за брата. І таму таксама прашу цябе прабачыць нам!

Прысутныя ўсяляк стараліся размовамі і ўважлівасцю развеяць цяжкія думкі Страціма.

* * *

Славянскага госця пакінулі начаваць у доме цесця. На другі дзень Павел зайшоў да яго і папрасіў выслухаць:

— Перадсмяротны ліст Тэі збіў мяне з панталыку. Я думаў: як магло стацца, што сястра, пакідаючы жыццё, знаходзячыся ў гарачцы, у непрытомнасці, змагла прадыктаваць такі ліст. Тое, што пісаў яго ты, што Тэя падпісала яго няцвёрдай рукой, мне, працаўніку судовага следства, здалося падазроным і збіла на фальшывы шлях... Следчым ухілам маёй службовай дзейнасці тлумачыцца думка: а ці так гэта ўсё было, як ты расказаў? Можа, ліст напісаны, каб ім прыкрыць нешта іншае...

— Хіба маглі быць нейкія іншыя адносіны паміж людзьмі, якія былі так шчаслівы, якія так аддана кахалі адзін другога?! Навошта ж ты нават да такіх людзей падыходзіш з меркай следчага?

— Так, так, Страто! Боль ад страты сястры, слепата следчага, які ўсюды гатовы бачыць адны злоўжыванні... І ты, і бацька, і матуля, і брат — усе вы маеце поўнае права асудзіць мяне за мой учынак... Усё гэта мне паслужыць навукай, каб уважна падыходзіць нават да тых, каго ўжо людзі гатовы лічыць злачынцам... Мусіць, цяжка табе прабачыць мне такую крыўду. І ўсё ж — дай мне магчымасць з часам заслужыць тваё выбачэнне.

## Рамейскія ўцехі

Развітаўшыся з Аль-Зэнгры, які па сваёй старасці і недамаганнях больш наязджаць у Царград не збіраўся, Страцім правёў багатыя закупкі рамейскіх тавараў у царградскіх купцоў. Адзін з іх, Аркадзь Самос, у якога Страцім набыў найбольш патрэбны яму тавар — жаночыя аздобы высокай якасці са срэбра і золата, запрасіў яго да сябе ў госці.

— У мяне збяруцца людзі нашага ўзросту — нежанатыя або вольныя ад сем'яў. Табе будуць карысны такія

знаёмствы... Вып'ем добрага віна, закусім, павесялімся. Хачу бачыць цябе, Страціё, сваім госцем. Прыходзь пад вечар, абавязкова! Будзеш?

Аркадзь Самос быў чалавекам справы, і Страцім даў слова ў яго быць.

У дамоўлены час, апрануўшыся як належыць, Страцім з'явіўся да Самоса. Той меў багаты дом з вялікім садам. Госці не прымусілі сябе чакаць, і гаспадар ледзь паспяваў знаёміць тых, якія яшчэ не былі вядомы Страціму.

Знаёмячы іх з дрыгавічом, Аркадзь называў іх прозвішчы, адзначаў занятак кожнага. Дадаваў пры гэтым пра Страціма:

— Гэта наш першы і найбагацейшы пакупец з далёкай Падняпроўскай Славіі. Прывозіць стуль найлепшую сыравіну. З галавой і сумленнем. З ім лёгка і прыемна мець справу. Заслугоўвае поўнага даверу... Згаварыся, калі ён наведае цябе, адпусці найлепшае, можаш частку даць у доўг... Магу за яго паручыцца!

Госці гуртаваліся ў садзе блізу дома, ахвоча вялі размовы з дрыгавічом, спаміж сабой.

На верандзе, што прымыкала да саду, тым часам былі накрыты сталы, застаўленыя пітвом і закускамі. З'явіліся музыкі і спевакі, адна з лепшых капэлаў Царграда. І гоман гасцей быў перакрыты музычнымі гукамі.

Гаспадар і яшчэ двое з маладых купцоў перакідваліся словамі, з якіх Страціму стала зразумела, што кагосьці чакаюць. І праўда, праз некаторы час Аркадзь Самос паказаўся на верандзе з пачэсным госцем, прывітаць якога пацягнуліся ўсе прысутныя. Паклікаўшы да сябе Страціма, Аркадзь Самос сказаў яму:

— Перад табой наш паважаны апякун, сакратар-законнік гіпарха Царграда Барталамей Андрос. Карыстаюся выпадкам, каб папрасіць яго мосць аднавіць табе былыя прывілеі — як першаму купцу з Падняпроўскай Славіі, што пазнаў свет веры хрыстовай і пашырае ўплыў нашай дзяржавы і царквы на паганскім яшчэ Паўночным Усходзе.

Андрос ветліва павітаўся са Страцімам:

— Што ж, я гатовы памагчы вам. Наведайце мяне днём у кансісторыі гіпарха, захапіўшы належныя дакументы... Я, бадай, змагу выстарацца для вас асобны

эдыкт самога імператара! Гэта будзе крыху каштаваць, але акупіцца ў сто разоў. Заходзьце: гіпарху якраз днямі давядзецца наведаць базілеўса Міхаіла. Заадно базілеўс падпіша і вашу паперу.

Страцім падзякаваў і сказаў, што праз дзень наведае сакратара гіпарха.

Мілагучны звон сабраў неўзабаве ўсіх гасцей на веранду. Усе ўсеrange на крэслы.

Самос пасадзіў Страціма паміж сабой і Андросам.

Раздаліся галасы:

— Гэта ж столькі пустых месц! Не надышлі? Спазніліся?

Самос адказаў:

— Ужо прыйшлі... Чакаюць выкліку!

— А-а-а! — здагадліва і весела пранеслася за сталамі.

— Кліч! — загадаў Самос свайму служку.

Той знік. А праз хвілю на веранду вясёлай грамадой высыпалі маладыя жанчыны, пышна прыбраныя, з кветкамі ў валасах і ў руках. Паветра напоўнілася пахам руж і іншых раслін.

Іх сустрэлі вясёлыя ўсклікі гасцей, якія зараз жа пачалі перасаджвацца, заклікаючы прыбылых жанчын. Самос паспеў крыкнуць:

— Вось нашы сірыйскія і егіпецкія танцоркі, што цешаць нас на гіпадроме... Сёння яны вольныя, і мы паклікалі іх аздобіць нашу вечарыну!

Страцім з цікавасцю сачыў за артысткамі. Вось сакратар гіпарха ўхапіў за руку адну з самых маладых. Да Самоса ж падышла кіраўніца сірыянак, і ён, відаць, добра яе ведаючы, ветліва пасадзіў злева ад сябе. А да Страціма ён скіраваў першую сярод егіпцянак — тонкую станам смуглянку, усю ў пярсцёнках, маністах, нарукаўных бранзалетах і з завушніцамі, у якіх ззялі ўпраўленыя камені.

— Табе, Страціё, сватаю Тэціс, красу і гордасць Александрыі! Будзь для яе цікавым залётнікам, цярплівым у размовах, бо гаворка ў яе не чыста грэцкая. Затое не пашкадуеш потым!

Калі расселіся, адзін з гасцей заўважыў Самосу:

— Бачым, Аркадзь, што ў ліку ты не памыліўся: ніхто не застаўся пакрыўджаны!

За Самоса адказаў Барталамей Андрос:

— І прытым Аркадзь дбаў і аб якасці. Што значыць практыка добрага купца!

Гаспадар самазадаволена адказаў:

— Што ж, вельмі рады, што выбарам унаравіў кожнаму! Дазвольце мне ўзняць першую нашу чару!

Ён устаў з месца і пачаў:

— Як добрыя грамадзяне Вялікай Рамеі наш першы ўспамін скіроўваем да таго, хто божай воляй кіруе дзяржавай нашай. П'ём здароўе, даўгалеццe і поспехі базілеўса Міхаіла!

Усе таксама ўзняліся з месц.

— Эйс погля эці дэспота! — агаласілася веранда.

Танцоркі поўнасцю не выпілі свае, праўда, меншыя памерамі чары. І мужчыны дружна пачалі настойваць. Іншыя вымагалі зрабіць гэта таму, што інакш жанчыны засведчылі б сваю непрыхільнасць да базілеўса.

Віно развязала языкі як мужчынам, так і жанчынам. Вясёлы гоман запанаваў за сталом. Абслугачы клапатліва падлівалі са збаноў віно, абносілі закускі, садавіну, вінаград. Усіх ахапіла нейкая асаблівая ахвота піць і есці.

Страцім таксама пачаў дбаць аб сваёй напарніцы: даглядаў, каб было ў яе чары віно, каб не мінала яе тая ці іншая закуска, накладваў на яе талерку вінаград. Сапраўды трэба было здагадацца, што яна кажа,— такой асаблівай была яе егіпецка-грэцкая мова. Піць асабліва яна не хацела.

— Віно прыемна, калі яно ў меру,— сказала яна Страціму. І той не настойваў. Ёй было цікава дазнацца пра Славію, бо Самос паспеў ёй закінуць пару слоў пра тое, што Страцім прыбыў з краіны, дзе палавіну года — лютыя халады і ідзе снег. Уявіць сабе снег яна ніяк не магла, усё дамагалася, што ж гэта такое.

Калі прыйшло першае насычэнне, Самос паклікаў на веранду музыкаў і спевакоў. Яны цешылі гасцей песнямі і музыкай.

Цемната, як заўсёды ў Царградзе, настала хутка. Слугі запалілі на верандзе лампіёны, а ў садзе загарэліся паходні.

Пасля гарачых страў госці пакінулі сталы, перайшлі ў сад. Некаторыя выразна шукалі месца для ўтулення са сваімі жанчынамі.

Страцім таксама выйшаў з егіпцянкай на адну з да-

рожак і працягваў гаворку. Ён цяпер распытваў пра яе бацькаўшчыну, гады дзяцінства, пра школу, дзе яе вучылі танцам, пра жыццё артыстак. Далікатнасць, стрыманасць дрыгавіча падабаліся Тэціс, і яна пастаралася выказаць яму сваю прыхільнасць:

— Вы не такі, як іншыя! Вы харошы чалавек! Танцорка — гэта ў вачах іншых толькі парыя. Кахаць — салодка, але калі каханне прыходзіць само... Тады яно люба і мужчыне і жанчыне.

Страцім згаджаўся. А яна ажыўлена і даверліва апавядала яму пра сябе. Свае заробкі яна ўкладвае ў вопратку, якую здолее прадаць, калі потым захоча кінуць сваё рамяство.

— Я вярнуся дамоў, маючы дастатак. Знайду чалавека, які не пабрыдзіцца пабрацца са мной. Мець сям'ю, дзяцей — гэта шчасце жанчыны. І гора той, хто забывае пра гэта... Яе чакае пагібель.

Страцім са спачування пагаджаўся і адначасна адчуваў, што ў ёй расло і спачуванне да сябе самой. Ён апавядаў ёй пра сваіх дзяўчат і кабет, якія не ведалі цяжкай долі жанчыны рамейскага поўдня, і егіпцянка радасна ўсклікала:

— О, так, так! Тады ўсе яны шчаслівыя! Лепш простае жыццё, чым бляск чужых багаццяў побач з беднасцю, ад якой так гінуць людзі! Вашы дзяўчаты і жанчыны сапраўды шчаслівыя, тым болей што, відаць, і мужчыны там такія, як вы, Страта!

Калі яны вярнуліся на веранду, Самос, сустрэўшы іх там са сваёй сірыянкай, весела заўважыў:

— Вы, відаць, не нудна бавілі час, раз сталі такімі галубкамі!

Сірыянка ж дадала:

— Як жа Тэціс магла не захапіцца такім прыгожым славянінам!

А Тэціс ёй сказала на гэта:

— О, такія, як Страта, сустракаюцца рэдка! Хай даруе мне бог, але ён анёл!

Яны ўсе трое жартаўліва рассмяяліся, а сірыянка кінула прыяцельцы:

— Калі так, то ты правяла час у раі!

Пакуль госці туляліся па садзе, на верандзе музыкі выконвалі сваю праграму. Але можна было з пэўнасцю сказаць, што ніхто іх не слухаў, бо цараградскія купцы

карысталіся цемнатой, цешачыся па-свойму. Адзін толькі дзівак дрыгавіч знайшоў сабе пару — такую ж артыстку з Александрыі.

Між тым у доме ішла падрыхтоўка да начнога балю. Дзеля гэтага былі засланы сталы, а замест крэсел прыгатаваны пакрытыя дыванамі лаўкі. На іх госці маглі ляжаць па старадаўнаму рымска-грэцкаму звычаю. Сярэдзіна вялікага пакоя была заслана велізарным дыванам, на якім меліся выступаць артысты.

Калі прыгатаванні былі скончаны, Самос папрасіў артыстак перайсці ў адведзены для іх пакой, дзе яны маглі пераапрануцца для выступленняў перад гасцьмі. Адначасова, пасля іх адыходу, ён запрапанаваў мужчынам перайсці ў другі пакой і таксама падгатавацца да балю.

— Нашы продкі любілі весяліцца, лежачы за сталом... Мы сёння наладзім якраз такі баль... У трыклініуме для нас расстаўлены мяккія лавы, а ў суседнім пакоі для ўсіх прыгатаваны чыстыя шаўковыя тунікі... Прашу кожнага, атрымаўшы ў майго слугі туніку і ўсклаўшы на галаву вянок з кветак, перайсці ў пакой, дзе нас чакае вясёлая ноч.

Госці воклічамі ўхвалілі гэту навіну:

— О, нас чакае атэнская ноч! Маладзец Аркадзь! Ён на гэта майстар!

У сваім часе Страцім чуў пра такія ўвесяленні. Цікавасць прымусіла яго застацца, каб самому пабачыць, што ж такое гэта «атэнская ноч». Ён прайшоў разам з другімі ў мужчынскі пакой. Там усе пакінулі сваю вопратку і, надзеўшы лёгкія тунікі, скіраваліся ў трыклініум.

Самос паказаў кожнаму месца, побач з якім у кожнага было пакінута адно пустое. Страцім, спасылаючыся на жаданне дыхаць свежым паветрам, папрасіў даць яму месца з самага краю, бліжэй да дзвярэй у сад.

— Я разумею — ты любіш кахацца не на людзях! Калі ласка, узляж там! — падміргнуў Самос дрыгавічу.— А для нас куды саладзей грэх на людзях — у гэтым мы аднолькавыя са сваімі продкамі! — засмяяўся ён у дадатак.

Урэшце Самос падаў знак архітрыкліну. Той выйшаў на сярэдзіну пакоя і абвясціў:

— У першай частцы пакажам сірыйскую пантамі-

му «Школа танцорак». Дзве далейшыя часткі займуць танцы сірыянак і егіпцянак.

Архітрыклін падышоў да дзвярэй артыстак і пастукаў. Адтуль на чале з кіраўніцай адна за другой пацягнуліся ланцужком танцоркі, апранутыя нібы вучаніцы. Выйшлі яны на сярэдзіну пакоя і на мігі пачалі паказваць, як адбываецца прыём вучаніц, як яны пры настаўніцы распранаюцца, каб тая магла ацаніць іх постаць. Тут жа ўсе яны пераапрануліся ў кароценькія кашулькі, якія не перашкаджалі іх рухам. Далей дасціпна паказвалася, як нялёгка даецца дзяўчынкам навука танцам, як муштруе ды карае іх па голаму целу настаўніца.

Пакуль ішла пантаміма, абслугачкі напаўнялі чары і абносілі ўсіх вінаградам. Закусь жа была ў розным выбары на сталах.

Танцы ж у большасці былі вельмі непрыстойныя, разлічаныя на ахмялелых людзей. Страцім здзіўляўся іх надуманасцю, намёкамі на ненатуральнае задавальненне чалавечай хоці. Рамея тут ішла на повадзе ў распуснага Усходу.

Егіпецкія танцы былі таксама непрыстойныя. Але тут жанчына выглядала не такой распуснай, як у сірыйскіх. У рухах егіпецкіх танцорак быў след нейкай стрыманасці. І толькі танец Лотаса завяршаўся выразным намёкам на пазбаўленне цнатлівасці.

У меру таго як танцоркі аслабаняліся ад выступленняў, яны далучаліся да сваіх напарнікаў. Апошнія ж, ужо досыць ахмялелыя, паводзілі сябе зусім нястрымана. Страцімава егіпцянка, выканаўшы танец Лотаса, прысела каля дрыгавіча і ціха сказала яму:

— Бачыце, што ад нас трэба ўсім гэтым мужчынам?! Я выконваю гэты танец, перасільваючы сябе... У вас, нябось, няма такіх непрыстойных танцаў?

— Мы жывём і кахаемся так, як гэта вымагае чалавечая натура. Рана пабіраемся, а сышоўшыся ва ўзаемным каханні, задавальняемся скрытна, бо гэта — вянец кахання, самае поўнае злучэнне двух каханкаў, што поўніць іх шчасцем, родніць.

— О, якія шчаслівыя вы! — усклікнула егіпцянка.— А каб забыцца пра сваё цяжкае мастацтва, мне хочацца выпіць!

І яна асушыла дзве чары запар. Ахмялеўшы, зноў скардзілася на свой горкі хлеб.

Разгул між тым усё пасільваўся. Некаторыя госці, зусім ап'янелыя, абымалі сваіх напарніц, бяссорамна пашчыпвалі іх за аголенае цела. А паважаны сакратар і законнік гіпарха падмінаў пад сябе маладзенькую танцорку.

Страціму стала агідна, і ён спытаў егіпцянку:

— Калі ты ўжо насыцілася, выйдам лепш у сад!

Яна згадзілася, і яны, непрыкмечаныя, пакінулі пакой.

Абапіраючыся на руку Страціма і галубячыся да яго, Тэціс ішла за ім усё далей па дарожцы. Яны ўсё больш аддаляліся ад дома, урэшце трапілі да альтанкі.

Там яны знайшлі лаву. І тут Тэціс зусім нечакана села Страціму на калені, абняла яго за шыю рукамі і зашаптала:

— Ты такі слаўны, мілы, што я хачу цябе! Такога я б кахала да смерці... І гэта было б маім бязмерным шчасцем... Я ўся твая: бяры мяне, я жадаю цябе, як жадала свайго нарачонага!

Яе пал захапіў і дрыгавіча. Асцярожна паклаў ён Тэціс на шырокую лаву альтанкі, і, аддана адзін другому, яны пазналі задавальненне. Бо вольнае яе жаданне аддаца злучыла іх і завяршыла ўзаемнае захапленне.

А потым яны ляжалі побач і думалі пра тое, чаму гэта так складаецца жыццё людзей.

## Выпадак

Апрануўшы сваю самую лепшую грэцкую апратку, Страцім скіраваўся на гіпадром, каб крыху развеяць той сум, які некалькі разоў нападаў на яго з той пары, як ён сустрэўся з Тэціс. Дзіўная справа: ён асцерагаўся цяпер наведваць тыя мясціны, якія былі сведкамі яго шчасця. Ён вельмі адчуваў патрэбу зноў пабачыцца з Тэціс, але егіпцянка некуды знікла. Трэба было неяк пераадолець сваю адзінокую сумоту, якая, ён адчуваў, перашкаджала яму заняцца гандлёвымі справамі. Трывой са Смуглявай якраз ад'ехалі ў Тэсалёніку. Страцім жа шукаў паратунку ад свайго смутку. Яму

хацелася быць на чужых людзях. Гіпадром, на яго думку, быў найлепшым для гэтага месцам.

Народ паступова напаўняў гіпадром. Але лаўка каля Страціма ўсё яшчэ была незапоўненай. Дрыгавіч ад няма чаго рабіць разглядваў свежых гледачоў, стараючыся разгадаць, што гэта маглі быць за людзі.

Перавёўшы позірк на праход, па якому цяклі, каб рассесціся па месцах, адзінокія людзі, пары, цэлыя сем'і і кампаніі наведвальнікаў, Страцім прыкмеціў прыгожую, багата апранутую жанчыну сярэдніх гадоў. За ёй ішла, відаць, яе служанка, якая несла ў руцэ кошык.

Заўважыўшы побач са Страцімам свабоднае і выгоднае для назірання месца, грачанка скіравалася якраз да яго і, падышоўшы, спытала:

— Калі вы супраць нічога не маеце, я села б тут.

Страцім адказаў ёй на добрай грэцкай мове:

— Месца вольнае. Прашу сядаць. Адсюль усё будзе добра відаць!

— Так. Таму я і захацела сесці побач... Вы, відаць, без кампаніі?

— Ваша слушнасць...

Яна ўзяла ад служанкі кошычак і адправіла яе, загадаўшы падысці ў перапынку.

Разгаварыліся аб праграме. Страцім яе не ведаў. І суседка звярнула яго ўвагу на тое, што сёння будуць цікавыя сірыйскія і егіпецкія танцы. Яны яе найбольш цікавяць.

— А вы, мусіць, танцамі менш цікавіцеся? Як усе мужчыны, вы любіце спрыт, цкаванне звяроў...

— Хаця я і паважаю спрыт, але крыві ў відовішчах не люблю... Добры ж танец таксама паважаю.

— Што вы лічыце добрым танцам?

— Я б лічыў добрым усякі танец, заснаваны на прыгожых натуральных рухах, жыцці, імпэце.

Па словах суседкі Страцім упэўніўся, што перад ім асоба, якая любіць танцы і, магчыма, сама добра танцуе або танцавала раней.

Цяпер Страцім лепш разгледзеў сваю выпадковую суседку. Яна была вельмі прыгожая і, нягледзячы на нейкіх трыццаць гадоў, поўная жвавасці, стройнасці і таго асаблівага такту, які ўласцівы добра выхаваным і належным да вышэйшых станаў грачанкам. Дзякую-

чы яму яны ўмеюць захаваць прыстойнасць, пазбаўлены замкнутасці людзей, мала выхаваных.

Яе валасы мелі той залацісты адліў, які трапляецца не часта і на сонцы гарыць агнём, акружае галаву бляскам, што пасільвае красу жаночага твару. Скура шыі і рук святлела малочнай белізной. Бровы і вейкі былі, безумоўна, падцемнены, але так тонка, што штучнасць не заўважалася.

Раскрыўшы свой кошык, яна дастала адтуль на малюсенькі абрусок, пасцелены на каленях, буйныя слівы і вінаград і запрапанавала Страціму і тое і другое.

Дрыгавіч не адмовіўся, пахваліў садавіну суседкі.

— Гэта прыемны дар аднаго знаёмага садавода з-пад нашай сталіцы! — растлумачыла яна Страціму.— Ён мае вялікі сад і вінаграднік і прысылае мне вялікія кашы, запэўніваючы, што вінаград вельмі карысны жанчыне, якая хоча захаваць сваю стаць.

Грачанка зусім непрыкметна даведалася, што Страцім удавец, і паспела, нібы выпадкова, прызнацца, што яна таксама ўдава і выходзіць на людзі, каб не паддацца самоце.

Потым Страцім даведаўся, што яна мае ўласны дом, жыве бязбедна. Круг знаёмых у яе невялікі.

— Лепш мець іх менш, але затое такіх, якія варты ўвагі і з часам становяцца асабліва для цябе дарагімі.

Можна было па-рознаму зразумець апошнія яе словы. Але ад усяго таго, што казала суседка, словаахвочая, але і тактоўная, у Страціма не ўзнікла прыкрае ўражанне.

Першы раздзел праграмы быў цікавы. Страцім пачуў ад грачанкі вельмі трапную ацэнку ўсіх выступленняў на арэне.

У перапынку да сваёй гаспадыні падышла служанка. Грачанка паслала яе купіць ачышчаных арэхаў і слодычаў, якімі зноў трактавала Страціма. Той жа набыў ад разносчыцы настоенага на грушах пітва, піражкоў з цукраванай смятанкай і смажанымі ў цукры смоквамі ды ў сваю чаргу трактаваў шчодрую суседку.

Другая частка праграмы была яшчэ больш цікавай. Сірыйскія танцоры і танцоркі паказалі тэмпераментныя танцы з паступовым агаленнем. Гледачы прынялі

іх горача, закідалі артыстаў кветкамі, па звычаю Царграда пасылалі ім кошыкі з садавінай і слодычамі.

Егіпецкія танцы былі поўныя непрыстойных поз і рухаў. Канчаліся ж поўным агаленнем, што выклікала запал гледачоў, якія буйнымі воплескамі суправаджалі артыстак. Накінуўшы на сябе пасля сканчэння танцаў празрыстыя шалікі, яны праходзілі ўздоўж усёй арэны, з паклонамі прымалі прывітанні і пасылкі, якіх было столькі, што за танцоркамі ледзь паспявалі служанкі з поўнымі рукамі.

Суседка глядзела на ўсё гэта з захапленнем. Вочы яе гарэлі. Абмахваючыся пальмавым лісцем, яна спытала ў Страціма, які ўстрымліваўся ад воплескаў:

— Бачу, што нават запал усходніх танцаў пакідае вас спакойным наглядальнікам... Па мове вы нібы наш, рамеец, па тэмпераменту — хутчэй за ўсё жыхар больш паўночных краін.

Страцім прызнаўся, што ён славянін.

— Дзіўна. На славянскія народы ў нас, рамеяў, погляд, што ў іх пануе вольнасць у адносінах да сваіх кабет. Некаторыя сцвярджаюць, што нават распуснасць...

Страцім горача аспрэчыў думкі суседкі.

— О, калі так, я вельмі рада, што ўпершыню пазнаёмілася з дастойным славянінам! Калі вы не маеце нічога супраць, то праводзьце мяне дадому. Бо застаецца на трэцюю частку праграмы ні мне, ні вам няма ніякага сэнсу. Там будуць выключна бойкі паміж людзьмі і цкаванне звяроў. А крыві вы, славяне, відаць, не любіце... Хаця народы вашы шмат праліваюць рамейскай крыві...

Страцім згадзіўся, бо не ведаў, куды дзець далейшы час. Яны выйшлі на плошчу і ў суправаджэнні служанкі, якая ішла ў аддаленні ззаду, скіраваліся на Мэсу. У адным з завулкаў яе неўзабаве прад імі паўстаў вельмі прыгожы дом з садам.

Па дарозе грачанка распытвала Страціма, адкуль ён і ці даўно ў Царградзе. Пра сябе паспела сказаць толькі, што жыве ў адзіноце, бо сястра яе выехала ў Гадрыянаполіс і вернецца не раней, як праз тыдзень.

— Калі вы не маеце нічога супраць, я прасіла б вас зайсці і стаць маім госцем,— сказала грачанка, падышоўшы да свайго дома.

Страціму было цікава, і ён рашыў стаць госцем грачанкі.

Па стуку ў дзверы іх упусціла сталая жанчына, вельмі падобная да служанкі, што праводзіла сваю гаспадыню. Відаць, гэта была яе маці.

Грачанка ўвяла свайго госця ў прасторны пакой, багата ўбраны і поўны раслін. Многія з іх Страцім бачыў упершыню. Шмат якія цвілі і мелі моцны пах. Грачанка, мабыць, любіла кветкі, іх пахі і развяла ў гэтым пакоі цэлы сад.

— Я пакіну вас на хвілю! — сказала яна і выйшла.

Страцім пачуў, што яна аддала нейкі загад сталай жанчыне, якая адчыняла ім дзверы.

З цікавасцю пераходзіў Страцім ад адной расліны да другой, разглядаў тыя з іх, што цвілі.

Адна з раслін прыцягнула да сябе асаблівую ўвагу. Кветка яе выходзіла з пазухі сцябла, прыкрытага лістом, і знаходзілася на высокай стрэле. Па свайму выгляду яна была зусім незвычайнай. Мясістыя пялёсткі мелі пурпуровы колер, былі пакручаны часткова ўнутр, часткова ў знадворны бок, складаючы сабой вяночак, з сярэдзіны якога вытыркаліся тычачкі з чырвона-ліловымі шапачкамі. Моцны пах кветкі дурманіў, прыгадваў нешта тухлае. Гэты пах здзівіў Страціма: як можна было трымаць кветкі, ад якіх так непрыемна пахне?! Калі гаспадыня вярнулася, Страцім не стрымаўся і выказаў сваё здзіўленне.

— Вядома, вам, чалавеку славянскіх лясоў, невядомы і непрыемны такія кветкі... Калісьці яны былі прысвечаны Празерпіне — дзеля яе Плутос, бог падземнага царства, стварыў падобныя кветкі. А нам, людзям зямной паверхні, яны нагадваюць пахам пра смерць... Заўважце, як яны розняцца ад звыклых зямных кветак...

Страцім не згаджаўся:

— Можа, яно і так, як казалі старажытныя грэкі. Але мне незразумела другое: чаму, прыкладам, вы, маладая, прыгожая і жыццярадасная жанчына, трымаеце гэтыя магільныя кветкі побач з такімі, якія сапраўды цешаць чалавека, напаўняюць яго адчуваннем шчасця, радасці жыцця?

— О, вы, я бачу, паэт, здатны гаварыць пахвалы жанчынам! Хто вам сказаў, што я — маладая, прыго-

жая і жыццярадасная? Я ўжо і не маладая, і не жыццярадасная, як вам здалося, а прыгажосць адышла ў мінулае... Мне гэта тленная кветка напамінае пра звыклы канец усіх радасцей жыцця.

— Я не згодзен з вашымі поглядамі! — горача аспрэчваў Страцім.

— Што ж, я буду прасіць вас раздзяліць са мною стол, за якім мы, спадзяюся, больш спазнаем адзін другога! Пройдзем у мой трыклініум, як казалі рымляне...

Прайшоўшы тры-чатыры пакоі, яны аказаліся ў прасторным памяшканні, аздобленым у старажытным грэчаскім стылі. Бакавыя дзверы выводзілі ў сад, які з усіх бакоў абступаў дом. Сцены былі пакрыты фрэскамі на міфічныя тэмы. Мэбля ўся была вытрымана ў стылі Карынта. Сярэдзіну пакоя займаў стол, накрыты на дзве асобы. Тут жа іх чакалі два глыбокія крэслы.

Калі Страцім пахваліў прыгажосць пакоя, гаспадыня адказала:

— Я напалову хрысціянка, напалову паганка. Не магу забыць старадаўніх багоў і багінь Элады. І таму свой трыклініум, дзе весялюся з блізкімі, я загадала аздобіць так, як яно было ў старадаўнія часы! І з усмешкай дадала:

— Мы столькі часу ўжо вядзём бяседу, а нават не ведаем, як зваць адзін другога... Мяне клічуць Тадораю, а вас як?

— Тодарам.

— Якое супадзенне ў імёнах! Значыцца, вы ўжо хрысціянін?

— Хутчэй пра сябе я сказаў бы таксама, як і вы: напалову хрысціянін, напалову паганец...

— А паганскае імя ваша якое?

— Страцім.

— А скарочана?

— Тут, у Рамеі, мяне клічуць Страта...

— Прыгожа... Страта — падобна да нашага Стратос...

Пры размове пілі вельмі добрае віно... На стале былі рыба, дзічына, навар з рознай гародніны, слодычы, садавіна, вінаград.

Страцім сказаў, што ён быў жанаты на грачанцы,

якую страціў з год назад. Мае ад яе дзяцей, якія засталіся дома, у далёкай Славіі. Зараз ён прывёз адтуль розныя тавары, збіраецца закупіць тутэйшыя.

Знаёмая была замужам, але дзяцей не мела.

— Муж мой быў друнгарыем на нашым флоце... Прызнаюся, чалавек гэты не прыпаў мне да душы — грубы, як усе ваякі... Усюды ў іх каханкі, вечна яны п'юць... Ледва ўмеў падпісаць сваё імя, прозвішча і чын. За чатыры гады я добра спазнала яго і была рада, калі мы разышліся. Ён сустрэў адну парыю, сабе ў пару, і ахвоча пакінуў мяне ў спакоі. Добра, што хоць дзеці не звязалі нас... Але цяпер жыць так адной, пустацветам, вельмі нудна. Дзеці далі б мне сэнс у жыцці...

Яна змоўкла, і па таму суму, які набег на яе аблічча, відаць было, што яна незадаволена сваім жыццём.

Калі пасля вячэры і доўгай яшчэ ўслед бяседы яны рассталіся, Тадора ўзяла са Страціма слова, што ён наведае яе на наступны дзень.

* * *

Страцім, усё яшчэ ў даволі сумным настроі, з'явіўся да новай знаёмай дакладна ва ўгавораны час. Яна сустрэла яго вельмі гасцінна. З размоў у часе праходак па саду, які быў пры доме, Страцім адчуў, што Тадора — чалавек начытаны ў старадаўняй грэцкай літаратуры, любіць музыку і танцы. Сама яна атрымала вялікую спадчыну ад роднага дзядзькі і цяпер жыве на гэтыя грошы.

Узышоў месяц, заліў усё сваім феерычным бляскам. Ноч надыходзіла душная. Сад, дзе багата было кветак, поўнілі пахі... Яны хадзілі па дарожках, заходзілі паглядзець у альтанку, а Тадора дзялілася сваімі ўспамінамі з дзявочага жыцця.

Урэшце Страцім успомніў, што яму пара пакінуць гасцінны дом грачанкі.

— Так, ужо позна... Але на вуліцах цяпер небяспечна... Дом у мяне прасторны. Спаць знойдзецца месца...

— Аднак гэта можа стварыць вам няславу, Тадора!

— Я сама сабе гаспадыня ў сваім доме...

Служанка падрыхтавала яму пасцель у адным з пакояў. Развітаўшыся з Тадорай, пажадаўшы ёй добрай ночы, Страцім лёг і хутка заснуў.

Праз некаторы час ён прачнуўся і спярша не мог зразумець, дзе ён і што з ім. Яркі месяц даваў — няхай і праз маленькае аконца — дастаткова святла, і Страцім нечакана ўбачыў Тадору, якая ў адной кароткай туніцы стаяла, схіліўшыся над ім, і кранала яго рукой за плячо.

Страцім, здзіўлены, узняўся і сеў на пасцелі. Тадора прыклала палец да губ, даючы зразумець, што трэба хаваць цішыню.

Яна прысела да яго, абвіла яго шыю рукамі і, прыпаўшы тварам да яго шчакі, шэптам сказала:

— Ты здзіўлены? Але ж мы абодва — людзі вольныя... Ты не падобны да нашых мужчын. Я не паважаю іх за распуснасць... І рада была б мець ад цябе дзіцё... Ты не адмовіш мне ў гэтым? Праўда, мілы?

Яна не дала яму апамятацца, легла ў пасцель побач з ім, прыгалубілася да яго, шаптала, цалуючы ў шчокі:

— Не палічы мяне, мілы, распусніцай. Разгаварыўшыся з табой, я адчула, што ты паважаеш жанчыну. А твой сум сведчыць, што ў цябе чулая душа... Я ўзрадавалася магчымасці здзейсніць сваю мару пра дзіцё, якое дасць мне радасць у адзіноце. Прымі ж маю пяшчоту не як звыклую распуснасць рамейскай жанчыны, што ў нас так пашырана... І калі гэта табе зразумела, калі табе не агідна мая настойнасць, не адкінь маю хоць. Мець ад цябе дзіцё было б для мяне шчасцем, сэнсам майго далейшага жыцця.

Яна гаварыла гэта з такой шчырасцю, была такая цнатлівая ў сваіх абдымках, так даверліва і стрымана тулілася да яго, што ўсё гэта пачало хваляваць яго. Праўда, спярша ён маўчаў і ўважліва слухаў Тадору. І яна пачала ўжо думаць, што абыякава яму.

— Ты маўчыш... Я праціўна табе? Скажы адкрыта!

Страцім адказаў:

— О, не!.. Але ўсё гэта сталася так нечакана, незвычайна... Я паважаю... цябе... Разумею твой намер...

З гэтымі словамі ён прыняў Тадору ў свае абдымкі, ласкава прыгалубіў яе, і яна ўдзячна прыпала вус-

намі да яго губ, укладаючы ў пацалунак усю сваю жаночую пяшчотнасць.

Прырода ўзяла сваё: гарачы пал і ўзаемная хоць завалодалі імі, злучылі іх з такой сілай, якая заўсёды кладзе пачатак новаму жыццю.

Тая ноч спраўдзіла надзею Тадоры. Хаця яшчэ нямала начэй яднала іх, яна нутром жанчыны пачула сябе адразу задаволенай. Калі перад ад'ездам з Царграда Страцім наведаў яе, яна пацвердзіла яму сваю ўпэўненасць, што панесла ад яго, і на развітанне, цалуючы яго, радасна сказала:

— У наступны свой прыезд сюды наведай мяне і дзіцё. Думаю, што нараджу сыночка, такога ж слаўнага, як і яго бацька... А калі па-ранейшаму будзеш вольны, як цяпер, то падаруеш мне дачку або другога сыночка... Так, Страто?

## А далей што?

Трывой запэўніў Страціма, што дзесьці каля Варны караблі дрыгавічоў нагоняць варангскі караван. Парукай таму дадатковыя вятрылы на перадах дрыгавіцкіх караблёў.

Стоячы спіной да шчоглы і пазіраючы на чатыры свае караблі, што ішлі следам, Страцім думаў:

«Якая патрэба нам заўсёды трымацца варангаў? Каб сумесна з імі адбівацца ля парогаў? Праўда, пакуль што я першы купец з Падняпроўя, што езджу да грэкаў. Але што перашкаджае і іншым нашым купцам з Кыявога граду, Турава, Смаленска і Полацака супольна сабрацца і ездзіць да грэкаў без варангаў... Абавязкова падаб'ю каго-небудзь у наступны паход. Пара нам багацець, мацней станавіцца на ўласныя ногі... А ад вандроўнікаў ля парогаў адбіцца мы і самі здолеем... Патрактуем грабежнікаў грэцкім агнём — і перастануць нападаць на славянскія караблі...»

У сваіх думках Страцім ужо штогод ездзіў у Царград. Перад яго вачыма паўставалі абрысы караванаў, якія з Падняпроўя ішлі па мору да грэкаў, паўнюсенькія ўсялякай сыравіны.

«А прыгожа выглядаў бы караван караблёў пад блакітнымі вятрыламі!»

Страцім успомніў, што на двух новых караблях ён

вязе некалькі вялікіх кавалкаў белага і ружовага мармуру. Усхамянуўшыся, падумаў:

«Няхай Усяміла спраўдзіць чаканні — і мае, і рамеяў. Трэба запасаць для яе гэты грэцкі камень».

І доўга так стаяў Страцім ля шчоглы, мроіліся яму тварэнні Усямілы, якія павінны аздобіць Кыявы град або Полацак. І чамусьці перад яго духовым зрокам паўстаў стод дрыгавіцкай дзяўчыны, якая з працягнутай наперад рукой рушыла з месца і ні то паказала ўвасім дарогу наперад, ні то хацела звярнуць на сябе ўвагу. І нельга было разабраць, што за стод гэты і каго ён сабою дае.

А потым яго думкі скіраваліся на параўнанне свайго народа-племя з грэкамі-рамеямі.

«Якая вялікая розніца паміж намі і імі! Мы яшчэ — што той пясок; нас шмат, мы аднолькавыя, але яшчэ малаз'яднаныя... А рамеі — народ змацаваны, як тыя клёпкі абручамі ў бочцы. Але і, што тыя клёпкі, моцна сцягнуты абручамі прымусу, законаў сваёй дзяржавы... Народ рамейскі жыве ўвогуле багата, ды побач з вялікім багаццем колькі беднасці, колькі тых, хто прадае працу і не мае часу жыць для сябе... Ёсць чаму вучыцца ў рамеяў — у рукаўмельстве яны дасяглі вялікіх поспехаў. Аднак як дзяржава аблытала і рамеснікаў, і купцоў усялякімі законамі, якія абмяжоўваюць магчымасці! Вядома, дзяржава ёсць магутная сіла. Яна забяспечвае народу магчымасць адстаяць сябе перад варожымі суседзямі. Аднак тая ж дзяржава цяжкім ярмом падаткаў і абавязкаў кладзецца на шыю тых, хто бяднейшы, хто цяжка працуе... Мы шмат у чым бяднейшыя ў параўнанні з рамеямі, але такой беднаты ў нас няма. Потым — гэта ўлада базілеўса. Духавенства даводзіць, што як бог на небе адзіны і ўсемагутны, так на зямлі — аднадзяржаўны базілеўс. Вакол базілеўса вяльможы вядуць паміж сабой бясконцую барацьбу... У нас усё гэта куды прасцей. Па-братэрску кіруюць плямёнамі сходы старэйшын родаў. А калі былі напады — аб'ядноўваліся прадстаўнікі ўсіх плямёнаў».

# У ІМЯ ДЗЯЦЕЙ

## (НАСТАСЯ МЯКОТА)

*Гістарычная аповесць*

В лето 6746 от сотворения мира приступи нечистивы Батыга ко граду Кыяву, поя его и изби людие в нем.

В лето 6746 приидоша мунгулы Батыговы ко Чернигову и Любечу, пажгоша грады сии, перабиша и полониша людие. Прослышав же, яко княжества Случеское и Туровское богачеством славны суть, преидоша Днепр и обложиша грады Случеск и Туров, зане боронишася зело мужи и жены градов сих.

*З летапісаў*

### Татарскае нашэсце

Яшчэ ў Пераяслаўлі Субудай-Багатур, прозвішчам Непераможны, правая рука татарскага заваёўніка Бату-хана, распытваючы палоннага торка * пра дарогі на захад, дазнаўся ад яго, што за Дняпром на паўночных прытоках Прыпяці ляжаць багатыя княствы Случаскае, Тураўскае і Пінскае і што там, як і па іншых княствах урусутаў **, ідзе бясконцая барацьба ўдзельных князёў паміж сабою. Палонны торк быў купец і меў шырокае знаёмства сярод урусуцкіх купцоў, якім прадаваў коней. Торк-купец прыганяў на продаж табуны коней, апрача Кыява і Пераяслаўля, яшчэ і ў Чарнігаў, дзе добра ведаў аднаго купца з Турава Парафена Гладкага, які купляў у яго коней як для Турава, так і для Случаска. Субудай-Багатур тады ж загадаў свайму пісару занатаваць імя і прозвішча тураўскага купца, названага яму торкам.

---

* Торкі — адно з плямён полаўцаў.
** Урусуты — так звалі татары рускіх.

Шостага сакавіка 1241 года, на трэці дзень пасля таго, як татары авалодалі Чарнігавам, Субудай-Багатур аддаў загад адшукаць сярод палонных заможных урусутаў купца Гладкага.

Яго прывялі да Непераможнага.

— Твая сям'я не загінула, калі мы бралі Чарнігаў з боем? — спытаў купца праз тлумача татарскі заваёўнік.

— На шчасце, сям'я мая зараз у Тураве! — не скрыў свае радасці перад татарскім военачальнікам Гладкі.

— Мы даруем жыццё сем'ям заможных, калі яны не змагаюцца з намі! — сказаў Субудай.— Нам, напрыклад, патрэбны купцы, калі яны згодны нам памагаць не адно толькі ў гандлі... Вам, купцам, добра вядомы дарогі...

Потым усміхнуўся і спытаўся:

— А цябе нашы нукеры * моцна пашарпалі?..

Гладкі зразумеў — Субудай хоча ведаць, што ў яго забралі татары.

— Узялі ўсё, што было ў доме!

— Не бядуй!.. Нажывеш куды больш, чым меў, калі нам паслужыш!

Субудай-Багатур спакусіў Парфена Гладкага тым, што, калі ён пакажа дарогі ў задняпроўскія княствы Тураўскае, Случаскае і Пінскае, а стуль у валынскую і галіцкую землі, яму будзе выдадзена пайдза ** на права гандлю па ўсіх землях, падуладных Бату-хану, з захаваннем жыцця і маёмасці як уладара пайдзы і яго сям'і, так і слуг і работнікаў яго.

Гладкі за такую ўзнагароду згадзіўся памагчы татарам і адказаў Субудаю на ўсе яго пытанні пра моц іх гарадоў і ўзброеныя сілы князёў тураўскіх, случанскіх, пінскіх, валынскіх і галіцкіх.

Субудай-Багатур загадаў пісару напісаць ахоўную грамату для самога Гладкага, яго сям'і, слуг і работнікаў яго.

— А цяпер пагавары з Бурундаем, якога павядзеш у Тураў! Табе прынясуць ахоўную грамату — я зага-

---

* Нукеры — татарскія воіны-коннікі.

** Пайдза — залатая або срэбная дошчачка з імем Бату-хана і зарысам каня ці якога іншага звера.

даў!.. Памятай жа: выканаеш умову, пайдза будзе твая!..

І, адпусціўшы Гладкага, Субудай-Багатур пачаў абдумваць свой план, па якому тумэны * Бурундая і Місука-тайшы **, здзейсніўшы паход на Тураў, Слуцак і Пінск, павінны будуць выйсці ў тыл сілам валынскіх і галіцкіх князёў, калі на тых рушаць галоўныя сілы Бату-хана і Субудай-Багатура. Ён улічваў пры гэтым паводку на рэках, якая якраз пачалася, падумаў, што трэба найхутчэй закончыць заваяванне рускіх зямель, распачатае сёлета, трэба паспець атрымаць весткі з Каракорума, стаўкі Вялікага хана, каб перад паходам на багаты Захад падумаць і пра забеспячэнне тылу Залатой арды. Галоўным жа было, каб зрабіць усё своечасова. Свой жа план пра абходны паход Бурундая і Мусука-тайшы Субудай-Багатур паспеў ужо выказаць Бату-хану, і той даў на гэта сваю згоду. Яны тады пасмяяліся, чаму варта на гэтую справу вылучыць якраз тумэны Бурундуя і Мусука:

— Скупому старому і шчодраму маладому якраз будзе чым пажывіцца!.. Ну і іхнім нукерам не будзе крыўдна! — казаў Бату-хан свайму военачальніку...

Субудай-Багатур разлічыў, на што колькі патрэбна будзе часу. Выходзіла, што якраз праз два тыдні трэба ўжо будзе выступаць абодвум тумэнам у гэтую падарож. І ён тут жа загадаў паклікаць да сябе як Бурундая, гэтак і Мусука-тайшу, а таксама і старога Джэбе-Багатура, выдатнага ветэрана ракі Калкі ***, што ўмела ашукаў урусутаў, з якімі ўпершыню татары тады сустрэліся.

Субудай-Багатур выказаў ім свой план паходу абодвух тумэнаў, адзначыў галоўную мэту — своечасова ўдарыць па ўрусутах, зайшоўшы ім у тыл пад Уладзімірам і Галічам. Бурундай павінен быў захапіць Мазыр і Тураў, дарогу яму пакажа ўрусуцкі купец Гладкі, а Мусук-тайша завалодае Случаскам і Пінескам, куды яго правядзе чалавек Гладкага.

Субудай-Багатур сказаў Мусуку:

---

* Тумэн — татарскі вайсковы аддзел у 10 000 нукераў.

** Як брат каханае жонкі Бату-хана Юлдус-хатун, Мусук звался тайша, што значыць царэвіч.

*** У 1223 годзе татары разбілі рускіх на рацэ Калка.

— Бату-хан дае табе, тайша, у дарадчыкі пасівелага ў баях Джэбэ, славутага пераможніка ўрусутаў на рацэ Калцы. Ён добра ведае іх нораў і спосабы змагацца... Калі ж мы рушым на Захад і зробім і тыя далёкія землі сваімі даннікамі, Бату-хан, наш вялікі Джыхангір *, даручыць якраз твайму, Мусук-тайша, тумэну пільнаваць яго асобу, бо ён пакладаецца на тваю ваяўнічую здатнасць, удаласць і адданасць тваіх людзей яму, вялікаму заваёўніку свету... Памятай жа пра гэта, тайша!..

## На Тураў і Случаск!

І пакуль нукеры тумэнаў Бурундая і Мусука-тайшы сталі гатаваць у дарогу свае двухколыя арбы з баявым і харчовым прыпасам, прыгнаныя пад Любеч палонныя ўрусуты ў прыбярэжным лесе пачалі секчы лес на вялікія плыты-паромы для пераправы татараў праз Дняпро. Калі праз два дні к Любечу падышлі тумэны Бурундая і Мусука, сотні паромаў-плытоў былі ўжо гатовы, і аднае раніцы татары пераправіліся на правабярэжжа Дняпра і пацяклі ляснымі дарогамі — тумэн Бурундая на Мазыр, а тумэн Мусука на паўночны захад, на Случаск.

Аселішчы ўрусутаў па тутэйшых лясах, як па-за Дняпром, так і ў кірунку Прыпяці, былі хоць і мнагалюдныя, але рэдкія. Першыя дні татарам яшчэ ўдавалася застаць частку насельніцтва на месцы, але рабунак, гвалт над людзьмі, асабліва над жанчынамі і дзяўчатамі, спальванне хат і двароў, адбіранне жывёлы — усё гэта хутка стала вядома людзям, і чутка пра татарскае нашэсце ўжо на правабярэжжы Дняпра палящела далёка.

Вось чаму з часам сёлы і лясныя сялібы абязлюдзелі: палешукі ратавалі свой скарб і прыпасы па лясах, у ямах і дуплах, адганялі глыбока ў чашчобу жывёлу, і татары заставалі толькі кінутых курэй або кошак з кацянятамі. І татары са злосцю пускалі з дымам хаты і будоўлі, лавілі курэй, забівалі старых і хворых, якія не здолелі кінуць родны кут.

Тумэн Бурундая хутка выбраўся на шырокі шлях,

* Джыхангір — заваёўнік свету.

што вёў з Беларусі на Валынь. Мазырскі князь, пачуўшы пра набліжэнне татараў, пакінуў горад і ратаваўся ў Вруч. Гараджане абараняліся нядоўга. Пад Мазыром якраз крыжаваліся дарогі сухапутныя з рачною дарогаю, і таму ў горадзе Мазыры татары захапілі безліч усялякіх тавараў: шкуры, футра, палатно, тканіны шарсцяныя, воск, мёд, збожжа ўсякае і, што асабліва было патрэбна татарам,— проса і пшаніцу. Прыставіўшы да складаў з таварамі варту і паведаміўшы Субудай-Багатуру пра ладную здабычу, Бурундай, парадзіўшыся з Гладкім, накіраваўся далей на Захад.

Трэба адзначыць, што галоўная дарога на Тураў, як летам, так і зімою (на санях па лёдзе), была Прыпяць, але існавала і сухапутная дарога, лесам, якою карысталіся ў пару паводкі і калі рака яшчэ як след не замярзала. Прыходзілася і татарам карыстацца гэтаю дарогаю, хаця яна была і не надта зручная. Вось тут татары і пазналі ліха.

Як ні цяжка жылося тагачаснаму палешуку пад княжымі валасцямі і цівунамі, аднак нашэсце бязлітаснага ворага з'яднала тутэйшых урусутаў. Палешукі ладзілі завалы на дарогах: начамі чутна было, як яны секлі дрэвы, якія потым валілі ўпоперак дарогі. Завалы гэтыя рабіліся сумысля па месцах, дзе былі густыя зараслі і кусты ля дарогі, і, калі татары пачыналі разбіраць завал, стрэлы лясных урусутаў забівалі ці ранілі нукераў. Раны амаль заўсёды былі смяртэльныя, бо наканечнікі сваіх стрэл палешукі атручвалі змяіным ядам, ад якога татары не ведалі лекаў.

Урусут-здраднік Гладкі, баючыся, што яго руская вопратка прыцягне ўвагу палешукоў, ужо даўно пераапрануўся ў татарскую. Больш таго, ён пачаў нават падчарняць сваё аблічча, каб быць зусім падобным на татарына. Здраднік вельмі ўзрадаваўся, калі ў адным сяле ў каморы аднае хаты ўбачыў стары сцягай *. Ён тут жа апрануў яго на сябе і адразу паспакайнеў.

Нукеры першы час смяяліся з яго баязлівасці.

— Сам жа воўк, а баіцца сваіх! — казалі пра яго, аднак жа, пазнаўшы на сабе сілу ляснога няўлоўнага ворага, усё менш смяяліся з Гладкага.

---

* Сцягай — куртка, у якой паміж верхам і падшыўкаю была туга набіта кудзеля або пакулле, каб затрымліваць стралу або піку ворага.

Усё больш хмурыўся Бурундай, заслухоўваючы сваіх тысяцкіх аб стратах людзей і коней за мінулы дзень. Але калі на пераправе праз прыток Прыпяці Птыч пакалечылася безліч коней, бо ў дно тутэйшага броду былі забіты сотні вострых дубовых калкоў, Бурундай склікаў нараду тысяцкіх і, не пачуўшы ад іх вартай парады, рашуча заявіў:

— Мы занадта марудна ідзём наперад. Вораг паспявае наладзіць усё большую ад нас абарону!.. Вось мой загад: выступаць у паход золкам, канчаць падарож са змрокам. Пасіліць дазоры як у дарозе, так і на адпачынку!.. Броды наперад аглядаць і першымі пускаць абозы!.. Абвясціць нукерам, што я даю ім залаты за кожнага злоўленага ляснога ўрусута, а найбольш у гэтым паспеўшага ўзнагароджу яшчэ больш шчодра!.. Аднак і гэта мала што паправіла.

Паход тумэна Мусука-тайшы быў такі ж марудны і трудны, як і Бурундая. Лясныя ўрусуты пакідалі свае аселішчы, забіралі з сабою дабро і запас харчавання, хавалі гавяду ў лесе. Калі першыя дні не было нападаў на татараў, то з часам урусуты смялей і больш упарта змагаліся з ворагам. Як і Бурундай, Мусук быў бяссільны супраць гаспадароў лесу: яны былі няўлоўныя, нападалі нечакана і знікалі бясследна. У пакінутым жытле рэдка траляліся харчовыя запасы, і татарам прыходзілася карыстацца прыпасам, які везлі з сабою. Толькі праз тры тыдні тумэн Мусука выбраўся на шлях, які ішоў палямі, але тут сялібы, хаця і траляліся часцей, былі бязлюдныя.

Татары помсціліся тым, што палілі ўрусуцкія сёлы, але напаткаць ворага і знішчыць яго не ўдавалася.

Тумэн Мусука-тайшы трапіў у пастку пасля пераправы праз Птыч. Тут дарога на значнай адлегласці ішла праз густы бор, і тутэйшыя ўрусуты загадзя назбіралі ляснога ламачча і, як толькі ўвесь тумэн уцёгся цалкам у лес, падпалілі сушняк спераду, ззаду і паабапал лясной дарогі.

Першыя ўзнялі трывогу татарскія коні: яны ведалі стэпавыя палы і страшэнную сілу агню... Як толькі агонь ахапіў сушняк і полымя пачало шугаць угору і запальваць галіны дрэў ды паваліў на дарогу густы дым, коні захраплі, пачалі шалець ад страху, не слухацца чалавека.

Высокае полымя, гарачыня з абодвух бакоў, дым, які забіваў дых.

К канцу шостага тыдня тумэн Мусука-тайшы дасягнуў нарэшце ракі Случы. На правым беразе яе татары ўбачылі на гары высокі тын і вежы дзядзінцазамка, а пры ім хаты і дамы пасада Случаска.

Мусук-тайша загадаў спыніцца станам на прасторным лузе ля ракі і даў людзям на адзін дзень адпачынак.

## Случаск да прыходу татараў

Случчына здавён мела ўрадлівыя землі і таму рана, яшчэ з VI веку, стала густа заселенаю краінай. Рана таму ўзнік і яе горад Случаск, дзе сыходзіліся і з'язджаліся людзі дрыгавіцкага племені, каб мяняць паміж сабой здабыткі паляўнічага і рыбалоўнага промыслаў на збажыну, палатно, шарсцяныя тканіны і розныя вырабы з металу, гліны, дрэва.

Гадоў за дзесяць да татарскага нашэсця князь случаскі Андрэй быў госцем тураўскага князя Расціслава ў часе нарады князёў у Тураве аб супольным паходзе супроць ятвягаў.

Тады якраз князь Андрэй убачыў новы дзядзінец Турава, што высіўся на правым беразе Прыпяці, збудаваны тутэйшым выдатным будаўніком Івоняю Мурашом. Моц высокага дубовага тыну-сцяны, магутныя дубовыя ж вежы ўразілі князя Андрэя, і ён сказаў тураўскаму князю:

— Ну і цвярдыня ж цяпер тураўскі дзядзінец!.. І дзе ж толькі дубы такія здабыты для тыну!.. Што за вышыня, што за таўшчыня! Скажы шчыра, браце-гаспадару, мог бы ты мне даць падобнага дубу для случаскага дзядзінца?.. Прасі якую хочаш цану за такі тавар — не паскуплюся!..

— Што ж, княжа, згодзен!.. Знойдзем і для цябе не горшага дубу з правабярэжжа Прыпяці!..

І тут жа князь Андрэй прасіў князя Расціслава адпусціць на пабудову дзядзінца ў Случаску свайго майстра Івоню Мураша, на што таксама атрымаў згоду тураўскага князя.

На працягу двух гадоў плыты велізарных дубовых кражоў з паўдзённай Случы, прытоку Прыпяці, пры-

плывалі на паўночную Случ, а тым часам у Случаску ўжо рабіў Мураш.

Агледзеўшы старанна і абмераўшы замкавую гару, Мураш зазначыў князю Андрэю, што спад гары трэба зрабіць крутым, а тын паставіць з адступам ад краю не больш як на 8 локцяў, каб не даць магчымасці ворагу збірацца пад сцяною.

Калі спад гары ўсюды быў зроблен круты і абшыты знадворку каменем і дзярнінай, паставілі паўскрай гары знадворны тын, апускаючы на чатыры локці ўглыб счэсаныя з двух бакоў таўшчэзныя дваццацілокцевыя дубовыя ствалы, замацоўваючы іх жалезнымі скобамі. На адлегласці ў 8 локцяў быў пастаўлен другі тын з дубовых ствалоў, але меншай вышыні, а прастора паміж тынамі была забіта глінаю і каменнямі. Сцены замыкаліся за шасцю вежамі, дзве з якіх былі надбрамныя; вежы былі двухпавярховыя і асабліва ўмацаваныя, бо баранілі тоўстыя, дубовыя, акутыя жалезам і абабітыя медзянымі лістамі брамы і мост, які нанач на сваіх асобных палазах падсоўваўся пад браму. Гару з усіх бакоў атачаў Бычок, прыток Случы. Мураш пашырыў яго і паглыбіў, павысіў берагі. Ён урэгуляваў прыток вады ў Бычок з крыніц гары так, што цячэнне яго стала стромкім.

Чатыры гады вяліся ўсе гэтыя работы, затое люба было потым глядзець на дзядзінец, такім непрыступным ён выглядаў пасля перабудовы яго Мурашом. Князь шчодра аплаціў працу здатнага майстра і, апрача таго, падараваў яму срэбны коўш, па краі якога случаскі залатар выразаў даравальны надпіс: «Майстру Івоні Мурашу памяць ад князя Андрэя». Шчодрым баляваннем адсвяткавалі завяршэнне будовы дзядзінца: пілі ў князя брагу, моцны мёд, піва, елі закусь усялякую і пад хмелем, забываючы цяжкую на князя працу і крыўды частыя, славілі князя Андрэя, нібы дбайнага аб людзях свайго народа.

Праз два гады пасля гэтага дасяглі і да Случаска сумныя весткі, што знішчан татарамі Бату-хана «славны град Кыев, мати городов руских» и «бысть скробь велика оттого по всей земле руской».

А яшчэ праз год «мунгулы Батыговы» зруйнавалі чарнігаўскую зямлю і следам дабіраліся да Турава і Случаска.

## Князь пакідае Случаск

Як ні верыў князь Андрэй у моц свайго дзядзінца, аднак, падумаўшы, вырашыў, што лепш будзе, калі ён выправіцца з жонкаю і дзецьмі да свайго цесця ў Менск: стуль яны паклічуць усіх удзельных князёў злучыць разам сілы і ўдарыць на ворага.

Вось чаму, калі з Глуска прыскакаў ноччу з малой сваёй дружынаю малодшы брат князя Мікола (бо на тэрыторыю яго ўдзела ўвайшлі ўжо татары), князь Андрэй наступнай раніцаю аддаў загад пра ад'езд сям'і са Случаска ў Менск. Казну, «злато, сребро и узорочье всякое» з царградскае парчы і камкі, «козно всякое», футры і суконную вопратку, паклаўшы ўсё гэта ў скураныя мяхі-валізы, натарочылі на дужых коней, а княгіню з дзецьмі, пасадзіўшы ў двухколыя каламажкі, князь Андрэй з братам, яго дружынаю і сваёю старшаю дружынаю выправіў у дарогу. Па дарозе ў Менск ён наважыў адведаць сярэдняга брата Яўстрата, удзельніка клечаскага, і таксама з ім і яго сям'ёю і дружынаю ехаць разам да цесця.

За сябе ён пакідаў у Случаску свайго ўлюбёнца ваяводу Звеніслава Пуцяту, даўшы яму сваю малодшую дружыну ў 150 вояў, 50 лучнікаў з самастрэламі ды каля трохсот сваіх лоўчых і паляўнічых. Гэта былі ўсё дужыя людзі, смелыя, спрытныя, якія сваёю снасцю, стралою, паляўнічаю сякераю ці рагацінаю здабывалі князю глушцоў, цецерукоў, гусей і качак, казуляў, клалі сахатага, тура і зубра, не кажучы пра ваўка, лісу, рысь і самога гаспадара лесу — мядзведзя.

Князь сказаў пра іх старому ваяводу:

— Любы з іх будзе добра валодаць зброяй, а яе ў маіх клецях пад харомамі хопіць і на іх, і на ахвочых людзей з пасадскіх рамеснікаў, ды і на дваровых халопаў... Даручы Ждану Дубраве і Зубу, лепшым з малодшай дружыны, навучыць гэтых людзей і будзеш мець добрых абаронцаў дзядзінца!..

Развітаўшыся з Пуцятаю, князь сеў на каня і, у суправаджэнні трох дружыннікаў, паспяшаў дагнаць сям'ю. Калі князь праязджаў плошчу пасада, яго абступілі пасадскія людзі. Князь затрымаў каня і сказаў да людзей:

— Еду, людзі мае, каб з дапамогай князя-цесця,

сваіх і яго ўдзельных, а можа, і Полацка, і Віцьбеска, ударыць на татараў і прагнаць іх ад нас!.. Пакідаю за сябе ваяводаю вядомага вам Пуцяту і абаронныя сілы... Дзядзінец наш моцны, і за яго сценамі, укрыўшы свае сем'і і маёмасць і адбіваючы ворага, вы здолееце дачакацца падыходу нашых сіл!.. Зброі ў нас тут хопіць, харчу — на паўгода, а таму ўсе, хто хоча перамогі над ворагам, ідзіце да ваяводы — ён дасць зброю і назначыць, дзе стаяць на абарону сцен дзядзінца... Будзьце ж дружнымі, стойце як адзін супроць ворага, і тады мы яго пераможам.

Зараз жа пасля ад'езду князя ў дзядзінец пачалі заходзіць і заязджаць заможныя сем'і і ўсе іншыя пасадскія людзі. Пуцята сам размяшчаў людзей: на вуліцах дзядзінца, у княжацкім садзе, у цвінтары сабора Прачыстае. Двор княжацкі стаў месцам, дзе лоўчых і паляўнічых, а таксама ахвочых людзей з пасадскіх рамеснікаў і дваровых халопаў навучалі, як валодаць зброяй. А іх было звыш васьмісот мужчын, што вельмі ўсцешыла старога ваяводу. Жанчынам тых сямей, з якіх былі гэтыя дабравольцы, ён выдаў на шыццё сцягоў грубага палатна, суравыя ніткі і пакулле. Калі праз пяць дзён падышлі татары, пасад ужо апусцеў.

## Аблога Случаска

Разбіўшы стан, татары арбамі свайго абозу абгарадзілі яго, пакінуўшы тры шырокія выхады; на сярэдзіне стана паставілі багатыя шатры Мусук-тайшы і Джэбэ-Багатура, а вакол іх — лямцавыя шатры — буданы тысяцкіх. Вароты-выхады са стана і ўся лінія арбаў ахоўваліся моцнаю вартай.

Уздоўж ракі, дзе бераг парос кустамі, паставілі яны конавязі нукераў. Бераг ракі, заняты конямі, татары таксама забяспечылі належнаю вартаю.

Задымелі кастры, але ўжо не бараніна сыціла татараў: узятых з сабою ў паход авечак яны даўно з'елі. Смажылі цяпер на вуголлях каніну... Хмельнага піва нукерам даўно ўжо не давалі, а бузу * і моцны кумыс гатавалі і везлі ў запасе толькі для Мусука-тайшы,

* Буза — хмельнае пітво, згатаванае з проса.

Джэбэ-Багатура і тысяцкіх. Пасля яды і сну са стана выехалі пяцьсот нукераў (па 50 чалавек ад кожнай тысячы тумэна) для агляду і рабавання пасада ўрусутаў, а сам Мусук-тайша з Джэбэ-Багатурам, трыма тысяцкімі і сотняю нукераў аховы паехалі аглядаць дзядзінец.

Моўчкі, усё больш засмучаючыся ў душы, паглядваў Мусук-тайша на дзядзінец Случаска, аб'язджаючы яго вакол, уздоўж Бычка. Ды і як было не хваляваццa: шырокі і глыбокі роў з вадою, круты схіл гары, па якім нялёгка будзе ўзнімацца да сцяны, сама вышыня гары не менш, як калі б чатырох коннікаў паставіць аднаго на другога... А там яшчэ вышыня сцяны больш чым у тры чалавечыя росты!..

— Цэ-цэ-цэ! — пацмокаў языком са злосці Мусук-тайша.— Праклятыя ўрусуты!.. Збудавалі гэткую моцную драўляную крэпасць! Шкада, што я не ўзяў з сабою хоць адну са сценабітных машын, якія прыдуманы ў дзяржаве Юань * і былі пабудаваны майстрам з Ханбалыка ** перад паходам на ўрусутаў... Які моцны ні быў Кыяў, аднак разбілі ж мы імі яго сцены і брамы!..

Перавёў вочы на Джэбэ: на пахмурным твары былі ледзь не зажмураныя зусім шчылінкі вачэй старога ваякі...

Мусук-тайша параўняўся з ім.

— Джэбэ-Багатур, што скажаш?!

— Што ж, гэтыя ўрусуты за дваццаць гадоў пасля Калкі навучыліся ваяваць з намі, толькі хаваючыся па лясах ды за высокімі, як вось гэтыя, сценамі!..

— Шкада, што з намі няма ніводнай з юаньскіх машын, а то мы заўтра ўжо адчынілі б сабе іх дзверы!..

— Прыйдзецца выкурыць іх,— сказаў Мусук-тайша,— як восаў, дымам.

— Драўлянае ўсё добра гарыць,— зазначыў Джэбэ.— Ну, а тады, перадушыўшы выгнаных восаў, пасмакуем і іх мёду!.. Бачыў, якіх красунь набралі ў Кыеве па дамах урусуцкіх баяр і заможных купцоў? Нават сам Джыхангір Бату-хан займеў сабе дзвюх дзяўчат!..— Стары ваяка засмяяўся.

---

* Так зваўся тады заваяваны татарамі паўночны Кітай.
** Ханбалык — тагачасны Пекін, сталіца Юаня.

— Ну, тут, у лясных урусутаў, не думаю, каб магла вырасці якая прыгожка! — сказаў Мусук і падумаў: «А калі і знойдзецца такая, я аддам яе ў служанкі маёй Джаніль!..»

Тысяцкія ехалі ззаду моўчкі.

Мусук-тайша, вярнуўшыся з аб'езду, склікаў усіх тысяцкіх да сябе на нараду.

### Няўдалая хітрасць

Першую ноч пад Случаскам татарскі стан адпачываў чуйна, хаця расстаўленая варта была моцнаю. У шатры Джэбэ доўга гарэў каганец і здраднік-урусут пад дыктоўку тлумача пісаў ліст да абаронцаў дзядзінца. Урусут чытаў тлумачу тое, што ён напісаў, і, хаця тлумач бачыў, што ўрусут не так пераклаў выхваленні Джэбэ, але, баючыся гневу яго, запэўніваў старога, што напісана так, як хацеў Джэбэ-Багатур.

Раніцаю, калі татарскі стан прачнуўся і нукеры паснедалі, урусут-пісар з татарскім сотнікам і пяццю коннікамі накіраваліся да галоўнай надбрамнай вежы, наблізіліся на адлегласць, пры якой іх не магла б дастаць страла ўрусутаў, памахалі бунчуком і, падвесіўшы ліст на тычку, уткнутую ў зямлю, вярнуліся ў стан.

У лісце пісалася, што слаўны Мусук-тайша, сваяк заваёўніка свету Бату-хана, абяцае захаваць жыццё і маёмасць усім урусутам, што знаходзяцца ў дзядзінцы, калі яны спыняць змаганне і згодзяцца аддаць дзесяціну са свайго дастатку як першую сваю даніну, якую потым яны павінны будуць плаціць штогод баскакам * Бату-хана.

Адказ на гэты ліст Мусук-тайша згодзен быў чакаць да раніцы наступнага дня.

Атрымаўшы ліст татараў, ваявода Пуцята паклікаў да сябе на нараду епіскапа Сімеона, найбольш пачэсных і старых купцоў ды заможных гаспадароў майстэрань з пасада Случаска, а таксама ўзначальнікаў малодшай дружыны, лучнікаў і добраахвотнікаў.

Некаторыя са старых купцоў і заможных гаспадароў-рамеснікаў спрабавалі гаварыць, ці не лепш было б паладзіць з татарамі, але ім напомнілі вераломства та-

---

* Баскакі — збіральнікі даніны.

тараў у 1223 годзе. Усе пасля гэтага аднагалосна згадзіліся, што трэба стаяць насмерць.

І таму прышэльцам далі на іх ліст кароткі адказ: «Добра ведаем ваша вераломства і таму будзем абараняцца!»

Атрымаўшы такі адказ, Мусук-тайша сказаў свайму дарадчыку:

— Бачыш, Джэбэ-Багатур, як урусуты добра цябе памятаюць па бойцы на рацэ Калцы!

## Штурм дзядзінца

Нарада Мусука-тайшы з Джэбэ-Багатурам і тысяцкімі перад штурмам была кароткаю: сто пяцьдзесят лепшых лучнікаў на трох месцах па беразе Бычка будуць пасылаць у крэпасць агонь, ім памогуць нукеры, якія будуць падаваць стрэлы з агнём, а кожны стралок будзе прыкрыт шчытамі двух нукераў.

Зараз жа пасля нарады тры тысячы нукераў былі пасланы ў лес рыхтаваць драбіны для сцен і невялікія лёскі, каб хутка ўзнімацца па гары, а таксама рыхтаваць вязкі галля, ламачча і сушняку, каб заваліць пратоку Бычка. Да паўдня татары прынеслі на сабе і прывезлі на конях безліч драбін, лёсак і вязанак.

Абаронцы дзядзінца са сцен і вежаў добра бачылі ўсе гэтыя прыгатаванні да штурму. Бачылі, што татары абмотваюць канцы стрэл кудзеляю і акунаюць іх у бочку са смалою, точаць дзіды, мячы, кінжалы і крывыя шаблі.

У абед падрыхтоўка заціхла. Татары елі хлёбава і плоў з канінаю, але не пілі ні кроплі бузы, якую выдалі з запасу патроху толькі сотнікам, кумыс жа далі адно тысяцкім ды абодвум узначальнікам паходу.

Адпачынак пасля абеду быў кароткі. Кожны думаў пра пакінутыя на Чарнігаўшчыне ў вялікім абозе арбы са сваімі сем'ямі, пра родных і прыяцеляў, бо чакалі лютага штурму, а ён нёс каму смерць, каму калецтва.

Абаронцам дзядзінца было таксама не да адпачынку. Ваявода Пуцята не злазіў з вежы, сочачы за станам ворага. Ён размеркаваў сілы па сценах і вежах, згуртаваў у належных месцах запас людзей для замены забітых ці параненых і для падтрымання абаронцаў у часе найбольшага націску ворага. Вылучаны былі сілы

з пажылых людзей і хлопцаў-падлеткаў для барацьбы з агнём. Такая ж моладзь, пераважна жанчыны, прызначаны былі памагаць лекарам і лекаркам перавязваць раны, адносіць параненых са сцен і вежаў.

Прыгатаваны былі ў катлах кіпень і гарачая смала, каменні, калоды, бярвенні, жэрдкі, каб адкідаць драбіны. Абаронцы стаялі за зубцамі тыну з дзідамі, рагацінамі, бердышамі, з баявымі сякерамі, мячамі, а лучнікі са сваімі самастрэламі, набытымі князем Андрэем у Полацку. Гэта была навінка, зусім невядомая татарам, якія карысталіся звыклым лукам. Тое, што лук самастрэла быў прымацаваны на канцы нядоўгага ложа з прыкладам, дазваляла пускаць стрэлы трапна. Страла на гэтых самастрэлах была кароткаю, жалезнаю, з загартаваным канцом. Лук на самастрэлах быў таксама сталёвы, цеціва нацягвалася не рукою, а маленькім калаўроцікам і зашчэплівалася за своеасаблівы курок. Паклаўшы стралу на латачок ложа і ўпёршы прыклад у плячо, стралок цэліўся і спускаў курок. Цеціва гнала стралу і пасылала яе ў цэль з такою сілаю, што тая прабівала шчыты, панцыры, ватныя сцягаі, вывезеныя татарамі з Юаня, працінала наскрозь чалавека, калі яго грудзі не мелі ніякай брані. Страла з самастрэла ляцела з гудам, біла трапна, раніла цяжка.

Абаронцы дзядзінца ўскладалі вялікую надзею на гэтую невядомую татарам зброю. Вось чаму стары ваяка Пуцята, лічачы, што трэба мець як мага больш стрэлаў да полацкай зброі, загадаў дзесяці кавалям стаць на выраб іх, хаця некалькі тысяч запасных стрэл былі знойдзены ў княжацкіх клецях пад харомамі.

...Са свайго шатра выйшаў узброены Джэбэ-Багатур і накіраваўся да Мусука-тайшы, а праз некалькі хвілін выйшлі яны абодва, паклікалі тысяцкіх, аддалі ім загады, і зараз жа па ўсім стане ўдарылі тулумбасы і барабаны, зараўлі рагі, і стан заварушыўся, як той мурашнік: забегалі нукеры, узбройваючыся і беручы з сабою драбіны, лёскі, вязкі, рушылі пад дзядзінец.

Расстаўленыя ў трох месцах паўтараста лепшых татарскіх лучнікаў са сваімі абаронцамі і падавальшчыкамі запаленых стрэл пачалі абстрэл дзядзінца агнём.

Але калі случаскія лучнікі пусцілі свае першыя жалезныя стрэлы, сярод татараў пачалася паніка: кожная страла або цяжка раніла самога лучніка, або,

прабіўшы шчыт, раніла тых нукераў, што прыкрывалі яго. Праз некаторы час татары пакінулі бераг Бычка.

І Мусук-тайша і Джэбэ-Багатур чакалі, што абстрэл агнём дзядзінца дазволіць пачынаць штурм. Але час ішоў, і ўжо тысячы стрэл з агнём былі кінуты на дзядзінец, а дыму так і не відаць. Між тым вестка пра кароткія ўрусуцкія стрэлы, ад якіх не беражэ ні шчыт, ні ватны юаньскі сцягай, дайшла да нукераў. Са штурмам далей цягнуць нельга было. І таму Мусук-тайша аддаў загад спыніць абстрэл дзядзінца агнём ды пачынаць штурм.

Забілі зноў барабаны, завылі рагі татарскія, і ў трох месцах да берага Бычка рынуліся нукеры са сваімі вязанкамі галля, ламачча, пачалі гаціць імі пратоку. Аднак са сцен не загула ніводная страла ўрусутаў. І гэта надало нукерам смеласці.

Ваявода Пуцята павялічыў колькасць абаронцаў на відавочных ужо месцах штурму і аддаў загад лучнікам з самастрэламі выбіваць цяпер пераважна татарскіх сотнікаў ды тых нукераў, якія будуць узнімацца на сцены.

Як толькі пераходы на гацях праз пратоку былі гатовы, пабеглі па іх нукеры з доўгімі драбінамі і лёскамі. Кінуўшы іх на круты схіл гары, яны пачалі па іх узнімацца пад сцены. Лезлі, трымаючыся за лёскі або драбіны, закінуўшы шчыты сабе на спіну. І вось цяпер загулі ўрусуцкія стрэлы.

Крышыліся драбіны, ляцелі ўніз забітыя, пакалечаныя і параненыя нукеры. Замест іх новыя хвалі нукераў ставілі драбіны і лезлі ўпарта наверх. Абаронцы ж, даўшы татарам узняцца вышэй, падчэплівалі іх драбіны жэрдкамі і адкідалі ад сцяны.

Кінутыя ў бой новыя сотні нукераў прымасцілі новыя драбіны або паднялі ўцалелыя, што валяліся ля сцен. Трымаючы ў зубах кінжалы, крывыя шаблі, падбадзёрваючы адзін другога крыкамі, яны раз'юшана лезлі ўперад і ў некаторых месцах паўзбіраліся ўжо на сцяну... І тут сустракаліся грудзі на грудзі з абаронцамі, якія біліся з імі бердышамі, баявымі сякерамі, дзідамі, рагацінамі, мячамі...

Грукат татарскіх барабаншчыкаў, гул іхніх рагоў, крыкі падбадзёрвання, лаянка і праклёны, стогны пакалечаных і параненых поўнілі наваколле.

Каб падтрымаць дух абаронцаў дзядзінца, епіскап Сімеон загадаў званіць у вялікі звон сабора.

Наступ татараў усё ўзмацняўся, але абаронцы стаялі мужна. Параненых і стомленых тут жа падменьвалі прысланай ваяводам падмогай. Ён з вежы наглядаў за боем і бачыў, дзе слабела абарона.

Спадала гарачыня дня, усё больш слабеў націск татараў, хутка ўжо нельга было прыставіць да сцен драбіны — так завалена была зямля бярвеннямі, каменнямі, забітымі і паранеными татарамі.

Усё больш сумным рабіўся твар старога Джэбэ. Ён бачыў горы трупаў і бясконцы паток параненых нукераў, якія брылі назад ад сцен, прыгнечаныя.

Джэбэ адшукаў Мусука-тайшу.

— Не чакаў я такое абароны, тайша! Праклятыя — іх тут безліч!.. Прыйдзецца спыніць штурм. Знойдзем іншы спосаб перамагчы іх!..

— Я думаю тое ж самае! Ад майго імя аддай загад! — адказаў яму Мусук і паехаў у стан.

Увайшоўшы ў шацёр, ён загадаў паклікаць да сябе Джэбэ, як толькі той вернецца, і запатрабаваў падаць сабе найбольш моцнага кумысу.

Тым часам Джэбэ, калі спыніўся бой, паслаў да абаронцаў парламенцёра, каб урусуты далі магчымасць прыбраць з-пад сцен забітых нукераў і тых параненых, што не мелі сілы самі выбрацца адтуль.

Пуцята згадзіўся, але пры ўмове, што татары пасля гэтага расчысцяць пратоку ад сваіх вязанак і не будуць перашкаджаць урусутам прыбраць тое, што было скінута са сцен. Джэбэ прыняў гэтыя ўмовы і загадаў тысяцкім расчысціць пратоку ад гацей. Заадно ён загадаў скласці ля стана кастрышчы з бярвенняў і пакласці на іх вынесеныя з-пад Бычка трупы. Заўтра раніцай іх спаляць. Тысяцкія павінны зараз жа высветліць страты сваіх людзей і паведаміць яму пра гэта дакладна.

### Юаньская машына здабудзе перамогу

Па загаду Джэбэ з'явіўся каваль Маома.

— Як машына? — спытаўся Джэбэ.

— Будан на калёсах гатоў... Толькі як быць з бервяном, якім б'юць?.. Ці вытрывае? Жалезнай галавы, каб паставіць спераду, няма,— сказаў Маома.

— Скажы, Маома, кузні ўрусутаў цэлыя? — спытаўся стары.

— Некаторыя цэлыя.

— Адшукай у іх самае вялікае кавадла... Забі яго ў бервяно, і машына будзе гатова! — знайшоў выхад Джэбэ.— Ідзі!

Як толькі Маома пакінуў шацёр, абодва начальнікі павесялелі і тут жа вырашылі біць не сцяну, а ўваходную браму дзядзінца, акутую медзянымі лістамі. «Адчынім сабе самі дзверы!» — думаў кожны з іх.

На другі дзень пасля штурму, раніцаю, татары прыгатаваліся паліць трупы загінуўшых нукераў. Са сцен і вежаў урусуты бачылі, як, перш чым запаліць кастрышчы, некалькі татарскіх шаманаў пачалі сваё камланне *. Калі ж шаманы забегалі вакол кастрышчаў і, паграsevere гудучы пальцам па бубне, каб прагнаць духаў урусутаў, якія зараз нібы нападалі на душы памёршых ваякаў, татарскія нукеры ўзнялі такі грукат у свае шчыты, тулумбасы і барабаны, што можна было падумаць, нібыта яны рыхтуюцца да новага штурму.

Шаманы падпалілі кастрышчы.

Сухое дрэва, нацяганае з будынкаў урусутаў, гарэла вельмі зырка, і праз нейкі час усё было скончана.

Яшчэ праз дзень была гатова і юаньская машына. Каб бервяно дубовае не пашчапалася, месца, куды ўставілі кавадла, акавалі трыма абручамі.

Ноччу татары завалілі пратоку бярвеннямі да самага нізу брамы і ўскацілі на гэтае ўзмосце будан юаньскай машыны.

Раніцай, як толькі ўзяліся татары тараніць браму, абаронцы дзядзінца пачалі паліваць машыну палаючаю смалою... Праўда, сырыя скуры на даху будана першую пару самі не гарэлі, але неўзабаве загарэліся ўсё ж бярвенні ўзмосця, потым рэдкая смала зацякала па шчылінах у самы будан, і ён пачаў таксама гарэць. Дым напаўняў будан сценабітнай машыны, і нукеры задыхаліся ад яго і кідалі працу.

Ваявода тым часам загадаў набіць мяшкі з-пад збожжа пяском і ў тры рады заваліць імі браму ды

* Камланне — заклінанне варожых духаў пад гукі вялікага бубна.

ўваход пад брамную вежу, а кавалям загадаў рабіць новыя вароты, каб затрымаць татараў, калі яны ўварвуцца ў дзядзінец. Насупроць новай скразной брамы пачалі рабіць высокі тын з байніцамі для лучнікаў. Епіскап Сімеон, дазнаўшыся, што трэба будаваць вароты, запрапанаваў зняць скразныя вароты ў саборы і надтачыць імі вайсковыя. Праз двое сутак новая брама была ўжо павешана і зачынена моцнымі заваламі. А яшчэ праз суткі насупроць новых варот на некаторай адлегласці кончылі ставіць новы тын з байніцамі.

Пуцята разумеў, што акутая брама не вечная і што яна можа не затрымаць ворага надоўга. Паклікаўшы да сябе саборнага пратапопа, ён прадыктаваў яму ліст да князя Андрэя. Грунтоўна і дакладна пераказаў, што зроблена для самаабароны. Дадаў усё ж, што толькі дапамога звонку можа перашкодзіць татарам дабіцца свайго.

Ліст да князя павінен быў адвезці сын ваяводы. Ноччу сын Пуцяты з двума дружыннікамі спусціўся ў падземны лёх, які хутка вывеў іх у лясісты яр да хаты лесніка, што у патайным месцы трымаў для ганцоў коней. Адсюль гэтыя трое пасланцоў ваяводы і памчаліся з лістом у Менск.

Між тым татары білі ды білі тараном у браму. Як ні моцна была яна акута жалезам і меддзю, але сотні ўдараў прымусілі крышыцца тоўстыя дубовыя дошкі. Завесы, на якіх трымалася брама, пачалі выходзіць з тоўстых шулаў, і нарэшце татарам удалося зрабіць першы пралом. Радасныя крыкі разляглісяў стане нукераў. Але за праломам былі мяшкі з пяском, яны падпіралі дубовую акутую браму. Выцягнуць мяшкі з пяском было немагчыма і таму, што быў замалы яшчэ пралом, і таму, што іншыя мяшкі ціснулі зверху. Пачалі распорваць мяшкі і высыпаць з іх пясок.

Цяпер трэба было чакаць, што татары праз колькі дзён змогуць уварвацца ў Случаск.

Сумна стала на душы ў ваяводы. Стомлены бяссоннымі начамі і бясконцаю хадзьбою то на вежу, то на сцены, Пуцята прысеў адной раніцаю пад клёнам ля сабора, каб адпачыць. Заўважыў, што да яго ідзе маладая стройная жанчына. Падышоўшы, яна ветліва пакланілася і сказала:

— **Я да цябе, баярын-ваявода!**

— Хто такая і што скажаш, галубка? — спытаў Пуцята.

— Я Настася, жонка Лаўрына Мякоты, аднаго з лучнікаў князя. Ведаю ад мужа, што хутка абаронцы зноў стануць біцца насмерць з татарамі... Грукат праклятай татарскай машыны пасяліў у душах усіх вялікі сум, пазбавіў усіх сну і адпачынку. Татараў безліч, а нашых абаронцаў колькі ўбавілася!.. А колькі ёсць яшчэ мужчын і юнакоў, што зусім не ўдзельнічаюць у абароне!.. Баярын-ваявода, а што, каб склікаць іх ды растлумачыць ім, што рыхтуюць татары, калі здолеюць нас! Трэба растлумачыць ім, што дружнаю абаронаю мы можам адбіцца ад ворага!.. Баярын-ваявода! Скажу за сябе і жанчын-мацярэй: калі будзе на тое патрэба, мы станем побач з мужам і братам, каб не паддацца лютаму ворагу!.. Бо лепш смерць, чым здзек і няволя!

Ваявода пры апошніх словах Настасі ўзняўся са свайго месца, падышоў да яе, абняў і, пацалаваўшы ў чало, сказаў:

— Уцешыла ты мяне, галубка Настася! Добрую думку падала мне!.. Зараз жа склічу няўзброеных мужчын!.. Прыходзь і ты з аднамыснымі з табою жанчынамі на гэты сход, скажы і ім сваё гарачае слова!

Настася Мякота пакланілася яму і пайшла, а Пуцята адразу паслаў склікаць на сход тых, хто яшчэ не стаў у рады абаронцаў дзядзінца. Праз нейкі час плошча перад саборам гула ад людзей. На шырокім ганку стаяў ваявода з узначальнікамі княжай дружыны, лучнікаў, былых княжых лоўчых і паляўнічых ды добраахвотнікаў з пасадскіх рамеснікаў.

Настася Мякота сказала да людзей:

— Калі ж мой муж, лучнік Мякота, упадзе забітым ці параненым, я падніму яго самастрэл, каб біць з яго, як і ён, ворагаў. А бачыце, колькі нас, жанчын, гатовых на гэта! Станем усе як адзін на гэты апошні бой!.. Давайце і нам зброю!..

Ваявода назваў тых дружыннікаў, якія ўзначаляць новых добраахвотнікаў, навучаць іх валодаць зброяй. Тут жа са сходу ўсе мужчыны пайшлі на княжы двор, дзе ім выдалі сцягаі, шаломы і зброю.

А між тым у татараў зноў загарэлася машына, і гэта зноў затрымала іх, хаця ўсё было гатова для штур-

му сцен, толькі на гэты раз у іншым месцы. Пуцята заўважыў, што татары аблюбоўваюць новае месца, дзе Бычок упадае ў Случ, каб прымусіць абаронцаў падзяліць свае сілы паміж двума галоўнымі пунктамі абароны і тым аслабіць іх. Але ваявода ўсе свае сілы сабраў ля межаў галоўных удараў татараў.

Прайшло яшчэ трое сутак. Новая машына паспела пашырыць пралом. Пасля поўдня Мусук-тайша і Джэбэ-Багатур аддалі загад пра агульны штурм.

## Апошні бой і збавенне

Мусук-тайша на штурм вежы кінуў лепшыя свае сілы. Калі нукеры рынуліся праз пралом у вежу, лучнікі [illegible] самастрэлаў праз байніцы ў сценах і ў столі сустрэлі іх гібельнымі стрэламі. Калі хто і дабягаў да скразных варот, дык там іх даставалі лучнікі як з самастрэлаў, так і [illegible] простых лукаў.

Як толькі Мусук-тайша даведаўся пра новую затрымку, дык загадаў укаціць юаньскую машыну ў вежу і разбіць вароты. Машыну падкацілі, але таран адно толькі выгнуў шыны варот. Тады тысяцкі, які вёў сваіх людзей у гэты бой, загадаў секчы выгнутыя шыны сякерамі. Нягледзячы на тое, што пры гэтай рабоце гінулі дзесяткі нукераў, усё ж удалося прарваць скразныя вароты. Вораг рынуўся да тыну. Пад хмараю стрэл урусутаў нукеры падалі ля тыну цэлымі гурбамі. А новыя ўсё лезлі і лезлі.

Сышліся тады ўжо біцца ўрукапашную. Мусук-тайша, лічачы, што надышоў рашучы момант, кінуў у вежу яшчэ тысячу нукераў... І ў гэтую якраз пару ззаду абаронцаў нечакана з'явіліся жанчыны з малымі дзецьмі на руках, на чале з Настасяй Мякотай. Настася ўзняла свайго малога хлопчыка і закрычала звонкім голасам:

— Стойце нярушна, родныя: вы ж бароніце родны дом і свае сем'і! Біцеся ж смела, мужы і браты!.. У імя вось іх, нашых дзетак, пераможам ворага!.. Ганіце прэч праклятых!

Азірнуліся абаронцы, убачылі дзетак на руках сваіх жонак і сясцёр і з крыкам: «Бі іх, гадаў! Нішчы ворагаў!..» рынуліся з новаю сілаю на татараў.

Дарэмна Мусук-тайша спрабаваў затрымаць сваіх воінаў: тыя, ахопленыя панікаю, беглі, крычучы:

— Ратуйцеся, урусуты заманілі нас у шайтанаву пастку!..

Мусук-тайша злаваўся, лаяўся, крычаў, пагражаў сваім нукерам, нават біў сваёю нагайкаю тых, што ўцякалі, але нічога не памагала...

Так бясслаўна скончыўся для заваёўнікаў гэты дзень. Увесь вечар і ноч брылі і паўзлі з-пад случаскага дзядзінца параненыя і пакалечаныя пры штурме нукеры.

А на раніцу Мусук-тайша аддаў загад пра далейшы паход тумэна на Захад. Па яго загаду нукеры падпалілі пасад Случаска, які зырка гарэў, бо стаяла вялікая суша. На гэты раз яны кінулі непахаванымі сваіх забітых воінаў, бо, як казалі шаманы, лепш было пакінуць у ахвяру ўрусуцкім злым духам загінуўшых, каб так адчапіцца ад гэтых варожых духаў.

*1967*

# УСУРЫЙСКІ ДРАПЕЖНІК

*З успамінаў земляка*

Са спецыяльнай літаратуры вядома, што на Далёкім Усходзе, па рацэ Усуры, прытоку Амура, вадзілася буйная парода выхадца з Кітайскай Маньчжурыі так званага ўсурыйскага тыгра. У звязку з засяленнем Прымор'я тыгр гэты зараз трапляецца ўжо рэдка, пераважна ў горнай тайзе хрыбта Сіхатэ-Алінь.

Гадоў шэсцьдзесят таму назад усурыйскі драпежнік быў «гразой» краю, і шмат спрактыкаваных паляўнічых, рускіх, карэйцаў і кітайцаў, загінула пры сустрэчы з ім.

Мне ўспамінаюцца два цікавыя выпадкі. Мой сваяк, селянін са Случчыны Мікола Глечык, у пачатку 1890 гадоў адбываў прызыў у адным з драгунскіх палкоў. Іхняя дывізія была перакінута на ахову рубяжу з Кітаем, якраз ва Усурыйскі край. Эскадроны драгунаў былі раскватараваны паўз рубеж па заставах, паміж якімі ішла ў лясістых месцах шырокая прасека. Нагляд на ёй вёўся коннымі раз'ездамі, якія высылаліся з застаў.

Той год стаяла лютая зіма з вялікімі маразамі і багатымі снягамі. Увесь цяжар каравульнай і раз'езнай службы падаў, зразумела, на салдат, унтэр-афіцэраў і вахмістраў. Начальства ж, афіцэрства, нічым або вельмі мала чым занятае, да адурэння рэзалася ў карты, канешне, на грошы і піло гарэлку, тым больш што за нясенне рызыкоўнай вайсковай службы на ўскраіне дзяржавы афіцэры атрымоўвалі павялічанае жалаванне і было ім на што гуляць.

У памятную для Міколы Глечыка ноч ён нёс ка-

равул ля склада баявых прыпасаў. Захінуўшыся ў аўчынны кажух, Глечык хадзіў кругом зямлянкі-склада, але цяжкі і вялікі памерам кажух стамляў вартавога, і ён, каб адпачылі ногі, часта затрымліваўся ля дзвярэй склада, якія трэба было, па загаду, асабліва даглядаць. Каб вінтоўка не вельмі мокла ад снегу, які няспынна ішоў, Глечык узяў яе пад кажух, прыціснуў да сябе.

* * *

Калі праз тры гадзіны разводзяшчы падышоў са зменным вартавым да склада, Глечыка на варце не аказалася. Разводзяшчы даў свісток. Ніхто не адказаў яму. Разводзяшчы дагаварыўся з прыведзеным салдатам, і яны абышлі склад кругом, насустрач адзін другому, старанна аглядаючы навакольную тэрыторыю. Вартавы прапаў. Разводзяшчы тады выстраліў. На ўзнятую ім трывогу прыбеглі ўсе людзі з каравульнага аддзялення і сам вахмістр.

І тут па слядах на снезе ўстанавілі, што Глечыка ўвалок тыгр. Вахмістр пабег у афіцэрскую казарму рапартаваць начальству, чаму ўзнята была трывога. Афіцэрам захацелася «поразмяться»; камандзір эскадрона загадаў як найхутчэй сядлаць патрэбных коней, даць усім ездакам вінтоўкі з патронамі, запаліць тры факелы.

Праз некалькі хвілін каля дваццаці коннікаў памчаліся па слядах звера. Прамчаўшыся пару кіламетраў, пад'ехалі да высокага берага горнай рэчкі. Тут след драпежніка абарваўся. Каб лепей разгледзець сляды яго далей, факелы былі падняты як мага вышэй. І тут заўважылі сярод кустоў нізкага берага рэчкі салдата, які ледзь брыў па глыбокаму снегу. Убачыўшы сваіх, ён узняў руку, вітаючы іх. Тады, прышпорыўшы коней, усе рынуліся ўніз, яму насустрач. Пад'ехалі. Пасыпаліся пытанні да Глечыка:

— Значыць, жывы!

— А ты не паранены?..

— Як гэта сталася з табой?..

— Як бачыце, вашы благародзія, жывы!.. І цэлы!.. Тыгр падкраўся да мяне, калі я стаяў ля дзвярэй склада... Хаваючы вінтоўку ад снегу, я трымаў яе пад ка-

жухом. Тыгр схапіў сваімі зубамі за кажух і затым скінуў яго разам са мною сабе на спіну. І памчаўся... Я пачаў думаць, як аслабаніцца і дастаць вінтоўку для самаабароны... Калі ён затрымаўся перад скокам уніз, я ў момант выцягнуў абедзве рукі з рукавоў кажуха, заціснуў вінтоўку паміж ног і шчасліва выпаў у снег. А ён памчаўся з кажухом далей... Я ж пачаў абдумваць, як мне быць. Упэўніўшыся, што здабыча страчана, звер мог вярнуцца за мною... Я мала спадзяваўся на тое, што здолею з ім справіцца, бо мог прамахнуцца, страляючы... Я разлічваў знайсці дзерава і ратавацца на ім... На маё шчасце, звер затрымаўся, а тут і вы падаспелі...

Тым часам пры высока ўзнятых факелах заўважылі, што на адной з палян, сярод дальніх кустоў, нешта рухаецца, цямнеючы... А паколькі коні трымаліся неспакойна, а некаторыя з іх храплі, было зразумела, што звер блізка, недзе тут.

Рашылі пакараць драпежніка. Раз'ехаўшыся паўкругам, з факельшчыкамі на краях, коннікі накіраваліся ў бок падазронага месца. Трэцяга ж факельшчыка пакінулі з Глечыкам. Хутка ўсе ўбачылі тыгра, які, у гневе, што здабыча знікла, канчаў ужо рваць на кускі пусты кажух.

Паўкруг коннікаў пачаў абступаць звера, усё больш набліжаючыся да яго. Калі паляўнічыя аказаліся на выгаднай для стрэлу пазіцыі, тыгр, а ён рашыў не адступаць перад людзьмі, прысеў і сiгануў на бліжэйшага конніка... Раздалася каманда, грымнуў залп — і драпежнік, пранізаны кулямі ў галаву і грудзі, падскочыў і ўпаў, забіты насмерць.

Пры аглядзе тыгр аказаўся вельмі буйным і магутным зверам, з густой шэрсцю і прыгожай афарбоўкай футра. Вялікі мароз не дазваляў асвежаваць звера там жа на месцы, і яго рашылі везці на заставу, захапіўшы заадно і шмоцце казённага кажуха, як «вещественные доказательства» знішчэння казённага дабра. Коні са страху перад лютым драпежнікам, хоць ужо і нежывым, не даваліся, каб ім да сёдлаў прытарочылі звера. Ледзь здолелі пакласці яго на аднаго ціхмянага салдацкага коніка, ды і той усю дарогу хроп са страху.

Глечык удачна даслужыў сваю ваенную службу і, спазнаўшы тамтэйшы багаты і малалюдны край, пакпа-

піўся на тыя льготы, якія ўрад даваў перасяленцам, рашыў вярнуцца на Усуры з сям'ёй. У роднай вёсцы яго чакала каханая дзяўчына, з якой ён і пабраўся. На Далёкі Усход разам з Міколам Глечыкам і яго маладой жонкай выправіліся тады са Случчыны яшчэ чатыры сям'і. Везлі гэтых перасяленцаў на Прымор'е морам: з Адэсы — кругом Азіі; і землякі нашы, як кажуць, «пабачылі свету». Плылі праз турэцкі Канстанцінопаль, убачылі Егіпет з Суэцкім каналам; на Чырвоным моры спазналі такую гарачыню, якой ніхто ніколі не адчуваў ні да таго, ні потым; наведалі Індыю і порт Сайгон, дзе на плантацыях пасмакавалі салодкія (аж зліпаліся губы) ананасы, бананы, дзівіліся з іх і хвалілі, а потым, памеркаваўшы, знайшлі, што беларускія яблыкі і грушы ўсё ж смачней; нарэшце пабывалі ў японскім порце Нагасака і пасля трохмесячнага падарожжа трапілі ў наш Уладзівасток.

Адтуль перасяленцы выправіліся к возеру Ханка, дзе Глечык перад ад'ездам дадому нагледзеў зайздросную зямельку. Тут ён атрымаў заімку паўз край лесу. Пабудаваў хату і хлявок пры ёй. Побач раскарчаваў з жонкай вялікі агарод, абгарадзіў яго і двор агароджаю з жэрдак.

Адной раніцаю Глечык сек дровы на двары — і раптам пачуў за сваёй спіной трэск у плоце. Азірнуўся — і што ж: вялізарны тыгр, апёршыся пярэднімі лапамі на жэрдку, аглядаў двор...

Глечык, хоць і быў з сякерай у руцэ, аднак кінуўся ў хату, хапіў са сцяны зараджаную вінтоўку і запасныя патроны ў кішэню — ды ў сенцы назад.

А жонка яму кажа:

— Міколка, куды ты?.. Будзем зараз снедаць...

Ён ёй толькі рукою махнуў, не паспеў нават сказаць, што сталася.

Прыадчыніў ён дзверы сенцаў дый глядзіць. А тыгр ужо ля дзвярэй хлява, спрабуе іх адчыніць. Упёрся адной лапай у дзверцы, а другой цапае па круцёлцы, якой яны замыкаліся. Зашчапка тая, калі дзверы прыціснуты, круціцца толькі без канца і зноў прымыкае дзверы. А цялушка Глечыка, двухгодка, якую ён ужо сабе набыў, чуючы смерць ад драпежніка, рыкае трывожна...

Вось рык гэты і ўзяў за сэрца гаспадара.

— Прасунуў я,— апавядаў мне зямляк,— бярданку ў шчыліну паміж вушаком і дзвярыма, узяў галаву звера на мушку і ўдарыў... Упаў тыгр на зямлю ля хлевушка...

А жонка, спалоханая, белая ў твары ад страху, выбегла з хаты ў сенцы дый кажа:

— Ой, Міколка, як ты мяне напалохаў!.. Уся затрымцела! Што такое сталася?..

— Гэта я тыгру-падле за нашу цялушку даў перцу! Чакай, праверу толькі, ці мёртвы ўжо, бо яны, гады, жывучыя, як і ўсе кошкі!.. Не палохайся — я яшчэ раз стрэлю ў яго.

Выйшаў, гляджу — аж звер ляжыць і ў смяротнай корчы лапы яго цепаюцца і выпускаюць кіпці... Прыцэліўся я яму пад вуха — і стрэліў другі раз. Вось тады я і паклікаў жонку:

— Выходзь, Марыська, паглядзі, хто хацеў у нас цялушачку забраць!..

Звер аказаўся вялізны. Аглядаючы яго, Глечык сказаў жонцы:

— Бадай, толькі крыху меншы ад таго, што мяне калісьці з каравула ўвалок!..

*1955*

## СПУЖАЎСЯ... ДУРНЕНЬКІ!..

Сёмка з нецярплівасцю чакаў, калі вернецца з далёкага плавання яго дзядзька Рыгор, штурман-караблявод аднаго з нашых параходаў замежнага гандлю. У сваім апошнім лісце дзядзька напісаў пляменніку, што прывязе яму незвычайны падарунак — прыгожага папугая, птушку такой пароды, якая добра вучыцца чалавечай мове.

І дзядзька Рыгор, як толькі іх карабель прыплыў у прыморскі горад Бразіліі, сапраўды купіў там для Сёмкі маладога папугая з прыгожаю металёваю клеткаю.

З усёй стараннасцю і цярплівасцю марак цяпер пачаў вучыць птушку гаварыць. Любячы яблыкі, арэхі і цукар, здольны малады папугай, як толькі да яго падыходзіў марак, трымаючы ў руках тое, другое ці трэцяе, казаў цяпер яму:

— Дай попку яблычка!.. Дай попку арэшка!.. Дай попку цукуру!

З кожным днём папугай усё лепш гаварыў. Ён ужо ведаў, як трэба вітацца раніцай. І калі марак казаў яму:

— Дзень добры, попка!

Папугай адказваў:

— Дзень добры, Сёма!

Апрача гэтага птушка з асаблівай ахвотай навучылася ад марака высвістваць беларускія народныя танцы — «Юрачку» і «Лявоніху».

А між тым пакуль у Мінску Сёмка нецярпліва ча-

каў дзядзьку Рыгора, карабель, праходзячы Атлантычны акіян, трапіў у шторм. І як старанна ні замацоўваў дзядзька Рыгор клетку, пры вялікай гайданцы папугая іншы раз зрывала з яго металёвай гушкалкі і кідала ў бакі, так што бедная птушка хапалася дзюбай за пруткі клеткі, каб як-небудзь утрымацца на месцы.

А шторму, здавалася, не будзе канца. І занепакоены станам птушкі марак стараўся як найчасцей спускацца з штурманскай будкі ў сваю каюту, каб правядаць папугая.

Застаючы яго ў прыгнечаным стане, дзядзька Рыгор ўсякі раз казаў папугаю:

— Што, попка, спужаўся?.. Спужаўся?..

І падмацоўваючы сілы папугая цукрам, які ён так любіў, марак дадаваў, бадзёра смеючыся:

— Спужаўся, дурненькі!

За тры дні шторму папугай замучыўся ад бясконцай гайданкі карабля, і калі, можа ў які дзесяты раз, марак сказаў збянтэжанай птушцы:

— Спужаўся... дурненькі!..

Папугай адказаў яму тымі ж словамі:

— Спужаўся... дурненькі!..

* * *

І вось мінула ліхая для птушкі пара шторму. Пакуль прыехалі ў Адэсу, здольны папугай ужо добра навучыўся і гаварыць, і насвіставаць танцы.

Па прыбыцці ў Адэсу, пасля здачы грузаў, карабель дзядзькі Рыгора быў пастаўлены на чыстку катлоў і іншы рамонт, а сам дзядзька атрымаў двухтыднёвы адпачынак і прыехаў у Мінск да брата са сваім падарункам пляменніку.

Не было канца радасці Сёмкі, калі дзядзька перадаў у яго рукі клетку з папугаем. Той пачаў паказваць Сёмку і ягоным бацькам усё, чаму навучыўся. Ён і насвістваў танцы, і прасіў цукру, яблыка, арэхаў. І асабліва ён развесяліў Сёмку, калі на прывітанне хлопчыка:

— Дзень добры, попка!

Адказаў яму:

— Дзень добры, Сёмка!

Пагасціўшы ў бацькоў хлопца і паказаўшы яму, як трэба далей вучыць папугая, марак вярнуўся на свой карабель.

Асаблівую дружбу завёў папугай з улюбёнцам Сёмкі і ўсёй сям'і — з сабакам Шэрым, вёрткім фоксам. Пераймаючы голас Сёмкі, папугай клікаў сабаку:

— Шэры, сюды!

Фокс, пачуўшы голас любага яму хлопчыка, кідаўся ў пакой, адкуль чуўся яго голас і дзе стаяла клетка папугая. Упэўніўшыся, што Сёмкі ў пакоі няма, фокс здагадваўся, што папугай яго падмануў, падбягаў да століка з клеткай і, упёршыся ў яго пярэднімі лапамі, брахаў на птушку, а папугай гойдаўся сабе на гушкалцы і задаволена пасвістваў...

І трэба ж было аднойчы стацца такой бядзе. Сёмка з бацькамі сядзеў у пакоі, суседнім з тым, дзе была клетка папугая. Апошні быў у вясёлым настроі, гушкаўся і то насвістваў танцы, то балбатаў усё, што ведаў.

Праз некаторы час раптам пачуўся хрыплы яго крык і хлопанне крыллямі... Усе трое кінуліся ў пакой, дзе быў ён, і бачаць: папугай трапіў галавой і завіс на сваёй шыі ў колцы, за якое падчэплена металёвая гушкалка... Спрабуе стаць на яе, але лапкі саслізгваюцца з вельмі гладкай гушкалкі...

Папугай мог задыхнуцца.

Тата Сёмкі схапіў са стала сынаву лінейку, сунуў яе паміж пруткамі клеткі і падставіў лінейку птушцы пад лапкі.

Папугай, пачуўшы стойкую апору, стаў на яе абедзвюма лапкамі і адразу ж аслабаніў сваю галаву з колца...

Ускочыўшы на гушкалку, ён страсянуўся і нечакана для ўсіх крыкнуў:

— Спужаўся... дурненькі!..

Сёмка, здзіўлены гэтымі словамі птушкі, узрадавана сказаў бацькам:

— Татка, мама, ён жа рады, што выратаваўся!.. Які разумны... Думаў, што загіне, і таму спужаўся!..

Бацькі ж здзівіліся, адкуль папугай ведае гэтыя два новыя словы, якія раптам так дарэчы былі ім ужыты.

Напісалі пра гэта дзядзьку-мараку. А той, успомніўшы свае размовы з папугаем у час лютага шторму, у сваім адказе растлумачыў: «Трапіўшы ў новую для сябе бяду, папугай міжвольна ўспомніў вывучаныя тады ім ад частага ўжывання мною гэтых два словы:

— Спужаўся... дурненькі!..»

# ПАНСКІ ГАЙДУК

*Гістарычная хроніка ў 5 дзеях, з канца XVI веку (1592—1595 гг.) на Беларусі — з часоў народных паўстанняў*

## ЗАМЕСТ ПРАДМОВЫ

Другая палова XVI веку памятна беларускім працоўным масам. Эканамічнае жыццё ў XVI веку на Беларусі перабудоўвалася: у другой палове гэтага сталецця ўлада зямельных магнатаў Вялікага княства Літоўскага зрабіла ўсё, каб даць абшарнікам і шляхце поўную магчымасць выціскаць з прыгоннага сялянства як найбольш выгад, бо на змену натуральнай гаспадарцы прыйшла грашовая. Зямля атрымала для землеўласнікаў іншую вартасць, таму што збожжа — і асабліва пшаніца — з Беларусі і Украіны знайшлі добрую сабе дарогу за рубеж, а талеры й дукаты пацяклі ў кішэні заможных станаў. Сялянства ўбачыла для сябе чорныя дні бязлітаснай эксплуатацыі і стала тады праўдзіва адно толькі «двухногім быдлам» свайго панства.

І побач з панамі-землеўласнікамі на кару «простага народа» прымасціліся духоўнікі абедзвюх хрысціянскіх, панаваўшых на Беларусі цэркваў, вёўшых паміж сабою змаганне, нібыта з-за «духоўных інтарэсаў» сваёй царквы, фактычна ж з-за тае долі прыбыткаў, якія здзірала царква або касцёл з таго ж прыгоннага мужыка.

Дык зразумела, чаму адгукнулася так ахвоча ў канцы XVI веку беларускае сялянства і чаму так дружна падтрымала яно той рух, які, распачаўшыся на поўдні, з паўстаўшай Украіны прыйшоў і да нас, на Беларусь і ў Галіччыну, сустрэўшы таксама падтрыманне і сярод польскага прыгоннага сялянства. Пачынала ўжо выяўляць сябе і процірэлігійная думка «простага» люду, вельмі, праўда, у невыразных формах.

«Панскі гайдук» адчыняе заслону з мінулага Беларусі ў апошнія гады XVI веку; на суд чытача і слухача п'есы аўтар выносіць сваю працу, творачы яе сярод пякучай будзённай работы нашых вялікіх дзён замацавання ўлады працоўных на ўсходніх частках Беларусі ў той час, калі працоўныя масы Заходняй Беларусі ўсё яшчэ стогнуць пад тым самым прыцiскам панскага двара і рэлігійнага чмуту як і ў XVI в., аднавіўшым у XX веку толькі свае формы.

## Дзейныя асобы:

Княгіня Раіна Прушынская-Горская — уладарка Заўшыц і Вызны; удава па 4 мужу; асоба 33—35 гадоў, ганарыстая, тэмпераментная магнатка; прыгожая, жвавая, чорнага воласу.

Пані Даміцэля Магільніцкая — яе прыбліжоная і ахмістрыня; таксама ўдава, асоба 38—40 гадоў; легкадумная весялуха і распусніца, светлага воласу.

Пан Тадэвуш Чарнецкі — намеснік усіх двароў княгіні; стары кавалер за 45 гадоў; хітры і жорсткі адміністратар; сыты, з чэравам; з сівымі ўжо скронямі.

Пан Ян Рымша — маршалак дворны ў княгіні; удавец за 50 гадоў, аматар павесяліцца і выпіць; дабрадушны, з сівымі ўжо валасамі.

Пан Мацей Зубкоўскі — дробны ганарлівы шляхціц з Аранава (паміж Вызнаю і Старобінам); гадоў 40 асоба; тыповы польскі шляхціц, без адвагі.

Пані Зубкоўская — яго жонка; асоба гадоў 30, недалёкая розумам, высока цэніць мужа.

Ксёндз Ігнацы Яхіда — духоўнік княгіні; каля 45 гадоў, ліслівы, кабеталюбівы і святоша на словах і пры людзях.

Матка Міхаліна Геднарская — абатэса жаночага кляштара на Морачы; гадоў пад 60, невялічкая ростам старая манашка, фанатычка, якой усе баяцца.

Вікця — манашка кляштара, жвавая, гадоў 25 дзяўчына.

Францусь Костка — княгінін гайдук, з дробнае шляхты, статны, прыгожы, здаровы хлопец, гадоў 28—30.

Ясуп — татарын, конюх княгіні, гадоў за 35; нямы.

Шыман Яцкялевіч — яўрэй-карчмар на Вызнянскім гасцінцы ля Заўшыц; гадоў за 50, ужо з сівізною, якая павялічылася к 1595 г., начытаны, пісьменны і крыху філосаф.

Пэся — яго жонка, гадоў за 45; недалёкая, палахлівая, змучаная жыццём.

Хася і Абрумул — дзеці Шымана; дачка гадоў 25, прыгожая, смелая; сын гадоў 18—19; увесь у матку; такі ж палахлівы і недалёкі.

Паўлюк Байстручэня — вясковы хлопец 25—26 гадоў; падданы княгіні з вёскі Падлессе, што на краі Марачанскае пушчы; гайдук княгіні ў 1592—1593 гг.; у 1595 г. атаман Байструк, падручны Налівайкі. Статны, здаровы, адважны, удалы хлопец.

Мікіта Цыга — конюх княгіні, гадоў 22—23. Выхаваны ў Заўшыцкім двары з цыганскага кінутага дзіцяці. Чорны, як жук, жвавы, вясёлы, таварыскі. У 1595 г. есаул і атаман Байструка.

Ульяна Карабчанка — вясковая дзяўчына 21—22 г.; падданая княгіні з Падлесся, што ля Морачы; дачка заможнага селяніна; прыгожая, ціхая; выдатная танцорка.

Стэфа — манашка кляштара, малодшая сястра Ульяны Карабчанкі, адменная ад яе толькі валасамі, але незвычайна падобная на сястру і голасам і тварам.

Манашак без імя — ні то манах, ні то паслушнік; чалавек за 40 гадоў; валацуга і прапойца; агітатар праваслаўя ў тыя часы.

Сымон — палясоўшчык княгіні, селянін гадоў 35.

Аксіння (Сымоніха) — яго жонка, гадоў за 30.

Нічыпар — бацька Сымона, стары палясоўшчык Прушынскіх; пад 80 гадоў.

Фурман П. Зубкоўскага — селянін гадоў 40.

Пятрусь — сын Сымонаў, хлопчык гадоў 11.

Апанас — казачы сотнік, прыгожы загарэлы запарожац, гадоў 40.

Гайдамацкі сотнік — невядомых гадоў чалавек.

Мустафа-Бей — сотнік крымскае вольніцы; гадоў за 35; худы, тонкі, як уюн; чорны.

Трое праезджых шляхціцаў.

Манашкі кляштара.

Шляхта — уцекачы ў Морач, у кляштар.

Запарожцы, гайдамакі, крымцы і беларускія сяляне-паўстанцы.

Гайдукі і слугі княгіні і шляхты.

Пакаёвыя дзяўчаты з Заўшыцкага палаца.

Сяляне, сялянкі і моладзь з Заўшыц.

Дзяды і бабы стуль жа.

Дзея I адбываецца ўвосень 1592 г. у Заўшыцах ля мястэчка Вызны, што на Случчыне.

Дзея II — вясною 1593 г., там жа.

Дзея III — у верасні таго ж года, таксама там.

Дзея IV — праз два гады (улетку 1595 г.) на Вызнянскім шляху ля Заўшыц.

Дзея V — тады ж, але ўжо каля Марачанскае пушчы, на парозе Палесся.

## ДЗЕЯ I

## Ад сахі ў палац

Задні план сцэны заняты: налева — больш, чым да сярэдзіны,— тылавым фасадам княжацкага палаца (у стылі будынкаў XVI веку на Беларусі), з высокім ганкам-тэрасаю, сходы якога спускаюцца ў сад; направа — брамаю ў сад і агароджаю апошняга, за якімі відаць некаторыя іншыя будынкі княжацкага двара. Проці ганка-тэрасы, усю сярэдзіну сцэны займае шырокі прагал, які з абодвух бакоў абступілі высокія ліпы.

Калі заслона паднята, за брамаю натоўп сялян, якіх гайдук, што стаіць на старожы, не пускае ў сад. Некалькі слуг ставяць на козлікі бочкі з пітвом, выкочваючы іх з клеці палаца з-пад ганка. На тэрасе таксама рух: пакаёвыя дзяўчаты ставяць лаву, пакрываючы яе дыванам, а перад ёю крэсла для княгіні, ад якога ўніз па сходах яны высцілаюць вузкі дыван-дарожку.

Гайдук *(што ля брамы)*. Ото бязглузды! Выразна ж казаў вам: пан намеснік даў загад пусціць у сад адну толькі моладзь, што вітацьме княгіню! А таму няма чаго паднімаць гоман і спрэчкі! Нікога я з вас у сад не пушчу!..

Галасы сялян *(гнеўныя)*:

— А мы што ж для пана намесніка хіба не людзі? Не такія ж падданыя княгіні?!

— Чым мы горшыя ад моладзі?..

— Сёння і нашае свята!..

— Мы тта хіба не працавалі, не высіляліся на князёўскіх палях?!

Гайдук. З моладдзю іншая справа!.. Ім загадалі добра вымыцца... апрануцца ў святочныя вопраткі...

Голас селяніна *(перабівае)*. Да мы ўжо ў полі ўласным потам мыліся!

Гайдук *(рагочучы)*. Ось таму вас у сад і не пускаюць, што вы... потам мыліся!.. Нат адсюль чуваць, як ад вас смярдзіць!..

Галасы сялян *(гнеўныя)*:

— Як гаруеш над пшанічкаю панскаю, дык ты, хаме, смярдзіш! А пшанічка вось, што вырасла нашаю мазольнай працаю — не смярдзіць, нябось, панам?!

— Дзіва ж, калі за яе гандляры талерамі ды дукатамі плацяць!..

— Такая вось нам аддзяка за крывавы пот!..

Кабета *(што стаіць спераду натоўпу).* Чаму ж гэта панам наша сястра не смярдзіць, калі вы яе...

Гайдук *(апошняму мужчыне).* Ну, ты там, галадзёр!.. Не мялі языком, калі не хочаш атрымаць бізуноў на стайні! А то й перад усім сходам — каб памяталі ўсе гады, як трымаць язык за зубамі! *(Да кабеты.)* Ты ж, старая патарчака, супакойся!.. Цябе, трухлявую калоду, нават чорт з балота не зачэпіць, не то каб захацеў пакаштаваць на смак!.. Ха-ха-ха!

Галасы сялян *(гнеўныя)*:

— Сам ты гад! Яшчэ скаліцца, сабачы сын, бізуном пагражае!..

— А хіба ж ваш брат, дворны, з сытасці, з гультайства, не паганіць нашых жанчын, не гвалтуе дзевак, а то й старых баб, як гэтая?!.

Гайдук *(са злосці).* А псямаць ваша!.. Няхай вось толькі выйдзе з палаца пан Чарнецкі — я скажу яму, хто тут з вас народ бунтуе!.. Прэч адсюль, быдлё, не то я... *(Замахваецца выхапленай з-за пояса нагайкай; натоўп паспешна падаецца ад брамы.)*

Голас з натоўпу *(пагрозна).* Пачакай! Папомнім мы вам сабачую службу!.. Каты!..

Тым часам здалёк, усё набліжаючыся, чуцён спеў дзяўчат і хлапцоў. Пяюць адну з дажынкавых песень:

У полі пшаніца
Каласочкі кліча,
Коласам махае,
Голасам гукае:
Хоць мяне сажніце,
Хоць дзічэць пусціце!..
Не магу стаяці,
Коласу дзяржаці!..

Слугі ў садзе і на ганку канчаюць падрыхтаванні: на сталах пастаўлены закускі і каўшы для піва; у баку ад іх, пад дрэвам,— лаўка для музыкаў.

Праз хвілю на ганак выходзяць: княгіня Раіна Прушынская-Горская, пані Даміцэля, ксёндз Ігнацы Яхіда, наместнік двароў княжацкіх пан Чарнецкі і маршалак дворны пан Рымша.

Чарнецкі *(ідучы блізка каля княгіні).* З тым большаю ахвотаю рыхтаваў я гэтыя дажынкі, яснавяльможная пані-княгіня, што хацеў пазабавіць вас песняю і скокамі!.. Я загадаў, каб прыйшлі лепшыя

танцоры і спевакі з вёсак, што выклікаў я на пшанічную талаку!.. *(Здымае шапку і нізка кланяецца.)*

Княгіня *(маўкліва-сумная)*. Добра! Дзякую пану! *(Як бы пра сябе.)* Але што мне ўсё гэта!.. Як хворая тая: нішто не цешыць!.. *(Да Даміцэлі.)* Якісьці несупакой, незадавальненне!.. І сёння, як учора, як наогул усе апошнія дні!..

Даміцэля *(упаўголаса ёй)*. О, пані ж Раіна ведае, што значыць жыць удавою!.. *(Нагінаючыся да вуха княгіні.)* Кахання, кахання нам з вамі трэба, найяснейшая!..

Кс. Яхіда *(набліжаючыся да княгіні; лашчавым голасам духоўніка)*. Больш малітвы перад сном — і міласлівы збаўца пашле вашай светласці супакойны сон!.. Больш малітвы, устаўшы з пасцелі,— і неба дасць найяснейшай пані поўны радасцяў і ўцехі дзень!.. Так вучаць нас святыя айцы нашага касцёла!.. *(Пад канец складвае рукі далонямі, як на малітву.)*

Даміцэля *(з вясёлаю ўсмешкаю, гледзячы на яго)*. О, ойча Ігнацы!.. Яе зацна-мосць, мне ся здаецца, мяла праводзіць часу ў сваёй капліцы, але ў гады яснейшай пані ці ж гэта адно можа даць поўнасць жыцця?!. *(Іграючы вачыма і наблізіўшы вусны да вуха духоўніка.)* Мы ж не манашкі, пане Ігнацы, і ў нашыя гады спадзяёмся яшчэ і на водгукі сэрца!.. Як вы гэтага не разумееце?!.

Княгіня *(стоячы ля балясін ганка, заўважае гоман ізноў згуртаваўшыхся ля брамы сялян)*. Што такое?.. Пане Тадэвуш, даведайцеся, калі ласка, што там дзеецца!..

Чарнецкі *(з павагаю)*. Слухаю, ваша мосць!

Даміцэля *(падыходзячы і становячыся побач)*. Які, аднак, пан Фэліберт няўдзячны! Ваша мосць прэзентавала для яго дзічыну, а ён не візітаваў нават, каб аддзякаваць ясную паню за ўвагу!..

Княгіня *(у задуме)*. Што ж!.. Пан Фэліберт стомлены доўгім гасцяваннем у Кракаве...

Даміцэля *(упаўголаса, смеючыся)*. Не так Кракавам, кажуць, стомлены, як кракавянкамі! Апроч таго, яшчэ гульнёю ў косці ды картамі. Кажуць, ізноў зазываў да сябе карчмара, каб той у Навагрудку дастаў яму грошай хоць пад вялікі працэнт!..

Княгіня *(непарушная)*. Мяне гэта зусім больш

не цікавіць!.. *(Стаіць задуманая, гледзячы перад сабою ў сад.)*

Д а м і ц э л я *(ціха).* Пані Раіна даўно ужо не была такая!.. Так нельга!.. *(Адыходзіць і паціху гаворыць з ксяндзом.)*

Адказаўшы на загад княгіні: «Слухаю», пан Чарнецкі жвава збягае з ганка і накіроўваецца да брамы. Пры яго з'яве гоман натоўпу сялян заціхае і чуваць выразна спеў жней, якія ўсё бліжэй падыходзяць.

Каціўся вяночак з поля,
Ды прасіўся ён да пакоя:
Пусці ж, пані, да пакою,
Бо я ў полі настаяўся,
Буйных ветраў наслухаўся,
Дробным дажджом намачыўся.

Г а й д у к *(да пана Чарнецкага, які падыходзіць).* Старыя тут сабраліся... Дамагаюццца ў сад... лаюцца... пагражаюць!..

Ч а р н е ц к і *(здушаным голасам, каб не чуваць было яго на ганку).* Па-гра-жа-юць?! Хто пагражае? *(Выскачыўшы за браму, выхоплівае з-за пояса сваю куцую нагайку.)* А, хам'ё, псякрэў!.. Нагая захацелі?!

Г а л а с ы с я л я н *(натоўп падаецца крыху назад; нізкія паклоны)*:

— Просім, пане, міласці вашае: дазволіць і нам на дажынкі... перад яе, княгініны, ясны вочы!..

— І мы ж, паночку, жалі, і вазілі, і прыбіралі з князёўскага поля!..

Ч а р н е ц к і *(памахваючы нагаём над схіленымі галовамі).* Нікому... апрача моладзі!.. Быў мой такі загад, і такім ён застанецца! Чуеце?!

Г а л а с ы с я л я н:

— Хіба ж мы не такія, як і моладзь, князёўскія людзі??

— Будзь ласкаў, пане!

Ч а р н е ц к і *(гневаючыся).* Вы думаеце, я забыў, як леташнім годам вы перапіліся тут ды палезлі ў палац са скаргамі?! Хто папрабуе з вас старожы пагражаць альбо лаяцца — таму я ўласнаручна скуру спушчу! А, паганцы! Распусцілі вас вельмі! Сцеражыцеся!.. Бо мая рука заўсёды проці шэрсці гладзіць! Прэч, лайдаччо, адсюль! І як найхутчэй!.. *(Яму мойчкі кланяюцца і з уздыхамі адыходзяць.)*

Чарнецкі *(да гайдука).* Не пускаць гэтых гультаёў на вочы пані княгіні!.. Не то — памятай!..

Гайдук *(жвава).* Слухаю, пане наменік!

Яшчэ лепш чуцён падыходзячы хор. Па знаку дворнага маршалка пана Рымшы княгіня, а за ёю і другія займаюць месцы. Пані Даміцэля сядае побач з ксяндзом на лаве.

Чарнецкі *(падышоўшы, з уклонам).* Гэта старыя дамагаліся, каб гайдук пусціў іх у сад...

Княгіня *(кепска яго слухаючы; задуманая).* Так, так!.. Дзякую, пане Тадэвуш!.. *(Праз хвіліну, як бы ачнуўшыся.)* Чуеце? Добра пяюць!.. *(Да п. Яна Рымшы.)* Пане Яне, а ў вас усё нарыхтавана?

Рымша *(устаўшы з лавы, з паклонам).* Так, ясная пані, нагатавалі і мёду, і піва, і бражкі!.. Справадзілі музык... Спадзяюся, што і моладзі і ўсім нам будзе вясёла!..

Даміцэля *(вясёла, з усмешкаю).* Вы так запэўняеце нас, што я маю ўжо хэнць прайсціся з панам у танец!..

Княгіня *(азірнуўшыся на яе, весела ўжо).* Пакінь мне пана Яна! Я прыпамінаю, як летась на нашых дажынках пан Ян ну проста-такі пёркам лётаў са мною!.. Я хачу з панам Янам танцаваць!.. *(Да пана Чарнецкага.)* А што, танцоры з вёсак гэты раз тыя ж самыя?..

Чарнецкі *(устаўшы, уважна).* Я, ясная панечка, падбаў аб гэтым!.. Будуць, між іншым, з нашага Падлесся, што на Морачы... Стуль адна пара асабліва ўдалая: Паўлюк — зух-хлапец, агонь у танцы і прыгожая дзяўчына Ульяна, першая якраз жняя дажынак нашых!..

Гайдук *(ля брамы, адганючы старых).* Прэч, вы!.. Дарогу!..

Чарнецкі. Ужо ідуць!

Хор моладзі ўваходзіць з песняю ў сад. Жаночая частка хору пяе:

Ды стань жа, княгіня, на ганачку,
Ды выкаці бочку піва, а другую мёду,
Трактуй хутчэй жнеек і вядзі бяседу!..
Бо ў нас сёння вайна была:
Мы ўсё поле зваявалі,
пшаніцу дажалі...

Прымай жа залато дабро
ды ў сваё гумно!..

Мужчынская частка хору за імі ўслед:

Проша ж, жнеі, ў маю хатку!
У маёй хатцы ўсё ў парадку:
Сталы накрыты, кубкі наліты,
Мае тыя кубкі залатыя,
Півам-мёдам налітыя!..
Налівала ж кубкі сама наша пані...
Яна жнеек даўно ўжо чакала,
Пітва без меры нам нагатавала...

Падышоўшы да ганка, хор затрымліваецца. Прыгажэйшая з жней, Ульяна Карабчанка, з вянком на галаве і пышным снапом пшаніцы ў руках, з дзвюма другімі жнеямі, якія маюць на галаве вянкі таксама, паднімаюцца на ганак пад спеў такой дажынкавай песні:

Ды зялёны бор, зялён
над усімі барамі,—
Ды слаўна наша княгіня, слаўна
над усімі панямі...
Зжатым у полі снопам
цябе мы вітаем!
Вянком гэтым чэсцім,
ім цябе вянчаем!

Пры словах: «снапом... вітаем» Ульяна перадае пані-княгіні сноп, а атрымаўшы ад гаспадыні хлеб-соль, перадае яго першаму жанцоў — Паўлюку, які пазней ставіць яго пасярэдзіне стала з закускамі. Дзяўчына пры гэтым нараспеў кажа:

Стары й малады хлеб сустракаліся,
Адзін з другім так віталіся:

Хлапец дадае далей, ёй услед:

Ось мне, мабыць, ўжо канец прыйшоў! —
Не спяшайся ж, браток, ты мне
месца сступацць!..
Запрабуюць мяне, цябе ж доўга
пануць даядаць!

Калі пяюць: «вянком... чэсьцім... вянчаем», Ульяна, зняўшы са сваёй галавы пышны вянок, ускладае яго на галаву пані-княгіні і, пакланіўшыся, адыходзіць. Левая і правая дружкі пазменна падбліжаюцца да княгіні, якая, зняўшы з галавы вянкі, ускладае адзін з іх на галаву намесніка, а другі на Ульяну.

Калі гэтая цырымонія адбылася, дзяўчаты зыходзяць уніз, княгіня ж устае з крэсла і дзякуе.

Усе. З дажынкамі, пані-гаспадыня!

Княгіня. Дзякую вам, працаўнічкі мае старанныя, за тое, што скончылі ў полі збожжа жаць, за тое, што багатым снапом мяне адарылі, вянком з каласкоў-кветак галаву маю пакрылі! Хай жа і вам на вашых палетках бог ураджай дасць сабраць, каб усе мы і сыты і здаровы былі!..— А цяперака вас патрактуюць мёдам, півам... Спявайце ж сабе песні, весяліцеся, цешцеся скокамі, каб і я, на вас гледзячы, сёння павесялілася!.. *(Садзіцца.)*

Рымша *(крычыць грамадзе).* Дзяўчатам — направа — мёд! Хлапцом — налева — брага! А для ўсіх — піва... вось, у тых бочках!..

Моладзь з вясёлым гоманам накіроўваецца да бочак, напаўняе ўзятыя са стала каўшы. Падыходзяць ізноў да ганка. Пан Рымша падае княгіні на тацы кубак венгерскага віна.

Паўлюк *(падняўшы коўш, прагалашае).* За вашае, яснай светласці, здароўе! Зычым вам быць здаровымі і вясёлымі, новых ураджаяў каб дачакаць, сваіх людзей не забываць і вясёлыя заўсёды дажынкі спраўляць!.. *(Кланяецца і п'е.)*

Ульяна *(падняўшы свой каўшэц).* Вяльможнай пані княгіні-гаспадыні зычым светлай радасці ў жыцці! *(Кланяецца і п'е.)*

Іншыя, згуртаваўшыся перад ганкам, чакаюць з поўнымі каўшамі ў руках.

Княгіня *(устаўшы з крэсла і падняўшы свой кубак).* Дзякую ж вам шчыра, жанцы мае і жнейкі! Дай божа і вам за год даждаць, каб з новаю збажынаю мяне вітаць! *(П'е ўвесь кубак, пакідаючы ў ім крыху.)* Віват жа новаму хлебу! *(Выплёсквае астачу высока ўгору; тое ж робяць, выпіўшы, і іншыя.)*

Моладзь пяе: «Слава княгіні нашай! Слава!» Дудар і цымбалісты ладзяць тым часам свае інструменты. На прывітальную прыпеўку людзей княгіня, седзячы ў крэсле, удзячна ківае галавою. Затым зварочвае ўвагу на Паўлюка, доўга ў яго ўглядаецца, штосьці шэпча Даміцэлі на вуха, на што тая згодна ківае галавою. Абедзве цікавяцца Паўлюком, прычым твар княгіні пачынае станавіцца ўсё больш вясёлым. Між тым музыкі ўжо падрыхтаваліся і па знаку п. Рымшы ўцялі «Лявоніху». Паўлюк падхоплівае Ульяну, за імі пускаюцца іншыя пары, і ўся прагаліна саду ажывае ад танцуючых. За «Лявоніхаю» іграюць «Мяцеліцу».

Тыя ці іншыя ▪ танцуючых часамі выходзяць з круга і падмацоўваюцца ля бочак, закусваючы потым ля стала. Паўлюк і Ульяна весяляцца больш за іншых.

На ганку слугі абносяць він<br>ом панства. Княгіня вясёла гамоніць з п. Даміцэляй, смяецца. Урэшце яны спускаюцца з ганка. За імі п. п. Чарнецкі і Рымша. Апошні дае знак музыкам і, калі тыя сціхлі, прагалашае.

**Рымша.** Ну, цяпер, музыкі, «Лявоніху» для яе міласці, пані княгіні!

Музыкі іграюць гэты танец. Княгіня з п. Рымшаю, Даміцэля з Чарнецкім і таксама зазваныя імі з тэрасы гайдук і адна з пакаёвых дзяўчат скачуць «Лявоніху».

Прайшоўшы круг, княгіня зварочваецца вясёла да хлапцоў і дзяўчат, якія стаяць і глядзяць, але не танцуюць.

**Княгіня.** Што ж стаіцё?.. За намі!..

Некалькі пар далучаюцца. Паўлюк з Ульянаю не танцуюць, аб чымсьці паміж сабою гамоняць.

**Паўлюк.** Я ў першы раз бачу княгіню... Якая ж, аднак, яна вясёлая!.. Што б там ні казалі пра яе людзі, я пэўны, што за ёю сялянам лёгка б жылося, калі б не кат гэты, яе наменснік!..

**Ульяна.** Ну што з таго, што яна й вясёлая або добрая, раз не цікавіцца, кажуць, зусім людзьмі сваімі... іхняю доляю!..

**Паўлюк** *(бачачы, што княгіня наближаецца да іх).* Ціха!.. Ідзе сама да нас!..

Княгіня тым часам заўважае, што Паўлюк усё яшчэ стаіць і не танцуе, адпускае пана Рымшу і падыходзіць да Паўлюка.

**Княгіня** *(весела).* Як цябе, хлопча, завуць?

**Паўлюк** *(кланяючыся).* Паўлюк Байстручэня, ваша мосць!

**Княгіня.** Здаецца, з Падлесся?

**Паўлюк.** Так, ваша мосць!.. З Падлесся, што на Морачы... Прыехалі на пшанічную талаку...

**Княгіня.** Мне ўжо казалі, што лічышся лепшым танцорам!.. І праўда! Танцуеш ты добра!..

Музыкі, па патрабаванню п. Рымшы, іграюць ужо «Юрачку».

**Княгіня.** Ну, давай пройдземся з табою ў танцы!

Пан Рымша танцуе з п. Даміцэляй. Чарнецкі падняўся на ганак. Княгіня, танцуючы, нешта весела гаворыць і штосьці пытае ў Паўлюка. Ульяна стаіць адна і, бачачы Паўлюка ў танцы з княгіняю, робіцца нейкая сумная, як бы штось прадчувае. Прайшоўшыся некалькі разоў, княгіня адпускае Паўлюка і па-

дае знак прынесці ёй на тэрасу крэсла, налева, пад ліпу. Чарнецкі бярэ крэсла, п. Рымша ідзе з тацаю, на якой стаіць поўны віном кубак. Княгіня садзіцца, адпівае з кубка і сочыць за Паўлюком. Танец канчаецца. Усе размяшчаюцца ля бочак і стала з закускамі. Намеснік і маршалак гавораць з паняю, якая не-не ды паглядвае на Паўлюка, які адышоў з Ульянаю ўбок.

Ульяна. Аб чым гэта з ёю гаварыў?

Паўлюк. Так, драбяза!.. Пыталася, як жывём мы ў Падлессі...

Ульяна *(засмучана, трывожна)*. Нешта сама апавядала... смяялася...

Паўлюк. Казала, што любіць вясёлых, танцы...

Ульяна *(злосная крыху, укорліва)*. О, наша княгіня любіць весяліцца! Праўду яна казала, але ж... ад яе гэтага вяселля іншым, а асабліва яе падданым слёзы ліць прыходзіцца!.. Казалі людзі пра яе вясёласці!..

Дзяўчаты *(падбегшы)*. Ульянка, хадзі! Што мы табе пакажам!.. *(Падхопліваюць яе і ўтрох адбягаюць убок, туды, дзе частка хлопцаў і дзяўчат згуртаваліся каля стала з закускамі і чагосьці смяюцца. Паўлюк прылучаецца да хлопцаў, што стаяць ля бочкі з бражкаю.)*

Двое хлопцаў *(праходзячы бокам прагалу)*. Кажу табе, заглядаецца ўжо на гэтага падлясенскага хлопца!

— Ды кінь ты!

— Ну, далібог жа! Ты вось пасачы сам за ёю, непрыкметна!.. Я, браце, шмат чуў пра яе дзівацтвы!.. Без мужчыны, кажуць, доўга не мо...

— Мала што брэшуць бабы!..

— Кажу табе праўду! Ды ты хіба не чуў пра конюха-татарына... што павесіўся тры гады назад?!

— А ты верыш, што з-за гэтага павесіўся...

— Казалі ж людзі!..

— Казалі, казалі, а вось такія, як ты на хвасце сваім, сарочым, разносяць!..

Тым часам да княгіні падыходзіць п. Даміцэля.

Княгіня *(упаўголаса)*. Ведаеш, Даміцюся, хлопец гэты мне ўсё больш падабаецца!..

Даміцэля *(усміхаючыся)*. А так! Прыгожы, статны!.. Удалы!.. Кажуць, вельмі смелы: на мядзведзя зімою адзін з ражном ходзіць!..

**Княгіня** *(як бы пра сябе)*. Такіх нераспушчаных не сустрэнеш сярод нашае шляхты!.. Не кепскі з яго выйшаў бы гайдук?

**Даміцэля** *(усміхнуўшыся)*. Так, ваша мосць! Гайдуком бы ён стаў добрым!.. Але...

**Княгіня** *(дапытліва на яе глянуўшы)*. Але... што?

**Даміцэля**. Але... як жа то?.. Ці выпадае... з мужыком... да двара вашае светласці браць? Мне ся здаецца, пані Раіна магла б любога з акалічнае шляхты ў гайдукі...

**Княгіня** *(запаліўшыся, горача)*. Якое глупства!.. Хто мне ў гэтым суддзя?.. Суседняе магнацтва даўно ўжо (апроч дзвюх-трох асоб... дый-то мужчын!)... забыла да нашых Заўшыц дарогу!.. Як і я да іх!.. З кім жа мне лічыцца ў гэтым, Даміцэля? Можа, з панам Фэлібертам?..

**Даміцэля** *(жвава)*. О, хаця ж бы і з ім!.. Пані Раіна ведае, як ён...

**Княгіня** *(настойна, з пагардаю)*. Пані Раіна,.. ведае... чаго варты ўсялякія гэтыя... сусветныя валацугі!..

**Даміцэля** *(укорліва)*. Пані Раіна!.. О! Пан Фэліберт такі выхаваны, далікатны, прыгожы!..

**Княгіня** *(з дражлівасцю)*. І ўсё ж такі... валацуга... якому хопіць тутэйшых шляхцянак... пасля красуль з Кракава!.. Такому... ветрагону... ха-ха-ха! — які ледзь умее ездзіць на кані... дарога да мяне не лёгкая!.. Гэтакія не ў маім гусце!..

**Даміцэля** *(паціху, хітрыкам)*. Але ж пані Раіна... лічыла патрэбным пасылаць дзічыну!..

**Княгіня** *(смеючыся)*. Гэта так толькі... дзеля забавы!.. Ад нуды!.. Ха-ха-ха!..

**Даміцэля** *(смеючыся)*. Так-то яно, так!.. Але ж яго... Паўлюка... можна было б...

**Княгіня** *(перабіваючы)*. Не! Я лічу, што гайдуком ён стане гожым... Пакліч мне яго!..

Даміцэля падзывае знакам рукі Паўлюка, які, адышоўшы ад хлопцаў, затрымаўся якраз блізка.

Паўлюк, заўважыўшы знак Даміцэлі, жвава падыходзіць.

**Паўлюк** *(з уклонам)*. Да паслуг вашае мосці!

**Княгіня** *(угледаючыся ў яго, прыветна)*. Вось

што, Паўлюк!.. даволі табе ў Падлессі за сахою хадзіць ды з марачанскімі мядзведзямі побач жыць!.. Згадзіўся б ты служыць гайдуком у мяне?.. Пры палацы жыць... Сцерагчы-бараніць мяне, а іншы раз уцешыць... бо й танцор ты ўдалы?.. Ну як?.. Згадзіўся б?..

Паўлюк *(кланяючыся ў пояс)*. Як вашай яснай міласці воля будзе!.. *(Задумваючыся крыху.)* Толькі вось не ведаю, як быць з маткаю!.. Адзін я ў яе... Без мяне ў падсуседзях у бядноце загіне!..

Княгіня *(задаволена)*. Значыцца, згодзен!.. Аб матцы ж не клапаціся!.. Я аб ёй падбаю... *(Да п. Рымшы, які ў гэты момант да яе набліжаецца.)* Пане Яне!

Рымша *(жвава падышоўшы)*. Слухаю, пані княгіня!

Княгіня *(паважна і ганарыста)*. Вось перад вамі мой новы гайдук! *(Ківае галавою на Паўлюка.)* Зараз жа выдаць яму належную прыгожую вопратку!.. Хай тут яшчэ, на народзе, пакрасуецца ў ёй!.. Зразумелі?

Рымша *(здзіўлена паглядаючы на п. Даміцэлю, якая стаіць за крэслам ужо з паважнаю мінаю)*. Гайдук?.. Зараз жа?

Княгіня *(глянуўшы на яго)*. Такая мая ў тым воля!..

Рымша *(перш з роздумам)*. Слухаю, ваша мосць!.. *(Да Паўлюка.)* Хадзем!

Пераходзяць прагаліну паміж людзей. Моладзь выпадкам не зварочвае ўвагі. Княгіня і Даміцэля маўчаць. Ульяна з прыяцелькамі ў гэты момант выдзяляецца ад моладзі, праходзіць недалёка. Калі яна глянула ў бок княгіні, тая клікнула яе да сябе.

Княгіня *(да Даміцэлі)*. Скажы, каханенькая, каб далі мне яшчэ венгерскага! *(Да падышоўшай Ульяны, застаўшыся з ёю адна.)* Цябе Ульянаю, здаецца завуць?

Ульяна *(кланяючыся)*. Але, ясная панечка! Ульянаю!..

Княгіня *(разглядаючы яе)*. З Падлесся, што на Морачы?

Ульяна *(уважна)*. Стуль, матачка-княгіня!

Княгіня. Бацьку, матку, братоў маеш?

Ульяна. Матка даўно ўжо памерла... Бацька якраз падвойтам у нас, у Падлессі. Брата аднаго... старэйшага... два гады назад, калі палявалі госці вашае светласці, мядзведзь задзёр. Малодшы ад мяне, якіх гадоў на чатыры, толькі той брат і застаўся...

К н я г і н я. А сясцёр... што ж не было?

У л ь я н а *(з жалем крыху).* Была адна... Стэфа... дык тры гады ўжо таму, як у Марачанскі кляштар забралі... паслушніцаю...

К н я г і н я. А табе ж тады колькі ўжо?

У л ь я н а. Дваццаць другі на Міколу веснавога мінула!

К н я г і н я. А Паўлюку ж вашаму колькі зараз?

У л ь я н а. Дваццаць пяць!

К н я г і н я *(углядаючыся ўпарта ёй у вочы).* Што ж гэта ён змоладу не ажаніўся?.. На вёсцы ж рана жэняцца!..

У л ь я н а *(патупіўшы вочы).* Прычына ёсць... *(Змаўкае.)*

К н я г і н я. У чым жа справа?.. Кажы!

У л ь я н а *(ціха).* Злюбіліся мы з ім...

К н я г і н я *(парушыўшыся ў крэсле).* Вось што!.. Далей!..

У л ь я н а. Ужо два гады, як мы... Тата, аднак, процiў... Але я за іншага ісці не хачу: абяцалася ж яму!..

К н я г і н я. Так!.. Ну?..

У л ь я н а. Ён бядак... Прытым... без роду: невядомага бацькі... А мы самыя заможныя ў вёсцы!.. Тата таму процiў гэтага зяцёўства... «Не быць, кажа, гэтаму байструку маім прымаком!..» А Паўлюк мне: «Калі кажа, мяне любіш, дык чакай».

К н я г і н я. А ты што — любіш яго?..

У л ь я н а *(горача, ціха).* Да душы!.. Жыццё, здаецца, аддала б за яго!

К н я г і н я *(незадаволена).* А ўсё ж дрэнна, што бацьку не слухаеш!.. Ну, ідзі, гуляй сабе!..

У гэты момант паказваюцца з палаца п. Р ы м ш а і за ім у вопратцы гайдука П а ў л ю к; ён пры шаблі. Калі яны праходзяць паміж моладзі, Паўлюка пазнаюць і лёгкі гоман прабягае сярод хлопцаў і перакідаецца да дзяўчат. Ульяна таксама заўважае гэта і як бы камянее.

Р ы м ш а *(падвёўшы Паўлюка).* Стань жа цяпер на калені перад паняй княгіняю і цалуй яе міласцівую руку, якая выводзіць зараз цябе з курнае хаты ў палац!.. Служы ж за гэта вераю і праўдаю сваёй уладарцы!

П а ў л ю к *(засмучана становіцца на калені і цалуе працягнутую яму княгіняю руку, потым край яе*

*вопраткі.)* Дзякую яснай пані за ўсё!.. *(Ціха, з раздум'ем.)* Але ж я, праўду кажучы, сам не ведаю, ці...

Княгіня *(усміхаючыся, да яго).* Чаго не ведаеш?..

Паўлюк *(шчыра).* Ці... лепш гэта для мяне, ці горш...

Рымша *(сядзіта бурчыць).* А, лайдак!.. Ён яшчэ разважае!.. *(Да Паўлюка, ледзь стрымліваючыся.)* Ты не маеш нават права выказваць сваёй пані-ўладарцы, як яе падданы, такіх думак!.. Ты належыш ёй і духам і целам!.. Бо падданы — што нявольнік!..

Княгіня *(міласціва любуючыся хлопцам і не зварочваючы ўвагі на словы п. Рымшы).* Не засмучайся, Паўлюк!.. Цябе чакае тое, аб чым ты і не мог нават марыць, жывучы там, на Морачы!.. Будзь жа адно верны мне, бо гэта першы абавязак добрага гайдука!.. Ну, ідзі сабе, гуляй з хлопцамі і Ульянаю, якая... бачыш, вунь як... здзіўлена пазірае на цябе!..

Паўлюк устае з каленяў, кланяецца ў пояс княгіні і адыходзіць да Ульяны, хлопцаў і дзяўчат, якія кінулі распачатыя ўжо гульні, заўважыўшы, што дзеецца.

Адзін з хлопцаў *(весела).* Ну й пашанцавала ж табе, браце!

Паўлюк *(паважна).* Не ведаю, ці так гэта!

Ульяна, засмучаная, сустракае яго. Іх акружаюць. Аглядаюць Паўлюкову вопратку, шаблю, прыгожыя боты. Гамоняць паміж сабою ўсе ціха.

Гоман старых каля брамы настолькі ўзмацніўся, што даходзіць да княгіні, якой п. Чарнецкі, па паведамленню п. Даміцэлі, прыносіць якраз віно ў кубку.

Княгіня *(жвава, вясёла).* Пане Тадэвуш, што там за гоман?..

Чарнецкі. А гэта ізноў, мабыць, старыя дамагаюцца, каб іх пусцілі сюды!..

Княгіня *(адпіваючы з кубка).* Ну што ж!..

Чарнецкі. Летась богведама што з імі выйшла!.. Як толькі пані княгіня вярнулася ў палац — перапіліся, лайдаччо, і пабіліся паміж сабою да крыві!.. Ледзь я справіўся тады з імі... бо палезлі да пані ў палац адзін на другога скардзіцца!.. Я загадаў гэты раз Францусю зусім іх не пушчаць, бо я пэвен, што і зараз...

Княгіня. Не, не, пане Тадэвуш!.. Дажынкі такія ўдалыя выйшлі... Я вярнула сабе добры настрой... За-

гадайце, пане Тадэвуш, пусціць сюды павесяліцца і старасць!.. Дайце і ім гарэлкі, піва, закускі!..

Чарнецкі *(з паклонам)*. Воля пані княгіні — для мяне закон!.. *(Падазваўшы да сябе знакам гайдука.)* Скажаш, што пані княгіня міласціва дазваляе старым прыйсці сюды, але каб быў у мяне парадак!..

Гайдук *(варочаецца да брамы)*. Слухаю пана!

Княгіня размаўляе з п. Даміцэляю і п. Рымшам. Пан Чарнецкі сочыць за рогам палаца, з-за якога пасільваецца гоман, сціхаючы, калі паказваецца там гайдук. Паўлюк з Ульянаю прайшлі тым часам за дрэвы, у правы бок сцэны.

Паўлюк *(азірнуўшыся навокал, абымае і галубіць дзяўчыну)*. Жыццё ты маё!.. Галубка мая каханая!.. Не сумуй, золатка!..

Ульяна *(са слязьмі ў голасе)*. Вось яны, яе... вяселасці!.. Слёзы мне, боль сэрцу майму!..

Паўлюк *(горача шэпча)*. Красачка мая!.. Разлучаючыся на некаторы час, яшчэ мацней буду любіць!.. Вер мне!..

Ульяна *(плачучы, прынікае да яго)*. Я прадчувала бяду!.. Страту сваю... сэрцам чула!..

Паўлюк *(горача)*. Лябёдка мая!.. Прызнаюся табе: у гэтым новым стане і я чую нярадасным сябе!.. Куды мілей мне родны загон з чорнаю зямлёю... Пушча наша на Морачы мілей... са звярамі драпежнікамі сваімі, чым вось служба гэтая тут!.. Але што ж: іхняя воля, яе, княгініна, пануе над намі ўлада!..

Ульяна *(плачучы, ціха)*. Забудзеш ты мяне, Паўлючок! Знойдуцца іншыя...

Паўлюк *(моцна тулячы да сябе)*. Кінь, Ульянка, сонейка ты маё, сумаваць!.. Як любіў... да смерці, так буду любіць і надалей!.. Дацерпім-такі свайго!.. *(Горача-пагрозна.)* А калі б прымушаць сталі!.. Не аддам я цябе, не паддамся сіле!.. *(Паказваючы на шаблю.)* Пабратаюся вось з ёю — і тады... і тваёю і маёю абаронаю яна стане!

Ульяна *(падымае галаву; слёзы адразу спыняюцца і збягаюць з твару; горача)*. Праўда? Праўда? Значыцца... да смерці... як казаў не раз, любіш?!.

Паўлюк *(цалуе яе з запалам)*. Люблю!.. Як любіў... як буду любіць!..

Пачуўшы гоман убегшых у сад старых, яны адыходзяць у глыб дрэў, далей. Тым часам з-за рога палаца, апераджаючы і пхаючы

адзін другога, бягуць с я л я н е і с я л я н к і. Накіроўваюцца да бочак.

Г а л а с ы с я л я н:

— Дзе тут з брагаю?..

— Якое! Гэтая з півам!..

— Ды тут мёд! Гэта бабам!..

— Куды ты, Прузына?!. Тут жа сівуха! Там вунь вашае дабро!..

— Нашто два каўшы ўхапіў? Дай мне адзін!..

— Вось людзі: абы толькі для сябе!..

— У нас так заўсёды!.. Як ёсць гарэлка, дык чуць не біцца!..

— Скула табе ў горла! Пусці!

Першы момант ля бочак стаіць страшэнная мітусня. Моладзь сустракае старых смехам, жартамі. Адзін сівы дзядок асабліва мітусіцца з вялікім каўшом у руцэ.

Х л о п е ц *(да яго)*. А божа ж мой!.. Ды табе б, дзедка, на печы грэцца, а не сюды перціся! Сослепу глядзі, каб не патрапіў замест рота сабе пад бараду!.. Ха-ха-ха!

Рогат хлопцаў і дзяўчат.

Д р у г і х л о п е ц *(да дзеда ж)*. Ды ты хоць порткі б свае, дзеду, мацней падцёг, а то як бы не асароміўся перад людзьмі!.. Ха-ха-ха!

Д з е д *(да моладзі, сярдзіта)*. Зубаскалы! Лепш соплі б свае падцерлі, а то... лезуць яшчэ з парадамі...

Урэшце старыя, з напоўненымі каўшамі, падбліжаюцца да княгіні, якая са смехам сачыла за іх мітуснёю. Адзін са старых выходзіць наперад ад усіх.

С т а р ы *(у пояс кланяючыся княгіні)*. Яснай светласці вашай, панечка, зычым добрага пшанічкі ўмалоту, каб не было год цэлы клапоту, каб нам, вашым людзям, ды пры княгіні добра жылося, каб за вамі, панечка, мёд і піва вялося і пілося, ды каб дзеля гэтага ў княгініных свірнах усялякае збожжа заўсёды вялося!.. *(П'е.)*

Д з е д *(што з вялікім каўшом, шамкае)*. Благаслаў, божа, нашай пані ды цяжкі, важкі сноп!.. *(П'е.)*

К н я г і н я *(весела адказаўшы ўклонам галавы абаім)*. Дзякую!.. Шчыра вам дзякую!.. Піце ж на здароўе!

Старыя варочаюцца да бочак, п'юць. Як толькі хмель ударыў ім у галаву, нехта крычыць музыкам:

Голас старога. Гэх! «Мяцеліцу» б цяпер!..

Па знаку княгіні музыкі іграюць «Мяцеліцу». Старыя, пад смех і жартаўлівыя ўскрыкі моладзі, пускаюцца ў скокі. Стары дзед госае бяссільна на месцы.

Пакуль ідзе гэта вясёлае скаканне, частка старых, паміж сабою згаварыўшыся, падбліжаецца да крэсла княгіні. Пан Чарнецкі, які з нездавальненнем сачыў за старымі, заўважае гэты намер старых, непрыкметна для іх паказвае блізкае да сябе месца гайдуку Францусю, а сам становіцца так ля крэсла, што лёгка можа засланіць сабою нарыхтаваўшыхся аб нечым жаліцца княгіні. Калі гэтыя старыя апынуліся каля крэсла княгіні, адзін з іх падае на калені і працягвае да яе рукі.

Стары. Ясная ваша міласць, матачка княгіня!.. Дзе ж гэта відана, дзе ж слыхана, каб не было літасці нат да нас, старых людзей!.. Вось проша пабачыць крывавыя бізугі, што ляглі на маёй старой, згорбленай ад працы на князёўскіх палетках спіне!.. Ён жа ў кроў збіў мяне!.. Бачыце. *(Хоча сцягнуць з сябе сарочку, павярнуўшыся ў бок княгіні.)*

Княгіня *(пахмурнее, потым, як бы не разумеючы, пытаецца, не азіраючыся на таго, які жаліўся).* Як, кажаш?..

Стары *(не зразумеўшы, паспешна).* Нагаём сваімі, панечка, збіў!.. Іншыя пацвердзяць, бо...

Чарнецкі *(чырванее са злосці; сярдзіта).* Ах, лайдак! Пабіўся з другім ды яшчэ лезе п'яны са скаргаю да пані княгіні! Прэч адсюль!.. Францусь, вывядзі яго! *(Пагражае іншым, хто жаліцца, і тыя толькі мармычуць.)*

Старыя *(ужо нясмела)*:

— Што вы, пане! Бойцеся ж бога!..

— Ці так жа справа была?!.

Княгіня *(устае гнеўна з крэсла, да старых).* Я паставіла пана Чарнецкага намеснікам сваім над вамі, дык яму і прыносьце свае скаргі.

Ідзе незадаволеная з п. Рымшам да ганка. Пры яе з'яве на тэрасе падпіўшы ксёндз, заўважыўшы яе незадаволенне і згадаўшы, у чым была справа, заплятаючыся нагамі, спускаецца са сходаў і падыходзіць да старых.

Кс. Яхіда *(умільна; хочачы мець уплыў на старых).* Дзеткі мае!.. Што робіце?! Пан бог загадаў несці павіннасці свае, нават часамі і цяжкія, з цярплівасцю і надзеяй на яго ласку!..

Чарнецкі *(сярдзіта на яго).* Ойча Ігнацы! Мы

не ў касцёле!.. Там ды і то інакш трэба размаўляць з гэтым быдлём!.. Напіліся і... пачалі пані княгіні адзін на другога скаргі разводзіць!..

Кс. Яхіда *(ізноў)*. Ах вы, непаслухмяныя авечкі стварыцеля нашага! Вечнае ж пекла прыгатавана таму, хто ў гáры топіць душу сваю!..

Княгіня тым часам заўважае Паўлюка з Ульянаю ў куточку саду, перш гнеўна ўзіраецца ў іх, потым смяецца і паспешна праходзіць у палац. Пан Рымша знікае ўслед за княгіняю. Пані Даміцэля, зразумеўшы княгіню, усміхаючыся, сочыць за Паўлюком і Ульянаю. Потым таксама ідзе ў палац.

Пан Чарнецкі, бачачы, што, апрача яго і ксяндза нікога няма, накідваецца на старых.

Чарнецкі. Я вам дам скаргі княгіні разводзіць!.. Біў вас і буду біць, пакуль дух звыклага непаслухмянства з вас не выб'ю!.. Я вам не мой папярэднік, пры якім вы, гультаі, распусціліся вельмі!.. *(Да гайдука Франуся, які ўжо вярнуўся.)* Бяры вось яшчэ гэтых двух на стайню! Усім ім па дзесяць гарачых канчукоў даць, каб памяталі лайдаччо, як скардзіцца!..

Яго тоўсты карак чырванее са злосці. Чмыхаючы носам, ён накіроўваецца ў іншы бок саду і там натыкаецца на выходзячага Паўлюка. Пазнае хлопца і не вытрымлівае.

Чарнецкі *(здзіўлена затрымліваецца; уголас, бадай)*. Гэта яшчэ што за навіна?! Авантура ізноў, мабыць!.. Ну, дажынкі сёлета!

Паварочваецца і сярдзіта паспяшае да ганка, а ў дзвярах палаца ледзь не налятае на выходзячую стуль паню Даміцэлю.

Музыкі маўчаць. Старыя, засмучаныя, стаяць навокал ксяндза, які прабуе і далей іх навучаць.

Кс. Яхіда *(злёгку хістаючыся)*. Грэх вялікі перад спасам нашым, непаслухмянства... скарга на ўладароў і апекуноў вашых... п'янства... бойка паміж сабою!..

Адзін селянін *(не выцерпеўшы)*. А калі гэтага, ойча, зусім не было?..

Кс. Яхіда. Як то не было?.. Я сам бачыў...

Селянін. Што бачылі?.. Як яны нібыта напіліся і між сабою пабіліся?.. Пан жа намеснік іх збіў!.. І зараз вунь пацяглі біць!..

Кс. Яхіда. Але ж яны непаслушліва сталі скардзіцца!.. Замест таго каб сцярпець бацькоўскую наву-

ку, узбурыліся даводзіць сваю нібыта праўду, скардзіцца! Гэта таксама вялікі грэх прад богам!.. Святы Сільвестар, напрыклад, калі паганцы білі яго палкамі, казаў: «Малюся за вас, бо рука тварца майго кіруе вамі!.. Яго на тое святая воля!»

Даміцэля *(заўважыўшы падпіўшага ксяндза)*. Ойча Ігнацы! Проша зайсці ў палац: да вас ёсць там пільная патрэба!..

Кс. Яхіда *(пачуўшы і ўбачыўшы яе)*. І прынесла яму галубіца ветку, як знак жыцця!.. Іду! Іду! *(Пад ненавісныя і насмешлівыя погляды сялян марудна падымаецца на ганак; потым кажа п. Даміцэлі.)* Я хачу быць усюды, дзе толькі можа быць услаўлена імя боскае!..

Пані Даміцэля штосьці шэпча яму; ён усё-ткі варочаецца да недапітага на стале кубка і з ім ужо знікае ўслед за ахмістрыняю ў палац.

Сяляне абураны. Яны выказваюць гэта прыдушанымі гнеўнымі сваімі ўскрыкамі.

Галасы сялян:

— Аддала нас на здзек гэтаму кату!..

— Бізун на полі! Бізун на стайні!.. І ў будні... і ў свята!

— За крываваю нашу працу адна ў паноў настала падзяка — бізун!..

— А ксёндз жа! Сам п'яны, а яшчэ пагражае нябеснымі карамі за нашае нібыта п'янства!..

— Цалуй, кажа, бізун, бо то рука не ката, а божая рука кіруе ім па вашых спінах!.. Растлумачыў, што і казаць!

— Не стала зусім літасці! Не стала праўды на свеце!

На ганак з палаца зноў выходзіць п. Даміцэля. Убачыўшы гайдука Франуся, яна падзывае яго і нешта яму шэпча. Той становіцца на старожы на верхніх ступенях.

Старыя змаўкаюць, затое моладзь ужо ўстрывожана пачутым ад старых. Згасла вясёласць.

Пані Даміцэля падзывае знакам Паўлюка.

Даміцэля *(яму)*. Пані княгіня патрабуе зараз жа цябе... на службу!.. *(Усміхаецца.)*

Паўлюк. А няможна было б мне перш... свае тут справы скончыць? Я б праз хвіліну быў бы вольным...

Даміцэля *(ледзь стрымліваючы ўсмешку)*. За-

будзься ўласных спраў! Табе трэба спаўняць ужо... службу!.. Гэта важней будзе тваіх нейкіх там спраў!..

Паўлюк *(не разумеючы, чаму зараз жа яго клічуць, калі ён яшчэ не ведае сваіх абавязкаў).* Ды я ж яшчэ і службы гэтай спаўняць не ўмею!..

Даміцэля *(смеючыся, весела).* Навучаць!.. Навучыць цябе, у чым будзе твая пры ёй служба. Ну, не марудзь!

Адыходзіць да дзвярэй. Паўлюк спяшаецца да Ульяны. Адвёўшы яе ўбок, ён перш моўчкі абымае яе, моцна цалуе, потым кажа.

Паўлюк. Ну, галубка мая, давай развітаемся! Клічуць на службу!.. Будзь жа пэўна і спакойна!

Ульяна *(прынікаючы да яго, ціха ўсхліпваючы).* Забірае ад мяне!.. Божа ж мой, адбірае!..

Паўлюк *(моцна яшчэ раз цалуе яе).* Не сумуй, каханая мая! Заўтра ж на вёсцы пабачымся!.. Там жа, за гайком, ведаеш?! Бывай здарова!

Калі ён бяжыць ад яе да ганка, Ульяна садзіцца бяссільна на пень і горка плача.

Набягаюць людзі. Іхнія перасуды і чутны і не чутны ёй.

Жанчына статная і ўродная. Вось бачылі?! Не дацярпела!.. Паклікала ўжо!.. Так у яе заўсёды, кажуць... зараз жа падай, калі спадабаўся!.. *(Рагоча.)*

Старая жанчына *(да яе).* Цьфу ты, паскуда! Людзям слёзы, а ёй смех!.. Глядзіце, як дзеўку забрала!.. Ну дзе ж табе, галубка, з каршуком справіцца!.. *(Падышоўшы да Ульяны.)* Бачыла!.. Бачыла, саколка ты мая! І ўсё зразумела!.. Не першыня гэта на маіх вачах у княгіні!.. Апошні яе выбранец кепска скончыў! Конюхам ён быў, дык як, пагуляўшы з ім, яна яго са свайго жыцця выкінула, небарака на лейцах скончыў справу!.. Сцеражы ты свайго хлопца моцна, бо... можаш яго назаўсёды страціць!..

Ульяна пры гэтых словах як бы шалее. Яна ўскоквае, бяжыць да палаца, кідаецца са слязьмі і крыкам на ганак.

Ульяна. Не, не!.. не аддам я табе яго!.. Мой ён!..

Гайдук *(перагароджвае ёй рушніцаю дарогу, а калі тая стараецца прабегчы ўперад, піхае яе са смехам уніз).* Куды ты, вар'ятка?!

Ульяна *(бачыць, як на парозе палаца з'яляецца*

*п. Даміцэля і з усмешкаю глядзіць на яе; кідаецца ізноў).* Не, ніколі на гэта я не згаджуся!.. Мой ён, не яе!..

Гайдук так адкідае яе назад, што яна валіцца на ступені і траціць прытомнасць.

*Заслона.*

## ДЗЕЯ II

## З боскай дапамогай

Гербавая зала палаца, што служыць княгіні Раіне як бы кабінетам. Каля сцяны, процi рампы, пад балдахінам, княжае крэсла з гербам Горскіх. З абодвух бакоў яго пры сцяне: па адзін бок — турэцкія і татарскія бунчукі, набытыя бацькам княгіні (трафеі вайны), па другі — значок таго коннага рэгімента, якім калісьці камандаваў бацька княгіні пан Тодар Прушынскі. З абодвух бакоў гэтай жа сцяны дзверы ў суседнія пакоі. Налева ў бакавой сцяне дзверы ў патайны пакойчык. Направа ў сцяне тры акны. Пад імі лава, пакрытая багатым усходнім дываном, перад ёю вялікі доўгі стол. На апошнім — прыгожая шкатулка для кляйнотаў, аздобленая разьбою і інкрустацыямі.

Стаіць таксама фігура павы са срэбра з эмаллю. Пакой пышна аздоблены роспіссю ўперамежку з гербамі. Налева, блізка рампы, стол для пісьма з багатым аксамітным абрусам, чарніла ў высокай шклянцы, у горлечку якой гусінае пяро. Дзве-тры старасвецкія кніжкі, папера, высокі шматсвечны ліхтар. За гэтым сталом княжае, высокае, з гербам крэсла. Аднастайныя, але з нізкімі спінамі крэслы ў іншых месцах. На падлозе велізарны дыван, які глушыць крокі чалавека.

Калі заслона паднята — каля правых, процi рампы, дзвярэй, мнучы шапку ў руках, стаіць з апушчанай галавою Паўлюк.

Княгіня гнеўна праходзіць раз, другі па пакоі.

Кажа перш здушаным голасам, каб іх не пачулі.

Княгіня *(гнеўна).* Я падняла цябе... з балота!.. Так высока — у гэты палац!.. Я бачыла ў табе чалавека ў той час, калі ты — мой падданы, проста няволь-нік! Рыхтавала табе іншую долю!.. Я так горача палюбіла ў табе таго ранейшага, вясёлага, удалага! Я хацела бачыць цябе сваім рыцарам... любячы мяне... і праз тое шчаслівым!.. Сама хачу з табою шчасця!.. А ты?.. Ты не маеш сілы дагэтуль парваць са сваімі старымі мужычымі пачуццямі!..

Паўлюк *(пахмура).* Я не магу больш... гэтага!.. Не магу!..

Княгіня *(злосна).* Не можаш!.. Сцеражыся, Паў-

люк!.. Не гнявi мяне! Бо ў маiх жылах не тутэйшая кроў! Асцерагайся гневу малдаванкi...

П а ў л ю к *(рашуча, але цiха)*. Больш так... я не магу! Урэшце, не смею я так далей!..

К н я г i н я *(падбегшы да яго, у твар яму)*. Бо любiш... тую мужычку... Ульянку!.. Яна табе мiлей... за мяне!.. Дык знай жа, мой ты голубе, што я нi перад чым не затрымаюся па дарозе да свайго ўласнага шчасця!.. *(Непрыязна глянуўшы на Паўлюка, з гневам выходзiць.)*

Паўлюк, застаўшыся адзiн, перш стаiць моўчкi. Калi сцiхаюць крокi княгiнi, азiраецца кругом; гаворыць сам з сабою.

П а ў л ю к. Не, галубка!.. Выбачай, мая панечка!.. Я ведаю твае ранейшыя... з другiмi выпадкi... Забаваю тваёю быць!.. Каб потым... выкiнула мяне, як абрыдлую рэч!.. Не!.. я на такую... службу не здатны! Той раз ты мяне нянацкам... непадгатаваным захапiла... Зачаравала!.. Ну, але цяпер... даволi! Як бы ты нi старалася... гэта табе не выйдзе.

Чутны паспешныя крокi княгiнi, якая вяртаецца ў залу. Яна ўваходзiць рашучая, ганарыстая, знадворна зусiм як бы спакойная.

К н я г i н я *(не гледзячы на яго)*. Зараз жа паедзеш з лiстам!..

П а ў л ю к *(паклонiўшыся)*. Слухаю, ваша мосць!

Княгiня садзiцца да малога стала. Пiша лiст. Запячатвае яго.

К н я г i н я *(холадна да Паўлюка)*. Лiст гэты неадкладна, зараз жа... адвязеш конна да пана Фэлiберта!.. Дарогу да яго ў Станёва табе служба пакажа!.. Аддасi ва ўласныя рукi пану!.. Скажаш, что чакаю не толькi адказу ў лiсце, але i як найхутчэйшага прыезду пана да мяне ў госцi!.. Зразумеў?

П а ў л ю к *(паклонiўшыся, бярэ з рук княгiнi лiст)*. Зразумеў, ваша ясная мосць!

К н я г i н я *(суха)*. Зараз жа на каня i ў дарогу!.. А да мяне папрасi пана намеснiка!..

Калi П а ў л ю к, яшчэ раз нiзка паклонiўшыся, пакiдае пакой, княгiня неспакойна ўстае з-за стала, ходзiць нервова па зале, часамi затрымлiваецца, задуманая. Як бы пра сябе кажа.

К н я г i н я. Iншага спосабу не застаецца!.. Дамiцэлiя добра раiла — выдаць замуж, а калi не паслухае — у Марачанскi кляштар!.. *(Смяецца злосна.)* Падумаць толькi!.. Якаясьцi там простая мужычка... твая ж пад-

даная загароджвае табе дарогу!.. Мне, якой да ног складалі сваё сэрца першыя магнаты краю, з-за якой паядынкавалі і губілі сваё жыццё, мне, княгіні Горскай, мо трэба самой саступіць з дарогі, каб панна Ульяна Карабчанка з Падлесся заўладала тым, хто для мяне стаў зараз найбліжэйшым сэрцу чалавекам!.. Глупства, Раіна!.. Ты не такая жанчына, каб даваць іншым дарогу. Не захочаш, галубка, выйсці замуж за таго, за каго загадаю,— саступіш з мае дарогі іначай. *(Стук у дзверы.)* Уваходзьце!..

Чарнецкі *(уваходзіць, кланяецца).* Слухаю, найяснейшая пані княгіня!..

Княгіня *(ціха).* Пане Тадэвуш! Загад мой аб Ульяне споўнены?

Чарнецкі *(таксама ціха).* Яна ўжо тут... у адным з маіх пакояў!..

Княгіня. А на выпадак, калі прыйдзецца адаслаць яе ў кляштар, усё гатова?

Чарнецкі. Ясуп і я гатовы выпаўніць вашае мосці волю! Усё зроблена так, як мне наказала ад вас пані Даміцэля!

Княгіня. Дык вось што! Як толькі Паўлюк выедзе з двара, трэба правесці Ульяну ў гэты пакой. *(Паказвае на патайніцу.)* І пакінуць там з паняй Даміцэляю!.. А ўночы, калі прыйдзецца, справадзім госцю!

Чарнецкі *(з уклонам).* Слухаю, панечка! *(Пра сябе.)* Цікава!

Княгіня. Больш вас не затрымліваю! Скажыце толькі паклікаць да мяне айца Ігнаца!

Пан Чарнецкі з уклонам выходзіць. Княгіня задуманая пакідае на хвілю пакой. У гэты ж, бадай, момант з бакоўкі выходзіць пані Даміцэля і аглядаецца.

Даміцэля (смяецца). Як загарэлася!.. Хоча дабіцца-такі свайго! Але ж, пані Раіна, ці дасць гэта табе такога Паўлюка, якога б ты сама для сябе жадала?! А што, як Паўлюк, кахаючы моцна Ульяну, яшчэ больш звяне! *(Думае.)* Не забудзе ён гэту дзяўчыну! *(Стук у дзверы.)*

Даміцэля. Уваходзьце!

Кс. Яхіда *(уваходзячы і пакланіўшыся; голасам духоўніка).* Хай будзе ўслаўлена... *(Заўважае, што княгіні няма.)*

Даміцэля *(смеючыся).* Мы ж не ў капліцы з вамі, пане Ігнацы, каб заўсёды зваць імя боскае!.. Ха-ха-ха!..

Кс. Яхіда *(азірнуўшыся навокал, робіцца адразу вясёлым; ціха падбліжаючыся да Даміцэлі).* О, так, так!.. Я вельмі рад, котка, вас бачыць! *(Абымае яе.)* Чаму ўчора ўвечары не прыйшла да мяне? Я прырыхтаваўся, чакаў... мучыўся... нудзіўся...

Даміцэля *(ціха, іграючы вачамі).* Ну, але пазней, спадзяюся, знайшлі ўцеху... хаця ж бы ў вінум рубрум!..

Кс. Яхіда *(цалуючы яе ля вуха).* А ўсё ж ткі, што ж прашкодзіла табе, котачка, візітаваць мяне?

Даміцэля *(надуваючы губкі).* Ці ж я вінавата ў тым, што пан Ігнацы пазаўчора так мяне замучыў?! Гэтыя моцныя элексіры вясёласці... мёд!.. Ну, і несупыннасць пана Ігнаца, таксама... ні ў чым!.. Я ўчора адпачывала... пасля ўсяго, што было! Бо колькі ж засталося нам спаць пазапрошлаю ноччу?!

Кс. Яхіда. Але спадзяюся, мілуся, больш не сярдуеш на мяне? *(Горнучы да сябе.)*

Даміцэля *(вырываючыся).* Можа, і сярдую!

У гэты момант ціха ўваходзіць княгіня, бачачы ўсё.

Княгіня *(холадна, даючы гэтым зразумець палюбоўнікам).* Прабачайце! *(Ксяндзу.)* Мне трэба было вас бачыць, ойча Ігнацы! *(Да Даміцэлі.)* А што Даміцэля хацела?

Даміцэля *(крыху ў замяшанні).* Прашу выбачыць мяне, ясна пані, але ў мяне не такая ўжо пільная да пані справа!.. Я зайду потым!.. *(Хоча ісці.)*

Княгіня. Проша пабачыцца зараз з панам Тадэвушам, ён мае да Даміцэлі якраз пільную справу!

Даміцэля *(з уклонам).* Слухаю! *(Выходзіць.)*

Княгіня *(да ксяндза).* Мне патрэбна дапамога духоўніка майго ў адной справе!

Кс. Яхіда *(ласкава).* Рад буду прызваць бласлаўленне боскае на справу, у якой магу быць карысным яснай пані, яко духоўнік вашае мосці!..

Княгіня. Я маю думку выдаць замуж адну вясковую дзяўчыну... за чалавека, які адзін толькі і можа пакіраваць яе занадта ўжо палкае сэрца... на правільны шлях жыцця! Я пэўна, што маю права на гэта перад богам, як гаспадыня над сваёй падданаю,

клапоцячыся аб тым, каб гэтае аблуднае дзіцё папала ў пэўныя рукі сталага чалавека?..

Кс. Яхіда *(робячы здзіўленую міну і складаючы, як на малітву, рукі).* О, вашая светласць! Гэта ж нават, як абавязак, ускладае на вас, уладароў, наш святы касцёл! Апекавацца доляю сваіх падданых — святы абавязак ваш перад уладаром нашага жыцця і панам збаўцам — Хрыстусам!..

Княгіня. Я ведала, што вы на гэта так мне адкажаце, ойца Ігнацы! Але далей!.. У выпадку, калі дзяўчына не паслухае мяне, ці не лепш я тады зраблю, калі адашлю яе ў кляштар, пад апеку пані Міхаліны Гяднарскай, каб яна там перад богам замаліла свой грэх...

Кс. Яхіда *(робячы зноў здзіўлены твар).* О, зразумела! Раз воля пані ўладаркі лічыць карысным, каб грэшніца, пабыўшы там, адбыла кару за свавольства...

Княгіня. Значыцца, мы ў гэтай справе толькі здзейснім волю божую і на гэта будзе яго святое блаславенне?..

Кс. Яхіда *(падняўшы ўгору вочы, а потым схіляючы ўніз сваю галаву).* Прызываю боскае блаславенне на справу апекі вашае над непакорлівай і грэшнай дзяўчынай гэтай!

Княгіня. Сядайце ж, калі так, і пішыце да маткі Міхаліны!.. Бо я пэўна, што яе прыйдзецца-такі адаслаць у кляштар!

Ксёндз крыху збянтэжаны, але паслухмяна сядае ў княгініна крэсла, бярэ паперу і рыхтуе пяро, каб пісаць. Княгіня ходзіць па пакоі і дыктуе.

Княгіня *(мерна).* Пані Гяднарскай, матцы Міхаліне, кіраўніцы кляштара святое Альжбеты, што на Морачы, сястры па богу нашаму павітанне і блаславенне ад духаўніка мосці, фундатаркі і кляштара, княгіні Раіны Прушынскай-Горскай. Гэтым апавяшчаю, што грэшніца, да кляштара пасланая, імем Юляна... *(Ксёндз здзіўлена затрымліваецца, глядзіць на княгіню; тая рашуча.)* Так, ойча! Ульяна Карабчанка змушана будзе або выйсці замуж за войта сяла майго Рудняў, або ёй прыйдзецца замольваць у кляштары Марачанскім грэх свой! Пішыце ж тое, што я кажу вам!.. На чым вы затрымаліся?

Кс. Яхіда *(чытае напісанае).* «...што грэшніца, да кляштара пасланая, імем Юляна...»

Княгіня. ...адбыўшы паслушэнства, у кару за грахі свае перад богам і княгіняю, уладаркаю яе, падданай, павінна стаць манашкаю кляштара...

Кс. Яхіда *(паўтараючы, піша, але затрымліваецца зноў перад апошнімі словамі).* Пані княгіня так, здаецца, сказала — «павінна стаць манашкаю кляштара»?!

Княгіня *(падыходзячы да стала).* Так так, сказала я, ойча!

Кс. Яхіда *(паўтараючы, піша).* «...павінна стаць манашкаю кляштара...»

Княгіня *(дыктуе далей).* Даручаючы Юляну вашай апецы, выхаванню і малітвам, наказваем усім, і матцы Міхаліне асабліва, дбаць аб тым, каб усялякая сувязь гэтай дзяўчыны з грэшным светам першыя часы жыцця яе ў кляштары была б супынена, каб непакорлівая юніца, чым найхутчэй скарыўшыся, аддала б усе сілы духу свайго малітвам адзінаму збаўцу нашаму, пану неба і зямлі, і святой угодніцы яго Альжбеце... *(Чакае, покі ксёндз дапіша.)* Ну, а цяпер рабіце допіс аб благаславенні і дадайце зазначэнне ад сябе як майго духоўніка.

Кс. Яхіда *(хвіліну затрымаўшыся, дапісвае ад сябе ўголас).* «Прызываючы імя боскае на святы кляштар Марачанскі, сведчу справу гэту, як карысную дзеля збавення душы грэшніцы, мацую з тым самым волю яе мосці княгіні яе ж уласнаю пячаткаю. Духоўнік яе мосці княгіні — патэр Ігнацы Яхіда ўласнаручна...»

Княгіня. Добра! Кладзіце ж на ліст пячатку! *(Ксёндз гэта робіць.)* Дзякую айцу ксяндзу! Рада, што вы зразумелі парушэнне майго сэрца ў справе апекі над гэтай дзяўчынай, і больш ксяндза не затрымліваю!

Кс. Яхіда *(устаўшы з-за стала).* Хай жа заўсёды ясная пані ведае, што абавязак духоўніка благаславіць усялякую добрую справу пані ўладаркі, што датычыць апекі над авечкамі, даручанымі ёй богам. Мір душы і супакойны сон хай дасць вам збавіцель грэшных душ нашых! *(Блаславуляе падышоўшую да яго княгіню і выходзіць.)*

Княгіня. Аман! *(Княгіня падыходзіць да стала,*

*бярэ ліст і з усмешкаю чытае. Праз хвілю стук у дзверы патайніцы.)* Уваходзьце!

Даміцэля *(усміхаючыся)*. Можна?

Княгіня *(сур'ёзна)*. Проша! Ну што?

Даміцэля. Яна ўжо тут! *(Паказвае на патайніцу.)*

Княгіня *(рашуча)*. Хай тады ўвойдзе! *(Становіцца, прыпёршыся да стала.)*

Ульяна ўстрывожаная ўваходзіць; убачыўшы княгіню, нізка ёй кланяецца.

Княгіня *(адказаўшы на паклон)*. Вось што, Ульяна! Я паклікала цябе ў палац, каб абвясціць табе маю волю. Табе ўжо хутка міне дваццаць тры гады, а ты ўсё яшчэ перабіраеш жаніхоў!.. Нягожа вясковай дзяўчыне так трымаць сябе і мо праз гэта і зусім у дзеўках застацца!.. Бацька твой, я ведаю, таксама даўно ўжо аб гэтым думаў, але што ж, калі дачка яго не слухае!.. Дык вось што! Я знайшла табе мужа, і мужа, на мой погляд, добрага! Гэта — Піліп Таўкач, войт сяла майго — Рудняў... Што скажаш ты на гэта? Будзеш згодна за яго выйсці?

Ульяна *(пры апошніх словах збялела і аж пахіснулася)*. Божа ж мой!.. Ясная панечка!.. Як жа ж так?! Змілуйся нада мною!.. Пані княгіні ж ведама, што я іншыя думкі маю!..

Княгіня *(холадна, са злосцю)*. Ведаю!.. Паўлюк табе ўпадабаўся!.. Але ж ты, дурніца, мыляешся!.. Паўлюка чакае іншая доля!.. Для твайго Паўлюка знойдзем, калі толькі ён будзе разумны, іншую да пары... Выкінь ты гэту дуроту з галавы, Ульяна. Падумай, Піліп — чалавек сталых ужо гадоў, заможны, працавіты, цябе ён не пакрыўдзіць!.. Ну як жа?

Ульяна стаіць, і слёзы раптам пачынаюць цячы па яе твары.

Даміцэля *(усміхаючыся)*. Дурніца ты, дурніца!.. Княгіня ж зычыць табе адно толькі дабро, выдаючы цябе за войта Піліпа! Не плакаць трэба, а радавацца! Вось што!..

Ульяна *(кідаючыся на калені перад княгіняю)*. Панечка княгіня! Не губіце ж вы мяне!.. Не пайду я за Піліпа... бо прысягала ж я і буду да смерці верная таму, каго аднаго толькі й кахаю! Злітуйся над беднаю вясковаю дзяўчынаю!.. Пакіньце ёй яе шчасце...

*(Кідаецца да ног княгіні.)* Ножкі вашае міласці цалавацьму! Самыя цяжкія кары прыму за непаслухмянства перад вамі, але не нявольце ж вы мяне, не губіце, матачка княгіня!.. *(Істэрычна плача.)*

К н я г і н я *(выслабляючыся ад яе і адыходзячы, холадна).* Заладзіла ты, бачу, сваё! Ніяк Паўлюка з галавы не выпускаеш!.. Ну, але калі на тое ўжо пайшло і ты, відаць, не збіраешся мяне паслухаць, дык добра ж!.. За Піліпа, так і быць, я цябе не выдам, але кару за непаслухмянства на цябе налажу, і, ведай, нялёгкую!.. Пані Даміцэля! Сёння ж уночы адаслаць яе ў жаночы кляштар, на Морач; хай пабудзе там і паспавядаецца перад богам!.. Навучыцца няхай яго святой волі, як дзяўчыне й жанчыне трэба жыць!.. *(Да Ульяны, якая раптам сціхла і запаленымі вачыма глядзіць на яе.)* Цяпер ты добра ведаеш, якая была мая воля і як я за непаслухмянства ёй караю... Апошні раз цябе пытаю: згодна ты ісці за Піліпа?

У л ь я н а *(устаючы з каленяў).* Не! Не! Не магу ж я гэтага зрабіць!.. Не магу, бо кахаю другога!.. Што хочаце са мною рабіце... Я ж не магу вырваць яго са свайго сэрца!..

Княгіня робіць знак Даміцэлі вывесці Ульяну.

Д а м і ц э л я *(бярэ Ульяну за плечы, са смехам).* Ну, пойдзем, дурніца!.. Не захацела хутка свой шлюб справіць, трапіла замест гэтага ў кляштар!.. Глядзі ж цяпер, галубка, як бы табе там пані Міхаліна вечнага жаніха не знайшла! *(Выходзіць з ёю ў патайніцу.)*

Княгіня ў непакоі ходзіць некаторы час па зале, потым падбліжаецца да стала, скручвае ліст ксяндза ў трубку, павязвае яго шнуркам і звоніць у мядзяны, што на стале, званок.

П а к а ё в а я *(уваходзіць).* Слухаю, пані!

К н я г і н я *(ціха).* Пакліч да мяне Ясупа! Каб у момант быў тут!

П а к а ё в а я. У хвілю, паненачка! *(Выходзіць жвава.)*

К н я г і н я *(усміхаючыся).* О, ты яшчэ, дурная, не ведаеш, што гэта спрабаваць стаць на дарозе княгіні Горскай!.. Пані Міхаліна... *(смяецца)* праўда-ткі дасць табе вечнага жаніха! Кляштар — лепшы лек для такое блазніцы і непакоры!.. *(Стук у дзверы.)*

Ясуп, увайшоўшы ўслед за сваім стукам, знімае сваю татарскую шапку і застаецца ў адной цюбецейцы-ярмолцы, кланяецца, прыкладаючы правую руку да сэрца.

Княгіня, маючы перад сабою нямога, мігамі паказвае, што ён разам з панам Чарнецкім зараз жа павінен адвезці ліст і дзяўчыну, куды той загадвае.

Ясуп ківае галавой, што зразумеў, бярэ ліст і кладзе яго за пазуху.

Княгіня *(паказвае яму ісці ў бакоўку-патайніцу за Ульянай і, выняўшы з-за пояса мяшочак з залатымі, кідае яму яго на рукі; той дзякуе княгіні пацалункам у край адзежы).* Ну, не марудзь і ў дарогу!..

Ясуп ідзе ў бакавіцу. Стуль хутка даносіцца крык і плач Ульяны.

Княгіня *(стоячы каля стала, прыслухоўваецца і злацешліва смяецца).* Там ты... пад даглядам маткі Міхаліны, замоліш свой перад мною грэх!.. Ха-ха-ха!.. А цяперака, Паўлючок, паглядзім, хто з нас перад кім адступіцы!..

*Заслона.*

## ДЗЕЯ III

## Першыя бліскавіцы

Дзень схіляецца к вечару. Карчма Шымана Яцкялевіча на шляху з Вызны. Левая частка сцэны — «шляхоцкая», чыстая камора карчмы, дзе лавы пакрыты дыванамі, а стол паміж лаў — чыстым абрусам. Правая — большая частка сцэны — «зборня» карчмы. Налева — дзверы ў шляхецкую камору, направа — у сені, ужо выходзячы на ганак; у гэтай сцяне два акны, каля якіх сталы і простымі лавамі. Праз заднюю сцяну — невялічкія дзверы ў другія сенцы, скуль выхад у сутарэнне; за гэтымі сенцамі кватэра Яцкялевіча. Проці рампы каля задняй сцяны — шырокі сталяк, на якім: пляшкі, куфлі, каўшы, шкляніцы, а на талерках і ў місах — закускі. Тамака ж дзве барылы гарэлкі з кранікамі. Вялікая бочка піва і другая — меншая, з мёдам, абедзве каля сцяны на козлах. Па задняй сцяне, за прылаваю, паліцы з пасудаю, з пітвом, збанкі для піва і іншае начынне. Калі падымаецца заслона — жонка Шымана — Пэся і дачка — Хася прыбіраюць сталяк і пераціраюць вымытую пасуду. Час ад часу праз дзверы, што ў глыбі сцэны, уваходзіць сын Шымана — Абрумул, прыносячы і выносячы барылы, пляшкі і іншую пасуду пустую і з пітвом. Чутно яшчэ пры спушчанай заслоне, што Пэся сварыцца з мужам.

Ш ы м а н *(ходзіць, раздумваючы, па зборні, сярдзіта).* Ну, годзе, годзе! Ша!.. Рассакаталася ты вельмі!.. І што ты ў справах разумееш?..

П э с я *(парадкуючы вымытую і перацёртую пасуду).* Што разумею?.. А вось тое, што ты ў сваіх там кніжках ды талмудзе ніколі не вычытаеш!.. Людзі купляюць пшаніцу, а ты ўсё чагосьці чакаеш!.. Людзі заробяць, а ты ўсё думаеш!.. Разумны вельмі стаў, за ўсіх, бадай, разумнейшы!..

Ш ы м а н *(з дакорам).* Ай, Пэсэлэ!.. Ну што ты ў гэтым разумееш?! Гэтыя весткі з Валыні і Падолля аб паўстанні казакоў зрабілі тое, што на кірмашах гандляры набаўляюць цану, а паны прытрымліваюць збожжа, спадзеючыся, што з-за неспакою на Украіне пшаніца тутэйшая яшчэ больш уздаражэе!.. Што я, шалёны, ці што, каб бегчы з імі навыперадкі?! Я лічу так — ад нас пшаніцу на Украіну не павязуць. Для тутэйшых патрэб яе хапала і раней. І яшчэ невядома, ці пасіліцца з гэтых прычын яе вываз у Гданск! Лепш пачакаць: весткі з Украіны атрымаем больш пэўныя!.. Тады або зусім нікому да гандлю ахвоты не будзе, або настане спакой, і паны з-за недахвату грошай самі набівацца стануць!..

П э с я *(пачынаючы згаджацца з думкамі мужа).* Ну добра, гэта наконт збожжа... а чаму вось ты гэтаму Паўлюку княгінінаму ўсё напавер даеш? А што, як скруціць?..

Ш ы м а н *(затрымаўшыся перад сталяком і смеючыся).* Ой, Пэсе, Пэсе! Як ты кепска людзей ведаеш!.. Паўлюк скруціць!.. А ты хіба забылася, што ўжо чатыры яго чырвонцы супакоіліся там, на гары, у нашай скрыні?! Ён жа як толькі ад княгіні атрымае гасцінец... за службу сваю... дык зараз нясе сюды!.. Чалавек ён на слова вельмі цвёрды, сумленны... ну дый усё сваю дзяўчыну гэтую забыць не можа!.. Гэтакі, галубка, нашу хату не скора навучыцца мінаць!.. *(Паніжаючы голас.)* Княгіня, відаць, вельмі ім зацікавілася... раз чырвончыкамі час ад часу простага гайдука трактуе!.. А бачыла, якую шаблю яму дала начапіць?! Кажуць, адну з шабляў роднага свайго бацькі падаравала!.. А пояс на ім апошнія разы бачыла, які павязан? Любому шляхціцу пачэсна было б такі насіць! О, Паўлюк ідзе ў нашай пані ўгору!..

Чуваць, як на ганак хтосьці ўсходзіць. Размова супыняецца. Уваходзіць у запыленых ботах Паўлюк.

Шыман (прыветна да яго). Здароў, Паўлючок!.. Лёгкі які ты на ўспамін!.. Мы якраз з жонкаю аб табе ўспаміналі!..

Паўлюк (прайшоўшы ў глыб зборні, садзіцца за стол побач з рампаю). Здароў, Шыман!.. І ты, квактуха! І ты, Хасечка,— краска наша! Успаміналі, кажаш?!. Ну, дык цягні ж тады збанок піва, ды толькі халаднейшага ды мацнейшага, а то з Вызны самае пяхотам іду. Толькі на кірмашы крыху і прамачыў горла, але ж з дарогі ізноў яно перасохла!..

Шыман. Хасенэ, піва!.. Гэтага, што ў збанках!.. (Калі Паўлюк выпівае першы куфаль, Шыман падыходзіць да яго.) Ну, як кірмаш? Пшаніца?.. Што агулам чуваць было?..

Паўлюк (пахмурнеючы, скрозь зубы). Кірмаш як кірмаш!.. Народу процьма панаехала!.. А пшаніцай не цікавіўся: не гаспадар жа я, сам знаеш!

Шыман (ціха). А што, мо даведаўся што?..

Паўлюк. Ты пра што гэта?.. Аб ёй?.. Нічагуткі!.. Бы той снег, растала!..

Шыман (ціха). Ой, цёмная гэта справа, Паўлюк!.. Колькі я сам ні распытваў... дагэтуль нічога, ані-ні!.. Ну, а агулам, што ты чуў на людзях?

Паўлюк (весялеючы, налівае сабе). О, цікавыя чуткі ў народзе пайшлі!.. Цікавыя, Шыман!

Шыман (прысеўшы на лаву). Ну, ну, кажы...

Паўлюк (выпіўшы поўны куфаль; адрыўна, ціха). Смаленым, браце, запахла ў паветры!..

Шыман (прыгінаючыся да яго). Як-та смаленым?

Паўлюк (галасней, нястрымана). Глядзі, як бы хутка чырвоны певень не загуляў кругом!

Шыман (устрывожана, але робячы міну, што не цяміць). Не разумею!... Як гэта так?

Паўлюк (тым жа тонам, узбуджана). О, браце Шыман!.. Сэрцам чую, што запалае хутка ў нас тут вогнішча! Па ўсяму краю дзеля гэтага шмат нарыхтавала сабе панства...

Шыман (устае, азіраецца). Ша! што ты!.. што ты!.. Няўжо чуў падобнае... на кірмашы?

Паўлюк (адразу мяняючы тон). Пажартаваў я!.. А ты і спалохаўся адразу!..

Ш ы м а н. Ну як гэта жартаваць так!

П а ў л ю к. Мала што людзі чаўпуць!.. Больш па корчмах... пад п'яную руку... І апавядаць не варта! От, лепш давай палічымся!.. Цягні сюды біркі свае!.. А што, Мікітка яшчэ не быў у цябе?

Ш ы м а н *(ідзе да шуфляды ў сталяку, адкуль выцягвае вязку бірак; падыходзіць зноў да Паўлюка).* Не, не быў яшчэ сённека!

П а ў л ю к. Памятай жа, Шыман, што я раней табе казаў!.. Калі ў яго іншы раз грошай не будзе, давай ты яму за мой кошт, напавер!.. Тварыскі ён хлапец!..

Ш ы м а н *(жвава выбіраючы Паўлюкову бірку).* Ну, як жа, як жа!.. Ён два дні назад... з другімі... быў тут... Чатыры кварты аднае гарэлкі напілі, аж тры збанкі мёду!.. Ось тут, як бачыш, свежыя зарубкі і крыжыкі на бірцы!.. Давай разам лічыць!..

П а ў л ю к *(наліваючы яшчэ сабе і п'ючы).* Лічы ты сабе сам, бо... усё адно ведаю, што ашукаеш!.. *(Смяецца.)*

Ш ы м а н *(абражаючыся).* Ой, Паўлюк... Грэх табе перад богам казаць, што я з цябе вазьму лішняе!..

П а ў л ю к *(крыху ўжо хмельны, смеючыся).* Ды кінь ты бога сюды тыркаць!.. Па-мойму, адносна граху ў гандлі справа вельмі простая!.. Як той казаў, грэх у мех ды кіем па баку! А ты бога завеш!.. Гэтак ён, бегаючы да кожнага ў сведкі, проста-ткі стоміцца.

Ш ы м а н *(абразліва).* Як гэта ты кажаш. Усе мы пад богам жывём: мы — яўрэі — пад нашым, вы — хрысціяне — пад сваім!..

П а ў л ю к *(нецярпліва і дражліва).* Ды мы, хрысціяне, не аднаго, а некалькіх багоў завялі сабе: праваслаўнага, ці, як каталікі яго завуць, схізматычнага бога маем, яны свайго, каталіцкага... У кальвінаў свой бог ёсць! Заблыталі цёмны народ багамі гэтымі, а самі!.. О, самі паны добры для нас прыклад даюць!.. Нам, простым людзям, законы ад бога — толькі якога ж з гэтых багоў! — папрыдумвалі... а самі...

Ш ы м а н *(здзіўлена).* Паўлюк, што з табою? Скуль гэта ў цябе ўзялося?..

П а ў л ю к *(смеючыся).* Скуль?! *(Б'е сябе ў грудзі.)* Вось тут усё гэта перакіпела!.. *(Паказвае на галаву.)* Ды думка!.. Наслухаўся я і нагледзеўся ў палацы шмат чаго!.. Усялякіх людзей там набачыўся!.. Ну

і прыйшоў затым да думак аб веры!.. *(Пастуквае кулаком па стале.)* Але годзе аб гэтым!.. Так толькі... да слова прыйшлося, дык выказаў... Давай лепш разлічымся!.. Колькі я табе вінен?.. *(Налівае астачу са збанка ў куфаль.)*

Ш ы м а н *(перш як бы задуманы ад слоў Паўлюка, потым пачынае лічыць на бірцы).* Сівухі тут, ой, ой, колькі напіта!.. *(Лічыць пра сябе.)* Сорак дзве кварты!.. Па два грошы... Мёду дваццаць пяць кварт... А піва — больш за сто збаноў — ого!..

П а ў л ю к *(стукнуўшы пустым збанком па стале).* Хасечка! Яшчэ такі самы дай мне!.. *(Да Шымана.)* Ну, падлічыў?

Ш ы м а н *(скончыўшы вылічэнне па бірцы і на пальцах).* А ведаеш, Паўлюк, больш за чырвонца доўг твой!..

П а ў л ю к *(вымае грошы з кішэні).* Няхай будзе так!.. Маеш гэты пракляты чырвонец! *(Кідае яго на стол, Шыман на ляту яго падхоплівае.)*

Ш ы м а н. Ой, які ты дзіўны, Паўлюк!.. Пракляты, кажаш, чырвонец!.. Другі на тваім месцы шчаслівым быў бы, а ты —«пракляты»!.. А падумай, калі ты за сахой у Падлессі хадзіў, чырвонцаў, нябось, у баразнах не знаходзіў?!.

П а ў л ю к *(гнеўна).* Ну што ж, што не знаходзіў!.. Бо і не трэба было мне іх, як не хацеў бы я іх і зараз мець!.. Атрымліваць за службу гэту... праклятую...

Ш ы м а н *(усміхаючыся).* Чым, ну чым яна — гэта служба — табе здалася праклятаю?!

П а ў л ю к. Чым?.. Усім!.. Усім мне яна папярок горла вось тут стала!.. Як жа?! Узяць чалавека працы, гаротнага жыцця, адарваць яго ад зямлі, ад блізкіх людзей... нячыста ім карыстацца... прымусіць прадаваць сваё сумленне, вось за іх, праклятых... *(Хапае Шымана за руку, у якой той трымаў яшчэ чырвонец, так, што апошні выпадае на падлогу.)* Гэх, Шыман! Шыман!.. Дзе ж тут божы закон?!. Як можна гвалтаваць душу чакавека, хаця ж бы ён быў і чалавекам падданым?! Якога ж гэта бога такія законы?! Каторага з хрысціянскіх багоў?

Тым часам у карчму ўваходзіць, азіраючыся і чуючы апошнія словы Паўлюка, п а д а р о ж н ы, як бы манашак, з мяшэчкам за плячыма і з кіёчкам у руцэ. Шыман, заўважыўшы гэта, пад-

хоплівае з падлогі чырвонец і жвава апускае яго ў бакавую кішэню. Паўлюк, заўважыўшы ўвайшоўшага, сціхае.

**М а н а ш а к.** Добры вечар васпанам!

**П а ў л ю к** *(да яго ў адказ).* Каму, каму добры хай будзе вечар, але не панам толькі!..

**М а н а ш а к** *(прыкідаючыся няўцяміўшым).* Я зычу добрага вечара вашэцям... вам, паночкі!..

**П а ў л ю к** *(хітра, злосна).* Якія ж тут паны перад табою? — Яўрэй ды панскі гайдук з мужыкоў, з панскага, значыць, быдла...

**М а н а ш а к** *(раздумна, скідаючы на лаву клунак).* Так-то так!.. Дзіўныя, аднак, справы, твае, госпадзі!.. Мудрасцю сваёю ты ўсё наладзіў!..

**П а ў л ю к.** Дзіўныя-то дзіўныя, праўду ты, чакавеча, кажаш, справы божага нібыта на свеце ладу!.. Як жа! Адны на другіх вярхом едуць, б'юць і плакаць нават не даюць!

**М а н а ш а к** *(глянуўшы зацікаўлена на Паўлюка, уздыхае і садзіцца на лаву, развязвае свой мяшэчак, дастае адтуль кавалак хлеба).* Што ж! Тако глаголет гаспадзь: сміры дух твой і вазнесу цябе!.. *(Жуе сухамяць хлеб.)*

**П а ў л ю к.** Добрая дарада, але толькі каму, скажы ты мне, яна карысна?! Не думаю, каб нашаму брату!.. *(Да Шымана.)* Цягні-тка дзеля яго пасудзіну пітную!.. *(Да падарожнага.)* Гэй, чалавеча пабожны, сядай ты бліжэй сюды! Сербані піва са мною; пэўна ж, горла за дарогу высахла!

Карчмар падае куфаль і для манашка, які перасядае да Паўлюка. Той налівае яму піва; чутна, як пад'язджаюць да карчмы дзве фурманкі.

**М а н а ш а к** *(прымаючы з паклонам куфаль).* Праўду ты кажаш, добры чалавек! Сухі хлеб з дарогі горла дзярэ! *(П'е з прагавітасцю.)*

**П а ў л ю к** *(наліваючы яму другі раз).* Скуль жа ідзеш?.. Перакінь!..

**М а н а ш а к.** Здалёк, браце мой! *(П'е ўвесь куфаль.)* Быў у Кіеве, Пачаеве...

**П а ў л ю к** *(наліваючы яму трэці куфаль).* А цяпер куды кіруешся?

**М а н а ш а к.** З Пінску рушыў я на Слуцак, а аддаўшы чэсць менскім святыням, спадзяюся ўбачыць і віленскія святыя мясціны.

П а ў л ю к *(усміхаючыся)*. Ты што ж гэта сам святым зрабіцца хочаш?! *(Зніжаючы голас.)* Цікава, аднак, было б цябе паслухаць, раз з Украіны ідзеш. Што там сярод людзей чуў, бачыў?..

М а н а ш а к *(ціщэй і азіраючыся)*. О, браток ты мой!.. Шмат чаго там дачуўся, даведаўся!..

Тым часам уваходзяць у карчму д з в е п а р ы г а с п а д а р о ў - с я л я н, з якіх адзін, больш заможны, ужо падпіўшы.

Ж о н к а з а м о ж н а г а *(да свайго)*. Мала таго што ў Вызне, прадаўшы цёлку, піў — дык не, яшчэ й тут трэба было табе затрымацца! А, стары лайдак!

М у ж ы к *(супакойваючы яе)*. Ды кінь ты, мара, чапляцца! З кумам вось хачу выпіць кватэрку-другую! «Працуеш, працуеш, гадуеш, гадуеш цялё, дый тое як бы не тваё!» Кумок, чаго возьмем? Зялёненькай агнявіцы ці мядовае цудоўнае вадзіцы?..

К у м *(маладзейшы ад яго)*. Я, Рыгор, да бабскае, як ведаеш, не ласы! *(Смяецца.)*

З а м о ж н ы. Добра, што ты мне пра баб успомніў!.. *(Да кумы.)* Мы сабе возьмем сівухі-зелянухі, а дзеля вас, кумка, і маёй Магдусі — салодзенькага мядку справадзім на стол!

Ж о н к а м а л о д ш а г а *(да кумы)*. Ну й што ты з імі, кума, зробіш! Мой зусім мала што на кірмашы прадаў, а таксама адно з кішэні вымаў! Сядайма, покі пададуць!..

Абедзве садзяцца адна проці другой, развязваючы клункі з закускаю. Маладзейшы сеў таксама, а стары падышоў да сталяка.

З а м о ж н ы *(хістаючыся крыху)*. Ну, Шыман, давай хутчэй кварту гарэлкі нам, а пляшку мёду бабам!

Ш ы м а н. Падай, Хасе! Ну, які быў кірмаш?

З а м о ж н ы. Добры, добры быў кірмаш! Людзей безліч было!..

Ш ы м а н. А пшаніца як?

З а м о ж н ы. Ды з палавіны кірмашу пачалі толькі яе купляць, дый то гэты раз танней! Аднак за сваю цёлку я лічу, што добрую цану атрымаў! *(Адыходзіць да стала і сядае; п'юць усе чацвёра.)*

М а н а ш а к *(азірнуўшыся і ўбачыўшы, што, занятыя выпіўкай, сяляне не чуюць)*. На Украіне, браце, апошніх два гады, як у гаршку ўсё кіпіць! Атаман казацкі, Касінскі, яшчэ два гады таму назад распачаў

змаганне з князем Янушам Астрожскім, які душыў у у сваім старостве працоўны люд... Асіліў ён князёўскае войска, знішчыў замкі і двары гэтага ворага народа, заўладаў гарматамі і адсядзеўся потым з імі ў Трыпольскім замку...

Уваходзяць яшчэ н е к а л ь к і  с я л я н  і  с я л я н а к, што варочаліся з кірмашу. Манашак, азірнуўшыся, сціхае. Увайшоўшыя займаюць месцы на лавах, частка іх вымае яду з торбаў, мужчыны падыходзяць да сталяка, заказваюць сабе піва.

Х л о п е ц *(дзеўкам)*. Мо абнову пакропім, дзяўчаткі! Га?

А д н а  з  д з е в а к. А, ці ж ты, Ігналь, поп або ксёндз, што збіраешся крапіць свянцонаю вадою мае каралі? *(Смяюцца.)*

Х л о п е ц *(смеючыся)*. Ну, у Шымана знойдзецца такая вадзіца, якою варта не толькі пакрапіць, але і яе напіцца! Ха-ха-ха! *(Усе чацвёра смяюцца.)*

Д р у г і  х л о п е ц *(з увайшоўшых)*. Цягні сюды, Хася, гарнец мёду ды добры дзяркач, будзем Аўдоцціны свянціць каралі! *(Пад свой рогат абдымае Аўдоццю; тая бароніцца. Хася падае ім мёд. Манашак, сцішыўшы голас, апавядае далей.)*

М а н а ш а к. А з вясны Касінскі заўладаў ужо ўсёю Кіеўшчынаю і перайшоў на Валынь. Тут паны, браце мой, перапужаліся, бо пайшоў рух не толькі сярод казакоў ды мяшчан, але і сярод падданых, мужыкоў... Нанялі тады паны войска ў Вэнграх ды ў Букавіне, паднялі на ногі ўсю шляхту валынскую і пад мястэчкам Пяткаю разбілі казакоў. Перадыхнуўшы за дняпроўскімі парогамі, Касінскі вясною гэтага 93 года кінуўся на другога заклятага ворага народа, князя Вішнявецкага, старосту чаркаскага...

Пад'язджае і падыходзіць усё больш і больш народу з кірмашу; частка іх сядае за сталы, частка п'е каля сталяка. Д в о е  ў в а й ш о ў ш ы х  падыходзяць да Паўлюка і вітаюцца.

М а н а ш а к *(мяняючы размову)*. І вось, кажа мне ігумен...

П а ў л ю к *(упаўголаса)*. Пры іх можна! Свае!.. *(Да падышоўшых.)* Апавядае, як на Украіне паўстанне распачалося... Ну, святы чалавек, далей, далей!

М а н а ш а к *(азірнуўшыся)*. Аблажыў гэта Касінскі Чаркасы, але Вішнявецкі зрабіў засаду пад местам і перамог казакоў. Склаў, браце ты мой, Касінскі ў

гэтым баі сваю буйную галаву!.. Але руху гэта не прыпыніла... Летам вось сягочасным узняліся зноў казакі, аблажылі чаркасы, і тутака Вішнявецкаму прыйшлося пайсці на замірэнне, якое, праўду кажучы, аддало зараз усё Правабярэжжа ў рукі паўстанцаў! Пайшло тады ўсюды, браткі мае, непаслухмянства сялян, развяліся ўсюды на Валыні гайдамакі!.. Нават князі Астрожскія і тыя зараз змушаны ладзіць з імі і адкупацца ад іхніх загонаў!..

П а ў л ю к *(захоплены)*. Цікава, цікава там дзеецца! Гэх, каб у нас, на Беларусі, народ зразумеў ды падняўся, бо душаць жа нас паны страшэнна!..

М а н а ш а к *(да ўсіх трох, яшчэ больш сцішыўшы голас)*. Трэба, браткі мае, разам усім нам узняцца проці паноў, якія гоняць веру нашу! Гэта — справа, на якую дае вам сваё блаславенне наша святая царква!..

М і к і т а Ц ы г а. Гэта, браце, па прыслоўю: датуль збан ваду носіць, пакуль не трэсне. Цярпелі, цярпелі, а як лопне гэта вечная цярплівасць — ошматкі адно тады ад панства паляцяць! Прыйшоў бы хутчэй толькі гэты час! Пазналі б яны народную помсту!..

Д р у г і *(Мікіце)*. Ну добра, а пакуль што, Мікіта, у Шымана рукі свярбяць, каб намерыць нам паўкварты! *(Абодва адыходзяць да сталяка, дзе і п'юць.)*

М а н а ш а к *(азірнуўшыся і падсунуўшыся, ціха)*. Тут у мяшэчку ў мяне граматка ёсць... ад уладыкі аднаго; кліча яна ўсіх вас, з Белай Русі, падтрымаць веру дзядоў сваіх, бо поедам ядуць нас каталікі, сілком змушаюць прымаць іхні герэтыцкі закон!.. *(Шукае ў клунку і падае яму звітак.)*

П а ў л ю к *(з агіднасцю, павышаючы нат голас)*. Эх, вы, доўгавалосыя! Захацелася і вам у збаламучанай вадзе рыбкі палавіць! Народ паўстае, каб ярмо з намуленае ў кроў шыі зняць, а вы і да гэтае справы прымазаліся! Далі б нам перш з панамі справіцца, а народ потым бы сам разабраў, якому там богу маліцца трэба!..

М а н а ш а к *(хапаючы яго за руку)*. Які ты гарачы ды неасцярожны! Ціха! Тут, браток мой, у граматцы больш аб вызваленні ад паноў пісана! Прачытай сабе потым, дык пабачыш!

П а ў л ю к *(з горыччу і роздумам, сціснуўшы гра-*

*матку ў руцэ).* Шкада вось, што я грамаце не ўмею! Усё адно што сляпы!..

Манашак. А ты другім, хто з вас граматны, дай прачытаць! А то да айца пастара свайго занясі ды парадзься з ім!..

Паўлюк. Кепска ты гэтых сваіх доўгавалосых ведаеш! Айцец Тамаш, поп, значыцца, наш, нездарма Загрэбка — прозвішча мае! Толькі аб карысці і думае! Да княгіні лашчыцца, што той сабака!..

Манашак. Знойдзеш з кім прачытаць! Толькі сцеражыся... з граматкаю: за гэта панства карае страшэнна! Стомлен я і прылягу дзе аддыхнуць к дарозе сваёй далейшай!.. Памажы ж, божа, вам, людзі добрыя, страннапрыімныя!..

Непрыкметна знікае. Паўлюк хавае грамату за пазуху. Падыходзіць Мікіта Цыга з касцьмі для гульні.

Паўлюк *(крычыць).* Шыман, цягні сюды кварту сівухі ды шкляніцу на двух!

Чуцён у зборні гоман. Пяюць сп'яну брындзюшкі. Рогат. Чапляюцца і жартуюць з жанчынамі. Яўрэй-цымбаліст, зайшоўшы ў зборню, агалашае яе гукамі вясёлых мелодый. Хтось крычыць: «Ну-тка, цымбаліст, утні ўдавіцу». Танцуюць. Паўлюк, распіваючы гарэлку з Цыгаю, іграе ў косці. Увесь гоман і вясёласць гасне, абрываецца, калі ўбегшая дзяўчынка крыкнула.

Дзяўчынка *(з імпэтам).* Паны, паны прыехалі!

Хтось. Якія паны?

Дзяўчынка *(перапужана).* Трое паноў конна... з шаблямі, пісталетамі!..

Услед, бадай, чутны топат ног у сенцах і галасы ўваходзячых у карчму шляхтаў.

Адзін паважны шляхціц. Гэй, карчмару, даш нам у камору віна вергерскага! І прэндзэй!

Шыман *(падбегшы да іх, з уклонам).* Ураз, паночкі!

Увайшоўшая шляхта з знявагаю пазірае на сялян. Частка апошніх пакорліва ім кланяецца. Шляхта паважна праходзіць у камору. Хася праносіць туды віно. Сярэдняй сталасці шляхціц з ёю дрэнна дурэе. Хася выскоквае стуль уся гнеўная. Памалу смех, гоман, песні аднаўляюцца ў зборні. Паны п'юць усё больш. Частка сялян пачынае, пад пануканне жанчын, пакідаць карчму і ад'язджаць. У зборні гоман усё-ткі не змяншаецца. Гэта выводзіць з сябе шляхту. Яны выскокваюць у зборню.

Малодшы шляхціц. Ціха вы, быдла!

З народу. Ого!

Д р у г і  ш л я х ц і ц. Разышліся, дык і перад панамі не стрымліваецеся! Вон адсюль усе! І зараз жа!

Ч а с т к а  с я л я н спешна пакідае карчму. Спужаўшыся, сонны манашак саскоквае з лавы і дае ходу за дзверы.

М і к і т а  Ц ы г а. Хоць бы яшчэ паны былі, а то паўпанкі!

Т р э ц і  ш л я х ц і ц *(выхапіўшы нагай, кідаецца з ім на хлопцаў і хоча хляснуць хоць каго; тыя лоўка расступаюцца).* А, лайдака!

М а л о д ш ы  ш л я х ц і ц *(найбольш падпіўшы).* Адну-дзве з прыгажэйшых дзяўчат можна пакінуць... Хай з намі пагуляюць!.. А іншых усіх у шыю: няхай не смярдзяць тут!..

Выгледзеўшы адну з дзяўчат, хапае яе і валачэ да дзвярэй каморы; тая адбіваецца з крыкам; сярод хлопцаў і мужчын крыкі нездавальнення.

П а ў л ю к *(устае з-за стала, бледны, як смерць, і, не вытрымаўшы здзекаў шляхты, крычыць).* Ніхто не выходзь адсюль, хлопцы! Няма тут паноў! Паны — ёсць паны ў сябе ў палацах, па дварах сваіх, а ў карчме, на шляху — усе тут роўня! Даволі здзеку над намі!

П е р ш ы  ш л я х ц і ц. Вось што?! Бунт паднімаць, пся маць ваша! *(Выхопліваючы шаблю, кідаецца на застаўшыхся ў карчме сялян.)* Прэч жа ўсе, гады! *(Трэці больш сталы з шляхтаў, нагаём б'е аднаго хлопца. Тады Паўлюк не вытрымлівае і выскоквае з-за стала, за ім Цыга.)*

П а ў л ю к *(выхапіўшы шаблю і махнуўшы ёю, кідаецца з крыкам на шляхтаў).* Бі іх, хлопцы, праклятых, хто чым можа! Папілі яны даволі з нас крыві!

Той, што біўся нагаём, у момант ляціць на падлогу з разбітай галавой. Сяляне хапаюць хто лаву, хто дручок і кідаюцца на шляхтаў. Шыман лезе за сталяк са страху. Таксама і Пэся. Хася ж стаіць здаволеная, з палаючымі вачыма. Шляхта з лаянкаю і крыкам адступае да сцяны пад націскам сялян. Малодшы шляхціц выпускае дзяўчыну і перш чым мог стрэліць з выцягнутага ім пісталета, падае таксама пад шабляю Паўлюка. Трэцяга дабіваюць сяляне.

Ш ы м а н (крычыць). Ой-ой! Гевалт! Пашалелі!.. Пашалелі!.. *(Праз расчыненае акно манашак глядзіць задаволена, пагладжваючы бараду.)*

П а ў л ю к *(бачачы вынікі бойкі).* Ось так даўно

пара было весці з панамі размовы! Сабакам сабачая і смерць!..

Шыман *(падбягаючы да канаючых на падлозе шляхтаў).* Ой, ой, ой! Божа ты мой!.. Што вы нарабілі!.. Шыбеніца цяпер чакае ўсіх нас!.. Ой-ой!

Іншыя, хто прымаў удзел у забойстве, першы момант стаяць з тым, што было ў руках, ацапянелыя. Ускочыўшы ў зборню, Манашак стукам дзвярэй варочае ўсім цвярозасць думкі. Вылазяць з-за сталяка і Пэся з Абрумулам.

Паўлюк *(да аднаго з хлопцаў).* Антось! Выскач ды глянь! Людзі могуць надысці ці пад'ехаць! Скажаш, калі што!.. *(Да іншых.)* Ну, хлопцы, калі галава кожнага з нас павінна застацца на карку, трэба думаць, куды і як нам цяперака пакіравацца.

Мікіта Цыга *(пахмура).* Дзе тут прыдумаеш!.. Шыбеніца ўсім нам!

Другі *(жвава).* А мо пакуль што ў лесе схавацца?.. А там далей будзем бачыць, што рабіць!..

Мікіта Цыга. Адно ясна: тут нам больш не жыццё, хлопцы!

Манашак *(падыходзіць, раздумна гладзячы бараду).* Прыміце, браткі, маю вам дараду! Я гэтакія справы не ў першы раз на сваім вяку бачу...

Ускоквае Антось у зборню.

Антось *(нервова).* Дзве фурманкі паказаліся на дарозе!

Паўлюк. Добра! Ідзі сцеражы далей!

Антось ізноў выскоквае на дарогу.

Манашак. Коні шляхтаў без гаспадароў засталіся... А конікі добрыя. Дык на іх ды да сваіх братоў, паўстаўшых на Валыні!.. А дарогу я вам пакажу, бо стуль якраз...

Хвіліна маўчанкі. Антось ускоквае ізноў.

Антось *(трывожна).* Падбліжаюцца ўжо!

Паўлюк *(рашуча).* Што тут думаць, хлопцы! Або шыбеніца, або воля і змаганне далей з панамі! Бяры, хлопцы, іхнія шаблі ды пісталеты, выводзьце коней іхніх і гайда на Украіну, дзе падняліся нашы смелыя браты!..

Усе кідаюцца да забітых і ўзбройваюцца. Двое бягуць у стайню па коней. Манашак ускладае на плечы свой клунак. Праз хвілю коні ўжо ля ганка.

П а ў л ю к. Ну, хлопцы, коні гатовы! У дарогу! Бывай жа здароў, Шыман! І ты, Хасечка!.. Ну, і ты, Пэся!.. Пабачымся калі-небудзь пры іншых мо толькі ўмовах!.. *(Да Мікітні на хаду.)* А ты —зараз жа ў двор! Выкрадзі нам яшчэ пары са дзве княгініных коней добрых ды да Пустаскай грэблі гані! Там мы цябе чакаем! *(Выходзяць.)* Ну, хлопцы, па волю сабе і народу!

*Заслона.*

## ДЗЕЯ IV

### Навальніца

По задні бок сцэны, проці рампы, гасцінец вялікі вызнянскі; у Заўшыцы шлях, абсаджаны дрэвамі, затулены высокім узбярэжжам дарогі. Гэты ўзняты край дарогі направа пераходзіць ва ўзгор'е, пакрытае лесам-борам. Сярэдзіна сцэны — лугавіна са збітаю травою. Налева — хата лесніка, нізенькая, пахіснутая ўжо, крытая саломаю і чаротам, старэнькая, курная хатка, ад якой да самае рампы загарадзь агарода з вішняком, канопляю і дзікім, увіўшым загарадзь хмелем. Даль дарогі, дрэвы шляху і хатка заліты палыхаючым заравам пажару Заўшыцкага двара; край лесу справа адсвечвае ім таксама.

Месяц ужо высакавата ўзняўся па той бок дарогі, але яго бледны блеск гіне перш у водблесках пажару і пасільваецца толькі з часам, калі пазней пажар сціхае, канчаецца.

Калі заслона паднята, ля хаткі яе сям'я жахаецца пажару.

С ы м о н і х а *(да мужа)*. А, божа ты мой!.. От гарыць!.. Аж страшна!..

С ы м о н - л я с н і к *(засланяючы вочы ад бляску пажару)*. Ёсць чаму гарэць, Аксінька!.. Гэта табе не наша халупка, што ў зямлю ўвайшла!.. Вякамі збіралі паны Прушынскія ўсялякае дабро ў свой двор!.. Палац стаў што поўная чаша... Нямала і княгіня дадала ў свае Заўшыцы багацця, абдзіраючы праз свайго намесніка мястэчка Вызну і нас... Паназбірала і яна шмат золата, срэбра, сукна ды аксамітаў да палаца свайго, у яго скрыні-заховы і куфры... Але не судзіла доля гадаўцы пакарыстацца ўсім гэтым да канца свайго жыцця!

С ы м о н і х а *(злосна высмейваючы яго)*. Падумаеш, які адважны стаў!.. Ужо паню княгіню гадаўкаю абзывае, а не больш як тры дні назад у нагах пана Чар-

нецкага валяўся, просячы пазбавіць бізуноў на стайні... за тое, што запатрабаванай к сталу пані-княгіні дзічыны не даставіў!.. Забыўся скора ты, як гнуў карак свой перад слугамі яе, а зараз адвагі скульсці набраўся!..

Сымон. Не адмаўляюся, што валяўся ў нагах слуг панскіх, а вось зараз, калі паўсталі з прыходам гайдамакаў ды казакоў нашыя,— годзе, сказаў!.. За свой век досыць накланяўся ім, праклятым, наслужыўся!..

Нічыпар *(стары бацька лесніка выходзіць з хаткі, падыходзіць і чуе апошнія словы сына).* Чаго чаго, Сымон, ты захацеў?.. Волі сабе хочаш?! Як бачу я, мала цябе, чалавеча, яшчэ білі?! Як жа! адважны вышукаўся!.. Волі сабе захацеў!.. Раз табе на роду паднявольным быць пісана, трымайся лепш сваёй дарогі, а на брыкуноў знойдзецца яшчэ скура, з якое паны на вас бізуны будуць рэзаць!.. Бач, які ты стаў спрытны, як узнялася кругом навальніца!..

Сымон *(настойваючы).* А што ж! Прыйшла пара нашаму брату прыгоннае ярмо з шыі скідаць!.. Народ паўстаў...

Нічыпар *(злуючы).* Яно так... Але які гэта народ... Маладыя, смелыя, хто не так ланцугамі жыцця, сям'і скуты. А не такія, як ось ты, адважны толькі да першае сустрэчы з панам... Знаў я, мой ты рахманы, людзей у нас, на Белай Русі, у былыя мае, маладшыя гады... Дык тыя доўга ў нас не трымаліся... Бадай усе да казакоў, у Запарожжа Няпроўскае паўцякалі!.. Ото былі людзі! Не то што вы, панскія недабіткі!

Сымон *(пратэстуючы).* Эт! Што табе, тата, старому тлумачыць! Сам ты сілы ўжо страціў, дык маладшых за сябе і не разумееш!.. Я з рысем сам на адзін спраўляюся... Стрэльбу княскую маю... куляю з дваццаці пяці крокаў звера б'ю!..

Нічыпар *(насмешліва).* Так!.. Так!.. А Аксінню з малым Петрусём на каго пакінеш, калі да паўстаўшых прылучыцца хочаш?..

Сымоніха *(укорліва).* Яму-то што... Прывык па лесе шлындаць цэлымі днямі — ён да сям'і не прывязаны!

Сымон *(заядла).* А канечне!.. Што ж мне?! Мо свінняў тваіх даглядаць увесь свой век або авечак па-

магаць стрыгчы, карову даіць... Ось, глядзі, як прыйдуць...

С ы м о н і х а *(прыслухоўваючыся).* Ціха, нехта каля лесу шмыгануў!..

С ы м о н *(упаўшым голасам).* Дзе?.. *(Углядаецца.)* Дзе ты яго бачыла?.. Так толькі здалося табе гэта!.. Нічога не бачу!..

Н і ч ы п а р *(смеючыся).* От табе і адважны!.. У самога і голас змяніўся, як жонка пастрашыла!.. Кхе-хе-хе!..

Аксіння ўглядаецца ўсё. Заўважвае нарэшце і Сымон, што нехта ідзе ўскраем бору.

С ы м о н *(задачліва).* Хто б гэта мог быць?.. *(Калі падыходзячы паказваецца ў кустах, аклікае яго.)* Хто ідзе?

Ч а р н е ц к і *(ён у бурносе, з апушчанаю на галаву капуцаю).* Гэй, Сымон! Гэта я — наместнік пані княгіні...

С ы м о н *(кланяючыся).* Выбачайце, паночку!.. Не апазнаў пана... Як вы тут, паночку, апынуліся?..

Н і ч ы п а р *(падыходзячы да іх бліжэй).* Уклон нізкі шаноўнаму пану наместніку!.. Што, паночку, зараз у Заўшыцах дзеецца?..

Ч а р н е ц к і *(адкідваючы капуцу).* Самі бачыце, што з Заўшыцамі зараз... Казакі і гайдамакі, разбойнікі з Украіны, там — б'юць, рэжуць, паляць!..

Н і ч ы п а р. Паночку, а як з паняю?.. З іншымі?..

Ч а р н е ц к і. Як на тое шчасце, учора, пачуўшы са Старобіна аб падыходзе Налівайкі, выправіў я раніцою сягоння паню княгіню з панам Рымшаю і трыма гайдукамі ў адзін... замак... моцны... І пані Даміцэля з імі выехала... Цэлы дзень у гэтае іх падарожжа пакаваліся, збіраліся, а я разам з панам ксяндзом назаўтра раніцою ўслед ім меўся выехаць... А тут нямаведама скуль наляцеў гэты разбойніцкі загон!.. Ледзь я выскачыў з палаца, захапіўшы пісталет ды от бурнос свой...

Н і ч ы п а р. А з панам ксяндзом што? А ён як?

Ч а р н е ц к і. Эх! Крый яго пан бог і святы Ігнац!.. У сваім пакоі ён быў тады... Не ведаю, што з ім сталася!..

С ы м о н *(кланяючыся).* Проша ў хату!..

Ч а р н е ц к і *(да яго).* Ось што!.. Я да цябе ішоў... Хачу, каб ты мяне раніцою, змрокам яшчэ, праз пушчу ў адно месца вывеў!..

Н і ч ы п а р *(Сымонісе).* Ідзі, Аксінька, у хату! Накрый стол чысцей: мо пан што-небудзь закусіць! Перад дарогаю, паночку, трэба падсілкавацца!..

Ч а р н е ц к і *(як бы пра сябе).* Дзе тут есці!.. Ратавацца трэба, пакуль у Заўшыцах парадкуюць гэтыя праклятыя... *(Галасней.)* Хіба калі ў вас крыху бражкі знойдзецца ды мяса якога або сала...

С ы м о н і х а *(кланяючыся).* Заходзьце, паночку, у хату!.. Падсілкуйцеся!..

Н і ч ы п а р. І бражкі знойдзем, пане... дзічына якраз ёсць... Заходзьце!..

Заходзяць утраіх у хату. Сымон застаецца адзін у роздуме...

С ы м о н *(пра сябе).* Кат гэты... у маіх руках зараз!.. А што, каб... выкарыстаць гэта?! Петруся хіба да гайдамакаў паслаць, у Заўшыцы, або самому яго якнебудзь... прыкончыць...

Н і ч ы п а р *(адчыняючы дзверы).* Сымон!.. Ты тут?

С ы м о н. Тут!..

Н і ч ы п а р. Ідзі ў хату!.. Аб дарозе пан цябе распытаць хоча... *(Сымон заходзіць у хату. Здалёк чуваць, што нехта едзе. Стары, прыставіўшы да вуха руку, падыходзіць к рогу хаты, бліжэй да дарогі, і прыслухоўваецца.)* Як бы стуль... з боку карчмы хтосьедзе?.. *(Стук калёс усё ўзмацняецца і становіцца выразней.)* Праў-да! Хтось едзе, і як яшчэ шпарка... Трэба сказаць схавацца пану!..

Паспяшае к дому. Праз хвілю чуваць мітусня ў доме, выскоквае С ы м о н, а праз хвілю за ім Н і ч ы п а р.

С ы м о н *(паспяшаючы к дарозе).* Хто ж бы гэта мог быць, ды яшчэ ў такую пару?.. *(Да паспяшаючага за ім бацькі, паціху.)* Гэтага яшчэ няпрошанага чорта прынесла!.. Як бы з ім не набрацца бяды!..

Н і ч ы п а р *(ціха).* Ніхто не дагадаецца... Ён на гару, пад дах укрыўся!

За хатаю хутка чуваць, што на шляху затрымалася пароконная фурманка.

С ы м о н *(углядаючыся).* Трое якіхсьці: пан з паняю ды фурман... Злезлі, пакіроўваюцца сюды...

Падыходзяць к хаце праезджыя — **пан Зубкоўскі з жонкаю**, за імі з пугаю ў руках фурман.

**Пані Зубкоўская** *(устрывожана)*. Але цо ж бэндзем робіць тэрас, коханы Матэуш?.. Шымон коні не дал!..

**Пан Зубкоўскі.** Не дал, бо отправіл старобінскага рабіна, ктуры зрана был у него... Запытамыся ў тых хлопув, можа, цусь можна бэндзе зробіць... *(Да Нічыпара і Сымона, якія ім кланяюцца.)* Каханенькія, ці няможна ў вас пакінуць стомленых коней, заместа нашых двох хоць аднаго свежага атрымаць. Мы вам добра заплацім, бо хочам выбрацца з гэтай мясцовасці ў Навагрудак або хоць куды-небудзь у іншае месца.

**Сымон** *(кланяючыся)*. Не маем мы, панок, уласных коней!.. Леснікуем мы тут у пані княгіні Горскай... А двор Заўшыцы, як бачыце, ужо гарыць!

**Пані Зубкоўская.** А мо як маглі бы вы дастаць з вёскі пару каней; мы заплацім і сваіх на заменну пакінем!..

**Нічыпар** *(кланяючыся)*. Таго і чакай, што і сюды гайдамакі зараз падойдуць... А як затрымаюць з гэтаю справаю — і паном кепска будзе ды і нам не падзякуюць...

**Фурман** *(да свайго пана)*. А вы, пане, прасіце за фурмана каго-небудзь з іх, бо я і дарогі далей не ведаю дый не паеду, як казаў ужо!..

**Пан Зубкоўскі** *(гнеўна)*. Мільч, лайдак!.. *(Да Нічыпара.)* От так усю дарогу, гад! І сам гайдамакаў баіцца, і нас увесь час імі палохае... Хвалюе толькі... *(Да фурмана.)* Ось як адлупцую цябе гарапнікам, будзеш маўчаць і слухацца свайго пана!..

**Фурман** *(рашуча)*. Як сабе хочаце, пане!.. Толькі я не еду далей, бо, праўду кажучы, усюды ўжо яны ёсць!.. Як затрымаюць з вамі, скажуць: вывозіў паноў сваіх... сатнуць і мне галаву!..

**Пан Зубкоўскі** *(запаліўшыся)*. Дык ты ўжо бунтаваць пачынаеш!.. На іх бок пераходзіш!.. Ды я цябе тут жа на месцы прыкончу!..

Хоча выцягнуць з-за пояса пісталет. Пані Зубкоўская кідаецца да яго і вісне на яго руках.

**Пані Зубкоўская.** Коханы, цо ты!..

Н і ч ы п а р *(да яго таксама).* Паночку, бойцеся бога!.. Стрэлам жа пан прыцёг бы сюды гайдамакаў!.. Усе б мы тады загінулі!..

П а н З у б к о ў с к і *(да фурмана).* А, паганец!.. Малі адно бога за паню, што перашкодзіла мне ў расправе з табою!

П а н і З у б к о ў с к а я *(да Нічыпара).* Можа б, з вас хто адвёз нас да бліжэйшага спакойнага месца?.. Мы добра заплацім!..

С ы м о н *(упарта).* Стары без сілы ўжо, а я не павязу... Сям'я ж застаецца ў такі момант... без абароны!..

П а н і З у б к о ў с к а я *(непакойна).* Каханы! Ну цо ж мамы тэрас робіць?..

П а н З у б к о ў с к і *(рашуча).* Ну! Марудзіць венцэй неможліве!.. Едзем!

П а н і З у б к о ў с к а я *(плакслівa да мужа).* Значысе, вэдвух тылько?!

П а н З у б к о ў с к і *(рашуча).* Так! Едзем на нашых конях і вэдвух!.. Ідзём!..

Не развітаўшыся з сялянамі, ідуць да свае фурманкі. За імі ўслед іхні фурман.

Ф у р м а н *(ім услед уголас).* Ось так лепш будзе!.. Паны мо як абойдуцца без нас, лайдакоў, а мы самі якнебудзь без паноў справімся! Шчаслівай, паночкі, дарогі!..

Г о л а с п. З у б к о ў с к а г а *(за хатаю, з запалам).* А, псякрэв!.. Ось жа тады маё з табою, гад, павітанне!..

Чуцён пісталетны стрэл. Фурманка ўслед, пад хлёст пугі па конях, ад'язджае.
Нічыпар і Сымон кідаюцца за край хаты.

Н і ч ы п а р *(на бягу).* Ды няўжо ж ён застрэліў свайго чалавека?..

Праз хвіліну галасы Сымона і Нічыпара за хатаю.
З хаты выскоквае С ы м о н і х а, напужаная стрэлам. Мужчыны ідуць ёй насустрач.

С ы м о н і х а *(напружана).* Ой, божухна!.. Ды хто ж гэта страляў тут?.. Я ўжо спалохалася, баялася, як бы хто з вас двох не быў забіты!..

С ы м о н *(ёй).* Як бачыш, жывы!.. *(Ціха.)* А вось

фурмана свайго, што адмовіўся разам з імі ехаць, паны, што ўцякалі ад гайдамакаў, застрэлілі!..

Сымоніха *(жахаючыся)*. А божачка мой!.. За гэта застрэлілі?.. І насмерць?..

Нічыпар. Застрэліў чалавека, ну, значыцца, насмерць застрэліў!.. Ідзі ты лепш у хату! Дый я пайду, растлумачу пану, як справа была!.. А то, мусіць, напалохаўся, на гары седзячы!..

Аксіння і Нічыпар уваходзяць у хату. Потым чуваць на гары гоман старога з панам.

Сымон *(пра сябе)*. Танна для паноў каштуе нашае мужычае жыццё!.. Бацька княгіні на каго толькі падданых сваіх не мяняў! І на коней гандлярам з венграў і суседзям сваім на сабак... Дзесяць сямей прадаў князём Вішнявецкім — засяляць нейкія пусташы ў Кіеўшчыне!.. Эх! *(З гары чутна сярдзітая лаянка пана Чарнецкага на Нічыпара.)* Вось і гэтага ка́та нашага хаваць, ратаваць павінны, а ён лаецца яшчэ на бацьку!.. Ну, пачакай жа!..

Паспяшае ў хату, скуль праз хвіліну варочаецца з заспаным хлопчыкам сваім і, паказваючы яму пальцам, каб не гаварыў ні слова, адводзіць у бок лесу.

Сымон *(справа, ля кустоў)*. Петрусёк! Бяжы паўскрай лесу ў Заўшыцы, знайдзі атамана іхнага, гайдамацкага, скажы, што ў нас знатны пан хаваецца!.. Няхай спяшаюцца сюды!.. Зразумеў, сынок?..

Пятрусь *(тручы сабе вочы)*. Каб спяшаліся сюды?.. А што з панам, татка, будзе?..

Сымон *(ціха)*. Няхай хутчэй некалькі іх едуць сюды... ратаваць нас ад пана!.. Праўдзеш іх!.. Пакажаш, як да нас праехаць хутчэй!.. Бяжы ж, сынок!..

Петрусёк пускаецца бегчы. З хаты ўслед выскоквае Сымоніха. Падбягае да мужа, які стаіць і глядзіць услед хлопцу.

Сымоніха *(паціху мужу)*. Сымон! Дзе хлопец?.. *(Убачыўшы, што сынок пабег.)* Што ты задумаў?..

Сымон *(хапаючы яе за руку)*. Маўчы!.. Што задумаў, тое і выканаю!..

Сымоніха *(трывожна)*. Сымонка! Грэх на душу бярэш!.. Я сцяміла, як убачыла, што хлопца няма ў пасцелі... Пашто яго, нявіннага, у крывавую справу ўцягваеш?!

С ы м о н *(рашуча).* Грэх гэты на сябе бяру!.. Ідзі ты лепш у хату, каб не заўважылі!..

Сымоніха, а за ёю Сымон ідуць у хату. Сымон праз хвілю выходзіць з рушніцаю, якую хавае за плотам у каноплях. Нічыпар выходзіць за ім, бадай, і заўважвае, што Сымон да нечага рыхтуецца.

Н і ч ы п а р *(беручы яго за руку, ціха).* Сымон, ой не рабі ты дуроты, бо пашкадуеш потым!.. Не нам з імі справу ўзнімаць!..

С ы м о н *(смеючыся).* Без нас справа абойдзецца, а я гэта так... на ўсялякі выпадак прырыхтаваў!.. Што гэта лаяў ён цябе, бацька?..

Н і ч ы п а р *(упаўголаса).* Сердаваў, што не давялі да яго ведама адносна паноў, якія надоечы наехалі сюды! Мог бы, кажа, і я з імі адсюль выбрацца...

С ы м о н *(смяецца).* А стрэл, нябось, напалохаў яго?..

Н і ч ы п а р. Яшчэ як!.. Лезу гэта я на гару, каб сказаць, што за прычына была, а ён на мяне наставіў свой пісталет!.. Я, кажа, вам, гадам, цяпер не веру: усе вы зараз проці нас!.. З паўстанцамі, з гайдамакамі!..

С ы м о н *(усміхаючыся).* Прачувае, кат, сваю пагібель!..

Прыслухаўшыся, чуюць, што нехта з боку Заўшыц па шляху ідзе. Абодва падыходзяць к дрэвам на шляху і выглядаюць з-за іх. Чуцен, усё набліжаючыся, нечы спеў.

С ы м о н. З клункам за плячыма, ці што?! П'яны, а мо стомлены!.. Хістаецца...

Н і ч ы п а р. Спявае!.. Хутчэй п'яны!..

Чуваць, як чалавек, ідучы, спявае няскладна:

Ты... казача, казача-гультаю,
Выведзі мяне... з зялёнага... гаю!..

Н і ч ы п а р. Канечне, п'яны чалавек!.. Клунак навязаў, мусіць, у Заўшыцах!..

Чалавек з клункам паказваецца на дарозе. Пяяць ён перастаў ужо, убачыўшы людзей. Падбадрыўся, стараецца быць цвярозым.

Н е в я д о м ы *(бы манашак).* Чалом б'ю, людзі добрыя, вітаю!.. З прыходам сюды вызваліцеляў-казакоў паздраўляю! На Вызну гэта дарога?..

С ы м о н. На Вызну! А сам жа куды дарогу трымаеш?

Н е в я д о м ы. А вось, куды ногі вядуць ды дзе мне прыпынак дадуць!..

Н і ч ы п а р. А ты ж, чалавеча, скуль?

Н е в я д о м ы. А адусюль!..

С ы м о н. Як то адусюль?..

Н е в я д о м ы. А адусюль, бо дзе толькі я не быў!.. І на Украіне, і на Валыні, і на Палессі...

Н і ч ы п а р. А скуль жа зараз ідзеш?

Н е в я д о м ы. З Заўшыц!.. У пані княгіні былі на спавітанні!.. *(Хоча ўзняцца на высокі край дарогі, спатыкаецца, пры гэтым падае, і з клунка выпадаюць розныя касцельныя прылады; ускарабкаўшыся на ўскрай дарогі, падбірае назад у клунак выпаўшыя рэчы. Махаючы ў бок Заўшыц рукой.)* Што нам не згадзілася там — палім, нішчым!.. Шкода от, што стуль птушкі мацёрыя вылецелі!.. Зело огорчэн атаман наш слаўны Байструк, помстою свяшчэнною пылах!.. Аднак коліку некую панства і слуг яго верных істрэбіхом і гнездовішча сіе паганае разорыхом.

С ы м о н. А куды ж зараз?

Н е в я д о м ы. Камо гряду? Прыстанішча здзе ёсць карчомнае... Тамо і брація мая враз быці павінны...

Н і ч ы п а р *(з агідаю)*. Дык табе, відаць, у карчму да Шымана папасці хочацца?! Ну дык ідзі ось так проста!..

Н е в я д о м ы. Дзякую табе, дзеду, за сіе перстоуказаніе!.. Тамо і супакоюся... дандзежэ... Тсс! *(Бармоча, углядаючыся ў бок Заўшыц.)*

Тым часам стуль пасільваецца топат коней. Сымон адскоквае да дарогі і нервова сочыць за падбліжаючыміся.

Н е в я д о м ы *(заўважыўшы гэта)*. Брація моя, хрысталюбівае воінства запароскае прыбліжаецца!..

Н і ч ы п а р *(прыслухаўшыся, ціха)*. Так!.. Коннікі з-пад Заўшыц!..

Тым часам трое ехаўшых саскокваюць з коней і пешымі, з Петрусём уперадзе, бягуць к хаце. Сымон дае знак не падаваць пакуль што голасу; бяжыць да плота агарода, хапае з каноплі рушніцу і крычыць тады падбегшым.

С ы м о н. Сюды, браткі! Пан у нас на гары!..

Кідаецца ў хату, скуль з крыкам перапуду выскоквае Сымоніха.

С ы м о н і х а. А божа ж мой мілы! Што робіцца! Што дзеецца!..

Убачыўшы Петруська, падбягае да яго, абхоплівае яго, туліць да сябе, а потым адбягае з ім к лесу.

**Мікіта Цыга** *(гэта ён).* Мы к дому ўдвох!.. А вы, хлопцы, паабапал хаты сачыце!

Двое гайдамакаў становяцца, як паказана. З хаты чуваць крык Сымона і Цыгі. Праз хвіліну відаць, як праз дах, раскрыўшы салому, паказваецца пан Чарнецкі; глянуўшы на пастаўленага каля хаты гайдамака, ён страляе ў яго з пісталета і саскоквае ў агарод, але, падстрэлены стаяўшым за хатаю гайдамакам, падае.

Гайдамак, што стаяў перад хатаю, на хаду аглядае сваю прастрэленую руку і бяжыць з прыгатаванай для стрэлу рушніцаю ў агарод.

**Гайдамак** *(стуль).* Гатова, хлопцы!.. Здарава яго трахнуў, Смык!..

Сымон і Цыга саскокваюць з-пад страхі ў агарод жа.

**Сымон.** Ну і ўдала ж стрэліў! За правым вухам села куля!

**Мікіта Цыга** *(разглядзеўшы забітага).* Стойце! Дык гэта ж сам яснавяльможны пан Чарнецкі, намеснік княгіні тутэйшай. Гэх, Сымоне!.. Шкада, што не сказаў ты мне адразу, што за птушка ў цябе прытулілася!..

**Сымон** *(павярнуўшыся да яго і ўзіраючыся).* Ды няўжо гэта ты, Мікітка?! З пэнду я і не пазнаў цябе!..

**Мікіта Цыга.** Ну, здароў, браце! *(Абнімае Сымона, цалуюцца.)*

Пакуль збягаюцца ў агарод Сымон, Нічыпар, Мікітка Цыга і іншыя, чуваць, як набліжаецца вярхом шмат коннікаў. Пакуль ідзе гаворка, спешыўшыся, сюды ж бягуць шмат казакоў, сярод іх і атаман Байструк.

**Байструк** *(падбегшы к плоту).* Ну, што тут, хлопцы?!

**Мікіта Цыга** *(да яго).* Ведаеш, пана Чарнецкага тут абклалі... Ён страху прадраў ды ў агарод, а хлопцы яго і прыстрэлілі!..

**Байструк.** Забілі? Шкада, што так здарылася! Ён мне быў так патрэбен жывым...

**Сымон** *(тлумачыць, не пазнаючы Байструка).* Я спяшаўся, каб ён не ўцёк з мае хаты, пане-атамане!

**Байструк** *(смеючыся).* Ага!.. Здароў жа, Сымоне!.. Няўжо мяне не прызнаеш?! *(Сымон, углядаючыся, падыходзіць да плота.)* Былога гайдука княгінінага, Паўлюка... няўжо не пазнаў?!

Сымон *(узрадавана)*. Ды няўжо ж гэта ты, Паўлюк?..

Байструк *(смеючыся)*. Ну, пералазь праз плот хутчэй!

Сымон *(выскачыўшы з-за плота, цалуецца з ім)*. А братка ж ты мой!.. Якім жа ты арлом стаў!.. Бародкаю ўжо аброс, пасталеў, загарэў як!.. Які прыгожы...

Байструк *(весела)*. Ну, не дзіва, браце мой, што пасталеў... За гэтых два гады мог змяніцца!.. Дзе толькі мы не валэндаліся... З кім не ваявалі, не біліся?.. Ну, а як ты, Сымоне, гадуешся?

Нічыпар, Сымоніха, Петрусёк ужо абступілі старых прыяцелей.

Сымон *(паказваючы на сваіх)*. Ды вось тут усе мае!.. Сынок ужо падрос!.. Гэта ж яго я пасылаў да вас... каб пана нашага не выпусціць з рук!.. Ну, павітайся ж, Пятрук, з атаманам...

Байструк *(весела, паднімаючы яго на рукі і цалуючы)*. Здароў, хлопча! Як цябе завуць?

Петрусёк *(весела)*. Пятрусь!

Байструк *(падгушкваючы хлопчыка ўгару)*. Ну, расці, сынок, бацьку і народу на ўцеху!.. Вы ж наша надзея і падмога ў барацьбе за народ наш зняволены!.. За гэты ж першы твой поспех трэба цябе адарыць як след!.. Гэй, хлопцы, давай сюды, хто мае, добрую шапку казацкую... *(Падаюць яму з чырвоным верхам шапку, якую Байструк ускладае на галаву хлопчыка.)* А ты, Мікіта, дай хлопцу адзін з пісталетаў княгініных малых, што ў яе пакоях знайшлі, ды пояс прыгожы, каб памятаў Пятрусь гэты дзень свайго жыцця!..

Сымоніха *(ад радасці плачучы.)* Дзякуй вам, Паўлючок!

Байструк *(да яе і Нічыпара, убачыўшы абодвух.)* А, здаровы будзьма, Сымоніха, і ты, бацька!.. Ну, як жывеш, стары?

Нічыпар. Сяк-так, Паўлюк.

Байструк. Нешта ты крыху, бацька, да зямлі прыгінацца стаў!.. Усё адно як вось ваша старая хатка!..

Нічыпар. Што ж, пара ўжо!.. Гады прыйшлі, як і нашай хаце!.. Пара ў зямлю ўлазіць!..

Байструк. А я думаў цябе, бацька, разам з Сы-

монам у войска наша запісаць. *(Гайдамакі кругом рагочуць.)*

Н і ч ы п а р. Куды мне, старому!..

Б а й с т р у к. Бачыў бы ты, Нічыпар, у нас, у Запарожжы, якія старыя дзяды ў паход на паноў ды татараў ходзяць!.. Сівюткія сталетнія дзяды, а ты ў свае 80, мабыць, год яшчэ не аднаму ворагу галаву сцяў бы!.. А?..

Н і ч ы п а р *(смеючыся)*. А што, мо і так!

Б а й с т р у к *(рагочачы з іншымі)*. А ты ж, бацька, казаў, што ногі ўжо ў зямлю вязнуць!

Н і ч ы п а р *(разахвоціўшыся)*. Ды калі трэба, то чаму ж!

Б а й с т р у к *(перарываючы)*. Ну добра, родныя!.. Трэба ж парадак навесці!.. *(Да сваіх.)* Хлопцы, перш за ўсё мы вось тут станем! Як вазы падыдуць — перагарадзіць імі шлях! Выставіць засады-старожы!.. Ты, Сымон, пакажаш, дзе тут лепш коней напасвіць можна! Пры стрыножаных конях чарговая старожа!.. Кашаварам і «панам кухмістрам» — за сваю справу брацца, ля лесу і дарогі!.. А старшыну ўсю прашу да нашага вогнішча ды нашага братняга стала на зялёнай травіцы!..

Кругом варушыцца ўзброены люд загона Паўлы Байструка: запарожцы, гайдамакі, беларусы-паўстанцы, крымскія татары. Стаяць гоман, мітусня.

Б а й с т р у к *(да Мікіты)*. А ты, Мікітка, з параю людзей ідзі да Шымана і запрасі сюды, да мяне ў госці... Толькі памятай, Шымана мне не крыўдзіць: гэта ўсё-такі больш сумленны чалавек, чымся іншыя карчмары!.. Ён нам будзе карысны, бо змоўклі навек пана Чарнецкага вусны і ўжо ад яго, злыдня, не даведаемся таго, што мне было трэба...

Пакуль Паўлюк стаіць і размаўляе з Сымонаваю сям'ёю, цешачыся з Петруся ў новай шапцы, з поясам ды пісталетам за ім, на прагале пануе жвавая мітусня: запальваюць агні, прыцягваюць з вазоў некалькі бочак гарэлкі і віна з княжацкіх запасаў, расстаўляюць кубкі; ля атамана і старшыны рассцілаюць багатыя дыван, узяты з палаца, на ім ставяць місы з ядою і хлебам, збанкі і куфлі.

Б а й с т р у к *(азірнуўшыся і бачачы, што ўсё ўжо прыгатавана для гулянкі)*. Ну, браты, старшына!.. Па-

працавалі сёння, пара і падмацавацца перад сном, як след!.. За кубкі ды чаркі!..

*Ён садзіць побач з сабою Сымона. Кругом абсядаюць сотнікі ды дзесятнікі казачыя, гайдамацкія, татараў крымскіх, паўстанцаў-сялян.*

Байструк *(паднімаючы свой кубак).* Хлопцы!.. Тут, у сэрцы маёй бацькаўшчыны, на Случчыне, на Белай Русі, першая наша чарка за беларускі працоўны люд, за яго лепшую долю!.. Каб з нашай дапамогаю ды вызвалілася Беларусь з-пад ярма лютага прыгону!.. Хай жа загіне магнацтва і панства!.. Віват!..

*Нясуцца крыкі старшыны і ўсяго загона: «Віват!.. Хай жыве Беларусь! Хай цвіце вольнае казацтва!» П'юць, закусваюць. Ізноў прагалашаюцца розныя пажаданні: «За волю братніх народаў! За перамогу працоўных! Хай згінуць паны на ўсім свеце! За цябе, наш атаман!»*

*Ужо хмель пануе ў галовах банкетуючых, калі з'яўляецца Мікіта Цыга з Шыманам і Пэсяю. Яны затрымліваюцца ля хаты. Байструк, стоячы з кубкам, на крыкі: «За цябе, наш атаман!» — адказвае прывітаннем: «За крымцаў, што б'юцца побач з намі! За ўсе народы, што імкнуцца скінуць ярмо нядолі і прыгону заможнах станаў!..» Нясуцца крыкі: «Віват!..» Павядомлены Мікіткаю, Байструк пакідае круг і адыходзіць к агароду, куды падыходзяць, па яго знаку, Шыман з Пэсяю. Тыя перапалоханы.*

Байструк *(да іх).* Ну, старыя знаёмыя, як маемся?..

Шыман *(углядаючыся і са здзіўленнем працягваючы руку да Паўлюка).* Ой, няўжо гэта так?.. Здаецца, Паўлюк наш?.. Прабачайце!.. Гэта вы, пане Паўлюк... Байстручэня, гайдук былы княгінін?..

Пэся *(усё яшчэ перапалохана, да мужа).* Што ты, Шыман, звар'яцеў!.. Пан атаман толькі падобны да...

Байструк *(смеючыся).* Канечне... ён самы, Шыман!.. *(Да Пэсі.)* Ай, Пэся, Пэся! Як жа гэта ты так? Ну, як жывяцё? Хася, мабыць, замужам?..

Шыман *(жалобна).* Ой, Хасеньке, Хаселэ!.. З ёю вялікая бяда ў нас стварылася...

Пэся *(плачучы).* Ой, якая яшчэ бяда выйшла!..

Байструк *(жвава).* А што такое?

Шыман *(выцершы набегшыя слёзы).* Па гэтай вясне... пан адзін... вайсковы... ездзіў да нас у карчму... А як рэгімент іхні адсюль кудысьці выехаў... выкраў яе ноччу і вывез, як кажуць, к сабе ў Польшчу!.. Як

мы плакалі... як бедавалі!.. Дагэтуль забыцца не можам!..

Б а й с т р у к. Слаўная яна дзяўчына была!..

П э с я *(плачучы)*. Смелая такая расла яна ў нас!.. Ой, божа ты мой!..

Б а й с т р у к *(беручы Шымана за руку і адводзячы ўбок)*. Слухай, Шыман!.. Не ведаеш, дзе цяпер можа быць княгіня? Куды яна магла выехаць з Заўшыц сёння раніцою?.. І пра Ульяну я ў цябе хачу даведацца!.. Мо дазнаўся ты што пра яе.

Ш ы м а н *(складаючы рукі, як на прысягу)*. Як перад богам клянуся!.. Пра княгіню нічагуткі не ведаю... нават не ведаў, што і выехала ўжо!.. Ну, а пра Ульяну, так такі да гэтай пары таксама нічога мне невядома!.. Відаць, гэта справа не без ведама кніягіні была... І добра канцы ў ваду схаваны...

Б а й с т р у к *(задумана і шчыра)*. Прызнаюся... ужо забыў я гэту дзяўчыну!.. Але ж хацеў бы выратаваць яе... памагчы бядачцы, што з-за мяне загінула!.. *(Як бы ачнуўшыся.)* А што ж з табою Абрумула няма?.. Дома ён застаўся?

Ш ы м а н. Сёння з-пад Старобіна ўцечакы нашыя яўрэі праязджалі... адправілі мы яго ў Навагрудак!..

Б а й с т р у к. Ну, добра, як буду ў Навагрудку, калі сустрэну там твайго сына, абараню!..

Ш ы м а н. Ой, што будзе, што будзе!.. Хіба і туды пойдзеце?

Б а й с т р у к *(весела)*. А то як жа?! І туды, і ў Нясвіж... да пана Радзівіла ў госці заявімся!.. Па ўсёй Беларусі пройдзем, нішчачы паноў, вызваляючы працоўную вёску!.. Сам Налівайка, мабыць, ужо ў Слуцку зараз аддыхае! *(Падыходзячы да сваіх.)* Гэй, хлопцы, што ж прыціхлі?! Песню давай! Ды нашу разудалую, паўстанцкую, казацкую!..

З круга суседняга нясецца песня:

Дзяўчыначка па гаю хадзіла,
Маладая ў гаю заблудзіла...
Прыдыбала к зялёнаму дубу...
«Ось тутанькі начаваці буду!..»
І думала, што дуб зеляненькі,—
На коніку ж казак маладзенькі...
«Ты, казача, казача-гультаю,

Выведзі мяне з зялёнага гаю!» —
«Мяне, дзяўчо, гультаём назвала,
Сама ж нібыта дарожкі не пазнала!..
Дам табе, дзяўчыначка, я мёду,
Ці не звяду з харошага роду!
Дзяўчыначка, дам табе я піва,
Ці не родзіш ты мне сына!..»
Дзяўчыначка ў гаі ўсё хадзіла,
Жаданага казаку сына радзіла...

Пакуль пяецца песня, старшына і п'е, і падпявае спеву. Байструк сядзіць задуманы. Манашак зусім п'яны набліжаецца да круга старшыны. Трымае ў руках кубак.

Манашак. Брація мая вазлюбленая!.. Другі мая!..

Казачы сотнік. Ды кінь ты свае манастырскія выразы!.. Тут табе не лаўра!.. Смяюцца, бадай, усе.

Манашак *(азірнуўшыся кругом)*. Другі!.. Ворагі павержэны суць... І ныне мы здзе веселіем час свой бавім... *(Далей з дрожжу ў голасе.)* Але колікімі ахвяры купіхом сіе ворагу павяржэніе?! І се аз, яко певень бдзенія...

Гайдамацкі сотнік. Які ты певень, раз кожнае курыцы баішся!.. Ха-ха-ха!.. *(Рогат усяго круга.)*

Манашак *(гатовы абразіцца)*. Напрасліну, брація, на мяне ўзводзіце!.. Не было ніколі таго, абых ад курыцы бегал!

Гайд. сотнік. Як не было?! Няўжо забыўся, як у Пінску цябе адна мяшчанка дзеркачом са сваёй хаты гнала, застаўшы, як ты брагу з яе кадоўбка сёрбаў?.. Кароткі ж ты стаў на памяць!..

Манашак. Не о злаключэніях асобы моея глагалаці хошчу, а адносна тых, брацíе, іжэ главы свая і жывот на брані поклаша... Сіх убо памянуці хошчу!..

Мікіта Цыга *(са смехам)*. Ось што?! Дык ты што ж, адпяваць іх тут збіраешся?.. Садзіся!.. Сабе лепш адыходную спявай, бо, як відаць, насмактаўшыся, сам хутка мерцвяком звалішся... Казак ды гайдамака ўмеюць паміраць і без папоўскага вашага адпявання! А мы ім памінкі ў кожнай бойцы спраўляем, рубячы панскія галовы!.. Эх, ты, певень, што не ў час спявае!

Манашка сілком усаджваюць.

М і к і т а Ц ы г а *(крычыць)*. Музыкаў сюды!.. Давай, хлопцы, скакаць!.. Эх, ты, душа шырокая!.. Гуляй, покі жывы!.. Сып гапака-казака!..

Грыміць музыка: дудка, цымбалы, бубен. Мікітка танцуе гапака, але гэта не падабаецца казачаму сотніку, які выходзіць з атаманскага круга.

К а з а ч ы с о т н і к. Гэх!.. Шырэй круг, хлопцы!.. Бо з шабляю скакацьму... Каб не зачапіць каго!

Скача незвычайна ўдала гапак казачы пад воплескі і прыгоцванні абступіўшых. Калі стомлены ён адыходзіць, Мікітка зварочваецца да сялянскай моладзі, якой набралася ўжо ў стан шмат.

М. Ц ы г а. Цяпер давай, хлопцы, нашага «Юрку»... Пачынай!

Падхоплівае дзяўчыну, некалькі пар нясуцца за ім услед у танцы. Перш танцуюць «Юрку», потым «Мяцеліцу».
Казакі і гайдамакі воплескамі сустракаюць канец беларускіх танцаў.

Г а л а с ы. Гожы вашы скокі, браты-беларусы! Гуляй, беларусы!..

З круга ўстае крымскі татарын.

Т а т а р ы н *(да Байструка)*. Наш хоча свая скакат!..

Б а й с т р у к. А, Мустафа! Ты што — інчыркан свой скакаць хочаш?

Т а т а р ы н. Інчыркан... другая... Што знайя музык!..

Б а й с т р у к. Ну, сып, сып!

Мустафа, сотнік татарскі, вядзе свой шпарка-ўдалы танец, чым выклікае крыкі і пляскванні ў далоні, а як канчае, грымяць: «Здорава, крымцы! Маладцы!»

Б а й с т р у к *(да сялянскай моладзі)*. Пацешце ж нас, браты-сястрычкі, родная песняю!..

Вясковая моладзь ахвоча гуртуецца і пяе некалькі народных песень.

З а п я в а л а *(пад канец)*. А цяпер, атамане, заспяваю вам, як хлопец любіцца з дзяўчынаю. *(Пяе.)*

«Ой, узыдзі, узыдзі, ясны месяцу,
Як млынавое й кола!
Ой, выйдзі ж, выйдзі, сэрца-дзяўчына,

Выйдзі ж, прамоў да мяне слова!..» —
«Ой, рада б выйсці, пагаварыці...
Дый аб нас людзі гаворацьі..» —
«Ой, няхай судзяць, няхай гавораць,
Хоць па цэламу белу свету!..
Я ж цябе й любіў, любіці буду,
Мой ружовы квету!..»

Байструк, узрушаны настроем і словамі песні, слухае яе, глыбока задуманы і засмучаны...

М. Цыга *(ускочыўшы з месца ў кругу, да дзяўчат вясковых)*. Эй, дзяўчаткі!.. Хто з вас, гледзячы на гэты вунь месяц... на гэту вось ночку прыгожую... са мною, казакам вольным, от так бы, як у песні гэтай, моцна палюбіўся б?..

Адна з дзяўчат. Што ж, калі потым бы кінуў ды на сваю вайну б паехаў... Не варта, калі так, і любіцца!

М. Цыга *(да яе)*. А ты паспрабуй!.. Мо я і вайну б з-за цябе кінуў ды прасці з табою сеў бы!..

Рогат усіх. Цыга жартуе ў кругу вясковай моладзі.

Байструк *(раптам, як бы штосьці ўспомніўшы, б'е кулаком па калене, маніць да сябе аднаго з гайдамакаў, кажа яму)*. Цягні сюды палоннага ксяндза Заўшыцкага!

Устае і выходзіць з круга. Калі прыводзяць Ігнаца Яхіду, стаіць каля плота Сымонавага гарода.

Байструк *(пра сябе)*. Добрая ўспала мне думка ў галаву — ксёндз жа быў яе духоўнікам, і напэўна яна спавядалася яму і ў гэтым сваім граху... Ён, калі толькі знае, скажа мне, што зрабіла княгіня з Ульянаю!.. Бо чыя ж гэта была справа, як не яе!

Гайдамак падводзіць да яго ксяндза. Той палахліва глядзіць на атамана, кланяецца.

Байструк *(да гайдамака)*. Можаш ісці! *(Да ксяндза.)* Падыдзі бліжэй! Пазнаеш мяне?

Яхіда *(углядаючыся, здзіўлены)*. Здаецца, былы гайдук яе мосці!

Байструк *(усміхаючыся)*. Так, не памыліўся! *(Выцягвае з-за пояса пісталет.)* Ну, дык вось што, пане! Даю табе на выбар: жыццё або смерць зараз жа пад гэтым пісталетам! *(Цішэй.)* Ты быў спаведнікам-духоў-

нікам княгіні, і пані-княгіня, як шчырая перад богам, напэўна адкрыла табе свой у адносінах Ульяны грэх! *(Заўважае, што ксёндз пры гэтых словах неспакойна парушыўся.)* Дык вось, калі скажаш, куды яна дзела гэту дзяўчыну, застанешся жывы!

Ксёндз *(раздумвае перш, потым азіраецца кругом; ціха).* Я магу табе верыць?

Байструк. Клянуся табе, што адпушчу на волю, калі адкрыеш гэту тайну княгіні!

Ксёндз *(прыгінаючыся бліжэй да вуха Байструка).* Княгіня яе справадзіла, а потым і пастрыгла ў манашкі... у Марачанскім кляштары... *(Пра сябе.)* Ой, што я сказаў! Зусім забыў, што там жа зараз і княгіня!.. Магу загубіць яе!..

Байструк *(западозрыўшы).* Ты што мармычаш там сабе пад нос?.. Кажы ўсё, плеш, а то запрабуеш гэтага!.. *(Настаўляе на яго свой пісталет.)*

Ксёндз *(збянтэжана).* Я не магу... Я гэтым гублю людзей!..

Байструк *(пагрозна).* Кажаш ці не? Не выкрыеш мне ўсё, загінеш зараз жа на месцы!

Ксёндз. Але ж то будзе грэх вялікі на маёй душы!..

Байструк *(прыстаўляе пісталет да лба ксяндза).* Грашыў ты, я ведаю, бясконца! Не вялікая бяда, калі яшчэ крыху награшыш! Усю праўду кажы!..

Ксёндз. Ой, божа мой!.. Даруй мне цяжкі, змушаемы грэх!.. *(Ціха.)* Там жа зараз і княгіня!..

Байструк. Княгіня зараз у Морачы?

Ксёндз. Так! Але ж ціха, пачуюць другія!.. Я не хацеў бы, каб знал, што гэта я табе сказаў!..

Байструк *(хвіліну затрымліваецца).* А вось, куды збегла ваўчыца!.. Пад ахову святога месца!.. Ну, добра ж!.. *(Да ксяндза.)* Калі ўпэўнюся, што ты праўду сказаў, атрымаеш абяцаную волю!.. *(Да падыходзячага Мікіты.)* Назад яго ў абоз ды даглядаць як след! *(Падбегшы да круга старшыны.)* Хлопцы! Зараз жа ў дарогу! Сядлаць коней!.. Запрагаць вазы!..

Галасы сотнікаў. Што так?.. Куды гэта?..

Байструк *(радасна).* На Морач, хлопцы! Раніцаю будзем ужо там.

Казацкі сотнік. Ды ў чым справа?

Байструк. А ў тым, што там... у сценах жано-

чага кляштара... за пазухаю, значыцца, бога схавалася ўцёкшая ад нас пані-княгіня Прушынская-Горская... Ды і не адна, мабыць, а шмат з кім з шляхты!.. Вось у чым справа, хлопцы!.. На Морач жа, браты!

У с е *(ускокваюць)*. На Морач!.. На Морач!.. На Морач!

*Заслона.*

## ДЗЕЯ V

### Ваўчыца ў западні

Касцёл Марачанскага жаночага кляштара. Большую частку сцэны справа займае прытвор касцёла, прычым у глыбіні сцэны фасадная сцяна будынка пасярэдзіне мае шырокія (на дзве палавіны), акутыя жалезам дзверы з драўляным завалам; каля дзвярэй — «круцыфікс» — масіўны крыж, пад ім каменная чаша з свянцонай вадою. Збоку ад гэтых уваходных дзвярэй, на значнай вышыні, акно. Далей выступ башты-званіцы касцёла, у якую вядуць дзверы і відаць сходы наверх, а на некаторай вышыні — аконца ў прытвор касцёла.

Сцяна прытвора, што проці рампы, мае два акны з распісанымі шыбамі. Аркада, апіраючыся на дзве калоны, вядзе ў самы касцёл, якога ўсяго не відаць. Бакавая сцяна нутра касцёла, што проці рампы, раскрыта, каб частка касцёла была відна публіцы. Дзякуючы таму, што падлога самога касцёла паднімаецца на некалькі ступеняў уверх, а алтар яшчэ і таго вышэй, злева сцэны відаць вузкі калідорчык падвала касцёла са сходамі і налева ў сцяне невысокія, акутыя жалезам дзверы ў падземны лёх, якія выводзіў з кляштара ў лес.

Пакуль яшчэ не паднята заслона, чуцён у касцёле арган і спеў манашак. Адбываецца жалобная імша. Калі заслона паднімаецца — у прытворы нікога. Дзверы на двор кляштара адчынены, і сонца прыгожага летняга поўдня залівае сваімі косамі велізарныя пліты падлогі прытвора, а вокны зіхацяць распісанымі шыбамі, даючы рознакалёрныя плямы на падлозе. Праз аконца званіцы відаць манашку на старожы.

З касцёла выходзяць княгіня і пані Даміцэля.

К н я г і н я *(азіраючыся кругом)*. Не, я не магу маліцца!.. Асабліва пры настроі, Даміцэля, што ратунку ад прадстаячай, відавочна, смерці няма!

Д а м і ц э л я. Ваша мосць зусім змучаны і таму так непакойны душою! Толькі ўчора прыехалі сюды, як ноччу трывога... А раніцай гэтыя праклятыя паўстанцы і гайдамакі!.. Трывога ў Заўшыцах, трывога тут, ні кроплі сну!.. Я мацней ад пані Раіны і то зму-

чана... Але я не трачу надзеі, што святая Ліжбета не пакіне свайго кляштара без абароны!..

Княгіня *(складвае набожна рукі).* Ах, Даміцэля, Даміцэля, якая ты яшчэ легкаверная!.. А хіба ты не ведаеш прыкладаў, калі помач боская пакідала людзей без падтрымання, ну... хаця б у кару за грахі!.. *(Жвава.)* Усё, усё мне гаворыць, што няма нам ніякай надзеі на вызваленне!..

Даміцэля *(жахаючыся).* Што вы, што вы, ясная панечка!.. А я вось веру, што дапамога з Наваградка паспее!..

Княгіня. А ты ведаеш, што пан Рымша, што стаў на чале абароны, не спадзяецца на гэта, бо, хто знае, што магло стацца з пасланым туды Ясупам?! Ды прытым жа самая дапамач магла б паспець толькі к ночы... А ці дажывём мы да гэтай ночы?!

Даміцэля *(хрысцячыся і ўздрыгваючы, з жудасцю).* Матка святая! Панна неба і зямлі, змілуйся над намі!..

Княгіня *(жорстка і пахмура).* Што ж... калі гэта горкая праўда! І толькі легкаверны можа спадзявацца на цуд!

Даміцэля *(у роспачы, пайшоўшы да яе).* Ваша мосць! Што ж тады нам рабіць?.. Што ж рабіць?..

Княгіня *(холадна).* Сама не ведаю, што рабіць. *(Убок.)* А тут яшчэ гэта манашка якаясьці дзіўная! Не спускае з мяне вачэй, стаіць моўчкі каля калоны, і мне ўсё здаецца, я бачу нейкія аганькі ў яе вачах!.. І як падобна яна да той...Ульяны!

Даміцэля *(тым часам глянуўшы праз дзверы на двор, падбягае да княгіні).* Пан Рымша ідзе!.. Даведаемся ад яго, як стаіць справа!..

Пан Рымша, увайшоўшы, знімае шапку і накіроўваецца да вежы.

Рымша *(упаўголаса, падняўшы галаву к аконцу вежы і махаючы рукой).* Увага!

У аконцы мільгае галава манашкі, акно адчыняецца, і старожачая высоўвае галаву ў прытвор.

Манашка. Слухаю пана кашталяна!

Рымша. Запытайцеся, што новага!

Манашка *(прычыніўшы акно, крычыць нешта ўверх, і адтуль здалёк голас штосьці адказвае; праз*

*хвілю акно адчыняецца).* Пан Зубкоўскі просіць перадаць пану кашталяну, што гайдамакі з лесу яшчэ не вярнуліся!

Р ы м ш а. А па дарозе на Невалаж нічога не відаць?

М а н а ш к а. Не, нічога!

Р ы м ш а *(як бы пра сябе).* Дрэнна! Дрэнна. *(Паварочваецца і, убачыўшы княгіню з Даміцэляй, падыходзіць да іх.)*

Д а м і ц э л я *(жвава да яго).* Пане Яне! Ну што скажаце добрага? Уцешце хоць крыху нас!..

Р ы м ш а *(пахмурна).* Што казаў раней, тое скажу і зараз!.. Гайдамакі яшчэ ў лесе... робяць лесвіцы, гатуюць фашыну на прыступ... Яшчэ не вярнуліся стуль, як вы толькі што чулі ад старожы... Абаронцаў не прыбавілася: тыя ж 46 чалавек проці больш чым пяцісот гайдамакаў! Ну, праўда, яшчэ каля дзесяці кабет здольны памагаць нам, набіваючы ў рушніцы і пісталеты набоі пораху і кулі!.. Вось і ўсе нашы сілы!.. Навін, як бачыце, ніякіх!.. Нішто не перамянілася!..

Д а м і ц э л я. А з Навагрудка?

К н я г і н я *(усміхаючыся).* А хіба ты не чула, што з вежы паведамілі: «Па дарозе на Невалаж нічога не відаць!..» *(Да Рымшы.)* Пані Даміцэлі хацелася б, каб дапамога к нам на скрыдлах ляцела!

Р ы м ш а *(уздыхаючы, да п. Даміцэлі).* О, панечка! І мне таго ж самага хацелася б. Але што ж зрабіць, калі няма покі што гэтага! *(Кланяючыся.)* Прабачайце, ваша мосць, але я па спевах у касцёле чую, што пара ўжо людзей на святую камунію пасылаць! Ды я сам хачу прыняць прычасце: бо хто ведае, што нас чакае!.. *(Паспешна выходзіць на двор.)*

К н я г і н я *(да Даміцэлі).* Бачыш, як адчувае сябе пан Ян!.. А ты... ты вельмі лёгка глядзіш на справу!

Д а м і ц э л я *(раптам адчуваючы патрэбу маліцца).* Не, не! Я веру ў божую дапамогу! Пан Езус не пакіне нас у напасці, асабліва вас, хто ўкрыўся пад святыя яго сцены! Я іду маліцца, прасіць яго абароны! *(Паспяшае ў касцёл.)*

К н я г і н я *(праходзіць некалькі крокаў па прытворы, потым затрымліваецца, раздумвае).* Як гэта ўсё раптам наляцела на нас! Пан Чарнецкі занадта лёгка ацаніў паўстанне ў нас, на Беларусі!.. Учора пан Тадэ-

вуш сам пачаў з раніцы трывожыцца, нарэшце выправіў нас!.. Радзіў ехаць лясной дарогаю... Прыехалі...! А тут доля нас сустрэла тым, што было, мабыць, суджана!.. Добра яшчэ, што гайдамакі не ўночы падышлі, а то перарэзалі б нас адразу!.. *(Пужаецца, бачачы падыходзячую манашку.)* Як яна падобна да Ульяны!.. Калі б я не знала напэўна пра смерць тае, я б сказала, што гэта і ёсць сама Ульяна!

Тым часам адзін за другім уваходзяць у касцёл ш л я х т а, г а й д у к і і с а м п. Р ы м ш а. Знутры чутна раздача камуніі, званок, калі прымаюць прычасце. Аслабаніўшыся, мужчыны варочаюцца на двор. З касцёла выходзіць м. Міхаліна і падае знак м а н а ш ц ы падысці.

М а т к а М і х а л і н а *(апіраючыся на посах)*. Выбачайце, ваша мосць! Але я лічу патрэбным зараз сказаць вам нешта вельмі важнае!.. Для вас, пані-княгіня, і яшчэ для некалькіх асоб!.. *(Азірнуўшыся, цішэй.)* З закрыстыі ёсць ход у лёх, які выводзіць у лес. Карыстацца ім нам усім немагчыма, бо тады ніхто б з нас не выратаваўся! А для асоб, якім трэба і далей жыць,— іншая справа! Апрача мяне, знае гэту дарогу толькі адна вось яна! *(Паказвае на манашку.)* І вось Стэфа, калі настане зусім небяспечны момант, выведзе вас, княгіня, і таксама яшчэ некалькі асоб, якім мой святы доўг захаваць жыццё! Я даручыла ёй гэту справу і малю бога, каб ён, міласцівы, захаваў айчыне нашай вас усіх, хто трымае сабою дзяржаву нашу і святы касцёл! *(Да манашкі.)* Дык памятай жа, Стэфа! Як толькі стане зусім няпэўна, згуртуй тых, каго я табе сказала, непрыкметна ад другіх у закрыстыю і адтуль павядзеш. Растлумач усё яе мосці і ўгаварыся як след, а я пайду маліцца аб нашым збавенні!.. *(Адыходзіць, але каля ўвахода ў самы касцёл затрымліваецца і пытаецца ў манашкі, што на вежы.)* Віцця! Ну, як там?

В і к ц я *(праз акно)*. Ніякіх пакуль што змен!

М а т к а М і х а л і н а. Так! Ну, значыць, на ўсё яго боская воля! *(Уваходзіць у касцёл.)*

Княгіня і манашка Стэфа стаяць адна проці другой моўчкі, углядаючыся адна другой у вочы, як зачараваныя.

К н я г і н я *(упаўголаса)*. Цябе завуць, дзіця маё, Стэфай?

М а н а ш к а *(схіляючы галаву прад ёю)*. Так, ваша

мосць! *(Пры гуках голасу манашкі княгіня робіць два крокі назад, уся ўздрыгнуўшы.)*

Княгіня. Голасам як падобна да Ульяны! *(Праве́ўшы сабе па лобе рукою, як бы аціраючы пот.)* Як ты падобна да адной... якую я знала, дзяўчыны!..

Манашка *(парушаная чымсь)*. Так, панечка! У кляштары была адна неафітка, дык мы з ёю адна да другой былі так падобны, што як яна прыняла пастрыг, дык нас заўсёды блыталі!.. А ваша мосць, калі не мыляюся, княгіня Прушынская-Горская?!

Княгіня *(трывожна)*. Так! А што?

Манашка *(уся калыхнуўшыся)*. Я так пытаюся! Каб ведаць, каго я мушу выратаваць адсюль, калі створыцца небяспека смерці!..

Княгіня *(засмучана, але збіраючы сілы духу)*. Ну! Гэта яшчэ невядома, ці прыйдзецца нам карыстацца лёхам!..

Манашка *(дапытліва)*. Пані княгіня спадзяецца на скорую дапамогу з Навагрудка?

Княгіня *(звалодаўшы ўжо сабою)*. Не, не таму! Я хачу сказаць, што іншыя... *(падкрэслівае гэта слова)* часамі могуць і не захацець пакарыстацца гэтым лёхам!..

Манашка *(неяк задумана, як бы ўспамінаючы нешта страшнае)*. О, панечка! Лёх гэты, праўда ж, не вельмі прыемны на выгляд і... па ўсім іншым! Помню, калі матка Міхаліна змусіла мяне два разы з ёй прайсці ім, я перажыла такія страхі... што нават потым хварэла!.. Сцены ад вады слізкія... вялікія жабы, яшчаркі розныя шмыгаюць!.. *(Уздрыгваючы, з астанавіўшыміся вачыма.)* Зямля як бы давіць!.. Некалькі касцячкоў дзяцей... зусім маленькіх, кімсьці кінутых туды!..

Княгіня *(рашуча)*. Добра, дзіця маё, ты можаш ісці сабе!.. *(Пакідае яе і адыходзіць далёка.)*

Манашка *(пра сябе)*. Бедная Ульяна!.. Бязлітаснай рукою гэтай магнаткі была ты кінута сюды... каб загінуць!.. Без пары, каб скончыць тут сваё няшчаснае жыццё!.. І за што?.. За тое толькі, што ты трапілася на дарозе сваёй пані!.. А зараз доля змушае мяне, сястру яе родную, перад якой яна прад смерцю раскрыла сваё сэрца, захаваць жыццё гэтай асобе, той, на сумленні якой гібель нявіннай сястры маёй! О, вялікі божа!

*(Падае на калені і прыпадае да выступу сцяны касцельнай.)* Ці знайду я, слабая і хворая ўжо, ці знайду я ў сабе сілы перамагчы сябе, каб ратаваць такую грэшніцу!.. Дай жа мне сілы ў гэткі момант, калі ты хочаш, каб я ішла па дарозе тваёй волі!.. *(Хвіліну, закрыўшы твар рукамі і прыпаўшы ім да сцяны, маўчыць, потым, як бы ачнуўшыся, хістаючыся варочаецца ў касцёл.)*

Д а м і ц э л я *(выходзіць з касцёла радасная; жвава падбягае да княгіні).* Пані Раіна ведае? Матка Міхаліна мне толькі што шапнула на вуха, што мы будзем выратаваны, калі не з Навагрудка, дык спосабам, які яна вам назвала!.. І пэўным, нібыта!.. Ці то так?

К н я г і н я *(гледзячы на яе, падыходзіць і абымае яе).* Каханая мая! Я зайздрошчу табе!.. Як лёгка ты ўсё ўспрымаеш! Каб не атручаць табе гэтай радасці — скажу: Так, так! Спосаб ёсць! Нялёгкі, праўда, але ты ім пакарыстаешся! Будзь жа спакойна!..

Д а м і ц э л я *(абымаючы і парывіста яе цалуючы).* Як я рада і за паню Раіну, і за сябе!.. Я гаварыла, што малітва да пана Езуса выратуе нас!

З вежы чуваць трывожныя галасы. Манашка Вікця штосьці распытвае, потым раптам збягае ўніз, выскоквае на ганак.

В і к ц я. Пане Рымша! *(Да кагосьці на дварэ.)* Пакліч сюды і ўраз жа пана Рымшу! *(Узбягае ў прытвор.)*

Д а м і ц э л я *(да яе падбягаючы).* Што, што? Дапамога з Навагрудка?

В і к ц я *(уся трасучыся).* Якая там дапамога! Гайдамакі з лесу варочаюцца, вязуць фашыны, лесвіцы!..

Д а м і ц э л я *(не засмучана).* Ну, дык што ж там, калі ёсць іншы спосаб выратавацца!..

К н я г і н я *(хапаючы і ціснучы яе за руку).* Даміцэля! Ты нічога не разумееш і таму лепш маўчы!

П а н  Р ы м ш а, бледны, падбягае праз дзверы ганка да манашкі.

П а н  Р ы м ш а *(трывожна).* Што? Ёсць навіны?

В і к ц я *(паспешна).* Ой, гайдамакі з лесу варочаюцца... вязуць фашыны і лесвіцы!.. У лагеры ўжо чагосьці заварушыліся!..

П а н  Р ы м ш а *(раздумна).* Так!.. Ну, дык сачыце ж цяпер за кожным іх крокам, паведамляючы нам! На-

зад у вежу! Мы, значыць, павінны чакаць зараз жа прыступу!..

Выбягае на двор. В і к ц я паспешна варочаецца ў вежу.

Д а м і ц э л я *(растрывожана).* Значыць, небяспечна?.. Так?.. Дык я скажу зараз жа пані Міхаліне, каб яна выкарыстала свой пэўны спосаб нашага ратунку!.. *(Бяжыць у касцёл.)*

У гэты момант у вышыні вежы раздаецца трывожны звон. Княгіня перш цапянее, потым выскоквае на ганак. На двары паднімаецца гоман і бегатня людзей. Паасобныя крыкі загадаў: «Са сцяны, што з боку рэчкі, усіх к браме, апрача аднаго!», «Вызваць з касцёла, хто назначаны выносіць зраненых!», «На сцены ўсе! Жвава!» Вікця мітусіцца ў вежы, не ведаючы, што рабіць.

К н я г і н я *(варочаючыся ў прытвор).* О, божа!

В і к ц я *(выслухаўшы нешта зверху, бяжыць з вежы ў прытвор).* Пачынаюць прыступ! Трэба ж памагчы зраненым!.. Паклічу іншых! *(Бяжыць у касцёл, і праз хвілю адтуль выбягаюць 3—4 манашкі і ўсе паспяшаюць на двор.)*

У гэты момант звон сціхае і з-за сцен, усё набліжаючыся, нясуцца галасы, якія праз некалькі хвілін вырастаюць у выразныя крыкі людзей, ідучых на прыступ.

К н я г і н я *(аслупянела, стоячы ля дзвярэй).* Час смерці прабіў для нас!..

Раптам са сцен раздаюцца першыя стрэлы. Крыкі на момант як бы сціхаюць, а праз некалькі хвілін становяцца выразнымі. Княгіня ўздрыгвае ўсім целам, калі над сцяною, каля брамы кляштара, пакрываючы другія, чуцен як бы знаёмы ёй голас: «Бі іх няшчадна, хлопцы! А, праклятыя!» Пісталетныя рэдкія стрэлы. Княгіня абяссілела, падыходзіць да круцыфікса, падае на калені і апускае галаву на выцягнутыя да крыжа рукі. У прытвор уносяць і ўводзяць спешна зраненых. З касцёла выходзіць у той час матка Міхаліна, ідзе на ганак і ўраз жа варочаецца назад. Затрымліваецца поглядам на княгіні; ківаючы галавой, глядзіць на зраненых. Ідзе назад у касцёл. З вежы спускаецца п а н З у б к о ў с к і, асцярожна прыадчыняе дзверы і выглядае. З кляштара выходзіць манашка Стэфа і становіцца за княгіняю, не спускаючы вачэй з яе.

М а н а ш к а *(пра сябе).* Усемагутны глянуў ужо на цябе тварам смерці!.. Што? Аслабла сіламі?.. А як ёй, беднай, было сустрэць тут сваю смерць?! Завошта ж паслала ты яе сюды, як у астрог той?! *(Хвалюючыся.)* І ці варта ратаваць цябе, бязлітасную, бессардэчную!.. *(Перамагаючы сябе.)* Божа, справядлівы ў гневе і ў міласці сваёй, даруй мне, слабадушнай і грэшнай! Хай

будзе на ўсё твая святая воля!.. *(Моліцца пра сябе.)*

На сценах ужо рэдкія пісталетныя стрэлы. Працуюць шаблі. Крыкі: «Нашая бярэ! Рубі іх, хлопцы!» Раптам убягае без шапкі, з адной толькі шабляй у руках, пан Рымша. За ім гайдук Франусь, шчака якога акрываўлена. Яны ўдвух зачыняюць шчыльна дзверы, жвава завальваюць іх завалаю. Пан Зубкоўскі хаваецца за дзвярыма вежы, хацяж відаць яго боты. Княгіня падымае галаву і глядзіць, як бы загіпнатызаваная, на зачыненыя дзверы.

Рымша *(з задышкаю)*. Фініс! Байцы палеглі! *(Азірнуўшыся кругом.)* Двое зраненых ды мы ўдвух з Франусем!.. Ненадоўга нас хопіць!.. Жанчын бы ратаваць!

Княгіня азіраецца назад; сустрэўшы вочы манашкі Стэфы, жахаецца і рукамі хапаецца за крыж, падаўшыся да яго ўсім сваім целам.

Стэфа *(падышоўшы да княгіні і беручы яе, абяссіленую, пад руку)*. Пара, ваша мосць!

Раптам да дзвярэй знадворку падбягае хтосьці і стукае.

Голас *(са смяртэльнай трывогай)*. Упусціце!.. На міласць бога! Хутчэй!

Франусь *(кідаецца да дзвярэй)*. Зараз! Трымайся, браце!

Рымша *(хапае яго за тулава і адкідае ад дзвярэй)*. Шалёны! Ён жа і сам загіне і нас без сэнсу загубіць! Як адчынім — ускочаць да нас і яны!

Чуцён крык: «Ага, папаўся, сабака!» Бойка на шаблях. Са стогнам за дзвярмі нехта падае. Рымша з Франусем стаяць праз акно прытвора.

Рымша *(да мужчын, глянуўшы праз акно)*. Ну, панове! Сустрэньма ж ворага як след! Зараз пачнуць выбіваць дзверы!

У дзверы стукаюць. Крык Байструка: «Адчыняйце, гады, не то высадзім дзверы!» Не атрымаўшы адказу, крычыць: «Хлопцы, цягні якое-небудзь бервяно сюды!»

Апошнія абаронцы гатуюцца сустрэць ворага і гуртуюцца з боку дзвярэй у напрамку вежы. Прынесеным бервяном пачынаюць гасіць у дзверы. Гул і стук глушаць усё. У паасобныя моманты чуваць толькі, як у касцёле манашкі і іншыя, хто там, пяюць: «Под твоён обронон».

У гэты момант злева сцэны, спускаючыся нервова, але марудна, выходзіць уніз са свечкамі ў руках шэраг людзей. Першай ідзе манашка Стэфа. Падышоўшы да дзвярэй налева, адмыкае ржавы замок, і дзверы са скрыпам адчыняюцца. Згрудзіўшыхся людзей абдае холадам і вільгаццю лёха.

С т э ф а *(адступаючы назад, уздрыгнуўшы ўсім целам, глуха).* Страшна! Страшна ісці туды!..

С т а р ы п а н *(прабіраючыся наперад).* Проша мне дазволіць ісці першым! *(За ім праходзіць Стэфа і іншыя.)*

Праз хвілю ўсе яны ў лёху знікаюць. Апошні зачыняе за сабою дзверы ў лёх, не пакідаючы ключа ў ім.

У прытворы ж дзверы ўваходу ў касцёл трашчаць і нарэшце разам з цэглаю і шчыкатуркаю падаюць на падлогу. Грамада людзей ускоквае ў прытвор; сярод іх Б а й с т р у к і адзін з казачых сотнікаў. Кароткая бойка на шаблях — і ўсе чацвёра абаронцаў прыкончаны.

Б а й с т р у к. Агледзець касцёл, хлопцы! Уцячы лёхам ніхто з іх не мог, бо іх там сустрэнуць нашы! Ніводнаму пану і верным слугам іх жыцця не даваць! З бабамі не важдацца: будзе потым на гэта час!

Загон рассыпаецца ўсюды. П а ў л ю к з с о т н і к а м і бягуць таксама ў касцёл. Чутны стуль крыкі.

М а н а ш а к *(ускочыўшы праз хвілю ў касцёл).* От, гады! Я заснуў пад возам, бо размарыла сонейка... А яны і не разбудзілі мяне, каб разам ісці ваяваць. А потым скажуць: «Якая можа быць твая доля ў здабычы, калі ты спаў!» Ну й гады!.. Чаго пасля гэтага варта іх таварыскасць!.. *(Азірнуўшыся.)* Ой, ды тут яшчэ адзін абаронца, відаць, застаўся! Ось ліха!

У гэты якраз момант п. Зубкоўскі выглядае з-за адчыненых дзвярэй вежы, але, убачыўшы чалавека з шабляй, сам хаваецца, а манашак, таксама спалоханы, выскоквае на ганак і хаваецца за сцяну.

Тым часам злева чутны з лёха глухія крыкі. Хтосьці бяжыць, ключ доўга тыркаецца, нарэшце паварочваецца ў замку, і дзверы лёха расчыняюцца.

З патухшымі ўжо свечкамі ўбягаюць п. Д а м і ц э л я, к н я г і н я, С т э ф а і яшчэ а д н а а с о б а. Услед за імі выскоквае з лёха М і к і т к а Ц ы г а з пісталетам у руцэ. З-за яго спіны выглядаюць п а ў с т а н ц ы - б е л а р у с ы, хто з пісталетам, а хто з шабляю.

М і к і т к а Ц ы г а. А, галубчыкі! Уцякаць уздумалі! Ну, што ж цяпер будзем рабіць, панове?..

Пані Даміцэля плача, як і другая асоба, княгіня маўчыць, а манашка пачынае істэрычна смяяцца.

П а ў с т а н е ц. Душы іх, хлопцы, чаго з імі яшчэ важдацца!

М і к і т к а Ц ы г а *(заўважаючы, хто перад ім).*

Эге, ды тут уся заўшыцкая хэўра!.. І пані-княгіня, і пані-ахмістрыня! Вось дык падзякуе Паўлюк! Ха-ха-ха!

Княгіня *(ускрыквае).* Паўлюк?

Стэфа *(раптам дзіка смяецца, як ашалелая).* Ха, ха, ха!.. Так, Паўлюк Ульянін аддзякуе! Ха, ха, ха, ха!..

Мікітка Цыга *(да княгіні).* Так, так... Паўлюк! Былы пані гайдук! Ну, пойдзем да яго, ваша мосць: ён так хацеў цябе бачыць, што з Заўшыц аж уначы сюды ляцеў!.. *(Да людзей.)* Адзін уперад! *(Да жанчын.)* А вы — за ім! Ну, жвава ўсе выходзь!

Паднімаюцца па ўсходах наверх у закрыстыю. Чуць чуваць здалёк смех ашалеўшай манашкі.

У касцёле ж чутны жаночыя крыкі, лямант, плач. На ганак ізноў усходзіць манашак, на гэты раз з пісталетам у левай руцэ. Асцярожна ён уваходзіць, аглядаючыся, але ў той жа момант, выпадкам, з-за дзвярэй вежы ізноў паказваецца п. Зубкоўскі, бачыць узброенага манаха і хаваецца сам назад. Убачыўшы казачага сотніка, выходзячага з касцёла, манашак храбрыцца.

Манашак *(крычыць).* Дзяржы, дзяржы пана!.. *(Бяжыць да вежы.)*

Сотнік *(выскокваючы ў прытвор).* Што, знайшоў яшчэ аднаго пана?

Манашак *(харахорачыся).* А, гад!.. Уцёк у вежу! Замкнуўся, мусіць!

Хапаецца за клямку, але тая паддаецца. Тады манашак пужліва прычыняе мацней дзверы.

Сотнік *(падбегшы да яго).* Хутчэй ты, а то ён уцячэ! *(Перш чым манашак зразумеў, што той збіраецца з ім зрабіць, хапае манашка за кіршэнь, расчыніўшы дзверы, піхае яго туды і прыпірае плячом дзверы.)* Ворага трэба нянацкам браць! Ха-ха-ха!.. *(Смяецца.)*

У вежы чуваць адзін за другім два пісталетных стрэлы.

Сотнік *(стоячы ля дзвярэй).* Ну, хтосьці, мабыць, кагосьці забіў! *(Адчыняе дзверы.)*

Адтуль, бледны і трасучыся, ледзь не покатам, вывальваецца манашак. З пісталета яго яшчэ ідзе дым.

Манашак. А, каб цябе! От, гад! Піхнуў мяне чорту на рогі! Ледзь жыў застаўся!..

Сотнік *(рагочачы).* Добра, браце, што застаўся жывы!.. А то хто ж бы нас весяліў?! Але, слухай, пан-то твой забіты ці не?

Манашак *(усё яшчэ несупакоены).* А кадук яго

там ведае! Ён першы ў мяне, гад, стрэліў... ды не папаў, на шчасце!.. Ну, і я ж яму пальнуў у адказ! За дымам, праўду кажучы, не бачыў, ці пабег ён, ці на месцы застаўся!.. Зрабі ласку, глянь ты ўжо сам!

Сотнік *(выцягваючы з-за пояса пісталет, аглядаючы крэмень)*. Ну, добра!..

Расчыняе дзверы і кідаецца скокам туды. Манашак асцярожна сочыць ззаду.

Сотнік *(выходзячы назад)*. Маладзец!.. Ідзі паглядзі, як ён лёг галавой уніз на ступенях сходаў!

Манашак *(радасна)*. Ды няўжо!.. От метка, аднак, я стрэліў! Пэўна, у лоб папаў, калі галавою ўніз лёг ён!

Паўлюк выходзіць з касцёла пахмурны, з шабляю ў руцэ. На парозе касцёла аддае загад.

Паўлюк. Ігуменню іхнюю ўзяць на выпыт ды манашак тых-сіх! Бо не веру я гэтым слугам божым! Як след дазнацца пра Ульяну! А тут, усё пачысціўшы, пеўня пусціць! *(Пра сябе.)* Толькі дзе ж княгіня дзецца магла?!

Раптам у касцёле чуцен рогат і крык шалёнай. Мікіта з паўстанцамі прыводзяць да атамана ў прытвор княгіню і Даміцэлю.

Мікітка Цыга. Вось табе, атамане, і панства заўшыцкае! Думала ўцякаць праз лёх, але я з хлопцамі выйшаў ім насустрач!.. Ну і затрымалі птушачак!..

Байструк *(азірнуўшыся, бачыць іх і жвава падыходзіць да княгіні)*. Дабрыдзень, пані-гаспадыня!.. Чаму ж нас у Заўшыцах не захацела пачакаць, калі ўчора мы да цябе ў госці заявіліся?.. У божыя сцены схавацца захацела!..

Княгіня маўчыць, але глядзіць яму ў вочы, як бы здзіўленая.

Манашак *(падсунуўшыся)*. А мы так шкадавалі, што панюкнягіню дома не засталі! Ха, ха, ха!

Байструк *(адпіхаючы манашка ўбок так, што той чуть не ўпаў, каб не падтрымаў яго сотнік)*. Я яе табе яшчэ не аддаваў на здзек! Ну і не лезь атаману пад руку!.. Са сваёй гаспадыняй я сам павяду размову! Два ж гады не бачыліся!.. *(Да княгіні.)* Што? Мо забылася ўжо, пані, пра мяне?..

Княгіня *(ціха, але выразна)*. Не, Паўлюк, не забылася!.. Сам ведаеш, чым ты быў для мяне!

**Байструк** *(зларадна смеючыся).* Як жа, ведаю! Памятаю, чым быў для цябе!.. Гайдуком твайго панскага цела!..

**Княгіня** *(горача).* Няпраўду ты кажаш! Бо палюбіла ж я цябе горача, як яшчэ нікога да таго... Ні перад чым не затрымалася, каб мой бы стаў назаўсёды!..

**Байструк** *(смеючыся, злосна).* Так! Ні перад чым не затрымалася!.. Ціхую вясковую дзяўчыну ўхапіла, што лютая ваўчыца, кінула вось у гэты божы астрог, загнала яе ў магілу!.. Я ўжо гэта тут дазнаўся!..

**Княгіня** *(глядзіць яму ў вочы адкрыта).* Толькі так моцна кахаючы цябе, я яе са сваёй дарогі спіхнула!.. Ну, што ж!.. Забі тады мяне, раз я правінна прад ёю і табою!

**Байструк.** Забіць — вельмі лёгкая для цябе была б кара! Я надумаю для цябе расправу такую, каб па кроплі вытачыць з цябе кроў!..

**Паўстанец.** Прыкажы, атаман, мы яе да хваста дзікага каня прывяжам ды пусцім па полі... Якраз кабыла ў нас тут адна ліхая ёсць!..

**Манашак** *(смеючыся).* Пані-княгіня, як я чуў, больш любіла на жарабцах катацца!.. Ці, наадварот, каб яны...

**Байструк** *(гнеўна да яго).* Прэч ты, плюгавы!

Манашак хаваецца ад яго за грамадой паўстанцаў. Жанчын усіх ужо вывелі з касцёла за гэты час. Толькі чуваць смех, усклікі і гаворка з сабою шалёнай манашкі. Яна паказваецца затым на парозе касцёла.

**Манашка** *(тонам прарока).* Праўду кажу вам: што павінна загінуць, тое ўпадзе!.. І падуць царствы іхнія, няпраўдаю збудаваныя! Ха, ха, ха!..

**Байструк** *(пры першых словах голасу манашкі ўглядаецца, прызнае голас і твар як бы згінуўшай Ульяны. Да Цыгі і іншых).* Хто гэта, хто?.. *(Падбягае да манашкі бліжэй.)* Ульяна, Ульянка?!

**Манашка** *(гледзячы на яго).* Не, я Стэфа!.. Не прызнаў хіба мяне? А Ульяна там... спіць... Але я пайду разбуджу яе!.. *(Варочаецца назад у касцёл.)*

**Байструк** *(падбягае з гневам да княгіні і, ухапіўшы яе моцна за плячо, трасе і крычыць).* Праклятая! Я табе смерці Ульяны не дарую!..

**Княгіня** *(цвёрда).* Дзве жанчыны сустрэлі цябе

на дарозе свайго жыцця! Адна з іх павінна была саступіць!

Тым часам некалькі людзей, выносячы тое ці другое з награбленага ў касцёле, пачынаюць уносіць у будынак вязкі і ахапкі саломы.

Байструк *(заўважыўшы гэта, крычыць).* Дык добра ж! Загінеш і ты тут ліхою смерцю! Давай сюды, хлопцы, вяроўку! *(Некалькі чалавек кідаюцца выконваць ягоны загад.)* Прывязаць яе! Хай гіне разам з гэтым праклятым астрогам! *(Да прыносячых салому на падпал будынка.)* Цягні больш саломы, хлопцы! Каб добра гарэла, каб, седзячы там на небе, бог бачыў, якім вогнішчам панскай погані палае яго нібыта святы дом! *(Да сваіх.)* Хутчэй адсюль! На вольны свет, браты мае, дзе столькі яшчэ для нас уперадзе змагання за працоўны, яшчэ не вызвалены ад паноў народ! *(Усе выходзяць за ім, падпаліўшы ў некалькіх месцах.)*

Княгіня *(як бы ў роздуме, але цвёрда).* Жыццё за жыццё!

Манашка *(з'яўляецца зноў на ступенях, і яе звычны голас рэхам аддаецца ў апусцелым цяпер будынку).* Праўду, праўду кажу вам: настане дзень і тое, аб чым запісана ў кнігах, збудзецца!.. І загіне ўсё, што стала людзям шкодна!.. І апошнія стануць першымі... і ўсе людзі брацця мі паміж сабою!..

Полымя пачынае шугаць, выразна выдзяляючы абедзве жаночыя фігуры.

*Заслона.*

*1926*

# ПАДУАНСКІ СТУДЭНТ

*Гістарычная драма. Урыўкі*

Дзейныя асобы:

Францішак, ён жа Юры Скарына.
Лукаш Скарына — яго бацька.
Дамяніка Скарына — яго маці.
Тодар Сенька — прыяцель Скарыны.
Раман Лузга — полацкі хлопец.
Багдан Кіняк — татарын, рамеснік.
Яго работнік.
Кульва — полацкі радца.
Сябрын — полацкі лаўнік.
Янак Наскоўскі — студэнт з Польшчы.
Томашак — студэнт з Чэхіі.
Джавані Кастра — прафесар Падуанскага універсітэта.
Атэна — яго дачка.
Ізідора — іх гаспадыня.
Джаніна Тольфа — дачка гаспадара дома, у якім жыве Скарына.
Лючыя — яе сястра.
Даратэя — гаспадыня таго ж дома.
Флорыян Скварчэла — знаўца антычнага мастацтва.
Бэпа — італійскі юнак.
Майстар-шавец.
Мялецім — падмайстар.
Гараджанка з сынам.

## *Дзея 1. Абраз 1. Сыны вечавога места*

Злева вуліца пераходзіць у «вечавы» пляц Полацка. Відна Сафія. Сярэдзіну сцэны займае ў разрэзе крама гандляра скурамі Лукаша Скарыны. Яна стаіць на рагу вуліцы, што выходзіць на пляц.

Справа да дома прымыкае двор. За агароджаю яго часткаю відна і сама вуліца. Двор мае пабудову, дзе складваюцца сырыя скуры, што скупляюцца гандляром.

Крама з прылаваю і паліцамі па сценах. На іх раскладзены стусы вырабленых ужо скур.

Калі заслона паднята, ля прылавы стаяць і вядуць гаворку радцы і лаўнікі полацкія.

Лукаш. Ну што чуваць у Вільні?

Кульва. У Вільні ўсе вельмі засмучаны... Падумаць толькі! Маскве прыйшлося аддаць Дарагабуж і семнаццаць іншых гарадоў. Прастор зямель, як кажуць, на семдзесят валасцей!

Лукаш. Не шанцуе сынам нябожчыка Казіміра... Не памагло Аляксандру і тое, што ажаніўся на Галене... Цесць маскоўскі ўвесь час сыпаў золата, падбіваў наша магнацтва — і дабіўся свайго...

Сябрын *(горача)*. Я заўсёды казаў і цяпер кажу... Як Казімір, так і абодва яго сыны толькі і думалі, каб пасіліць сваю ўладу... Ян-Альбрахт круціўся пад дудку італійскага гэтага дарадчыка Піліпа Калімаха, пакуль пад Лукаўцамі малдаўскі гаспадар не скруціў яму шыю... І наш Аляксандр са сваімі шаптунамі, з магнатамі ідзе па той жа дарожцы...

Кульва *(да яго)*. Ну, ты, Януш, вядомы хаўруснік шляхты!

Сябрын. А чаму б не так?.. Нельга мірыцца з тым, што і ў Кароне, і ў нас, на Літве, усёй дзяржавай кіруюць адно можнаўладцы... Хіба два гады назад у Мельніку не скруцілі яны князю-каралю моцненька рукі?

Кульва *(смеючыся)*. Па-мойму, лепш няхай

статкам кіруюць дзесяць быкоў, чым калі ўсе бараны захочуць жыць сваім розумам ды пабрыдуць хто куды! Хе-хе-хе!..

С я б р ы н. Няўдалы прыклад! Тваімі вуснамі, Кульва, гаворыць прыхільнік магнацтва...

Л у к а ш *(перабіваючы іх).* Нас гэта ўсё можа цікавіць толькі, наколькі нашаму Полацку прыйдзецца расхлёбваць завараную кашу... Што ні кажы ты пра Аляксандра, але ж мы ад яго атрымалі самаўправу свайго места па нямецкаму праву!

С я б р ы н. Атрымалі!.. Бо добра князю за гэта заплацілі!.. Хіба ж мала паклалі мы свайго золата ў паднесеную яму за прывілей скрынку ды і па-за скрынкай?!. Сам ты мала туды паклаў?

Л у к а ш *(смеючыся).* Паклаў, канешне... Кажучы шчыра, за гэта варта было пакласці! Яно, браце, назад нам вернецца!

К у л ь в а. Я скажу... Кіньма спрэчкі, Януш!.. Лепш, Лукаш, скажы, што чуваць у нас з Рыгаю...

Л у к а ш. Немчыны прывезлі шмат сукна і іншых тавараў... Як звычайна, агледзеўшы ўсё, мы спрабавалі бракаваць, каб знізіць цану... Але Ганза моцна трымаецца на сваім!.. Іхняе таварыства дамагаецца і ў гэтым годзе дазволу на беспасрэдны продаж часткі прывезенага тавару ў Віцебску ці Мінску або дробны продаж каму хоч тутака...

К у л ь в а. А ваявода з войтам як трымаюцца?

С я б р ы н. Ваяводу, кажуць, падмаслілі ўжо, задарылі — той іхні бок трымае. Але войт цвёрды!

Л у к а ш. Гэта наш, свой чалавек... Да таго ж, чым дзешавей, на гурт мы ў немчынаў тавары возьмем, то і ён нажыве, бо на ўсё Менскае ваяводства ён жа сукно дастаўляе...

К у л ь в а. Добра! Ось трэба толькі нам на сырцы ды на хлебе з нямчынамі не прадзешавіць!

Л у к а ш. А віленцы як гандлююць?

К у л ь в а. Што віленцы! Адны Онькавы, хоць бы ўзяць... Анупрэй, напрыклад, два месяцы таму самому каралю-князю пяць тысяч коп злотых у пазыку даў... І не дзіва: па прывілею госці віленскія маюць і нізкія мыты, і права дзе хоч гандляваць...

Л у к а ш. Ось бы нам гэтага дабіцца!

Уваходзіць з вуліцы Багдан Кіняк, татарын, што вырабляе саф'ян.

Кіняк. Здароў, Лукаш! *(Падыходзіць і вітаецца з гаспадаром.)*

Кульва. Ну, мы пойдзем! Бывай здароў! *(да Сябрына)* Разам?

Сябрын *(развітваецца са Скарынаю таксама).* І я дамоў!

Лукаш *(калі застаецца ўдвух з саф'яншчыкам).* Што скажаш, Багдан?

Кіняк *(кладучы скурку чырвонага саф'яну на прылаву).* Глядзі тавар!

Лукаш *(мнучы скуру і аглядаючы яе).* Нічога! Колькі маеш?

Кіняк. Паўсот скуры!

Лукаш. Цана?

Кіняк. Увесь гурт пяць капы злот большы старая цана!

Лукаш *(углядаючыся яшчэ раз у скуру).* Што ты, што ты! Хто дасць табе гэта! Да таго ж — мо і не ўсе такія дабротныя, як гэта...

Кіняк *(запаліўшыся).* Лукаш! Мая ты знае... Мая праўда жыве!.. Мая Алах баязка...

Лукаш *(смеючыся).* Твая Алах, мая бог... Дзве капы больш я не згодзен!

Кіняк *(падумаўшы).* Мая тры... Толькі чуў, Лукаш, давай мая грошы пазыка адна год...

Лукаш *(усміхаючыся).* Багатым хочаш стаць!.. Колькі ж табе трэба?

Кіняк. Мая сырэц работнік большы хоча... Мая трэба сто коп злота!..

Лукаш. Сто?.. Шмат захацеў!.. Ну добра!.. Толькі праз год — сто трыццаць плаціш!

Кіняк. Твая бога, мая Алах!.. Лукаш, бяры сто дваццаць!

Лукаш. Смешны які ты! Людзі плацяць куды больш... Я толькі з цябе бяру столькі... Знаючы, што ты верны!

Кіняк *(б'ючы руку).* Згода! Калі давай?

Лукаш. Заходзь пазней крыху! Сына зараз няма... Пісьмо на пазыку дасі, як ён прыйдзе... Тавар жа гані цяпер жа, а то ў мяне якраз саф'яну мала засталося!

Кіняк. Мая зара... Бывае здароў!

Выходзіць, але сустракае ў дзвярах жонку Скарыны, пакланіўшыся, прапускае яе ў краму і затым толькі выходзіць.

Дамяніка *(адказваючы на павітанне).* Здароў, Багдан! *(да мужа)* Юркі ўсё яшчэ няма?

Лукаш. А ён даўно выйшаў з хаты?

Дамяніка. Ды чуць не ўслед за табою... Казаў, што зойдзе да Тодара Сенькі і разам з ім пойдуць да Гераніма... Той абяцаў даць нейкую кнігу, дзе аб чужых краях пішацца...

Лукаш. Ну што з хлопцам зробіш! Я ад яго помачы ў сваіх справах чакаў, а ён усё кніжкі ды рукапісы розныя чытае... Толькі і думае, што аб далейшай навуцы.

Дамяніка *(смеючыся).* Я, знаеш, думала яго навярнуць да дзяўчат... З сабой у царкву брала... Паказвала яму Вольку Лузгаву ды войтаўну малодшую... хоць бы што!.. Я, кажа, матуля, жаніцца яшчэ не хачу... Мне самы век вучыцца далей!..

Лукаш. Гляджу я на яго, знаеш, прыглядаюся — і ўсё больш ўпэўніваюся, што прыйдзецца хлопца ў яго ахвоце да навукі задаволіць... Будзем замест яго гадаваць Сцяпана, каб, вырасшы, мяне заступіў... А Юры! *(Махае рукой.)*

Уваходзіць майстар-шавец, а за ім услед багатая гараджанка з хлопчыкам.

Майстар. Добры дзень вам!

Лукаш. Дзень добры!

Майстар. Казліна ёсць?

Лукаш. Ёсць! *(Падае з паліцы некалькі скурак.)*

Гараджанка. Хай будзе ўслаўлены!

Лукаш і Дамяніка *(разам).* На векі вякоў!

Гараджанка. *(Падышоўшы да прылавы.)* Ось сын прыслаў, каб яму канешне саф'янавыя боты пашыць!

Лукаш. Якраз маю добры свежы саф'ян... Проша паглядзець!

Гараджанка *(да сына).* Ты якія хацеў бы: чырвоныя ці зялёныя мо?

Хлопчык. Чырвоныя, мамця, лепш!

Гараджанка. Дык адкройце ад гэтай, колькі на яго нагу патрэбна...

Лукаш. Я раджу вашай мосці ўзяць цалкам скуру... Дачунька пані, напэўна, убачыушы ў брата абнову, і сабе папросіць...

Гараджанка. Пэўна ж! Колькі каштавацьме?

Лукаш. За гэты саф'ян я сам даражэй плаціў, але з талера дам вашай мосці шмат рэшты...

Гараджанка, выняўшы з торбачкі талер, падае яго гандляру, а пакуль той адлічвае рэшту, Дамяніка вядзе з паняй размову.

Дамяніка. Выбачайце, ваша мосць, але дазвольце запытаць, як ваша дачушка расце-гадуецца?

Гараджанка. Дзякую! Здарова, толькі вельмі балаўная яна ў нас!

Дамяніка. Ну як не балаваць дачушку, раз яна адна ў вас! Я б, здаецца, каб мела дачку, не знала б, як і нарадавацца!

Гараджанка. А пані майстрова хіба не мае дачкі?

Дамяніка. Трох сыноў мужу радзіла, але не благаславіў бог дачкою!

Гараджанка. Пані Лукашова яшчэ не ў такіх гадах, каб зарачыся!

Беручы рэшту, апускае яе, не лічачы, у торбачку і, атрымаўшы складзеную скурку, выходзіць.

Майстар *(адабраўшы тым часам некалькі скурак казліны)*. Гэтыя, гаспадар, за мною! Цана?

Лукаш. Былая... Не падаражэла...

Майстар. Зараз прынясу грошы! *(Выходзіць.)*

Лукаш. Вернемся да нашай размовы... Геранім мяне ўгаварыў пасланць Юрку за рубеж вучыцца... Я б згадзіўся, але ж прывілеем вечнай памяці Казіміра дазвол гэты дадзены адно шляхце, не нам, гараджанам.

Падмайстар *(увайшоўшы, кланяецца гаспадыні)*. З Асвеі сырэц прывезлі! Тут складаць ці ў майстэрню на Палачанку пасланць?

Лукаш. Выйду зараз пагляджу, тады й дам загад. Заехалі ў двор ці на вуліцы?

Падмайстар. Ля брамы, пан майстар, стаяць!

Лукаш *(да жонкі)*. Пабудзь тут!

**Пакуль Лукаш Скарына, выйшаўшы праз двор на вуліцу, аглядае сырэц, на вуліцы паказваюцца Юры Скарына в прыяцелем. Калі яны затрымліваюцца ля крамы, у іх вядзецца размова.**

Р а м а н. Усё гэта глупства ад пачатку да канца! Што ты рабіцьмеш пасля таго, як скончыш там навуку?

Ю р ы. Як чалавек асвечаны, я заўсёды буду карысны паспольству!

Р а м а н. Але чым? Філязофіяю?

Ю р ы. Ёсць шмат яшчэ і другіх навук... Буду карысцен усімі маімі ведамі. Край наш і нават сам Полацак наш яшчэ так бедны людзьмі асвечанымі... Вазьмі, напрыклад, Гераніма Згеля... Ну ці шмат такіх мы маем людзей?

Р а м а н. Скажы на міласць! Геранім Згель! Ды ці гэты твой настаўнік і, як ты кажаш, светач Полацка хоць на кроплю ў чым карысцен нашаму месту?!. Сам ён ледва корміцца ад навучання дзяцей, гадамі карпее над рукапісамі, а каму ад усяго гэтага хоць крыху карысна?

Ю р ы. О, ты, Раман, не знаеш, які гэта светлы розум! Які гэта сапраўдны светач Полацка! Геранім адчыніў мне...

Р а м а н. Што залежыць ад мяне, то я, браце, лічу, што дзеля нашых спраў, якія мы павінны будзем пераняць ад сваіх бацькоў, досыць чытання, пісьма і лічбаў! А ў нашыя, Юрка, гады ёсць куды больш цікавыя рэчы, чымся навука *(цішэй, жвава)*. Хочаш, паедзем сёння пад вечар у Зарэчча... Там ёсць карчомка невялічкая — удавы Марыські, як яе завуць усе... Пагуляем вечар, пажартуем, а калі захочаш, то й *(шэпча нешта Юрку на вуха)*.

Ю р ы. Кінь, Раман!.. Я на гэта ніколі не згаджаўся...

Р а м а н *(смеючыся)*. Святоша ты, святоша!.. Ты думаеш — у гэтым мы першыя або апошнія?.. Спакон веку так вядзецца!.. Жэнімся — дык тады і пераменімся! Значыць, не згодзен дзяліць са мною таварыства ў Зарэччы?

Ю р ы *(сур'ёзна і рашуча)*. Не!

Р а м а н *(выхапіўшы з рук прыяцеля кніжку, б'е ёю хлопца па галаве і са смехам суне яму кнігу ў рукі)*. Гэх ты, няшчасны кніжнік! Бывай здароў! Я думаў, у цябе гарачая юнацкая кроў, а ты... *(Махае рукой і паспяшае ў другі бок.)*

Ю р ы *(стоячы момант задуманы, да сябе)*. Што

выйдзе з цябе, Рамане? Рана ты спазнаў магчымасці, якія даюць грошы твайго бацькі! *(Уваходзіць у краму.)*

Д а м я н і к а. Ось, нарэшце — і ты! Дзе ж так доўга прападаў?

Ю р ы. Заходзіў да Тодара, але не застаў і пайшоў адзін да Гераніма...

Д а м я н і к а *(падыходзячы і абнімаючы сына)*. А ты зноў з кніжкай?!. Як яны табе не абрыдлі?

Ю р ы. Наадварот, матулечка! Чым больш чытаеш, тым больш хочаш ведаць...

Д а м я н і к а. Ну, здаецца, татка згаджаецца, каб ты ехаў вучыцца!

Ю р ы *(радасна)*. Праўда, матуля? Калі б гэта збылося!

Д а м я н і к а. А ты, сынок, і рады ўжо, што едзеш на чужыну! Нам жа разлука з табою будзе каменем на сэрцы!

Ю р ы *(абдымаючы горача маці)*. Не, не, матулечка! Сумна будзе і мне без вас, але затое ж я там пасягну такія шырокія і глыбокія веды, што, вярнуўшыся, буду карысны для роднай краіны! Тады ўжо будзем неразлучныя!

Д а м я н і к а *(выціраючы слёзы)*. Дай жа божа!

Л у к а ш *(уваходзячы са смехам)*. Што гэта вы? Провады спраўляеце, ці што?

Ю р ы *(кідаючыся да бацькі і абдымаючы яго)*. Матуля сказала мне, што ты, татка, быццам згадзіўся паслаць мяне вучыцца! Гэта праўда?

Л у к а ш *(прытуліўшы сына)*. Гэта яшчэ не зусім так! Я-то згодзен, але пасылаць дзяцей вучыцца за рубеж мае права толькі шляхта... Прыйдзецца нам з табой па восені, калі я па гандлёвых справах паеду ў Вільню, шукаць там табе якога-небудзь апекуна сярод заезнага панства, каб з яго дапамогай дабіцца гэтай магчымасці.

Д а м я н і к а. Лукаш, ты з гэтым звярніся да пана Кішкі, які добра знае цябе... Ён зараз у такой пашане ў князя-караля...

Л у к а ш. Ды ўжо ж будзем старацца! *(Да сына.)* Цяпер жа, Юрка, сядай ды занатуй у рахунковую кнігу некаторыя з маіх продажаў і сплат... А як прыйдзе саф'яншчык Кіняк, трэба ў яго адабраць ліст пазыковы на сто коп злотых, якія ён бярэ ў мяне на год з аддачай

заместа іх ста трыццаці коп злотых... Прыгатуй таксама і гэты ліст.

Ю р ы. Добра, татуля! *(Садзіцца і пачынае пісаць.)*

Л у к а ш. Ты ідзеш дадому, Дамяніка? Мне ж трэба пайсці па справах места... Мялеціму я загадаў пабыць тут у краме — скуры і без яго складуць... Дык, Юрка, покі я не вярнуся, будзь у краме з Мялецімам... На ключ табе ад казны!

Ю р ы. Добра, тата!

Бацькі выходзяць.

Ю р ы *(застаўшыся адзін)*. Які вялікі, аднак, быў гэты элінскі філёзаф Сакрат! Калі я не блытаю вычыту Гераніма, гэты мудрэц сказаў: «Досыць знаць, што такое зло, каб не рабіць яго». Якая вера ў чалавечы розум! Гэта праўда! Калі б людзі маглі знаць, што ёсць дабро і зло, яны тварылі б заўсёды добрае людзям, бо ў душы чалавека заложана дабро... Падумаць, як лёгка чытае па-грэцку Геранім... Я ж яшчэ ледва разбіраю словы... А калі хочаш знаць мудрацоў старых часоў, то трэба канешне знаць і лаціну, і грэцкую мову...

Ад парушэння душы ўстае з-за століка, за якім пісаў, і ходзіць па краме. Уваходзіць тым часам Т о д а р С е н ь к а.

Т о д а р. Што гэта ты сам з сабой гаворыш? Ха-ха-ха!

Ю р ы *(падлятаючы да яго і трасучы за плечы)*. Тодар! Дружа ты мой! Разумееш?! Я ж еду, еду!..

Т о д а р. Куды гэта?

Ю р ы. За рубеж! Вучыцца! Тата сёння згадзіўся!

Т о д а р. Ды ну?! То тады мо і мне з табою ехаць?

Ю р ы *(горача яго перапыняючы)*. А як добра было б, браце, разам! Ведаеш, бацька твой, дзядзька Базыль,— чалавек з галавой: напэўна згодзіцца... Пагавары з ім!

Т о д а р. От гэта дык думка: разам за рубеж!.. І свету пабачым і навучымся большаму, чым ад тутэйшых настаўнікаў. І нават больш, чым можа нам даць Геранім! Ідзе!.. Ведаеш, я зараз жа бягу ў нашу майстэрню! Бывай! *(Выбягае.)*

П а д м а й с т а р *(уваходзячы)*. Куды ж гэта Тодар пабег? Ці не надаваў ты яму, Юрка, як след пад бакі? Хе-хе-хе-хе! *(Смяецца.)*

Ю р ы. Ведаеш, Мялецім! Тата згадзіўся, каб я

ехаў у чужыя краі вучыцца! Тодар, дазнаўшыся пра гэта ад мяне, пабег прасіцца ў свайго бацькі таксама ехаць.

П а д м а й с т а р. Ось што! А ці што добрае выйдзе з гэтага? Слухай, Юры!.. Ты ж такі ўдумны. Падумай адно! Вы ж там сярод чужынцаў загінеце... Забудзеце веру і звычаі нашыя, запаганіце душу чарнакніжжам іхнім ератыцкім...

Ю р ы. Ды што ты пляцеш, Мялецім?!. Яшчэ элінскі мудрэц Сакрат сказаў...

П а д м а й с т а р. Я не знаю, што сказаў гэты ерлінскі поп, але знаю цвёрда, што нам часта кажа поп ад святое Сафіі: сцеражыцеся, кажа, пастараў-чужынцаў, бо саблазняюць лёгка яны душы праваслаўных...

Ю р ы *(рагоча)*. Які табе ерлінскі поп?.. Я казаў думку грэцкага філёзафа Сакрата...

П а д м а й с т а р. А хаця ж бы й гэнага Ёзафа Стакрата! Яны ўсе на адзін лад ерэтыкі!..

М а й с т а р-ш а в е ц *(уваходзячы)*. Пана гаспадара няма? *(Кладучы мяшэчак з грашмі.)* Ось вам і грошы за казліну, якую я надоечы выбраў! Якраз за гэтыя скуркі! Лічыце! Тут роўна столькі, колькі яны каштуюць!

Мялецім лічыць перш скуркі, потым грошы ў мяшэчку.

П а д м а й с т а р. Правідлова! *(Падае казліну.)*

М а й с т а р - ш а в е ц. Бывайце ж здаровы!

У дзвярах размінаецца з уваходзячым саф'яншчыкам К і н я к о м.

К і н я к. Хдзе майстар?

Ю р ы. Тата зараз вернецца!.. Ліст пазыковы я ўжо напісаў!

К і н я к. Ага! Пазыка, так, так! Мая прадаў твая бачка паўста саф'ян! Работнік зара насіла вашы двор! *(Чуцен са двара стук у браму.)* Цы-цы-цы *(цмокае языком)*. Яна ўжэ ёсць... ідзі прынімай!

П а д м а й с т а р выходзіць, праз хвілю, ледзь цягнучы на сабе, уваходзіць праз двор у краму р а б о т н і к - т а т а р ы н, кідае з сябе велізарны пук скурак.

К і н я к *(забегшы за прылаву, нешта кажа па-татарску работніку, той, кіўнуўшы згодна галавой, выходзіць праз краму на вуліцу)*. Глядай, Юрка, тавар! Ай карошы! Мяккі якай! *(Мацае адну з скурак.)*

У гэты момант вяртаецца Тодар Сенька.

Тодар. Віват, Юры! Едзем! Тата згадзіўся! Аднак калі толькі едзем разам!

Абодва радасна абдымаюцца і крычаць: «Віват!»

Кіняк *(да падмайстра)*. Што крычаюць?

Падмайстар. Збіраюцца ехаць у далёкія землі вучыцца!

У гэты момант уваходзіць задуманы Лукаш Скарына. Хлопцы абое кідаюцца да яго.

Юры. Татуля! І Тодар едзе са мною!

Тодар. Так! Тата згадзіўся, але каб я ехаў разам з вашым Юр'ем!

Лукаш *(усміхнуўшыся)*. Добра! Едзьце разам! Будзе весялей вучыцца ўдвух! А чаму ж ты, Тодар, збіраешся вучыцца?

Тодар. Лекарам быць хачу!

Кіняк *(падышоўшы да Лукаша)*. Гэта карошы, карошы, майстар! Наша Мухамэт казаў: карошы бачыў розны людзей... Лепшы сам станеш!

Юры і Тодар *(разам)*. Ось бачыце, тата (дзядзька)! І Кіняк за гэта! Дык мы едзем, едзем! Віват!

Лукаш. У добры час!

Хлопцы аглашаюць крыкам краму.

*Заслона.*

## *Дзея 2. Абраз 1. Галубятня*

Падуя. Прасторны пакой на гары дома, пад яго дахам. У задняй сцяне — дзверы, праз якія, калі яны адчынены, відаць сходы ўніз. Столік і пара лавак пасярэдзіне пакоя. Па левай руцэ — шырокае акно з відам на пляц, вуліцы і палац Быка, у якім месціцца універсітэт.

Калі заслона ўзнята, праменні прыгожага асенняга сонца заліваюць высокую частку места і сам пакой.

Чутно, як па сходах узнімаюцца некалькі чалавек, перакідваючыся словамі. Дзверы адчыняе жанчына, за якой следам уваходзяць тры падарожныя студэнты ў плашчах, з клункамі за плячыма.

Даратэя *(шырока расчыняючы дзверы)*. Ну, вось, сіньёры, ваша цяпер гняздзечка!

Наскоўскі *(уваходзячы першым і азіраючы пакой)*. Хоць галубятня і завысока, але пакой прасторны: утрох жыць можна... Столік ёсць, лавак малавата, а ложкаў — ніводнага...

Даратэя. Гадоў са два назад жылі тут таксама студэнты... Тады ўсё было для іх гаспадаром прыдбана — для ўмывання столік і ложкі чатыры... Зараз яны ў свірне, бо апошні год сіньёр Тольфа прасушваў тут афарбаваную шарсцяную пражу і, спадзеючыся, што сіньёрыя пакой гэты за ім пакіне, загадаў усё лішняе прыбраць...

Наскоўскі *(прынюхваючыся да пакаёвага паветра)*. Цяпер я разумею, чаму тут нечым кіслым пахне...

Даратэя. Што ж, восень сёлета стаіць сухая, цёплая. Акно трэба трымаць часцей расчыненым *(накіроўваецца да акна і расчыняе яго)*. Унізе сад наш — шмат добрых дрэў, пахучых кветак. І паветра стаіць добрае... А прастор які ў гэты бок — відаць сіньёры пляц, кляштар Джустыны, капэла Мадонны дэла Арэна і ваш універсітэт, ці, як раней яго будынак звалі, палац Быка, былы герцагскі палац Карараў...

Скарына *(падышоўшы да акна)*. Сапраўды, як прыгожа: Падуя адсюль як на далоні!

Томашак *(углядаючыся таксама праз акно, у захапленні)*. Як добра, што пакой наш так высока!.. Лепш быць далей ад суталакі вуліц, жыцця бруду і несправядлівасці людской!..

Наскоўскі *(з усмешкаю, пад тон Томашку)*. Каб быць бліжэй да неба!.. Я ж, грэшны, зямлю гэту, і брудную, і блудную, люблю: люблю жыццё людское. І таму як найчасцей буду адсюль спускацца на вуліцу, на плошчу, дзе кіпіць жыццё людское...

Скарына *(весела, жыццярадасна)*. Ну, ты сабе жыві, як хочаш, Янак!.. А мы з Томашакам ахвоча будзем тут адседжвацца — штудаваць навукі, цешыцца літаратурай прыгожай, думаць! Чым не рай?..

Томашак. Вось толькі багатыры аднолькавы ўсюды — як тут, так у Чэхах і ў вас, у Польшчы...

Наскоўскі. Ты кажаш!.. А я, мой дружа, спадзяваўся, што ў Ламбардыі і Венецыі шчаслівай яны рахманыя, як авечкі, і што вайна спаміж рэспублікай венецкай і святым прыстолам папскім, якая павялічы-

ла прыбыткі іхнія пазыкай грошай на вайну, зрабіла іх дабрэйшымі цяпер... Не, кажаш?.. Можа, і так!

Скарына *(павярнуўшыся да іх ад акна, праз якое ён разглядваў сад)*. Ну, годзе гыркацца вам там!.. Сюды, можа, глянеце: у садзе цэлых тры Лауры!..

Наскоўскі і Томашак паспяшаюць да акна.

Наскоўскі. Вось гэтая, што з кніжкай у руцэ,— дачка прафесара Джавані Кастра Атэна... Кватэра іх якраз пад намі, на другім паверсе... Я ў прошлым годзе, наведаўшы прафесара (ён чытаў нам «Кодэкс Юстыніяна»), пазнаёміўся і з ёю... О, гэта рэдкая па розуму дзяўчына... Лаціну і грэцкую, старыя мовы, так добра ведае, што творы класікаў пазнала ў арыгіналах дасканальна... Глыбока філёзафаў Платона і Сенеку разумее і камэнтуе... Гісторыкаў старога Рыма і Грэцыі праштудавала з бацькам... Светлы розум! *(Да Даратэі.)* А гэта з ёю побач хто? У вопратцы манашкі, калі не памыліўся?..

Даратэя. Старшая з дачок гаспадара — Джаніна. Да ордэна святое Клары, прыхільніц Францыска, што з Асызі, яна належыць... Сэрца рэдкай дабраты, заўсёды памагае бедным. А вось і Лючыя, малодшая дачка сіньёра Тольфа. Прыгожая надзвычай, і за ёй пасаг багаты... *(Да Наскоўскага.)* Вось з кім бы я зычыла вам шчасця!

Наскоўскі. Дзякую вам, мамма, за гэтае зычэнне. А шэршні Падуі хіба не падкія на гэты мёд?

Даратэя. О, сіньёрына Лючыя добра разбіраецца ў людзях і шмат каго з такіх аматараў на грошы даўно адрынула. Чакае, каб ёй па сэрцу мілы быў...

Наскоўскі *(з роздумам, нібы сур'ёзна)*. Што ж, трэба перш пазнаёміцца, а там ужо прыйдзецца пачаць мне з серэнады... Лютню ўласную я маю: нясу з далёкага Кракава, а голасам пан бог мяне не крыўдзіў...

Томашак. Затое сэрца тваё мае нямала шчылін... Баюся, што пры песні затрымціць, што той гаршчок разбіты...

Агульны рогат.

Наскоўскі *(таксама смеючыся)*. Адна ў ім шчыліна сапраўды засталася ад безнадзейнага кахання ў юнацкія гады... Ты забываеш, голубе каханы, што трэмала — якраз згадзіцца ў серэнадзе: трымценне бу-

дзе сведчыць аб новым болю майго сэрца... Але, шаноўныя, усё гэта на будучыню планы, а мы дагэтуль нават падарожных клункаў з плеч сваіх не знялі, і мой трыбух заяўляе ахвоту на падмацаванне сіл.

Т о м а ш а к *(да Даратэі).* Як падабаецца вам гэты барадаты зубаскал?!. З яго слоў падумаць можна, што ён — гуляка і неспакойны падсусед...

Д а р а т э я *(смеючыся).* Сіньёр, відаць, вясёлы па натуры і любіць жарты!..

Н а с к о ў с к і. Сказалі праўду, мамма Даратэя... Любячы людзей, хацеў бы я, каб жыццё ў іх было вясёлае, хаця ж бы і нялёгкае часамі... Вось чаму больш за ўсё люблю я... грошы, якія ўсюды расчыняюць любыя дзверы. *(Падышоўшы да жанчыны блізка, пяшчотным голасам.)* Вы казалі, мамма, што гаспадар наш вось тут сушыў пражу. Ну а свае дукаты ён перахоўвае ў якім пакоі дома?.. Я б хацеў крыху ў яго пазычыць...

С к а р ы н а *(сердзячыся).* Ян!.. Ты — немагчымы!.. Мамма Даратэя падумаць немаведама што можа ад такіх тваіх пытанняў!..

Д а р а т э я *(дрэнна пачуўшы, што сказаў Наскоўскі, бо якраз выцірала прынесенай анучай ад пылу столік і лавы, адказвае сур'ёзна).* Пазычаць не любіць ён! Да таго ж ён мае тут, у Падуі, дзве сукнаткацкія майстэрні, у якіх працуюць да пяцісот майстроў і работнікаў усялякіх... За Брэнтаю ў свірне шэрсць прывозная з-за мяжы. І з сукном штотыдзень фурманак дзесяць у Венецыю адвозіць... А там свае галеры, і чутка ёсць, што з іншымі суконшчыкамі Падуі сіньёрэ Тольфа банк заклаў... Дык вось дзе круцяцца яго дукаты!..

Н а с к о ў с к і *(са смехам).* Шкада!.. А я, прызнацца, спадзяваўся на пазыку!

Т о м а ш а к *(які таксама дрэнна чуў словы Наскоўскага).* Ну як жа, спадзявайся — так бы ён табе ахвоча адчыніў сваю скрынку!..

Н а с к о ў с к і *(нібы сур'ёзна).* Не адчыніў бы дабрахоць, памог бы я яму ў гэтым сам...

С к а р ы н а *(ужо гнеўна).* Тваe жарты, Янак, недарэчныя!.. Што пра цябе, пра нас падумае шаноўная мамма Даратэя?!

Д а р а т э я *(смеючыся).* Адно толькі, адно, што сіньёр старэйшы з вас — жартаўнік, вясёлае натуры.

І толькі!.. Крый божа, іначай мне пра вас падумаць ці сказаць дзе-небудзь!

Наскоўскі *(мяняючы тон)*. Цікава, прыме ён ад нас, студэнтаў бедных, плату за пакой па таннай таксе сіньёры?

Даратэя *(перабіваючы яго, паспешліва)*. А калі купіць што трэба зараз вам, прышлю дачку сваю я, Джулію... А Леонэ скажу прынесці з свірна ложкі вам і ўсё для ўмывання. Бывайце ж! *(Выходзіць.)*

Наскоўскі *(Даратэі ўслед)*. Просім, мамма Даратэя! *(Да Скарыны.)* Ну, пустэльнік падуанскі!.. Пятух яшчэ зусім не кукарэкнуў, як ты ўжо да акна з Лаурамі прыліп, забыўшыся пра абяцанне быць аддданым для навукі. *(Усе трое смяюцца.)*

Скарына *(б'ючы сябе ў грудзі)*. Мэа кульпа, мэа кульпа, мэа максіма кульпа *.

Томашак. Шатан спакусіў усіх траіх, фактычна!

Аслабаняюцца ад клункаў, памагаючы адзін другому, скідваюць берэты і плашчы.

Томашак *(зноў любуючыся местам праз акно)*. Сапраўды чароўная Падуя гасцінная!.. О, рэфугіум салютарэ — ратоўнае ўбежышча ты вольнай смелай думкі, як цябе празваў Картузіюс за тваю гасціннасць да тых, каго ў дзяржавах іншых гналі, гатовы былі знішчыць!.. З цябе, о Падуя, паходзіў Марсілі, аўтар вальнадумнага «Дэфэнзар паціс»...

Скарына *(дадае)*. З тутэйшага універсітэта выйшаў спалены ў Парыжы як ерэтык Эцьен Далэ і мучанік за свае думкі Філіпа Альджэры дэ Ноля.

Наскоўскі. Так, так, каханы Томашак, браце!.. Можна назваць дзесяткі імёнаў слаўных, дзеля якіх Падуя была і калыскай, і пестуном вольных думак, і ўбежышчам надзейным... Наша універсітэцкая бібліятэка багата творамі, якіх не знойдзеш ты ні ў якіх іншых... Іх табе, Томашак, трэба штудаваць грунтоўна.

*Заслона.*

---

* Мой грэх, мой грэх, мой вялікі грэх! (лац.)

## *Дзея 2. Абраз 2. Перакрыжаванне дарог*

Ізідора *(канчае накрываць стол)*. Ну, здаецца, усё гатова!.. Атэна чакае траіх... Джаніна, Лючыя, а хто ж трэцяя? *(У задуменні.)* А можа, трэці?.. Добра, калі так! *(Усміхаецца.)* Хітруня: так і не сказала мне, каго ж... Прафесар прасіў забяспечыць яго гасцям два месцы... Значыцца: нас трое, трое — Атэны, двое — прафесара... Разам восем. А я накрыла раз, два *(лічыць далей пра сябе)*, дзевяць... Лішняе адно месца... Прыкмета азначае, што бог прывядзе яшчэ кагосьці...

Атэна *(з'яўляецца з саду з кветкамі ў руках)*. Ізідора, любая мая, для такога букета прыйдзецца ўзяць маміну вазу: мая замалая... Татка любіць кветкі — я бліз яго месца і пастаўлю!

Ізідора. А ці добра гэта? Тата дагэтуль не забыўся пра страту мамы... Вазу гэту, як грэцкую антыку, тата падараваў маме пад кветкі, і яна, калі прафесар па сваіх навуковых справах занадта шмат дзён забываўся пра сям'ю, ставіла яму на стол гэту вазу з кветкамі.

Атэна. Так, ты мне казала пра гэта... І тады тата, панюхаўшы кветкі, кідаў работу і аддаваў свой час маме і мне, тады маленькай...

Ізідора. Баюся, каб сёння, у дзень твайго нараджэння, смутак не апанаваў яго душу гэткімі ўспамінамі...

Атэна. Дзякуй табе, Ізідора, што ты мне ўсё напомніла... Я вазу пастаўлю супраць свайго месца!

Ізідора. Атэна, а ты мне так і не сказала, для каго ж трэцяй, ці мо для каго ж трэцяга ты загадала мне пакінуць за сталом месца... Гэта для мяне, пэўна, не сакрэт?

Атэна *(выняўшы з шафы вазу і ўставіўшы туды букет)*. Вось, пастаўлю іх сюды! Гэта мая варажба. Ёсць паver'е такое, што ў такі, як сёння ў мяне, дзень можа прыйсці хто нязваны, няпрошаны, нечаканы, каго бог пашле...

Ізідора. Што ж, добра... Мо бог пашле нам добрага каго, мо і суджанага табе, Атэначка!

Атэна. У Падуі, Ізідора, я не спадзяюся сустрэць суджанага! *(Падыходзіць да яе, абдымае ласкава, ца-*

*луе і кажа са смехам.)* Я чакаю, любая мая, свайго суджанага з-за мора!

І з і д о р а. Няўжо тут, у Падуі, няма нікога, з кім сэрца тваё хацела б злучыцца? *(Пяшчотна абдымае яе і цалуе.)* Адкрыйся, не таіся!

А т э н а. Не, няма! Усе — звыклыя людзі, без шырокай думкі. Ім трэба толькі жонка і дзеці...

І з і д о р а. Коцiку мой! Сёння табе стала ўжо дваццаць чатыры гады. Пара падумаць і пра мужа... А мець дзетак — святы абавязак жанчыны! Мне заўсёды крыўдна за цябе, коцiку, бачачы цябе з дня ў дзень толькі з кніжкамі!

А т э н а. Яны, ведаеш, мае лепшыя знаёмыя і прыяцелі! Колькі ў іх добрых думак, колькі чалавечай красы і багацця! Якімі нецікавымі, беднымі ў параўнанні з імі выглядаюць знаёмыя мне маладыя людзі!..

І з і д о р а. Вось бачыш, кніжкі цябе аддаляюць ад людзей. А што яшчэ горай, яны пазбавілі цябе жывасці, вясёласці...

А т э н а. Не, не! Хіба я перастала смяяцца? Я толькі смяюся сапраўды вартаму смеху, а не без дай прычыны, як іншыя пустыя галоўкі... І каб ты ведала, як часта мне хочацца дурэць, жартаваць, а іншы раз у душу нахлыне такое пачуццё радасці жыцця, шчасця, што, здаецца, я была б гатова выйсці на вуліцу, на пляц: прад усімі людзьмі сведчыць, што жыццё — гэта само па сабе шчасце, радасць... І ў такія хвіліны я таксама часта думаю пра сваю будучую сям'ю, адчуваю сябе шчаслівай маткай дзетак сваіх...

І з і д о р а. Вось бачыш, Атэначка, усё гэта сведчыць пра тое, што трэба адкласці на час кнігі ўбок, прыглядзецца да людзей, сустрэць таго, каго само сэрца назаве суджаным.

А т э н а. Ах, Ізідора, і кнігі, і жывыя людзі — усё мне міла, але ж... ты сама разумееш, што дагэтуль я яшчэ не сустракала такога чалавека, пра якога магла б сказаць: вось ён, мой выбранец. Але годзе пра гэта... Мы загаварылі пра маму... Я, такая дрэнная, сама пра яе як след не ўспомніла... Скажы мне яшчэ і яшчэ раз, якой яна была.

І з і д о р а. О, сіньёра Цалеста была рэдкім чалавекам, рэдкаю жанчынай, нездарма прафесар быў шчаслівы з ёю. Яна, як і ты, галубка мая, была начытана ў

літаратуры. Ёй прысвяціў свой сшытак санетаў вядомы падуанскі паэт. Яе думкі па некаторых пытаннях пыталіся пісьменнікі Мілана і Фларэнцыі... Але трэба ж было захварэць ёй, прастудзіўшыся, на сухоты. І бог прыбраў яе да сябе.

Атэна. На жаль, я яшчэ была зусім маленькая, калі яна памерла. І якой я была б шчаслівай, калі б магла дзяліцца з ёю сваімі думкамі пра літаратуру, параўноўваць свае погляды на мастацкія творы з ейнымі.

Стук у дзверы. Уваходзяць Джаніна і Лючыя.

Джаніна. Можна да цябе?

Атэна *(ім насустрач, радасна)*. Канешне, можна. Я заўсёды рада вас бачыць, быць з вамі!

Джаніна *(падыходзіць да Атэны, абдымае і цалуе яе)*. Што пажадаць табе, Атэначка, у гэты дзень?.. Па-мойму — яснасці розуму, чыстаты душы, здароўя! Хай жа так і будзе ў гэтым новым годзе твайго жыцця!.. А каб была ў цябе ад мяне памятка, я папрасіла татуся набыць у Венецыі які-небудзь добры грэцкі твор. І ён прывёз Омэраву «Іліяду», якую я і прашу прыняць ад мяне на памяць, як навіну кніжнага друкарства!

Атэна *(цалуючы прыяцельку)*. Дзякую, даражэнькая Джаніна. І асабліва — за гэтакі твой падарунак, бо «Іліяда» — твор, які я асабліва люблю! *(Разгарнула на момант кнігу.)* О, якая роскаш друку!.. Вялікае табе дзякуй!

Лючыя *(падыходзіць да яе, абдымае і цалуе)*. Каб ты была шчаслівa, каб стрэла свайго героя, каб пакахала і была б ім любіма бязмерна!

Атэна *(смеючыся)*. Бязмерна!.. Аж страшна!

Лючыя. Толькі такое каханне і мае вартасць, Атэ! Ну, а ад мяне табе на памяць — з той жа Венецыі — сетачка для валасоў, падобная ж, як у мяне. Такая мода там пануе...

Атэна. Хаця ж я і не модніца, як ты, мая любая прыгожка, аднак такая практычная рэч — вельмі прыемны падарунак. І я папрашу цябе памагчы мне ім прыбраць валасы.

Лючыя *(памагаючы ёй у гэтым)*. Рэч прыгожая і першай неабходнасці!

Толькі яны паспелі, як са свайго кабінета выйшаў прафесар Джавані Кастра.

Прафесар. Ну вось і добра, што прыйшлі! Вітаю вас, шаноўныя сястрычкі! Што новага ў вас? Чуў, не ведаю толькі, ці праўда, што дзве галеры таты ледзь не патанулі ў Біскайскай затоцы, калі ішлі яны з воўнай з Фландрыі — такая была страшэнная бура...

Люцыя. Так. Тата атрымаў ад капітана Гальяна такі ліст з Венецыі. Але, дзякуючы богу, усё абышлося добра... Тата з радасці паслаў загад свайму даверанаму ўзнагародзіць як абодвух капітанаў, іх каманды, так і галерных веславых.

Прафесар. А ім навошта тая ўзнагарода? Як палонныя барбары, яны ўсё адно прыкуты навечна...

Люцыя. О, іх загадана лепш карміць у час стаянкі ў Венецыі. А для іх — гэта самае лепшае, што ім самім сабе можна пажадаць...

Атэна. Калі я прыгадаю тое, што пры гібелі галеры іх доля тануць,— мне шкада гэтых бяздольных, хаця яны і былыя марскія разбойнікі.

Люцыя. А мне такіх не шкода: колькі нашых маракоў гіне ў час іх нападаў на гандлёвыя караваны. Кажуць, што тысячы нашых гібее ў іхнім цяжкім палоне.

Джаніна. Па-хрысціянску нам засталося толькі маліцца, каб бог ратаваў нашых... А ўсявышні ім, разбойнікам, сам суддзя!

Прафесар. Кожны год мы пасылаем грошы на выкуп палонных... Я, напрыклад, лічыў бы найлепшым, каб наша далёка не бедная рэспубліка плаціла ім адступныя — і тады яны не нападалі б на нашы караблі... Я пэвен, што яны пайшлі б на такую ўмову, бо для грабяжу застаецца ім і так нямала караблёў — гішпанскіх, партугальскіх і той жа нашай супаратніцы Генуі.

Атэна. Вялікі савет рэспублікі трасецца над сваёй казной. І больш шкадуе золата, чым сваіх людзей,— гэта даўно вядома, тата... Але не будзем сёння пра гэтыя сумныя справы гутарыць. Лепш скажы, татуся, каго ты з гасцей чакаеш, што сказаў падаць дзве лішнія талеркі?

Прафесар. Павінен быць у мяне вельмі цікавы госць — наш вялікі знаўца мастацтва, асабліва антычнага, Фларыян Скварчэла. Ён вярнуўся з вандроўкі па

Грэцыі і прывёз, кажуць, безліч грэцкай старасвеччыны — мармуру, бронзы... Рызыкоўная была гэта вандроўка, але ён на ўсё пайшоў, затраціў безліч грошай — і ўсё-такі свайго дабіўся: кажуць, да сарака скрынак антычнага дабра прывёз... Будзе што паслухаць... І цікава, як яму ўдалося гэтага дабіцца: дапамагалі яму і грэкі, і туркі, бо шчодра і тых і другіх грашыма адарыў. Да самай Венецыі яго грэкі-піраты даставілі і на вачах здзіўленых венецкіх дазорных усё старанна на бераг згрузілі...

А т э н а. А другая талерка для каго, тата?

П р а ф е с а р *(смеючыся)*. А другая? Гэта я па народнай прыкмеце загадаў на госця, якога, можа, бог прынясе,— быў бы гэта памысны выпадак.

А т э н а *(таксама смеючыся)*. Вось і я таксама тое ж зрабіла, ды, думаю, мана ўсё гэта.

І з і д о р а *(уносячы віно)*. Не кажы так, Атэначка! Гэта пэўная народная прыкмета, і дай божа, каб яна для нас спраўдзілася! Хто ведае, можа, і прывядзе бог, каго нам трэба.

Д ж а н і н а. А ты забылася, Атэначка, пра Алімпію Кардона — хіба такім жа чынам не сталася яна жонкаю Бальвэта, які ў дзень яе нараджэння наведаў іх сям'ю, вярнуўшыся з вандроўкі ў Егіпет? Прывёз ён тады столькі індыйскіх тканін, што іх хапіла не толькі для венецкіх красунь, але і для Фларэнцыі, і Вероны... Ад бога ўсё залежыць.

Стук малатка ля ўваходных дзвярэй.

Л ю ч ы я. Вось бачыш, і прыйшоў хтосьці.

Стук малатка ля ўваходных дзвярэй прымушае прафесара накіравацца ў перадпакой. Дзверы застаюцца адчыненымі, і добра чуваць размова з увайшоўшымі.

І з і д о р а *(калі прафесар выйшаў адчыняць)*. Нясі, божа, добрага чалавека, а як нежанатага — дык ажэнім!

А т э н а. Ты сваё ўсё, Ізідора!

І з і д о р а. У такі дзень, як сёння, чаму ж не пажадаць нам гэтага? Лішняя талерка з тым ставіцца, каб бог паслаў памыснага для дома чалавека. Дык чаму ж ён не можа пазней стаць блізкім табе, Атэначка?

Галасы ў перадпакоі.

Н а с к о ў с к і. Добрага дня, прафесорэ! Можна да вас па адной справе з сябрамі-студэнтамі? Пазнаеце мяне, прафесорэ?.. Я — Наскоўскі.

П р а ф е с а р. А! Ну як жа не пазнаць мне вас, сіньёрэ Наскоўскі! Вешайце тут шапкі і пройдзем у мой куток!

Калі студэнты з прафесарам праходзяць у пакой апошняга, паміж дзяўчатамі ўзнікае размова.

Л ю ч ы я. Гэта, відаць, студэнты, што жывуць у нас у доме?!

А т э н а. Так. І сярод іх студэнт-праўнік, пра якога я табе казала, калі ў прошлым годзе з ім пазнаёмілася. Паляк Наскоўскі...

Л ю ч ы я. Памятаю, памятаю... Яшчэ ты мне казала, што ён добра выхаваны, вастраслоў. Але нешта табе ў ім не падабалася...

А т э н а. Ён нейкі, я б сказала, атручаны скептыцызмам. А такія людзі мне не падабаюцца.

Л ю ч ы я. А я люблю людзей вастравумных: з імі не нудна... Сярод маіх знаёмых хлопцаў толькі адзін Гвіда больш-менш вастрасловец, а іншыя — без дару слова...

Д ж а н і н а. Але, трэба праўду сказаць, ён часта нясе бязглуздзіцу. Хутчэй ён просты зубаскал. Часта сам смяецца, калі кажа тое, што зусім не смешна...

Л ю ч ы я. Бывае і так, але ён часам умее быць і сапраўдным вастрасловам.

А т э н а. Наскоўскі — разумны. І ў яго выказах заўсёды ёсць сэнс. Але, падумаць толькі, якія гэта ўсё бязлітасныя думкі і выказы...

Л ю ч ы я. Напрыклад?

А т э н а. А хаця ж бы яго погляд, што кожны з людзей толькі сябелюбца, што ў жыцці грошы, матэр'яльны інтарэс — пануючы дзейнік...

Л ю ч ы я. Што ж, гэта правільныя вывады. Асабліва калі прыгледзішся да людзей, заўважыш, што імі ў жыцці кіруе...

А т э н а. Ну не, я з гэтым ніколі не згаджуся. Возьмем першы ж прыклад — наша Джаніна. Знайдзі ў яе дзейнасці грашовы ці матэр'яльны інтарэс... А людзі, якія ідуць на смерць за свае думкі, не адракаючыся...

Л ю ч ы я. Такіх людзей наогул мала. Бадай што дзевяноста чалавек са ста кіруецца толькі сваімі выга-

дамі. Глядзі, колькі прэтэндэнтаў на мяне як будучую жонку... А чаму? Таму, што за мной вялікі пасаг... І як яны ўсе падкія на гэтыя грошы. Замячаю, што нават не цікавяцца, як я сама да іх адношуся... Іншых я жорстка адпіхваю ад сябе, а яны ўсё адно спрабуюць лічыць сябе прэтэндэнтамі на маё сэрца.

Прафесар са студэнтамі заходзіць у сталовы пакой.

Прафесар. Сіньёрэсы, знаёмцеся з маімі гасцьмі, студэнтамі нашага універсітэта. Дарэчы, яны жывуць у нашым доме! Праўнік Наскоўскі... Ты, Атэна, з сіньёрам Наскоўскім знаёма яшчэ з прошлага года! Пасля роднага Кракава, дзе слухаў навукі вызваленыя, скончыў ён у нас медыцыну, а зараз праходзіць права... Скарына з далёкага Полацка, з тамтэйшай Русі... Слухаў навукі, вызваленыя ў Кракаве, цяпер вывучае ў нас медыцыну... Томашак з залатой Прагі, дзе наведваў багаслоўе. Працягвае яго вывучэнне і ў нас... Наш паважаны рэктар асабліва высока ставіць студэнтаў са славянскіх земляў за іх дысцыплінаванасць у жыцці і ў наведванні лекцый, у працы над крыніцамі навукі. Ён і накіраваў нашых сённяшніх гасцей да мяне... Як бачыце, перад намі сыны трох славянскіх народаў — чэхаў, палякаў і літоўскай Русі, ці, як яны самі сябе завуць, Белай Русі... Пачакаем крыху яшчэ паважанага сіньёра Скварчэла, які проці свайго звычаю штосьці позніцца. Тады і сядзем за стол. Сіньёра Ізідора належна дабавіць талерак, фіялаў віна, якое адпавядае сённяшняй нашай урачыстасці.

Наскоўскі. Дзякуем вас, прафесорэ, за высокую чэсць, аказаную нам, чужаземнай моладзі... Трэба, мусіць, і нам быць гатовымі, каб прынесці свае віншаванні...

Прафесар. Гэта мы зробім усё за першым віном... На хвіліну я вас, маладых, пакіну адных. *(Адыходзіць у свой пакой.)*

Атэна. Што ж мы стаім. Прашу ўсіх сядаць.

Лючыя *(да Наскоўскага)*. Раскажыце, як вы ехалі ў Падую са сваіх зямель?

Наскоўскі. Ехалі? Вядома, былі б у нас лішнія грошы, мы хоць частку далёкай дарогі ехалі б... Але лёс усходне-еўрапейскай студантэрыі — ісці пехатою.

Атэна. Як? Увесь час вы ішлі пеша?

Наскоўскі. Так!.. Мы са Скарынаю — ад Кракава да Прагі, а стуль ужо ўтрох праз Венецыю да самай Падуі.

Атэна. Гэта — геройства!

Джаніна. А разбоі на дарогах?

Наскоўскі. Сіньёрыта Атэна сказала, што мы героі... Не, хутчэй нашы ногі былі героямі, бо вытрымалі такую далёкую дарогу. Мы ж, тройчы сустрэўшыся з дарожнымі грабежнікамі, трымаліся зусім не героямі.

Лючыя. Кінуліся ўцякаць?

Усе рагочуць.

Наскоўскі. Такога сораму мы не дапусцілі... Мы проста, без усялякага геройства спакойна развязалі клункі і паказалі свае багацці — кніжкі. І гэтага было досыць, каб з намі ва ўсіх трох выпадках вельмі міла развіталіся...

Скарына. Дабаў, што ў лесе перад Травізаю італійскія ўжо грабежнікі нават на дарогу патрактавалі нас віном. Раз вы, казалі яны, ідзеце да нас у Італію вучыцца, дык на дарогу ў Падую падмацуйце свае сілы!

Томашак. Затое ў Вілаху адзін з нямецкіх разбойнікаў, калі іх галавар даў нам дазвол ісці далей, са словамі: «А на пошліну мо хоць згодзяцца мне яго вось (паказаў на мяне) падэшвы!» падняў маю нагу і толькі ўбачыўшы, якія яны незайздросныя, супакоіўся... Такі вось у немцаў разбойніцкі практыкум!

Атэна. Так! За імі гэта даўно водзіцца. Ніхто так не грабіў у час паходаў у Італію, як ландскнехты і іхнія рыцары.

Прафесар *(выходзячы са свайго пакоя, дадае).* Так, цэлай сотняй галераў вывозілі яны сваю вайсковую здабычу з няшчаснай Італіі. І розніца была толькі ў тым, што рыцары адбіралі ўсё лепшае і каштоўнае з адзення, з тканіны, з убораў мэталёвых і з грашэй, а іхнія зальдаты, што ў перакладзе знача: найміты,— і ўсё іншае, на што не квапіліся іх начальнікі... Але годзе пра гэтыя справы. Нас чакае прыемны стол... Прашу садзіцца.

Лючыя. Я хачу мець месца насупраць сіньёра Наскоўскага, каб яго слухаць...

Прафесар. Што ж, добра... Тады гэта месца па-

кінем для сіньёра Скварчэла. А вы сядайце так: вось сюды сіньёр Наскоўскі і сіньёрэса Лючыя, далей Джаніна і сіньёр Томашак, а супроць цябе, Атэна,— сіньёр Скарына... Мамма Ізідора завершыць стол з таго канца, а я з гэтага *(калі ўсе селі)*. Нальём вось з гэтых пляшак — раманскага. Да́мы, мне ў гэтым будзьце ў дапамогу *(калі віно разліта)*. Дазвольце ж мне першаму ўзняць гэту чару за сваю каханую Атэну, якой дзень нараджэння мы сёння тут святкуем. Што магу я пажадаць табе, мілая дачушка? Перш за ўсё здароўя і сіл, потым — задавальнення і ўцех у дружбе з лепшымі розумамі свету. Вось чаму я сёння падараваў табе даўно табой жаданы твор Арыстоцеля. Нарэшце, жадаю табе шчасця. Няхай гэты новы год твайго жыцця станецца шчаслівейшым годам твайго жыцця. *(П'е.)*

Усе ўзнімаюць свае бакалы, каб злучыць іх з бакалам Атэны.

Наскоўскі. Шкада, што мы не ведалі гэтага, а то віталі б вас, сіньёрэса, пышным букетам палявых кветак, якія так прыгожа аздабляюць ваколіцы Падуі!

Скарына. Не будзе позна зрабіць гэта сёння пад вечар — як даніну нашай высокай павагі да жанчыны, што стала на ўзровень навуковых ведаў мужчыны.

Томашак. Так трэба і зрабіць, сябры!

Закусваюць.

Прафесар. Прашу дам напоўніць бакалы новым запасам раманскага! Мо хто з вас, сіньёрэсы, захоча мець застольнае слова?

Лючыя. Дайце мне, прафесорэ!

Прафесар. Прашу вас, Лючыя!

Лючыя. Любая Атэна! Я высока цаню твой светлы розум, хоць сама не разумеюся ў мудрасці Арыстоцеля, светлых айцоў царквы і больш цікаўлюся тым, каб доля паслала мне асабістае шчасце. Гэтым кончыў свае пажаданні і паважаны твой тата! Дык вось, маё табе, любімая, пажаданне — станься ж сапраўды ў гэтым годзе шчаслівай жанчынай! А нам, жанчынам, патрэбна гэта шчасце сэрца, бо мы ім адорым і таго, хто ўзамен ахвяруе нам сваё сэрца! П'ём жа за гэта тваё, Атэначка, шчасце!

Скарына *(упаўголаса)*. Шаноўны прафесорэ, чарговае слова папрашу мне.

П р а ф е с а р. Слова просіць наш госць з Белай Русі, яе будучы (мы ў гэтым пэўны) доктар медычных навук Францыск-Юры Скарына! Здаецца, я не пераблытаў іменаў!

Н а с к о ў с к і. Не, не, усё правільна!

П р а ф е с а р. Нальём жа віна да поўнага, як і раней, краю. *(Наліваюць.)* Прашу вас, сіньёр Скарына!

С к а р ы н а *(устаўшы)*. Ужо ў Кракаве я дазнаўся, што паўночная Італія цвіце кветкамі навукі, што яе універсітэты багаты выдатнымі прафесарамі, што ў яе славутую гасцінную Падую цякуць да крыніцаў веды тысячы іншаземнай студэнцкай моладзі, што мастакі Італіі адраджаюць сваю галіну чалавечай творчасці, што жанчыны Італіі сталі першымі ў свеце па сваёй асвеце і літаратурнай творчасці. А сёння я дужа шчаслівы пазнаёміцца з лепшай дзяўчынаю, для якой навука раскрыла свае дзверы. Шаноўная сіньёрэса Атэна дэ Кастра, я вітаю ў вашай асобе заваёву жанчыны новага свету. Было б, аднак, паловаю вашых дасягненняў, калі б гэты поспех застаўся толькі вашым асабістым дасягненнем. Будзьце ж падобны тым дзевам Грэцыі, якія не сталі трымаць запалены свет пад спудам, а з запаленаю сяцільняю пайшлі насустрач цемры. Як у сябе ў Італіі, так і па-за яе межы нясіце запалены свет навукі і веды, будзіце спячых, нясіце жанчынам усёй людкасці гэты здабыты вамі свет навукі, паказвайце дарогу, якой павінна пайсці жанчына, каб стаць упэўнена і па праву побач з мужчынам, каб выконваць разам з ім тую высокую місію, якая ляжыць на кожным з нас, каму доля і шчасце адкрыла абнаўляючую чалавека крыніцу навуковай веды... Вось такое маё сёння вам пажаданне, першая жрыца навукі, шаноўная Атэна дэ Кастра. Нездарма сымбалічна вы носіце імя вялікай багіні розуму старадаўняй Элады — імя Атэны. Станьце сапраўднай Атэнай гасціннага места Падуі. Высока ўзніміце сваю запаленую навукаю паходню... Зычу вам, сіньёрэса, поўнага ў гэтым поспеху!

Н а с к о ў с к і. Ну, Францішак, ты сёння выявіў сябе грамадзянінам сусвету! Маладзец, сапраўды добра сказаў!

Т о м а ш а к. Такім і павінен быць кожны сапраўдны хрысціянін. Для яго няма рубяжоў, а ўсе людзі — браты і сёстры!

Д ж а н і н а *(з захапленнем).* Святая праўда!

Усе цягнуцца да Атэны са сваімі бакаламі.

А т э н а. Дзякую за зычэнні, але — ці па сілах мне яны?

П р а ф е с а р. Якая сапраўды прыгожая думка, дарагая мая дачушка! Якую багатую думку падалі вы нам, сіньёр Скарына! *(Стук малатка ля ўваходніх дзвярэй.)* Пэўна, сіньёр Скварчэла. Я, Ізідора, сам адкрыю госцю!

Накіроўваецца ў перадпакой. Хвіліна маўчання. Атэна сядзіць у задуменні. Прафесар адчыняе дзверы.
Уваходзіць С к в а р ч э л а.

П р а ф е с а р. Нарэшце, сіньёр Скварчэла! Рад вас бачыць сваім госцем. Божа, вы з поўнымі рукамі!

С к в а р ч э л а. Вітаю вас, сіньёр дэ Кастра! Я, бачыце, захапіў з сабой адну незвычайную, прывезеную з Атолікі бронзу і хачу вам яе паказаць, ведаючы, як вы ўмееце цаніць выдатныя антычныя творы!

П р а ф е с а р. Мы пастаўім яе вось сюды! А вас я папрашу адразу да стала, за якім мы з моладдзю ў поўным зборы! Прашу вас! Сёння мае і дачкі госці — моладзь. Знаёмцеся: маэстра Скварчэла — сіньёра Лючыя, дачка сіньёра Тольфа.

С к в а р ч э л а. Вельмі прыемна. Пра вашу красу, што адраджае красу слаўнай Элады, ведае не толькі Падуя, але і багатая прыгожымі жанчынамі Венецыя... Ад самога дожа давялося чуць мне, што вы былі аздобай яго апошняга балю, калі наведалі жамчужыну Адрыятыкі.

Л ю ч ы я *(пачырванеўшы ад пахвалы).* Што вы, маэстра!

С к в а р ч э л а *(вітаючыся з Атэнай).* Вельмі рад вас вітаць, сіньёра! Ну, як вы знайшлі Арыстафана, якога жадалі чытаць у арыгінале?

А т э н а. Чытала з захапленнем... Колькі красы ў яго камедыях і які гэта бліскучы прыклад для сучасных драматургаў!

С к в а р ч э л а. О так!

П р а ф е с а р. А гэта старшая з дачок сіньёра Тольфа, сіньёрэса Джаніна.

С к в а р ч э л а. Чуў, чуў і пра вашу дабрадзейнасць,

сіньёрэса! Уся бедната падуанскага зарэчча блаславуляе вашу дапамогу і дабрату вашага сэрца!

Д ж а н і н а *(засмучана).* Я толькі выконваю свой абавязак кларысы.

П р а ф е с а р. А візаві сіньёрэсы нашы студэнты, сыны трох славянскіх зямель: сіньёры Наскоўскі — з Кракава, Скарына — з Полацкай Русі, Томашак — з залатое чэшскай Прагі.

С к в а р ч э л а. Рад вітаць у вашых асобах народы будучыні. Гэта не толькі мая думка!.. Як прыемна, што наша Італія нясе місію пашырэння навукі маладым народам Славіі!

П р а ф е с а р. Я гару нецярплівасцю пачуць ад вас апавяданне пра вашу вандроўку па Грэцыі. Але гэта мы адкладзём для бяседы ў маім кутку. А зараз прашу заняць месца за сталом: трэба падмацаваць свае сілы, чым бог паслаў *(як селі).* Прапаную ўзняць свае чары за надзвычайны поспех у вандроўцы сіньёра Скварчэла, за яго здароўе!

С к в а р ч э л а. О, вандроўка была такая ўдачная, што я і не чакаў. Я прывёз больш за сорак скрынак першакласнага дабра — мармуру, бронзы, ваз... Адну бронзу, з вашага дазволу, я буду вам дэманстраваць пасля стала!

У с е. Просім, просім!

С к в а р ч э л а *(з захапленнем).* Вам, моладзь, асабліва цікава будзе пабачыць усемагутнага бога кахання — грэцкага Эраса... Гэта твор Фідыя ці кагосьці з яго вучняў... Нешта сапраўды надзвычайнае па хараству! Але пра гэта потым.

П р а ф е с а р. Прашу вас закусіць роднай падуанскай стравай!

Пакуль прафесар і Скварчэла ядуць, размова ўзнікае ў моладзі.

А т э н а *(да Скарыны).* Вы мяне, сіньёр Скарына, зусім збянтэжылі думкай пра вандроўку за мяжу! І потым — колькі незаслужанай пахвалы!

С к а р ы н а. Ну, не, сіньёрэса, пахвалы не было, было толькі справядлівае прызнанне дасягнутых вамі поспехаў у навуцы і пажаданне, каб вы памаглі іншым жанчынам узняцца на дасягнутыя вамі вышыні навуковых і літаратурных ведаў... Ваш госць маэстра зусім справядліва пацвердзіў, наколькі глыбока вам знаё-

ма літаратура Элады. А ваш тата гаварыў і пра Арыстоцеля, што таксама цікавіць вас. Дзе ж тут пераўвелічэнне?

Атэна. І ўсё ж я не прывыкла пераацэньваць сваю асвядомленасць у грэцкай і рымскай культурах.

Наскоўскі. Дарэмна, сіньёрэса, вы так бязлітасны да сябе! Думка Скарыны аб вашай місіі адносна іншых краін — думка, вартая ўвагі!

Атэна. А куды дзелася ваша скептычная ацэнка ўплыву на людзей, сіньёр Наскоўскі? Хіба не ад вас я чула, што людская натура кансерватыўная, як ніякая іншая ў прыродзе?!

Наскоўскі. Я нізка цаню абывацельскую масу. Аднак гэта не датычыцца моладзі, яшчэ не зацягнутай у балота жыццёвых выгод і практыцызму старога пакалення... Вашы заклікі павінны быць адрасаваны да тых кругоў, якія адгукнуцца!..

Скварчэла. Калі даволіце, прафесарэ, я зараз пакажу ўсім вам адзін з рэдкіх антыкаў, прывезеных мной з Элады. Паглядзіце прынесеную мною бронзу.

Прафесар. Прашу вас, маэстра!

Скварчэла выскоквае з-за стала ў перадпакой і выносіць адтуль статую. Калі ён моўчкі здымае з яе абвінуцце, вачам усіх адкрываецца пакрытая пацінаю фігура бога кахання Эраса, які, нацягваючы свой лук, збіраецца з дабрадушнай усмешкай пусціць у кагосьці стралу.

Скварчэла. Вось ён, гэты юны бажок Элады, гатовы раніць чарговага ці чарговую сваю ахвяру.

Усе ўстаюць з-за стала і гуртуюцца бліжэй да таго канца, дзе стаіць Эрас.

Прафесар *(уважліва разглядаючы статую).* Які сапраўдны мастацкі твор! Якія прапорцыі юнага цела, якая яго пластычнасць! Як перададзены выраз гэтага мілага шэльмаўскага твару...

Атэна. Сапраўды, якое высокае хараство, якое дасканалае майстэрства ў скульптурнай творчасці. Ямкі вачэй не перашкаджаюць адчуваць гэты рашучы зрок Эраса...

Скварчэла. Я знайшоў яго сярод руін храма Афрадзіты ў Элеўзіне, у падвале, пад грудамі пяску і каменняў. Быць можа, хто з апошніх жрацоў ці паклоннікаў багіні і яе сына спрабаваў схаваць ад гібелі гэты унікальны мастацкі твор. Я капаўся якраз

адзін у падвале загінуўшага ад пажару храма, і калі глянуў — кінуўся да свайго плашча, хутчэй захінуў статую, каб ніхто з маіх турак і грэкаў не бачыў здабычы... Захінутым у мой плашч я паклаў яе ў скрынку, забіў яе дошкамі. Усю дарогу я даглядаў гэту знаходку — побач з іншымі знойдзенымі ці набытымі старадаўнасцямі...

П р а ф е с а р. Калі я думаю пра вашу нястомную дзейнасць па вывучэнню грэцкай культуры, я ўсё больш і больш пачынаю падзяляць ваш погляд, маэстра, што іменна Італія павінна паказаць Еўропе, якімі шляхамі павінна развівацца яе культура.

С к в а р ч э л а. Зусім справядліва. Наш былы слаўны Рым успрыняў у сваім часе здабыткі грэцкай культуры і мастацтва, але гібель Рымскай імперыі пад націскам барбараў спыніла далейшае развіццё элінарымскай культуры, і наш доўг цяпер перад іншымі народамі — адрадзіць яе, вярнуць чалавецтву тыя ўзоры былой высокай культуры, раскрыць яе каштоўнасці... Вось чаму збіранне ўзораў мастацтва сярод руін, з-пад зямлі — адна з маіх чарговых мэт...

П р а ф е с а р. І гэта ў галіне нашага сучаснага мастацтва дае ўжо свае вынікі.

С к в а р ч э л а. Зразумела. Калі я азіраю творчасць розных галін нашага мастацтва — то раблю такі ж вывад. Возьмем хаця б наша малярства...

П р а ф е с а р. Маэстра, у мяне ўзнікла думка. Ці не дазволіце вы мне заказаць знаёмаму скульптару мармуровую ці гіпсавую копію са статуі? Я б хацеў паднесці яе ў дар сваёй мілай дачцэ Атэне, нараджэнне якой і сабрала нас за гэтым сталом.

С к в а р ч э л а. Копію? Ага!.. Вы, здаецца, сказалі, што сіньёрэса Атэна сёння святкуе дзень свайго нараджэння... Навошта ж копію, якая пры ўсіх вялікіх здольнасцях нашага паважанага скульптара ніколі не перадасць хараство арыгінала! Мы зробім інакш! *(Узнімае бронзавую статую, падыходзіць да Атэны і перадае яе.)* Віншую вас! І ў знак маёй да вас пашаны прашу прыняць ад мяне вось гэты дар. Хай ён паслужыць вам да больш глыбокага вывучэння грэцкай культуры.

А т э н а *(у замяшанні)*. Я ўдзячна вам за высокую ацэнку майго замілавання грэцкай культурай. Але я

не смею прыняць такі каштоўны дар, тым больш што, па чутках, вы хацелі зрабіць выстаўку ўсяго прывезенага вамі з Грэцыі, маэстра.

С к в а р ч э л а. Вы ж дадзіце мне яго на гэты час, а на картцы пад ім будзе стаяць: «Належыць зараз Атэне дэ Кастра, дачцэ прафесара Джавані дэ Кастра».

А т э н а. Зразумела, што гэта — ваша права, але ж сапраўды я засмучана такім багатым дарам вашым, тым больш што вы яшчэ, відаць, будзеце яго вывучаць дэталёва.

С к в а р ч э л а. На гэты час вы таксама дадзіце мне яго, Атэна.

А т э н а. О, канешне! Не ведаю нават, як вам і дзякаваць! *(Цісне моцна яго руку, нясе Эраса да свайго месца за сталом, ставіць на стол і, у захапленні любуючыся ім, кажа сціпіана.)* Якое хараство!

Н а с к о ў с к і *(таксама ўпаўголаса)*. Падарунак такі сёння сымбалічны. Страла Эраса павінна будзе кагосьці з прысутных раніць.

А т э н а *(не пачуўшы добра яго слоў)*. Што вы сказалі, сіньёр Наскоўскі?

Н а с к о ў с к і. Я казаў пра сымболіку Грэцыі, але думка гэта не варта, каб яе паўтараць.

С к а р ы н а *(упаўголаса)*. Глупства, Янак.

Л ю ч ы я. Які ў вас сапраўды востры язык, сіньёр Наскоўскі!

П р а ф е с а р *(узнімаючыся з-за стала)*. Мы з маэстрам зараз пройдзем у мой пакой, а вам, маладым, раю заняцца менш сур'ёзнай справай — скажам, гульнёю, музыкай, спевамі... Гэта ўжо вырашайце па свайму смаку і ахвоце.

Усе ўзнімаюцца з-за стала. Ізідора з прыслужніцай прыбірае стол, а госці з Атэнай займаюць процілеглы кут сталовага пакоя.

Л ю ч ы я. Мы папросім цябе, Атэ, выканаць адну з тваіх любімых канцон нашага паважанага падуанца Скарлата. Вось хаця б: «Не, не, я не Ляура...»

А т э н а. Ты ўгадала мой настрой: я так усхвалявана і падарункам сіньёра Скварчэла і думкай, выказанай сіньёрам Скарынай, што гэта канцона Скарлата ў адказ на адзін з санетаў Петраркі якраз адпавядае майму адчуванню! *(Бярэ са сцяны лютню, правярае яе строй і перад выкананнем кажа.)* Для вас, шаноўныя

госці-замежнікі, пару слоў тлумачэння. Адказваючы на адзін з санетаў Петраркі, дзе ён асабліва апяваў высокія якасці натуры сваёй Ляуры, не шкадуючы прыгожых параўнанняў, сучаснік яго пары пражывання ў Падуі, тутэйшы паэт Скарлата, напісаў канцону, дзе выказаў думкі аб настроі дзяўчыны, якая не хоча сябе раўняць з апетай красуняй Ляурай. Па маёй просьбе музыка маэстра П'етра Валана даў на словы канцоны сваю музыку. Вось тое і другое. *(Пяе.)*

Не, не, я не Ляура.
Я звыклая дзяўчына,
І ні красою, ні бляскам вочы...

*Заслона.*

## *Дзея 3. Абраз 1. Вечарына*

Скарына ходзіць па пакоі і старанна нешта вычытвае з рукапісу. Томашак піша, абдумваючы тое, што натуе. Дзверы праз некаторы час расчыняюцца, і ў пакой уваходзіць Наскоўскі з аплеценай бутляй у адной руцэ і поўным кошыкам у другой. Томашак не звяртае на яго ўвагі. Скарына ж здзіўлена затрымліваецца пасярод пакоя.

Наскоўскі. Ну, хоць тут памажы, дружа!

Скарына *(бярэ з яго рук кошык і заглядае ў яго)*. Гэта што ж такая за ўрачыстасць?! Нават — раскоша не па кішэні. Бялюсенькі хлеб з разынкамі, сыр, вэнджаная гусяціна, смажаная мурэна, слодычы, фрукты. Адкуль такія грошы? Дый з якой прычыны фундацыя такая?

Наскоўскі. Грошы — ад продажу майго медычнага падручніка. Атрымаў цэлых паўста дукатаў ад аднаго аматара. Дужа спадабаліся яму мае малюнкі. А набыта гэта — каб сёння паўрачыставаць...

Скарына. Не разумею — адкрыйся!

Наскоўскі. Будзеш наперад усё ведаць, хутка састарэеш... *(Ставіць бутлю на лаўку.)* Лепш давай хутчэй стол накрыем, ды як след, бо запрасіў госцяў да нас.

Скарына. Каго? Мы жывём пустэльнікамі, ахвяраваныя навуцы...

Наскоўскі. Не толькі навуцы, але і *(пасмяваючыся)* жыццёвым іншым справам.

Скарына. Якім жа іншым?

Наскоўскі. Хто-хто, а ты добра ведаеш якім.

Скарына *(зацікаўлена)*. Цікава: якім такім?

Наскоўскі *(да абодвух)*. Ну, годзе, браткі, займацца навукамі і грамадскімі справамі... Добрае ламбардскае чакае нас траіх і госцяў. А таму — прэч кнігі! Аддадзім даніну нашай братэрскай дружбе. *(Выцірае стол.)* Францішак, ты збірай на стол талеркі і кубкі. А паколькі іх мала, ты, Томашак, сыдзі ўніз, да Даратэі, і папрасі для госцяў пару талерак лепшых і далікатных кубачкаў для пітва.

Томашак *(нечакана жвава)*. Як усё да часу сталася! Ведаеш, Янак, я сам неяк падумаў, каб нам сабрацца за кубкам і шчыра павесяліцца. Хто ведае — можа, у апошні раз...

Наскоўскі. Рад, што і ты сёння хочаш некаторае ўцехі... Дык бяжы ж, голубе, да Даратэі, каб усё паспела к прыходу госцяў.

Томашак жвава выходзіць. Наскоўскі і Скарына выкладаюць набытае на талеркі, наразаюць хлеб, раскладваюць фрукты.

Скарына. Не мучай, Янак, скажы, каго ж чакаем?

Наскоўскі. Табе адкрыюся — Атэну!

Скарына *(узрадавана)*. Яе?

Наскоўскі *(смеючыся)*. Так! Яе!.. Нашу прыяцельку, светлую, як ты кажаш, дзявочую галаву!

Скарына. Што ж, вельмі мне прыемна, што гасцінна, а не за пустым сталом яе мы прымем.

Томашак вяртаецца з посудам.

Наскоўскі *(смеючыся)*. Ось бачыце, хлопцы, як я ўгадаў жаданні вас абодвух. На жаль, не здолеў я ўбачыць яшчэ Джаніну, але папросім зайсці за ёй Атэну.

Томашак. Хіба Атэна прыйдзе?

Скарына. Так. Янак запрасіў яе.

Томашак. А можа, мне пайсці да Джаніны і паклікаць да нас?

Наскоўскі. Лепш, каб за ёй зашла Атэна, а то бацькі пацікавяцца, куды ж яна накіравалася з табою.

Гэх, на адно забыўся. Трэба было кветак на рынку кўпіць, каб стол аздобіць...

С к а р ы н а. Шкада, сапраўды.

Н а с к о ў с к і. Позна ўжо... Атэна можа зараз надысці.

Чуваць, як на башце сіньёрыі звон выбівае пятую гадзіну. У гэты момант расчыняюцца дзверы і з'яўляецца А т э н а з букетам кветак у руках.

А т э н а. Прывітанне студантэрыі! Бачыце, якая я акуратная: клікалі на пяць — і я ўжо тут! Прашу прыняць дар сардэчнай прыязні.

Н а с к о ў с к і. А Скарына хацеў якраз бегчы за кветкамі, каб прыняць з увагаю жанчын!

А т э н а. Не ведаю, мела я права ці не, але я паклікала падысці да вас і Джаніну!

Т о м а ш а к. Я якраз збіраўся паклікаць яе да нас!

А т э н а. То і добра. Яна пераапранецца толькі, бо ў адзенні кларысы неяк не выпадае пайсці на вечарыну: тут няма каму аказваць хрысціянскую дапамогу.

С к а р ы н а. Скуль ведаць, мо каму з нас і трэба такая дапамога!

Т о м а ш а к *(чырванеючы)*. Што за непатрэбныя намёкі, Францысь!

С к а р ы н а. Ты чаго ўсхамянуўся, дружа? Мо гаворка ідзе аб безнадзейным пустэльніку навукі Янаку!

Н а с к о ў с к і *(смеючыся)*. Які за сваё ерэтычнае жыццё даўно ўжо ахвяраваны шатану!

А т э н а. О, з шатанам не жартуйце, Янак. Дазвольце мне без цырымоній вас так зваць!

Н а с к о ў с к і. Проша, але ж па такой жа прыяцельскай блізкасці дазвольце і мне вас велічаць Атэнай — тым больш што імя ваша належыць блізкай нам, студэнтам, багіні мудрасці... А адносна шатана, то я ўжо сапраўды шукаў магчымасці пабачыць яго, каб падпісаць выгадную для мяне ўмову адносна свайё грэшнай душы...

Т о м а ш а к. Такіх, як ты, Янак, шатану ў пекле не трэба: ты падаб'еш усіх яго сабратаў на непаслушэнства.

С к а р ы н а. Сказана някепска!

А т э н а. Вы, бачу, аднолькава малаверы ў шатана. Але тры чвэрці італійцаў прызнаюць яго моц і асце-

рагаюцца з ім дражніцца, шукаюць ад яго ратунку ў царкве.

Наскоўскі *(смеючыся)*. Іншы раз мне здаецца, што нашы духоўнікі ладзяць з пеклам і яго гаспадарамі!.. Прызнаюся, адзін час я верыў у існаванне шатана і па пэўных рэцэптах нават выклікаў яго на размову, але з гэтага нічога не выйшла. Так я страціў у яго веру.

Томашак. Такія грэшнікі, як ты, абавязкова трапяць да яго па смерці. Яму цікавей іншыя...

Наскоўскі. Скажам, такія, як ты... Не крыўдуй, Томашак, але ж, відаць, шатану цікавей тыя, хто хоча жыць добрымі хрысціянамі.

Уваходзіць Джаніна.

Джаніна. Я думала, што трапіла да добрых хрысціян, а тут успамінаюць, крый нас божа, шатана.

Скарына. Не пужайцеся, мы толькі разважаем, чаму нячыстаму цікавей змаганне за душы добрых хрысціян, чым тых, хто да яго мае непасрэднае дачыненне.

Джаніна. Праўда, ёсць і такія. Але яны ўжо ахвяраваны пеклу...

Томашак. Чуеш, Янак, гэта пра цябе сказана.

Усе рагочуць.

Наскоўскі. Хай так, аднак жа я заклікаў шатана, каб ён сам з'явіўся да мяне... Але годзе на гэту тэму. Мы хочам сёння адпачыць і ад багаслоўя, і ад вызваленай навукі... Будзьма ж сапраўды вясёлай моладдзю! Я наліваю нашы кубкі. *(Наліває ўсім.)* Хай ламбардскае дасць нам весялосць. *(Паднімае свой кубак.)* Першае наша слова будзе: п'ём за здароўе нашых дарагіх госцяў, шаноўных Атэны і Джаніны, слаўных дачок гасціннай Падуі!

Усе злучаюць чары і п'юць.

Наскоўскі. На стале ёсць некаторая закусь... Проша не забываць пра гэта, шаноўныя госцейкі і падуанскія студэнты. *(Бярэ лютню.)* А каб не было сумна, дазвольце ў гусце тутэйшых спевакоў выканаць адну канцону, якая будзе некаторым уводам у нашу вечарыну... Склаў яе Бальтэра Сона, які лічыў, што жыц-

цё нам дадзена не для таго, каб два разы на тыдзень не есці скаромнага і печанага! *(Падыгрывае сам сабе.)*

Сонца ідзе на спачын,
Змрок валодае зямлёю...
Сэрца ж не хоча спакою;
Поўна яно да краёў, поўна, галубка, табою!
Знаў бы, мінаў бы той дом,
Дзе я сустрэў сваю долю,
Слодыч кахання спазнаў,
Страціў дзе я сваю волю...
Хай жа Амур-жартаўнік
Прыйдзе цяпер у падмогу,
Дасць мне сустрэчу з табой
І нам пакажа дарогу.

О, каб ты знала,
Як я сэрцам няшчасным палаю,
Дык захацела б тады
Бачыць мяне толькі шчасным!

Атэна *(весела).* Не кепска! І словы, і мелодыя мне падабаюцца! Дайце ж мне лютню, я выканаю вам, нібы ў адказ, песню пра настрой дзяўчыны. *(Пачынае.)*

Вечар настаў... Пахі кветак мацней...
Сум маю душу ахутаў...
Што мяне стрэне далей?
Толькі не быць бы мне скутай!
Зараз вольны я птах,
К сонцу узняцца жадаю,
Бо не ў жыцця ланцугах —
Дзе захачу, там лятаю...

Скарына. А хто аўтар канцоны?

Атэна *(смеючыся).* Адна знаёмая вам дзяўчына. Яна ж дала і музыку на гэту дзявочую песню.

Скарына. І тое, і другое — вельмі мне падабаюцца.

Томашак. Ну, а я вам прапяю чэшскую народную песню — харал утраквістаў... Думаюць, што склаў яго наш выдатны вучоны Як Рокічан, празваны папістамі «арцыерэтыкам».

Яму даюць лютню, пад якую ён і выконвае харал.

*Заслона.*

Атэна ў сваім пакоі знаёміць Скарыну з уласнай бібліятэкай. Часткова яна складаецца з рукапісных кніг, часткова — з прадукцыі першадрукарняў Венецыі, іншых італійскіх гарадоў, а таксама замеж'я — Парыжа, Нурэнберга.

Атэна. Мая ўласная бібліятэка яшчэ невялікая. Але за адзінаццаць гадоў, пры дапамозе таты, які ў дзень майго нараджэння і ў дату смерці мамы нязменна прэзентуе мне які-небудзь цікавы твор славутых класікаў — лацінскіх і грэцкіх, сабралася нямала каштоўных паасобнікаў. Я маю поўную «Энеіду» Віргілія, яго «Буколікі», Авідзіевы «Мэтамарфозы» і «Мастацтва кахання», сшыткі выбраных твораў Лукрэцыя, Катула і Праперцыя... З грэкаў маю поўныя «Адысею» і «Іліяду» Гамера, сшытак найлепшых твораў Анакрэона, драматычныя творы Сафокла і іншых.

Скарына. Якое багацце!.. А я колькі ні капіяваў для сябе — як прыпрэ бяда, як не стане сродкаў на жыццё, толькі рукапісы добрых твораў і даюць выхад, хоць прадаеш іх танна.

Атэна. Творы Анакрэона і Авідзія ўласнаручна перапісаны. Іншае — або я заказвала перапісчыкам, або атрымлівала ад таты.

Скарына. А з гісторыкаў што-небудзь маеце?

Атэна. Мала, хаця гісторыю Рыма і класічнай Грэцыі я вывучала па арыгіналах з бібліятэкі таты, які мае ўсе кнігі Ціта Лівія і пазнейшых, а таксама з бібліятэкі універсітэта... У мяне ёсць толькі «Югуртынская вайна» Салюсція ды Ксенафонтаўскі «Анабазіс»... Крыху больш маю з філязофіі: платонаўскія «Гутаркі з Сакратам» і два творы Арыстоцеля.

Скарына. Платона я ў вас, Атэна, папрасіў бы даць мне для скапіявання.

Атэна. З задавальненнем! Хочаце — прынясу?

Скарына. Прасіў бы!

Атэна выходзіць і праз хвілю вяртаецца з рукапісным паасобнікам, які і падае Скарыне.

Скарына. Які прыгожы рукапіс!

Атэна. Гэта падарунак таты ў прошлым годзе. Так, рукапіс выключны па якаснасці пісьма і дакладнасці — рабіў яго адзін з лепшых перапісчыкаў з

кляштара Джустыны — падрэ Аліўера Санці... Капіяваны па заказу таты.

Скарына *(разглядваючы пісьмо)*. Не, як ні вялікае вынаходніцтва кнігадруку, але мы яшчэ не скора адмовімся ад рукапісных кніг... Гусінае пяро ў напрактыкаваных руках — таксама мастацкая праца, у якой кнігадруку прыйдзецца яшчэ вучыцца, перш чым нешта ціснуць металёвымі літарамі. Глядзіце, якая роўная рука ў падрэ — літары выпісаны, як нізкі перлаў... Якое хараство! Што ж, гэта прыахвоціць і мяне прыстасаваць сваю руку пры спісванні. Атэна, а што ў вас ёсць з сучасных італійцаў?

Атэна. У мяне ёсць таксама цудоўны рукапіс — толькі перапісчыка Венецыі — паасобнік усіх санетаў Петраркі. На ім — уласнаручны надпіс славутага паэта, зроблены, калі ён быў госцем Падуі і тата папрасіў яго даць памятны аўтограф.

Скарына. Так, гэта цэлае багацтва, калі параўнаць з тым, што ёсць у мяне.

Атэна. Раз вы ставіце сабе такую вялікую мэту, як служэнне свайму маладому па культуры народу,— вам трэба збіраць тое, што для гэтага будзе карысна.

Скарына. Яно так, канешне... Але ж самому не пад сілу ўсё скапіяваць. А тут і брак сродкаў, і брак часу, які адбірае вучоба ва універсітэце.

Атэна. Рабіце гэта з дапамогай сваіх сяброў.

Скарына. І іх бракуе: Наскоўскі захапляецца сваімі кодэксамі і каментарыямі да іх, Томашак капаецца ў творах айцоў царквы.

Атэна. А я? Вы не лічыце мяне сваім сябрам?

Скарына. Шаноўная Атэна! Я не смею нават марыць пра гэта...

Атэна. Дарэмна... З дня майго нараджэння, калі вы, Францыска, падалі і мне такую смелую і спагадную для мяне думку — выносіць свае веды на арэну публічнай дзейнасці,— з гэтага часу я стала лічыць вас сваім другам, а, значыцца, і блізкім вам чалавекам. Я прапаную вам карыстацца маімі сіламі — сабе ў дапамогу. Складзіце спіс твораў, якія вам патрэбна мець, і я з прыемнасцю і задавальненнем дапамагу вам у адпаведным набыцці, і нават больш... Я чалавек вольны, маю досыць часу і ахвоча займуся, скажам, капіяваннем таго ці іншага рэдкага твора.

С к а р ы н а. Бязмерна вам дзякую. Але ў першую чаргу я прасіў бы вас памагчы мне ў складанні самога спісу таго, што варта мне мець.

А т э н а. Ахвоча дапамагу вам у гэтым, Франчэска. Пачнём з абмеркавання таго, што павінна быць у вашай уласнай бібліятэцы. Мая першая тут парада: усё, што ёсць ужо надрукавана, капіяваць ад рукі нярварта.

С к а р ы н а. Згодзен з вамі, Атэна.

А т э н а. Капіяваць варта толькі тое, што можа не з'явіцца ў друку. Апроч таго, я раіла б вам творы грэкаў. Грэцкай мовай я валодаю настолькі, што здолею зрабіць для вас, Франчэска, добры пераклад на лаціну. Вы што б хацелі мець з элінаў?

С к а р ы н а. О, я шмат чаго хацеў бы мець!

А т э н а. Але што — у першую чаргу?

С к а р ы н а. Раз вы ўжо такія добрыя, я б папрасіў Гесіёдавы «Працы і дні»... Толькі трэба параіцца з вашым татам, дзе дастаць найбольш поўны і якасны паасобнік.

А т э н а. Пра Гесіёдавы «Працы і дні» я даведаюся ў нашага падрэ Саніна, бібліятэкара універсітэта. Ён добры знаўца рукапісаў старых класікаў і нам параіць, у каго ці дзе ёсць самы выверaны спіс.

С к а р ы н а. Універсітэцкі унікат я праглядаў, але паколькі ў ім ёсць самыя звыклыя граматычныя памылкі, я лічу яго дрэнным. Якаснасць тэксту — важная справа, і мне было б шкада патрачаных вамі на пераклад часу і сіл.

А т э н а. Франчэска, я думаю, што грэцкую копію я закажу скрыбарыю бібліятэкі. Яму ахвоча заказваюць усе, каму патрэбна. Я маю ўласныя, ад матулі пакінутыя грошы, і іх хопіць не на адзін твор, а найменш на дзесяць-дванаццаць. Частку копій я магла б зрабіць сама, частку ж — сабраць спаміж знаёмых. Мой тата мог бы зрабіць першы ўклад дзеля такой, як ваша мэта...

С к а р ы н а. Пра гэта гаварыць з ім рана. А вашу дапамогу я б прыняў ахвоча, калі б мяне не засмучала тое, што гэта патрабуе безліч сіл і часу. Лепш вам, Атэна, аддаць іх на нешта больш карыснае!

А т э н а. Ах, Франчэска, калі б вы ведалі, як я зайздрошчу вам, што маеце вы такую мэту слаўную

ў сваім жыцці!.. Мая вам дапамога ў гэтым сэнсе дае мне толькі радасць *(ціха)*. І нават больш таго — калі б вы заглянулі ў сэрца...

С к а р ы н а. Так глыбока тут заглядваць я не маю права...

А т э н а *(ціха)*. А што рабіць, калі часам сэрца прэтэндуе.

С к а р ы н а. О, калі б я свайму сэрцу дазволіў весці мяне туды, куды яно захоча... Я не пакінуў бы і Полацка свайго. А можа, жыць бы мне заўсёды ў Кракаве прыйшлося, асесці залежным у Празе ці пеставаць дзетак сваіх у Падуі... Ёсць, аднак, патрэба больш рупная, чым шчасце асабістае...

А т э н а *(настойліва)*. Францэска, я разумею вашу асцярожнасць у справах сэрца... І ў сябе там, у Полацку, вы маглі б абраць сабе спадругу, і ёсць дастойныя ў Кракаве і ў Празе. Усё стала больш за тым, каб гэта вам мэты дасягнуць сваёй не перашкаджала... А ўдвaіх ісці па дарозе да ўдзячнай мэты — куды лягчэй, калі не толькі абедзве галовы кіруюцца адной ісці дарогай ў светлай справе, але і сэрцы б'юцца ў такт, супольна лучачы абодвух. Вы разумееце мяне, Францэска?

С к а р ы н а *(цёпла)*. О, канешне, гэта было б ідэальна! Прызнаюся я вам, Атэна, шчыра: гэта было б вяршыняй шчасця, але не дадзена мне тое...

А т э н а. Мне здаецца, вы розумам — не сэрцам тут кіруецеся...

С к а р ы н а. Калі б вы ведалі, Атэна, як часта марыў я сустрэць такую вось, як вы, дзяўчыну...

А т э н а *(рашуча)*. Вы яе сустрэлі... Вось мая рука вам! *(Працягвае руку.)*

С к а р ы н а *(палка)*. А сэрца?

А т э н а *(радасна)*. Яно даўно ўжо ваша!..

С к а р ы н а *(таксама радасна)*. Гэта праўда?!

А т э н а. Так! Праўда!

С к а р ы н а *(цалуе руку Атэны, якую трымае ў сваёй)*. Якое шчасце!

А т э н а *(з палкім шэптам)*. Францэска, я адкажу не так — на наша шчасце! *(Абдымае яго, галубіць да грудзей, пяшчотна цалуе.)* Вось якое наша шчасце!

С к а р ы н а. О, Атэна! Скажу ізноў — без меры я шчаслівы!

Атэна *(цалуючы яго і ў вусны, і ў вочы, і ў лоб).* Закрый свае ты вочы, мілы! *(Цалуе.)* Цалую іх за тое, што яны абралі хоць і нялёгкую, але светлую дарогу — на шчасце грамадзянства! *(Цалуе ў лоб.)* Цалую галаву тваю за думку светлую — служыць свайму народу! *(Цалуе ў вусны.)* А гэты пацалунак — ад сваёй вернай спадругі на шляху абраным! Што б ні паслала ў будучым нам доля, стаяць з табой заўсёды поруч я клянуся!

Скарына. А я клянуся прыкласці ўсе сілы, каб быць цябе дастойным...

Атэна *(цалуючы яго).* Я гатова бясконца дзякаваць долі, якая прывяла цябе ў Падую за асветай і злучыла тваё жыццё з маім!

Скарына *(адказваючы ёй пацалункам і галубячы).* А калі мы адкрыемся тату твайму?.. Можа, сёння, зараз, як ён толькі вернецца дамоў!

Чуцен стук малатка ў дзверы.

Атэна *(лічачы стукат).* Раз, два, тры, чатыры! Гэта тата! Вось бачыш, Францэска, як усё складваецца добра... Зараз яму і адкрыемся!

Разыходзяцца. Чутна, як прафесар кашляе. Дзверы адчыняюцца — і ён заходзіць.

Прафесар. Вось добра, што вы ў нас. Атэна прасіла для вас Лукрэцыя Кара ў добрым экземпляры. Прафесар Анталіна заўтра прынясе свой — рэдкай паўнаты і дакладнасці унікат, з уласнай бібліятэкі. Заўтра я вам, Скарына, яго дам. Вы самі яго будзеце капіяваць?

Атэна. Не, татка, я хачу памагчы Францэска ў гэтым. Тым больш, што гэта будзе пачатак нашай супольнай бібліятэкі.

Прафесар. Не разумею цябе.

Атэна *(падбягае да бацькі і туліцца да яго).* Я растлумачу табе, татуля! Мо гэта для цябе і нечакана, але я і Францэска хочам стацца мужам і жонкай і просім на гэта тваёй згоды, татка!

Скарына *(крыху збянтэжана).* Прафесар, гэта такое для мяне шчасце, што я не ведаю, як прасіць на гэта вашай згоды...

Прафесар *(смеючыся).* Вось у чым справа... А то я не разумеў, да чаго Атэна сказала, што вы заво-

дзіце супольную бібліятэку! *(Цёпла.)* Калі ж вы паспелі так падружыцца, што загаварылі аднолькава?.. Мілая дачушка, ты добра ведаеш, як я гляджу на такія пытанні: ты вольная ў выбары свайго сэрца. Вы, Скарына, таксама ведаеце, што я асабіста цаню вас — як чалавека і маладога вучонага... Але, любыя дзеці, ці думалі вы пра тое, дзе прыйдзецца вам жыць і працаваць?

Атэна. Я ведаю, што для цябе разлука са мною будзе цяжкай. Але ў Франчэска ёсць мэта — несці свет веды свайму народу. І гэта вымагае ад яго вярнуцца на бацькаўшчыну. Я ж атрымаю магчымасць памагаць яму ў гэтай удзячнай працы... Мае веды, закладзеныя табой, будуць служыць высокай мэце жыцця майго абраніка-мужа... Італія багата людзьмі асветы і навукі. У сябе ж, на далёкай Белай Русі, Скарына першым распачне кнігадрук, пашырэнне навук.

Прафесар *(засмучаны)*. Так, Атэна, я буду нудзіцца без цябе, калі ты мяне пакінеш і выедзеш на Русь. Але я не стану перашкаджаць вашаму шчасцю... Толькі, думаю, Скарыне яшчэ прыйдзецца які год канчаць адукаванне. За гэты час я прывыкну да думкі аб непазбежным вашым ад'ездзе. Дык злучыце ж вашы рукі і... *(Атэна і Скарына становяцца адзін супроць другога, злучаюць рукі.)* Благаслаўляю вас, дзеці мае, зычу шчасця і кахання!

*Заслона.*

## *Дзея 4. Абраз 1. Папярэджанне*

Той жа студэнцкі пакой.

Наскоўскі. А ты над чым карпееш, Францусь?

Скарына. Учора кончыў капіяваць Петраркавы санеты, а сёння распачаў іх аздабляць застаўкамі і канцоўкамі па экземпляру, што дастаў я праз Атэну... Ёй гэты рукапіс паднёс на памяць бацька, заказаўшы кнігу лепшаму з каліграфістаў Падуі.

Наскоўскі. Дарэчы, за колькі ў Празе ты прадаў стары свой экземпляр Петраркі?

Скарына. За дзесяць талераў.

Наскоўскі. Вельмі танна!

Скарына. Што ж зробіш, калі мне выхаду другога не было. Прытым жа сшытак гэны быў няпоўным санетаў зборам — каля сарака ўсяго ў ім было твораў. І толькі літары аздобіў я там фарбаю і срэбрам... А гэты экземпляр рыхтую я багатым.

Наскоўскі. Пакуль што каштоўныя кнігі і рукапісныя... А ў меру пашырэння друкаваных праз вынаходства Гутэнберга кнігі патанеюць настолькі, што мала хто паквапіцца на рукапісныя, хіба толькі тыя, што яшчэ не друкаваны.

Скарына. Я думаю таксама... Розніца яшчэ ў тым будзе, што каліграфічна пісаныя, з аздабленнем застануцца унікальнымі заўсёды, тады як друкаваныя — тандэтам... Прытым жа ў тых краінах, дзе друк яшчэ слабы, або дзе і зусім нераспачаты, там рукапісы доўгі час яшчэ ўжывацца будуць. Вазьмі хоць нашу Русь... Кнігі друкаванай там пакуль няма зусім. Я часта думаю пра гэта... Гэх, каб там знайшоўся хто з заможных і даў бы сродкі — я першы стаў бы працаваць для кніжнага цісненя... Вялікую заслугу меў бы той, хто паклаў бы пачатак гэтай справе...

Наскоўскі. Як кончыш тут навуку, бярыся пільна за такую справу. Адшукай такіх людзей ці ў Вільні, ці ў Полацку сваім.

Скарына. Іншы раз, карпеючы над рукапісам, я думаю пра родны мой народ і мару стаць там закладальнікам друкарні... Іншы раз устае мне думка, ці нельга б гэта ў Празе распачаць: там і людзей такіх знайсці, здаецца мне, магчыма.

Наскоўскі. І гэта слушна... Прага — залатая макаўка славян наогул. І Кракаў наш някепскі... Ды Прага ўсё ж багацей. Паспрабуй у Празе прытуліцца, а з часам перавандруеш ці ў Вільню, ці да сябе ў Полацк слаўны...

Наскоўскі. Толькі памятай, голубе, што падуанскі біскуп не далей як учора выклікаў да сябе афіцэра сенторыі і разам з ім для спалення адабраў у краме Бэпа сем «шкодных хрысціянству» рукапісных кніжак. Ды калі той спрачаўся, пагразіў судом сената.

Скарына. Прыйдзецца, канешне, гэта ўсё улічваць...

Наскоўскі *(смяецца)*. Бачу, што ты разумееш з кожным днём, Францусь... *(сардэчна.)* Жыць трэба з

галавою, мой браце. Царква не спіць.... А агонь, як ведаеш, не гасне не толькі перад абразамі, але і на пляцах...

С к а р ы н а *(у задуменні).* Але не гасне агонь і ў грудзях, і ў галовах тых, хто хоча несці агонь і свет чалавечай веды...

Н а с к о ў с к і. Ну так, канешне... Я вось дык баюся за нашага Томашака... Таверны за Брэнтаю кіпяць неасцярожнай справай.

С к а р ы н а. А што, падмайстры хіба хвалююцца так гостра?

Н а с к о ў с к і. Не крыўдуйся, Францусь! Ты, браце, крыху з шорамі на вачах ці як той пустэльнік — запакаваў вушы, каб не чуць грэшных людскіх размоў... Без жартаў: ты маеш некаторы ўплыў на Томашака. Перасцеражы яго... Бо падслухачы сенторыі сланяюцца таксама па тых тавернах, дзе і падмайстры збіраюцца за кубкам калабрыйскага...

С к а р ы н а. Наколькі ведаю і гаварыў я з ім, ён, наш Томашак, носіцца з думкай пра хрысціянскае братэрства...

Н а с к о ў с к і. Ды толькі, слухаючы яго, разважаюць па-іншаму падмайстры... Іх думка: ці хрысціяне іх майстры? У майстроў — адзін голы матэр'яльны інтарэс, выгада свая. А калі майстры кіруюцца толькі ў свой бок, дык вывад просты: змагацца трэба іншым спосабам...

С к а р ы н а. Якім жа?

Н а с к о ў с к і. Падмайстры складаюць патаемныя братэрствы, робяць змову ісці на працу толькі за высокую аплату і гэтаму падобна.

С к а р ы н а. Пры чым тут будзе наш Томашак?

Н а с к о ў с к і. Падслухачы адзначаць удзел Томашака ў руху падмайстраў, частыя яго бяседы з імі, дружбу... А там і недалёка будзе да небяспекі... Як жа: студэнт дый чужаземец, а лезе ў дружбу з бунтарамі... Бо як іначай яны палічаць падмайстраў, як не бунтарамі супроць парадку, які карысны толькі ім... Венецыя майстроў заўсёды падтрымае.

С к а р ы н а. Ты кажаш, зайшла ўжо справа так далёка?

Н а с к о ў с к і. Я пэвен, што выбух нейкі будзе з падмайстрамі... Ці далёка да бяды Томашаку?!

Скарына. Трэба з ім пагаварыць аб гэтым...

Адчыняюцца дзверы. Уваходзіць Томашак.

Скарына. Ты якраз, Томаш, на часе. Трэба нам з табой пагаварыць сардэчна.

Томашак. Пра што?

Скарына. Мы якраз гаварылі пра цябе, Томашак...

Томашак. А ў чым справа?

Скарына. Непакоімся за цябе. Справа ў тым, што ты зачасціў за Брэнту. А там можна чакаць усялякіх нечаканасцей... Майстры абураны рухам падмайстраў, а ты часта з імі...

Томашак. Так, я часта з імі, бо кожнаму сумленнаму і добраму хрысціяніну трэба быць з імі, абяздоленымі, пакрыўджанымі...

Наскоўскі. Усё гэта так, калі б не тая небяспека, у якую могуць і цябе ўблытаць...

Томашак *(горача)*. Трэба вам лепш ведаць, якія крыўды церпяць падмайстры ад сваіх гаспадароў, каб зразумець, чаму я падтрымліваю справядлівыя вымаганні падмайстраў. Яны самі і іх сем'і жывуць, што жабракі, у той час, калі майстры багацеюць і таўсцеюць.

Наскоўскі *(здзекліва)*. Затое на тым свеце першыя будуць у раі, а тлустыя — смажыцца на патэльні, як кажуць некаторыя суцяшыцелі-прапаведнікі.

Томашак. Гэта кажуць недастойныя... Гэта царкоўнікі пераглумачылі Хрыста, нібы ён адкідаў змаганне са злом... А хіба ён не выгнаў з храма рассеўшыхся там наглых гандляроў? Хіба не ён даваў прыклад, што добры гаспадар знішчае шкоднае зелле агнём? А пра сябе ці не казаў ён, што прынёс не лад, а меч?

Наскоўскі. Усё гэта так, але ж царква мае такую моц, што небяспечна з ёй табе змагацца сам-адзін.

Томашак. Я не выступаю супроць яе, як такой... Я прапаведую хрысціянскія думкі пра тое, што паміж сабой падмайстры павінны быць злучаны як добрыя хрысціяне самым цесным братэрствам.

Скарына. Вось у гэтым і ёсць небяспека для майстроў, з якімі пасіляюць сваю барацьбу падмайстры. Наскоўскі слушна баіцца за цябе, бо падслухачы

шлындаюць па тавернах за Брэнтай і не могуць не заўважыць тваёй цеснай дружбы, а то і чуць твае размовы з падмайстрамі...

Наскоўскі. Зразумей, Томашак, што сенторыя места Падуі — у руках майстроў. А калі што — то і леў Венецыі прыйдзе ім на дапамогу. Правялі ж яны пастанову аб забароне злучэнняў падмайстраў... Латва і пакараць за складанне новых, на гэты раз патайных хаўрусаў...

Томашак. Бачу я, што вы ўсё-ткі таксама кепскія хрысціяне! Гэтак разважаючы, недалёка і да вываду: «З ваўкамі жыць — па-воўчы і выць...»

Скарына. Ну не! Мае сімпатыі — нязменна на баку падмайстраў. Але ж трэба цвяроза ўлічваць усе абставіны.

Томашак *(гневаючыся)*. Што вы ад мяне, шчыра кажучы, хочаце? Каб я перастаў весці дружбу з падмайстрамі? Не хадзіў больш за Брэнту?

Наскоўскі. Каб ты быў асцярожны, улічваў усе абставіны.

Скарына. Я далучаюся да такой табе дарады, Томашак. Мы тут людзі чужыя...

Томашак *(перабіваючы, палка)*. Людзі працы, людзі гаротныя, пакрыўджаныя — нам не чужыя, а блізкія...

Скарына. Ты перабіў мяне... Я не хачу сказаць: яны нам чужыя, а другое, што сенторыя, майстры паглядзяць на нас, як ім чужых... І таму больш сурова падыдуць да цябе.

Томашак *(крыўдліва)*. Я дзякую вам, сябры, за гэткія дарады і перасцярогі. Аднак ад людзей, дзеля якіх я хачу быць карысным, ніколі не адмоўлюся, чаго б гэта мне ні каштавала...

Наскоўскі. А шкада, бо я асабіста чамусьці непакоюся: мне здаецца, што кіпень можа выбегчы з катла, у якім бурліць... А тады недалёка да розных прыкрых падзей. Італійцы — народ гарачы, неспакойны, лёгка запальваюцца і здатны на вострыя пратэстацыі. Але кіньма пра гэта...

Скарына *(спахапіўшыся, да Томашака)*. Гэх, добра, што ўспомніў... Я сустрэў, Томашак, Джаніну. Яна прасіла цябе падысці да яе сёння вечарам...

Томашак. Джаніна? А ў мяне якраз умоўлена

сустрэча з Баміча наконт статута іх брацтва... І ўсё ж я забягу на хвіліну да яе: пэўна, якаясь пільная справа...

Скарына. Так, так! Прасіла гэтак і сказаць табе: нейкая неадкладная справа.

Томашак *(у роздуме)*. А мо лепш так зрабіць: зараз пайсці да яе. Тады вечарам буду вольны. *(Хапае свой плашч і берэ і пакідае пакой.)*

Наскоўскі. Францусь, мне прыйшла добрая думка! Перагавары ты з Джанінаю, выкажы ёй нашы трывогі за Томашака... Хай яна з ім пагаварыла б: ён яе паслухае, бо больш чым паважае яе...

Скарына. Ды што ты? Я неяк не здагадаўся...

Наскоўскі. Я выпадкам натрапіў на адну падзею ў парку Леантэса... Яны кахаюць адзін другога, і яна нават больш ад яго ў захапленні.

Скарына. Ды што ты?

Наскоўскі. Я даўно заўважаў, што яны адзін да другога цягнуцца. А тут надышоў знянацку ў момант, калі яны галубіліся з усім палам чыстага кахання...

Скарына. Калі так, я пагавару з Джанінай — яна здолее яго ўтрымаць ад неразважных крокаў.

## *Дзея 4. Абраз 3. Спробы паратунку*

Той жа пакой.

Наскоўскі. Бэпа! Вы разумееце, што выратаваць ад смерці рэдкай сумленнасці нашага таварыша, які не вінаваты ў пагроме сіньёры,— святы абавязак і ваш, і кожнага чалавека!

Бэпа. Для мяне просьба маёй маткі, словы яе аб нявіннасці Томашака — усё! Я зраблю ўсё, што ў сілах, каб памагчы яму ўцячы, але на гэта патрэбны грошы кáту і некаторым з гарадской старожы. Дарма на гэта людзі не пойдуць — вы самі разумееце. Потым яму трэба зараз жа выехаць з Падуі — інакш яго тут знойдуць, і ўсё прапала.

Наскоўскі *(вымаючы з кішэні мяшэчак з грашыма і перадаючы яго)*. Вось тут пяцьсот дукатаў — усё, што мы маглі дастаць... Ён ведае, што мы рыхтуем яго пабег... У пісульцы, якую мы перадалі яму пры вы-

хадзе з суда, гаворыцца, каб ён быў у заездзе «Добры пачын» за Брэнтаю, дзе яго чакае фурманка...

Б э п а *(разлічвае ўпаўголаса).* Трыста — кату, па сто — двум вартавым... Бадай што хопіць! Ну, хай нам дапаможа прачыстая і ўгоднік святы Францыск, заступнік за ўсіх нявінных! *(Хрысціцца.)* Пайшоў! *(Выходзіць.)*

Н а с к о ў с к і. У добры час, Бэпа! *(Застаўшыся адзін.)* Толькі б удалася гэта справа *(да сябе).* Якое залатое сэрца ў Джаніны!.. Прынесла грошы, адкладзеныя бацькам ёй на пасаг! Што значыць каханне!.. Яе выступленне на судзе робіць ёй чэсць.

Чутны хуткія крокі на сходах. Стук у дзверы.

Н а с к о ў с к і. Уваходзьце!

Д ж а н і н а *(уваходзіць у плашчы).* Выбачайце, Ян! Але я не пэўна за поспех Бэпа: гэткія справы не лёгкія. Сядзець дома я не ў сілах... Я надумала самой шукаць іншых крокаў паратунку. Я хачу прасіць жонку Падэсты, каб яна ад сябе ўгаварыла мужа не спяшацца з перадачай пастановы суда кату... Іначай можа стацца, што кат захоча выканаць кару смерці на двары турмы, каб хутчэй кончыць з такой справай, раз суд пастанавіў пакараць Томашака не публічнай смерцю... Гэта можа даць час на пабег, калі Бэпа ўсё здолее наладзіць. Я зайшла, каб паведаміць вам пра гэты свой намер.

Н а с к о ў с к і. Гэта добрая думка!

Д ж а н і н а. Тое ж радзілі мне і Атэна, і прафесар. Ад іх я і зайшла сюды! *(Склаўшы малітоўна рукі.)* О міласцівая святая патранеса Клара, памажы нам у гэтым! О святы Францыск, памажы добрай справе выратавання нявіннага!

Раптам прыкрывае твар далонямі і ціха плача.

Н а с к о ў с к і *(расчулена).* Больш бадзёрасці, Джаніна! Міласцівы бог не дапусціць такой людское несправядлівасці.

Д ж а н і н а *(з упэўненасцю).* Не, канешне не! Я веру ў ласку боскую! Бывайце! *(Выходзіць.)*

## *Дзея 5. Абразок 1. Клятва*

Скарына *(некаторы час моўчкі глядзіць на галаву Томашака, потым набліжае яе да сябе, адкрывае вейкі яе вачэй).* Томашак, я хачу бачыць бляск тваіх вачэй, хачу гаварыць з табой! Вось яны, твае мілыя вочы! Ты сустрэў смерць смела, падзяляючы думку, што нельга хрысціянам тварыць несправядлівасць... Ты ў гэтым следаваў свайму вялікаму прапаведніку справядлівасці Яну Гусу. У табе яшчэ жыў дух слаўтага змагання за лепшую долю чэшскага люду Яна Жыжкі... Але людская несправядлівасць перамагла жменьку пакрыўджаных людзей! І ты стаўся ахвярай уладароў тутэйшага жыцця! Ім мала было сваіх... Саванаролаў... *(Ускоквае, узняты нейкай думкай.)* Што ж прычынай усяму? Я, мой дружа, мой мілы Томашак, лічу, што пакуль людзьмі валодае цемра, датуль і будзе панаваць лютасць над справядлівасцю!.. Царква — у лапах людзей, якія прыстасавалі яе да сваіх паслуг, патрэб заможных, бязлітасных выкарыстальнікаў працы беднага... Як перамагчы іх? Я лічу, што толькі асвета, навука выведзе людзей з гэтага царства людской цемры, адчыніць вочы і сваім прыгнечаным, і тым, хто не мае нічога супольнага з валадарамі сучаснага жыцця. І вось, гаворачы з табою ў апошні раз, я спавядаю перад табою свой задум...

Дзверы пакоя адчыняюцца. Наскоўскі, увайшоўшы ціхама і пачуўшы размову Скарыны з галавой Томашака, затрымліваецца ля дзвярэй, каб даслухаць гэту размову.

Скарына. Клянуся перад табою, што аддам усе свае сілы, усё сваё жыццё, каб пашыраць шляхам кнігадруку навуку, веды і тую асвету, якая паможа людзям перамагчы цемру і несправядлівасць.

Усхваляваны, хоча прайсціся па пакоі і тут заўважае Наскоўскага.

Наскоўскі *(ціха, задумна).* Так, так, Францысь, ніколі нельга паддавацца цемры. Колькі хапае сіл і магчымасцей, трэба змагацца з ёю... Але мусім прызнацца, што аднаго кнігадруку як сродку ў змаганні — мала... Яшчэ мудры Сакрат спадзяваўся, што досыць ведаць, што такое зло, каб не рабіць яго людзям. Але

і добра ведаючы, што ёсць зло, людзі твораць яго. Потым, я, Францусь, не падзяляю тваёй думкі аб паспольстве... Я яшчэ разумею працу для людзей бяздольных — любое паляпшэнне іх становішча — заслуга... А вартасць іншых станаў паспольства, па-мойму, невысокая... Сёння яны вас падтрымаюць, заўтра адракуцца... Вазьмі вось прыклад — Томашака — ніхто з семнаццаці суджаных падмайстраў, вучняў майстроў і чорных работнікаў ніводнага слова кепскага пра яго не сказаў, не сцвердзіў, што ён іх агітаваў... Усе ў адно слова казалі: студэнт рэдкай дабраты, толькі цікавіўся нашым рухам... А ці перашкодзіла гэта яго асудзіць на смерць? Абарона яго універсітэтам таксама не памагла. І суддзя венецыйскага сената стаў на бок майстроў, бо рэспубліка — гэта рэспубліка заможных... А вазьмі нашу Польшчу або вашу Русь. Тое ж самае мы там бачым... Не, браток мой Францусь, адной асветы праз друк мала...

Скарына. І ўсё ж — гэта адзін з удзячных спосабаў, бо з цемраю, з несвядомасцю толькі і можна змагацца асветай.

Наскоўскі. Гледзячы якой асветай...

Скарына *(горача, з верай у моц сваёй аргументацыі)*. Творамі Каперніка, ведамі медыцыны...

Наскоўскі. Але не астралёгіяй і не алхіміяй...

Скарына. А чаму чалавеку не шукаць і там падтрымкі сваім думкам? Чаму не выведаць таямніцы прыроды, скрытыя ад нас?..

Наскоўскі. Марная, браток, трата часу і сіл... Лепш заглянуць у людскую практыку змагання ды думаць, як пазбаўляцца ад памылак былых кіраўнікоў руху за вызваленне людзей, хаця гэта таксама не простая рэч.

Скарына. Гуртаваць сілы справядлівых людзей, яднаць іх на глебе непарушнасці, несці свет у тыя колы, якія з'яўляюцца пазней асновай змагання за лепшую долю...

Наскоўскі *(з усмешкай)*. А потым наглядаць, як яны бяссільны што-небудзь змяніць у строі жыцця... Для гэтага мала мець адзін век часу...

Скарына. І ўсё ж працаваць для будучыні — варта!

# ЮНАК З КРОШЫНА

*Драматычныя сцэны*

## АСОБЫ

Паўлюк Багрым — 16-гадовы юнак, сын каваля з вёскі Крошын, стройны, дужы хлопец.

Галінка — сястра яго, на год маладзейшая.

Язэп Багрым — іх бацька, вясковы каваль, гадоў пад 40.

Ганна — кавалёва жонка, крыху маладзейшая за мужа.

Марылька — Паўлюкова прыяцелька, бадай аднагодка яго.

Лаўрын Ганчарык — 17-гадовы вясковы хлопец. Паўлюкоў прыяцель.

Эстарка — 16-гадовая дачка арандатара вадзянога млына ў Крошыне.

Камінскі Казімір — 26-гадовы войт вёскі Крошын.

Валькоўскі Анупрэй — самы паважаны дзед з вёскі Крошын, гадоў за 70.

Князь Канстанцін Радзівіл — сын старога князя Мацея, маршалак, 37 гадоў.

Станіслаў Юрага — зяць князя Мацея, гадоў 40.

Антаніна Юрага — дачка князя Мацея, жонка Станіслава Юрагі.

Гулькевіч Ксавэры — аканом Крошынскага двара, шляхціц, гадоў за 50.

Каморнік з Навагрудка, запрошаны Юрагам.

Заканазнаўца, праўнік з Гродна, запрошаны Юрагам.

Губернатар Гродзенскай губерні, гадоў 50.

Мордасаў Якаў Пятровіч — жандарскі палкоўнік, гадоў пад 50.

Камандзір уланскага эскадрона — ён жа старшыня ваеннага суда, падпалкоўнік, гадоў за 40.

Запанскі Франак — уланскі ротмістр, гадоў 35.

Арлоўскі Рыгор — арганіст крошынскага касцёла, настаўнік крошынскай парафіяльнай школы, за 35 гадоў.

Парафіяновіч Мацей — даглядчык будынка крошынскага касцёла, за 60 гадоў.

Сяляне, дворня, лёкаі і ўланы-салдаты.

У дваццатых гадах XIX стагоддзя каля вялікага двара князёў Радзівілаў былі вёскі Крошын і Пуцяты. Пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай яны ўвайшлі ў склад Навагрудскага павета Гродзенскай губерні Расійскай імперыі. Сяляне вёсак Крошын і Пуцяты былі вольныя земляробы, бо іх продкі за сваю «панцырную» ў часы войнаў службу атрымалі ад Вялікага княства Літоўскага зямлю, на якой векавалі-гаспадарылі іх нашчадкі.

Так вялося да 1825 года, калі ў Крошынскі двор прыехаў новы гаспадар Станіслаў Юрага, зяць князя Мацея Радзівіла, Пабраўшыся з яго дачкою Антанінаю і атрымаўшы за ёю ў пасаг двор Крошын і іншыя зямельныя і лясныя ўгоддзі, ён дазнаўся, што ў крошынцаў няма дакументаў на зямлю, і захацеў яе адабраць.

## СЦЭНА I

Чуцен вясёлы гоман і смех моладзі. Смех сціхае, калі ў школьны пакой уваходзіць крошынскі войт Казімір Камінскі, якога моладзь сустракае радаснымі ўскрыкамі.

Галасы:
— Нарэшце дзядзька войт нас успомніў!
— Шанаванне дзядзьку Казіміру!..
— Ды ён, браткі, і не з пустымі рукамі да нас! Жывём!

Камінскі *(весела да моладзі).* Дзень вам усім добры! Вядома, ісці да вас з пустымі рукамі я не мог. Нацадзіў са свае мядовае бочкі вось гэтую біклажку, каб саладзей вам было ў такі дзень, калі, можна сказаць, выпушчаюць вас у вырай!.. *(Аддае біклажку.)*

Галасы:
— Дзякуем!.. Дзякуем, дзядзька Казімір!
— Каб жа вашым пчолкам ды добра вялося!..
— Ды каб у дзядзькі-пчаляра і мядок не зводзіўся!..

Вясёлы смех.

Лаўрын. Просім жа вас, дзядзечка, заняць пачэснае месца з нашымі настаўнікамі!

Камінскі. Ну, то хутчэй жа налівай усім майго мёду!

Лаўрын. Давайце сюды, браточкі і сястрыцы, свае кубкі. *(Чуцен стук кубкаў.)* Ну, цяпер ціха! *(Да Камінскага.)* Слухаем вас, дзядзька войт!

Камінскі. У сённяшні вясёлы дзень, у свята вашай школы, хочацца мне пажадаць кожнаму з вас шчаснага жыцця, уцехі і радаснай працы на карысць сваім людзям, свайму народу! За гэта п'ю да дна!

Галасы моладзі:
— Віват нашаму войту!..
— Хай жыве і красуе!..

Усе, устаўшы з месц, чокаюцца кубкамі, п'юць. Робіцца нарэшце ціха.

Арлоўскі *(скарыстаўшы момант цішыні)*. Вельмі шкада, войце, што, крыху спазніўшыся, вы не пачулі тады вершаў аднаго з нашых здольных хлопцаў!.. Мы якраз і збіраліся, каб пагаварыць пра іх... Можа, і вам будзе цікава пачуць, як мы цэнім вершы Паўлюка Багрыма!..

Камінскі. О, канешне, мне будзе вельмі прыемна.

Арлоўскі. Што ж, тады пачнём!.. Можа, ты, Лаўрынка, выкажашся першы?

Лаўрын. З ахвотаю!.. Мне давялося нямала ўжо чуць вершаў Паўлюка! А новыя яго вершы, «Ціша на рэчцы» і «Раніцою ў лесе», напісаны так, што відна сама прырода, усё яе хараство!.. А яшчэ вершы пра цяжкую паншчыну, пра люты да людзей прыгон... Я сказаў бы, што гэта чалавечы крык перад небам, гэта стогн народных грудзей!.. І чуеце, як Паўлюк канчае адзін з гэтых вершаў: «Гукнем жа ўсе мы разам: «Годзе гэтага здзеку з чалавека, падабенства самога бога!»

Арлоўскі. А пра яго песеньку пра пана Дулькевіча што ж ты нічога не сказаў?

Лаўрын. Забыў зусім!.. Ой, і добра ж ён гэтаму васпану задаў!.. Можна сказаць, не пашкадаваў яму ні солі, ні перцу!

Дружны смех.

Голас. Не можаш ты ніяк забыцца, як ён у цябе ўвесь улоў рыбы ля млына адабраў!

Лаўрын. Не. Толькі шкадую, што пра гэтую песеньку не дазнаецца сам пан Дулькевіч.

Агульны рогат.

Галасы:
— Трэба, каб дазнаўся.
— Падкінем яе на кватэру яму!
— Ну і ўзлуецца пузаты!..

Камінскі *(занепакоена)*. Хлопчыкі, хлопчыкі, з гэтаю справаю будзьце цішэй! Калі дазнаецца, то вы не аберацеся прыкрасці! А тут яшчэ і новы гаспадар Крошынскага двара да нас едзе. Вось ён яму і нагаворыць пра вас усякага ліха.

Арлоўскі. А скажыце, пане войце, хто ён такі, гэты наш новы пан Юрага?

К а м і н с к і. Кажуць, пан Станіслаў Юрага недзе з-пад Бярэсця... Служыў уланам у Гародні... Там пазнаёміўся з князёўнаю Антанінаю, заляцаўся да яе, ну і стаў зяцем князя Мацея... Крошын і другія двары дадзены яму ў пасаг за князёўнаю! Чалавек ён, кажуць, вельмі паганы.

А р л о ў с к і *(да хлопцаў).* Шаноўны войт мае рацыю, хлопчыкі! Не варта дражніць пана аканома, бо ён нацкуе на нас пана Юрагу. Але вернемся да Паўлюковых вершаў. Я не пачуў ад вас думкі пра адзін з лепшых яго вершаў «Шыпшына цвіце...». Хто хоча сказаць сваю думку?

Г о л а с. Праўда ж, добры верш! Вельмі прыгожы!.. Шчыры!..

А р л о ў с к і *(да Марылькі).* Можа, наша Марылька скажа?

М а р ы л ь к а *(крыху ўсхвалявана).* Што ж сказаць? Складзены прыгожа... Пра дзяўчыну. Але ж мне здаецца, што пясняр перахвальвае яе!

П а ў л ю к Б а г р ы м. Дайце ж мне і самому сказаць!

Г а л а с ы:

— Гавары, гавары!

— Даўно чакаем!

— Ціха!

П а ў л ю к. Я не згодзен з Лаўрынам, што ў мяне асабліва чулае вуха да натуры... Усе мы любім родную прыроду, таму нам і міла яна. І калі ў нас пяе душа, то і песня выходзіць прыемная! А вось мой роздум пра долю чалавека — якая гэта нікчэмнасць у параўнанні з Нарушэвічам! От у каго багацце думак!..

А р л о ў с к і. Чакай, Паўлюк... Нарушэвіч ужо на вяршыні паэзіі... А ты ж мала пісаў, яшчэ толькі выходзіш на дарогу! Але вернемся да верша «Шыпшына цвіце...».

Л а ў р ы н. Мне падабаецца гэты верш, бо ён нагадвае нашы песні!

А р л о ў с к і. Але дзе ж ты чуў, каб у песні дзяўчына параўноўвалася з ружавай кветкай?

Л а ў р ы н *(спачатку з засмучэннем, збянтэжыўшыся).* Не памятаю, дзе чуў, але лічу, што гэта вельмі прыгожае і сардэчнае параўнанне.

Д з я в о ч ы г о л а с *(весела і разам кпліва).* Хай

Лаўрын не забудзе, што ў шыпшыны шмат калючак!

К а м і н с к і. Хай Паўлюк сам на гэта адкажа!

П а ў л ю к. Дзяўчыне часта трэба ўмець абараняцца. То яна мусіць мець і калючкі!

К а м і н с к і *(смеючыся)*. А калі захочаш прыгалубіць?

П а ў л ю к. Калючкі толькі дзеля абароны, а не ад ласкі.

К а м і н с к і. Ну то і добра, выкруціўся!.. Аднак, даражэнькія, справы змушаюць мяне пакінуць вас, і таму *(да Лаўрына)*, ясны голубе, налі ўсім нам яшчэ на развітанне!

Л а ў р ы н. Слухаю!

Хвіліну стаіць шум, і калі кубкі наліты, віначэрп гукае: — Слова дзядзьку войту!

К а м і н с к і. Падымем жа свае кубкі, мае даражэнькія, не толькі за наш сённяшні радасны дзень, але і за тое, каб развіваліся і паўнелі здольнасці Паўлюка Багрыма. Хай яго чакае светлая доля! П'ём жа ўсе да дна! Бывайце здаровы! *(Выходзіць.)*

Г а л а с ы д з я ў ч а т:

— Эх, каб нашы музыкі ды ўрэзалі «Юрачку»!

— Давайце «Юрачку».

Адсоўваюць стол і зэдлікі ўбок, музыкі строяць свае інструменты.

К р ы к і: Станавіцеся ў пары!

Музыкі дружна ўтнулі «Юрачку». Вядзе мелодыю танца скрыпка, падпявае ёй дудка, а бубен падмацоўвае рытм. Смяюцца, весела пяюць:

Гэй ты, Юрачка,
Што не жэнішся?
Прыйдзе зімачка,
Куды ж дзенешся?

Весела скачуць. У гэтую хвіліну ў пакой увайшла прыбіральніца школьнага памяшкання В о л ь к а, кабеціна ўжо ў гадах. Да яе падбег Парафіяновіч, і абое пайшлі імкліва ў танец.

Г а л а с ы:

— Маладзец, дзядзька Парафіяновіч!

— Маладзец, цётка Волька!

На момант, калі музыкі скончылі гэты танок, усе перадыхаюць. А потым чуюцца галасы.

Галасы:
— «Лявоніху»!..
— Не, лепш «Мяцеліцу»!..
— «Мяцеліцу»!..

Большасць за «Мяцеліцу», і пакой гудзе ад імклівага танца. Але ў парозе паказаўся паштар, і танец спыніўся. Паштар падае газету і ліст Арлоўскаму. Той разгортвае газету. Дэмакратычная газета «Вядомосці бруковэ», што друкавалася ў Вільні, цікавіць усіх, бо ў ёй рэзка ганьбуецца паншчына. Моладзь акружае любімага настаўніка і пытае, што пішуць у газеце.

Арлоўскі. Ды вось зноў ёсць вялікі артыкул супроць прыгнёту. Гаворыцца, што на Літве і ў Беларусі пануе самая жорсткая форма яго.

Галасы. Калі ж нам сабрацца паслухаць гэты артыкул?

Арлоўскі. Можна і сёння. Як заўсёды: прыходзьце на восьмую гадзіну да мяне! А заўтра папяём!

Галасы:
— Да пабачэння!
— Бывайце ж здаровы!

Усе разыходзяцца, апрача Арлоўскага, да якога падыходзіць Паўлюк Багрым.

Паўлюк. Напісаў я яшчэ і байку на манер эзопаўскіх. Але як яно выйшла, не ведаю. Дык буду прасіць вас прачытаць яе і сказаць, што ў ёй кепскага ці добрага. *(Дае лісток з байкай Арлоўскаму.)*

Арлоўскі *(кладзе лісток у кішэню)*. З ахвотаю прачытаю. Астанешся вечарам пасля чытання газеты, пагаворым.

Паўлюк. Ніяк не дамагуся, каб пісаць так скупа і трапна, як Язоп.

Арлоўскі. Навучышся. Яшчэ ўсё тваё наперадзе, абы ты любіў гэтую работу. Бо не святыя ж гаршкі лепяць!

## СЦЭНА II

Бераг става аброс густымі вербамі і шыпшынаю, яна якраз цвіце. У кустах чуцен салаўіны посвіст. Плёскае рыба. На масток запруды ўзыходзяць Паўлюк Багрым з Марылькаю. На мастку затрымліваюцца.

Паўлюк. Пастаім тут хвілінку, Марылечка! *(Азіраючыся.)* Глядзі, мая пралесачка, якая краса кругом!

Повень заліў усё сваім срэбрам. *(У захапленні.)* Якая дзівосная ноч!.. *(Пачуўшы пошчак салаўя.)* Чуеш, каханая мая?.. І яму не да сну!..

Марылька *(тулячыся да Паўлюка).* Ах ты, мой летуценнік!.. Усё б ты, як той жаўрук, кудысьці ў неба, усё вышэй бы ды вышэй ляцеў... Але мне куды мілей за салаўя пах шыпшыны. Такая ўжо я зямная! Ты са мною побач — гэта і ёсць маё поўнае шчасце!..

Паўлюк. І мне быць з табою разам — найбольшае шчасце.

Марылька. Ты абяцаў прынесці песню нашага настаўніка Арлоўскага! Прынёс?

Паўлюк. Як жа! *(Вымае з кішэні лісток.)* Толькі памятай, галубка, нікому пра гэта ні слова!.. Песня гэтая — боль яго душы!.. Матуля мне казала, што яго нарачоную, якую ён так моцна кахаў, выдалі проці яе волі за багатага. А ён яе забыцца не можа!

Марылька. Прачытай мне гэтую песню!

Паўлюк. Слухай жа! *(Чытае з натхненнем.)*

— Ой, узыдзі ж, узыдзі, ясны месяцу,
Як млыновае кола!
Ой, выйдзі ж, выйдзі, сэрца-дзяўчына,
Выйдзі ж, прамоў да мяне слова!
— Ой, рада б выйсці дый пагаварыці,
Ды пра нас ужо людзі гавараць!..
— Ой, няхай судзяць, няхай гавораць!..
Хоць па цэламу белу свету!..
Я ж цябе люблю, любіць буду,
Мой ты ружавы квету!..

Марылька. Кароценькая, але як многа душы. Праспявай мне яе хоць паціху.

Паўлюк. Я яе сам падслухаў, дык голасу не запомніў.

Марылька. Нехта ідзе!.. Ціха!.. *(Прыслухоўваюцца.)* Ну але, ідуць!

Паўлюк. Хутчэй жа ў поле! Перачакаем, пакуль пройдуць! *(Абое знікаюць.)*

На масток узыходзіць Лаўрын. У яго ў руках вядзерца і торбачка з рыбалоўнымі прыладамі. Прайшоўшы масток, ён ставіць вядро, кладзе на зямлю прылады, некалькі разоў свішча падсалоўкам і садзіцца. Праз хвіліну чуцен плёскат вёсел, потым між кустоў высоўваецца лодка, і з яе хутка выскоквае Эстарка. Яна імкліва абвівае рукамі шыю Лаўрына і палка цалуе яго ў шчаку.

Эстарка. Прыйшоў, ну, значыцца, цяпер мой!

Л а ў р ы н *(садзіцца побач з Эстаркай).* Твой, твой цяпер, каханая, палымяная мая!.. *(Цалуе яе ў вусны моцна.)* Ну, а цяпер скажу: ты думаеш пра тое, як нам далей быць?..

Э с т а р к а. Канешне, думаю!

Л а ў р ы н. І да чаго дадумалася?

Э с т а р к а. Бацькі мае добрыя. Я ж адна ў іх, і яны вельмі мяне любяць, асабліва матка. Вось я і пачну першую яе прасіць. А як яна згодзіцца, мы з ёю ўдвух возьмемся за тату!

Л а ў р ы н. Эх ты, сакатушка! Мы ж з табою можам пажаніцца толькі, калі ты перахрысцішся ў нашу веру! А гэта ж ім, старым, будзе няслава і ганьба. Я пагаварыў з Арлоўскім, дык ён кажа, што гэта ў вас лічыцца за цяжкі грэх і цябе праклянуць як здрадніцу!

Э с т а р к а. Мае бацькі мяне не праклянуць, Лаўрынка!.. Яны цябе таксама добра ведаюць. Я сама чула, як бацька сказаў маці пра цябе: «О, гэта залаты хлопец! Хіба хто іншы згадзіўся б задарма вучыць нашу Эстар чытаць, пісаць і лічыць?» А тады дадаў яшчэ: «Але ж у нашай Эстаркі такое ж палкае сэрца, як і ў мяне самога!»

Л а ў р ы н. Ось бачыш!.. Бацька праўду казаў, што ў цябе палкае сэрца!..

Э с т а р к а *(заглядваючы хлопцу ў вочы).* Скажы, хіба гэта кепска?

Л а ў р ы н. Мне, ластачка мая, канешне, добра! Але ж мы змушаны таіцца ад усіх, усё адно як тыя збеглыя... Дзе цяпер твае бацькі?

Э с т а р к а. Бацька выправіўся ў мястэчка. А матуля, натупаўшыся, прылягла... Потым, Лаўрынка, у мяне заўсёды ёсць добры адказ: заўтра на шабас добра было мець рыбу, і я паехала лодкаю да цябе. І хіба ж гэта будзе першы раз, калі я прывязу ад цябе рыбу?

### С Ц Э Н А III

Цвінтар драўлянага крошынскага касцёла. У ім ідзе спеўка хору, якім кіруе Арлоўскі.

Спеўка скончылася, хор разыходзіцца. Апошнімі з касцёла выходзяць Паўлюк з Марылькаю.

П а ў л ю к. Адыдзем у цень званіцы! Зараз ён пачне спяваць сваю песню.

Арлоўскі пад арган выконвае «Ой, узыдзі, узыдзі!». Чутно, як, бразгаючы ключамі, у касцёл ідзе Парафіяновіч. Хутка яны з Арлоўскім выходзяць стуль. Парафіяновіч замыкае дзверы касцёла.

Парафіяновіч. Я з цябе дзіўлюся, братка Рыгор. Ты ж добра ведаеш, што твая нарачоная замужам, а ты ўсё яшчэ не можаш забыць яе.

Арлоўскі. Усё гэта так, але яшчэ рана майго сэрца сочыцца крывёю. Здзек ніколі не прагоніць смутку.

Іх крокі хутка сціхаюць. Праз хвіліну праходзяць Паўлюк і Марылькаю.

Паўлюк. Не вытрывала, заплакала!..

Марылька. Мне іх абодвух шкада!.. Асабліва калі мы з табою такія шчаслівыя!

## СЦЭНА IV

Станіслаў Юрага, новы гаспадар Крошына, сядзіць з жонкаю ў колішнім кабінеце князя Мацея. Сцены пакоя ўсе ў фамільных партрэтах Радзівілаў, буйнейшых магнатаў Беларусі.

Юрага *(да жонкі)*. Не разумею, дзе мог забавіцца швагер. Дарога з Навагрудка добрая...

Антаніна. Константы — маршалак павятовай шляхты, і ці мала што магло затрымаць яго па дарозе да нас!..

Юрага *(незадаволена)*. У лісце я сказаў князю пра крошынцаў і прасіў яго быць афіцыйна прысутным пры размовах нашых з іх прадстаўнікамі. І таму думаю, што князю, як нашаму маршалку, трэба лічыць справу маю важнейшай за іншыя справы паноў шляхты! Прытым гэта справа гонару славутай фаміліі Радзівілаў, першых магнатаў Літвы!

Антаніна. Ты вельмі нецярплівы, Стась, і вялікую ўвагу надаеш пытанню, якое, па-мойму, у параўнанні з тым, што выдзеліў нам тата, прабач мне, вельмі сціплае.

Юрага *(з запальчывасцю)*. Што ж рабіць, калі князь Мацей не здолеў абараніць маіх інтарэсаў, і цяпер зяцю прыходзіцца сёе-тое папраўляць.

А н т а н і н а. Чакай, каханы!.. Па-мойму, чутны бомы братавай чацвёркі. Якраз тыя, вельмі меладычныя, што Константы прывёз з Ведэня!

Воддаль чутны прыгожыя бомы-бразготкі, звон іх усё мацнее і сціхае адразу каля ганка палаца. Праз некалькі хвілін лёкай расчыніў дзверы кабінета.

Л ё к а й. Яго светласць князь Константы Радзівіл!

Юрагі ідуць насустрач госцю.

С т а н і с л а ў  Ю р а г а. Вітаю вашу светласць у родным для Радзівілаў палацы.

А н т а н і н а. Мы ўжо непакоіліся, ведаючы тваю акуратнасць.

К а н с т а н ц і н *(вітаючыся перш з сястрою, цалуе яе ў шчаку, потым вітаецца з шваграм, гаворыць да яго).* Проша са мною дома, не на людзях, абыходзіцца без «вашай светласці». *(Дзелавіта.)* Я ўважліва прачытаў ваш ліст, швагер, і цалкам падзяляю вашы аргументы!.. Лічу, што трэба назаўсёды пакончыць з гэтаю недарэчнасцю! Зямля ў іх была, канешне, ад Радзівілаў, а не ад Літоўскай дзяржавы, і таму ў каго няма дакумента, што ён, як кажа закон Расійскай імперыі, «Вольны земляпашац», ён быў падданы Мацея Радзівіла, а цяпер павінен стаць падданым пана Станіслава Юрагі!.. Татаў аргумент, што «ўсім людзям трэба жыць», мы дастасоўваем да саміх сябе — «нам самім трэба жыць!» — і таму, як маршалак нашай тутэйшай шляхты, кажу вам, пане Станіслаў: я абяцаю вам уплываць у належных установах на справу з крошынцамі дзеля вашых інтарэсаў!

Ю р а г а. Дзякую, князю!.. Можа, вы б адпачылі пасля дарогі? Вашы пакоі падрыхтаваны!

К а н с т а н ц і н. Прызнацца, дома я быў не пры апетыце... мала еў! А дарогаю, кажучы па-тутэйшаму, «пратрохся» і з ахвотаю паснедаю!..

А н т а н і н а. Мы цябе якраз і чакалі на снеданне! Стол сабраны, і я загадаю праз чвэрць гадзіны падаваць! *(Выходзіць.)*

К а н с т а н ц і н. А што ў швагра з він ёсць?

Ю р а г а. Я не паспеў яшчэ з-пад Бжэсця прывесці свой склеп, але тут у князя Мацея атрымаў нечакана спадчыну, і прытым рэдкія рэчы... Я знайшоў у склепе замураваную старку, якой больш за сто год, каштоў-

ныя французскія віны высокіх гатункаў і цудоўнае венгерскае, якому за сорак год. Калі, канешне, праўду кажа дата на пячатцы гэтых бутэлек!..

Канстанцін. Зробім так: старку пакінем на абед, французаў на вячэру, ну, а венгерскае — пасмакуем зараз! Эх, не спытаўся я ў сястры, што будзе на сняданне. Хаця, яна ж ведае маю слабасць! Мушу прызнацца швагру: густоўны токай для мяне — адна са слодычаў жыцця!..

Юрага *(узрадавана).* Слова ганору!.. Токай якраз ёсць недасяжнай якасці! Як казалі нашы дзяды — «нэк плюс ультра»!.. Вядомага ў Пешце склепа Мункачы! Палкоўнік нашага ўласнага палка ў сябе на прыёме знаёміў нас якраз з такаем са склепа Мункачы!..

Канстанцін *(жвава і ўзрадавана).* Бравісіма! Тады так, пане Станіславе: за сняданнем пару добрых кілішкаў саракагоднага такаю і зараз жа пасля снядання за справу! *(Потым, узяўшы Юрагу за шнур яго кунтуша, ужо іншым тонам.)* Толькі гэта паміж намі, швагер!

Юрага. Слова ганору!

Канстанцін *(крыху летуценна).* Мы загаварылі пра такай, пра Пешт, і мне ўспомнілася адна гісторыя з венгеркаю, калі я ў Ведэню штудаваў навукі. Тварам — невымоўная краса, а якія вочы! Стан і постаць — што сама багіня кахання і красы! Ледзьве я тады з яе абдымкаў цэлы выслізнуў! Ото была дзяўчына: у пачуццях — што той пякельны агонь! Што значыць кроў з дзікіх пушчаў Цісы!

Стук у дзверы, уваходзіць стары лёкай.

Лёкай. Яе светласць просіць на сняданне!

Юрага. Проша да столу! Я якраз і хацеў трактаваць вас такаем.

## СЦЭНА V

У кабінеце сабраліся новы гаспадар Станіслаў Юрага, князь Канстанцін Радзівіл, запрошаныя Юрагам з Гродна і Навагрудка праўнік і каморнік, а таксама аканом двара пан Гулькевіч.

Юрага *(звоніць, кажа лёкаю).* Упусці людзей ад вёскі Крошын!

Праз колькі хвілін у кабінет уваходзяць: войт Казімір Камінскі, сівы дзед Анупрэй Валькоўскі і сярэдніх гадоў селянін Цімох Залуцкі.

Камінскі. Нашае вам, панове, ушанаванне і добры дзень!

Юрага. Добры дзень! Вы, значыцца, ад Крошына?

Камінскі. Так, шаноўны пане! Я Казімір Камінскі, войт вёскі, а два другія — упаўнаважаныя ад грамады вясковай!

Юрага. Я цяпер на Крошыне стаў вашым панам! На планах я пацікавіўся паглядзець землі Крошынскага двара — і што ж? На ўсіх іх вёска і мястэчка Крошын са сваімі землямі ляжаць усярэдзіне зямель двара. З гэтага ўжо ясна відаць, што землі вёскі і мястэчка Крошын былі і ёсць землі радзівілаўскія, цяпер жа мае... Калі вы не дасце мне сваіх пэўных дакументаў на ўладанне гэтымі, як вы кажаце, вашымі землямі, а таксама і афіцыйных папер на сваю асабістую вольнасць, я заяўляю, дзе належыць, свае правы на гэтыя землі і на вас саміх, каб вярнуць вас у падданства мне...

Камінскі. Мяне, ваша мосць, упаўнаважылі гаварыць першым! Справа ў тым, што ад сваіх продкаў, «панцырных» баяраў, мы мелі зямлю, якая была імі набыта або ва ўласнасць, або дадзена ім дзяржаваю за «панцырную» службу ў войску ў час вайны. Так вялося на працягу ста гадоў... Уладалі нашы продкі зямлёю гэтаю, не выпраўляючы на яе дакументаў, якіх яны нам і не пакінулі. Пры далучэнні краю да Расійскай дзяржавы не паўставала нават пытанне, што наша зямля не наша, бо безліч людзей старых магла пасведчыць, што мы з даўных-давён ёю ўладаем...

Праўнік. А як жа тады сталася, што гэтая зямля апынулася ўсярэдзіне радзівілаўскіх земляў без вольнай дарогі на белы свет? Быць можа, вы ўладалі ёй па чыншаваму праву?

Валькоўскі. Дазвольце, ваша мосць, мне сказаць!..

Юрага. Ну, кажы!

Валькоўскі. Я адкажуваспанам на гэтае пытанне... Нічога дзіўнага ў тым, што княжацкія землі абхапілі нашу зямлю кругом, бо каралі польскія пасля

уніі з Літоўскім княствам раздавалі магнатам шчодра землі цэлымі паветамі, як гэта было і з князямі Радзівіламі... А вольная дарога ў свет і ў нас была, ды і ёсць, але такія вось княжацкія служэбнікі, як пан Гулькевіч, усё больш яе вузілі, а іншы год і зусім знішчалі.

Юрага *(незадаволена).* Ты бліжэй да вашых правоў кажы.

Валькоўскі. А як жа, шаноўны пане, скажаш іначай? І пра чынш скажу... За маю яшчэ памяць айцец князя Мацея прапанаваў нам перайсці на чынш... Але ж грамада тады паасцерагалася зрабіць гэта, бо хоць чынш быў і не зусім цяжкі, затое мы тады жылі б на адной толькі ласцы пана-суседа: сёння яна ёсць, а заўтра — хто наперад ведае? — ці была б!..

Юрага *(гнеўна).* Будзеш так, дзед, языком малоць, то і слухаць не станем! *(Да Камінскага.)* Дык у вас, пытаюся, няма праўных дакументаў на зямлю і на вашую асабістую вольнасць? Адказвай мне проста на маё запытанне.

Камінскі. Як я і казаў раней, планаў на нашу зямлю ў нас здаўна не было, і ніякіх іншых дакументаў нашы продкі нам не пакінулі. Затое нямала людзей ёсць старога веку, якія могуць пасведчыць, што зямля належала нам і што мы былі заўсёды людзьмі вольнымі.

Юрага *(да князя Радзівіла).* Шаноўны пане маршалак, як вы гэта самі чулі ад войта Казіміра Камінскага, у вяскоўцаў Крошына ніякіх праўных дакументаў на зямлю няма! Магу я здзейсніць сваё права ўладара на зямлю?

Канстанцін *(да Юрагі).* Мне, як маршалку шляхты нашага Наваградскага павета, добра вядомы так званыя былыя «панцырныя» баяры, якія належаць да шляхты... Насельнікі ж вёскі Крошын ў мяне не лічацца сярод шляхты павета! Паколькі дакументаў на зямлю няма, справа выходзіць вельмі простая і ясная. Вы маеце рацыю лічыць зямлю сваёю!.. А яны хай даводзяць свае правы, дзе захочуць!..

Камінскі *(да Юрагі).* Значыцца, вы хочаце адабраць у нас зямлю?

Юрага *(гнеўна).* Не адабраць, а вярнуць сабе законам сваю зямлю!

Камінскі *(да сваіх).* Калі так, дык нам тут ня-

ма пра што й гаварыць! *(Да паноў.)* Не чакаў я, прызнацца, ад вас такое крыўды! Бывайце!

Войт і сяляне выходзяць.

Залуцкі *(выходзячы, гнеўна).* Можна сказаць, схапілі вы нас за горла!

Юрага *(са здавальненнем, да князя).* Пан маршалак справядліва сказалі: цяпер справа вельмі простая і ясная. О, мы на іх больш гадзіны патрацілі! *(Да праўніка, каморніка і аканома.)* Сёння я вас больш не затрымаю! Заўтра ж сустрэнемся ў мяне і афармім заяву ў губернскія ўстановы!

Праўнік, каморнік і аканом пакідаюць кабінет Юрагі.

Канстанцін. Ну, дарагі швагер, на сёння досыць працаваць! *(Ходзіць жвава па пакоі і з радасцю кажа.)* Паабедаем са старкаю, а потым, пане мой, ляжам сабе на канапу з цыгараю, каб, пускаючы прыемны дым, палетуцець, пра што бывае прыемна!

Юрага. Дарэчы, чаму княгіня Стафанія гэтым разам не прыехала?

Канстанцін *(вялікасна, з апломбам).* Калі я еду па справах службовых, люблю ехаць толькі адзін, каб абдумаць усё, чым трэба будзе заняцца! Калі ж я еду з дамаю, я ўвесь душою з ёю. Тады ўжо зусім другія настроі, іншыя думкі!.. А да таго ж, я вельмі кахаю і высока стаўлю і нашую ўрадзоную князёўну Сапегу, сваю жонку Стафанію! І калі еду з ёю, то бяру з сабой фарэйтара Каятана, бо той умее і вылаяць і агрэць арапнікам мужыка, калі той не паспее звярнуць з дарогі. Такая ў мяне, пане мой, на гэты конт жыццёвая філасофія!

## СЦЭНА VI

Войт Камінскі з абодвума ўпаўнаважанымі сабралі сход гаспадароў Крошына і расказалі, што задумаў пан Юрага.

Галасы:

— Дык ось які пан Юрага!

— Зрабіць з нас, вольных людзей, новых прыгонных сялян сабе!

— Падавіцца, жываглот! Будзем абараняцца ад ганебнага над людзьмі гвалту!

Жаночыя галасы:

— А божухна!.. Загінем!..

— Ой, матачка боская, заступі нас, ратуй ад пагібелі!

Стары. А вы, нашыя выбраныя, не сказалі панам, што на свеце ёсць бог? Што мы аднаверцы панам і хрысціянам так рабіць няможна?

Камінскі. Шаноўны дзедка!.. Паны ўсё гэта і без нас добра ведаюць. Яны прывыклі меркаваць па прыказцы: «З тым бог, хто бедака перамог». Зараз нам трэба скласці прыгавор, што пан Юрага не мае права адбіраць ад нас зямлі нашых продкаў і што мы просім губернатарскую ўладу абараніць нас ад гэтай беспадстаўнай прэтэнсіі пана Юрагі... У прыгаворы трэба абгаварыць, каго мы абралі сваімі ўпаўнаважанымі, каб яны ехалі ў Горадню. Апрача таго, трэба зрабіць складчыну на падарожжа іх туды і назад, на пражыццё там, на аплату добрага праўніка, які б напісаў нам належнае хадайніцтва, і на выдаткі па казённых пошлінах і іншых там аплатах...

Старшыня сходу. Яшчэ хто хоча сказаць?

Язэп Багрым. Дайце мне сказаць!

Старшыня сходу. Гавары, Язэп!

Багрым. Правільна радзіць наш войт: трэба ехаць у губэрню. Я думаю, што выбіраць нам новых людзей і не трэба: мы абралі ўжо сваімі ўпаўнаважанымі Казіміра Камінскага, Анупрэя Валькоўскага і Цімоха Залуцкага. А таму хай і далей яны служаць сваім людзям... Што да грошай, дык Залуцкаму самы раз сабраць патрэбныя на гэтую справу грошы з кожнага з нас, гаспадароў!

Галасы:

— Згода! Праўда ж!

— Ім і ехаць! І чым хутчэй трэба ім ехаць!

Голас Паўлюка Багрыма. Вельмі важна знайсці разумнага праўніка ў Горадні і скласці з ім належныя паперы нашай скаргі.

Язэп Багрым. Добра раіш, сынок!.. Сядай жа дзе-небудзь тут і пішы прыгавор!

Арлоўскі. Мы з Паўлам напішам усё патрэбнае: і прыгавор сходу, і паўнамоцтвы тым, хто паедзе ў Горадню. І пан войт паможа.

Камінскі. Яшчэ адна толькі мая дарада, браты.

Пачатая панам Юрагам справа на нас, падтрыманая князем-маршалкам, калі сустрэне яшчэ падтрыманне і ў губернскай улады, набудзе такую сілу, што яны нас пераможуць, калі мы самі аднадушна не будзем змагацца да канца. А таму давайце зараз прысягнём, што будзем змагацца ўсе як адзін.

Галасы:

— Будзем трымацца цвёрда! Прысягаем на гэта!

— Будзем усе разам, як адзін!

## СЦЭНА VII

Аднак пан Станіслаў Юрага праз свайго швагра князя Радзівіла заручыўся падтрымкай губеранскай адміністрацыі раней, чым упаўнаважаныя дайшлі да губернатара. Запэўнены губернатарам, што справа будзе разглядацца ў яго карысць, Юрага выклікаў павятовага каморніка і захацеў адразу замежаваць зямлю вёскі Крошын і далучыць да палёў двара. Так падрыхтаваўшыся, Юрага са сваімі дваравымі людзьмі і каморнікам прыехалі да крошынскіх палеткаў.

Юрага. Пане каморнік, пачынайце вось адсюль. З межнікамі вёскі не лічыцеся: мы іх усе будзем заворваць!

Каморнік. Слухаю пана! *(Да дваровых.)* Тут вось стаўце першы капец! *(Да пана Юрагі.)* Дайце са мною некалькі дужых людзей, бо ўсё можа быць з гэтымі мужыкамі!

Юрага. Які вы пужлівы!

Каморнік. Ваша мосць смяецеся, а хіба раззлаванага мужыка затрымае чыноўніцкая цэшка на маёй шапцы? Так што рызыкаваць жыццём з адвагі я не лічу патрэбным!

Юрага *(да дваровых)*. Трое з вас ідзіце з панам каморнікам на выпадак бяды. *(Каморніку.)* З богам!

Тым часам, папярэджаныя сваімі людзьмі з панскай дворні, крошынцы ўдарылі ў вялікі звон касцёла і ўсім натоўпам, хто з чым у руках, рынуліся з крыкамі на людзей пана Юрагі.

Галасы:

— Не дадзім мераць!..

— Не дазволім адбіраць нашу спрадвеку зямельку!

— Гэта самаўпраўства! Няма рашэння з губэрні!

Юрага *(усхвалявана)*. Ото вар'яты!.. Што ўздумалі — біць у звон?! Толькі горш гэтым робяць сабе!

Натоўп крошынцаў хутка набліжаецца да яго і дваровых мужчын.

Слухаць! Калі хто з крошынцаў хоць кране капец, біце яго, мяцежніка, няшчадна!

Збялелы, перад крошынцамі бяжыць каморнік. Ужо здалёк крычыць да пана.

Каморнік. Я ж казаў, пане, што яны наробяць бяды!

Галасы:

— Не вольны яны мерань!

— Не аддадзім пану нашай зямлі!..

— Адбірайце ланцуг!..

Каморнік *(пачуўшы пра свой ланцуг).* Браткі!.. Браточкі!.. Што вы, што вы!.. Ланцуг жа — казённая рэч!.. Аддайце мне яго назад! Не самаўпраўнічайце!

Але грамада жанчын кідаецца да яго з крыкамі.

Галасы:

— Гэта вы з панам самаўпраўнічаеце!..

— Няма яшчэ рашэння!..

Каморнік. Кабеткі... Галубкі!.. Ні пры чым тут я! Воля пана была!.. Я — нічога, галубкі!..

Грамада жанчын ужо тузае яго, крычучы сваё.

Галасы:

— Прэч з нашага поля!..

— Няма рашэння!..

Язэп Багрым *(кідаецца да капца).* Прэч і яны і капец з нашай зямлі! *(Расхістаўшы калок капца, выцягвае яго з зямлі і кідае ўбок.)* Рана пану захацелася забраць у нас зямлю!

Юрага *(у гневе крычыць сваім людзям).* Гоніце яго, біце, гада! Гоніце, біце мяцежніка, самаўпраўцу!..

Дворня з дручкамі кідаецца да капца і б'е каваля. Абліваючыся крывёю, ён падае на зямлю ля капца. Заўважыўшы гэта, Паўлюк Багрым бяжыць да бацькі.

Паўлюк. Ратуйце, дзядзькі!.. Забілі тату!..

Мужчыны падымаюць акрываўленага каваля, і ён, трацячы прытомнасць, звісае ў іх на руках.

Сяляне. Палілі-такі нашу зямлю крывёю, люты пане! Забілі чалавека, адкажаце за гэта па закону!

Жонка і дачка Язэпа Багрыма, думаючы, што каваль сканаў, галосяць.

Паўлюк. Бязлітасныя каты, панскія сабакі, папомніць народ вам смерць гэтую!.. *(Да пана.)* І вы, пане, ведайце: бацькоў пазабіваеце, мы — маладыя — на іх месца станем, каб бараніць сваю зямельку...

Юрага *(у гневе, да сваіх)*. Хто ён, гэты падзуда і мяцежнік, хачу я ведаць?

Нехта з дваровых. Паўлюк, каваля сын, вяльможны пане!..

Крошынцы, лічачы, што каваль ужо сканаў, кідаюцца на дворню, хто з кіем, хто з паднятым каменем.

Галасы:

— Бі іх, праклятых забойцаў!

— Біце іх, панскіх сабак!

Камінскі *(раскрыўшы шырока рукі, спыняе пярэдніх)*. Стойце, браты! Куды вы? Назад! Апамятайцеся!

Натоўп мужчын затрымаўся.

Камінскі *(пану Юрагу)*. Што ж вы, пане, робіце? Не чакаючы рашэння з Горадні, творыце самаўпраўства! А вашая дворня насмерць б'е людзей!..

Юрага. Я маю згоду начальства. А ты, Камінскі, за тое, што звонам падняў людзей на мяцеж, адкажаш першы!..

Каморнік *(да Камінскага)*. Скажыце сваім, каб мне вярнулі казённы ланцуг!

Камінскі. Ланцуг, пакуль што, астаецца ў нас як рэчавы доказ самаўпраўства пана Юрагі!

## СЦЭНА VIII

Ранняя цёплая вясна. Цвітуць дрэвы. Пяюць птушкі. Вадзяны млын не працуе. Поўны суму і роспачы, брыдзе на масток Паўлюк Багрым. Абапёрся на парэнчы.

Паўлюк. Што ж цяпер рабіць? Увосень крошынская грамада не дала пану Юрагу з каморнікам паставіць панскія капцы на нашых палетках, але ж першы гэты капец быў паліты крывёю бацькі. Бязлітасна збіты тата зімою нас асіраціў... У губерні, замест таго каб абараніць нас, пачалі следства пра бунт. Упаўнаважаных выклікалі ў Горадню, Камінскага пасадзілі ў астрог як завадатара. Цяпер прыслалі паперу, што губеранскае прысуцтва вынесла пастанову лічыць зям-

лю нашу радзівілаўскаю, а крошынцаў як былых прыгонных Радзівілаў вярнуць назад у прыгон пану Юрагу... Што нам рабіць цяпер? Куды падацца са скаргаю?

Э с т а р к а *(прыбегла з агарода на масток)*. Я праз Лаўрына дазналася пра навіну з Горадні. Крошынцам трэба змагацца!..

П а ў л ю к. Змагацца?! Але як?

Э с т а р к а. Мой бацька сказаў, што губернатар прыехаў новы і, можа, варта звярнуцца да яго...

П а ў л ю к. Арлоўскі склаў ужо скаргу губернатару і думае, што, можа, ён, як рускі вяльможа, не звязаны яшчэ з тутэйшымі магнатамі, скасуе прыязную маладому Радзівілу і яго швагру пастанову!..

Э с т а р к а. Вось бачыш, Паўлюк, яшчэ не ўсё страчана. А потым тата думае, што трэба і падмазаць... Казённыя служэбнікі ласы на хабары!..

П а ў л ю к. Залуцкі таксама людзям пра гэта казаў... Меркавалі, меркавалі і ні да чаго не прыйшлі... Адзін кажа — на гэта тысячы трэба, а дзе яны ў нас! Другія — а каму даць, калі не ведаем, ад каго ўсё залежыць... Не губернатару ж?

Э с т а р к а. Можа, і пра гэта трэба паталкаваць з Арлоўскім. У Горадні ён мог бы дазнацца, каму і колькі ў такім выпадку трэба «даць у руку»!.. *(Азірнулася і ўбачыла Марыльку.)* Ну, вось і яна... Бывайце!.. *(Выходзіць.)*

М а р ы л ь к а. Дзень добры, Паўлючок. Як жа ты жывеш, скажы?

П а ў л ю к. Стаў працаваць у кузні замест таты, але тое, што раблю, выходзіць яшчэ не вельмі складна.

М а р ы л ь к а. Навучышся. У цябе рукі залатыя.

П а ў л ю к. Толькі ў рабоце і забываюся пра тату.

М а р ы л ь к а *(галубячыся)*. Калі стане цяжка на душы — кліч мяне да сябе. Згодзен, Паўлючок?

П а ў л ю к. Прызнаюся, часамі аж плакаць хочацца. А ўчора, як усе леглі спаць, прысунуў бліжэй да стала лучнік і сеў за паперу... І запісаў новы верш, песню жальбы...

М а р ы л ь к а. Ён з табою?

П а ў л ю к. Маю тут.

М а р ы л ь к а. Прачытай мне яго.

П а ў л ю к *(дастае лісток з-за пазухі і чытае)*.

Зайграй, зайграй, хлопча малы,
І ў скрыпачкі і ў цымбалы,
Я ж зайграю ў дуду,
Бо ў Крошыне жыць не буду!

Бо ў Крошыне пан сярдзіты,
Бацька кіямі забіты!..
Маці тужыць, сястра плача...
Дзе ж ты пойдзеш, небарача?

Дзе ж пайду я? Мілы божа!
Пайду ў свет, у бездарожжа,
Ў ваўкалака абярнуся,
Слёзна на вас азірнуся...

Будзь здарова, маці міла!
Каб ты мяне не радзіла,
Каб ты мяне не карміла,
Шчасліўшая ты бы была!

Каб я каршуном радзіўся,
Я бы без паноў абыўся:
У паншчызну б не загналі,
У рэкруты б не забралі,

І ў маскалі б не аддалі...
Мне кавалём век не быці,
А ў маскалях трудна жыці,
А я і расці баюся —
Дзе ж я, бедны, абярнуся?

Ой, кажане, кажане!
Што ж не сеў ты на мяне,
Каб я больш не падрос,
Ды ад бацькавых калёс!

Марылька. Дай ты мне яго, Паўлючок!

Паўлюк. Я б хацеў перапісаць яго ў сшытак! А тады б табе і аддаў!

Марылька. Пасля запішаш.

Паўлюк. Добра! На табе яго!.. Хай пабудзе ў цябе, Марылечка, пакуль што!

## СЦЭНА IX

Скарга сялян новаму губернатару не памагла, і справа крошынцаў, абвінавачаных у «бунце», была перададзена ў вайсковы суд і ў двор Крошын, дзе павінен быў адбыцца гэты суд. У пачатку лета ў суправаджэнні эскадрона ўланскага палка, у якім калісьці служыў афіцэрам пан Юрага, з'явіўся сам губернатар з князем Радзівілам, з чынамі губеранскай улады і жандармерыі.

На высокім парадным ганку крошынскага палаца быў сабраны стол, каб частаваць гасцей з Гродні. А перад ганкам накрыты зялёным сукном стол, на якім — судовае «зярцала» з дзяржаўным арлом у пазалоце. Тут будзе тварыцца суд над «бунтаўшчыкамі». Ля ганка варта з уланаў, адзін з якіх стаіць ля «зярцала» з аголеным палашом. За сталом на ганку гаспадар з жонкаю, яго швагер і высокія чыны з Гродні.

Юрага *(увіхаецца ля губернатара).* Я буду шчаслівы бачыць ваша сіяцельства сваім госцем у любую пару года. Мы наладзім паляванне на якога захочаце звера — у мяне на Случчыне, за Старобінам, ёсць пушча, у якой водзяцца мядзведзі, рысі, дзікі, ласі, лані, ёсць і собаль, лісіцы, дзівосная вавёрка... У любы вольны для вас, ваша сіяцельства, час буду рад прыняць вас і вашу сям'ю!..

Губернатар. З вялікай ахвотай выкарыстаю вашу гасцціннасць!.. Закончым толькі справу, выдалім адсюль галоўных бунтароў, усё супакоіцца, і... тады знойдзецца падстава на значную адлучку з Горадні. Атрымаю службовую паездку сюды *(смяецца задаволена)* праверыць спакой на месцы былога бунту сялян!

Юрага *(смеючыся, у тон губернатару).* А заадно і спалявацъ у пушчы цікавага звера. Гэта сапраўды вялікая прыемнасць — палажыць яго адзіным стрэлам!

Губернатар *(са здавальненнем).* Я згодзен з вамі, пане Юрага, што паляванне — адна з лепшых уцех высакароднага чалавека!.. Абавязкова прыеду да вас.

Юрага *(заўважыўшы, што пан Гулькевіч з паперкаю ў руцэ хоча гаварыць з ім).* Прашу прабачэння, ваша сіяцельства, я на хвіліначку пакіну вас, бо трэба аддаць загад! *(Падыходзіць да Гулькевіча.)* Спіс гатоў?

Гулькевіч. Вось ён! *(Падае лісток.)*

Юрага. Ага, усе дванаццаць, так, як я і казаў. Камінскі Казімір — правільна, стаіць першы, Залуцкі Цімох... А чаму Валькоўскага Нупрэя не бачу?

Гулькевіч. Я мысліў, што, можа, застары ён, ваша мосць!

Юрага. Якраз і трэба такому сівому псу паказаць, што чакае падбухторшчыкаў да бунту ў Расійскай дзяржаве. Упішыце яго ў спіс.

Гулькевіч. Тады каго ж тут выкрасліць?

Юрага. А няхай будзе чортаў тузін бунтароў! Страшней будзе і тым, хто ў спісе, і тым, хто пойдзе пад маё ярмо!

Гулькевіч. Проша пана, яшчэ хачу спытацца — чаму не бяруць пад суд нікога з Пуцятаў?

Юрага. Пан губернатар лічыць, што, даведаўшыся пра крошынцаў, пуцятаўцы і не бзыкнуць!.. *(Падыходзіць да камандзіра эскадрона, той адыходзіць з ім убок.)* Вось вам спіс галоўных тутэйшых бунтаўшчыкоў!.. Пан Гулькевіч з вашым афіцэрам праедзе, каб арыштаваць іх...

Камандзір эскадрона. Спіс гэты ўзгоднен з панам губернатарам?

Юрага *(пышліва)*. Я маю ад яго сіяцельства на гэты конт карт-бланш!

Камандзір эскадрона. Я прывык слухацца!.. *(Да Гулькевіча.)* З вамі паедзе наш ротмістр. *(Да ротмістра.)* Вось спіс бунтаўшчыкоў. Возьмеце каманду ўланаў, арыштуеце і даставіце сюды на суд!

Ротмістр. Выканаю зараз жа, пане падпалкоўнік!

Адасобіўшыся ў куточку ганка, жонка Юрагі і прыгожы уланскі афіцэр пан Запанскі фліртуюць.

Антаніна. Я ведаю, што ўланы — вялікія майстры на кампліменты дамам, але пан Запанскі, відаць, найвялікшы з іх: за дзесяць хвілін — тры дыфірамбы... Скажыце, у вас хопіць запасу на іх, калі мы пасядзім яшчэ якую паўгадзіну?

Запанскі. О, наймілейшая пані гаспадыня! Ніколі не хопіць слоў, каб аддаць хвалу жаночай красе.

Антаніна. Ой-ой!.. Распуснікі ўсе ж вы, уланы! Раздураны вы страшэнна!.. Нездарма пра вас у песні пяецца: «Не една дзевчына за вамі полеці, не една і вдова за вамі, улані, полецець гатова!»

Запанскі. А таму, мая пані, што «ўлані — гэта прыгожыя дзеці...»

А н т а н і н а. А можа, таму, што яны і вядуць сябе зусім як малыя дзеці.

З а п а н с к і. О божа! Які жорсткі прыгавор з такіх прыгожых вуснаў!

А н т а н і н а *(смеючыся)*. Кіньце гэтыя кніксены, будзьце мужчынам.

З а п а н с к і. Безнадзейна, мая пані, бо стрэлы вашых вочак прымусілі маё сэрца сыходзіць крывёю.

А н т а н і н а. І вы з усімі дамамі такі?

З а п а н с к і. Які, пані? Дагаворвайце.

А н т а н і н а. Такі вісус і залётнік. *(Рагоча.)*

З а п а н с к і. Божачка!.. Які бязлітасны вырок!..

Праз некаторы час усе трынаццаць крошынцаў стаялі перад вайсковым судом. Судовая справа вялася хутка.

С т а р ш ы н я  с у д а. Суд выслухаў паказанні абвінавачаных і сведак і, перш чым пайсці на сваю нараду, прапануе кожнаму з вас, абвінавачаных, сказаць сабе ў абарону апошняе слова. З цябе, дзед Валькоўскі Анупрэй, пачнём... Што ты скажаш сабе ў абарону?

А б в і н а в а ч а н ы я *(усе разам)*. Скажы ўжо за ўсіх, Анупрэй!

В а л ь к о ў с к і. Здавён-даўна ўладалі мы сваёю зямлёю, на якой сядзелі нашы продкі... І таму пастанову прысуцтва мы абскардзілі пану губернатару, які абяцаў нам, упаўнаважаным, нашу справу разгледзець сам асабіста. Бунту не было, мы толькі перашкодзілі каморніку перамерваць нашу зямлю пад поле пана Юрагі.

С т а р ш ы н я  с у д а. Суд выходзіць на нараду.

Тым часам на ганку разгарнулася размова з губернатарам пра крошынскую парафіяльную школу.

К а н с т а н ц і н  Р а д з і в і л. Як стала нам вядома, замест таго каб сялянскіх дзяцей толькі вучыць чытаць ды пісаць, іх адукоўвалі чытаннем вулічнай віленскай газеткі «Вядомосці бруковэ», якая піша супроць падданства мужыкоў.

Г у б е р н а т а р. Хто ж там гэтым займаўся?

К а н с т а н ц і н. Арганіст крошынскага касцёла Рыгор Арлоўскі. Ён жа старшым вучням чытаў і тлумачыў газету. Сёлета ў школе вучылася 35 хлопцаў і 16 дзяўчынак.

Г у б е р н а т а р *(да жандарскага палкоўніка Мор-*

*дасава).* Тут вам, Якаў Пятровіч, работа! Адчуваеце, які тут завязаны вузельчык! 35 хлопцаў выхоўвалі ў крамольным духу. Пашліце зараз жа свайго афіцэра з уланамі. Абшукаўшы, арыштаваць... *(Да Радзівіла.)* Як зваць яго, гэтага арганіста?..

К а н с т а н ц і н. Рыгор Арлоўскі.

Ю р а г а. Ваша сіяцельства, я таксама звяртаю вашу ўвагу яшчэ і на тое, што ў пару самаўпраўства крошынцаў адзін з вучняў гэтай школы, лаючы нас «бязбожнымі катамі», крычаў: «Бацькоў выдаліце — мы на іх месца станем, а свае зямелькі не аддамо!» Гэта быў сын каваля Павел Багрым!

Г у б е р н а т а р. Якаў Пятровіч, школу пасля вобыску зачыніць назаўсёды. Вучня ж Паўла Багрыма, абшукаўшы ўсё ў хаце, узяць пад хатні арышт да канца следства. Дазнанне па справе школы правесці і закончыць сёння ж, каб заўтра прынятыя рашэнні далучыць да справы бунту.

М о р д а с а ў. Сёння ж усё закончым!

Г у б е р н а т а р. Вось такія багрымы якраз і збіралі тайныя хаўрусы для барацьбы з уладай. Наш паважаны манарх, імператар Мікалай, навучыў нас, якую трэба праяўляць цвёрдасць з такімі ворагамі дзяржавы.

У абвешчаным прыгаворы суда было запісана: «Вайсковы суд лічыць даказаным удзел памянёных трынаццаці крошынцаў у бунце і ў непакорнасці ўладам. Паводле законаў Расійскай імперыі яны падлягаюць кары смерцю, але, прымаючы пад увагу ранейшыя іх, на працягу гадоў, сумленныя адносіны да ўладара Крошынскага двара, суд прызнаў магчымым памянёным першым у спісе дзесяці абвінавачаным кару смерцю замяніць ссылкаю на вечныя часы ў Сібір. Трох жа земляпашцаў-мяшчан мястэчка Крошын — Альберта Саулевіча, Рыгора Беньку і Тодара Мягу, якія, як даведзена сведкамі і паказаннямі сялян Крошына, зусім не ўдзельнічалі ў бунце, прызнаць па суду апраўданымі і таму з-пад арышту аслабаніць. Прыгавор абскарджанню не падлягае».

## СЦЭНА X

Як толькі ў Крошынскі двор прыехалі з уланамі губеранскія чыны, Рыгор Арлоўскі зразумеў, што пачынаецца расправа і суд над «бунтаўшчыкамі». Трэба было падумаць як пра сябе, так і пра моладзь, якой пагражала доля стаць прыгоннымі сялянамі пана Юрагі. Выйсце ён знаходзіў у тым, каб моладзь зараз жа выехала з Крошына і пачала новае жыццё на іншых местах, ма-

ючы новыя пашпарты. Арлоўскі пабачыўся з Лаўрынам Ганчарыкам і даручыў яму памагчы ўсім, хто захоча ўцячы.

Арлоўскі. Лаўрын, прыезд «гасцей» з Горадні, як стала вядома нам праз пакаёўку Касю,— дрэнь справа! Рыхтуюць суд і расправу над крошынцамі!.. Зямлю іх аддадуць пану Юрагу, іх саміх зробяць прыгоннымі. Вось што чакае крошынцаў!.. Камінскі даўно ўжо сядзіць, і яго прывезлі сюды, каб далучыць да тых, каго збіраюцца люта засудзіць!.. Я хачу вас, маладых, выратаваць!.. У мяне ў Бабруйску ёсць чалавек, які мае там і ў другіх гарадах сваіх прыяцеляў, рускіх людзей, якія дастануць вам належныя дакументы і памогуць знайсці вам работу... Вось табе ліст да яго і яго адрас! Я вылучыў на вас са сваіх сродкаў дзвесце рублёў срэбрам, падзеліш іх між усімі, але хай крыху грошай хлопцы возьмуць і з дому, калі ў каго знойдуцца. Я адсюль зараз жа знікаю, каб не трапіць у жандарскую пастку. Жычу вам, мае каханыя хлопчыкі і дзяўчаткі, удачы і поспеху, а ў асабістым жыцці і шчасця! Будзь здароў і ты, Лаўрыне. Давай развітаемся! *(Абдымае і цалуе яго.)*

Лаўрын. Няўжо ж мы больш так і не ўбачымся? *(Стараецца стрымаць слёзы.)*

Арлоўскі. Хто ведае. Магчыма, што больш і не сустрэнемся! Я выбраў сярод вас за старшага якраз цябе, Лаўрынка, і ведаю, што ўсё зробіш як след! Бывай жа! Вітай ад мяне ўсіх!

Разыходзяцца.

### СЦЭНА XI

Лаўрын Ганчарык сабраў усіх, хто скончыў крошынскую школу, каб выявіць, хто не захоча ісці пад ярмо няволі. Арлоўскі не памыліўся: усе як адзін рашылі выбрацца з Крошына. Сход гэты зрабілі ў пустой адрыне. Лаўрын ужо чакаў сваіх. З'явілася сямёра.

Галасы. Сюды? Ёсць тут хто?

Лаўрын *(адказвае)*. Так, так. Сюды. Смялей. Сядай бліжэй да мяне! *(Праз некалькі хвілін прыйшлі ўсе, каго звалі.)* Ну, усе сабраліся. Пачну з цябе, Кастусь. Меркаваў, як станеш цяпер жыць?

Кастусь *(пахмура)*. Як ні мяркуй, усіх нас чакае хамут пана Юрагі! А як ты, Алена, глядзіш?

А л е н а. Як бацькоў, так і нас чакае адна доля — прыгон!

Л а ў р ы н. Ну, а ты, Юзік, і ты, Ядвіся, што скажаце?

Ю з і к *(са злосцю)*. Панскага бізуна не хачу.

Я д в і с я. Тата аж сцямнеў у твары: усё яму ў гаспадарцы стала няміла!

Л а ў р ы н. Тодар, а ты як глядзіш на свой заўтрашні дзень?

Т о д а р. Я, братка, удвая павінен думаць: пра сябе з Галінаю дый пра Паўлюка!.. Але нічога не прыдумаў, браток! Чакае ўсіх няволя!

Л а ў р ы н. Праўда, калі падумаеш, што нам прынясе прыгон, дык ажно жаль бярэ!.. Але чалавек дбайны аб нашай долі падумаў і ўжо знайшоў выхад з такога безнадзейнага становішча.

У с е р а з а м. Хто ж гэта?.. Які выхад?

Л а ў р ы н *(суцішаючы галасы)*. Наш мілы, дарагі ўсім нам настаўнік Рыгор Арлоўскі!.. Паклікаў мяне да сябе дый кажа, што трэба знікнуць адсюль...

Г а л а с ы *(прыцішана)*. Але куды ж? Куды?

Л а ў р ы н. На першыя гады на ўсход — у расійскія губерні... Ды гэты чалавек ведае, як і куды нас накіраваць!..

Г а л а с ы. Там жа такі ж прыгон!

Л а ў р ы н. Не на вёску ж падаёмся, а ў гарады, канешне!.. Сваім скажыце, што праз некаторы час дасце пра сябе вестачку... Цяпер рашайце.

К а с т у с ь. Мы з Аленаю згодны.

Т о д а р. І я з Галінаю і Марылькай згодны, Лаўрынка!

Ю з і к. І мы з Ядвісяю згодны ехаць!

Л а ў р ы н *(задаволена)*. Ну і я рад, што мы ўсе такія дружныя! Тодар, выйдзі з адрыны, зірні, ці не цікуе хто за намі.

Т о д а р выходзіць і неўзабаве вяртаецца назад.

Т о д а р. Нікога.

Л а ў р ы н. Ліст я даю таму, хто выправіцца першы сёння ж у другой палове дня... Хто з вас паспее сабрацца?

Ю з і к. Мы з Ядвісяю.

Л а ў р ы н. Дык вось табе ліст да друга Арлоў-

скага. Адсюль даедзьце да Слуцка, а адтуль балаголам у Бабруйск... Хто заўтра выедзе раніцаю?

**Кастусь.** Мы з Аленаю!

**Лаўрын.** Чулі? Перш у Слуцак, а адтуль балаголам у Бабруйск. Адрас завучвайце на памяць і ў Бабруйску ні ў кога не пытайцеся па паперцы.

**Тодар.** Па чарзе адзін за адным і будзем усе пададавацца.

**Лаўрын.** А я, браткі і сястрыцы, паслязаўтра раніцою разам з Эстаркаю. Ну, а цяпер вось вам на кожную пару па 50 рублёў, на кожнага — 25! Тодару — 75, бо іх едзе трое разам! Мне — 25 рублёў, бо Эстарка мае свае грошы.

**Кастусь.** Ну, разыдземся па адным, як умовіліся!

**Лаўрын.** Канешне, каб нікому не кінулася ў вока.

**Юзік.** А як жа будзе з Паўлюком?

**Тодар.** Не пашанцавала яму, небараку, горш як нам. Яго, чутно, здадуць у салдаты.

**Лаўрын.** Пастараемся выбавіць, каб ён уцёк. Гэта мы з табою і зробім, Тодар.

**Юзік.** Як не ўдасца — можам яго зусім загубіць. За ўцёкі ж салдата б'юць шпіцрутэнамі, і мала хто гэта вытрымлівае.

**Лаўрын.** Канешне, яны хочуць яго замардаваць не за бунт ці за якую другую правінку, а за песні, у якіх ён расказвае пра народную бяду. І нам конча трэба выбавіць Паўлюка яшчэ да здачы ў салдаты. Салдатчына яго даканае, нездарма ж ён так не любіць яе. Два гады як лічыцца выхаванцам палка, а прысягі не дае... Ну, дарагія сябры, будзем паціху разыходзіцца. А ты, Тодар, астанься, пагаворым, як гэта зрабіць.

Развітаннем з пацалункамі канчаецца іхняя апошняя сустрэча перад уцёкамі з Крошына.

## СЦЭНА XII

За вёскай, непадалёк ад Багрымавай кузні, праходзіць дарога ў Крошынскі двор. Шэраю раніцаю павінны павесці туды арыштаванага Паўлюка Багрыма. Тут, пры дарозе, чакаюць яго **Лаўрын** з **Эстаркаю**.

**Эстарка.** Дык з Паўлюком нічога ў вас не выйшла?

Л а ў р ы н. Хто ж ведаў, што яго так скоранька арыштуюць.

Э с т а р к а. Ну, а цяпер нам хоць дадуць развітацца з ім?

Л а ў р ы н. Я даў вартавым па зялёнай асігнацыі, і яны былі рады. Ды вунь, выводзяць.

Каля кузні паказаўся П а ў л ю к з маткаю і старэйшаю с я с т р о ю. За імі ідуць у л а н ы. Лаўрын з Эстаркаю чакаюць іх.

П а ў л ю к *(да Лаўрына).* Тодар падбае пра Галінку з Марылькаю. А пра матулю я спакойны — грамада сказала: «Багрыміха нам цяпер як родная — за мужа і за сына». Я вельмі дзякую ўсім.

Л а ў р ы н. Будзь спакойны, Паўлюк. Нам толькі вельмі шкада, што забралі твае сшыткі. У сваіх песнях ды вершах ты так многа і хораша пісаў пра нас. І колькі было ў іх гневу да нашых душыцеляў!

П а ў л ю к. Не кажы, Лаўрын. Мабыць, за тыя сшыткі я і атрымаў дваццаць пяць гадоў салдатчыны. Што ж зробіш. Дурны я быў, што не паслухаўся Марылькі ды не аддаў тых сшыткаў ёй на схованocc.

Л а ў р ы н. От што, дарагі Паўлюк. У войску ты бутаксама бліжэй трымайся свае кавальскае справы. Будзеш падкоўваць коней, яно будзе лягчэй, а мы не пакінем свае думкі, каб і адтуль выбавіць цябе. Абы ўдалося добра ўцячы, а там мы ўжо цябе прыхаваем.

Э с т а р к а. Ты гэта памятай, Паўлюк, і гэтай надзеяй жывi.

П е р ш ы ў л а н. Давайце канчаць развітанне, а то мы тут на адкрытым месцы стаім надта доўга.

Д р у г і ў л а н. Прыйдзем, а камандзір і папытаецца, дзе доўга былі. І дадуць паўсотні шпіцрутэнаў.

Б а г р ы м і х а. Навошта ж нам добрых служывых пад такую кару падводзіць. *(Да сына.)* Ну, Паўлючок, беражыся ўсяго ліхога! Будзь здаровы і не забывайся на нас. *(Цалуе сына і хрысціць яго.)*

Г а л і н к а *(абдымае брата, цалуе).* Бывай, Паўлючок! Мы з Тодарам цябе не забудзем!

П а ў л ю к *(да Лаўрына і Эстаркі).* Бывай, брат! Бывай, сястрыца Эстарка!

На ўсходзе, куды вялі Паўлюка Багрыма, уставала ўжо сонца, і ў яго праменнях малады беларускі паэт крочыў паміж сваімі канваірамі, поўны веры, што памогуць рускія браты крошынскай моладзі.

*1965*

# ПРАЗ МУКІ — ДА ШЧАСЦЯ КАМУНІЗМА

Цяперака, як ніколі да гэтага, выразней выявіўся самы асяродак тых сілаў, якія, узбуджаныя ўмовамі сусветнай барацьбы, паўсталі на змаганне адна з другою. Пад стрэлы гармат і сакатанне кулямётаў, пры праменнях пажараў гінучых ад баёў мест і вёсак, сярод азёр чалавечай крыві і гор забітых, пад стогн скалечаных і зраненых радзілася тая сіла працоўных грамад, якая, заплаціўшы страшэнную цану разбойніку-суседу за сваё вызваленне з яго моцных лап, узяла на сябе паклён або змагчы вайну, або згінуць у гэнай барацьбе. Расійская ўлада работнікаў і сялянскай беднаты, маладая на першым часе сіламі, сталася сваёй рэвалюцыйнай практыкай, з сэрцам, поўным гарачай веры ў справу вызвалення працоўных мас ад уціску вайны і самога вінавайцы яе грашаўніцтва (капіталізму) — пачала сваё змаганне ў гэтым напрамку. Навакола ўсталі ворагі работніцкага класа, білі і цкавалі яго з усіх бакоў, адкрыта і з-за вугла, а працоўны клас моцнай рукой адказваў усім, ведаючы, што ў смяртэльным змаганні не можа быць спагады ворагу, калі не хочаш сам ляжаць пад яго нагамі. У гэтым пачэсным баі з ворагамі працоўнай беднаты многа было дзён светлых і дзён безнадзейных, слаўных перамог і горкіх мінут паражэнняў, вольных і нявольных памылак... Так, як і заўсёды бывае, на полі смяртэльнай бойкі!.. Ішла барацьба крывавая, але побач ішло і будаўніцтва новага ўстрою жыцця... Таксама давалася нялёгка і гэтая пакутлівая праца будоўлі лепшай долі беднаты.

Але ішлі нядзелі і месяцы — і ўжо год мінуў, як працоўны стан Расіі творыць сваё новае жыццё, умацоўваючы свой работніцкі савецкі рэспубліканскі ўрад.

Рэвалюцыйны рух і барацьба за інтарэсы працоўнага стану за гэты час разрасліся нязвычна: узбагацела сілаю і тая партыя камуністаў-бальшавікоў, якая вяла і вядзе за сабою працоўныя масы Расіі...

Змаганне за новы ўклад жыцця, за сацыялізм у ім, за сацыяльную рэвалюцыю — іначай, за вызваленне з капіталістычнага ўстрою жыцця і перабудову яго на сацыялістычны лад — гэта змаганне выйшла ўжо за рубяжы Расійскай савецкай рэспублікі і ў гэтыя рашаючыя моманты сусветнай вайны становіцца сусветнай рэвалюцыяй. Народы Украіны, Аўстрыі, Венгрыі, Балгарыі, Нямеччыны і іншых вялікіх і малых краёў прылучаюцца з кожным днём да руху, і моц новага жыцця з'яднае народы ў брацкую суполку. Высока падняты ўгору чырвоны сцяг міжнароднай Камуны, з праклянцем капіталізму кідаюць мазольныя рукі работнікаў аружжа смерці, дадзенае ім супраціў іншаземнага брата; кліч брацкай згоды коціцца па ўсіх франтах. Міжнародныя разбойнікі капіталу спяшаюцца здолець свайго злучанага ворага, каб барджэй заўладаць чужым дабром, каб грабежствам другога народа задурыць і зацямніць, на здраду сусветнай згодзе, галаву свайго народа...

Паспеў рашаючы час!

Мы, пакуль што невялічкая сямейка беларусаў-камуністаў, у такі момант падаём і свой голас, ідзём на змаганне за лепшую долю свайго гаротнага працаўніка — беларускага народа.

Хай жыве Камуна!

Хай жыве брацкая суполка народаў!

Хай жыве наш працоўны беларускі народ!

Хай жыве слаўная Расійская Сацыялістычная Федэрацкая Савецкая Рэспубліка!

Перад намі, беларусы-камуністы, цяпер адказная праца. Скора будуць сцёрты і дэмаркацыйныя межы, і агулам не будзе рубяжоў акупацыі. Бацькаўшчына-Беларусь вернецца ў сям'ю народаў Савецкай Расіі. Незвычайна шмат работы чакае нас, у якой патрэбен кожны сталы камуніст. Браты, гуртуйцеся па секцыях беларусаў-камуністаў пры гарадскіх раёнах або розных

камуністычных арганізацыях і гатуйцеся да агульнага з'езда беларускіх камуністаў. Наш агульны з'езд вызеліць кіраўнічыя сілы, бо трэба ў такі паважны момант браць працу ў свае рукі.

За працу, беларусы-камуністы! Гуртуйцеся, каб потым дружна і хутка здолець ворагаў на бацькаўшчыне!..

*1918*

# БЕЛАРУСКАЯ СЕКЦЫЯ РАСІЙСКАЙ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ

24 лістапада адбыўся першы агульны сход Маскоўскай Беларускай секцыі РКП/бальшавікоў/. Секцыя ўжо афіцыйна зацверджана, і нягледзячы на тое, што далёка не ўсе таварышы беларусы-камуністы былі паведамлены за малым часам, сход сабраў некалькі дзесяткаў чалавек. Нельга не падкрэсліць, што адказны для нас, беларусаў, момант захапіў усіх, і прамовы ўсіх гаварыўшых таварышаў не мелі лішніх слоў, былі поўны энергіі і веры ў свае сілы. Сход працягнуўся некалькі гадзін, але прамовы ўсіх былі заслуханы з неаслабнай упікнасцю, як ні стаміліся ўсе ад беспераоыўнага пасяджэння. Каму даводзілася быць на розных іншых беларускіх палітычных сходах — таго дух камуністычнага сходу мог вельмі здзівіць. Чулася моц.

Па прапанове аднаго з таварышаў сход успомніў памяць тав. Хрэнава, памёршага на гэтых днях ад гішпанкі. Зацвердзіўшы новых сваіх членаў і заслухаўшы даклад арганізацыйнага бюро аб усёй рабоце па заснаванню Секцыі, сход перайшоў да важнейшага пытання павесткі дня — стварэння той камуністычнай сілы з беларусаў, якая павінна ўзяць на сябе ўвесь цяжар працы маменту, каб вырваць беларускі народ з кіпцяў міжнароднага імперыялізму, з рук сваёй краёвай буржуазіі. Беларускія камуністы, на погляд усіх прамоўцаў, павінны як мага хутчэй згуртаваць свае сілы і кінуць іх на барацьбу з тымі ліхімі ворагамі беларускай працоўнай масы, якія пазбіраліся і каля Рады «незалежнае» рэспублікі, і каля эсэраўска-бундаўскага цэнтра губернскага земства, і каля астаткаў найміташ польскіх паноў, легіянераў, і каля розных контррэвалюцыйна-афіцэрскіх бюро, займаўшыхся вярбоўкай людзей у паўночную і паўднёвую арміі. Трэба разам з тым выкарыстаць момант, калі неспадзяваны націск Чыр-

вонай арміі захапіў яшчэ не гатовымі ўсіх гэтых чорных крукоў рускай рэвалюцыі.

Буржуазныя элементы Беларусі, гуртуючыся каля Мінскай Рады, кінуліся цяпер шукаць помачы ў Берліне, Кіеве, Варшаве і Вільні, увайшлі ў звязак з дзяржавамі Сагласу (Антанты), але нішто не выратуе іх ад гневу народнага. Разам з тым польскія імперыялісты (эндэкаўскага кірунку) паспяшаюцца захапіць Гродзеншчыну (як Беласток, Гродна, Ліду), каб не ўспусціць моманту; ужо к Баранавічам падыходзяць з захаду гэтыя легіянеры... Беларусь кіпіць, як гарачы кацёл... Рэвалюцыйнае сялянства, не ідучы за Радай, за земскім цэнтрам, дзе згуртаваліся сацыялісты-згоднікі, застаўшыся без правадыроў, месцамі паднялося на абяззбройванне нямецкіх акупантаў, нягледзячы на іх нібыта-рэвалюцыйнасць, часамі проста перабіваючы іх, рэжа паноў па маёнтках. Лічачыся з адказнасцю моманту, сход аднагалосна прызнаў патрэбу склікаць як найхутчэй агульны з'езд прадстаўнікоў усіх беларускіх камуністычных арганізацый, як існуючых у савецкай Расіі, так і ў акупіраванай Беларусі, каб выдзеліць той кіруючы камуністычнай працай на Беларусі цэнтр, які так цяпер патрэбен краю.

Падрыхтоўка з'езда даручана камітэту секцыі, для ўстанаўлення ж адносін і сувязей з іншымі ўжо існуючымі беларускімі секцыямі ў Пецярбургу, Тамбове, Саратаве выдзелены тры асобныя дэлегацыі, па атрыманню звестак ад якіх аб змове з гэтымі пунктамі будзе вырашаны і дзень, і месца з'езда.

Другім паважным пытаннем сходу было становішча Белнацкома. Адказныя працаўнікі яго досыць канкрэтна абрысавалі ўсе ўмовы працы, у якіх нёс сваю працу Белнацком. Секцыя вымушана была прызнаць, што праца камісарыята ішла ў надта цяжкіх варунках, якім не можа быць месца ў савецкай рэспубліцы.

Разам з тым сход лічыў патрэбным узяць Белнацком пад агульнае кіраўніцтва і кантроль, каб пашырыць яго працу, як гэтага вымагае адказны перад рускай і сусветнай рэвалюцыяй момант.

Без галасоў процiў секцыя прыйшла да пастановы, што патрэбна прапагандысцкая штодзённая газета, якая несла б у масы камуністычныя ідэі і вяла б напрамак поглядаў працоўнага гаротніка Беларусі. З-за тэх-

нічных прычын да часу павінна быць выкарыстана «Дзянніца», дзеля чаго патрэбна яе выпускаць часцей, а з выхадам чыста партыйнай беларускай газеты ў «Дзянніцы», як афіцыяльным органе камісарыята, друкаваць апрача афіцыяльнага матэрыялу яшчэ чыста дзелавыя справаздачы і артыкулы і хроніку будоўлі новага жыцця. Пастаноўлена яшчэ выдаваць патрэбную камуністычную літаратуру.

Прыдаючы вялікую вагу пастаяннай сувязі партыйных працаўнікоў на розных абавязках, дзеля творчай працы саміх мас, ахопленых камуністычным рухам, сход секцыі пастанавіў адкрыць у Маскве «Беларускі камуністычны клуб», а дзеля гэтага выбраў асобную камісію з пяці асоб, даручыўшы ім разам з культурна-асветным аддзелам Белнацкома падрыхтаваць як хутчэй гэту справу.

Пасля важнейшых пытанняў павесткі сход заняўся выбарамі: быў выбраны камітэт секцыі з 9 чалавек і 3 да іх кандыдатаў; выбраны прадстаўнікі ад секцыі ў Прэсненскі раённы камітэт партыі, у Маскоўскі гарадскі камітэт РКП, у раённы саўдэп і сакратарыят ЦК партыі.

Сход закончыў сваю працу прынцыповай пастановай, што секцыя лічыць патрэбным як найскарэй і як у найбольшым ліку працаўнікоў паслаць сілы на Беларусь дзеля агітацыі і савецкага будаўніцтва...

*1918*

# БЕЛАРУСКАЕ ЖЫЦЦЁ Ў МАСКВЕ

Як і трэба было чакаць, націск самога жыцця змяніў шмат што ў тутэйшых беларускіх арганізацыях. Абедзве некамуністычныя беларускія палітычныя арганізацыі, як «Беларуская Сацыялістычная Грамада», так і «Беларуская народная грамада», памерлі «сваёю смерцю». Лепшыя сілы першай «узарвалі яе знутры», разышоўшыся з пазіцыяй свайго партыйнага ЦК. Другая ж арганізацыя, «Народная грамада», страціўшы свайго кіраўніка, п. Цвікевіча, памалу замерла і цяпер саўсім не падае ніякага голасу і ўжо больш 3—4 месяцаў як не збіраецца. Што належыць да прафесіянальных з'яднанняў служачых чыгунак і пошты, тэлеграфа і тэлефона, то яны скора будуць ачышчаны ад шкодных камуністычнаму руху асоб і кіраванне хаўрусамі возьмуць на сябе шчырыя прыяцелі працоўнага беларускага народа, а не людзі, якім было калісьці па дарозе з буржуазіяй.

І, канешне, такія змены можна толькі прывітаць, бо ўжо даўно раздаюцца галасы нездавольства кіраўніцтвам гэтых гурткоў.

Звяртае на сябе ўвагу праца апошніх тыдняў у Беларускім навукова-культурным таварыстве. Выбраная яго агульным сходам рэдакцыйна-выдавецкая камісія, у склад якой увайшлі вядомыя вучоныя, як праф. Пічэта В. І. і народазнаўца Янчук М. А., выпрацавала шырокі план выдаўніцтва, з якім увайшла цераз культурна-асветны аддзел Белнацкома ў навуковы аддзел Народнага Камісарыята асветы. Можна спадзявацца, што план гэты, дэталёва і жыццёва-прыкладна распрацаваны, атрымае патрэбнае падтрыманне і ўсе тыя навуковыя і практычныя выданні, што шмат маюцца гатовымі ў рукапісах, «убачаць скора свет»... Напрыклад, маюцца зусім гатовыя навуковыя працы:

1. Збор матэрыялаў па народазнаўству Беларусі — праца ў 40 друкаваных аркушаў па 16 лістоў у кожным, з малюнкамі і нотамі; гэта зусім новыя матэрыялы з беларускага народнага жыцця, звычаяў, музыкі і народнай творчасці, сабраныя апошнімі гадамі і нідзе не друкаваныя.

2. Збор беларускай народнай творчасці, раней ужо друкаванай, але ў розных выпадковых, рэдкіх і заграцічных выданнях, карыстацца якімі раней можна было або за граніцаю, або толькі ў Пецярбургу і Маскве; у ім будзе не менш 25 друкаваных аркушаў.

3. Зборнічак народных беларускіх песень дзеля школьнага выкарыстання (карагоды, гульні, пацехі і інш.).

4. Некалькі манаграфічных прац па гісторыі Беларусі пад рэдакцыяй праф. Пічэты.

5. Некалькі кніжак па сельскай гаспадарцы ў прыкладзе патрэб новых форм землекарыстання (камуны), інтэнсіфікацыі (моцнага грунту выкарыстання) гаспадаркі новых іншых патрэб сучаснага моманту сярод працоўнага сялянства і яшчэ некалькі іншых падрыхтаваных да друку рэчаў. Як бачым, таварыства ідзе насустрач новым патрэбам сучаснага палітычнага парадку.

Падрыхтоўка двухмесячніка «Беларускае жыццё», выдання Беларускага навукова-культурнага таварыства, шпарка ідзе наперад, і ад рэдакцыі мы даведаліся змест № 1. Сярод іншых матэрыялаў звяртаюць на сябе ўвагу такія артыкулы: цікавыя нарысы па гісторыязнаўству Літвы і Беларусі (аб кіеўскіх вучоных школах Антановіча); нідзе яшчэ не друкаваныя вершы і пераклады-вершы М. Багдановіча, Цішкі Гартнага, Я. Купалы і іншых; артыкул аб палітычных напрамках у беларускім нацыянальным руху з прылажэннем дакументаў гістарычнага характару; народныя песні, сабраныя ў Слуцкім павеце яшчэ ў 50-х гадах мінулага веку, атрыманыя з папераў вядомага маскоўскага вучонага Бадзянскага; нарысы эканамічнага жыцця на Беларусі (скураныя і драўляныя вырабы) і інш. артыкулы. У першым сшытку будзе некалькі фатаграфій, малюнкаў і будуць прыкладзены ноты. Трэба пажадаць толькі аднаго, каб цяжкія цяпер тэхнічныя варункі не затрымалі б скарэйшага выхаду ў свет гэтага журнала.

Калі пецярбургскаму Беларускаму вольна-эканамічнаму таварыству ўдасца падрыхтаваць і свой месячнік «Беларусь», мы можам тады мець два навуковыя перыядычныя выданні, справа, аб якой калісьці мы, беларусы, маглі б мець толькі адны голыя спадзеі. Так творыцца новае жыццё.

Можна думаць, што прыезд у Маскву з Мінска лідэра беларускіх эсэраў гр. Грыба стаіць у звязку з той дэлегацыяй, якую пасылае Мінская Беларуская Рада да савецкага ўрада Расіі і ў якую ўвойдзе і чакаемы беларусамі ў Маскве Р. Зямкевіч. Цікава, як маятнік Рады хістаецца з боку ў бок, то ў Берлін, то ў Маскву. Дарма стараюцца шукаць выхаду! Наш гаротны народ даўно выказаў, куды глядзяць яго вочы са спадзеяю помачы, і толькі для палітыканаў яшчэ не ясна — з народам ці без яго.

Першае таварыства драмы і камедыі ў Мінску, атрымаўшы матэрыяльную помач на сваю асветную працу сярод беларускага народа, хоча прыехаць на гастроль у Маскву на каляды. Трупа і хор цяпер маюць што паказаць братняму вялікарасійскаму працоўнаму народу. Тэатральны аддзел Камісарыята народнай асветы абяцаў таварыству сваю помач дзеля гэтага прыезду ў Маскву. Белнацком ад сябе зробіць, што зможа.

*1918*

# ПІСЬМЕННІК-ДЭМАКРАТ АЛЬГЕРД АБУХОВІЧ

У 1893—1894 годзе, калі я быў яшчэ вучнем трэцяга ці чацвёртага класа Слуцкай гімназіі, мой бацька, вярнуўшыся са службы ў паштова-тэлеграфнай канторы, дзе ён працаваў дробным служачым, папярэдзіў маю маці, што вечарам у нас будзе госць, якога трэба ветліва прыняць.

— Ты, пэўна, чула пра пана Абуховіча? Паны лічаць яго дзіваком, бо ён адрокся ад маёнтка і сям'і, жыве на свой уласны заработак, знаецца з простымі людзьмі і нават піша вершы на старой мове, мове мужыкоў і рамеснікаў. Ён праз сваіх знаёмых гімназістаў даведаўся, што нашы хлопцы абодва вучацца ў гімназіі, і прыйшоў да мяне ў кантору, каб са мною пазнаёміцца, і вельмі мяне і цябе хваліў за тое, што мы так дбаем пра навучанне сваіх дзяцей... Я запрасіў да нас гэтага прыяцеля працоўнага народа, добрага і прыязнага людзям чалавека. Дык, калі ласка, паклапаціся!..

А вечарам таго дня, у агародчыку ля дома, дзе мы жылі, за чайным сталом з рознай закускай, мы мелі госцем гэтага «дзівака» і слухалі яго, Альгерда Абуховіча, вершы на беларускай мове, пераважна байкі. У іх пісьменнік умела, у трапных выразах і словах высмейваў паноў і падпанкаў, заможных сялян і фанабэрыстых шляхцюкоў, ксяндзоў і царскіх «чынадралаў»... Бацька з маткаю з захапленнем слухалі яго творы і часта дружна смяяліся.

Я сядзеў і слухаў як зачарваны, бо ўпершыню з вуснаў пана, хаця і ў паношанай вопратцы, прытым ад

чалавека ўжо са срэбрам у валасах, чуў «дзіва» — мілагучныя вершы на той мове, якой я, жывучы да дзевяці гадоў у сям'і дзеда і бабкі, карыстаўся, якую я лічыў прыгожай і якую я ў гімназіі бараніў перад сваімі аднакласнікамі, што яе ганілі і высмейвалі. Пісьменнік у маіх вачах цяпер паўставаў як абаронца мовы свайго народа, як вястун і чараўнік роднага слова.

Помніцца, што яшчэ разы са два Альгерд Абуховіч быў наведвальнікам нашай сям'і, і кожны раз пасля слухання яго баек, сатыры і вершаў мацнела ў мяне любоў да роднай мовы, і я ўжо не са слязьмі ў душы, а з гнеўнай упэўненасцю абараняў сваю родную мову, называючы тых, хто ставіўся з пагардай да яе, здраднікамі свайго народа.

Пісьменнік цікавіўся нашымі поспехамі ў вучобе і, калі даведаўся, што брату цяжка даецца французская мова, запрапанаваў, каб наступным летам мой брат хадзіў да яго тры разы на тыдзень займацца гэтай мовою. Абуховіч ад платы адмовіўся, хаця за іншых вучняў грошы атрымліваў, бо на гэты заработак ён і жыў. Тут трэба сказаць, што пісьменнік, як зазначала гаспадыня пакоя, які ён наймаў у старэнькай Федаровіч (на Іванаўскай вуліцы), у некаторыя месяцы траціў на свой абед толькі пяць капеек. Мае бацькі ледзьве атрымалі згоду Абуховіча на замену грошай за вучобу брата натураю. Мы мелі добры агарод, курэй, бацька ставіў венцяры на рыбу, і матка наша стала перадаваць Федаровічысе, якая варыла пісьменніку, патрэбную для яго гародніну, яйкі, а пры бацькавай удачы — і рыбу. А калі пад вёскаю Іграевым мы з бацькам лавілі ракаў ці калі хадзілі па грыбы, стол пісьменніка ўзбагачаўся гэтымі прадуктамі.

Памятаю, у пісьменніка часта бывалі Кавалеўскі, Зянковіч, Вострасабліны (імёны іх і як іх зваць па бацьку — не памятаю), Аляксандр Ярэміч *, Іван Чудоўскі, Пятро Карповіч **, Аляксандр Піярэль, адзін з братоў Мігаеў і іншыя. Часцей за ўсё вяліся размовы пра ўзаемаадносіны ў нашай гімназіі вучняў з настаўнікамі, пра забароненыя для чытання гімназістам кнігі,

* Потым вядомы хірург; памёр на Далёкім Усходзе.

** Пазней забіў міністра Багалепава. Загінуў пры звароце з Англіі на параходзе ад нямецкай міны.

пра паўстанне 1863 года на Беларусі і бясконцыя размовы пра класікаў рускай, польскай і сусветнай літаратур.

Абуховіч вельмі добра валодаў французскай, італьянскай, англійскай і нямецкай мовамі. Лёгка чытаў на іспанскай мове.

Пры спрэчках, каб успомніць якое-небудзь месца з таго ці іншага твора класіка, Абуховіч падыходзіў да сваёй вялікай шафы з кніжкамі, хутка знаходзіў, што было патрэбна, і цытаваў цікавае ўсім месца.

Узнікала размова і пра мажлівасць для беларускай мовы стаць літаратурнай моваю, здольнай пры перакладах з іншых моў перадаць самыя тонкія адценні чалавечых пачуццяў і разуменняў. Памятаю, што Ярэміч, Карповіч і Зянковіч згаджаліся з Абуховічам, што беларуская мова зусім не бедная, наадварот, вельмі багатая словамі з рознымі адценнямі іх сэнсу. Іншыя ж мала верылі ў здольнасць роднай мовы.

На працягу некалькіх гадоў свайго знаёмства і наведвання пісьменніка я меў магчымасць паслухаць пераклады Абуховіча з «Фаўста» Гётэ, з «Разбойнікаў» Шылера, некаторых вершаў Віктора Гюго, Байрана, Дантэ. Уражанне ад пачутага ў мяне было моцнае.

У пісьменніка склалася прывычка класці ў кнігу побач з арыгіналам і яго пераклад. Гэта заўважылі, акрамя мяне, Ярэміч і Карповіч, і яны часта прасілі Абуховіча пачытаць свае пераклады і спасылаліся пры гэтым:

— У вас жа шмат закладак! Значыць, ёсць што нам прачытаць!

Трэба таксама зазначыць, што ў Абуховіча былі пераклады з Пушкіна, Лермантава, Адама Міцкевіча, М. Канапніцкай, Кандратовіча-Сыракомлі.

Нам, моладзі, вельмі падабаліся яго пераклады верша Лермантава «И скучно, и грустно» і асабліва пушкінскіх «Деревня» («Приветствую тебя, пустынный уголок») і «Вновь я посетил тот уголок».

Калі Абуховіч усхвалявана прачытаў нам свой пераклад пушкінскага «Ариона» («Нас было много на челне»), ён успомніў і пра падзеі з паўстання 1863 года на Міншчыне, удзельнікам якіх быў сам. Моцнае ўражанне пакінула на ўсіх нас яго апавяданне пра дзяўчыну, якая была фельчаркай-хірургам у іх паўстан-

скім атрадзе. Пасля ўдачы пад адным мястэчкам на паўночнай Случчыне паўстанцы адыходзілі ў лясы Ігуменшчыны. Аднак каля павятовага тракта ар'ергард іх быў атакаваны казачай паўсотняю. Калі быў паранены камандзір ар'ергарда, фельчарка кінулася да яго, каб перавязаць. Казакі не паглядзелі, што на яе грудзях, рукавах і касынцы былі чырвоныя крыжы. Дзяўчына была смяртэльна паранена і ўпала. Каб не даць казакам захапіць іх абаіх у палон, паўстанцы падцягнулі да месца бою ўсе свае сілы і вялі такі актыўны агонь па казаках да самага цямна, што здолелі вынесці абаіх таварышаў, праўда, ужо мёртвых. Гераіню пахавалі на высокім беразе Бярозы.

Абуховіч лічыў: няўдача паўстання 1863 года заключалася ў тым, што землеўласнікі баяліся ўзняць на паўстанне беларусаў-сялян, бо тады трэба было б аддаць ім зямлю.

Студэнтам я рэдка наведваў Слуцк. З ліста сваёй маці я дазнаўся, што Абуховіч памёр.

Калі ў 1921 годзе быў у Слуцку, ад сваёй маці і ад дачкі Казіміра Аколава сабраў некаторыя даныя пра пісьменніка. Вось яны.

Альгерд Абуховіч быў сынам заможнага землеўласніка на Случчыне. Разам з Казімірам Аколавым ён прымаў удзел у паўстанні 1863 года. Пасля адбыцця кары і вяртання ў сям'ю ён паставіў пытанне, каб зямлю аддалі былым прыгонным — сялянам. Супроць Альгерда Абуховіча ўзнялася яго сям'я, родная сястра, што замужам была за Ёдкам, таксама і іншая радня. Паколькі Альгерд Абуховіч быў цвёрдым у сваім рашэнні, яму, пасля вострых спрэчак, прыгразілі абвяшчэннем яго вар'ятам. У тыя часы такія справы не былі навіною, і царская адміністрацыя падтрымлівала тых, хто хацеў уціхамірыць падобных бунтароў супраць «асноў грамадскага жыцця». Тады Альгерд Абуховіч выбраў са сваёй бібліятэкі самыя любімыя кнігі і пакінуў родны дом. Перш ён пабыў у свайго прыяцеля Расудоўскага (маёнтак Курганы), потым перабраўся ў Слуцк, каб карміцца там урокамі.

Час ад часу яго наведвалі доктар Янушэвіч, Расудоўскі, Машэўская, Узлоўская. За 18 гадоў сваркі з сястрою паміж ёю і братам не было сустрэч, і толькі калі ўжо Альгерд цяжка захварэў, яна два разы наве-

дала яго. Цяжкая хвароба абарвала жыццё Альгерда Абуховіча. Жонка яго памерла ў Пецярбургу ад сухотаў значна пазней за яго. Глуханямая дачка пісьменніка жыла ў цёткі ў Пецярбургу.

Сваю бібліятэку і рукапісы А. Абуховіч аддаў Казіміру Аколаву, які жыў тады ў Слуцку і часта наведваў яго, асабліва калі ён захварэў. Па словах Федаровічыхі, кнігі і пісьмовы стол пасля пахавання прыяцеля Аколаў перавёз да сябе. Я спадзяваўся, што хоць што-небудзь магло застацца ад бібліятэкі Абуховіча, і прасіў дазволу дачкі Казіміра Аколава агледзець свіран, у якім была складзена бібліятэка. Аднак ніякага следу ад яе я там не знайшоў.

Дачка Казіміра Аколава расказвала, што яе брат, які працаваў у Варшаве, запрасіў бацьку прыехаць жыць да сябе. Казімір Аколаў, забраўшы з сабою бібліятэку і рукапісы Абуховіча, пераехаў са Слуцка ў Варшаву, дзе ў 1913 ці 1914 годзе памёр. Разам з кнігамі, напэўна, у Варшаву трапілі і шматлікія заклад-кі — пераклады пісьменніка. Было б, вядома, вялікаю ўдачай, калі б цяпер пры дапамозе Польскай Акадэміі навук і польскіх пісьменнікаў удалося знайсці ў Варшаве Аколавых, бібліятэку і рукапісы Альгерда Абуховіча...

Я ў 1920 годзе знайшоў на каталіцкіх могілках Слуцка магілу А. Абуховіча з невысокім каменным помнікам, на якім быў просты надпіс з імем і прозвішчам пісьменніка і датамі нараджэння і смерці. Як зойдзеш праз вароты могілак, яго магіла чацвёртая па левы бок у крайнім радзе, побач з магілаю доктара гімназіі Машэўскага.

*1958*

# ЧАЛАВЕК ВЯЛІКАГА СЭРЦА

У пачатку студзеня 1919 года мы ехалі з Масквы на работу ў Мінск праз Смаленск, дзе ў гэты час адбываўся з'езд прадстаўнікоў партыйных арганізацый Смаленскай вобласці і Заходняга фронту. У Смаленску жыў тады Янка Купала. Даведаўшыся ад Цішкі Гартнага, што ўвечары ён збіраецца пабачыцца з Янкам Купалам, я папрасіўся пайсці разам з ім, каб пазнаёміцца з вядомым пісьменнікам, якога дагэтуль ведаў толькі па яго творах.

Трапіўшы на аддаленыя ад цэнтра горада вуліцы, мы марудна ішлі ў цемры. Нарэшце ўбачылі домік, дзе жыў паэт. Пастукалі. Праз некаторы час пачуліся крокі, і жаночы голас спытаў:

— Вы да каго?

— Мы да Купалы Янкі!

Нам адчыніла дзверы маладая ветлівая жанчына.

— Заходзьце, калі ласка!— запрасіла яна.— Будзем знаёмы... Янка толькі сёння к вечару прыехаў са сваёй прадкомаўскай камандзіроўкі, стаміўся і лёг адпачыць... Распранайцеся, калі ласка, і праходзьце ў пакой!.. Я зараз разбуджу яго. Ён будзе рады пабачыцца са сваімі людзьмі, бо жывём у вялікай адзіноце і рады кожнаму чалавеку з Беларусі.

Перад намі была Уладзіслава Францаўна, такая дзейная, клапатлівая, гаваркая. Яна разбудзіла Купалу, і праз некалькі хвілін мы ўбачылі пісьменніка, які з усмешкай ветліва ціснуў нам рукі.

Мы селі. Купала скруціў казіную ножку, набіў яе тытунём, закурыў.

— Як жывецца? — спытаў Цішка Гартны.

— Няма чым хваліцца. Ды і не дзіва — колькі часу фронт непадалёку быў... Я служу ў тутэйшых наркампродаўскіх арганізацыях і часта бываю ў вёсцы...

Бачу, як жыве яна зараз. Заняпад страшэнны. Але нічога: народ, пажыўшы без цара і паноў, як спяваецца ў песні, усё набудзе і зажыве добра... Дух у селяніна бадзёры; у яго свярбяць рукі да вольнай працы на зямлі,— гаварыў Купала і нарэшце спытаў: — Якія ж у вас навіны? З чым едзеце на радзіму?

— Едзем будаваць вольную Беларусь! — у адзін голас адказвалі мы.

Калі ж Купала даведаўся, што ствараецца Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, што пра гэта днямі будзе апублікаваны маніфест урада рэспублікі, ён дужа ўзрадаваўся.

— Вось гэта радасная навіна! — усклікнуў паэт.— Уладзя! — паклікаў ён жонку, якая завіхалася ў другім пакоі.— Чуеш, якая навіна!

— Чую, чую! І рада ёй, як і ты! — адказала Уладзіслава Францаўна.

Купала не мог сядзець спакойна.

Ён падняўся, пачаў хадзіць па пакоі. Твар яго паружавеў, ажывіўся.

— От да якой радасці дажыў прыгнечаны вякамі наш беларускі народ! Пачакайце, свет здзівіцца, як мы цяпер закрочым наперад... Жыве наша Беларусь! — з захапленнем гаварыў ён.

Мы спыталі, ці піша Купала зараз.

— Пішу зараз рэдка... Цяперашняя мая служба адбірае так многа часу і так стамляюць раз'езды, што не да творчасці.

Вестка аб стварэнні Беларускай рэспублікі ўсхвалявала Янку Купалу, і ён зноў вярнуўся да гэтай тэмы.

— Што ж, цяпер патрэбны работнікі ў Беларусь. Яны ёсць у нас, але ж параскідаліся ўсюды. Прыйдзецца збіраць іх!

Я назваў імёны беларусаў, што працавалі ў Маскве па розных установах. Ужо многія з іх прыняты Беларускім камісарыятам на ўлік і будуць выкліканы на работу ў Беларусь.

— Я даўно чакаю таго дня, каб вярнуцца ў Беларусь,— сказаў нам паэт.— Мне хочацца хутчэй уключыцца ў літаратурную работу і пачаць больш пісаць твораў аб новым жыцці нашага народа.

Час праляцеў непрыкметна. Трэба было ўжо ісці на вакзал, і мы развіталіся з ветлівымі гаспадарамі.

Сустрэцца зноў з Я. Купалам давялося мне ў Мінску ў 1921—1924 гадах у так званай тэрміналагічнай камісіі Наркамата асветы.

Была тады вялікая патрэба ў распрацоўцы тэрміналогіі ў нашай мове. Купала прымаў у гэтай справе самы актыўны ўдзел. Мяне ўразіла, як добра ведае Я. Купала народныя назвы раслін, насякомых і жывёлін.

...Як вядома, паэт з захапленнем працаваў над празаічным і вершаваным перакладамі «Слова аб палку Ігаравым». Купала падышоў да гэтай работы вельмі грунтоўна. Ён старанна вывучаў важнейшыя артыкулы і паасобныя выданні, у якіх тлумачацца незразумелыя месцы тэксту «Слова».

Паэт казаў, што праца над перакладам «Слова» хоць і была цяжкай, але прынесла яму вялікае задавальненне. Ён аддаў ёй многа сіл і часу, бо хацеў захаваць своеасаблівасць гэтага высокамастацкага твора.

— Я так зжыўся з творам,— сказаў аднойчы Купала,— што, зрабіўшы пераклад, як бы адчуў сябе сааўтарам «Слова» і гляджу на гэту сваю працу як на сваю ўласную творчасць.

У 1922 годзе было заснавана выдавецкае таварыства. Купала, як член праўлення таварыства, куды ўваходзіў і я, актыўна працаваў пры складанні планаў першых выданняў. На яго ж плечы лёг і выпуск выданняў, сувязь з друкарняй паліграфтрэста. А сачыць за друкаваннем кніг трэба было пільна, бо друкарні тады працавалі дрэнна. Купала ж да гэтага часу меў ужо значную выдавецкую практыку ў Вільні.

Успамінаецца, як паэт абурыўся аднойчы пры сустрэчы з дырэктарам паліграфтрэста, які спрабаваў тлумачыць патрабаванні Купалы як выдавецкі капрыз. Выняўшы са сваёй папкі поўны памылак набор, нядбайна выпраўлены пасля некалькіх карэктур, Купала пытаўся ў яго:

— Гэта што такое, па-вашаму? Як не сорам гаварыць пра нашы капрызы! Ставіце на разбор шрыфту замест сталага наборшчыка вучняў і хочаце, каб мы з гэтакім наборам мірыліся! Не, так не выйдзе! Давайце работу належнай якасці.

...Пазней давялося мне бачыць Янку Купалу на рабоце ў Інстытуце беларускай культуры. Яго цікавіла

тады не адна толькі літаратурная секцыя. Мы часта бачылі Купалу на пасяджэннях тэатральнай падсекцыі мастацкай секцыі інстытута, на дакладах дырэкцыі БДТ-1 аб рэпертуары на 1923 год і іншых.

Памятаю, як Купала патрабаваў ад артыстаў добрага ведання беларускай мовы, правільнага вымаўлення беларускіх слоў. Ён прыводзіў прыклады памылак са спектакляў «Паўлінка», «Пінская шляхта», зазначаў, што іншы раз ужытае няправільна слова мяняе ўсю фразу і надае ёй інакшы сэнс.

Мне давялося шмат разоў бачыцца з Я. Купалам, гутарыць на розныя тэмы. Не ўсё ўтрымала памяць. Але вобраз народнага песняра Беларусі захаваўся як вобраз чалавека сціплага і настойлівага, чалавека вялікага сэрца, які штодзённа жыў клопатамі аб развіцці беларускай сацыялістычнай культуры, мастацтва і літаратуры.

## СВЕТЛЫ ВОБРАЗ

З Якубам Коласам мне давялося пазнаёміцца ў 1921 годзе ў Мінску, калі ў пачатку лета Наркамат асветы прызначыў нас лектарамі ў Слуцк, на настаўніцкія курсы. З Коласам мы дамовіліся ехаць разам і ў другой палове дня апынуліся нарэшце ў Асіповічах.

Тут нас «парадавалі» весткай, што толькі на другі дзень будзе цягнік на Старыя Дарогі і Слуцк. Мы гэтага не чакалі і харчоў з Мінска не ўзялі: ехалі ж у Слуцк, які слыў самым багатым раёнам на Беларусі. Буфета на станцыі яшчэ не было. Знаёмых у Асіповічах у нас таксама не было.

Успомніўшы, што да рэвалюцыі існавалі так званыя «заезды», мы пайшлі ў мястэчка. Нам параілі звярнуцца да аднаго з такіх гаспадароў заезнага дома, у якога заўсёды было чыста і які сумленна карміў прыезджых.

Знайшлі мы яго, але ён замахаў рукамі:

— Што вы! Што вы!.. Мы гэтым больш не займаемся! Не магу вам дапамагчы!..

Мы растлумачылі, што нам не патрэбны асобны пакой, можам паспаць без пасцелей, бо не паны. Пасля ўсіх дыпламатычных перагавораў гаспадар накарміў нас, і праз якую гадзіну мы, спакойныя, што маем начлег, пайшлі знаёміцца з мястэчкам.

Выйшаўшы з гарадка, селі каля лесу і разгаварыліся. Колас расказваў пра сваё жыццё ў Абаяні Курскай губерні. Тут жа я даведаўся, што пісьменнік закончыў вялікую паэму «Новая зямля», але, аднак, усё яшчэ лічыў патрэбным яе шліфаваць. Я выказаў жаданне пачуць хоць урывак. На шчасце, Колас меў пры сабе сшыткі з паэмаю і ахвотна згадзіўся пачытаць.

Цяжка зараз знайсці словы, каб перадаць тое моц-

нае ўражанне, якое зрабіла на мяне паэма. Гэта быў высокамастацкі твор, якога яшчэ не мела беларуская літаратура. Гэта быў гімн беларускаму лесу, лесу Мікалаеўшчыны, дзе прайшлі дзіцячыя гады Коласа. Паэт перадаў у творы ўсё тое замілаванне роднай прыродай, якім была поўна душа хлапчука, сына лесніка Міхала. Апяваючы «родны кут», пісьменнік паказаў, як бедавала сям'я беззямельнага селяніна, шукаючы выйсця з цяжкога становішча і марачы аб набыцці ўласнага кавалка зямлі.

Мы спынілі чытку паэмы, калі ўжо сцямнела.

Гаспадар наладзіў нам пасцелі.

Я доўга яшчэ гутарыў з Коласам, падбіваючы яго пазнаёміць на курсах настаўнікаў са сваім творам.

На другі дзень мы зноў на ўзлессі чыталі паэму, якую і закончылі перад самым адыходам поезда. Якія цудоўныя вобразы прыроды дадзены ў творы, якімі жывымі паўстаюць ляснік, яго жонка, адданая сям'і маці, верная спадарожніца свайго мужа, якая каларытная фігура дзядзькі Антося!..

Уражанне ад паэмы Коласа так поўніла мне душу, што я зусім не цікавіўся новаю для мяне чыгункаю, якая цяпер была дадзена да майго роднага кутка — да Слуцка.

Калі Якуб Колас на курсах закончыў чытку паэмы, усе сарваліся з месц і ў захапленні бурнымі воплескамі віталі аўтара. Было прапанавана зрабіць абмен думкамі аб паэме, і калі праз пару дзён адбыўся разгляд твора, агульнае захапленне ім было такое моцнае, што ўсе выступленніператварыліся ва ўсхваленне паэмы, яе вялікай літаратурна-мастацкай вартасці.

Потым мы з Коласам сустракаліся на рабоце ў тэрміналагічнай камісіі. Ён выступаў там рэдка, але заўсёды грунтоўна, і яго заўвагі былі аўтарытэтнымі. Многа часу ў тыя гады паэт аддаваў літаратурнай працы — пісаў вершы, працаваў над паэмай «Сымон-музыка», рыхтаваў да друку «Новую зямлю».

Калі заснаваўся Інстытут беларускай культуры, Колас стаў на чале слоўнікавай камісіі, якой была даручана ўся справа збірання слоўнага матэрыялу для беларуска-рускага слоўніка.

Я зараз не памятаю прозвішча таго збіральніка-аматара, які на працягу сарака гадоў вёў збор белару-

скіх слоў і ўвесь гэты багаты і каштоўны матэрыял перадаў камісіі, што пачала сваю работу, выкарыстоўваючы слоўнік Насовіча і зборнікі беларускага фальклору Раманава, Нікіфароўскага, Дабравольскага і іншыя публікацыі па вуснай беларускай творчасці. Хоць у слоўнікавай камісіі на папярэдняй тэхнічнай рабоце працавала нямала людзей, на старшыню камісіі клалася вельмі многа. Коласа гэта не спыняла, і ён на гэту работу не шкадаваў свайго часу і сіл.

Калі ж у 1929 годзе ўтварылася Беларуская Акадэмія навук, Колас, стаўшы членам яе Прэзідыума, і далей узначальваў работу слоўнікавай камісіі.

На ўсё жыццё застаўся ў маёй памяці светлы вобраз Якуба Коласа, чалавека плённай працы.

*1957*

## СУСТРЭЧА Ў ПЯЦІГОРСКУ

Увосень 1926 г. (жнівень-верасень) давялося мне лячыць у Кіславодску сваё launch ператомленае сэрца. Неяк я сустрэў каля нарзаннай галерэі Цішку Гартнага, які тады таксама лячыўся ў Кіславодску.

— Калі у цябе сёння няма ніякіх працэдур,— сказаў ён,— то варта было б паехаць у Пяцігорск, паглядзець, што там за такі Правал, і падняцца на Машук... Ды і домік Лермантава наведаць...

— Вельмі добра! — згадзіўся я.

— Перш заедзем у Есентукі. Пазавём Купалу і Коласа ды паедзем разам у Пяцігорск.

— Хіба яны там?

— Я ўжо быў у іх. Цэлымі днямі абое сядзяць за шахматамі і нават на свае працэдуры позняцца...

Праз паўгадзіны мы ўжо крочылі да іх на кватэру. Заходзім у пакой, а яны абое сапраўды нікнуць над шахматнай дошкай. Цішка закрычаў з абурэннем:

— А каб на вас... Вы ж за шахматамі свету не бачыце!.. Кіньце гульню, паедзем разам у Пяцігорск!..

— Гэх, Цішка, даў бы ты нам паўгадзіны часу, і я падстроіў бы Янку канфузны мат, а то ён вельмі нос задзірае пасля ўчарашніх дзвюх выйграных партый. Разумееш, змарыў мяне вечарам, і я даў маху — адкрыў яму дарогу, а ён і абрадаваўся,— прадаўжаў скардзіцца Колас, але Купала запрапанаваў:

— Слухай, Якубе, дык аб чым гаварыць? Пакінем на дошцы ўсё як ёсць, а вернемся дамоў — дагуляем. Згодзен?

— Добра,— адказаў Колас.

— Яшчэ, браток, пабачым, хто на кім паедзе,— засмяяўся Купала, устаючы з-за стала.

— А хіба пазаўчора я не на васпану ехаў? — жартам абараняўся Колас.

Хутка мы апынуліся ў поездзе. Не паспелі прагледзець купленыя на вакзале свежыя газеты, і ўжо вось ён, Пяцігорск.

Мы выйшлі з вагона. Гара Машук засланіла сабой гарызонт.

— Глядзі ты, які ён, Машук! Расселся сабе і свет людзям засціць! — заўважыў, смеючыся, Колас.

Распыталі дарогу да доміка Лермантава.

Домік славутага паэта — аднапавярховы, малы, з некалькімі невялікімі пакойчыкамі; вокны — таксама малыя, як ва ўсіх тутэйшых мазанках. Ён быў калісьці накрыты сухім чаротам, а пазней перакрыты дошкамі.

З глыбокай пашанай да светлай памяці вялікага паэта пераступілі мы парог гэтага доміка. Па сценах у рамачках, дзе пад шклом, а дзе — і незашклёных, віселі, выразаныя з часопісаў і газет, малюнкі да твораў пісьменніка, замалёўкі-партрэты людзей, з якімі жыў, сябраваў або быў знаёмы М. Ю. Лермантаў; тут жа — дзве-тры ілюстрацыі да «Дэмана». Відаць было, што экспазіцыя не прадумана як след, а выстаўлена тое, што апынулася пад рукамі.

Уваходзім у маленькі пакойчык з акном у садок. Ля акна — невялічкі прасторны столік, на ім, пад тоўстым шклом, аркуш пажоўклай паперы з недапісаным вершам. Перад столікам — старое крэсла...

Не памятаю ўжо хто — Купала ці Колас — упаўголаса сказаў:

— Вось які быў творчы кабінет вялікага паэта.

А нехта дадаў:

— А вось і канапа для адпачынку або творчага роздуму...

Толькі тут мы заўважылі, што ў прасценку над канапаю вісіць вялікі, у багатай раме, пісаны маслянымі фарбамі, партрэт. Хто ж гэты мужчына з пышнаю выпешчанаю барадою, ледзь кранутай сівізной? Які ў яго самазадаволены твар!

Цішка Гартны шукае подпіс пад партрэтам і, знайшоўшы яго, уголас чытае:

— «Дар сям'і Мартынава»!

І адразу ж усе мы на ўвесь голас гукаем:

— Забойца паэта!..

Абышоўшы ўсе пакоі музея, мы ўпэўніліся, што апрача танных алеаграфічных і літаграфічных малюн-

каў тут не было ніводнага добрага партрэта М. Ю. Лермантава, які вытрымаў бы параўнанне з пышным партрэтам яго забойцы.

Цішка Гартны адшукаў дзяжурную супрацоўніцу музея і папрасіў кнігу запісаў наведвальнікаў музея.

І мы запісалі ў ёй сваю крыўду за вялікага песняра свабоды, памяць якога шануецца так нядбайна.

Дарэчы, калі праз пару гадоў мне давялося зноў наведаць домік Лермантава, там усё стала інакш. З'явіліся копіі вядомых партрэтаў Лермантава. Падбор экспанатаў стаў багацейшы, і ўсталявалася нейкая сістэма ў экспазіцыі; пышны партрэт саноўнага забойцы апынуўся ў заднім пакоі, дзе захоўваліся старыя металічныя вянкі.

Развітаўшыся з домікам Лермантава, мы выйшлі на пляц і нанялі параконнага рамізніка, каб ён давёз нас да Машука.

Вось нарэшце і славуты Машук. Каб падарожнікі маглі агледзець навакольную мясцовасць і сам Пяцігорск, дарогу на вяршыню Машука правялі так, што яна, як тая спіраль, шырокаю стужкаю абвівае гару. І, сапраўды, цікава і прыгожа было, седзячы ў зручным фаэтоне, любавацца мясцовасцю і бачыць, як паступова расшыраўся краявід па меры таго як мы падымаліся на гару.

І вось мы на вяршыні Машука. З біноклем Цішкі Гартнага добра разгледзелі ўсё кругом, і асабліва дарогу на Мядовы вадапад, куды збіраліся паехаць праз некалькі дзён конна...

З гары парашылі сыходзіць не па «спіральнай» дарозе, а напрасткі. Упарта пёрліся па схіле, праз густы калючы кустарнік, траплялі ў кучы-мурашнікі, падалі, збіралі на сябе павуцінне, пыл і калючкі. Калі нарэшце, змучаныя, дасяглі падэшвы гары, дык апынуліся чуць не за кіламетр ад таго месца, дзе хацелі выйсці. І адразу пачалі прыводзіць сябе ў належны выгляд, чысціць адзін другога ад пылу і павуціння.

Помнік на месцы гібелі М. Ю. Лермантава стаіць ля падэшвы Машука. Гэта — чатырохкантовы абеліск, у тры-чатыры чалавечых росты вышынёю. У ніжняй частцы яго, у круглай нішы, стаіць бюст Лермантава. Вакол шырокага пастамента — зялёны газон і пакрытая гравіем пляцоўка, якую акружае агарожа з камен-

ных слупоў з цяжкім і тоўстым ланцугом паміж імі. Па чатырох кутках агарожы сядзяць на камяных стэпавыя арлы. Мастак-скульптар пасадзіў іх, крыху павярнуўшы да абеліска, месца, дзе ўпаў застрэлены паэт, нібы ўладары паветра хочуць засланіць левымі крыламі спушчаныя нізка ў смутку свае галовы.

Крыху ў бок ад помніка стаіць домік, дзе жыве вартаўнік, у якога захоўваецца кніга запісаў наведвальнікаў.

Акрамя нас, тады нікога больш ля помніка не было. Мы нейкі час пасядзелі моўчкі.

Вартаўнік, даведаўшыся, што мы з Беларусі, прынёс нам кнігу. Адсеўшы ўбок, усе трое нашых паэтаў упісалі ў кнігу вершы, прысвечаныя Лермантаву.

Пасядзеўшы яшчэ крыху ля помніка, мы вярнуліся на пяцігорскі вакзал і раз'ехаліся дамоў: Купала з Коласам — у Есентукі, мы з Цішкаю — у Кіславодск.

*1959*

# ПРА ЦІШКУ ГАРТНАГА

Мястэчка Капыль на Случчыне ў 80-я і 90-я гг. мінулага стагоддзя было вядома як адзін з цэнтраў саматужнага гарбарства на тэрыторыі Беларусі. Аднак моладзь з гарбарскіх сем'яў, пазбаўленая магчымасці пракарміцца работай у родным мястэчку, шукала працы па гарбарнях у іншых гарадах Беларусі.

Такую ж горкую долю саматужніка-гарбара спазнаў у маладыя свае гады і Змітро Жылуновіч, якому пасля вывучкі і працы ў гарбарнях Капыля давялося шукаць сабе хлеба па розных мясцінах Міншчыны і Віленшчыны. Трэба сказаць, што працоўная моладзь мястэчка Капыль не была палітычна адсталай: сюды ўжо траплялі «Іскра» і рэвалюцыйныя брашуры, існавала арганізаваная ў складчыну бібліятэка з такімі кніжкамі, як «Авадзень» Войніч і таму падобныя выданні. Пакідаючы родны кут, выходзячы ў «свет», таленавіты хлопец Змітрок Жылуновіч адчуваў сябе палітычна «відушчым», змагаром за лепшую долю для працоўных. Вандруючы па гарбарнях Беларусі, ён пасылаў свае карэспандэнцыі ў адзіную ў той час газету на роднай мове — у «Нашу ніву», што выходзіла ў Вільні. Абраўшы сабе літаратурны псеўданім Цішка Гартны, які падкрэсліваў яго «загартаванасць» да жыцця, Жылуновіч у сваіх вершах і паведамленнях з розных мясцін Беларусі выказваў свае думкі, настроі рабочых. Ён быў незадаволены тым, што рэдакцыя друкавала яго карэспандэнцыі не ў тых словах, якія ён ужываў, а замяняла іх больш далікатнымі або зусім выкідвала такія мясціны, якія не прапускаў цэнзар. Калі мы пазнаёміліся, Жылуновіч расказаў мне, што, трапіўшы ў Вільню, ён лаяўся з-за гэтага ў рэдакцыі, абвінавачваючы рэдактара ў палітычнай «мяккацеласці»... Вядома, ён не ўлічваў тады, што газета, выходзя-

чы «пад цэнзураю», не магла змяшчаць тое, што трэба было б сказаць.

Пазнаёміўшыся завочна з Цішкай Гартным па «Нашай ніве», у 1918 годзе я сустрэўся і пазнаёміўся з ім асабіста. Было гэта ў Маскве, калі туды з Петраграда пераехалі кіруючыя партыйныя і савецкія органы. Па абавязку старшыні Беларускага бежанскага камітэта я быў тады звязаны з Беларускім камісарыятам пры Народным камісарыяце па справах нацыянальнасцей. Цішка ж Гартны якраз працаваў у Беларускім камісарыяце загадчыкам выдавецкага аддзела. Па бежанскіх справах я часта наведваў камісарыят, і, як землякі, мы з Гартным хутка сталі сябрамі.

Са студзеня 1919 года і да стварэння так званай Літбелрэспублікі мы разам працавалі ў Мінску. Трэба тут зазначыць, што гістарычны тэкст Маніфеста ўрада Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі быў напісаны якраз Цішкай Гартным.

Пасля майго паўторнага пераезду на працу ў Мінск у 1923 годзе нам зноў давялося працаваць разам у кааператыўна-выдавецкім таварыстве «Савецкая Беларусь», якое ён узначальваў. Толькі дзякуючы настойлівасці і самаадданасці Цішкі Гартнага гэта выдавецтва дабілася значных поспехаў у падрыхтоўцы шэрага літаратурна-мастацкіх выданняў.

Паколькі своечасова выдаць падручнікі для беларускіх школ тэхнічнымі сродкамі тагачаснай Савецкай Беларусі было немагчыма, а друкарні РСФСР былі перагружаны, прыйшлося арганізаваць выданне школьных падручнікаў за мяжою. І, трэба зазначыць, гэту важную місію Цішка Гартны выканаў своечасова і тэхнічна бліскуча: ён дабіўся ў Берліне адліўкі новых беларускіх шрыфтоў, забеспячэння дабраякаснай паперай, выразнага друку. Гэту працу ён вёў напружана, з той упартасцю, якой быў надзелены сярод іншых асаблівасцей свайго характару. На догляд за друкам ён не шкадаваў ні часу, ні сіл.

Вярнуўшыся з Нямеччыны, Цішка Гартны шмат расказваў мне пра жахлівую беднасць беспрацоўных у Берліне. Яна гнала на вуліцы маладзенькіх дзяўчат, прымушала рабіць злачынствы, абы толькі трапіць на зіму ў турму, дзе, прынамсі, быў цёплы кут і хоць якая сытасць. У маёй памяці захаваліся расказаныя Гарт-

ным некаторыя эпізоды барацьбы берлінскага пралетарыяту за свае правы.

За некалькі месяцаў пражывання ў Берліне Гартны настолькі авалодаў нямецкай мовай, што мог чытаць нямецкія газеты. Прывёз ён адтуль выданні твораў Гётэ, Шылера, Гейнэ і іншых класікаў нямецкай літаратуры. Марыў перакласці «Фаўста» і вершы Гейнэ, аднак не пераклаў, бо ўвесь аддаўся сваім апавяданням, у якіх маляваў сваіх землякоў з іх тагачасным побытам і перажываннямі. Усё, што аджывала свой век, ён называў «трэскамі на хвалях» рэвалюцыі. Адсюль і назва зборніка: «Трэскі на хвалях». Больш шырока і глыбока сваіх сучаснікаў Гартны паказаў у рамане «Сокі цаліны».

Добра памятаю, як Цішка Гартны дружыў з нашымі слаўнымі заснавальнікамі новай беларускай літаратуры — Янкам Купалам і Якубам Коласам. Ён высока ставіў абодвух пісьменнікаў: Купалу лічыў таленавітым паэтам з багатай мовай і разнастайнай тэматыкай, Коласа ж — вялікім знаўцам сялянскага жыцця, быту і псіхікі, улюбёным у родную прыроду. У свой час Цішка Гартны падтрымліваў іх, клапаціўся аб паляпшэнні іх матэрыяльнага стану. Я ні разу не заўважыў, каб Гартны выказваў зайздрасць у сувязі з іх літаратурнай творчасцю ці папулярнасцю сярод моладзі і рабочых, каб дазволіў сабе хоць якую насмешку над імі. Між сабою яны ўсе трое былі дружныя, добразычлівыя, на «ты».

Такім я ведаў і такім быў у сапраўднасці Цішка Гартны, пісьменнік, дзяржаўны дзеяч, чалавек.

## СУСТРЭЧЫ З ЯНАМ РАЙНІСАМ

У 1926 г. у Мінск з Латвіі быў запрошаны вялікі друг беларускага народа, славуты пісьменнік і рэвалюцыйны змагар Ян Райніс.

У тыя гады я працаваў у Першым беларускім дзяржаўным тэатры (БДТ-1) і сустрэўся з госцем з Латвіі ў Наркамаце асветы. Намеснік наркома, знаёмячы мяне з Райнісам, сказаў:

— Таварыш Райніс вельмі цікавіцца працаю нашага тэатра, яго рэпертуарам, гісторыяй і прасіў пазнаёміць яго з чакавекам, які даў бы яму дакладную інфармацыю пра нашу тэатральную справу...

У размове з госцем я звярнуўся да Райніса па-руску, пытаючыся, з чаго мы пачнём нашу гутарку.

— Я папрасіў бы вас коратка даць мне гістарычны агляд беларускага тэатра, называючы пераважна даты, факты і людзей, а таксама рэпертуар,— сказаў мне Райніс.— Я хацеў бы ўсё гэта запісаць, бо, вярнуўшыся дамоў, збіраюся змясціць у нашай прэсе шэраг артыкулаў пра сучасную Савецкую Беларусь, адзін з якіх прысвячу, зразумела, беларускаму тэатру — яго мінуламу і сучаснаму стану.

— Між іншым, размаўляйце, калі ласка, са мною па-беларуску,— дадаў ён.— Я добра разумею вашу мову, бо нарадзіўся ў так званай Латгаліі (Усходняя Латвія.— *Я. Д.*), дзе, як вядома, латвійскія вёскі і хутары стаяць упярэмешку з беларускімі... У мяне з дзіцячых гадоў былі знаёмствы і дружба з беларускай моладдзю, і таму я так добра разумею беларускую мову, і калісьці я добра на ёй і сам гаварыў.

Пры далейшых размовах з Райнісам я карыстаўся ўжо беларускай мовай, і ён, запісваючы тое, што пачуў, у свой блакнот, вельмі рэдка прасіў растлумачыць асобнае беларускае слова.

10 Зак. 597

Зусім коратка я расказаў Райнісу аб відовішчных вытоках беларускай народнай творчасці, звязанай з бытавымі песнямі (асабліва, напрыклад, вясельнымі), гаварыў яму пра з'яўленне на Беларусі скамарохаў-валачобнікаў, затрымаў яго ўвагу на народнай драме «Цар Максімільян», палескі варыянт якой Беларуская тэатральная студыя ў Маскве выкарыстала для пастаноўкі. Творча абагаціўшы і апрацаваўшы народную драму, наша студыйная моладзь пад кіраўніцтвам вопытных настаўнікаў зрабіла «Цара Максімільяна» сваім першым спектаклем і паказвала яго ў маскоўскіх рабочых клубах і цэхах заводаў. Райніс захацеў абавязкова паглядзець гэту пастаноўку студыі, якая ўжо стала к таму часу Другім беларускім дзяржаўным тэатрам (БДТ-ІІ).

Кораценька я пазнаёміў госця з Латвіі таксама з беларускай батлейкай, поўнай народнага гумару і вострай сатыры.

Далей ішла размова пра так званую школьную драму, пра драматычную творчасць Сымона Полацкага, п'еса якога «Камедыя аб блудным сыне» была паказана ў Маскве пры двары цара Аляксея Міхайлавіча.

Хаця Ян Райніс вельмі старанна запісваў мой гістарычны агляд, я, каб забяспечыць дакладнасць пераказаных мною даных, запісаў іх пазней сам і перадаў Райнісу для выкарыстання.

Наша другая гутарка з Райнісам была даўжэйшай, і ён запісаў пра творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча, пра пастаноўку «Сялянкі», пра няўдачу з пастаноўкаю п'есы Ядвігіна Ш. «Злодзей», пра аматарскія пастаноўкі ў розных месцах Беларусі п'ес Крапіўніцкага і Ажэшкі ў 1905—1907 гг.

Асабліва зацікавіўся Райніс спектаклямі першай беларускай трупы Ігната Буйніцкага, яго мастацкім выкананнем беларускіх народных скокаў. Райніс грунтоўна запісаў і пра дзейнасць «Першага таварыства беларускай драмы і камедыі», трупа якога потым стала асновай Першага беларускага дзяржаўнага тэатра.

Ён папрасіў назваць яму рэпертуар, з якім працавалі трупы Буйніцкага і «Першага таварыства», вельмі зацікавіўся п'есаю К. Каганца «Модны шляхцюк», пытаўся, што зараз ідзе з п'ес В. Дуніна-Марцінкевіча.

Я назваў Райнісу «Пінскую шляхту» і тут жа запрасіў яго паглядзець гэту п'есу ў пастаноўцы Е. Міровіча на так званай малой сцэне БДТ-І.

— А хіба апрача памяшкання дзяржаўнага тэатра, вялікай сцэны, ён абслугоўвае яшчэ і меншую сцэну? — зацікавіўся Райніс.

— Так! — адказаў я.— Ёсць яшчэ малое тэатральнае памяшканне. Яго да гэтага часу выкарыстоўвала прыватная антрэпрыза, якая не забяспечвала ні належнага рэпертуару, ні мастацкага яго ўвасаблення. БДТ-І выкарыстоўвае малую сцэну без павелічэння свайго артыстычнага складу. Там мы ставім дзвюх- і аднаактовыя п'есы, дадаём аддзяленне дывертысменту... Даём дэкламацыю, сольныя і харавыя спевы, балетныя нумары... Каб расшырыць круг гледачоў, мы зрабілі шырокадаступныя цэны на білеты. Там жа практыкуем пастаноўкі для дзяцей і юнацтва...

— Гэта вельмі рацыянальна вамі зроблена. Ваш тэатр гэтым яшчэ больш павялічыў сваю папулярнасць,— сказаў Райніс.— Я папрашу пазнаёміць мяне з рэпертуарам малой сцэны.

Мы тут жа згаварыліся з Райнісам паглядзець апрача «Пінскай шляхты» яшчэ і «Зялёнага какаду» Шніцлера, пастаўленага рэжысёрам Мікалаем Паповым. Абедзве гэтыя пастаноўкі на Райніса зрабілі самае добрае ўражанне. У антрактах Райніс пазнаёміўся з «карэннымі» артыстамі БДТ-І У. Крыловічам і Г. Грыгонісам у «Пінскай шляхце» і Ф. Ждановічам у «Зялёным какаду», якія бліскуча вялі свае ролі. Райніс нагаварыў ім шчырых кампліментаў, выказаў задаволенасць ігрою і ўсіх іншых артыстаў, занятых у гэтых п'есах.

На «вялікай сцэне» БДТ-І Райніс паглядзеў п'есы Е. Міровіча «Каваль-ваявода» і «Кастусь Каліноўскі», пазнаёміўся з самім аўтарам і пастаноўшчыкам іх, які быў і рэжысёрам-настаўнікам артыстычных сіл БДТ-І, і застаўся вельмі задаволеным як зместам, так і рэжысёрскай выдумкай, і артыстычным выкананнем. У «Кавалі-ваяводзе» ён вельмі хваліў выкананні ролі блазна У. Уладамірскім. Помню яго словы, якія ён сказаў, захоплены ігрою апошняга:

— Які таленавіты артыст!

Ужо пасля знаёмства з Е. Міровічам, пахваліўшы

яго п'есу, напісаную на матэрыяле беларускага фальклору, Райніс сказаў пра У. Уладамірскага:

— У асобе артыста Уладамірскага вы знайшлі ідэальнага выканаўцу. Якія ў яго здольнасці пераўвасабляцца! Якая хуткая змена пачуццяў!

Мне Райніс пасля спектакля сказаў:

— Якая багатая артыстычная натура ваш Уладамірскі!

Артыст Г. Грыгоніс у ролі каваля-ваяводы сваёю ігрою таксама цешыў Райніса.

Прагледзеўшы спектакль, Райніс гаварыў Міровічу:

— Вы бліскуча напісалі свайго «Каваля-ваяводу», а паставіць маглі бліскуча толькі маючы такіх двух выдатных выканаўцаў, вядома, разам з такім здольным ансамблем артыстаў. І вы сумесна з імі па праву можаце ганарыцца сваімі поспехамі ў гледача!

П'еса «Кастусь Каліноўскі» таксама вельмі спадабалася госцю, і ён хваліў як змест яе, так і пастаноўку і асабліва артыстычнае выкананне роляў Каліноўскага У. Крыловічам і Мураўёва-вешацеля Г. Грыгонісам.

Калі я праводзіў госця з тэатра ў атэль, дзе ён жыў, ён сказаў мне:

— Ваша вялікая ўдача, што Міровіч аддаў усяго сябе беларускаму тэатру: ён здольны аўтар п'ес, таленавіты і багаты практыкаю рэжысёр і ўмелы настаўнік, які выхаваў дружны і каштоўны калектыў!

Разам з Райнісам пасля акадэмічнай канферэнцыі мы ездзілі ў Віцебск на ўрачыстае адкрыццё БДТ-ІІ, артыстычны склад трупы якога быў сфарміраваны з моладзі, атрымаўшай сцэнічную вывучку ў Беларускай тэатральнай студыі ў Маскве. У сваёй цёплай прамове Райніс вітаў малады беларускі тэатр, зычыў яму вялікіх поспехаў на шляху развіцця роднага беларускага мастацтва.

У гэты прыезд Райніса ў Мінск я атрымаў яго згоду на пераклад на беларускую мову для патрэб клубнай вясковай сцэны яго п'есы з падзей рэвалюцыйнага руху 1905—1907 гг. у Латвіі, якая выйшла ў 1930 г. у Мінску пад назвай «Гірт з Воўчага Логу».

*1962*

# ТЭАТРАЛЬНАЯ «ЗАДУМА» 1892 г. У РАДАШКОВІЧАХ

У пачатку дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі) напісаў камедыю «Злодзей» («Сваім судом»). Сакратар Маскоўскага этнаграфічнага таварыства М. Янчук, які спрыяў справе культурнага адраджэння беларускага народа і трымаў сувязь са студэнцкімі зямляцтвамі універсітэта і сельскагаспадарчай акадэміі (А. Лявіцкі быў студэнтам апошняй і «вылецеў» з яе за ўдзел у так званых студэнцкіх беспарадках), імкнуўся атрымаць дазвол цэнзуры на выданне п'есы і на пастаноўку яе на сцэне. Аднак ён так і не дабіўся гэтага.

У 1892 г. гурток беларусаў-інтэлігентаў мястэчка Радашковічы і яго ваколіц разам з аўтарам п'есы задумаў паставіць яе без цэнзурнага дазволу. Справа адбывалася летам, калі ладзілася платная маёўка...

За колькі дзён да маёўкі была прызначана генеральная проба. Але да судовага следчага, нібыта ў госці, прыехаў з Вілейкі павятовы пракурор, які дазнаўся пра пастаноўку п'есы, што не прайшла цэнзуры. Пракурор даў зразумець следчаму, што спектакль (да таго ж на беларускай мове, якая была пад забаронаю) можа прынесці ўсім ім, магчыма, сур'ёзныя прыкрасці. Паліцыя, каб зняць з сябе адказнасць, напэўна, дала ўжо данос куды трэба, і было магчыма паяўленне з Вільні жандараў, а гэта «пахла ўжо палітычнай справай».

Пасля такога папярэджання пракурора спектакль на беларускай мове так і не адбыўся, застаўшыся ў гісторыі ўзнікнення беларускага тэатра так званай радашковіцкай «тэатральнай задумай» 1892 г.

*1957*

# БЕЛАРУСКІЯ СПЕКТАКЛІ Ў ПЕРЫЯД РЭВАЛЮЦЫІ 1905 ГОДА

У 1902 г. радашковіцкая моладзь ладзіць беларускі спектакль «Па рэвізіі» Крапіўніцкага, які прайшоў удала і зрабіў на гледачоў вялікае ўражанне.

У ліпені таго ж года гэтая ж п'еса была пастаўлена на хутары Карлсберг пад Мінскам, дзе таксама пакінула моцнае ўражанне.

Жыццё вымагала, каб узнік беларускі тэатр, які б адыграў сваю арганізуючую ролю ў культурным адраджэнні. У гэтым сэнсе вельмі паказальныя матэрыялы «Нашай нівы». У 1906 г. мы чытаем такі адказ падпісчыку са Свянцян: «Пытаецеся, ці ёсць беларускі тэатр? Пакуль што няма, але здаецца, што на калядах ужо будзе. Прысылайце толькі п'есы, каб іх можна было ставіць».

Адсутнасць арыгінальнай драматычнай літаратуры, якая б задавальняла патрэбы народнага тэатра, што пачынаў будавацца беларускай рэвалюцыйнай дэмакратыі, прымусіла шукаць іншы адпаведны рэпертуар. Наведаўшыя Беларусь украінскія трупы ігралі камедыю М. Крапіўніцкага «Па рэвізіі», у якой нячадна паказана валасная ўлада на сяле. А ў царскія часы як на Украіне, так і ў Беларусі на вёсцы панавалі аднолькавыя парадкі. П'еса была перакладзена на беларускую мову доктарам Чарноцкім — адным з натхніцеляў тэатра, які пісаў у гэтай газеце пад псеўданімам «Апанас К.». Спектакль «Па рэвізіі» быў паказаны ў Радашковічах, на хутары Сніткі пад Мінскам, а ў 1906 г. на хутары Пятроўшчына пад Мінскам. У архіве тэатральнай секцыі Інбелкульта захоўвалася рукапісная праграмка спектакля.

Рэпрадукцыя той афішы надрукавана ў газеце «Літаратура і мастацтва» (№ 85, 1957) пры артыкуле Г. Барышава «Братнія сувязі». Апошні толькі недак-

ладна прачытаў прозвішчы выканаўцаў. Перадапошняга і апошняга трэба чытаць А. Каліна, Б. Дзяргач, Г. Барышаў лічыць гэтыя мянушкі за сталыя сцэнічныя прозвішчы артыстаў-аматараў. Са слоў А. Бурбіса, аднаго з удзельнікаў спектакля (ён іграў ролю вартаўніка валаснога праўлення і тады фігураваў пад прозвішчам Б. Дзяргач), ясна, што па канспіратыўных прычынах прозвішчы мяняліся, і таму лічыць іх пастаяннымі нельга.

Арганізатарамі спектакля ў Пятроўшчыне былі А. Бурбіс (яго палітычны псеўданім тады быў Піліп), С. Кукель і іншыя. Сцэнай служыла пляцоўка ля свірна. Лаўкі зрабілі для платнай публікі і знаёмых гаспадароў фальварка. Быў самадзейны аркестр — цымбалы, скрыпка і бубен. Парабкі суседніх двароў і фальваркаў і сяляне мелі дармовы ўваход на спектакль. Людзей з вёскі сабралася шмат, звыш трохсот асоб. Старых, каб маглі ўсё добра ўбачыць і пачуць, саджалі наперадзе.

Спектакль, у якім расказвалася пра знаёмыя вясковыя парадкі ў воласці, усім падабаўся. Калі ж пасля спектакля пачалася дэкламацыя тады яшчэ не друкаваных, а перапісаных ад рукі першых вершаў Янкі Купалы, сяляне сустрэлі роднае слова горача, са слязамі радасці. А калі Алесь Бурбіс прачытаў верш Купалы «Што ты спіш, беларускі мужык», які гучаў як заклік узняцца на цара і паноў, паднялася бура воплескаў і воклічаў: «Праўда!.. Правільна! Даўно пара!»

Гэтым вечар і скончылі. Але калі вёска прыняла словы маладога беларускага паэта ў звароце да гаротнага селяніна з прызнаннем вялікай у іх праўды, дык госці і суседзі-фальваркоўцы былі абураны. Яны выказалі гаспадарам Пятроўшчыны свой гнеў на гэты кліч, як яны казалі, «рэзаць паноў»... А тутэйшая ўлада ў асобе ўрадніка, а пазней і станавога прыстава, усё дабівалася, каб назвалі прозвішча таго, хто дэкламаваў. Назвалі прозвішча не існуючага ў сапраўднасці чалавека і сказалі, што ён трапіў сюды выпадкова.

*1957*

# ПЕРШЫ ПРАФЕСІЙНЫ ТЭАТР

Як з незлічоных рачулак і ручаін утвараецца магутная рака, так і са шматлікіх талентаў лепшых людзей краіны складаецца народнае мастацтва. За гады Савецкай улады імёны многіх выдатных нацыянальных спевакоў, драматычных артыстаў і танцораў сталі вядомы ўсяму савецкаму народу. Аднак, гаворачы пра велічныя здабыткі сучаснай беларускай культуры, варта ўспомніць і тых, хто стаяў ля вытокаў нашага прафесійнага тэатральнага мастацтва.

Яшчэ ў цёмныя гады царызму лепшыя сыны беларускага народа, абуджаныя рэвалюцыйнымі падзеямі 1905 года, пачынаюць задумвацца над стварэннем свайго нацыянальнага прафесійнага тэатра.

У 1909 годзе вакол газеты «Наша ніва» ў Вільні гуртуюцца значныя культурныя сілы беларускай інтэлігенцыі.

Вярнуўшыся з турмы пасля трохгадовага зняволення за рэвалюцыйную дзейнасць, Алесь Бурбіс актыўна бярэцца за арганізацыю беларускага тэатра і хору ў Вільні. У аматарскі драматычны калектыў увайшлі: Алесь Бурбіс, браты Родзевічы, Арлоўскі, Уласенка, Юрэвіч, Манькоўскі, Мікола Шыла, Алесь Ляжневіч, Янкоўскі, Алаіза Пашкевіч (Цётка), Мурашчанка, Карсачанка, Копаць і інш. У хор было прынята каля ста чалавек.

Так склалася беларуская тэатральная дружына ў Вільні, якая працавала на добраахвотнай аснове. Драматычны калектыў адразу ж пачаў рыхтаваць да пастаноўкі камедыю Крапіўніцкага «Па рэвізіі», а хор — развучваць беларускія народныя песні. Кіраваў хорам малады кампазітар Міхал-Людамір Рагоўскі.

Ішлі напружаныя дні рэпетыцый. І вось нарэшце 12 лютага 1910 года ў Вільні адбылося першае выступ-

ленне тэатральнай дружыны. Пасля спектакля «Па рэвізіі» беларускі хор пад кіраўніцтвам Рагоўскага праспяваў народныя песні «Чаму ж мне не пець?», «Ох ты, дуб!», «Прыляцелі гусі», «Ды куды ж ты, дуб зялёны!» і інш. Першая беларуская вечарына ў Вільні знайшла жывы водгук у сэрцах слухачоў і ў прэсе.

Газета «Наша ніва» з захапленнем пісала аб гэтым выступленні:

«Уся зала стала нібы бурным морам народным, уся дрыжала ад крыкаў: «Брава! Брава, беларусы!.. Біс!..» Хору прыйшлося па некалькі разоў спяваць песні, якія больш за ўсё захапілі сэрцы і душы людзей сваімі словамі, музыкай. Так віталі людзі ўсіх нацыянальнасцей беларускую песню, якая да гэтага лілася і разлівалася толькі па палях і пералесках, а цяпер адразу выйшла на свет шырокі. Чуваць былі адусюль словы: «Мы не ведалі, што ёсць беларуская песня і што яна асобная, беларуская, мае сваю душу».

На гэтую вечарыну рэдакцыяй «Нашай нівы» быў запрошаны з Палівачаў і Ігнат Буйніцкі, аб тэатральнай дзейнасці якога ўжо добра ведалі ў Вільні. Буйніцкі паказаў некалькі танцавальных нумароў. З вялікім густам былі выкананы «Лявоніха», «Мяцеліца», «Юрка» і «Верабей». «Трэба прызнацца, што яны ўдаліся на славу,— пісала пра танцы «Наша ніва».— Публіка проста адурэла, усе бясконца крычалі: «Брава, біс!» Па 3—4 разы прыйшлося танцаваць адзін танец. Танцоры, хлопцы і дзяўчаты, пад кіраўніцтвам Буйніцкага падабраліся такія, што аж сцэна грымела ад заліхвацкага тупату і ў вачах мільгацела, як танцавалі «Лявоніху», «Мяцеліцу» або калі дзесяць прыгожа апранутых пар завіваліся даўгім хвастом у «Вераб'і».

Гэта было першае выступленне трупы Ігната Буйніцкага перад гледачамі, і яны далі яго майстэрству найвышэйшую ацэнку.

Віленскі гурток аматараў, акрылёны гэтым поспехам, зразумеў, што зроблен пачатак вялікай справы, што яе абавязкова трэба развіваць і прадаўжаць. І работа ішла далей: былі пастаўлены такія творы, як «У зімовы вечар» Э. Ажэшка, «Пашыліся ў дурні» М. Крапіўніцкага, «Сватанне» А. Чэхава, «Модны шляхцюк» К. Каганца, «Паўлінка» Я. Купалы і інш.

Гурток перапыніў сваю работу толькі ў 1915 годзе, калі Вільня была акупіравана немцамі. Аднак увосень 1916 года ён зноў пачаў працаваць.

Другое выступленне трупы Ігната Буйніцкага адбылося 22 лютага 1910 года. Рыхтаваўся этнаграфічны вечар, мэтай якога было — пазнаёміць наведвальнікаў з тэатральнай культурай народаў Паўночна-Заходняга краю. У вечары прымалі ўдзел хоры, якія выконвалі рускія, украінскія, літоўскія, польскія і яўрэйскія песні. Беларускія песні спачатку не дазвалялі ўключаць у праграму. Кампазітар Рагоўскі спецыяльна для выступлення напісаў музыку на словы выдатнага верша Янкі Купалы «А хто там ідзе?», віленскія беларусы апрача песень наважылі паказаць на вечары і народныя танцы ў выкананні трупы Ігната Буйніцкага.

«Калі паднялася занавеска і велічна загрымелі словы песні Янкі Купалы «А хто там ідзе ў агромністай такой грамадзе? — Беларусы!»— успамінаў Алесь Бурбіс,— уся набітая паўнюсенькая зала ўстала. Пасля хору выступіў беларускі народны балет пад кіраўніцтвам Ігната Буйніцкага. Адзін за адным ішлі беларускія танцы «Лявоніха», «Мяцеліца», «Юрка», «Гневаш», «Чабор». Танцорам прыйшлося бясконца бісаваць на запатрабаванні публікі. Трэба адзначыць вялікі талент і энергію Ігната Буйніцкага, які ідэальна, па-мастацку апрацаваў беларускія народныя танцы».

Пасля другога і трэцяга выступленняў імя Ігната Буйніцкага стала самым папулярным сярод беларускай народнай інтэлігенцыі.

Поспех трох выступленняў не толькі паклаў пачатак працяглай і больш сталай працы Буйніцкага ў Вільні, але і па-сапраўднаму запаліў яго душу для далейшай дзейнасці ў гэтай галіне. Сапраўдны знаўца і мастак народных танцаў, ён вырашае стварыць сталую беларускую трупу і з ёю вандраваць па Беларусі.

Перад тым як нам падацца ўслед за гэтай трупай у першую гастрольную паездку, кораценька раскажам пра самога Ігната Буйніцкага.

Нарадзіўся ён 22 верасня 1861 года ў Празароцкай воласці Дзісненскага павета ў сям'і Цярэнція Буйніцкага. Скончыўшы Віленскае землямерна-таксатарскае вучылішча, ён як каморнік у маладыя гады працаваў на Ашмяншчыне, Полаччыне, Навагрудчыне і Магі-

лёўшчыне. Дзякуючы энергічнай працы і ашчаднасці ў сваім сямейным жыцці Буйніцкі сабраў пэўную суму грошай і набыў у растэрміноўку невялікі хутар Палівачы на Дзісеншчыне.

Працуючы каморнікам, малады Буйніцкі ўвесь час быў у раз'ездах, гэта дало яму магчымасць добра вывучыць побыт, звычаі, песні і танцы беларускага народа. Жыццярадасны па натуры, ён асабліва захапляўся народнымі танцамі, якія мелі свае багатыя мясцовыя асаблівасці і былі вельмі прыгожыя. У гады першай рэвалюцыі 1905—1907 гг. Буйніцкі прымаў жывы ўдзел у беларускім руху на Дзісеншчыне, наладжваў беларускія вечарыны з дэкламацыяй беларускіх вершаў, з песнямі і танцамі. Адсюль ён і пераймае багацце і прыгажосць народнага танца і сваімі выступленнямі прыносіць гледачам вялікае маральнае задавальненне.

Пасля неаднаразовых вялікіх поспехаў беларускіх спектакляў, народных песень і танцаў Буйніцкі ў канцы лета 1910 года нарэшце атрымлівае ад губернскіх улад дазвол на гастрольную паездку. І перш чым адправіцца ў падарожжа, ён са значнай часткай аматараў (Часлаў і Леапольд Родзевічы, Мікалай Шыла, Арлоўскі, Уласенка, Юрэвіч, Алесь Ляжневіч, Алесь Бурбіс і Алаіза Пашкевіч) прыязджае да сябе ў Палівачы, каб па-сур'ёзнаму падрыхтаваць гастрольны рэпертуар.

Скончыўшы ўборку ўраджаю ў Палівачах і рэалізаваўшы частку яго, каб мець сродкі на падарожжа, Буйніцкі пачынае свае гастролі.

21 жніўня 1910 года ў Народным доме горада Дзісны адбылося выступленне трупы. Яна паказала камедыю Каруся Каганца «Модны шляхцюк». Хор выканаў пяць народных песень. Артыстка Ванда Буйніцкая дэкламавала вершы Альберта Паўловіча, а артыст Часлаў Родзевіч — вершы Янкі Купалы. Канцэрт закончыўся беларускімі народнымі танцамі пад цымбалы, скрыпку і дуду.

«Наш ніва» так пісала пра гэту вечарыну: «Дзісна не памятае такога збору народу. Інтэлігенцыя і просты народ — усе шчыра віталі беларусаў. Калі пачаліся беларускія танцы на сцэне, уся зала стагнала глуха ад хвалявання і крыкаў, а на галовы танцораў сыпаліся кветкі».

Трупа Буйніцкага, наведаўшы Свянцяны, Паставы і іншыя мястэчкі Віленшчыны, прыехала ў Полацк. Для палачан, апрача камедыі К. Каганца «Модны шляхцюк», артысты трупы выканалі песні: «Чаму ж мне не пець?», «Пастушачка», «Ах ты, дуб!», «Гусі», «Баба ракі варыла». Артыст Я. Хвеакціст выканаў «Грайку» (словы Мацея Крапіўкі) і «Вясковыя кабеты». Артыст Швайка прадэкламаваў «Чаго б я хацеў» Янкі Купалы і «Хоць ты, сэрца, лопні, трэсні», а Алесь Бурбіс — вершы «Нёман» Якуба Коласа і «Край ты мой родны» Максіма Багдановіча. Канцэрт завяршылі народнымі танцамі «Юрка», «Мельнік», «Гневаш», «Лявоніха» і «Качан».

16 верасня ў Полацку адбылася другая вечарына. Друк адзначыў, што «...тэатр беларускі становіцца ўжо, дзякуючы клопатам і старанням Ігната Буйніцкага, на цвёрдыя асновы, і паяўляюцца ўсё новыя і новыя сілы. За гэтае старанне і клопат дзякуй яму. Калі-небудзь, калі абудзіцца свядомасць ва ўсяго беларускага народа, памяць Ігната Буйніцкага будзе святой для ўсіх».

Жыхары мястэчка і сяляне, пачуўшы аб прыездзе беларускага тэатра, валам валілі на спектаклі. Стаяла поўная цішыня, каля ішла п'еса, бо ўпершыню са сцэны гучала роднае слова.

Для беларускай правінцыі прыезд беларускай трупы быў справаю новай, і таму паліцэйскае начальства з асаблівай насцярожанасцю прыглядалася да Буйніцкага і яго артыстаў. Але саліднасць кіраўніка трупы, сталы яго ўзрост і срэбра ў валасах, яго такт і ўменне абыходзіцца з паліцэйскім начальствам, прад'яўленне губернатарскага дазволу на раз'езды і цэнзурных экземпляраў п'ес, а таксама беззаганныя паводзіны ўдзельнікаў трупы — усё гэта нават самым прыдзірлівымураднікам і прыставам не давала магчымасці прычапіцца да чагосьці «незаконнага».

Ігнату Буйніцкаму можна было радавацца вынікам сваёй працы. Аднак матэрыяльны бок справы быў не бліскучы, бо «даступная» плата гледачоў за месцы не пакрывала выдаткаў. Удзельнікі першай гастрольнай паездкі трупы не атрымлівалі нават ніякай платы.

Першы сезон Буйніцкі закончыў з вялікім поспехам. Кіруючыся самымі найлепшымі пачуццямі, ён вы-

рашае выехаць на гастролі ў Пецярбург, дзе ў той час пражывала вялікая колькасць беларусаў і нават існавала беларускае зямляцтва, якое пачынаючы з 1910 года рэгулярна наладжвала беларускія вечарыны.

Першую такую вечарыну, якая адбылася 19 лютага 1910 года, апісаў карэспандэнт «Нашай нівы» Мацей Крапіўка: «Насамперад пайшла камедыя Крапіўніцкага «Па рэвізіі». Пасля хор з 65 чалавек праспяваў некалькі народных песень. Пасля выйшла беларуская паэтка Цётка і вельмі добра гаварыла вершы «Мае думкі», «Грайка» і «Родны край». Далей пекна ігралі на віяланчэлі, на скрыпцы, зноў была дэкламацыя і песні, а закончыўся канцэрт беларускімі народнымі танцамі: добра скакалі «Юрку», «Лявоніху», «Качана». Народу было многа... Найбольш спадабаліся ўсім хор, дэкламацыя і танцы... Але і іншыя нумары праграмы былі вялікай артыстычнай вагі». Пра тое, як нялёгка было наладзіць гэтую вечарынку, газета пісала: «Вось у Пецярбургу, закінутыя далёка ад роднай старонкі, беларусы не мелі нават апраткі сваёй. Дык кожны нёс, што меў, на першае беларускае ігрышча: хто паясок з Магілёўшчыны, хто світку з Віцебшчыны, сарочкі з Гродзеншчыны — і гэта прыгадзілася. І дзіўна было і радасна, што блізка з кожнага куточка Беларусь прыслала свайго сына з дарам».

Калі ж у 1911 годзе пецярбургскія беларусы пачалі зноў рыхтаваць сваю вечарыну, Ігнат Буйніцкі са сваімі танцорамі і музыкамі зноў прыехаў у Пецярбург. Далучыўшы да сваёй трупы аматараў са студэнцкай моладзі, што яшчэ ў мінулым годзе выступалі ў народных танцах, Буйніцкі стварыў танцавальную дружыну, якая мела вялікі поспех у канцэрце. Пра гэтую вечарыну Янка Купала пісаў: «15 лютага ў нас тут, як і ў тыя гады, згулялі беларускую вечарыну... Зал «Пальма» прадстаўляў сабой маленькую часціну Беларусі: беларуская гутарка, беларускія нацыянальныя вопраткі... На пачатак пастаўлена была камедыя Крапіўніцкага «Пашыліся ў дурні». Сыгралі яе вельмі дружна і шчыра. Пасля камедыі пеў хор беларускія песні: «Чаму ж мне не пець?», «Ой, ляцелі гусі», «Вяселле» і інш. Тутэйшы беларускі хор з кожным годам штораз большую і большую здабывае сабе прыхільнасць не толькі сярод беларусаў, але і другія пецярбуржцы

шчыра цікавяцца нашай народнай песняй. Хорам кіруе п. С. Шымкус. За хорам ішлі так лоўка пастаўленыя на сцэне Ігнатам Буйніцкім беларускія танцы пад дуду, цымбалы і скрыпку... «Юрка», «Мельнік», «Чабор», «Мяцеліца» і інш., што аж, здаецца, увесь зал ходырам хадзіў... І камедыі, і хору, і танцам публіка дружна і шчыра біла брава і выклікала па некалькі разоў нашых артыстаў... Гледзячы на танцы п. Буйніцкага, мае ўражанні самі сабой выліліся ў вершы:

Важна рэй Ігнат Буйніцкі
У танцах нашых водзіць,
Аж здаецца — усё чыста
Ходырам з ім ходзіць.

Калі пусціцца скакаці —
Ажно сэрца скача,
Лепшых танцаў і ўвесь Піцер
Бадай што не бачыў.

Ці «Мяцеліца», ці «Юрка»,
«Мельнік» ці «Антошка» —
Усё ў яго выходзіць гладка,
Не зманіць ні трошкі.

Пад дуду ці пад цымбалы
Топне, прыспявае...
Сцеражыцеся, ўсе людзі:
Беларус гуляе!

Не ўпінайся ж і скачы нам,
Покуль сілы хваціць,
Мо пачнуць і думкі нашы
Весялей скакаці!

Вясной 1911 года Ігнат Буйніцкі атрымаў дазвол мінскага губернатара на паказ беларускіх спектакляў на Міншчыне. І зноў у сваіх Палівачах Буйніцкі фарміруе вандроўную трупу для гастроляў. У яе склад увайшлі, апрача віленскіх удзельнікаў, і шэраг яго падзісненскіх паплечнікаў. З гэтай трупай Буйніцкі пачынае гастрольнае падарожжа па Міншчыне.

30, 31 мая і 1 чэрвеня адбыліся тры вечарыны ў мястэчку Капылі. У спектаклях удзельнічалі і мясцовыя аматары сцэны.

30 і 31 мая ішла камедыя «Пашыліся ў дурні», а 1 чэрвеня — «Модны шляхцюк». На трох вечарынах

пасля спектакляў давалі канцэрт з дэкламацыяй, спявалі, танцавалі...

На першы вечар нават прыехалі госці са Слуцка. «Зала была паўнюсенькая, але адчувалася нейкая стрыманасць,— паведамляла «Наша ніва».— Другая вечарына, можна сказаць, была шчыра народная. Відаць была смеласць, свежасць на твары кожнага, хто быў. Трэцяя вечарына паслужыла вянком для першых і для сябе самой. Цэлую ноч — ажно пакуль не скончылася прадстаўленне — у зале не сціхалі бурныя воплескі і радасныя крыкі. Дзесяткі разоў публіка выклікала артыстаў — як прыезджых, так і асабліва капылян-аматараў — і падносіла ім вянкі, пукі кветак і пушкі цукерак. Вясёлымі і пільнымі поглядамі вітала дэкламатараў, харыстаў, танцораў... Буйніцкага віталі найбольш як добрага танцора».

5, 9 і 11 чэрвеня адбыліся спектаклі трупы Буйніцкага ў Нясвіжы. Былі паказаны п'есы «Модны шляхцюк», «Па рэвізіі», «Пашыліся ў дурні».

19 чэрвеня адбыліся выступленні ў Клецку. З Клецка трупа паехала ў мястэчка Ляхавічы і ў Слуцк. Пастаноўкі «Моднага шляхцюка» ў Капылі і ў Нясвіжы былі варожа прыняты польскай шляхтай. Па яе патрабаванню слуцкі павятовы спраўнік, нягледзячы на тое, што Буйніцкі меў дазвол ад мінскага губернатара, забараніў выступленне ў Слуцку і ў павеце. Буйніцкі павінен быў зноў ездзіць па дазвол да губернатара. Хоць дазвол нарэшце і быў атрыманы, але і пасля гэтага былі розныя цяжкасці.

Нарэшце трупа Буйніцкага прыязджае ў Мінск. 25 чэрвеня на сцэне невялікай залы «Парыж» яна паказвае жарт К. Каганца «Модны шляхцюк». У ім едка высмеяны шляхцюк, які, набраўшыся «панскасці», стараецца пафарсіць на вёсцы ў час сватання. Гледачы добра прынялі спектакль. Другі раздзел вечара занялі дэкламацыі і спевы, якія пакінулі вялікае ўражанне.

Пасля кароткага перапынку пад бравурныя гукі цымбалаў, скрыпкі і дуды танцавальная трупа Буйніцкага пачала «Лявоніху», ды з такім агнём, што ўсе ў зале ахнулі, бо да гэтага ніхто і ніколі так разнастайна і імпэтна не выконваў гэты танец. За ўдалае выступленне артыстам падаравалі пышны букет кветак.

27 чэрвеня адбыўся другі спектакль. Яго поспех таксама быў вялікі. Тады ж Буйніцкі сустрэўся з мінскімі аматарамі тэатральнага мастацтва. Павялі размову аб арганізацыі ў Мінску сталага беларускага тэатра, ядро якога павінны былі скласці артысты-беларусы, што працавалі ў той час на польскай сцэне.

Да іх меркавалі далучыць найбольш здольных аматараў з трупы Буйніцкага і мінскіх добраахвотнікаў.

Папоўніўшы на Міншчыне склад трупы свежымі сіламі і правёўшы кароткую падрыхтоўку рэпертуару ў Палівачах, Буйніцкі пад канец ліпеня накіраваўся зноў на гастролі.

30 ліпеня пачаліся выступленні трупы ў Полацку. П'есу «Пашыліся ў дурні» Крапіўніцкага ігралі ў садзе, а 31 ліпеня ў памяшканні гарадскога тэатра паказалі спектакль «У зімовы вечар» паводле Элізы Ажэшка. П'еса карысталася асаблівым поспехам, бо ўсіх захапляла ўмелая і шчырая ігра паэтэсы А. Пашкевіч (Цёткі), якая выконвала ролю старой Насты. 1 жніўня адбыўся трэці паказ, на якім ставілі «Міхалку» Далецкіх і «Сватанне» Чэхава.

13 жніўня трупа Буйніцкага наведала Вілейку, «Наша ніва» паведамляла, што «...віляйчане вельмі горача прывіталі беларускае слова, якое ўпершыню тут пачулі са сцэны... За песнямі ішлі беларускія танцы, і яны так крэпка звязаны з усім нашым жыццём, адбіваюць у сабе ўдумлівасць беларуса, які пільна прыглядаецца да ўсяго, што робіцца навокал... Смех выклікаў у публікі адзінокі Юрка ў скоках, дзе грамада, жартуючы, але спагадаючы, пытаецца ў яго: «Ах ты, Юрачка, што не жэнішся? Прыйдзе зімачка — дзе ты дзенешся?» А дуда далей несла нас на нівы роднай старонкі, у гароды, засаджаныя капустай. «Я качана за лісцінку, качан мяне за хусцінку!»

Пазней трупа Буйніцкага выступае ў Смаргоні і Ашмянах.

Усюды працу трупы суправаджала шчырая атмасфера ўдзячнасці, захапленне бачаным і пачутым, радасны, бадзёры настрой. Наколькі тады жывое роднае слова, пачутае са сцэны ў песні, узрушала і захапляла насельніцтва, сведчаць і такія выпадкі: на спектаклі прыходзілі стогадовыя дзяды, каб самім пачуць род-

ную песню, убачыць хараство народа ў яго вясёлых танцах.

У сезоне 1911 года Буйніцкі плаціў артыстам па марачнай сістэме. Але выдаткі на пераезды, начлегі і харчаванне трупы не пакрываліся зборамі тэатральнай касы. Гастролі 1911 года прынеслі Буйніцкаму такія вялікія страты, што давялося прадаць свае Палівачы, тым больш што і доўг у банку на той час быў яшчэ вялікі. Зразумела, што ў 1912 годзе фарміраваць новую вандроўную трупу Буйніцкі ўжо не мог.

У той жа час гастролі трупы Буйніцкага, якія заўсёды мелі вялікі поспех у простых людзей, пачалі непакоіць царскія ўлады, і ў 1912 годзе Буйніцкаму не далі дазволу на выступленні. Як ратункам для справы Буйніцкага была ў гэты час просьба беларусаў з Пецярбурга прыехаць туды ў снежні 1912 года для выступлення на этнаграфічным вечары, арганізаваным на сродкі выдавецтва часопіса «Вестник знания» з поваду 10-годдзя яго выпуску. Былі запрошаны прафесійныя артыстычныя сілы балета для паказу рускіх, эстонскіх, грузінскіх і іншых нацыянальных танцаў. Нейкі Гальцісон, нібыта кампазітар, рэгент аднаго з пецярбургскіх хораў, каб зарабіць на гэтым, узяўся паказаць беларускую песню. Але, як пісаў карэспандэнт «Нашай нівы» з Пецярбурга, атрымлівалася «поўнае скалечанне беларускай народнай песні», бо Гальцісон, кіруючыся сваім густам, надаў ёй непатрэбныя асаблівасці. Каб выратаваць справу, пецярбургскія беларусы выклікалі танцавальную дружыну Ігната Буйніцкага. І не памыліліся.

Трупа Ігната Буйніцкага выступала перад тысячнай аўдыторыяй на вечары 27 снежня 1912 года. Карэспандэнт «Нашай нівы» так піша пра гэта: «Але як выйшаў пан Буйніцкі са сваімі танцамі і сялянамі-беларусамі: дударом, цымбалістам і скрыпачом, дык гэта адразу прынялі ўсе з захапленнем...

А калі пан Буйніцкі з дачкой пайшоў «Лявоніху», а за ім чарада хлопцаў з дзяўчатамі як пачалі прыстукваць, дык уся публіка ўдарыла ў далоні. Найбольш яна біла брава беларусам за іх народную натуральную прастату. Пану Буйніцкаму паднеслі лаўровы вянок з чырвонай стужкай і каштоўны падарунак».

Рэдакцыя «Вестника знания» ў 1913 годзе выпусці-

ла ў сувязі з 10-годдзем часопіса кніжку «Дзесяцігоддзе культурнай працы часопіса «Вестник знания» (1903—1913 гг.)». У ёй адзін з арганізатараў этнаграфічнага вечара, Н. П. Яўціфееў, пісаў пра выступленне трупы Ігната Буйніцкага: «Мяркуючы па гарачых апладысментах і шматлікіх паўторах на «біс», поспех яго быў надзвычай вялікі». У кніжцы таксама змешчаны фotaздымкі як самога Буйніцкага, так і яго трупы. Вось так высока ацаніла паўночная сталіца мастацкую працу Ігната Буйніцкага.

Трыумф беларускага танца ў Пецярбургу на этнаграфічным вечары «Вестника знания» зноў узняў у Буйніцкага жаданне не сыходзіць з абранага ім шляху. І калі «Беларускае зямляцтва» студэнтаў Варшаўскага універсітэта запрасіла Ігната Буйніцкага прыехаць да іх са сваёю танцавальнай трупай, каб прыняць удзел у беларускай вечарыне 15 лютага 1913 года, Буйніцкі прыехаў у Варшаву з шасцю парамі танцораў, з дударом, цымбалістам і скрыпачом.

Трэба ведаць, што, апрача студэнтаў, гатовых служыць свайму народу, былі і такія, якія марылі аб добрай службовай кар'еры пасля сканчэння універсітэта. Іх тады называлі «белападкладачнікамі», а за пагарду да беларускага руху — «таксама беларусамі». Ім было найбольш важна захаваць у вачах універсітэцкага начальства рэпутацыю «вернападданніцтва» ў сталіцы Польшчы. Вось гэтыя «таксама беларусы» стараліся зрабіць усё, каб «лішне не прабівалася жывая беларусчына». Яны хоць і вымушаны былі друкаваць афішу на беларускай мове, але ніводнага яе экземпляра не вісела ў памяшканні, дзе адбываўся беларускі вечар. Прысланыя ж на продаж беларускія кніжкі ляжалі прыкрытыя ў куточку, прадаваліся толькі «Беларускі каляндар» ды гумарыстычная «Крапіва».

Аднак вечарына прайшла добра. Хор са студэнтаў і курсістак, умела арганізаваны студэнтам М. Тэадаровічам, за кароткі час развучыў і добра выканаў беларускія песні: «А хто там ідзе?», «Чаму ж мне не пець?», «Дуда-весялуха». Вучань Варшаўскай мастацкай школы Павел Гуткоўскі з глыбокім пачуццём прачытаў беларускія вершы. Але, як пісаў карэспандэнт «Нашай нівы», найбольш падабаліся публіцы беларускія народныя танцы. «Трупа Буйніцкага проста заха-

піла і здзівіла, бо хто ж там бачыў народныя беларускія танцы «Лявоніху», «Мельніка», «Вераб'я», «Юрку», «Мяцеліцу» і інш.».

Кіпучая натура Буйніцкага не дазволіла яму пакінуць мастацкую працу, якая, ён ведаў, так патрэбна была роднаму народу. Ён марыў пра сталы беларускі тэатр і хацеў стварыць яго ў Мінску разам з мясцовымі аматарамі, збіраўся і сам працаваць там са сваімі дочкамі.

Вясной 1914 года Буйніцкі зноў хадайнічае аб дазволе на гастролі і ў маі змяшчае ў газеце «Наша ніва» аб'яву такога зместу:

«Збіраю аб'язную беларускую трупу. Хто хоча далучыцца да яе, прашу ў беларускую кнігарню (Вільня, Завальная, 7) на маё імя паведаміць. Ад артыстаў вымагаецца, каб мелі добры беларускі акцэнт у мове, зналі ўжо сцэну, маглі спяваць і танцаваць на сцэне.

Ігнат Буйніцкі».

Але здзейсніць сваю задуму яму не ўдалося. Пачалася першая імперыялістычная вайна.

Ігнат Буйніцкі не дажыў да тых радасных дзён, калі Кастрычніцкая рэвалюцыя вызваліла беларускі народ ад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту і стварыла ўсе ўмовы для шырокага развіцця яго культуры. Памёр Ігнат Цярэнцевіч 9(22) верасня 1917 года і пахаваны ў сваіх родных Палівачах.

Шмат сіл і здароўя паклаў гэты выдатны чалавек на развіццё культуры свайго народа. Адзначаючы сотую гадавіну з дня нараджэння Буйніцкага, беларускі народ па праву ганарыцца сваім выдатным сынам, які яшчэ ў далёкія гады царызму залажыў асновы нацыянальнага прафесійнага тэатра.

*1961*

# МІНСКАЯ ТРУПА «ПЕРШАГА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ ДРАМЫ І КАМЕДЫІ»

## І. Рэвалюцыя 1905—1907 гг. Першыя легальныя беларускія газеты, кніжкі.

### Беларускія вечарыны і спектаклі

Першая расійская рэвалюцыя 1905—1907 гг. расхістала асновы царскага самаўладства. Пад націскам паўстаўшага пралетарыяту і бяднейшага сялянства паліцэйскія законы пачалі рушыцца. Узнікае легальны беларускі друк. З верасня 1906 года ў Вільні выходзіць першая беларуская газета «Наша доля», якая праіснавала, праўда, нядоўга. Сталым супрацоўнікам яе была Цётка (Алаіза Пашкевіч). На старонках яе распачынаў сваю літаратурную дзейнасць Якуб Колас. Калі ж на шостым нумары царскі ўрад закрыў гэту газету, на змену ёй з лістапада таго ж года ў Вільні з'явілася газета «Наша ніва». Хаця на працягу ўсяго свайго існавання (па жнівень 1915 г.) «Наша ніва» была пераважна рэфармісцкай, рэвалюцыйна-дэмакратычныя пісьменнікі (супрацоўнікі і карэспандэнты з месц) за адсутнасцю ў той час іншай беларускай газеты друкаваліся на яе старонках, выкарыстоўваючы яе такім чынам як трыбуну для прапаганды сваіх поглядаў. За Янкам Купалам, Якубам Коласам і Цёткай на старонках «Нашай нівы» друкаваліся Цішка Гартны, Максім Багдановіч, Змітрок Бядуля, Канстанцыя Буйло, Алесь Гурло, Янка Журба і іншыя.

У 1906 годзе ў Пецярбургу заснавалася і пачало друкаваць чытанкі, календары і мастацкія творы першае беларускае выдавецтва «Загляне сонца і ў наша ваконца».

Пачынаюць адбывацца першыя беларускія вечарыны (у Пятроўшчыне пад Мінскам і ў іншых месцах), на якіх ставяцца на беларускай мове п'есы, выконваюцца беларускія народныя песні, дэкламуюцца вершы беларускіх пісьменнікаў.

## 2. Беларускае слова на мінскай сцэне (1907—1911 гг.)

Мінск са значнай колькасцю беларускіх рабочых, рамеснікаў і служачай інтэлігенцыіі не застаўся, вядома, у баку ад беларускага руху. Янка Купала зусім слушна пісаў у 1913 г.: «Калі ў памятны 1905 г. зрабілася завіруха, то ў беларуса будзіцца стала пачуццё свайго «я», стала лунаць доўга дрэмлючая думка, што і мы людзі» *. Беларускае друкаванае слова абуджала нацыянальныя пачуцці і свядомасць і ў мінскіх беларусаў. І вось у тыя гады малады артыст польскай сцэны Фларыян Паўлавіч Ждановіч на вечары ў таварыстве «Дабрачыннасць» 6 студзеня 1907 года першы раз выступіў з беларускай дэкламацыяй. Раз вечар быў польскі, то і публіка, хоць і тутэйшая, усё ж лічыла сябе палякамі. І тут раптам нейкая беларуская дэкламацыя, да таго ж з вуснаў польскага акцёра! Больш «паністыя» крывіліся: «Мужыком запахла!» Другія ўважліва слухалі, іншым, больш дэмакратычнаму «панству», беларуская дэкламацыя нават падабалася! Аднак калі той жа артыст Ф. Ждановіч на публічным вечары «ў карысць прытулку Чарноцкай» прадэкламаваў верш Янкі Купалы «Наш родны край», дык назаўтра ж яго паклікалі ў паліцыю, дзе адбылося цэлае «дазнанне»: чый гэта верш, ці друкаваны ён, ці спісаны ад рукі, дзе ён яго дастаў, ці па свайму жаданню яго чытаў, ці, можа, хто гэта даручыў, а калі даручыў, дык хто, і гэтаму падобнае. Ждановічу параілі «на этом испорченном русском языке» вершаў са сцэны больш не чытаць!..

Але нягледзячы на перашкоды, Ждановіч ужо асмеліўся. У садзе польскага спартыўнага таварыства «Сокул» ён наладзіў вечар пад назвай «Беларускі кірмаш», уся літаратурна-дэкламацыйная частка ў ім выконвалася выключна на беларускай мове. Дзякуючы гэтаму публіка пачула тады і некалькі беларускіх песень. Але за такую ініцыятыву «польскаму» артысту давялося выслухаць ад некалькіх «паноў» з адміністрацыі «Сокола» папрок. А ў дадатак да ўсяго ён як арганізатар «Беларускага кірмашу» атрымаў яшчэ «па носе» і ад паліцмайстра Мінска.

* «Наша ніва», 1913, № 30.

Значна прасцей было ў правінцыі. Так, калі ў Старым Сяле наладзілі пастаноўку «Па рэвізіі» М. Крапіўніцкага — досыць было сказаць праўніку, што гэта п'еса ўкраінская і што яна дазволена цэнзурай. Спектакль быў дазволены, хаця ігралі п'есу, вядома ж, на беларускай мове.

У 1909 і 1910 гадах стала крышку вальней. Ужо без перашкод можна было чытаць са сцэны розныя беларускія апавяданні і вершы. Пры гэтым заўважыць трэба, што беларуская дэкламацыя ў той час мела ў публікі вялікі поспех. Яе заўсёды суправаджалі громам воплескаў.

Такім чынам, мы павінны тут зазначыць, што ў Мінску, пачынаючы з 1907 і да 1911 года, жывое беларускае слова са сцэны абмяжоўвалася дэкламацыяй. Спектакляў беларускіх у Мінску яшчэ не было.

### 3. Спектаклі ў Мінску першай беларускай трупы Ігната Буйніцкага

Чэрвень 1911 года прынёс мінчанам вялікую навіну. На тэатральных тумбах і сценах дамоў з'явіліся афішы аб тым, што 25 чэрвеня на сцэне мінскай залы «Парыж» адбудзецца першы беларускі спектакль. Пойдзе жарт у адной дзеі «Модны шляхцюк» Каруся Каганца ў выкананні першай беларускай тэатральнай трупы Ігната Буйніцкага. Каб паказаць, наколькі прыезд трупы ўсхваляваў мінскіх беларусаў, прывяду тут вытрымку з успамінаў аднаго з гледачоў гэтага першага ў Мінску беларускага спектакля.

«Залу напоўнілі беларусы і іншае жыхарства, якое было свядомым у беларускім руху. Нецярпліва чакалі хвіліну, калі падымецца заслона, а ў беларускіх сэрцах панавала адначасова і радасць і трывога за сваё роднае, за ўдачу гэтых першых жрацоў беларускага сцэнічнага мастацтва... Нарэшце ў зале стала цёмна. Заслона паднялася, і мы ўбачылі і пачулі, як вёска кпіла з вяскоўца, які, пабыўшы ў горадзе, захварэў на «панскасць», а з'явіўшыся ў вёску сватацца, пачаў задаваць «панскага форсу»... Можа, яно з пункту погляду артыстычнага і мастацкага было крыху і прымітыўна, аднак жа мы, беларусы, былі як учадзеўшыя: сэрцы біліся ўзрушана, бо мы бачылі і чулі сваю родную вёску...

З галавы вылецела ўсё, адна толькі думка пяшчотна хвалявала: — Няўжо ж нараджаецца беларускі тэатр!»

У другім аддзеле вечара пачулі дэкламацыю і спевы:

— Як прыгожа!.. Якое хараство!..

Гэткія словы, вырываючыся з вуснаў прысутных шэптам, чуліся ў відоўні ў хвіліны паўз на сцэне... Не аднаму з нас пры гэтым успаміналіся дзіцячыя і юнацкія гады, не ў аднаго можна было заўважыць і слёзы на вачах...

У аддзеле трэцім мы ўбачылі беларускія народныя танцы, якія выконвае наш вясковы народ...

І вось трэці сігнал! У відоўні цёмна, заслона ўзнеслася, і на сцэне пад гукі цымбалаў, скрыпак і дуды Буйніцкі са сваімі дочкамі і іншымі малайцамі-танцорамі пачаў весці «Лявоніху»... Было на што паглядзець! Такой «Лявоніхі» і ў такім бліскучым выкананні я яшчэ ніколі і нідзе не бачыў!.. А «Мельнік», а «Юрка», а «Мяцеліца»!!! Ды гэта ж была сапраўдная нястрымная мяцеліца!.. Далей пайшлі «Верабей», «Гневаш», «Антошка»! А «Чабор»! І скуль толькі ў іх бралася гэтулькі энергіі і нязморанасці пры выкананні танцаў?! Здавалася, што нават вопратка, у якую яны былі апрануты, жыла на іх!.. Ніводзін самы таленавіты балетмайстар не мог бы не пазайздросціць Ігнату Буйніцкаму ў такой пастаноўцы нацыянальных беларускіх танцаў!.. Творча-арганізатарскі талент Буйніцкага прыдаў народным беларускім танцам столькі захаплення, столькі мастацкай прыгажосці».

Вось якім моцным было ўражане ад выступлення трупы Буйніцкага! Не дзіва, што мінскія беларусы пасля гэтых вечарын, а было іх ў Мінску дзве (25 і 27 чэрвеня), хадзілі доўгі час з верай у тое, што беларускі тэатр будзе існаваць, што грунт пад ім ёсць!

### 4. Нарада з Буйніцкім аб стварэнні ў Мінску сталай трупы. Падрыхтоўка новага рэпертуару Ф. Ждановічам. Лета 1913 г. Арганізацыя беларускага артыстычнага гуртка. Падрыхтоўка п'есы Я. Купалы «Паўлінка» — першага спектакля трупы ў Радашковічах

Спектаклі трупы Буйніцкага зрабілі таксама моцны ўплыў на Ф. Ждановіча. Пасля іх адбылася яго нарада з Буйніцкім, у якой прыняў удзел і У. Фальскі. Дамо-

віліся яны так: існуючая аматарская трупа Буйніцкага па завяршэнню вандровак па Беларусі будзе распушчана, а замест яе створана новая трупа, куды ўвойдуць кваліфікаваныя сцэнічныя сілы і лепшыя аматараў. А пакуль што Ждановіч падбае пра рэпертуар, якога ўсё ж бракавала. І мінскі артыст адразу ж узяўся за пераклад з польскай мовы некаторых п'ес. На працягу 1912 г. ён інсцэніраваў аповесць Э. Ажэшкі «Хам», апрацаваў яе навелу «Рысь», а з украінскай мовы пераклаў вядомую п'есу Старыцкага «Цыганка Аза», даўшы ёй назву «Хата за вёскай».

Адначасова Ждановіч павёў перагаворы ў польскім тэатры з артыстамі-беларусамі, якія працавалі там. Каб яны, як ён сам, пакінулі польскую сцэну, узяліся за стварэнне свайго беларускага тэатра. Летам 1913 года ён у вельмі кароткі час арганізаваў беларускі артыстычны гурток, куды, апрача самога Ждановіча, увайшлі артысты Акуліч і Валэйка, артысткі Т. Русеччанка і А. Ліпнічанка, якія пакінулі польскую сцэну, і такія здольныя аматары, як У. Фальскі, і іншыя. Пачалі рыхтаваць двухактовую камедыю Янкі Купалы «Паўлінка». Рэпетыцыі ўвесь час вяліся ў садзе бацькоў Русеччанкі. Праз якіх паўтара месяца п'еса была гатова. Па просьбе рэдактара «Нашай нівы» А. Уласава гурток выехаў у мястэчка Радашковічы (тады Віленскай губерні) і 13 жніўня 1913 года паставіў там свой першы спектакль. Прывяду тут запіс з дзённіка аднаго з удзельнікаў гэтай пастаноўкі: «Пакуль пачаўся спектакль, артысты, нават па некалькі гадоў працаваўшыя на сцэне, нямала перажывалі... Хоць усё было добра падрыхтавана, аднак хваляваўся кожны, бо гэта ж быў першы крок сталага беларускага тэатра, і гэту адказнасць кожны адчуваў... Да таго ж яшчэ даведаліся, што ў зале сядзіць сам аўтар, які знарок прыехаў паглядзець на сцэне сваю п'есу...

Далі сігнал. Свет у зале патух. Як бы нейкая чароўная сіла спыніла гоман гледачоў... Паўлінка заспявала... Мяняюцца з'явы акта... На відоўні то ўспышка смеху, то... ізноў поўная ціша. Слухаюць уважна кожнае слова, сочаць за кожным рухам выканаўцаў... Вось і апошняя з'ява — Паўлінка б'е Пранцысёву бутэльку з гарэлкаю... Заслона падае... На відоўні паўстаў гром воплескаў... Артысты моўчкі глядзяць адзін на аднаго,

а на тварах іх, з-пад грыму, паўстае ўсмешка радасці і задавальнення...

Пакуль рыхтуюць сцэну другога акта, артыстам перадышка... За кулісы да нас прыйшлі Янка Купала, А. Уласаў і іншыя беларусы-радашкаўчане... Хвалілі выкананне ўсіх, дзякавалі нам за распачатую справу будавання свайго роднага тэатра...

Пачаўся другі акт спевамі хору. Пайшлі танцы пад цымбалы і скрыпку, іх прыходзілася паўтараць... П'есу мы кончылі пры такіх авацыях, якія не часта бываюць і ў вялікіх гарадскіх тэатрах, якія назаўсёды застаюцца ў памяці артыстаў... Дзякавалі нашаму гуртку не адны радашковіцкія беларускія дзеячы, але і сам аўтар «Паўлінкі», які склаў тады нам асаблівую падзяку, прарочачы добрую будучыню мінскаму беларускаму тэатру...»

## 5. Заснаванне «Першага таварыства беларускай драмы і камедыі». Улады не даюць згоды на артыстычнае падарожжа трупы па Беларусі

Атрымаўшы ў Радашковічах маральнае здавальненне і сілы для далейшай працы, прайшоўшы там нібы свае сцэнічныя «хрысціны», гурткоўцы, вярнуўшыся ў Мінск, зрабілі сход і рашылі называцца «Першым таварыствам беларускай драмы і камедыі». Кіраўніком выбралі Ф. П. Ждановіча, даручыўшы яму афарміць дазвол на раз'езды па гарадах і мястэчках Беларусі. Ад Буйніцкага атрымалі ліст, што ён абавязкова з'явіцца ў таварыства з дочкамі, як толькі ўсё наладзіцца, бо яшчэ хварэе і вымушаны адпачываць, каб падмацаваць свае сілы. Тады ж артысты таварыства пачалі рыхтаваць п'есу «Хам» паводле Э. Ажэшка.

Поўны добрых надзей, адправіўся Ждановіч у Вільню, каб атрымаць там дазвол улады на артыстычныя падарожжы трупы па Беларусі. Папярэдне зайшоў у «Нашу ніву». У размове з А. Уласавым і А. Лявіцкім (Ядвігіным Ш.) Ф. Ждановіч там дазнаўся, што ўлады краю якраз не вельмі прыхільна ставяцца да «крамольнай» беларускай справы і сочаць за кожным выяўленнем беларускага руху. Вось чаму Ждановіч падаў заяву на дазвол не ад свайго імя, а паводле свайго сцэніч-

нага псеўданіма, ад імя Крыніцы. Аднак мінскі адрас ён пакінуў свой.

Вярнуўшыся ў Мінск, Ф. Ждановіч, як і ўсе члены таварыства, нецярпліва чакаў дазволу з Вільні. І вось у лістападзе таго ж 1913 года на яго кватэру з'явіўся акалодачны наглядчык (быў такі паліцэйскі чын), шукаючы Крыніцу. А праз пару тыдняў той жа самы акалодачны наглядчык якраз дзяжурыў у польскім тэатры. Ф. Ждановіч, сеўшы побач з ім у буфеце, даведаўся ад яго, што віленскія ўлады не дазволілі на раз'езды беларускай трупы, Крыніцу самога загадалі арыштаваць і адаслаць у Вільню. Пра такія вынікі хадайніцтва зараз жа паведамілі віленскім беларусам. Члены ж таварыства дамовіліся паміж сабой сабрацца зноў, як толькі палепшыцца становішча. Ждановіч, асцерагаючыся новых паліцэйскіх росшукаў, магчымага арышту, пакінуў Мінск.

## 6. Першая імперыялістычная вайна паралізуе беларускую сцэнічную дзейнасць у Мінску. Лютаўская рэвалюцыя 1917 г. Арганізацыя беларускага хору

Першая імперыялістычная вайна 1914—1917 гг. паралізавала беларускую сцэнічную дзейнасць у Мінску. Тая ж вайна прывяла расійскі царызм да поўнага банкруцтва. Лютаўская рэвалюцыя 1917 года пахавала царызм. Яна суправаджалася бурным ростам нацыянальнага руху сярод прыгнечаных народаў царскай Pacii.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі пачалі групавацца і беларускія мастацка-аматарскія сілы ў Мінску. Утварыўся беларускі хор, якім кіраваў У. Фальскі. З гэтага хору выдзеліўся драматычны гурток, які ўзначаліў пісьменнік Ядвігін Ш.

## 7. Красавік 1917 г. Адраджэнне «Першага Таварыства беларускай драмы і камедыі»

У першых днях красавіка 1917 года ў Мінск вярнуўся Ф. Ждановіч. Сустрэўшыся з ім, Ядвігін Ш. прапанаваў яму стаць на чале беларускай драматычнай трупы. У «Беларускай хаце», дзе тады гуртаваліся мінскія беларусы, адбылася нарада ўдзельнікаў

драматычнага гуртка, на якой прысутнічалі некалькі працаўнікоў-арганізатараў беларускай трупы 1913 г. (У. Фальскі, Янка Беларус і іншыя). Зыходзячы з гэтага, сход пастанавіў вярнуцца да ранейшага імя «Першага таварыства беларускай драмы і камедыі» і выбраў сваім кіраўніком і рэжысёрам Ф. Ждановіча.

У таварыства ўліваліся цяпер усё новыя і новыя сілы. Перад самым пачаткам дзейнасці трупы ў ёй ужо лічыліся Ф. Ждановіч, У. Фальскі, Янка Беларус, Ядвігін Ш. А. Ліпнічанка, Г. Сондак, М. Зароўская, В. Тарасік, Ч. Плаўнік, М. Вайткевіч, Б. Вайткевіч, О. Вашкевіч, Л. Тарасік, Бядуленка і інш.

### 8. Першы спектакль трупы. Далейшыя спектаклі ў гарадскім тэатры і ў «Беларускай хаце»

Пасля двух тыдняў падрыхтоўчай дзейнасці таварыства дало 23 красавіка 1917 года ў будынку Мінскага гарадскога тэатра свой першы пасля аднаўлення спектакль. Былі выкананы «Паўлінка» Янкі Купалы і «Рысь» паводле Э. Ажэшка. Тэатр быў поўны. Прыйшлі пераважна тыя, хто хацеў наогул паглядзець, што ж гэта за беларусы з'явіліся і які такі іхні тэатр, бо ў горадзе пра беларусаў было ўжо шмат гаворкі — сярод гарадскога «польскага панства», сярэдняга і дробнага чыноўніцтва і розных там канцылярыстаў. Аднак публіка прымала спектакль вельмі добра, можна сказаць, нават цёпла.

З такім жа поспехам 24 красавіка адбыўся і другі спектакль таварыства. Ігралі «Паўлінку» і «У зімовы вечар» Э. Ажэшка (таксама ў гарадскім тэатры).

27 красавіка трупа таварыства паставіла на сцэне «Беларускай хаты» п'есу «Сягонняшнія і даўнейшыя» К. Буйла, а 28 красавіка — «Пашыліся ў дурні» М. Крапіўніцкага.

Тым часам Ф. Ждановіч сур'ёзна бярэцца за паляпшэнне трупы. Ён выклікае з Арла свайго брата Антона (сцэнічны псеўданім А. Крыніца). У склад трупы ўвайшлі яшчэ Я. і П. Раткевічанкі і вельмі здольны Р. Жакоўскі. Пры выступленнях трупы і ў гарадскім тэатры, і на сцэне «Беларускай хаты» ўсё больш адчуваўся недахоп рэпертуару. Разам з тым цяпер трэба было аддаваць сцэне ўвесь свой час. І гэта пры ўмове, што ар-

тыстычная праца зусім не аплачвалася, паставіла членаў таварыства ў цяжкія матэрыяльныя абставіны.

### 9. Сход артыстаў таварыства з удзелам І. Буйніцкага. Рэарганізацыя трупы

1 мая 1917 года адбыўся агульны сход усёй артыстычнай трупы з удзелам Ігната Буйніцкага, які прыехаў у Мінск. Яго выбралі кіраўніком таварыства, рэжысёрам жа трупы — Ф. Ждановіча, а гаспадаром-адміністратарам — У. Фальскага. Зрабілі сцяг таварыства і яго пячатку.

У сувязі з тым, што матэрыяльны стан артыстаў-аматараў быў дрэнны, частка людзей мусіла адысці ад таварыства. Адбылася рэарганізацыя трупы. У выніку ўсталяваўся наступны яе склад: 15 артыстаў — А. Андрэеў, Янка Беларус, Б. Бярозка, П. Вайткевіч, Р. Жакоўскі, Ф. Ждановіч, А. Іваноў, А. Крыніца, Мацяевіч, А. Мачула, В. Міцкевіч, К. Мядзёлка, Ігнат Несцюшка, В. Пятровіч і У. Фальскі; 8 артыстак — О. Вашкевіч, Л. Зарніца, Ю. Зорка, П. Мядзёлка, Г. Пралеска, Я. Пчолка, П. Раткевіч і В. Тарасік.

Старшынёй сваім трупа выбрала У. Фальскага, скарбнікам — А. Крыніцу, сакратаром — Янку Беларуса. Мастацкім кіраўніком і рэжысёрам заставаўся Ф. Ждановіч. Тут трэба адзначыць, што па прычынах, якія дагэтуль высветліць не ўдалося, Ігнату Буйніцкаму так і не прыйшлося працаваць у таварыстве.

### 10. Лета 1917 г. Выезды трупы таварыства

Паколькі выдаткі на гастролі вясной 1917 года ўзялі на сябе мінскія беларускія арганізацыі, тэатральная трупа таварыства 7 мая выехала ў Слуцк і Асіповічы, дзе ставіла «Паўлінку» Я. Купалы і дала разнастайны беларускі дывертысмент, а 23 мая наведала Бабруйск, дзе паказала «Паўлінку», «Моднага шляхцюка», «Пашыліся ў дурні» і «У зімовы вечар», даўшы некалькі спектакляў з дывертысментам.

З 7 па 11 чэрвеня трупа таварыства знаходзілася ў Магілёве, дзе ставіла п'есы «Паўлінка», «Хам», «У зімовы вечар», «Міхалка» (Далецкіх), «Модны шляхцюк», «Пашыліся ў дурні» і «Сягонняшнія і даўней-

шыя» К. Буйла. Пасля спектакляў заўсёды былі дэкламацыя, песні, і беларускія народныя танцы. Карэспандэнт беларускай газеты В. Карнілаўскі адзначаў добрую ігру ў Магілёве артыстаў Фларыяна Ждановіча, Янкі Беларуса, Веры Тарасевіч, а з дэкламатараў — Любы Тарасік і Пэлі Раткевіч.

Пры вяртанні трупы з Магілёва чыгуначнікі станцыі Жлобін і мясцовы камітэт настаўнікаў і вучняў вельмі настойліва прасілі артыстаў спецыяльна прыехаць на гастролі ў Жлобін. 29 чэрвеня гэта жаданне жлобінцаў было выканана — трупа паставіла для іх «Паўлінку».

1 жніўня трупа наведала Радашковічы, дзе паказала «Паўлінку» і, другім спектаклем, «Пашыліся ў дурні».

29 жніўня артысты выехалі ў Оршу, дзе 31 жніўня паставілі «Паўлінку» і «У зімовы вечар», а 2 верасня — «Пашыліся ў дурні» і «Моднага шляхцюка». Карэспандэнт газеты адзначыў вельмі добрую ігру Ліпнічанкі (Паўлінка), А. Крыніцы і Ф. Ждановіча (гаспадар і падарожны ў «Зімовым вечары»). Але і ігра іншых артыстаў «прайшла таксама дужа добра». Публіка прыняла спектакль вельмі цёпла, а Ліпнічанцы і Крыніцы былі паднесены букеты жывых кветак. Пра спектакль жа, які адбыўся 2 верасня, газетны карэспандэнт пісаў: «У «Модным шляхцюку» найлепш выказаў сябе Янка Беларус (у ролі шляхцюка)». Пра выступаўшую з дэкламацыяй Любу Тарасік (чытала вершы Цёткі «Сірацінка» і «Чатыры крыжы» Купалы) гаварылася, што яна «зрывала моцныя апладысменты». Янка ж Беларус смяшыў публіку камічнымі вершамі А. Паўловіча і сваім уласным перакладам з украінскага — «Бычком».

Старшыня Дзісненскага павятовага выканаўчага камітэта Саветаў сельскіх дэпутатаў, які бачыў названыя вышэй спектаклі ў Оршы, прыслаў трупе запрашэнне на гастролі ў Дзісну, што, на жаль, здзейсніць не ўдалося.

Трупа таварыства выступала таксама ў мястэчках Койданаў і Заслаўе, у горадзе Барысаве.

Хаця беларускі тэатр усюды сустракалі ветліва і цёпла, асабліва рабочыя і сяляне, хаця ўсюды трупа мела вялікі поспех, аднак выезды на гастролі давалі значны дэфіцыт. Так, паездка ў Слуцк і Асіповічы дала

300 руб. дэфіцыту, у Бабруйск — 375 руб., а ў Магілёў — 800 рублёў. І толькі падарожжа ў Радашковічы дало тысячу рублёў прыбытку.

## 11. У вольныя ад гастрольных выездаў дні

У прамежку паміж выездамі на гастролі трупа таварыства выступала ў Мінску. Так, 22 чэрвеня ў гарадскім тэатры былі пастаўлены «Сягонняшнія і даўнейшыя» К. Буйло і «Міхалка» Далецкіх. А ў ноч з 23 на 24 чэрвеня трупа прымала ўдзел у святкаванні купалля на мінскім велатрэку.

У чэрвені ж Янка Купала даў трупе для пастаноўкі сваю новую, не надрукаваную яшчэ п'есу «Раскіданае гняздо». 10 ліпеня яна была пастаўлена ў гарадскім тэатры. Газетны карэспандэнт, нехта П. К., застаўся незадаволены спектаклем, бо па спешцы некаторыя артысты няцвёрда ведалі свае ролі і таму занадта блізка трымаліся да суфлёрскай будкі, што пазбаўляла іх руху. Некаторыя (В. Тарасік у ролі маці) дапускалі мешаніну ў мове. Карэспандэнт хваліў толькі ігру А. Крыніцы (гаспадар). Адначасова рэцэнзента не задавальняла звязанасць Сымона — Ф. Ждановіча і недахоп тэмпераменту ў Зоські (А. Ліпнічанка).

22 ліпеня стараннем таварыства быў наладжаны музычна-вакальны вечар у зале дваранскага клуба. 7 жніўня ў памяшканні гарадскога тэатра трупа паставіла п'есу Крапіўніцкага «Пашыліся ў дурні».

## 12. У. Галубок уваходзіць у таварыства як драматург і акцёр. Канец 1917 і пачатак 1918 г.

Восенню ў склад «Першага таварыства беларускай драмы і камедыі» ўвайшоў У. Галубок. Ён пачаў пісаць для тэатра свае п'есы, а потым стаў і сам іграць у іх. Як драматург Галубок стварыў тады меладрамы «Апошняе спатканне» і «Бязвінная кроў», вадэвіль «Пісаравы імяніны». Пры ўсіх сваіх недахопах гэтыя п'есы істотна павялічылі бедны арыгінальнымі творамі драматычны рэпертуар беларускага тэатра.

20 кастрычніка ў гарадскім тэатры трупа таварыства паставіла «Паўлінку» і «У зімовы вечар». Гэтыя тво-

ры карысталіся якраз найбольшым поспехам у параўнанні з іншымі.

Канец 1917 і пачатак 1918 года трупа правяла ў Мінску. Апрача гарадскога тэатра ігралі ў чыгуначных клубах і ў іншых памяшканнях. Так, 10 снежня ў клубе Лібава-Роменскай чыгункі ставілася «Паўлінка», 12 снежня — п'еса «Пашыліся ў дурні».

14 снежня ўпершыню паказана драма ў 4 дзеях У. Галубка «Апошняе спатканне». Карэспандэнт газеты нехта С-к і беларускі культурны дзеяч Р. Зямкевіч змясцілі ў друку рэцэнзіі пра змест і выкананне п'есы.

28 і 29 снежня ў клубе Лібава-Роменскай чыгункі трупа ставіла «Моднага шляхцюка» і «У зімовы вечар», а 30 снежня — новую трохактовую п'есу У. Галубка «Пісаравы імяніны». Рэцэнзент, які схаваўся пад псеўданімам Аматар, застаўся незадаволены як самой п'есай, так і выкананнем яе.

14 студзеня 1918 года ў клубе Лібава-Роменскай чыгункі ішла «Паўлінка» Я. Купалы. Рэцэнзент газеты адзначыў добрую ігру А. Крыніцы (бацька Паўлінкі), М. Зароснай (Паўлінка), В. Тарасік і М. Шут, якія ігралі старых кабет. Па словах рэцэнзента, Янка Беларус іграў бы добра, калі б не ўпадаў у шарж. Пра Усевалада Фальскага (Якім) пісалася, што яму «прыходзіцца пажадаць больш натуральнасці». Яшчэ выказвалася пажаданне, «каб дэкламатары навучаліся новаму, а пры выкананні не блыталі б аўтарскі тэкст і не ішлі б на повадзе ў суфлёра».

22 студзеня 1918 года трупа сыграла ў дзіцячай сталоўцы Земсаюза (каля Аляксандраўскага вакзала) п'есу Крапіўніцкага «Пашыліся ў дурні». Як і ў папярэднія разы, спектакль у прывакзальным раёне сабраў поўную залу. Рэцэнзент на гэты раз хваліў ігру А. Крыніцы (Драйко), Янкі Беларуса (Кукса), Р. Жакоўскага (пісар) і ганіў выкананне Б. Свідэрскім ролі Нічыпара.

Хваліліся таксама дэкламатары, бо і публіка дзякавала ім гарачымі воплескамі.

Тры дні падрад, 27, 28 і 29 студзеня 1918 года, ішлі спектаклі ў клубе Лібава-Роменскай чыгункі. 28 студзеня ігралі «Міхалку» і «Як яны жаніліся». Тут рэцэнзент адзначыў артыстаў Янку Беларуса, В. Тарасік і Т. Андрэева, якія добра выканалі свае ролі. 29 студзеня ў тым жа клубе ставілася п'еса «У зімовы вечар».

У газеце на гэты раз хвалілася добрая ігра А. Крыніцы (бацька), В. Тарасік (цётка Наста), Т. Андрэева (падарожнік). Па словах рэцэнзента, выбар дэкламацый быў добры: Янка Беларус чытаў «Важную фігу» Ядвігіна Ш., а Р. Жакоўскі — вершы Дуніна-Марцінкевіча.

## 13. Нямецкая акупацыя. У госці да беларускіх артыстаў завітаў голад

25 лютага 1918 года немцы занялі Мінск. Акупацыя працягвалася да 12 снежня 1918 года.

Вясна 1918 года была для беларускага тэатра цяжкой. Прыход ворага на некаторы час зусім спыніў дзейнасць таварыства. У гарадскім тэатры пасяліўся нямецкі тэатр, і туды беларусам нельга было сунуцца. Да нашых артыстаў завітаў голад.

«Беларускую хату», якая раней размяшчалася па Захараўскаму завулку, д. № 6, цяпер перанеслі ў былы «амерыканскі» барак на Конным пляцы.

2 красавіка 1918 года трупа таварыства паставіла ў «Беларускай хаце» п'есы «Паўлінка» і «Міхалка». Збор быў бадай што поўны, і артыстаў прымалі цёпла. Рэцэнзент адзначыў добрую ігру Ф. Ждановіча (Якім) і П. Мядзёлкі (Паўлінка). А У. Фальскаму (Адольф) даў параду: «Варта было б больш папрацаваць над роллю». Пра «Міхалку» пісалася, што гэта п'еса «прайшла пад агульны смех». «Ф. Ждановіч (Міхалка) і Янка Беларус (Язэп Карызна) ігралі добра, толькі спяшаліся. Ад В. Тарасік (Юлька) можна было чакаць большай прастаты, натуральнасці і адважнасці. Адэля (Пралеска) была занадта драпежнай».

5 красавіка ў «Беларускай хаце» трупа ставіла «Пашыліся ў дурні». Збор публікі быў на гэты раз малы... Праўда, камедыя прайшла з поспехам. Газета пісала: «Ф. Ждановіч (Нічыпар) трымаў на сабе ўвагу публікі. Добра вялі свае ролі Крыніца (Драйко) і Андрэеў (парабак Антон). Янку Беларуса замяніў Р. Жакоўскі, а пісара іграў Міцкевіч. Абодва ігралі гладка. Не горш за іх выканаў ролю Васіля У. Фальскі. В. Тарасік іграла Ганулю, Пралеска — Грыпіну».

6 красавіка ў «Беларускай хаце» артысты таварыства паказалі драму «Сягонняшнія і даўнейшыя» К. Буйло і «Моднага шляхцюка» К. Каганца (замест

камедыі У. Галубка «Хвароба ў добрым здароўі»). У друку пісалася: «Драму артысты ігралі з вялікім уздымам, і яна пакінула ў гледачоў добрае ўражанне, нягледзячы на тое, што два п'яных нямецкіх фельдфебелі ў час антрактаў танцавалі ў зале каля аркестра, а ў час самае ігры падавалі з месца рэплікі на сцэну. Ждановіч (Раман) іграў вельмі добра, і добраю параю яму была Пралеска (Гануля) — як у адзежы простай сялянскай дзяўчыны, так і ў вопратцы сястры міласэрнасці. Крыніца (бацька Рамана), Янка Беларус (Саўковіч) і Пятровіч (пан Кратоўскі) далі тыпаў старасвецкай шляхты.

У «Модным шляхцюку» добра іграў Янка Беларус, як і яго свата Якуба сыграў Жакоўскі. Ф. Ждановіч стварыў жывы вобраз старога гаспадара, бацькі Ганны, ролю якой удала вяла В. Тарасік. У. Фальскі (Ігнась) і Андрэеў (сват Ігнася) таксама добра выканалі свае ролі».

У велікодны тыдзень трупа таварыства паставіла ў «Беларускай хаце» «Паўлінку», «Міхалку», «Пашыліся ў дурні», «Хваробу ў добрым здароўі» (камедыя ў 3 дзеях) У. Галубка, п'есу «Цётка вінавата», перакладзеную Ф. Ждановічам.

Меркавалася яшчэ паставіць «Азу» («Хату за вёскай»), «У бяздонні» і «Апошняе спатканне» У. Галубка.

У сярэдзіне красавіка адбылася рэарганізацыя «Беларускай хаты» ў клуб пад назвай «Беларуская хатка» з гульнёй у карты і лато. Там завялі буфет з моцнымі нямецкімі напіткамі, а з 25 красавіка пачаў працаваць і кінатэатр з фільмамі як для дарослых, так і для дзяцей. На плошчы ж каля «Беларускай хаткі» ладзіліся гульні ў футбол, кракет і інш. Таму ўмовы для сцэнічнай працы склаліся вельмі дрэнныя. Калі з'явіўся буфет з гарэлкай, кожны раз у зале было шмат п'яных, якія парушалі парадак. Патрэбнай для ігры артыстаў цішыні не стала. Як піша ў сваім дзённіку адзін са старых артыстаў трупы, «можна было бачыць і такі абразок: ідзе спектакль, а п'яны нямецкі салдат з рэвальверам у руцэ танцуе перад сцэнаю дзікі канкан, сам, а то і ўдвух!» Перш трупа адмаўлялася працаваць ва ўмовах, якія стварылі для яе вяльможны пан-абшарнік з Піншчыны Скірмунт і яго правая рука — беларускі

авантурыст Аляксюк. Але кінуць беларускую працоўную публіку без тэатральнай абслугі трупа прызнала немагчымым. 5 мая а першай гадзіне дня ў «Беларускай хатцы» адбыўся бясплатны спектакль таварыства для вучняў беларускіх школ. Ставілі камедыю «Пашыліся ў дурні». А вечарам там жа ішоў англійскі фарс у 3 дзеях «Цётка вінавата», перакладзены Ф. Ждановічам. Ігралі: Баберлея — Ф. Ждановіч, яго слугу Бабса — К. Мядзёлка, Спецінга — Пятровіч, цётку — В. Тарасік.

6 мая сіламі трупы быў паказаны «Хам» Э. Ажэшка. Публікі сабралася мала. Пронку добра іграла П. Мядзёлка, Паўлюка — А. Крыніца (замест Ф. Ждановіча), Марцэльку — з нечаканай здатнасцю выканала Пралеска. Добра ўвайшлі ў вобразы простых вясковых кабет В. Тарасік (Улляна) і Зорка (Аўдоцця). Публіка дружнымі воплескамі вітала артыстаў. Артыст Андрэеў па-мастацку аформіў спектакль: праўдзіва выглядалі ўбогія вясковыя могілкі, прыгожыя былі лозы над вадою. Грашыла толькі імітацыя завірухі (занадта ўжо свістала).

7 мая трупа там жа паставіла «Раскіданае гняздо» Янкі Купалы. Збор публікі зноў быў малы. Ігралі ж артысты добра, асабліва Ф. Ждановіч (Сымон), П. Мядзёлка (Зоська) і В. Тарасік (маці). Ролю Данілкі добра выканала Пралеска.

8 мая, зноў жа ў «Беларускай хатцы», сіламі таварыства былі паказаны «Паўлінка» і «Міхалка». Спектаклі трупы працягваліся ў «Беларускай хатцы» да 12 мая.

### 14. Адкрыццё Народнага дома імя М. Багдановіча

У маі 1918 года мінскія беларускія арганізацыі нанялі на Ляхаўскай вуліцы памяшканне, у якім у 1917 г. іграла польская трупа Скомпскага. Там быў адкрыты беларускі Народны дом імя Максіма Багдановіча. Трупа «Першага таварыства беларускай драмы і камедыі» атрымала ў ім сталы прыпынак — хоць прымітыўна абсталяваную і маленькую, але ўсё ж уласную сцэну для спектакляў.

18 мая адбылося адкрыццё Народнага дома. Заадно

была адзначана і першая гадавіна існавання таварыства.

Сезон адкрылі новай п'есай У. Галубка «Бязвінная кроў» — тады яшчэ толькі ў двух актах.

Публіка перапоўніла залу. Поспех быў выключны. На ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным памяці Максіма Багдановіча, прамоўцы адзначалі і заслугі таварыства, якое працавала інтэнсіўна, нягледзячы на матэрыяльныя нястачы, галаданне некаторых артыстаў.

У п'есе Галубка ролю гаспадара выконваў сам аўтар, ролю Ціта — Ф. Ждановіч, які заслужыў агульную ўвагу публікі і гучныя воплескі. У. Фальскаму ўдаўся студэнт. З жанчын ігралі: гаспадыню — Зорка, эканомку Дароту — Тарасік, матку падпаска — Мядзёлка. Маладзенькая здольная артыстка Л. Зарніца добра паказала сябе ў ролі парабчанкі.

У рознахарактарным дывертысменце першае месца заняў Ф. Ждановіч. Прыемнай неспадзяванасцю для публікі было выступленне хору Тэраўскага ў заключэнне вечара. Чыста народнае выкананне беларускіх песень, трапная гарманізацыя іх самім кіраўніком хору зрабілі на публіку вельмі моцнае ўражанне. Змітрок Бядуля адгукнуўся на вечар цёплым артыкулам у газеце «Беларускі шлях» (№ 48 за 1918 г.), закончыўшы яго такімі словамі: «Праўдзівае штукарства творыць настрой, будзіць фантазію, палоніць думку! Задаткі гэтага штукарства ёсць у вышэйпамяненым хоры». Артысты трупы таварыства Ф. Ждановіч, Л. Тарасік, В. Пятровіч і іншыя 25 мая, у дзень смерці Максіма Багдановіча, выступалі ў доме яго імя з выкананнем яго твораў.

2 чэрвеня ў памяшканні Народнага дома ў пяты раз ішоў англійскі фарс «Цётка вінавата». Рэцэнзент газеты «Беларускі шлях» Знаёмы пісаў, што Ждановіч у ролі фальшывай цёткі праз увесь вечар выклікаў гамерычны смех у публіцы. Яму добра дапамагаў Пятровіч у ролі Спецінга.

8 чэрвеня ў нардоме ж ставілі сіламі трупы «Пашыліся ў дурні». Рэцэнзент Знаёмы сцвярджаў: «Камедыя прайшла вельмі спрытна. Малады камедыянт Міцкевіч добра спраўляўся ў ролі Куксы. Як толькі з'явіўся на сцэне Нічыпар (Ф. Ждановіч), уся ўвага публікі перайшла на яго».

9 чэрвеня ў тым жа доме трупа паказала драму Канстанцыі Буйло «Сягонняшнія і даўнейшыя», якая, па словах рэцэнзента Знаёмага «прайшла пры небывалай увазе нашай публікі, пад дружныя апладысменты. Збор бадай што поўны».

## 15. Раскол трупы ў жніўні 1918 года

Ліпень месяц прынёс таварыству мноства ўскладненняў: не ўлічваючы ўсёй эфемернасці тагачасных беларускіх нацыяналістычна-капіталістычных арганізацый, трупа спакусілася на тытул «дзяржаўнага тэатра», дарэмна спадзеючыся, што гэта выведзе яе з цяжкага матэрыяльнага стану. У «Хроніцы» газеты «Вольная Беларусь» 4 жніўня сцвярджалася: «Беларускі тэатр у Мінску раскалоўся надвое. Існаваўшая дружына пад кіраўніцтвам вядомага беларускага артыста Ф. Ждановіча... атрымала была назву «Беларускага дзяржаўнага тэатра»... Новы народны сакратарыят адмовіўся даваць субсідыю гэтаму тэатру». У. Фальскі ў лісце ў рэдакцыю «Вольнай Беларусі» па гэтаму ж поваду пісаў: «Прыхільнікі старога кіраўніка Ф. Ждановіча аддзяліліся і ўтварылі асобную трупу, утрымаўшы за сабою назву «Беларускага дзяржаўнага тэатра». Рэшта артыстаў працуе пад назвай «Беларускага народнага тэатра»... Цяпер дружына Ф. Ждановіча развешвае афішы па гораду, што яны даюць развітальныя спектаклі, бо хутка думаюць выехаць... на Беларусь». Тут мелася на ўвазе, што летам трупе таварыства ўдалося выправіцца «ў гастроль» у мястэчкі Ракаў і Заслаўе. Артысты спадзяваліся павандраваць па Беларусі, але пры гэтым не ўлічвалі ўмоў нямецкай акупацыі.

## 16. Гастролі трупы Ф. Ждановіча ў Ракаве. Зварот да старой назвы. Вызваленне

Гаворачы пра гастролі ў Ракаве, варта тут прывесці вытрымкі з дзённіка аднаго са старых артыстаў: «Першае такое турнэ было зроблена ў мястэчка Ракаў, куды, праўда, запрасілі нашу трупу. Сродкаў на праезд было мала, і дзеля гэтага трупа даехала цягніком да Заслаўя, а там... пяшэчкам шаснаццаць вёрст ажно

ў Ракаў, адправіўшы балаголам усе рэчы. Дарога была вясёлая, тым больш што стаяў прыгожы летні цёплы дзень. Ніхто быццам і не стаміўся падарожжам. Шмат хто ў такім падарожжы быў першы раз. Але ўсведамляючы, што робіш гэтым пашырэнне беларускай культуры, трымаліся ўсе моцна, паддаючы адзін аднаму ахвоты. За вярсту да мястэчка зацягнулі песню. Ішла грамада беларускага акцёрства, асоб з 30. Усё акалічнае мястэчковае жыхарства высыпала на спатканне. Глядзелі — як на дзіва. Трэба зазначыць, што ўсе былі апрануты ў беларускую нацыянальную вопратку.

Відоўня яшчэ да пачатку спектакля была поўная. Ігралі з уздымам, ну і прымалі затое ж з захапленнем! Жыхарства было вельмі задаволена. Дзяды з белымі барадамі прыходзілі за кулісы дзякаваць артыстам за пачутае і ўбачанае ў спектаклі...»

Раніцаю на трэці дзень трупа пакінула Ракаў. Вярталіся такім самым парадкам — да станцыі Заслаўе пехатою, а адтуль у Мінск цягнікам. Былі яшчэ летам выезды ў Заслаўе ды ў Койданаў. У апошнім 18 жніўня артысты паказалі «Цётку з Бразіліі» (ранейшая назва «Цётка вінавата»), а 19 жніўня — «Пашыліся ў дурні».

Трупа Ф. Ждановіча, пазбаўленая магчымасці выязджаць на гастролі ў гарады і мястэчкі занятай немцамі часткі Беларусі, хутка адмовілася ад тытула «Дзяржаўнага тэатра», вярнула сабе старую назву — «Першае таварыства беларускай драмы і камедыі». Пад спектаклі пачала выкарыстоўваць як былое памяшканне польскага спартыўнага таварыста «Сокул», так і «Беларускую хатку».

Так, у былым «Соколе» трупа таварыства паставіла ў жніўні п'есу У. Галубка «Бязвінная кроў» (у прысутнасці самога аўтара) і драматычны абразок «Антон Лата» Тараса Гушчы (Якуба Коласа). Там жа былі паказаны п'есы Марка Крапіўніцкага «Ашукаліся» і ў сувязі з прыездам у Мінск Янкі Купалы — яго драма «Раскіданае гняздо». Усе гэтыя спектаклі праходзілі пад рэжысурай Ф. Ждановіча.

У жніўні ж у «Беларускай хатцы» трупа паказала п'есу «Цётка з Бразіліі». Пасля спектакля з беларускімі народнымі песнямі выступаў хор Тэраўскага. Выручка ад вечара была перададзена дзіцячаму прытулку і дзіцячаму шпіталю (былыя арганізацыі Земсаюза).

У «Хроніцы» газеты «Вольная Беларусь» сцвярджалася, што трупа таварыства мела намер паставіць у памяшканні былога «Сокола» спектакль у карысць мінскай мужчынскай гімназіі, а таксама з той жа мэтай спектакль у чыгуначным клубе. Невядома толькі, ці здзейснілася гэта задума.

Дзень 25 лістапада 1918 г. быў жалобным для трупы: закончыла сваё жыццё здольная артыстка Галена Пралеска, адна з заснавальніц таварыства. У трупе яна працавала з першых дзён яе дзейнасці.

Настае нарэшце шчаслівы дзень вызвалення Мінска з-пад нямецкай акупацыі. Адбылося гэта 12 снежня 1918 г.

## 17. Абвяшчэнне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Трупа таварыства становіцца Беларускім савецкім тэатрам. У яго склад уваходзяць хор Тэраўскага і аркестр Тхоржа

І вось у Беларусь вярнулася Савецкая ўлада. Маніфестам Часовага ўрада 1 студзеня 1919 г. было абвешчана стварэнне Беларускай Савецкай Рэспублікі. Трупа «Першага таварыства беларускай драмы і камедыі» стала Беларускім савецкім тэатрам, яго ж рэжысёрам — Ф. Ждановіч. Тэатр атрымаў у сталае карыстанне былое памяшканне польскага спартыўнага клуба «Сокул», дзе і працаваў да чэрвеня месяца 1919 г. За першае паўгоддзе Беларускі савецкі тэатр узбагаціўся сіламі, шырока разгарнуў сваю дзейнасць. У склад яго ўвайшлі беларускі хор Тэраўскага і невялікі, але добра зладжаны ўласны аркестр пад дырыжорствам Тхоржа. Тэраўскі пачаў інтэнсіўную гарманізацыю народных песень, каб павялічыць рэпертуар хору. Дырыжор Тхорж падрыхтаваў для аркестра рэпертуар, выкарыстоўваючы мелодыі беларускіх песень і народных танцаў. Хор і аркестр з поспехам выступалі як у самім тэатры, так і ў спецыяльных беларускіх канцэртах.

Недахоп у тэатры артыстычных сіл прымусіў Ф. Ждановіча ў сакавіку месяцы накіравацца ў Вільню, адкуль ён разлічваў прывезці некалькі добрых аматараў беларускай сцэны. Але захоп белапалякамі ў красавіку Вільні не дазволіў яму вярнуцца ў Мінск. Некаторы час (ледзь не да ліпеня месяца) артысты пра-

цавалі самапасам, выкарыстоўвалі ўжо даўно адрэпеціраваны рэпертуар. Трупа пачала распадацца. Тады А. Крыніца спрабуе з акцёрамі, якія засталіся, абслугоўваць чырвонаармейскія часці. Ды ўжо фронт набліжаўся да Мінска. Горад быў акупіраваны часцямі генерала Шаптыцкага.

### 18. Новая беларуская трупа пад кіраўніцтвам Ф. Ждановіча ў Вільні. Спектакль «Раскіданае гняздо»

Між тым у Вільні паступова згуртавалася новая беларуская тэатральная трупа на чале з Ф. Ждановічам, які не змог выбрацца з Вільні ў Мінск. Дазнаўшыся пра тое, што віленскія белапольскія ўлады пакуль што не забараняюць беларускі тэатр, шэраг беларускіх акцёраў з Мінска (А. Крыніца, Р. Жакоўскі, Я. Адуцкевіч, Міцкевіч і інш.) перабраўся ў Вільню. Новая трупа, падмацаваная гэтымі сіламі, пачала працаваць інтэнсіўна, пасляхова абслугоўваць працоўных Вільні. Белапалякам хацелася перацягнуць беларускае жыхарства на свой бок, каб захапіць Гродзеншчыну і Віленшчыну. Такія здраднікі сваёй бацькаўшчыны, як пінскі авантурыст Аляксюк, склікалі ў Вільні так званы беларускі сялянскі з'езд Гродзеншчыны і Віленшчыны, спадзеючыся, што з дапамогаю сваіх аднадумцаў з заможнай шляхты і кулакоў ім удасца дабіцца ад з'езда пастановы аб «далучэнні» названых тэрыторый да панскай Польшчы. Каб належна настроіць з'ехаўшыхся сялян, ім зрабілі ўрачысты прыём у дваранскім клубе, дзе добра апранутыя землеўласнікі і іх напарфумаваныя жонкі вялі размовы пра той рай, які чакае беларуса-селяніна, калі ён у складзе панскай Польшчы пачне ладзіць сваё «шчаслівае» жыццё. Не верачы панам наогул, асабліва ж іх цяперашняй ліслівай дружбе са сваім колішнім «быдлам», сяляне ў большасці адмоўчваліся. Не вельмі развязаў ім языкі і пачастунак за супольным з панамі сталом.

Правёўшы такую апрацоўку ў клубе, панства разам з сялянамі пайшло на беларускі спектакль.

І вось тут акцёры былога «Першага таварыства беларускай драмы і камедыі» падклалі разам са сваім рэжысёрам арганізатарам з'езда «свінню»: была пастаўлена драма Янкі Купалы «Раскіданае гняздо», у

якой добра паказана, чаго можа чакаць бедны беларускі селянін ад пана-абшарніка...

Трэба было бачыць, як пачало адчуваць сябе панства, што заняло партэр гарадской залы! Аляксюк ледзь не рваў на сабе валасы, сочачы за ўражаннем сялян ад добра пастаўленага спектакля. Паны пачалі пакідаць спектакль пасля першага і асабліва другога акта. Трэці акт п'есы глядзелі толькі адны сяляне. Яны ж зрабілі сапраўдную авацыю акцёрам за іх добрую ігру... А назаўтра беларускія сяляне Гродзеншчыны і Віленшчыны на пасяджэнні з'езда далі рашучы адпор Аляксюку і яго зграі! Так беларуская трупа выканала свой грамадскі абавязак перад працоўным народам.

Няма чаго і сказаць, што адносіны да беларускай трупы пасля гэтай гісторыі рэзка змяніліся. У польскай прэсе яе сталі называць бальшавіцкай. Працаваць далей не далі — і спектаклі прыйшлося спыніць.

Забароненыя ў Вільні, беларускія артыстычныя сілы пачалі зноў спакваля аб'ядноўвацца ў Мінску.

## 19. Узнікненне труп «Таварыства беларускага мастацтва» і «Беларускай тэатральнай грамады». Іх спектаклі ў канцы 1919 года

Тым часам у акупіраваным белапалякамі Мінску У. Фальскі згуртаваў з хору і рэштак сцэнічных сіл так званае «Таварыства беларускага мастацтва». Яно працавала да лістапада 1919 г. Так, 18 кастрычніка 1919 г. у «Беларускай хатцы» сіламі гэтага таварыства была пастаўлена камедыя «Жаніх без шлюбу» М. Кудзелькі (М. Чарота). У нумары 3-м газеты «Беларусь» рэцэнзент М — іч пісаў: «Спектакль прайшоў бы добра, каб толькі артысты парупіліся вывучыць ролі. Гэта... было прыкметна нават у аўтара гэтай п'есы, які прыняў удзел у ігры...»

У кастрычніку пачала дзейнічаць у Мінску і так званая «Драматычная секцыя беларускай тэатральнай грамады» пад кіраўніцтвам Сымона Музыкі. 25 кастрычніка ў «Беларускай хатцы» гэта трупа паставіла камедыю ў трох дзеях «Ашукаліся» М. Крапіўніцкага. У газеце «Беларусь» (№ 8, 1919 г.) рэцэнзент Артыст пісаў пра пастаноўку наступнае: «Спектакль прайшоў

вельмі добра. Трэба адзначыць п. Лапця Старшага ў ролі Драйка, п. Дудара ў ролі Куксы і п. Музыку ў ролі Нічыпара, які быў беспадобны ў сваёй ігры. Але пісар (Аркадзь) быў зусім немагчымы... З іншых артыстаў досыць добра ігралі Гаротны ў ролі Антона, Лапаць Малодшы (Васіль), Сумная і іншыя. Шкодзіць толькі недахват у артыстаў грамады беларускай адзежы і хору, без чаго вельмі цяжка рабіць пастаноўку беларускіх народных п'ес».

26 кастрычніка тая ж трупа першы раз у «Беларускай хатцы» ставіла новую драму В. Адамава «Разбагацеў» у 2 актах — з жыцця яўрэяў-палешукоў. Рэцэнзент Артыст у газеце «Беларусь» (№ 8, 1919 г.) сцвярджаў: «П'еса не мела поспеху ў публіцы, хоць артысты вельмі шчыра аднесліся да выканання яе. Галоўным чынам дзеля таго, што п'еса напісана з жыцця яўрэяў, дзе можна, не сур'ёзна адносячыся, упасці ў шарж. Гэтага не было. Усе былі на сваіх месцах».

31 кастрычніка ў гарадскім тэатры трупа «Таварыства беларускага мастацтва» паставіла новую п'есу У. Галубка ў 4 актах «Праменьчык шчасця». Як адзначыў рэцэнзент С. П. («Беларусь, № 12, 1919 г.), у п'есе «месцамі вызначаюцца жывыя вобразы. Але аднымі выклікамі «Свабода!» яшчэ не характарызуецца рэвалюцыя. Таксама старую казку кахання не шкодзіла б абмаляваць новымі фарбамі. Артысты ігралі добра. Болей з іх вызначаліся: Супрон (сам аўтар), Марыся (П. Васілёк), Лявон (Цвяткоўскі) і пісар (Бусел)».

2 лістапада ў «Беларускай хатцы» трупай пад кіраўніцтвам Сымона Музыкі ставілася камедыя ў 1 дзеі «Пасля смерці» С. Іванова. У заключэнне адбыўся дывертысмент.

Праз два дні ў памяшканні гарадскога тэатра адбыўся ўрачысты канцэрт. Увесь збор ад яго пайшоў у карысць хору Тэраўскага, матэрыяльны стан якога быў цяжкім.

Урэшце, 16 лістапада ў «Беларускай хатцы» трупа пад кіраўніцтвам Сымона Музыкі паказала новы фарс у І акце «На маскарад» С. Іванова.

## 20. Вяртанне Ф. Ждановіча з Вільні ў Мінск. Рэарганізацыя «Першага таварыства беларускай драмы і камедыі»

У другой палове лістапада Ф. Ждановіч і артысты беларускай трупы, што працавала ў Вільні, вярнуліся ў Мінск. 29 лістапада адбыўся сход членаў «Першага таварыства беларускай драмы і камедыі». У яго склад апрача старых членаў Ф. Ждановіча, Янкі Беларуса, А. Крыніцы, Р. Жакоўскага, Я. Адуцкевіча, М. Міцкевіча, Лабаноўскага, В. Тарасік, Е. Станкевіч, Л. Лабаноўскай, В. Жылінскай, Л. Навахацкай і іншых увайшло шмат новых запрошаных артыстаў. Была зроблена пераарганізацыя таварыства, выбраны новы прэзідыум і старшыня.

У пятніцу, 12 снежня, у памяшканні гарадскога тэатра сіламі «Таварыства беларускага мастацтва» ставілася другі раз у Мінску п'еса У. Галубка «Праменьчык шчасця». Рэцэнзент Натусевіч у «Беларусі» (№ 49) пісаў: «Гэты новы твор нашага драматурга дужа спадабаўся людная публічнасці, якая з неаслабным інтарэсам назірала за ігрою артыстаў. Старанная ігра і добра вывучаныя ролі артыстаў-аматараў зрабілі сваё». Найбольшы поспех выпаў на долю самога аўтара, які быў у ролі аканома. «Праведзена яна была з непадробным мастацтвам, тонкім гумарам і натуральнасцю. Дастойнай па сцэне партнёршай У. Галубка была аканомка Альжбета. Добра зразумеўшы сэнс сваёй ролі і ўлажыўшы апрача гэтага стараннасць і здольнасць сваю, яна з сваім заданнем справілася лёгка. П. п. Святляк (у ролі Ігната), Сняжынка (у ролі Марысі) шчыраю ігрою і глыбокай прадуманасцю сваіх роляў шмат дапамагалі агульнаму ўражанню. П. п. Бусел (у ролі пісарчука), Цвяткоўскі (у ролі Лявона), Сымон Музыка (у ролі гаспадара) дружна справіліся са сваімі ролямі. Славуты беларускі хор Тэраўскага, выступіўшы ў апошнім акце, значна павялічыў зацікаўленасць публікі да п'есы, словам, спекталь прайшоў добра і жыва».

## 21. Першы спектакль пасля рэарганізацыі таварыства

Трупа «Першага таварыства беларускай драмы і камедыі» 19 снежня ў гарадскім тэатры паставіла драму ў 4 дзеях «Апошняе спатканне» У. Галубка. Пра

гэты спектакль Ясакар (З. Бядуля) пісаў у № 50 «Беларусі» наступнае: «П'еса гэта досыць вядомая. Вызначаліся сваёй добрай ігрою браты Ждановічы, Галубок, В. Тарасік і іншыя. Трэба адзначыць, што Вера Тарасік за час сваёй трохгадовай артыстычнай працы шмат паспела ў выкананні самых адпаведных роляў. Безумоўна, артыстычны талент яе ўсё болей развіваецца. Што датычыцца нашых артыстак у ролях старых кабет, дык нельга не ўспомніць аб тым, што ў іх не было ні падыходзячага грыму, ні голасу. І гэта — іх заўсягдашні дэфект.

Хаця «Апошняе спатканне» ўжо некалькі разоў апрацоўвалася аўтарам і ўжо надрукавана асобнай кніжкай, аднак жа яшчэ вымагае паправак. Галоўным чынам апошні акт, дзе стражніцкая праз меру філасофія даводзіць публіку да маркоты і гэтым парушаецца цэльнасць драмы».

## 22. Цяжкія ўмовы дзейнасці беларускай трупы пры белапольскай акупацыі

З 26 снежня 1919 г. трупа таварыства іграла ў будынку гарадскога тэатра адначасова з польскай трупай Скомпскага. Нягледзячы на тое, што мела яна толькі два найгоршыя дні ў тыдзень (панядзелак і пятніца), публікі было заўсёды поўны тэатр. Аднак матэрыяльна гэта не магло забяспечыць артыстаў. Да іх зноў завітаў голад, які пакінуў цяжкі след: з-за голаду і іншых цяжкіх умоў 1 снежня пакончыў з сабой Рамуальд Жакоўскі, артыст-самародак, талент, які шмат абяцаў у будучыні. Гэта падзея і «салодкія» ўражанні белапольскай акупацыі выклікалі сярод беларускіх артыстаў такі настрой, што провады цела Жакоўскага на могілкі вылілiся ў выразную працiпольскую палітычную дэманстрацыю.

Тут жа прывяду характарыстыку тых умоў, у якіх працаваў тагачасны беларускі тэатр. Вось што я запісаў са слоў аднаго са старых артыстаў трупы: «У часы польскай акупацыі працаваць нам у Мінску было вельмі цяжка. Славуты палітычны камісар пан Фастовіч пачаў забараняць адну беларускую п'есу за другой. То ў якой, па яго зазначэнню, змест занадта сацыялістычны, то шмат смерцяў, то занадта многа крыві... Ап-

рача таго, што забараніў «Раскіданае гняздо» Купалы, «Апошняе спатканне» і «Бязвінную кроў», было нават забараніў такую бязвінную камедыю, як купалаўская «Паўлінка», бо там, бачыце, сам аўтар хоць і не ясна, але кажа, што Якім — сацыяліст.

Адным словам, звёў ён наш беларускі рэпертуар, і так малы, да нічога».

Вось у такіх умовах працаваў наш беларускі тэатр праз увесь час белапольскай акупацыі — аж да радаснай усім беларусам хвіліны, вяртання на Беларусь Савецкай улады.

### 23. Вызваленне Мінска Чырвонай Арміяй. Артысты таварыства ўваходзяць у склад Беларускага дзяржаўнага тэатра

11 ліпеня 1920 г. Чырвоная Армія вызваліла Мінск. Адразу ж пачалося аднаўленне культурных устаноў.

Па загаду Наркамата асветы Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі быў арганізаваны Беларускі дзяржаўны тэатр. Фарміраванне яго даручылі Ф. Ждановічу. Па той прычыне, што іншых артыстычных сіл тады ў Мінску не было, усе артысты «Першага таварыства беларускай драмы і камедыі» ўвайшлі ў склад трупы Беларускага драматычнага тэатра. «Першае таварыства» перастала існаваць.

14 верасня 1920 г. у памяшканні гарадскога тэатра адбылося ўрачыстае адкрыццё Беларускага дзяржаўнага тэатра.

# БЕЛАРУСКІЯ ДРАМАТЫЧНЫЯ ГУРТКІ НА СЛУЧЧЫНЕ

Дзейнасць беларускіх культурна-асветных гурткоў на Случчыне была скіравана на пашырэнне беларускай культуры.

Яшчэ задоўга да рэвалюцыі беларуская вясковая думка імкнулася прарвацца на паверхню. Вучнёўская і вясковая моладзь інтуітыўна адчувала патрэбу ў гэтым. Часта на школьных вечарах можна было пачуць прыгожую беларускую песню ці смяшлівае апавяданне. Вясковая ж моладзь з захапленнем завучвала на памяць беларускія вершы, апавяданні, што хадзілі ў народзе вусна, і ахвотна дэкламавала іх у вольны ад работы час, сабраўшыся вечарам на вуліцы.

Нашаніўская пара ўнесла яшчэ больш ажыўлення ў нацыянальнае ўсведамленне беларускіх мас.

Але сам рух яшчэ не насіў масавага характару. Маса яшчэ спала, а сон пільна сцерагла хеўра царскіх паслугачоў.

І вось надышоў рэвалюцыйны 1917 год. Рэвалюцыя віхрам пранеслася па велізарных абшарах былой Расійскай імперыі, руйнуючы стары лад. У сваім імпэце яна закранула і нацыянальнае пытанне — і не на жарт. Закранула яна яго і на Беларусі.

Распрыгоненая беларуская культурна-нацыянальная думка шырокае распаўсюджанне знайшла і на Случчыне.

Вучнёўства арганізуецца ў асобныя гурткі. Закладваюцца гурткі па вывучэнню мовы, літаратуры, па краязнаўству, драматычныя і харавыя. Асабліва шырока разгортваюць сваю дзейнасць драматычна-харавыя гурткі.

Пры чынным удзеле настаўніцтва драматычныя гурткі ўпершыню, можна сказаць, на Случчыне выно-

сяць беларускую мову з мужыцкае хаты на падмосткі сцэны.

У Слуцкай беларускай гімназіі для першай пастаноўкі была ўзята камедыя Я. Купалы «Паўлінка». Трэба было бачыць, з якім захапленнем і стараннасцю вучні і настаўнікі рыхтаваліся да пастаноўкі. Уважліва апрацоўвалася кожная з'ява, кожная дэталь. Вопратка ці была сабрана ў суседніх вёсках, ці дастаўлена вучнямі з дому.

Але ўрэшце п'еса гатова.

Першая пастаноўка зрабіла моцнае ўражанне на гледачоў. Многіх неяк яна збіла з панталыку. Раптам усе загаманілі, што вось тая самая мужыцкая мова, якую яны чулі штодня, якую гэтак старанна выкарчоўвалі са штодзённага свайго ўжытку, тая самая мова на сцэне, у літаратурнай апрацоўцы такая прыгожая. Шмат хто пайшоў са спектакля, ужо шчыра спачуваючы распачатай культурнай справе.

Гурток падрыхтаваў яшчэ некалькі п'ес і паставіў іх ужо ў гарадскім тэатры — для шырокай публікі.

На новую беларускую культурна-асветную работу, што наладзілася ў сценах земскай гімназіі, асабліва ахвотна адгукнулася вучнёўства іншых школ, пераважна вяскоўцы. Гурткі шпарка пачынаюць абрастаць вялікім лікам членаў, а работа ў іх патрабуе ўжо большай арганізаванасці, большай планавасці і сталага кіраўніцтва.

Наспявае патрэба ў самастойнай культурна-асветнай арганізацыі.

Пры актыўнай дапамозе Фабіяна Шантыра нараджаецца першая на Случчыне, пакуль што яшчэ вучнёўская, культурна-асветная арганізацыя «Папараць-Кветка». Яна дзялілася на секцыі: літаратурную, краязнаўчую і драматычна-харавую.

Агульныя сходы, пасяджэнні секцый, гурткоў па вывучэнню мовы, даклады, рэфераты, спеўкі, рэпетыцыі запаўнялі ўвесь вольны час моладзі.

Найшырэй была пастаўлена работа драматычна-харавой секцыі. У яе рэпертуар увайшлі надрукаваныя тады першыя два сшыткі сцэнічных твораў і яшчэ адна-дзве іншыя п'есы. Свае пастаноўкі секцыя перанесла са школы ў народны тэатр (былы дваранскі клуб).

І дзіўная справа. Слуцкая публіка, часта нават не

беларуская, ахвотна адгукнулася на пастаноўкі «Папараць-Кветкі». Нягледзячы на тое, што яны насілі выразна аматарскі характар, былі слаба апрацаваны з артыстычнага боку, слаба дэкараваны, часта не былі забяспечаны патрэбнай вопраткай — нягледзячы на ўсё гэта тэатр заўсёды быў поўны. Кожны ішоў, бо хацеў пераканацца, што пагарджаная беларуская мова і быт гэтага сярмяжнага народа ўжо не становяць сабою аб'ект насмешкі і пагарды, а маюць у сабе штосьці прывабна-блізкае, прыгожае, адначасова здаровае і моцнае, на што варта паглядзець, над чым варта задумацца.

Едучы на канікулы, члены арганізацыі атрымоўвалі належныя ўказанні па далейшай рабоце на вёсцы. З дапамогай вясковай моладзі наладжваліся беларускія вечарынкі, і спектаклі (дзе была школа). Вёска слухала песні, дэкламацыі, смяшлівыя апавяданні, а то і п'ескі.

Пасля такой спробы вёскі, асабліва тыя, дзе была школа і адданы культурнай справе настаўнік, захопленыя прыкладам гарадской арганізацыі, ужо часцей наладжвалі ў сябе беларускія вечарынкі, а то і спектаклі, трымаючы праз настаўніка цесную сувязь з «Папараць-Кветкай», дзе заўсёды можна было дастаць беларускую кніжку, пачуць карысную параду.

Але падышла нямецкая акупацыя. Умовы жыцця змяніліся. Моцны абцас нямецкага імперыялізму шчыльна прыдушыў насельніцтва.

Я не буду доўга затрымлівацца на часах нямецкай акупацыі, бо ён нічым асаблівым у жыцці «Папараць-Кветкі» і іншых арганізацый не вызначаўся.

Крыху змяніліся атмасфера і ўмовы працы, калі ў 1919 годзе з'явіўся другі акупант — белапанская Польшча.

Той бязлітасны здзек і гвалт, што прынесла з сабой польскае панства, той дзікі шавінізм, што бічом сцебануў па самасвядомасці беларускіх мас, нібы згуртаваў для пратэсту ўсё беларускае насельніцтва, яшчэ больш цесна злучыў яго з адзінаю ў той час беларускай культурна-асветнай арганізацыяй у Слуцку — «Папараць-Кветкай». У яе дзейнасці ўзніклі новыя, больш шырокія заданні. Усе здабыткі рэвалюцыі аказаліся пад пагрозай знішчэння панскім шавінізмам. Трэба было ба-

раніць беларускую мову, школу і наогул беларускую культуру, прывучаць працоўных да змагання.

І «Папараць-Кветка», колькі хапае змогі, бярэцца за гэту справу. Яе шэрагі шпарка гусцеюць. Новая хваля беларускай працоўнай інтэлігенцыі і свядомай моладзі ўліваецца ў арганізацыю. «Папараць-Кветка» ўжо налічвае да 200 членаў, ахопліваючы такім чынам не толькі горад, а і вёску. Тут знаходзіць месца і значная колькасць перадавога беларускага настаўніцтва, што не жадала скакаць пад дудку польскай школьнай адміністрацыі, апалячваць беларускую школу.

Першай на ніву барацьбы (я кажу «барацьбы», бо час польскай акупацыі для «Папараць-Кветкі» прайшоў не ў культурніцтве, а ў культурна-нацыянальнай барацьбе) уступіла драматычная секцыя. Для гэтага яна мела найбольшыя магчымасці, бо пад кіраўніцтвам А. Бараноўскага была арганізавана больш грунтоўна. Драмсекцыя выступіла ў контратаку польскаму шавінізму. Тут старанна падбіралі п'есы з рэвалюцыйным, проціпанскім зместам, выбіралі з твораў Я. Купалы, Я. Коласа, Ц. Гартнага адпаведныя вершы з рэвалюцыйным зместам і, старанна апрацаваўшы іх, выносілі на сцэну.

У выкананне роляў акцёры-аматары ўкладалі ўсе свае пачуцці, усю сваю душу. Натхнення ім у рабоце дадавала яшчэ і тое, што ў тэатр заўсёды прыходзілі (зразумела, з нячыстай мэтай) польскія чыноўнікі, жандары і інш. Не маючы магчымасці выказаць свой пратэст з трыбуны адкрыта, страснымі словамі нашых пісьменнікаў акцёры бічавалі са сцэны польскае панства.

Невялічкі на той час набор друкаваных беларускіх п'ес ужо не задавальняў драмсекцыю. Усе яны ўжо ставіліся па некалькі разоў. Патрэба ж у беларускіх пастаноўках адчувалася ўсё больш і больш востра. Тады працаўнікі секцыі скіраваліся ў Мінск, да пісьменнікаў, каб пашырыць рэпертуар.

У Мінску дасталі тэксты п'ес «Госць з катаргі», «Бязвінная кроў», «Душагубы» У. Галубка, «Рысь» і «Хам» паводле Э. Ажэшка ў апрацоўцы Ф. Ждановіча. Драмсекцыя «Папараць-Кветкі» такім чынам забяспечыла сваю дзейнасць да канца акупацыі.

Акупанты прынеслі на Беларусь, і ў прыватнасці

на Случчыну, страшэннае беспрацоўе, а разам з тым і голад. Побач з панствам, што аб'ядалася амерыканскім салам, масы рабочых сядзелі без куска хлеба. Таму драмсекцыі было даручана наладзіць шэраг спектакляў у карысць беспрацоўных. Выкарыстоўваліся ўсякія магчымасці, каб павялічыць сродкі дзеля дапамогі. На перыферыю паветра, дзе былі культурна-асветныя гурткі, таксама быў кінуты лозунг: «Дапамагчы беспрацоўным!». Уся гэта работа ў выніку дала досыць вялікія сродкі. Яны пайшлі на дапамогу бяднейшым сем'ям рабочых. Ніхто не мог дакараць «Папараць-Кветку» ў вузкім нацыяналізме пры размеркаванні грошай. Іх атрымалі і бяднейшыя яўрэйскія сем'і.

Наогул «Папараць-Кветка» адгукалася на ўсе праявы жыцця прыдушанага грамадства. Дзе толькі было можна, выступалі з дапамогай і абаронай.

Драматычна-харавая секцыя разгарнула сваю дзейнасць. Яна ўжо не задавальнялася пастаноўкамі ў гарадскім тэатры, для мясцовай публікі, хоць публіка з ахвотай ішла глядзець беларускія п'есы. Такая работа набывала характар прафесійнай тэатральнай дзейнасці, а «Папараць-Кветка» імкнулася выключна да культурна-асветных мэт. Вось чаму драмсекцыя змяніла кірунак сваёй работы і зрабіла ўхіл на вёску. Дзеля гэтага складаецца адпаведны вясковы рэпертуар, куды ўваходзяць «Апошняе спатканне», «Суд», «Хам», «Паўлінка» і інш. Але каб выехаць у вёску і наладзіць там спектаклі, «Папараць-Кветка» не мела патрэбных сродкаў. З гэтай прычыны спектаклі для сялян адбываліся ў горадзе.

За некалькі дзён да спектакля (а яны звычайна рабіліся ў святочны дзень) «Папараць-Кветка» рассылала па ваколічных вёсках аб'явы з запрашэннем, звернутым да сялян. Для «вясковых» пастановак таварыства мабілізавала ўсе свае сілы. Хацелася, каб спектакль выйшаў арганізавана, каб як мага больш прыветна спаткаць сялянства. Паміж членамі акуратна размяркоўваліся арганізацыйныя абавязкі. Падрыхтоўваліся будынкі для сялянскіх фурманак, дзе загадзя вызначаныя людзі вартавалі па чарзе да канца спектакля.

На такія спектаклі сяляне прыязджалі з ахвотаю, бо, па-першае, прадстаўленні наладжваліся бясплатна,

па-другое, селянін, прыехаўшы на вечар, трапляў нібы ў сваю сям'ю, усюды бачыў ветлівасць і пашану да сябе. З зацікаўленасцю глядзелі вяскоўцы пастаноўку, слухалі са сцэны сваю родную мову.

«Апошняе спатканне» У. Галубка рабіла на сялян найбольш моцнае ўражанне. Ды гэта і зразумела. Адчуваючы штодзённа на сваёй спіне гвалт белапольскай акупацыйнай улады, селянін не мог спакойна глядзець на арышт і здзекі над студэнтам царскіх жандараў.

З удзячнасцю раз'язджаліся сяляне з такіх беларускіх вечароў, прасілі ў будучым паведамляць ім, калі будуць яшчэ спектаклі.

Зразумела, што з далёкіх вёсак павета сяляне не маглі прыязджаць на вечары. Але ім там наладжвалі прадстаўленні свае культурна-асветныя гурткі, што былі заснаваны праз «Папараць-Кветку».

Так, у гэты час шырока разгарнуў сваю дзейнасць Старыцкі гурток, які арганізаваўся пад кіраўніцтвам старога беларускага культурніка-настаўніка Алеся Каўпака. Гурток спачатку меў назву «Старыцкая моладзь», а потым — «Зарніца». Яго члены не абмяжоўваюцца працай у в. Старыца, абслугоўваюць і мястэчка Грозава, дзе часта наладжваюцца спектаклі і літаратурна-вакальныя вечары.

Член «Зарніцы» настаўнік Аніхоўскі заснаваў беларускі культурна-асветны гурток пад назвай «Крыніца» ў в. Засялоня Грыцэвіцкай воласці. Вакол яго таксама гуртуецца моладзь з суседніх вёсак.

Настаўнік Грозаўскай школы Пратасевіч арганізаваў асобны гурток вучняў сваёй школы, наладзіў збор вусных народных твораў.

З дапамогай інструктараў «Папараць-Кветкі» быў заснаваны гурток «Зорка» ў в. Ліпнікі Цароўскай воласці.

Член таварыства У. Дубіна згуртаваў моладзь вёскі Ісерна, вёў сярод яе культурна-асветную работу. Другі член «Папараць-Кветкі» М. Дубіна арганізаваў моладзь у Сухой Мілі. Апошняе згуртаванне аказвала вялікую дапамогу ў дзейнасці партызан у час адступлення белапалякаў. Амаль усе члены былі адначасова ў партызанскіх аддзелах.

Увесь павет наогул быў наэлектрызаваны дзейнасцю беларускіх арганізацый. Таму польская ўлада ра-

шуча пачала нішчыць усякія праявы беларускага руху. Але ўжо было позна. Надыходзіў канец акупацыі. Паны як учадзелыя кідаліся ва ўсе бакі, усё нішчылі, усё забаранялі, усіх арыштоўвалі. Ды на Усходзе ўсё больш чырванела зара, сляпіла панам вочы. Адзін-другі дружны націск чырвоных воінаў — і паны не вытрымалі, уцякалі, пакінуўшы зруйнаваную, спаленую Беларусь.

Праз нейкі час пасля ўсталявання Савецкай улады члены «Папараць-Кветкі» заўважылі, што яе культурна-асветная роля на Случчыне ўжо завершана. На адным з агульных сходаў было вырашана ліквідавацца, бібліятэку перадаць Аддзелу народнай асветы, а грашовыя сродкі — Аддзелу мастацтва на ўзмацненне дзяржаўнай трупы. Уся тэатральная работа аказалася ўжо ў веданні Аддзела мастацтва. На гэту работу ён даваў пэўныя сродкі, неабходныя матэрыялы, а ўсе акцёры былі залічаны на дзяржаўнае ўтрыманне. Драмсекцыя «Папараць-Кветкі» ў поўным складзе перайшла працаваць у Аддзел мастацтва.

З гэтага моманту пры падтрымцы Савецкай улады (як матэрыяльнай, так і маральнай) беларуская драматычная дзейнасць шырыцца і ўзрастае на Случчыне надзвычай хутка. Работа вядзецца планава. Побач з трупай Аддзел мастацтва арганізуе беларускі хор у складзе 45 асоб. Хор спачатку працуе пад кіраўніцтвам т. Кавалевіча, потым — вядомага спецыяліста ў харавой справе т. Плышэўскага. Аддзел асігнуе патрэбныя сродкі — і хор набывае беларускую вопратку.

Пасля двух месяцаў рэпетыцый хор становіцца вельмі папулярным сярод жыхароў Случчыны. Нават мінчане, што часам бывалі ў Слуцку, адзначалі добрае выкананне песень, казалі, што хор мала чым уступаў тагачаснаму мінскаму хору Тэраўскага.

Аддзел мастацтва выкарыстоўваў беларускую трупу і з агітацыйнымі мэтамі. Некалькі разоў драматычная трупа і хор выязджалі ў прыгранічную паласу і там, у вёсках выступалі з спектаклямі амаль навідавоку ў белапалякаў. Аднойчы польскія жаўнеры не вытрымалі і, пакідаўшы зброю, прыбеглі на спектакль, зразумела, за дазволам нашай улады.

Так дзейнічалі беларускія драматычныя гурткі на Случчыне ў першыя гады пасля Кастрычніка.

# РАННІЯ ІСКРЫ ТАЛЕНТУ

Зусім нядаўна, 19 кастрычніка 1963 года, тэатральная грамадскасць БССР адзначыла сямідзесяцігоддзе Ул. Уладамірскага. «Старэйшы з сям'і купалаўцаў — так назваў яго ў сваім артыкуле (газета «Советская Белоруссия» ад 20 кастрычніка 1963 года) гісторык беларускага тэатра Ул. Няфёд, які прысвяціў шмат старонак працы і дасягненням гэтага артыста як у сваіх асноўных кнігах па гісторыі нашага тэатра, так і ў асобным выданні «Народны артыст СССР У. І. Уладамірскі».

Мне ж хочацца тут успомніць не тыя выдатныя творчыя дасягненні гэтага славутага будаўніка нашага тэатра, добра ўсім вядомыя, а якраз самастойна апрацаваныя невялікія ролі, пры выкананні якіх ярка заіскрыліся здольнасці маладога тады яшчэ, таленавітага артыста Ул. Уладамірскага, першыя гады яго працы ў БДТ-1. На іх я якраз і хачу затрымаць увагу чытачоў, нашай тэатральнай грамадскасці.

Каб зрабіць больш разнастайным рэпертуар БДТ-1, у 1924 годзе быў падрыхтаваны праграмны вечар беларускай камедыі. Для яго былі выкарыстаны так званыя народныя жарты. Выбралі таксама беларускі народны жарт «Чорт і баба», добра апрацаваны для сцэны маладым пісьменнікам Л. Родзевічам. Той вечар адбываўся на асноўнай сцэне БДТ-1. Нястомны і аддany сваёй справе мастак О. Марыкс напісаў новую дэкарацыю — паказаў беларускую вясковую, заможнага тыпу хату, для гаспадыні якой, маладой удоўкі, у набыцці дастатку дапамагае, па народнаму павер'ю, яе каханак — чорт.

...Усё ў гэтай хаце сведчыла пра дабрабыт. Пачэснае месца ў ёй займала вялізная печ. Калі ўзнялі заслону, побач са сталом якраз завіхалася гаспадыня, прыго-

жая кабеціна, прыбраная па-святочнаму. Стол быў застаўлены ўсялякай сытнай закуссю. Госця чакала і пузатая пляшка вішнёвай варанухі. Раптам з панадворка пачуўся віхорысты павеў ветру. Услед жа праз комін ссунулася з шоргатам уніз, на высокі і прасторны прыпечак, нешта нібы куцае, касматае — ні то рысь, ні то вялікі кот. Гэты раптоўны шоргат у коміне і само нечаканае з'яўішча напалохала бабу.

— А-х! — усклікнула яна і са страху схапілася рукою за стол. Углядаецца яна на прыпечак, а там ужо чаканы госць, малады кучаравы чорт з невялікімі рожкамі. Шчокі свае ён вельмі папудраваў сажаю коміна — і вось ён цяпер тыльным бокам сваіх рук сцірае какетліва гэту сажу, яшчэ больш размазваючы яе па свайму твару. Яшчэ хвіліна — і чорт ужо гатовы вітаць гаспадыню. Ён нібы дае нырца наперад, прыўзняўшыся на прыпечку, саскаквае з яго лёгка, мякка, неяк па-кашэчаму (а не па-чалавечаму, як злезлі б іншыя выканаўцы ролі чорта). Зроблена ўсё гэта было з такой грацыяй, на якую здольна толькі кашэчая парода...

Гэта знаходка маладога артыста Уладамірскага адразу ж дайшла да гледача. Публіка ўсіх ярусаў глядзельнай залы, захопленая ігрой маладога майстра, ацаніла яе і вітала бурнымі воплескамі і крыкамі «брава». А ён стаў зноў кашэчым манерам лашчыцца да ўдоўкі, гаварыць ёй пяшчотна:

— Чаго гэта ты спалохалася, мая галубка?!

Новы гром воплескаў у зале... Уладамірскі і далей, на працягу ўсяго спектакля здзіўляў гледачоў вялікай трэніроўкай свайго цела, якое бездакорна перадавала кашэчую манеру ў паставе і руху.

Нарэшце настаў момант, калі чорту зноў трэба было знікнуць. Шлях наверх, на прастор, быў адзін — праз комін. Уладамірскі зноў спрытна, па-кашэчаму ўскочыў на прыпечак, кінуўся ў самую печ і маментальна знікнуў. У глыбіні ж печы была прыстроена шырокая адпаліраваная дошка. Трапіўшы на яе, артыст у адну хвіліну ссоўваўся па дошцы на матрац, што ляжаў на падлозе.

Няма нічога дзіўнага ў тым, што, заўважыўшы такую здольнасць маладога артыста дабівацца патрэбнага для ролі эфекту дзякуючы добрай трэніроўцы свай-

го цела, рэжысёр Міровіч даручыў Уладамірскаму ролю слугі Журдэна ў п'есе Мальера «Мешчанін у шляхецтве». Пасля яму ж была даверана выключна цяжкая па рухах роля блазна ў п'есе Міровіча «Каваль-ваявода». Малады майстар сцэны выканаў яе бездакорна, чым заслужыў высокую ацэнку з боку нашага госця, латышскага пісьменніка Яна Райніса (аб гэтым гаворка ідзе ў іншым артыкуле).

Для поўнай творчай характарыстыкі артыста Уладамірскага трэба яшчэ дадаць, што гэты таленавіты малады майстар сцэны бліскуча выканаў ваенны танец татарскага сотніка Мустафы ў маёй гістарычнай п'есе «Панскі гайдук». На яе першых спектаклях малады выканаўца паказаў такі шалёны тэмп узмахаў шабляю вакол свайго цела, такі спрыт у перадачы шаблі з правай рукі ў левую, што не толькі глядач, але і рэцэнзент былі ў захапленні. Між тым нават спрактыкаваным балетным танцорам, якім быў у балеце «Карсар» прэм'ер Ціхаміраў (у пары з Гельцер), не заўсёды ўдавалася так імпэтна паказаць (напрыклад, у танцы грэчаскіх паўстанцаў) сілу свайго захаплення танцам. Потым, зберагаючы свае фізічныя сілы, Уладамірскі дамовіўся з балетмайстрам БДТ-1 Алексютовічам, каб у далейшых спектаклях «Панскага гайдука» замяніць «Інчыркан» больш простым, лягчэйшым па выкананню танцам.

Трэба прывесці яшчэ адно сведчанне надзвычайнай натрэніраванасці і паслушнасці цела маладога артыста. Рыхтуючы спектакль для дзяцей, БДТ-1 выбраў п'есу Заяіцкага «Вільгельм Тэль». Пастаноўшчык гэтай п'есы Міровіч рашыў узбагаціць яе некалькімі ўстаўнымі нумарамі. Пры абмеркаванні гэтай пастаноўкі на мастацкім савеце тэатра ўзнікла думка паказаць дзецям якую-небудзь сярэднявечную экзотыку. Успомнілі, што тагачасныя мараходы прывозілі з-за акіянаў розных малпаў, папугаяў, лоўчых птушак і гепардаў. Таму люты намеснік нямецкага імператара Геслер, які правіў Швейцарыяй, мог, як і ўсе тагачасныя феадалы, трымаць для паказу гасцям заморскую малпу. Пацешныя рухі яе вельмі ўсцешылі б дзяцей... Я. Міровіч вельмі ўхапіўся за гэту думку. Прысутны ж на нарадзе Уладамірскі згадзіўся імітаваць чалавекападобную малпу. Разам з мастаком і краўчыхамі тэатра па-

шылі для артыста трыко, зверху якога ішла шкурка кенгуру. Грым давяршыў падабенства. Ул. Уладамірскі тонка распрацаваў рухі малпы і розныя пацешнасці, калі яна гуляе з мячыкам. Разгуляўшыся, яна трапіла мячыкам у самага важнага і тоўстага госця Геслера. Гэта выклікала гнеў ка́та швейцарскага народа: ён загадаў пасадзіць малпу назад у клетку. Дзіцячая аўдыторыя весела сустрэла Уладамірскага, горача аддзячыла яму воклічамі захаплення і бураю воплескаў.

На вялікі жаль, ні ў зборах фотаздымкаў БДТ-1, ні ў самога паважанага артыста не захаваліся здымкі пастаноўкі «Чорта і бабы». У дачкі аўтара гэтага артыкула Г. Я. Дыла-Мазурок застаўся толькі фотаздымак Мустафы ў час танца ды фотаздымак малпы, ролю якой у 20-х гадах выконваў таленавіты артыст.

*1963*

Беларускі савецкі пісьменнік і грамадскі дзеяч Язэп Лявонавіч Дыла нарадзіўся 2(14) красавіка 1880 года ў Слуцку, памёр 7 красавіка 1973 года ў Саратаве. Пісаў пад псеўданімамі Назар Быйваеўскі, Тодар Кулеша, Л. Жорсткі, Антось Небарака, Ганна Дыла, Я. Д.

*Шлях амаль у сотню год (стар. 3).*

Запіс успамінаў Язэпа Дылы зроблены ў сакавіку 1968 года. Неабходнасць запісу была выклікана тым, што пісьменнік ужо дрэнна валодаў правай рукой. Язэп Дыла прачытаў запіс і ўнёс у яго дробныя папраўкі. Друкуецца са скарачэннямі. Поўны тэкст захоўваецца ў аддзеле рукапісаў Фундаментальнай бібліятэкі імя Якуба Коласа АН БССР.

На старонках газеты «Северо-Западный край», у якой супрацоўнічаў Я. Дыла, быў надрукаваны артыкул У. І. Леніна «Дробна-буржуазны і пралетарскі сацыялізм», а таксама вытрымкі з ленінскіх артыкулаў «Аб рэарганізацыі партыі», «Сацыялістычная партыя і беспартыйная рэвалюцыйнасць». Пра якую з гэтых публікацый успамінаў Я. Дыла, устанавіць не ўдалося.

## ПАЭЗІЯ

****** *Вечар ясны, ціхі... (стар. 14).*

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1912, 16 мая, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўданімам Назар Быйваеўскі. Датуецца годам апублікавання.

*Пад хмурым небам... (стар. 15).*

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1913, 5 верасня, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўданімам Назар Быйваеўскі. Датуецца годам апублікавання.

*Смерць Стаха (вольны пераклад з М. Канапніцкай) (стар. 16).*

Друкуецца па газ. «Дзянніца», 1918, № 8, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўданімам Л. Жорсткі. Датуецца годам апублікавання.

## ПРОЗА

*Перад раніцаю... (Думка сэрца) (стар. 18).*

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1912, 21 сакавіка, дзе апублікавана ўпершыню пад псеўданімам Назар Быввевўскі. Публікавалася ў кн.: Беларуская дакастрычніцкая проза. Мінск, 1965. Датуецца паводле подпісу пад апавяданнем: «Пуцяты, 1909».

*На шляху з варагаў у грэкі (стар. 20).*

Урыўкі з рамана друкуюцца ўпершыню па аўтографу, які захоўваецца ў Цэнтральным архіве літаратуры і мастацтва БССР (ф. 53, воп. І, адз. зах. 43, 44). Акрамя раздзелаў, якія тут публікуюцца, у рукапісе ёсць наступныя раздзелы: «Распад родавага ладу», «Паўстанне Хамы-славяніна, які аблажыў Царград», «Нечаканае з'яўленне варагаў на Бярозе», «Дрыгавіцкая зямля», «Ад'езд», «У Бабравічах», «Тодар Страцілат на менскім торгу», «Тураў», «Рамен-імперыя», «Патрыяршая служба», «Багацце», «Арабскі купец», «Вачыма арабаў», «Тэафілія», «Фама», «Талаш», «Медзяны бык базілеўса», «Ізноў Кыяў-горад», «Пра Страцімагосця славутага ды пра грачанку-паланянку», «Паданне пра абарону Слуцка». Для публікацыі ўзяты найбольш завершаныя ўрыўкі. У цэлым раман застаўся незакончаным. Паводле ўскосных звестак (для напісання выкарыстаны вокладкі розных часопісаў ваеннага часу), Я. Дыла працаваў над гэтым творам у 1944—1945 гг.

Ва ўрыўках з рамана часткова парушана храналогія гістарычных падзей. Адвольна датуецца час узнікнення некаторых беларускіх гарадоў. У тэксце ад аўтара Полацк называецца Полацакам, а ў дыялогах — Полацескам (у адпаведнасці з летапісным напісаннем).

*У імя дзяцей (стар. 77).*

Аповесць друкуецца па час. «Маладосць», 1968, № 11, дзе апублікавана ўпершыню пад назвай «Настася Мякота» і псеўданімам Тодар Кулеша. Датуецца паводле вуснай інфармацыі Я. Дылы, які паведаміў укладальніку, што канчаткова завяршыў аповесць у 1967 г.

*Усурыйскі драпежнік. З успамінаў земляка (стар. 98).*

Друкуецца ўпершыню па аўтографу, які захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва БССР (ф. 53, воп. І, адз. зах. 98). Датуецца годам, указаным пад аўтографам.

*Спужайся... дурненькі!.. (стар. 103).*

Друкуецца ўпершыню па аўтографу, які захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва БССР (ф. 53, воп. І, адз. зах. 93). Дата напісання невядома.

## ДРАМАТУРГІЯ

*Панскі гайдук (стар. 108).*

Друкуецца па кн. Назар Быввевўскі. Панскі гайдук. Гістарычная хроніка ў 5-ці дзеях, Мінск, 1926. Правапіс прыведзены ў

адпаведнасць з сучаснымі нормамі. Датуецца годам апублікавання.

Мястэчка Вызна — цяперашні гарадскі пасёлак Чырвоная Слабада (Салігорскі р-н).

*Падуанскі студэнт (стар. 181).*

Друкуецца ўпершыню па аўтографу, які захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва БССР (ф. 53, воп. I, адз. зах. 68, 69). У тэксце зроблены пэўныя перастаноўкі, скарочаны паўтарэнні. Польскі студэнт Янак Наскоўскі ў некаторых фрагментах фігуруе як Раскоўскі, чэх Томашак — як Мікулаш або Калаўрат, Ізідора — як Магрэта або Катарына. Драма засталася незавершанай. Паводле паперы, на якой пісаўся твор (вокладкі ад розных часопісаў), прыкладна можа датавацца 1944—1945 гг.

*Юнак з Крошына (стар. 230).*

Друкуецца па час. «Полымя», 1965, № 12, дзе апублікавана ўпершыню пад уласным прозвішчам пісьменніка. Датуецца годам апублікавання.

А. Нарушэвіч — польскі пісьменнік-класіцыст (1733—1796).

«Вядомосці бруковэ» — польская сатырычная газета, якая выдавалася ў Вільні ў 1816—1822 гг. Таму ў канцы 20-х гадоў, калі адбываецца дзея, яе атрымоўваць не маглі.

## ПУБЛІЦЫСТЫКА

*Праз мукі — да шчасця камунізма (стар. 260)*

Артыкул друкуецца па газ. «Дзянніца», 1918, № 40, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўданімам Наз. Быхаеўскі. Датуецца годам апублікавання.

*Беларуская секцыя Расійскай Камуністычнай партыі (стар. 263).*

Друкуецца па газ. «Дзянніца», 1918, № 42, дзе апублікавана ўпершыню пад псеўданімам Л. Жорсткі. У тэксце зроблены скарачэнні. Датуецца годам апублікавання.

*Беларускае жыццё ў Маскве (стар. 266).*

Друкуецца па газ. «Дзянніца», 1918, № 42, дзе апублікавана ўпершыню пад псеўданімам Н. Б.— і. Датуецца годам апублікавання. Указаныя ў артыкуле кніжкі, здаецца, не выйшлі, а гастролі, запланаваныя ў Маскве, не адбыліся.

У «Дзянніцы» апублікаваны таксама артыкулы Я. Дылы «Будаўніцтва сельскагаспадарчых камун» (1918, № 43), «Першая канферэнцыя беларускіх секцый РКП (бальшавікоў)» (1919, № 1). Абодва — пад псеўданімам Назар Быхаеўскі.

## УСПАМІНЫ

*Пісьменнік-дэмакрат Альгерд Абуховіч (стар. 270).*

Успаміны друкуюцца па час. «Беларусь», 1958, № 3, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўданімам Тодар Кулеша. Публі-

каваліся таксама ў кн.: Пачынальнікі. Мінск, 1977. У параўнанні з часопіснай і кніжнай публікацыямі выпраўлена: Тэрэль — на Піярэль, Вострасайлін — на Вострасаблін. Датуецца годам апублікавання.

«Датамі нараджэння і смерці» — на самай справе на помніку А. Абуховіча даты нараджэння няма.

«Іван Чудоўскі» — мусіць, недакладнасць. У А. Абуховіча хутчэй бываў бацька Івана, настаўнік Слуцкай гімназіі Мікалай Чудоўскі.

«Жонка яго памерла ў Пецярбургу ад сухотаў значна пазней за яго» — відаць, недакладнасць. Ва ўспамінах А. Абуховіча гаворыцца, што яго жонка памерла за 21 год да іх напісання. Аднак не выключана, што пісьменнік быў жанаты двойчы і гаворка тут ідзе пра яго другую жонку.

Прозвішчы, названыя ва ўспамінах, расшыфраваны Р. Родчанкам у арт.: Паплечнікі Альгерда Абуховіча. «Літаратура і мастацтва», 1967, 4 красавіка, а таксама Г. Кісялёвым у кн.: Пачынальнікі. Мінск, 1977, стар. 449—450.

*Чалавек вялікага сэрца (стар. 275).*

Успаміны ўпершыню апублікаваны ў зб.: Любімы паэт беларускага народа. Мінск, 1960 (пад псеўданімам Тодар Кулеша). Друкуюцца па кн.: Такі ён быў. Успаміны пра Янку Купалу. Мінск, 1975, дзе змешчаны пад тым жа псеўданімам. Дата напісання невядома (але да першапублікацыі 1960 г.).

*Светлы вобраз (стар. 279).*

Друкуецца па час. «Беларусь», 1957, № 11, дзе апублікавана ўпершыню пад псеўданімам Тодар Кулеша. Датуецца годам апублікавання.

«Збіральнік» — мусіць, Іван Ціхінскі.

*Сустрэча ў Пяцігорску (стар. 282).*

Друкуецца па час. «Маладосць», 1959, № 11, дзе апублікавана ўпершыню пад псеўданімам Тодар Кулеша. Датуецца годам апублікавання.

*Пра Цішку Гартнага (стар. 286).*

Друкуецца ўпершыню па аўтографу, які захоўваецца ў аддзеле рукапісаў Фундаментальнай бібліятэкі імя Якуба Коласа АН БССР. У тэксце зроблены нязначныя скарачэнні. Дакладная дата напісання невядома (мяркуючы па паперы — пачатак 50-х гадоў).

*Сустрэчы з Янам Райнісам (стар. 289).*

Друкуецца па кн.: Беларускае мастацтва, вып. III. Мінск, 1962, дзе апублікавана пад псеўданімам Тодар Кулеша. Датуецца годам апублікавання.

БДТ-1 — цяпер Беларускі дзяржаўны акадэмічны драмтэатр імя Янкі Купалы. БДТ-2 — цяпер Беларускі дзяржаўны акадэмічны драмтэатр імя Якуба Коласа.

## АРТЫКУЛЫ ПА ГІСТОРЫІ КУЛЬТУРЫ

*Тэатральная задума 1892 г. у Радашковічах (стар. 294).*

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1957, 18 снежня, дзе апублікавана ўпершыню пад псеўданімам Тодар Кулеша. Датуецца годам апублікавання.

*Беларускія спектаклі ў перыяд рэвалюцыі 1905 года (стар. 295).*

Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1957, 18 снежня, дзе апублікавана ўпершыню пад псеўданімам Тодар Кулеша. Датуецца годам апублікавання.

Карлсберг — фальварак Сніткаў у трох кіламетрах ад Радашковіч.

*Першы прафесійны тэатр (стар. 297).*

Артыкул друкуецца па час. «Полымя», 1967, № 12, дзе апублікаваны ўпершыню пад псеўданімам Тодар Кулеша. Варыянт артыкула пад назвай «Першая беларуская рухомая трупа Ігната Буйніцкага» захоўваецца ў архіве Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Па гэтаму варыянту зроблена некалькі дробных удакладненняў. Скарочаны мясціны, якія паўтараюцца ў наступным артыкуле (аб выступленні трупы Ждановіча ў Радашковічах і інш.). Датуецца годам апублікавання.

Мацей Крапіўка — адзін з псеўданімаў Алаізы Пашкевіч (Цёткі).

*Мінская трупа «Першага таварыства беларускай драмы і камедыі» (стар. 309).*

Друкуецца ўпершыню па аўтографу, які захоўваецца ў архіве Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. У Цэнтральным дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва БССР (ф. 53, воп. I, адз. зах. 124) захоўваецца варыянт гэтага артыкула, паводле якога зроблены дробныя ўдакладненні. Дата напісання дакладна невядома (прыкладна другая палавіна 50-х гадоў).

*Беларускія драматычныя гурткі на Случчыне (стар. 334).*

Друкуецца ўпершыню па аўтографу, які захоўваецца ў архіве Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Напісаны, мяркуючы па правапісу і паперы, у 20-х гадах.

*Раннія іскры таленту (стар. 341).*

Друкуецца ўпершыню па аўтографу, які захоўваецца ў архіве Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Датуецца ў адпаведнасці з датамі, указанымі ў тэксце.

ЗМЕСТ

Дыла Я.
Д 87 Творы.— Мн.: Маст. літ., 1981.— 351 с., 1 л. партр.
У пер.: 1 р. 40 к.
У «Творах» упершыню сабрана спадчына беларускага савецкага пісьменніка і грамадскага дзеяча, наркома працы ў першым беларускім савецкім урадзе Язэпа Лявонавіча Дылы (1880—1973). Ён плённа працаваў у самых розных жанрах — у прозе, паэзіі, драматургіі, публіцыстыцы. Уключаныя ў зборнік творы выяўлены ў розных перыядычных выданнях, у архіўных зборах. Урыўкі з рамана «На шляху з варагаў у грэкі» і п'еса пра Францішка Скарыну друкуюцца ўпершыню.

Д $\frac{70303-066}{М 302(05)-81}$ 111—80 ББК 84 Бел 7
Бел 2

Язэп Леонович Дыла
ПРОИЗВЕДЕНИЯ
Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар Р. І. Барадулін. Мастак У. С. Шнарэвіч. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічныя рэдактары З. Г. Сень, Г. Г. Федарук. Карэктар Т. В. Трубач.

ІБ № 565

Здадзена ў набор 10.04.80. Падп. да друку 16.03.81. АТ 06566. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 18,48+0,11 укл. Ул.-выд. арк. 18,55. Тыраж 8000 экз. Зак. 597. Цана 1 р. 40 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.